

Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч,
Янка Брыль на Ушаччыне,
1965 г.



Уладзімір Караткевіч,
Фларыян Няўважны, Алесь Барскі,
1968 г.



Уладзімір Караткевіч,
1968 г.



Уладзімір Караткевіч
у Белавежскай пушчы,
1968 г.



Уладзімір Караткевіч з жонкай Валянцінай Браніславаўнай і маці Надзеяй Васільеўнай, 1969 г.



Уладзімір Караткевіч і Рыгор Барадулін,
1972 г.

# Уладзімір Караткевіч

ЗБОР
ТВОРАЎ
У ВАСЬМІ
ТАМАХ



*Рэдактар тома*
І. А. БРЫЛЬ

*Укладанне*
Н. С. КУЧКОЎСКАЙ

*Каментарыі*
А. Л. ВЕРАБ'Я

# Уладзімір Караткевіч

6

# ХРЫСТОС ПРЫЗЯМЛІЎСЯ Ў ГАРОДНІ

*(Евангелле ад Іуды)*

Раман

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

# ХРЫСТОС ПРЫЗЯМЛІЎСЯ Ў ГАРОДНІ

*(ЕВАНГЕЛЛЕ АД ІУДЫ)*

*Раман*



## СЛОВА ДВУХ СВЕДКАЎ

...і на пачатку панавання таго Жыкгімонта Першога быў нейкій... который з лёгкості якой умысліў або рачэй з роспачы імя із зверхность Хрыста господа собе прыпісаў і прівлашчаў.

*«Кроніка Белай Русі...» каноніка жмойскага Мацея Стрыкоўскага*

*Будучы на схіле дзён, рыхтуючыся да агульнай чашы чалавечай — яе ж ніхто не праміне,— ведаючы, што за крэсам не сустрэнемся зноў, бо веры мы розныя, а магчыма, і за крэсам ляжыць «можа быць» ці ўвогуле «нішто», вырашылі мы, адзін пісьменны, а другі памятлівы, распавясці вам, людзі, аб Юрасі Братчыку, якога царква назвала «лжэ-Хрыстом».*

*Ілжа і мана! Многіх яны так білі каменнямі, а потым кананізавалі. Гэтага — наўрад. Абылгалі і забылі пісьменныя, абылгалі багатыя, абылгалі кніжнікі прадажныя імя яго. І запісалі аб ім толькі Мацей Стрыкоўскі, ды Квангін Алесь-летапісец, ды Варлам Аршанскі, ды Збароўская пісцовая кніга, ды Андронік, Лагафіл па прозвішчу, з Буйнічаў Магілёўскіх.*

*Але першыя два, кнігі сваё ратуючы, дзеля страху іудзейска, аб Гародні нібы і не помняць; рабунак Цудатворнай з Вільні ў Частагоў адносяць; злодзеем адным яго робяць, жартам шалберскім[1] усё паказваюць, гішторыяй круцельскай. А астатнія, калі і гаво-*

[1] Махлярскім. *(Тут і далей заўвагі аўтара.)*

*раць аб бунце і вялікай гародзенскай разні, то, ведаючы мала, радкамі двума, ад адной літары чырвонай да другой: «Хрыстос той рачоны горад узяў і людзей пабіў, але потым...» І, яшчэ словы два сказаўшы, гавораць потым, як карова ў ратмана[1] на лёдзе нагу зламала і што сена дужа ў гэтым годзе дарагое было. Патрэбнае хіба свінням непатрэбным сена?!*

*Як збіраюцца прылічваць кагосьці да ліку святых — спамінаюць, ці стварыў ён да скону хаця бы два цуды. І «адвакат д'ябла»[2] тыя цуды пытае сумненнем, спрабуе давесці, што былі гэта не цуды, а якіясь чары і гуслі і блуд лотраўскі[3], і доказаў патрабуе, што дзівы гэтыя былі.*

*У яго, у Юрася Братчыка, цудаў было больш. І галоўнае цуда — мёртвыя ўсталі, калі прыйшоў ён.*

*І таму аблудам гэтым, чарнакніжнікам, давялося б вырашаць і выракаць пытанне аб другім прышэсці сына божага на зямлю, а гэта цяжэй, чым кілка там дурняў у святыя запісаць.*

*Маўчаць яны. Маўчаць і кнігачэі. Хто ведае — той сказаць не можа ці не хоча. Хто можа сказаць — той не ведае.*

*А мы можам. Мы ведаем. Мы хадзілі з ім. І старыя мы ўжо. Няма чаго нам, як кату ля гарачага сала, хадзіць. І сала нам непатрэбнае, і лазіна нястрашная. Дый раней мы пісалі. Толькі тое рукапісанне знікла, пакралі яго.*

*І мы б з адвакатам д'ябла згодныя былі. Не было цудаў. І былі цуды. І не быў ён бог, а быў чалавек. Але для нас, чалавекаў, нават для тых, што ведалі яго, быў ён — бог.*

*І замыслілі мы пакінуць праўду. Можа, яна дойдзе, калі пачнуць кананізаваць не ў святыя, а ў Людзі. То й хай будзе праўда.*

*Аман!*

---

[1] Радца.

[2] Удзельнік абраду кананізацыі.

[3] Круцельскі.

Раздзел I

# ПАДЗЕННЕ АГНЯВОГА ЗМІЯ

Раздзерлася напалам неба, і ў агні з'явіўся Ён. І быў Ён выглядам чалавек, і ўвесь у агні, і такі непадобны да нас, што мы ў жаху ўцяклі.

*«Легенда Карычных астравоў»*

Будуць вялікія землятрусы па месцах, і глады, і пошасці, і жахлівыя з'явы, і вялікія знакі з неба.

*Лука, гл. 21, ст 11*

«...Год той быў страшны год. І дурному было ясна, што абяцае ён сатанінскія вялікія беды. Па ўсёй зямлі беларускай чынілася такое, чаго ні раней, ні потым не бачылі нават відалыя людзі.

З самага пачатку года і кожны вечар заранкі былі чырвоныя, як кроў, а ветру наступнага дня не было. І высокія аблокі ўначы свяціліся срэбрам, і слупы агнявыя ўзімку гулялі ў небе, нібы гэта ў самаедскіх праклятых землях, а не ў нас. Хто хадзіў з таварамі ў Любку[1], Брэмен ці Рыгу, а адтуль морам на Стыкольню[2], Хрысціянію, ангельскія землі і на поўдзень ад іх, як то ў заводзе было, казалі: коннік на «маці мора»[3] скача як шалёны і дзідай сваёй паказвае авама і сема, туды і сюды, на захад і на поўдзень і на ўсход, абы толькі не на Зорны Кол[4], як то належыць.

Паразбівалася ў той год караблёў — божа ты мой! Як ніколі датуль.

І ад жаху, а можа, і па волі божай, які ўсё гэта наслаў, людзі ў той год нядужалі. Нат не піўшы, уставалі ўранні з галавою, як кадоўбец, з рукамі, нібы бяскостнымі. І пацелі ўначы, і ў грудзях іхніх ціснула і раўло, а ў некаторых валасы лезлі. І надзіва мала ў той год нарадзілася дзяцей, можа, таму, што быў голад і пошасць, а можа, па волі божай, каб не пакутавалі бязвінныя.

Не толькі людзям, а і звярам, і гадам, і пачварам падводным даводзілася ў той год цяжка. Якраз тады

---

[1] Любек.
[2] Стакгольм.
[3] Компас.
[4] Палярная зорка.

выдахлі ў Сенненскіх азёрах цмокі, пра якіх пісаў яшчэ прападобны Амбражэй Куцеянскі; якіх цмокаў ён калісьці закляў і загнаў у возера, каб не палохалі людзей. Вальнадумцы і ерэтыкі казалі, што ўсё гэта байкі, бо ніхто тых цмокаў, акрамя п'янюг начных, не бачыў. Што ж, і п'янюгам трэба верыць. Які гэта цвярозы богабаязны чалавек палезе ўначы на лясное возера з дрэннаю славай?!

І яшчэ казалі вальнадумцы, што каб цмокі былі — яны б народ хапалі, лапалі. І гэта ерась! Па-першае, прападобны Амбражэй тых цмокаў закляў, а па-другое, забылі яны, што ніколі ў тыя часы не аддавала Лепельскае возера трупаў.

А ў той год і вальнадумцы ахнулі. Праўду казаў прападобны. За адну ноч на водмелях тых яшчураў, тых цмокаў знайшлі сорак, ды палова таго хісталася на фалях, як плаваючыя выспы. Ды другой раніцай знайшлі яшчэ трохі менш паловы таго, што выдахла ў першую ноч.

А яшчэ праз ноч усплыў самы вялікі. Адзін.

Смаллянскі лекар з тамтэйшага замка літасцівай нашае каралевы Боны, дачуўшыся, паскакаў на тое возера, каб таго дзікага і страхавобразнага звера ўбачыць. Мала яму было, архіняверпаму схізмату, што гаспадыня ягоная ледзь яго ўратавала ад вогнішча, бо ён трупы выкопваў і трыбушыў іх так, што і Пётр-апостал іх потым не пазнаў бы. І, магчыма, шмат людзей такім чынам у рай не трапілі. Мала, відаць, калі ўсё ж паехаў і, нягледзячы на страшэнны смурод, звяроў-цмокаў тых агледзеў ды запісаў, цешачы марную і бескарысную сваю цікаўнасць.

Бо гэта толькі таму і трэба было, каб ведалі ўсе, якіх цмокаў закляў прападобны Амбражэй. І калі хто хоча ведаць, *якіх*, тым я, на хвілінку ў лекарскія запісы заглянуўшы, цмока таго апішу, каб ведалі веліч нашай мудрай царквы, хай вечна будзе з ёю пан бог.

Выглядам той цмок быў, як звер фока[1], такі самы льсняны, у складках, толькі без поўсці. І шэры, як фока. Але даўжэйшы за яго куды. Бо даўжыні ў ім было сем з паловай лагожаскіх[2] сажняў, а калі пацi-

---

[1] Цюлень.
[2] Лагойскіх.

кавіцца немец, то восем і адна пятая фадэна, а калі, можа, ангелец, то сорак дзевяць футаў і яшчэ дваццаць два дзюймы.

Тулава мелі тыя цмокі шырокае і трохі пляскатае, і мелі яны плаўнікі — не такія, як у рыбы, а такія таксама, як у фокі, таўстамясыя, шырокія, але не дужа доўгія. Шыю мелі, па тулаву, дык тонкую і надта доўгую. А на шыі сядзела галава, адначасова падобная і на галаву змяі і на галаву лані.

І, дальбог, смяялася тая галава. Мо проста зубы скаліла, а мо — з нашых бедаў. І зубы былі велічынёй з конскія, але вострыя, і многа іх было на такую галаву аж данельга.

Вочы вялізныя, як сподкі, каламутна-сінія ў зелень, ашклянелыя. І страшна было глядзець у тыя вочы, і мурашкі па спіне, нібы Евінага змія ўбачыў, і непамысна неяк, і нібы ў чымсьці вінаваты.

Лекару, вядома, страшна было глядзець. Бо я, Андронік Лагафіл, што выпадкова тады перабываў у Смаллянах, ля возера таго не быў. Лекару можна, а ў мяне такога абароны, як у яго, няма. Дый не цікавіў мяне праклаты звер. Я ў веры цвёрды і цікаўнасці лішняй выракаюся. Няўхвальная яна дзеля хрысціяніна, цікаўнасць.

Потым толькі зведалі мы, з чаго смяяўся дохлы звер. Тады, калі рачоны Хрыстос у Гародню зайшоў і людзей пабіў, і ксяндзоў[1] з магнатамі пабіў. А з'явіўся ён за грахі каталіцкіх[2] сыраядцаў і асабліва за грахі кардынала Лотра[3].

Вялізнае ляжала на беразе і смярдзела, што, д'ябал яго ведае, з якіх дапатопных часоў прыйшло і вось, па невядомай прычыне, здохла. Можа, таму, што з'явіўся чалавек... Але гэта мудрагельствы пачаліся ўжо. А хрысціянін мудрагеліць не павінен, каб не падупала вера. І так заняпала яна ў апошнія нашы часы.

І было ў вачах ашклянелых, ва ўсім здыханні пачвары гэтай і ў смуродзе нейкае прароцтва. Але якое — слабым мазгам чалавечым дагэтуль не ўдалося зразумець.

---

[1] Праўлена кімсьці: «папоў».
[2] Праўлена: «праваслаўных».
[3] Праўлена: «мітрапаліта Балвановіча».

...І яшчэ было ў той год страшнае і незразумелае. Толькі ўжо не на зямлі, а на небе. Узнікалі недзе далёка азёры і акіяны, і замкі плылі ў аблоках, і невядомыя ля іх дрэвы і чароды, што пасвяцца.

Плылі ў небе караблі пад крывавымі ветразямі.

І ўставалі ў небе гарады, так буйна, што жыхароў можна было пазнаць у твар, і адзін пазнаў у гэтым д'ябальскім горадзе сябра, а за гэта яго звалаклі ў гарадскую цямніцу. Таму што, калі ў цябе ўжо сябры ў такіх гарадах жывуць — ясна, што ты за птушка.

А то было яшчэ тады ў Мсціслаўлі. Выйшаў толькі дзень назад з горада шляхецкі полк на мяжу. І вось убачылі гэты полк жыхары. Ідзе па небе. А праз некалькі дзён выразалі і выбілі гэты полк да апошняга чалавека. Ішлі Маскву біць, а замест гэтага Масква іх пабіла. Ішлі па небе, куды праз некалькі дзён і адправіліся. Гэта, значыцца, бог знак падаў.

А з Менска ў той самы час убачылі ў небе два легіёны, якія, схапіўшыся, біліся так, што ясна было: мала хто застанецца жывы. Можна было разгледзець дым, шаблі, коней, што гігаталі без гуку, і кананы[1]. О гора вялікае! О ярасць чалавечая!

А потым выявілася: бачылі сечу нашых з татарамі, тымі, якіх яшчэ князь Васіль Трэці на нас навёў. А біліся за Мазырам. А датуль ад Менска амаль сто шэсцьдзесят дзве менскіх вярсты[2], як птушцы ляцець.

І ад жаху, голаду сечаў і знакаў нябесных зразумела было: наступаюць апошнія часіны, смерць лютая людству і выміранне. Тыя часіны, калі, можа, не толькі на развод людзей не застанецца, але і аднаго, каб плакаць над трупамі. Тыя, калі застаецца толькі і спадзявацца, што на вышэйшы розум.

Думаю — байкі гэта. Ніхто нічога не ведае. І не Ён гэта, пэўна, прыходзіў. Але тое, што на небе рабілася і што зрабілася ў тую ноч — гэта праўда, гэта многія бачылі. І таму паверылі лёгка. А можа, і не таму, а проста роспач.

...Вясною той, уначы,— а бачылі тое жыхары з Міра, з Нясвіжа, і Слуцака, і Слоніма, усіх тых мясцін і

[1] Гарматы.
[2] Каля двухсот сямідзесяці кіламетраў.

весяў,— з шыпам і свістам прамчаў па небе агнявы змій з доўгім зыркім хвастом.

Бліжэй за ўсё бачылі яго мужыкі вёскі Ванячэ, што пад Мірам. Праляцела зверху, і ўніз, і наўскос і чабарохнулася за акаёмам. Здрыганулася зямля, шуганула нешта нейкае агнём, а потым даляцеў глухі ўдар.

Раніцай найбольш смелыя пайшлі ў той бок. Убачылі вялізную яму — шэсць, калі не больш, хат улезе — з бакамі аплаўленымі, нешта бліскучае на дне і размеценую вакол, цёплую, як печка, зямлю.

Яму тую, разам з усім, потым мірскі каплан загадаў, не гледзячы і не капаючыся, зямлёю засыпаць — каб спакусы не было і каб не дакранацца да рэчаў змеевых. Бо ўсім вядома, чыёй зброяю быў змій. Але гэта потым, на другі дзень.

І тады ўбачылі мужыкі пад хмызам, у тумане, чалавека, які ляжаў, шырока раскінуўшы рукі, ніцма, як зрынуты, як ляжаў сатана, калі пан бог звергнуў яго з нябёс.

Ляжаў ён нерухома. Потым крыкі леляка ці то абудзілі яго, ці то варацілі да прытомнасці. І ён абапёрся на рукі, а потым павольна ўстаў і ўзняў з зямлі плашч. І тады ўсе ўбачылі, што ён у вопратцы шкаляра, і тады гукнулі і падышлі, а датуль баяліся.

Спыталі, чаму ён тут, а ён сказаў, што ён вандроўны шкаляр і заблукаў і добра бачыў, як падае гэта з неба... І далёка ад яго; але як ён і надалей блукаў, то выпадкова выйшаў на гэта самае месца і тут убачыў, што зямля гарачая. А паколькі крэсіва ён згубіў, а сам дужа намерзся, то лёг на гарачую зямлю і праспаў, як на ляжанцы. А калі ў яго спыталі, а чаго гэта ў яго лоб разбіты, ён сказаў, што ўчора, дарогаю, пабіўся з вандроўным манахам у карчме.

І тады ў яго спыталі, як гэта ён не баяўся так блізка ад д'яблавага месца спаць. А ён сказаў, што ніякіх д'яблаў на свеце ён не баіцца і з ахвотаю бы на гэты выгляд паглядзеў ці нават выспаўся на адной печцы — бо яму гэта малаважна.

Быў ён не такі ўжо і малады, год трыццаць пяць, але дужа моцны і на галаву вышэй за ўсіх. Твар нейкі не такі і, як тыя людзі мне казалі, смешнаваты, бровы густыя і доўгія, зубы надзіва белыя. Ля пояса ў

яго вісеў корд[1] у бліскучых піхвах. Бліскучых, але танных, бо гэта не было срэбра.

І мужыкі тыя пусцілі яго ісці сваёй дарогай, а самі пайшлі да каплана, і шкаляр пайшоў.

Хлор Мамантовіч, шляхцюк, потым казаў мне, што гэта ён першы аб усім здагадаўся. Бо, вяртаючыся з горада ў засценак і сустрэўшы г э т а г а аднаго па дарозе ў сваім плашчы, аж жахнуўся, палічыўшы яго за Хрыста. Нібы раптам і на хвіліну здагадаўся — аж ногі да зямлі прыкіпелі і неба здалося з літоўскі кажух. Але тут здзіўляцца не трэба. Раніцай, здалёк, на гразкай дарозе — чаго не прыкінецца. Дый Хлор, вядома, як заўсёды, быў нападпітку. Усе ведаюць, чаго ён так рана з горада ходзіць.

...А потым бачылі я г о ўжо з двума іншымі людзьмі... А пасля бачылі шэсць чалавек... Дзесяць... потым было іх трынаццаць, і за імі цягнуўся крыты кужэляй фургон».

## СЛОВА ДВУХ СВЕДКАЎ

*«Так лічылі людзі. Але мы нічога такога не заўважалі, калі яно і было. Іначай чаму б Ён быў спачатку такі, як мы, чаму нікуды не ўблытваўся і не лез, чаму не дапамог людзям?*

*Наблытаў тут бессаромна ў адзіным сваім запісе аб ім, аб чутках, якія хадзілі пра пачатак ягоны, Андронік Лагафіл. І нічога болей не сказаў, спадзеючыся на іншых. Пра галоўнае не сказаў.*

*А было не так. Было вось як. Слухайце, людзі.*

Раздзел II

# ГОЛАД, І ПОШАСЦЬ, І МОР

У тыя дні, калі кіравалі суддзі,
здарыўся голад на зямлі.

*«Кніга Руф»*

Зямля была чорная.

Уся ў сетцы трэшчын, у глыбокіх расколінах, сухая, як далонь земляроба і як порах. Рэдка, часам у

---

[1] Кароткі меч.

палове сажэня адзін ад аднаго, варушыліся на ёй чэзлыя жытнія парасткі.

Вецер часам уздыхаў сярод гарачыні, але нёс толькі яшчэ большую спёку, бы з напаленай печкі. І тады полем блукалі карлікавыя смерчы. Яны неслі пыл, але такі чорны, што, здавалася,— попел.

І такі самы попел віўся з-пад капытоў паляўнічай кавалькады, якая імчала полем, а потым дарогай, да недалёкага сяла.

Людзі ехалі збольшага на чорных або мышастых злых мулах, і па гэтым можна было здагадацца, што едуць людзі духоўнага звання. Але, каб не пурпурная кардынальская мантыя аднаго, каб не біскупскі плашч другога, каб не шэрая дамініканская і не ліловая праваслаўная расы двух іншых, любы наглядальнік мог бы ўзяць гэта пад сумненне.

З-пад рас выглядалі кальчужныя каўняры, пад плашчамі былі залочаныя латы з сонцам на грудзях. (У сонца ператварылася галава Мядузы Гаргоны, якую любілі чаканіць на сваіх латах паганцы; ператварылася таму, што, вядома, не да твару было хрысціянам насіць на грудзях паганскі знак. І вось замест твара Мядузы гразіўся з лат ярасны сонечны дыск, а замест змей хвалістa разбягаліся праменні.)

Здаецца, супраць таго, што гэта папы, сведчыла і іншае. Тут не было ніводнага чалавека, пры боку і ў руках якога не было б зброі.

Елянцовыя — палескія, цісавыя — заходнія і страшныя беларускія лукі з двух змацаваных рагоў шэрага ляснога быка, калчаны-тулы, пішчалі; гіганцкія, у чалавечы рост, двухручныя мячы з хвалепадобным або прамым лязом, без піхваў, бо з іх немагчыма выцягнуць самому лязо такой даўжыні; мячы сярэдняй даўжыні і кароткія корды. Азіяцкія, прамыя як меч, шаблі і шаблі булатныя, змеепадобныя; персідскія, вузкія, як аер, і вострыя, як джала; турэцкія ялмані[1] са сталлю, якая ідзе блакітнымі зорачкамі; ятаганы, падобныя на сярпы і прызначаныя, як і сярпы, для ўдару ўвагнутым бокам; прыдняпроўскія беларускія дзіды паўтарачнай даўжыні і таму прызначаныя для кідання нагой, з пад'ёму ступака, і беларускія ж іклы, кароткія мячы з лязом шырокім

---

[1] Шаблі, пашыраныя і часам уцяжараныя на канцы.

і тоўстым, як каровін язык, і даўжынёю ў дванаццаць пяць дзюймаў, з месяцападобным канцом рукаяці, для ўпору ў жывот або грудзі, калі кідаешся на ворага, і двума ўпорамі для рук, іклы, прызначаныя для смяротнай рукапашнай у цеснаце. І на ўсім гэтым — рабізна залатых карбовак, эмалі, золата, рубінаў, ажурных накладак. А над усім гэтым, пад шышакамі, арабскімі зярцаламі, кальчужнымі сеткамі і булатнымі шаломамі — вочы, якія і хвіліны не задумаюцца над тым, ужыць гэтую сталь або не ўжыць.

Здзівіўся б такому толькі чужаземец. На працягу некалькіх стагоддзяў, а асабліва ў той час, даждждом сыпаліся дэкрэты, у якіх забаранялася духоўным асобам насіць зброю ў мірны час, выхваляцца ёю, злоўжываць ёю. І, аднак, ніхто не звяртаў увагі на дэкрэты і на пагрозы, што былі ў іх. У крайнім выпадку можна было спытаць нават і самога папу, дзе ён бачыў мір. І таму ўзброены былі ўсе, акрамя некаторых жанчын.

Так, жанчын. Трэцяе, што магло б прымусіць усумніцца ў тым, што едуць людзі, надзеленыя духоўным санам, было тое, што з імі на асобных конях, а то і проста за спінамі сядзелі кабеты. Размаляваныя, беленыя, з падплоенымі валасамі пад залатымі з алмазамі сеткамі, з аголенымі амаль да саскоў грудзьмі, на якіх прыслужніцы майстэрскі вывелі танюткімі пэндзлікамі сетку блакітных жылак. Зубастыя, відавочна драпежныя, відавочна неакрэсленых паводзін — усё адно знатная гэта была дама ці жанчына з бессаромнай вуліцы.

Некаторыя кабеты былі таксама ўзброены. У астатніх сядзелі на пальчатках сокалы.

З гікам, выгукамі, рогатам імчаў конны паязд. Беглі на сворках гладкія ваўкарэзы і хортыя.

Коннікі ўварваліся ў вёску, як арда. Замільгалі па баках шэрыя хаты, халупы, складзеныя з тарфяных цаглін, і проста зямлянкі.

Чалавек, што сядзеў ля дарогі на купе гною, працягнуў парэпаную, як зямля, руку. Той, што ехаў наперадзе, дастаў з-пад пурпурнай мантыі, з вацка[1], прывешанага пад пахай, медную манету і кінуў.

— Дарэмна вы гэта,— сказаў яму біскуп.

---

[1] Вацок — каліта

— Для вас у мяне ёсць прозвішча, пан Камар.
— Дарэмна вы гэта, пан Лотр.
— Чаму?
— Хіба хопіць на ўсё гэта быдла? Працаваць не хочуць, руку цягнуць. І потым... каб гэта ўбачылі іншыя — яны б кінуліся несамавіта. Маглі б і раздзерці. І, ва ўсякім разе, давялося б ужыць зброю... Лепей прыбавіць хады і цяпер.
Кавалькада пагнала ўнамёт. З-за купы гною з'явілася галава чатырохгадовай дзяўчынкі.
— Што ён табе даў?
— Два боханы хлеба, доцю. Чыстага хлеба.
— А хлеб смачны?
— Смачны.
Дзяўчынка зачаравана глядзела ўслед паляванню:
— Прыго-ожыя.
— Вядома, прыгожыя. Гэта ж не мы, мужыкі. Заступніку перад панам богам трэба быць прыгожым. Іначай яго пан бог і ў палац да сябе не пусціць.
Паязд зноў вырваўся ў палі, пакінуўшы за сабою хаты, падобныя на гнойныя сумёты, і гатычны спічасты касцёлік, падобны на гняздо горнага крышталю. Коні пайшлі павольнай ступою.
— Тое, што і дваццаць год назад, калі я пакінуў гэтую зямлю,— ціха сказаў Лотр.— Толькі тады тут было куды багацей. Багатая ж зямля.
Камар, нахмурыўшы цяжкія бровы, глядзеў на Лотраў твар: выпрабоўвае, ці што. Але гэты твар, усмешлівы, белы і румяны, высакародны, здаваўся б, на самы неабазнаны позірк, быў проста зычлівы і гожы.
— Справа веры патрабуе ахвяр,— унікліва сказаў біскуп.
— Вядома.
— І асабліва, калі ўлічыць, як цяжка хворы гэты край схізмаю.
— Кіньце. Унь тая схізма, мітрапаліт Балвановіч, скача за намі. Неблагі чалавек.
— У гэтага неблагога чалавека адабралі за апошні час дзве царквы. Вось так. І не таму, што ён кепскі, а таму, што гэта — чужы ўплыў на землі, якія яшчэ не сталі нашымі.
— Вы разбіраецеся, пан Камар... Дарэчы, дзякуй вам за вашу былую пасомую.— Ён адкінуў галаву на-

зад, быццам паказваючы патыліцай на жанчыну, што сядзела за ягонай спіною. Усміхнуўся: — Такім чынам, вы для мяне, па сутнасці, тое, што для міран цесць.

— Ну, калі можна ўявіць сабе цесця, які...— грубы, рэзкі твар Камара скрывіўся лёгкаю ўсмешкай.

Жанчына глядзела на яго з чаканнем і дакорам.

— А гожая? — спытаў Камар.

— Гожая. І ў Італіі, і паўсюль я не бачыў такіх.

Кабета была сапраўды гожая. Непамерныя чорныя вочы, доўгія, як стрэлы, веі, вішнёвы малы раток, снежнай белі і пяшчотнасці скура аблічча і дзіцячых рук. Гнуткая, як змяя, з высокімі невялікімі грудзьмі, яна сядзела ў сваёй нязручнай паставе грацыёзна, гнутка, мякка трымаючыся ручкай за Лотраў плячук.

— То вось і старайся,— сказаў ёй Камар.— Служы новаму свайму пану, як належыць служыць такому высокаму госцю.

— Калі можна лічыць госцем чалавека, які прыехаў на год і долей,— сказаў Лотр.

— Мы гасціннасць не на дні мераем.

— Ведаю. Сам адсюль.

— Ну вось. І таму, дзеўка, служы без нараканняў і глупстваў. Чуеш, Марына?

Чырвань з'явілася на аблічны кабеты. А потым надзея, з якой яна глядзела на біскупа, згасла. Згасла і цеплыня, а вочы глядзелі цяпер з сухім бляскам.

— Ды толькі сумная нешта,— мякка сказаў Лотр.

— Пасумуе і кіне. Яна прыхілістая, пане. Адданая. І да любасці схільная.

Гаварылі яны так, нібы яе зусім не было з імі.

— А калі будзе кіслым тварам настрой вам псаваць — пакарайце,— сказаў Камар.

— Не праміну скарыстацца парадаю,— усміхнуўся кардынал.— Вось толькі вернемся дамоў.

Жанчына нават не ўздыхнула. Толькі апусціла галаву і павярнула яе прэч ад біскупа. З таго боку не ехаў ніхто, а каб ехаў, то заўважыў бы ў жаночых вачах адчай абражанага гонару і адрынутай прывязанасці, бяссільны гнеў і сухую нянавісць.

— Дарэчы,— сказаў Лотр,— паклічце мне гэтага... дамініканца... Як жа яго?

— Фларыян Басяцкі. Мніх-каплан касцёла псоў пана бога.

— Вось-вось...
— Загадваеце вярнуцца з ім?
— Нашто? Не можам жа мы кінуць адных, без прыемнай бяседы айца Балвановіча і гэтага... з ім... пана Цыкмуна Жабу. Ён войт горада?
— Войт.
— І, здаецца, не вызначаецца талентам субяседніка?
— Ён і розумам не вызначаецца.
— Ну вось. Пакуль будзем гаварыць — падкіньце ім свайго... Дарэчы, дзяўчына надзейная?
— Можаце гаварыць аб усім. Сам запэўніўся. Урэшце, ведае, што бывае за парушэнне нашай таямніцы. А пра важлівае можна і на лаціне.
— З богам, пан Камар.
Біскуп паскакаў да астатніх коннікаў, што далёка адсталі ад іх. Лотр павярнуў галаву да кабеты.
— Як цябе?..
— Марына Крывіц.
У жаночых вачах ужо не было роспачы і гневу. Было асуджанае, амаль спакойнае прымірэнне. Лотр і павярнуўся толькі таму, што яна, быццам зразумеўшы, што нічога не зможа зрабіць, мацней абняла ягонае плячо.
— Ты не бойся, дзяўчынка. Табе будзе добра са мной.
— Мне з усімі было добра.
— І з ім?
— І з ім. З апошнім.
— Ну-ну... Не з першым і не з апошнім.
— Мне абрыдла гэта, ваша правялебнасць.
— Ты будзеш клікаць мяне правялебнасцю і ўдома? — перавёў размову на іншае нунцый.— Кінь... Што, табе абрыдла багацце, вядомасць, сіла? Лепей было б са смярдзючым кажамякам за мужа? Ты досыць легкаважнае дзяўчо, ты хочаш жыць, як то належыць. Так?
— Так,— усміхнулася яна.
Ён закінуў руку назад і пагладзіў яе клуб.
— А цяпер усміхайся. Вось скача каплан.
Дамініканец асадзіў ля іх ашчэранага каня. Худы, падборысты, з пранізлівым розумам у шэрых вачах, ён быў нават прыемны і гэтымі вачыма, і змяістай, ледзь улоўнай усмешкай. Хітрая старая ліса. З пачці-

васцю паглядзеў на жанчыну, зразумеўшы, што ўсё вырашана, ухіліўся Лотру.

— Вам не нязручна з ёю, правялебнасць?

— Сваё я прывык адчуваць целам, а не бачыць яго на другім кані. Мне прыемна, і гэтага досыць.

— Ваша праўда,— сказаў дамініканец.

У маўчанні ехалі яны дарогай. Манах толькі аднойчы кінуў на кардынала дапытлівы позірк, а потым ехаў моўчкі, вонкава безуважны, разумеючы, што субяседнік скажа, калі захоча сказаць.

— Слава Ісусу,— раптам вельмі ціха сказаў Лотр.

— Я не разумею вас,— з зычлівай спакойнай усмешкай сказаў каплан.

— Марыце хутчэй скінуць расу?

— І тут сэнс сказанага вамі цёмны для вушэй маіх.

— Вы вучыліся ў Саламанцы? — перайшоў на лаціну кардынал.

— Доктар ганорыс кауза[1],— таксама па-лацінску адказаў каплан.

— Прывітанне ад сябра.

— Якога?

— Ігнацыя Лайолы.

— Каго?

— Хопіць, вось знак.

І ён працягнуў манаху далонь, а на ёй медальён са змяёю, што абвіла падножжа крыжа. Змяя ляжала ў пагрозлівай паставе, баронячы крыж.

— Унутры таксама ўсё, што трэба.

— Я не разумею толькі аднаго,— сказаў манах.

— Адкуль я ведаю?

— Але. Адкуль вы ведаеце, калі ідэя братэрства Езуса толькі зарадзілася ў галаве...

— Калі ідэя гэтая — дзве тысячы чалавек, здатных на ўсё.

— Вы і гэта ведаеце?

— Ведаю.

— Такое нешматлікае кола,— сказаў каплан.

— Гэтае кола скора будзе самым магутным ордэнам на зямлі. Самым магутным, бо самым нябачным.

— Не трэба аб гэтым. Папа яшчэ нічога не ведае і не зацвердзіў...

---

[1] Ганаровы доктар.

— Ён скора зацвердзіць. Мы паклапаціліся аб гэтым. Здаецца, ён схільны...

— Божа, такі нечаканы поспех.

— Чаму нечаканы,— усміхнуўся Лотр.— Чаканы і заслужаны. Трыста год існуюць францысканы-мінарыты. Жабрацтва здабывае ім людскую любоў, жыццё сярод людзей — веданне іх і ўплыў на іх. Але яны адметныя хаця б вопраткай. І трыста год існуе твой, дамініканскі, ордэн. Ён грызе ворагаў бога, як пёс. Пачынаючы ад вальдэнсаў і катараў вы знішчаеце ерасі, вы кіруеце інквізіцыяй, але вы таксама на вачах. Натуральна было б стварыць братэрства, якое жыло б сярод усіх, як мінарыты, і ведала б людзей, як яны, але адначасова рвала б ерэтыкоў, як псы гасподні. Не грубай сякерай, вядома,— пакінем яе вашаму... гм... цяперашняму ордэну,— а больш тонкай зброяй.— Пагайдаў медальёнам: — Хаця б вось такой. І гэты ордэн павінен быць нябачным і ўсёпранікальным, як смерць, ведаць усё і ўся, нават тое, што вораг пабаяўся падумаць. Тайны, магутны, розны па вопратцы, з магнатам — магнат і з хлопам — хлоп, з вальнадумцам — вальнадумец, з праваслаўным — праваслаўны, але заўсёды — атрута самога бога ў целе ворага. Нябачнае войска ў кожнай краіне, якое вядзе войны, рыхтуе вайну забойствам моцных і выхаваннем малых дзяцей і ўсім, што стварыў д'ябал і што мы павінны зрабіць зброяй у абарону госпада. Нашто грэбаваць нечым? А грахі нашы — замоляць. Каб вас не было — вас варта было б выдумаць. І шчасце, што вы знайшліся, а Лайола, такі яшчэ малады, зразумеў, што ён патрэбны, і адкрыўся нам.

— Вы льеце бальсан на маю душу, як...

— Я здагадваюся, аб якім яшчэ сваім знаёмым вы хочаце сказаць. Бог даў вялікаму Томасу[1] доўгі век, семдзесят восем год, пэўна, дзеля таго, каб даць яму нацешыцца перад вечнымі пакутамі пекла, куды ён несумненна трапіў.

— Ён?

— Ён. Таму што ён сек з пляча. Дзесяць тысяч спаленых, выгнаныя з Іспаніі марыскі і іудзеі. Рамеснікі, гандляры, упартыя земляробы і ткачы шаўкоў — дзе яны? І, галоўнае, дзе іхнія багацці? Яны

---

[1] Тарквемадзе.

ў Афрыцы, заклятыя цяпер нашы ворагі. Рана ці позна яны зробяць нейкую такую інтрыгу... А адных грошай, якія ён выдаткаваў на дровы дзеля гэтай ілюмінацыі і касцюмы дзеля гэтай камедыі, хапіла б, каб зрабіць з гэтых людзей, або хаця б з іхніх дзяцей, такіх самых, як і ён. Я не супраць вогнішчаў, але да іх не трэба звыкаць, як да штодзённага абеду, сядзення на гаршку або штодзённай шлюхі ў тваім ложку,— гэта не пра цябе, дзіця,— імі трэба захапляць. Маўры, яўрэі і ерэтыкі таксама людзі...

— Што вы кажаце?! — не ведаючы, выпрабоўвае субяседнік або гаворыць шчыра, абурыўся манах.

— ...і з іх зрабіць мярзотнікаў, і апошнюю навалач, і багоў, і воінаў веры, і забойцаў, і катаў нікольկі не цяжэй, чым з усіх астатніх двухногіх. Хрыстос быў іудзей і — да пары — ерэтык, і Паўла, і... Лютар, а цяпер на іх моліцца большая ці меншая колькасць людзей. Ерэтыкі толькі датуль ерэтыкі, пакуль яны слабыя. І кожнаму такому нельга дазваляць зрабіцца моцным. Вы разумееце мяне?

— Здаецца, зразумеў. Гэта думкі Ігнацыя. Толькі... гм... завостраныя да небяспечнасці.

— А я і не кажу, што прыдумаў бы такое сам. Я ведаю, на што здатная мая галава, і ў гэтым мая сіла. То што?

— Паколькі былая «ерась» Хрыста, а цяпер яго «вера» ёсць н а ш а вера — нам непатрэбна існаванне іншых ерасяў, якія таксама могуць зрабіцца верамі і тым саслабіць нашу веру і нас. Усё адносна, і сённяшнія цары — заўтра дзярмо, а сённяшняе дзярмо — заўтра цар.

— Т-так,— усміхнуўся Лотр.

— І таму ваюй за сваё, а асабліва супраць самай страшнай ерасі, чалавечага самамнення і жадання думаць, ваюй супраць самай страшнай ерасі, якую ў Італіі завуць гуманізмам, таму што гэта рошчына вечнага неспакою, таму што гэта адзіная ерась, якая не стане верай і догмай, але калі стане — нам усім, і давеку, прыйдзе канец.

— Ого,— сказаў Лотр.

Ён глядзеў на гэтага сённяшняга дамініканца, а заўтрашняга езуіта з жахам і амаль з захапленнем. І адначасова з болем адчуваў, што сам ён — толькі пераносчык чужых думак, што ён ніколі не здолее да

канца развіваць іх і рабіць з іх такія далёкія, канчатковыя высновы, што ён — твар царквы, але ніяк не сэрца, не розум, не зброя яе.

— І таму, калі мы не хочам памерці — з пляча не сячы. Бо ў гідры адрастаюць галовы. А адсекшы, атруткай прымаж, ваюй брудам за чыстую божую справу, плёткамі ды агаворамі — за праўду, нашу праўду. А лепей забяры дзяцей, іх прымусь з самага пачатку думаць па-свойму, забі ерась гуманізму яшчэ ў калысцы, няхай сабе і самай вялікай хлуснёй. Тады і мячы не спатрэбяцца. Бо нашто ж сваіх біць? Гэта толькі вар'ят сярод тысяч дурняў рабіць можа.

— Правільна,— уздыхнуў Лотр.— І таму рыхтуйся. Можаш касцёл дамініканаў ужо цяпер у думках зваць езуіцкім, а калегіюм пры ім — езуіцкім калегіюмам. Па часе скінеш гэтую расу, каб не насіць ніякай. Вы будзеце моцныя, мацнейшыя за ўсіх. Магістр ваш будзе не магістр, а «шэры папа», не розумам шэры, а непрыкметнасцю і ўсёпранікальнасцю, таму што шэрае — паўсюль. Рыхтуй дзяцей... Колькі ў цябе зараз тваіх людзей?

— Больш тысячы.

— Будзе дзесяць тысяч. Войска Езуса. Пашырай яго, пашырай уладанні свае на ўсю зямлю, палюй за ерасямі і за гэтымі італьянскімі трызненнямі. З людзьмі можна зрабіць што хочаш. І трэба прышчапіць усім ім свой мозг, і рабіць гэта хутчэй, бо вось яны выдалі сваю Біблію і цяпер пачнуць чытаць самі; бо вось трыццацёх год не мінула, як Калумб адкрыў Індыю, а свет ужо не схаваеш у крыштальную скрыню Казьмы Індыкаплова, і трэба, каб уся зямля, колькі яе ні ёсць, была ў новай, нябачнай скрыні, скрыні нашага духу і нашай веры.

— Зробім.

— Веру. Паўсюль. Вытравіць назаўжды. Каб забылі назаўжды. Каб па ўсёй светавай імперыі забылі, што яны «цары натуры», «мысліцелі», «тыя, што самі думаюць і самі шукаюць», а помнілі і ведалі толькі адно — што яны рабы бога, адэпты нашага вучэння, што яны не сумняваюцца ні ў чым і думаюць, як усе. І ні на гран больш за нас.

Езуіт схіліў галаву. Задаволеныя адзін адным, яны з палёгкаю ўздыхнулі.

І тут здарылася дзіўнае і небывалае. Хто паве-

рыць — той малайчына, а хто не паверыць — таму няма чаго і чытаць далей, і няхай кіне.

Таму што, калі яны ўздыхнулі, дзве невялікія істоты, нібы вызваленыя гэтымі ўздыхамі, выляцелі ў іх з ратоў. Былі яны, як малюнкі «душы» на некаторых іконах, кропля ў кроплю падобныя да сваіх гаспадароў. Хто ніколі не бачыў такіх ікон — хай паедзе ў Кіеў і там, ля ўвахода ў лаўрскія пячоры, агледзіць ікону аб блуканні па пакутах душы святой... а халера яго ведае, якой святой, забыўся. Але душа падобная на паменшаную ўтрая копію сваёй гаспадыні. Вось гаспадыня памерла — і душа ў празрыстым хітончыку стаіць побач, вылезла. Вось душу вядуць за ручку па пекле. Вось д'яблы смажаць кагосьці... Вось вісяць грэшнікі, падвешаныя менавіта за тыя часткі цела, якімі грашылі пры жыцці... хабарнікі за рукі, паклёпнікі за язык... ну і гэтак далей... А вось і душу прыводзяць у рай.

Істоты, якія непрыкметна для ўсіх вылецелі з ратоў у кардынала і дамініканца, у рай увайсці, бадай што, не здолелі б. Таму што не былі яны белыя, і празрыстых хітончыкаў на іх не было.

Былі яны зусім голыя, як Ева ў касцюме Адама, сабою цёмныя, з «зубкамі, як часнык» і «хвосьцікам, як памялцо», па словах неўміручай народнай песні пра смерць карчмара Лейбы.

Яны вылецелі, пакруціліся над галовамі гаспадароў, і, счапіўшыся хвастамі, весела ўзляцелі ўгору.

І адразу тыя двое, што гаварылі такія мярзотна-разумныя і страшныя рэчы, забыліся на іх, забыліся нават на тыя мудрагелістыя словы, якія толькі што так лёгка вымаўлялі іхнія вусны. Нібы замкнула ім рот.

Бо гэта пакінулі іхняе цела душы той с п р а в ы, якую ўсе яны рабілі. Засталася яе закасцянелая абалонка.

Можа быць, што прыродны балван, які нават ніколі не чуў... ну, скажам, аб Платоне, аб'ектыўна служыць папоўшчыне, менавіта таму, што ён балван? Можа самаўпэўненае быдла, што ніколі не чула аб Ніцшэ, аб'ектыўна быць ніцшэанцам менавіта дзякуючы сваёй непісьменнай маніі велічы? Можа дурань, які скончыў два класы царкоўна-парафіяльнай школы і палічыў, што з яго досыць і што ён усё ведае,

вучыць фізіка, як яму сепарыраваць плазму, і паэта, як яму карыстацца дольнікам і цэзурай? Можа. І хіба такім чынам, не ведаючы гэтага, ён не будзе служыць страшнай ідэі цемры? Будзе. Будуць.

Яны не ведалі такіх слоў, як «ідэя», «абсалютны дух», «чалавечнасць». Але ўсё сваё існаванне, усе свае ідэі яны паставілі на служэнне гэтаму абсалютнаму духу ў яго барацьбе з чалавечнасцю.

Цёмныя і брудныя, нават фізічна, яны не думалі, што плаванне Калумба і выданне Скарынай Бібліі на зразумелай мове — ёсць два ўдары з серыі смяротных удараў, якія наносіць іхняй догме новы Чалавек.

Але інстынктыўна яны адчувалі, што гэта варожа, што гэта баламуціць, непакоіць, што гэта асвятляе бязлітасным і смертаносным святлом тую ўтульную і цёмную гнойную жыжку, у якой яны кішэлі.

І таму яны змагаліся, то бок аб'ектыўна дзейнічалі так, як быццам іхнія цёмныя мазгі разумелі і ведалі ўсё.

Магло б здацца (бо гэтая іхняя «дзейнасць» была паслядоўнай), што яны ўсё разумеюць, што яны нясцерпна-разумныя чорным сваім розумам, што яны — свядомыя воіны цемры. А яны былі проста людзі свайго саслоўя, якія баранілі сваю ўладу і «веліч», свой мяккі кавалак. Яны былі проста дзеці свайго часу, няшчаснага, хворага, гнойнага, сагнутага, калі чалавек быў амаль жывёлай і толькі сям-там выбіваліся наверх парасткі скарлючанага, але ўпартага і моцнага жыцця.

Яны былі гной, але няма такога гною, які не лічыў бы, што ён — вышэйшая субстанцыя, і не лічыў бы з'яўленне на ім зялёных парасткаў з'явай ніжэйшага парадку.

І супраць гэтага жыцця яны змагаліся насмерць, мала разумеючы, чаго змагаюцца, і ведаючы толькі, што — «трэба». А «трэба, якое клікала іх да нянавісці, была догма, гнюсная і даўно састарэлая, як усе догмы і панацэі[1], ідэя ўсясветнай ваяўнічай царквы. І страшныя, і разумныя, і шкодныя яны былі толькі ў агульнай сваёй дзейнасці, увогуле, усе разам. І ў гэтым быў знак, што яны аджылі.

---

[1] Панацэя — шарлатанскі сродак ад усіх бедаў.

Супраць іх біліся цяпер адзінкі. І справа гэтых Чалавекаў была мацнейшая за тупое функцыяніраванне гэтай сіфанафоры[1].

Па-за служэннем сваёй страшнай ідэі яны былі людзі свайго часу, не разумнейшыя і не дурнейшыя за ўсіх людзей. Рабавалі, разважалі аб тым, колькі анёлаў можа змясціцца на вастрыі голкі і што было ў бога спачатку, Слова або Дзея, баяліся падкопаў нячыстага, судзілі мышэй.

І таму, паказаўшы праз д'яблаў, што вылецелі ў іх з ратоў, аб'ектыўны сэнс іхняй ідэі і іхняй дзейнасці, я цяпер стану паказваць іх такімі, якія яны былі. А калі здарыцца ім сказаць нешта такое, што вышэй за іх саміх на чатыры галавы,— ведайце, што гэта паказвае свае рожкі бес, які зноў потайкам забраўся ў іхнія душы.

Бесы ўсё яшчэ віселі над галовамі коннікаў, чакалі.

Лотр ехаў і гідліва глядзеў па баках.

— Мне здаецца, вы вывезлі мяне паляваць на мышэй,— сказаў ён.

— Чаму?

— Глядзіце,— і кардынал запусціў доўгія белыя пальцы ў падплоеныя валасы.

На чорнай, як вугаль, зямлі варушылася жывое. Сотні мышэй сноўдалі ад аднаго квёлага парастка да другога, падточваючы іх.

— Шэрыя! — віскнула жанчына.

Лотр паказаў белыя зубы:

Калі гэта тонкі намёк на адзенне нашага спадарожніка і ягоны ордэн...

Басяцкі засмяяўся:

— Тонка, ваша правялебнасць. Але гэта проста мышы. Бачыце, бягуць адусюль у Гародню. Як апошняя божая кара. Чуюць, што там хлеб. Нічога, да мураваных складаў і свірнаў ім не дабрацца... А ўвогуле дрэнна. У горадзе іх з кожным днём прыбывае. Спасу няма. Нават з царкоўных скарбонак вылазяць мышы.

---

[1] Вальнаплаваючыя марскія жывёлы тыпу кішэчнаполасцевых. Жывуць неразрыўнымі калоніямі, часам да 20 метраў даўжынёй. Драпежнікі. Ловяць здабычу і ўжываюць яе на ўсю калонію.

— Занадта старанна і дбайна ачышчаеце тыя скарбонкі?

— Не. Проста ў мяшчан ужо таксама амаль няма хлеба.

— То кіньце ім шчодрай рукой,— нявінна сказаў Лотр.

— Божы хлеб? А яны, няробы, зноў будуць лайдачыць?

— Ну, глядзіце. Але тады вам давядзецца рабіць нешта іншае. Яны прыйдуць прасіць ад царквы цуда і абароны... Глядзіце!

І яны заўважылі. Дарога варушылася і плыла. Як рака. Тысячы, сотні тысяч мышэй запаланілі яе ўсю. Ішло некуды засяроджанае, упартае ў сваім тупым і вечным руху наперад мышынае войска. Коні, выкатваючы ў смяротным жаху вочы, задкавалі ад яго прэч.

— Бачыце? — спытаў Лотр.

— Што ж, давядзецца ў бліжэйшыя дні ўчыніць над імі імем царквы суд божы. Няхай потым не кажуць, што мы засталіся безуважныя да пакутаў народных.

Наколькі сягае вока, плыла ўся дарога. Легіёны грызуноў ішлі наперад, на Гародню.

## Раздзел III

# СУД

І суд быў верны, як пятля,
І хуткі, бы з цемры нажы,
І чым даўжэйшы твой кашэль —
Тым долей табе пражыць.

*Кіплінг*

Людзі так да іх прывыклі, што перасталі заўважаць іхнія злачынствы...

...Таму мы не палюем за буйнымі разбойнікамі, але затое вашаму брату спуску не даём.

*Рабле*

Стары, Вітаўтаў яшчэ, гродзенскі замак быў страшны. Пабудаваны менш чым паўтара века назад, ён, нягледзячы на гэта, заняпаў і не толькі стаў

рабіцца лядаштым, але сям-там пачаў і руйнавацца. Сваіх майстроў у вялікага князя не было, а беларускія ці былі пабітыя пры ўзяцці горада, ці разбегліся. А хто застаўся, той будаваў, прама скажам, дрэнна: ведаў, што на ягоны век хопіць, а там хай бы і трава не расла. Дзеля каго было будаваць? Ён, князь, вядома, герой, дык лёгка ж быць героем на трупах пакораных. Спачатку гінулі ў войнах з ім, потым гінулі ў войнах за яго. Ды яшчэ каб бярог старыя звычаі ды веру, а то з лацціннікамі спеўся. То гары яно ясным гарам!

Такая ў той час абыякавасць напала на людзей! Дый майстэрства падупала, як заўсёды пры вечнай вайне. І вось з паўтарасажнёвых муроў выпадалі і каціліся ў Нёман камяніскі, трушчыліся пад цяжарам валунных слаёў слаі цэглы (муры былі, як слоены пірог: слой каменных брылаў — слой цэглы), вежы (чатыры квадратныя і адна круглая, па імю Зафея) былі запушчаныя, выраслі на іх малыя бярозкі, лебяда і іншая дрэнь. Сачылі, відаць, больш за замкавым палацам, чым за мурамі.

І ўсё ж цытадэль была страшная. Стральчатыя гатычныя вокны палаца, грыфельныя муры, вострыя дахі са свінцовай чарапіцы, зялёная і смярдзючая вада бяздонных равоў, вузкія, як шчыліны, байніцы верхняга і ніжняга бою. Ля Саляной вежы — камяністы, касталомны зрыў да ракі. А ля яе — узгорак, вышэйшая кропка Замчышча, гародненская Галгофа. Там зараз кружляла груганнё: зноў, відаць, кагосьці выкінулі на пажыву.

Людзі на Старым рынку, прыціснутым ледзь не да самых равоў, не звярталі на птушак ніякай увагі, дарма што крумкачы лямантавалі не толькі над Зітхальным Гарбом, а і над вежамі. Звыклі. Чаго ні даводзілася бачыць за апошні час. Трэба было жыць. Хаця трохі падаражэй прадаць сваё, ледзь не апошняе, хаця трохі падзешавей купіць збожжа... Мала народу варушылася ў той дзень на чатырохкутнай плошчы.

Крамы данцыгскіх ды крулявецкіх купцоў былі шырока адчынены, але што ў іх рабіць простаму чалавеку? Збожжа там не прадаюць, збожжа там купляюць. Купляюць і футру, але якія футры ўлетку.

Купляюць, вядома, і лён, і пяньку, ды толькі мераю іхняй куплі не мужыцкая жменя, а цэлы панскі абоз.

Варшаўскія, торуньскія, крымскія купцы. Часам прамільгне, бы з цёмнага дрэва рэзаны, веніцэец, гарбаносы нарвег, ці нават валох, або нават зябкі маўр. Ведаюць: тут спакойна, тут, у горадзе гарадоў, ніхто іх не зачэпіць. Бо ўсё тут, што датычыць гандлю, у руках купца і для купца. Купец не дасць магнату пакрыўдзіць і абабраць, рада не дасць царкве накласці на ўсё нясытую лапу.

І не ведаюць яны, што, нягледзячы на самаўпраўленне, усёй гэтай раскошы прыходзіць канец, прыйшоў ужо канец. І нічога не зробіць рада ні з замкам, ні з царквою, ні з магнатамі, ні з іхнімі шляхецкімі атрадамі, слугамі і прыгоннымі.

Толькі і засталося радзе, што ўладарыць над раменікамі, падмайстрамі ды плебеямі. І над табою ўсялякі суд ёсць, а ты, бурмістр, вы, радцы ды лаўнікі, толькі і можаце, што спрэчкі аб маёмасці разбіраць радзецкім судом ды забойствы і іншае такое — судом лаўнічым.

І дрэмле за акном ратушы мардаты лаўнік, чакае, калі нейкага злодзея спаймаюць ды прывядуць. А побач, у вялізным заезжым доме гасцінным, думаюць багемскія, нямецкія і іншыя купцы, як бы Гародню на чарговым кірмашы абабраць.

Ідзе варта ў чашуйчатых латах. Падалей ад яе, падалей ад багатых крам. Вось на гэтым баку плошчы лепей. Тут хочаш бэркаўцам купляй, хочаш — жменяй. Над дзвярыма рыбных радоў рыба-кіт глытае Іёну. Над хлебнымі радамі волат-хлебаед жарэ каравай велічынёй з царкву — таксама пуката выразаны, пафарбаваны. А над дзвярыма піўнога рада анёлак пускае струмень. А што, сапраўды, як іначай паказаць, што такое піва і што яно робіць з людзьмі.

Хлебнік і рыбнік, гаспадары дзвюх вялікіх суседскіх крам і шматлікіх пры іх складаў, сядзелі ля дзвярэй у цяньку, на каменных лавах, ды лянотна гаманілі аб сім-тым. Балела з пахмелля галава: учора добра памаліліся богу Борцю, якому па вёсках і дагэтуль ставяць у ахвяру ля свепетаў[1] бярозавік і разведзены

[1] Свепет — борць, або пчаліны бортны рой.

вадою мёд, імя якога пры айцах духоўных вымавіць — злітуйся і ўратуй нас, пан Езус.

Худы рыбнік скроб пальцамі ў рудых валасах. Хлебнік, увесь нібыта са сваіх хлябоў складзеназбіты, каламутна глядзеў на свет, віцаю крэсліў на зямлі нешта незразумелае.

— Чаго гэта ты чухаешся? Блохі адолелі, ці што?

Рыбнік нібыта абурыўся. Адказаў старым, як свет, жартам:

Гу-у. Блохі... Што я табе, сабака, ці што? Во-ошы... Проста, братка. галава баліць. Увесь я сяння... як гарэлачная пляшка.

— Ну вось. Сяння, як пляшка, а ўчора ўпоперак канавы ляжаў, як грэбля... І вада цераз цябе верхам цурчала, як у дрэннага млынара.

— Ладно, до! Што за звычай прыпамінаць з учарашняга ўсё самае непрыемнае.

— Не буду. Як там у цябе хаця гандаль, рыбны кардынал?

— Ну-ну, не нюхаў доказнай інквізіцыі?

— Хай жыве царква святая. То як?

— Аман. Дзярмова. Запасаў няма.

— У абодвух у нас тых запасаў няма. Ні ў каго няма.

— Ану, дай слухаць. Нешта там юроды загарлалі, ды мяшчанота наша туды пабегла.

Там, дзе адзін з бакоў плошчы ледзь не абрываўся ў роў, непадалёку ад замкавага моста, сапраўды ўзахапы і наперабой (аж напіналіся на лбах і шыях жылы) лямантавалі два чалавекі — юрод, падобны на цюк анучніка, калматы, худы, як віца, і здаравенны зверааты чалавечына ў шкурах і ў скураным поясе на палову жывата, з голымі рукамі і нагамі. Грыва валасоў, шалёныя вочы, сківіцы, што маглі б раструшчыць і камень. Расстрыга ад Спасаіконапрэабражэння, а цяперашні гарадскі прарок Іллюк. Уздымаў лапы, падобныя на звязкі тоўстых карэнняў:

— І прыйдзе за мною — праява мне была — нехта, як за Янам Ксціцелем... Езекііля[1] ведаеце?

— Не! Не!

— То яму, як і мне, сказана было: па грахах

[1] Езекііль — біблейскі прарок.

вашых і памаўзліваму юрадзейству тужыць па вас нябесны Ерусалім. Воды вашы горкія, бо гарэлка, што выпілі вы,— тут расстрыга заплюшчыў вочы і правёў далонню па пузе,— па-айшла-а па жылах зямных. І сказаў мне з Езекііля: «Еш ячменныя праснакі і пячы іх на чалавечым кале».

Бабы вакол плакалі. Мяшчане і рамеснікі змрочна глядзелі ў адверстую пашчу. А тут яшчэ паддаваў жару юрод, крычаў аб зямлі, якая згарэла, аб коршаках, якія судзяць мышэй, аб небе, што вось-вось саўецца ў світак.

Тужліва было слухаць яго — хоч ты плач. І адначасова трохі і памысна. Бо ўсё ж абяцаў і ён нейкае прасвятленне.

— Але прыйдзе, прыйдзе муж нейкі і вызваліць вас! Блізка! Блізка! Блізка!

Рыбнік сплюнуў пахмельную сліну.

— Што гэта там дурань пра суд крычаў?

— Судзяць сёння сіх-тых у замку царкоўным судом.

— Што, можа, тых, што псоту пускалі? Ад каго голад?

— Голад — ад бога.

З самага заканчэння пабудовы Старога Замка суд часцей за ўсё засядаў у вялікай суднай зале. У малой зале замкавы суд збіраўся толькі на асабліва патаемныя працэсы. Аддавалі вялікую залу і царкоўнаму суду, калі гэты апошні не баяўся вынесці смецця са сваёй хаты. Тайныя ж допыты ён праводзіў звычайна ў сутарэннях дамініканскай капліцы, калі судзілі католікі. А калі судзілі праваслаўныя, то ў падземнай турме ля трохкупальнай Ганны або ў адным з мітрапалічных дамоў — камяніц тых, што ля Каложы[1].

Сёння дастаслаўны сінедрыён поседам сядзеў у вялікай суднай. Адпачыўшы пасля палявання, добра такі выпіўшы напярэдадні (а Лотр яшчэ і разгавеўшыся), айцы непасрэдна прыступілі да важлівай справы, дзеля якой жылі ў гэтай зямной юдолі і насілі мантыі і расы align рознага колеру, у залежнасці ад таго, як каму пашанцавала.

Зала была, уласна, верхняй паловай усходняга не-

[1] «Трохкупальная Ганна» і «Каложа» — цэрквы ў Гародні.

фа[1]. Замкавы палац быў пабудаваны ў выглядзе базілікі, як царква, і меў шэсць нефаў, з якіх сярэдні быў толькі трохі вышэйшы за астатнія. Да яго прылягала па два бакавых нефы з кожнага боку і адзін папярочны, трансэпт. Сярэдні неф быў ва ўсю вышыню будынка і служыў залай для тронных прыёмаў. У трансэпце былі пакоі вялікага князя, а потым караля і іхніх двароў, цяпер даволі запушчаныя. Бакавыя і папярочны нефы былі пасля паходу Вітаўта на Пскоў[2] падзелены на два паверхі. У ніжнім паверсе заходняга нефа жыла варта, у другім — прывілеяваныя воіны. Другі заходні неф служыў жыллём для замкавых жыхароў, і там былі скарбніца і падземны ход за Гараднічанку. У першым, усходнім нефе, на абодвух паверхах, былі жытло для шаноўных гасцей і вялізная дварцовая капліца. І, урэшце, у першым паверсе крайняга ўсходняга нефа былі цямніцы для радавітых і склады зброі.

На другім паверсе большую частку памяшкання займала вялікая судная зала (малая была ў трансэпце, пад бокам у караля), а меншую, аддзеленую ад яе пры Вітаўце ж мурам у тры цагліны,— катоўня. З катоўні скрыты ход у сцяне вёў праз усе паверхі пад зямлю, дзе былі сутарэнні для вязняў, а яшчэ глыбей каменныя мяхі, у якіх губляўся назаўсёды след чалавечы і адкуль за стагоддзе з лішнім не выйшаў, здаецца, ніхто, нават на могілкі. Аб іхніх жыхарах проста забывалі, і калі спушчаны ўніз гарлач з вадою праз тры дні поўны вяртаўся назад — закрывалі дзірку ў столі мяшка каменем, бы запячатвалі збан з віном, а праз паўгода, калі пераставала смярдзець, спускалі туды ж на вяроўцы новага вязня. З-за таго, што судная зала была ў верхняй частцы нефа, вострыя гатычныя скляпенні з пукатымі рэбрамі нярвюраў[3] віселі ледзь не над самай галавою, папярочна-паласатыя, у чырвоную і белую палосы. Вузкія, як шчыліны, верхнія часткі вокан былі ля самай падлогі, і таму святло падала на твары членаў суда ненатуральна, асвятляючы толькі ніжнюю ча-

---

[1] Неф (або карабель) — выцягнутая ў даўжыню, прамакутная частка будынка.

[2] 1405 г.

[3] Нярвюра — выпуклае рабро звода, ягоны каркас.

стку падбароддзя, там, дзе яно пераходзіць у шыю, лапік пад ніжняй губой, ноздры і верхнюю частку верхніх павек з бровамі. Насы кідалі шырокую паласу цёню на лоб, непрасвяцімая цемра ляжала ў вачніцах, і твары суддзяў здаваліся таму злавеснымі, незвычайнымі, такімі, якіх не бывае ў людзей.

Суддзі сядзелі на ўзвышэнні, ля самага ўвахода ў катоўню, за сталом, што быў завалены скруткамі паперы, фаліянтамі спраў, пер'ямі. Акрамя Басяцкага, Камара і Лотра сёння, як на ўсіх працэсах, што былі царкоўнымі па юрысдыкцыі, але датычыліся ўсяго горада, сядзелі ў суднай зале войт горада Цыкмун Жаба, шырокі брухам, грудзьмі і ўсім іншым магнат, апрануты ў залататканую чугу і з пячаткаю неверагоднай тупасці і такога ж неверагоднага самаўзвышэння на твары; бурмістр горада Юстын, якога ўжо трэці год выбіралі на гадавы тэрмін: мяшчане — таму, што быў адносна справядлівы, купцы — таму, што быў багаты, а царква хаця і не выбірала, але не пярэчыла, бо толькі яны адны ведалі, колькі ўсяго рознага ўдалося ім і магнацтву выдраць ад Юстына, рады і горада за гэтыя тры гады.

Сядзеў акрамя іх схізмат (дармо, што Гародня тады была пераважна праваслаўнай), правялебны Рыгор Гародзенскі, а ў міры Гіляр Балвановіч, а для непачцівых і цяпер проста Грынь. Рыхлы, сонны, з маленькімі мядзведжымі вочкамі. Адны толькі гараджане ведалі, што, калі даводзіцца разбараняць у бойках гарадскія канцы, гэтая млявасць правялебнага можа цалкам нечакана, як у кракадзіла, перайсці ў бліскавічныя хуткасць і спрыт.

Акрамя іх было яшчэ некалькі духоўных за судзейскім сталом, а ў другім канцы залы вяшчальнікі, якія за пачаткам суда выйдуць за муры і абвесцяць аб усім гораду, і дзесяткі тры цікаўных са шляхты і іхніх кабет.

Ды яшчэ ля сцен стаяла варта, а сярод іх вызначаліся двое: паўсотнік Пархвер, сапраўдны гігант у сажань і шэсць дзюймаў ростам і адпаведны ў плячах і грудзях, і сотнік Карніла, змрочнага выгляду, нізкалобы і каржакаваты, як корч, воін.

На Пархвера на вулках глядзеў натоўп. У Кракаве па ім вар'яцелі прыдворныя разбэшчаныя жонкі, таму што быў ён не проста хваравіты гігант, якога і вецер

пераломіць, а сапраўдны, прапарцыянальна складзены волат, першы на кані, першы на мячах, першы за сталом, з рукамі, таўшчынёю, як сярэдні чалавек у поясе, вагою трохі цяжкаваты. І прытым не бык. Твар спакойны, вочы вялікія і сінія, нават з задумлівасцю, валасы залатыя. Чорт яго ведае, як яго такога ўмудрыліся выпусціць на свет?!

Карніла здаваўся перад ім проста малым, хаця быў сярэдняга росту. Чырвоны, трохі больш грузны, чым трэба, падстрыжаны пад гаршчок, падобны ў сваіх латах на самавар — нічога асаблівага. Млелі па ім пры двары, дзе ён таксама бываў у войтавай світе, куды меней. І ўсё ж, хаця жанчыны і тут рабілі палітыку ў большай ступені, чым гэтага хацелі і чым аб гэтым думалі мужчыны, Карніла ішоў да вайсковай верхнасці хутчэй за ўсіх. І ўсе ведалі: менавіта яму дадуць тысячніка, калі з выпадку вайны трохі павялічыцца гародзенскае войска. Таму што Карніла вызначаўся дзіўнай, амаль нечалавечай спраўнасцю, вернасцю і дысцыплінай, а ў Пархвера, хаця і разумнейшы быў, здараліся прыпадкі ярасці, гневу і баявой лютасці, такой, калі чалавек ужо не зважае ні на што: ні на ворага, ні на сваіх начальнікаў.

Калі яшчэ дадаць, што з прыадчыненых дзвярэй катоўні вырывалася і скакала па скляпеннях і нярвюрах зарыва, што адтуль часам выглядаў кат,— перад намі будзе поўная карціна таго, што адбывалася ў суднай зале тым летнім днём.

Цыпрыян Лотр сядзеў сёння як старэйшы на месцы старшыні суда. Няўхвальна паглядаў, як фіскал[1] Ян Камар дрэмле, нахмурыўшы грозныя бровы. Што за дрэнны звычай спаць на ўсіх прэніях?! «Бярэ» занадта чалавек. І спіць мала ўначы. Але ж вось не дрэмле Басяцкі за сваім асобным, адвакацкім столікам. Шамаціць сувоямі паперы і пергаментнымі аркушамі, з-пад аксаміцістага чорнага капюшона глядзяць жывыя вочы.

Гэты не дрэмле, хаця таксама не спіць начамі, хай сабе зусім з другой прычыны, чым Камар. Па-першае, тайныя справы (доўга ім яшчэ быць тайнымі, хай не спадзяецца, і добра, калі год праз восемдзесят можна будзе ўзняць забрала і адкрыта назваць дамінікан-

---

[1] Абвінаваўца.

скую капліцу езуіцкай, якой яна, фактычна, вось-вось будзе, або, ні на каго не зважаючы, узвесці вялізны новы касцёл[1]); па-другое, думы аб тым, як акрамя невялічкай сваёй дамініканскай школкі прыбраць у рукі, хай сабе і непрыкметна, парафіяльную ды царкоўную школы. Па-трэцяе, іншыя начныя справы. Гэта ён тут толькі адвакат, а вось што ён па начах у сутарэннях дамініканскай капліцы?!

Кардынал устаў:

— Імем маці нашае, рымскае царквы, вінавацяцца сёння ў страшных злачынствах супраць бога і чалавецтва гэныя брыдкія адроддзі пекла, зграя сатаны... Прынясіце схопленых.

Карніла прынёс з бакавой нішы і паставіў на стол клетку з мышамі. Сярод цікаўных завішчала нейкая пані. Пачаўся божы суд.

— Хай палохаюцца падсудныя суда божага.— Кардынал нават сам адчуваў, як сыходзіць высакародствам ягонае аблічча.— Я, нунцый яго свяцейшаства папы...

Ён гаварыў і гаварыў, з асалодаю адчуваючы, як лёгка плыве мова, як тонка, зусім не па-кухоннаму гучыць залатая лаціна, як грацыёзна рухаюцца пальцы па краях скруткаў.

— ...іспісаўшы правіны іхнія, перадаю стырно суда фіскалу. Прачытайце абвінавачванне, фіскал.

— Га? — толькі тут прачнуўшыся, спытаў Камар.

— Вазьміце на сябе шчыт веры, брат мой, каб адбіць усе распаленыя стрэлы крывадушніка.

Біскуп устаў, міргаючы не толькі вачыма, але і цяжкімі бровамі, пашукаў пачатак прамовы сярод аркушаў, не знайшоў. І раптам ірвануўся адразу на крык, нібы з берага ў кіпецень.

— Шалберы, махляры, ерэтыкі ў сатанінскім юрадзействе і зладзействе сваім, аб'елі яны нашу квітнеючую краіну,— біскупавы пальцы, бы ў латы, закутыя ў золата, хрызапразы, смарагды і бірузу, торкалі ў клетку.— Гноем павінныя гадавацца — хлеба яны ўсхацелі.

Грубы рэзкі твар наліваўся бурай крывёю, пен-

---

[1] Новы езуіцкі касцёл сапраўды быў скончаны толькі каля сярэдзіны XVII ст.

ныя заедзі накіпалі ў кутках вялізнага жорсткага рота.

— Радзіму нашу мілую, слаўны горад Гародню, горад гарадоў, асірацілі яны. Жэрлі, бы не ў сябе, і апаганьвалі жыта наша, і выводзілі ў ім гэтакіх жа дзяцей граху, як самі. Імем царквы ваяўнічай, імем бога і апостальскага намесніка яго на зямлі, імем вялікай дзяржавы нашае і прасветлага кроля Жыкгімонта — я вінавачу!

Голас ягоны загрымеў пад нізкімі скляпеннямі, як голас звона ў званічнай клетцы.

— Я вінавачу гэтае адроддзе ў беганіне ўначы пад падлогаю, у палоханні жонак і... палюбоўніц...

Лотр зразумеў, што Камар трохі заманіўся. Ужыў з разгону пасля слова «жонак» злучнік «і», не ведаў, што б такое назваць яшчэ, і, па сваім вопыце ведаючы, што «каханка» ўсё ж менш ганебна, чым «дзеці», ляпнуў «каханку». І гэта ў той час, калі дзяцей мае кожны жыхар горада, а трымаць палюбоўніц — рэч недазволеная.

— ...пражэрлівасці, смуродзе злашкодным, раскраданні чужога збожжа і іншым. Я патрабую каразна[1]!

Не, «палюбоўніц», здаецца, ніхто не заўважыў. Наадварот. Камар так узбухторыў народ, такі ён зараз выключна велічны, што цікаўныя адказваюць крыкамі, а пані істэрычным віскам:

— Пражэры! Драпежнікі! Шкоднікі!

Другі вяшчальнік выходзіць, каб пракрычаць народу, чаго патрабаваў фіскал.

Лотр успамінае ўсе такія працэсы. Што зробіш, богу падпарадкоўваюцца і жывёлы, хаця іхняя душа танюткая, зусім празрыстая і не мае перад сабою вечнасці і бяссмерця. Судзілі год сто назад у Рыме чорнага ката алхіміка... як бо ж яго... ну, усё адно. Павесілі. Судзілі разам з гаспадаром, лекарам Карнеліусам з Майнца, ягонага барана, у якога ўсяліўся дэман. Судзілі год пяцьдзесят таму ў Францыі Сулара і ягоную свінню. Яго спалілі, яе закапалі ў зямлю. Дэману, ворагу рода чалавечага, нельга патураць, нават калі ён знаходзіць сабе прыстанак у бесславеснай істоце. Судзілі ўжо і мышэй, у Швейца-

[1] Пакарання смерцю.

рыі. І казлоў судзілі і палілі. Гэтых часцей за ўсё, за схожасць з чортам.

І, аднак, Лотр усміхаецца. Ён не ведае, аб чым думалі іншыя суддзі, ці верылі ў правіну Суларавай свінні і лекаравага барана, але ён, Лотр, не ўпэўнены, што зубамі мышэй дзейнічаў на гэты раз д'ябал. Ён ведае, што гэты суд нешта накшталт пластыра, які адцягвае гной, або п'явак, якія смокчуць лішнюю кроў, каб яна не кінулася ў галаву. Можна праявіць і міласэрнасць, якой славута Хрыстова царква.

І пад удар молата Лотр устае. Сціхае шалёны крык.

— Нашто ж так жорстка? — Твар ягоны свеціцца.— Бедныя, літасць царкоўная і на іх. Ці прызнаеце вы правіну сваю, малодшыя, падманутыя браты нашы?

Карніла нахіліўся да клеткі. Але гэтага нават не трэба было рабіць. У раптоўнай мёртвай, зацікаўленай цішыні ясна аддалося жаласнае папісканне мышэй.

— Гм... Яны прызнаюць сябе віноўнымі,— сіпла сказаў Карніла.

— А вы ім хвасты не прыціскалі? — з тым жа светлым абліччам спытаў Лотр.

— Крый божа... Гэта ж не чалавек... Я... іх, скажам шчыра, баюся.

— Царква міласэрная. Дык вось, брат мой Фларыян, скажы ў абарону аблудных гэтых.

Прыкрыўшы вочы рукою, Лотр сеў. І адразу ўстаў айцец Фларыян. Усмешка на хвіліну прамільгнула па вуснах, шэрыя вочы змежыліся, бы ў яшчаркі на сонцы.

— Яны прызналіся ў раскраданні хлеба. Чаму вучылі мяне ў такіх выпадках у Саламанскім універсітэце? Вучылі таму, што галоўнае ў суднай справе — прызнанне абвінавачанага ці абвінавачанай. Нават калі іншых доказаў няма — яно сведчыць аб жаданні жывой істоты быць чыстым перад богам і царквою. Тут мы, на шчасце, маем досыць доказаў.— Хітрая, разумная, чымсьці нават прыемная ўсмешка зноў прабегла па вуснах патаемнага езуіта.— Маем мы і прызнанне. Значыцца, пераконваць у неабходнасці прызнання нікога не даводзіцца і кніга праўды, якую запаветалі нам найчысцейшыя дбайнікі веры

Шпрэнгер і Інстыторыс[1], сёння застанецца закрытай.

— Разгарніце яе! Разгарніце! — залямантавала нейкая жанчына на лавах.

— Я ведаю яе на памяць,— сказаў дамініканец.— І я не задумваўся б ужыць яе, каб для гэтага былі прычыны. Пакаранне мы знойдзем і без «Молата ведзьмаў». Помніце, яны прызналіся... Зрэшты, паколькі справа аб хлебе датычыцца перш за ўсё не сыноў царквы, якія дбаюць больш аб хлебе духоўным, а міран — я хачу спытаць, што думае аб гэтым славуты сваім найвенкшым багаццем, розумам і сілай, ды яшчэ і адукацыяй, магнат, ілюстрысіме Цыкмун Жаба.

Жаба перабіраў тоўстымі пальцамі вясёлкавы шалевы пояс, які ляжаў у яго не на жываце, а пад грудзьмі. Тлустыя касіцы чорных валасоў падалі на вочы. Адкашляўся. Твар стаў такі, што хаця б і Карлу Вялікаму па паважнасці, толькі што дурны, як свіная левая шынка.

— Свядомасць — важная справа. То бок прытомнасць... Тфу... прызнанне. Прызнанне — гэта... ага!.. Памятаю, выпівалі мы... Прызналіся яны тады... Зноў жа, і хто кажа, што ведае, гаворыць праўду, а словы лжэсведкі — падман. Мужыкі мае сведчылі: аб'елі іх мышы, а...

Жаба тужыўся, нараджаючы ісціну.

— ...гэта... vox populi vox... гэта... Як бо гэта ў калегіюме казалі... ну, arbiter elegantiarum...[2] Памятаю, закусвалі мы...

— Скажыце пра мышэй і збожжа.

— Збожжа трэплюць: водзяць па ім малатарныя колы з канямі іхнімі. І гэта адбываецца ад пана бога. Вялікая прамудрасць ягоная.

— Дзякуй.

Басяцкі ўбачыў, што Лотру — хоць праз зямлю праваліся. Добра яму, а што б рабіў ён, каб даводзілася жыць побач з такім?

Войт не проста ідыёт, а ідыёт дзейны, ды яшчэ і п'яны і ўпэўнены ў сваіх велічы і розуме. Крыў-

---

[1] «Молат ведзьмаў» — ізуверская сярэдневяковая кніга аб ведаўстве і сродках, якімі можна вырываць у ведзьмаў прызнанне.

[2] Бессэнсоўны набор лацінскіх слоў: «Голас народа — голас... арбітра элегантнасці» (прыгожае).

дуе, калі хоць па самаму дробнаму пытанню не спытаюць ягонай думкі. А ён — войт, значыць, ад караля. Ён гаспадар горада. Ён багаты, як халера, і моцны, як чума. «У яго войска, і паглядзеў бы я, як ты, кардынал, пасварыўся б з «мячом горада».

Але ён добра валодаў сабою. І таму расчулена паківаў галавой і сказаў з класічным аратарскім жэстам:

— Я заклікаю ў гэты раз быць міласэрнымі: не ведаюць бо, што вытвараюць. Улічыце, гэтыя шэранькія стварэнні могуць прыносіць і карысць. Яны паядаюць лічынкі, і насякомых, і чарвякоў.

Аблічча ягонае было аблічча самай уседаравальнай літасці.

— Яны елі, так, але ж і яны павінны падтрымліваць тленнае цела, калі ўжо бог наш уклаў у яго душу.

Лотр хітаў галавою, быццам яго ўмашчалі нардам[1].

— І, нарэшце, галоўны мой козыр... э-э-э... довад: мышам невядомыя Запаветы Майсея, што забараняюць прысвойваць чужую ўласнасць. Я скончыў.

— Суд ідзе на думу і нараду,— сказаў Лотр.

...У дзень вялікага суда над мышамі вольны мужык прыгараднай вёскі Занямонне Зянон з'явіўся ў Гародню, каб купіць хаця трэць бязмена збожжа. У Занямонні, як і паўсюль, было дужа цяжка, і, напрыклад, сам Зянон з жонкаю ўжо чатыры дні не елі ні хлеба, ні кашы. Згарэла нават лебяда. Удавалася, што праўда, лавіць рыбу. Ды што рыба? Рыбаю тою кішаць рэкі. Удавалася нават, з вялікай асцярогай, лавіць сілом зайцоў, і быў аднойчы выпадак — лань. Мяса і рыба былі — гэта праўда. Але дарослыя ўжо цэлы год дасыта не елі хлеба, часам месяцамі не бачылі яго. Мяса, заўсёды толькі мяса дзікіх жывёл, ды яшчэ і забароненых верай (як заяц) або магнатам (як лань). Сёння спаймаў аж трох, а потым за тыдзень нічога. А солі, каб зберагчы, таксама не было.

Дзецям бацькі ўсё ж давалі патроху хлеба, і то малыя пакутавалі жыватом. А самім даводзілася дрэнна.

Ад заўсёднага мяса без солі аж вараціла, і ўвесь час думалася, а што будзе зімою, калі Нёман укрыец-

[1] Усходняе духмянае рэчыва.

ца лёдам, калі звяры адкачуюць у нечапаныя пушчы, а сляды будуць заставацца на снезе, а значыць, у кожны момант цябе могуць спаймаць панскія паюкі. Што будзе тады?

Зянон гнаў ад сябе гэтыя думкі. Усё адно нічога не зробіш. Ён прайшоў зарэчную частку з дамамі багатай замкавай шляхты і замкавых рамеснікаў, прайшоў драўляны мост і стаў падымацца па ўзвозе. Увесь час яго абганялі вазы з ільняным насеннем, соладам, хмелем, бочкамі піва, вапнай, футрамі ў звязках, жалезнымі паробкамі і, галоўнае, хлебам. І мужык не мог не думаць, чаму гэта так, што вось у яго няма і бязмена хлеба, як амаль ва ўсіх, а вазы цягнуцца, цягнуцца, і ўсіх іх хутка паглыне нясытая зяпа Старога рынку, а потым замежныя землі. Нешта тут усё было не тое.

Вялікі горад, тысячы людзей, моцныя муры, крамы, замак, з дзесятак цэркваў ды яшчэ манастыры, ды капліцы, ды унь званіца курыі — глянеш — шапка валіцца, ды унь будуюць вялізны касцёл бернардынаў з кляштарам. А унь узвышаецца Святая Ганна. А там, далёка ўлева, зіхаціць, як вясёлка, Каложа, у імя Барыса і Глеба.

На ўсё хапае. А ў мужыкоў няма хлеба. Ды і ў мяшчан не лепей. Колькі іх?! Унь вуліца Кавальская, Мечная, Піўная, Калёсная, вуліца Стрыхалёў[1], вуліца Адвеса[2], Утэрфінавая[3], вуліца Абадранага Баб-ра, Страменная, Багамазная, Разьбярны кут, ды яшчэ і яшчэ, дваццаць сем вялізных вуліц, не лічачы завулкаў, тупікоў ды асобных выселкаў, слабодак і хат.

І ўсе гэтыя магершчыкі, кацельшчыкі, маляры, саладоўнікі, сталяры сядзяць і не маюць да чаго прыкласці рукі, і тымі ж вачыма, што і ён, Зянон, праводзяць кожны хлебны воз.

Ад нязвыклага гарадскога шуму ў мужыка дурэла галава. Спакойнымі, глыбока пасаджанымі шэрымі вачыма ён глядзеў, як круцяцца колы берагавых млыноў (Нёманава плынь адводзілася на іх плятнямі), як паўзуць па блоках у верхнія паверхі складаў цюкі з таварам, чуў, як гарлаюць гандляры, як вухае

---

[1] Вапеннікаў.
[2] Грунтвагі.
[3] Суконная.

васкабойка, як звіняць малаточкамі па сталі чаканшчыкі ў мечных майстэрнях.

Пахла шкурамі, гноем, невядомымі, нетутэйшымі пахамі, гарэлкай, мёдам, сенам, салёнай рыбай, дзёгцем, хмелем, рыбаю свежай, канаплямі, іншым, незнаёмым Зянону.

Трапляліся насустрач воіны ў медзі і сталі, магнаты ў золаце, парчы і галандскім сукне, гаспадыні ў шаўках — і Зянон збочваў сваімі скуранымі поршнямі ў пыл. Не таму, што баяўся (ён быў вольны), а проста, каб не запэцкаць гэтага дарагога хараства. Гэта ж падумаць толькі, на якія каштоўныя рэчы ўзбіліся людзі!

На Старым рынку ён падышоў да крамы хлебніка.

— Выручы.

Хлебнік, нібы складзены са сваіх уласных хлябоў, агледзеў здаравеннага, трохі нехлямяжнага мужыка ў вышыванай кашулі і з сякеркай-кляўцом[1] за поясам (вольны!), белавалосага, хударлявага.

— Чаго табе?

— Хлеба.

Хлебнік зірнуў на рудога суседа. Замест адказу спытаў:

— Дзяцей у цябе многа?

— Хопіць.

— Ну вось, каб у мяне так зернеек было... А чаго ты да каго з паноў не пойдзеш ды купу[2] не возьмеш?

Рука Зянонава паказала на клявец:

— Гэта ўсё адно што вось адразу г э т а аддаць... Гэта ўсё адно што вось зараз яго табе аддаць ды пайсці.

— Гэтую цацку?

— Гэта т а б е яно — цацка.

— Бач, горды... Няма ў мяне хлеба.

Зянон уздыхнуў, зразумеўшы, што пазычыць не выйдзе. Была ў яго ў хаце шкура срэбнай лісіцы, яшчэ зімовая, ды ўсё бярог, і вось толькі ўчора, жадаючы прадаць даражэй, заквасіў апошнюю жменю мукі ды намазаў шкуру з мяздранага боку. Не выпадала аддаваць апошнюю манету, мала што можа здарыцца за два тыдні, пакуль не прадасць лісіцу

---

[1] Клявец — востраканечны малаток для насякання жорнаў.
[2] Пазыка.

(мог прыехаць, напрыклад, поп, і тады не абярэшся лаянкі, а можа, і горшага), ды што зробіш.

Ён выцягнуў манету з-за шчакі, лінуў на яе вадою з цэбра, што стаяў на зрубе.

— Чаго мыеш?

— Я-то здаровы. А бываюць розныя, пракажоныя хаця б. Хоць усё гэта і ад бога, а ў рукі браць брыдка.

— Ну, гэта як каму,— усміхнуўся хлебнік.

— То дасі?

Хлебнік пачухаў галаву:

— Дынарый кесара. Любы ты мой чалавек. Чалавек ты ўжо дужа харошы. Горды. Ну, можа, наскрабу.— І манета знікла, нібы яе й не было.

Зянон стаяў і чакаў. Праехаў паўз яго воз з сенам да брамы бернардынаў. Побач ішоў здаровы дурыламанах. Калматы сялянскі конік пацягнуўся быў да воза — манах ударыў яго па храпе. Конік звыкла — нібы заўсёды так было паложана — апусціў галаву са слёзнымі вачыма.

І тут Зянон убачыў, як напярэймы возу ідзе знаёмы каваль, Кірык Вястун, боўдзіла, можа, толькі на галаву ніжэйшы за славутага Пархвера. Твар адмыў, а рукі — чорт ты іх нават за тыдзень адмыеш. Смяецца, зубы прадае. Жоўты ў пшанічны колас, як агонь у ягонай кузні. Вочы ястрабіныя. Скураны фартух цераз плячо, у адной руцэ молат. А з ім ідзе яшчэ адзін здаравіла (ох і здаровы ж гарадзенскія мяшчане, дый паўсюль па Белай Русі не горшыя!), толькі што худзейшы ды валасы занадта доўгія. Гэты — у бялюткай як снег світцы і ў данельга заляпаных гразёю поршнях. Цераз плячо — казіныя мяхі вялізнай дуды.

Дудар глянуў на сцэну з конікам, пайшоў да воза і скубануў адтуль вялікі ахапак сена. Манах сунуўся быў да яго, але тут павольна падышоў Вястун.

— Чаго табе, чаго? — спытаў нявінным голасам.

Дудар ужо кінуў сена коніку.

— Еш, божая худоба,— і трапануў яго па грыўцы, што звісла на вочы. Жывёла прагна пацягнулася да сена.

— Сена шкадуеш, куражэр? — спытаў Кірык.— От так табе чэрці ў пекле халоднай вады пашкадуюць.

— Сам у пекле будзеш, дысыдэнт [1],— сказаў бернардынец.

— За што? За тое, што не так жагнаюся? Патрэбна гэта пану богу, як тваё мінулагодняе дзярмо.

— Блюзнер! — круцячы вачыма, як баран перад пратэсамі, прахрыпеў мніх.

— Скубі яшчэ ахапак! — скамандаваў Кірык.

Валышчык марудзіў, бо манах пацягнуўся да корда. І тады каваль узяў яго за руку з кордам, хвіліну павагаўся, адольваючы немалое супраціўленне, і павёў руку з кордам да мніхава лба:

— А вось я цябе навучу, як схізматы хрысцяцца. Хаця раз ды саграшы.

Каб не параніцца, бернардынец расціснуў кулак. Корд змейкаю бліснуў у пылу. Дудар падумаў, узняў яго, з сілаю шпурнуў у студню. Там гулькнула. Ён паправіў дуду і пайшоў да воза.

— Вось так,— Вястун з сілаю прыпячатаў мніхаў кулак да ягонага лба.— І вось так,— мніх сагнуўся ад штуршка ў жывот.— А цяпер правы плячук... Куды ты, куды? Не левы, а правы. А вось цяпер — левы.

І з сілаю адкінуў мніха ад сябе.

— Блюзнерства гэта, Кірык,— няўхвальна сказаў дудар.— Гарэзаванне.

— Кінь,— плюнуў каваль.— Унь Кляонік каталік. Што я, прымушаў яго па-нашаму жагнацца? Ды я яго кулаком абмахаў, а не пяццю пальцамі. Кінь, дудар, сам хвігаю жагнаешся.

Конік удзячна хітаў галавою. І тут сёй-той на плошчы, і Зянон, і нават сам каваль свіснулі. З абскубенага воза тырчалі жаночыя ногі, падцiскаліся. Мніх з бліскавічнай хуткасцю ссунуў на іх сена, пабег побач з коньмі, падганяючы іх.

Брамнік з грукатам адчыніў перад возам браму. Усміхнуўся з разуменнем справы.

Воз знік. Ляснулі палавіны брамы.

— Бачыў? — з рогатам спытаў Кірык.— Вось табе і скубанулі.

— Вачам не веру,— палез у патыліцу дудар.

Сябры з рогатам рушылі вуліцай, стараючыся заняць як мага больш месца.

---

[1] Хрысціянін, не каталік.

«Трэба будзе з кавалём пагаварыць»,— падумаў Зянон.

Хлебнік ужо выйшаў з невялічкім хатулькам. Гледзячы ў спіны сябрам, шапянуў:

— Ерэтыкі. Цяпер вядома, адкуль такія лісткі падмётныя, вабныя з'яўляюцца, ад якіх такіх братэрстваў.

Зянон убачыў клуначак.

— Ты што? Пабойся бога, хлебнік.

— Уздаражэла збожжа,— пазяхнуў той.— Ну і... потым... табе ўсё адно праз тыдзень прыходзіць, то астачу, столькі ж, тады возьмеш. Каб не навальваўся адразу, каб далей хапіла. Я цябе шкадую.

— А збожжа тым часам яшчэ ўздаражае?

— Шкадуй пасля гэтага людзей,— сказаў рыбнік.

— Слухай, ты,— засіпеў хлебнік.— Мала ў мяне хлеба. Зусім амаль няма. І мог бы я табе і праз тыдзень нічога не даць, і ўвогуле не даць. Ціхон Вус твой сябар?

— Ну, мой.

— Не ведаеш закону? Між сяброў кругавая парука. Вус мне двойчы па столькі вінен. Ідзі... І калі хочаш, каб увесь горад цябе па языках трапаў, каб усе ў цябе пальцамі торкалі і казалі: «Вось, кіпаць [1], мужык прагны, сябра, чулі, як шкадуе, як выручыць не згадзіўся?..», калі хочаш прытчай і наруганнем агульным быць — тады прыходзь праз тыдзень за другой паловай.

Зянон стаяў бледны. Ён ведаў: яго толькі што бессаромна падманулі. І што цяпер даваць дзецям? Але ён ведаў і тое, што ні праз тыдзень і ніколі не прыйдзе па астатняе збожжа. Звычай ёсць звычай. Ніхто не дапаможа, усе будуць паказваць пальцамі на чалавека, які не заплаціў доўг за бліжэйшага друга, не дапамог яму.

Акруціў, навалач-хлебнік.

Заграбаючы поршнямі пыл, Зянон рушыў ад крам. Што ж цяпер рабіць? Што будуць есці дзеці?

Рука ягоная трымала клунак, зусім не адчуваючы яго, нібы ватнымі пальцамі. Усё больш разгіналіся

---

[1] Кіпаць — зняважлівае, даўнейшае прозвішча мужыкоў: кулак, скупая цёмная дзеравеншчына.

яны — ён не заўважаў, глядзеў невідушчымі вачыма перад сабой.

Хатулёк выслізнуў у пыл і, не завязаны, а проста сабраны, расхінуўся. Жыта пасыпалася ў пыл. Ён хацеў сагнуцца і падабраць хаця тое, што ляжала купкаю, але ў гэты момант са стрэх, з дахаў, са званіц касцёла бернардынцаў, адусюль, са свістам разразаючы паветра, падаючы проста грудзьмі, рынулі на яго соценныя чароды галубоў.

Ежы ім апошнія месяцы не хапала. Ашалелыя ад голаду, забыўшыся на ўсялякае самазахаванне, яны біліся перад Зянонам у пыле, дзяўблі зямлю і адзін аднаго, суцэльным комам варушыліся перад ім.

— Вестуны божага міру,— разумеючы, што ўсё прапала, сказаў мужык. Не даваць жа выспятка, не таптаць было святую птушку. Зянон махнуў рукою.

— Разява,— зарагатаў ля крамы рыбнік.—Рукі ў...

Зянон не пачуў. Ён доўга ішоў бязмэтна, а потым падумаў, што ўжо ўсё адно, што трэба, ад няма чаго рабіць, хаця б знайсці Вестуна, пагаварыць трохі, адцягнуць нясцерпнае вяртанне дахаты.

І ён пайшоў у той бок, дзе зніклі дудар і Вястун. Не дайшоў. Насустрач яму ішлі яшчэ знаёмыя. Адзін, шырокі ў касці, да сіняга чорны і добра такі сівы, падстаркаваты гараджанін цягнуў, нібы звязку аеру, ахапак адкутых мечных палосаў. Другі, малады і вельмі падобны на падстаркаватага, такі самы сухі тварам, гожы, праманосы, з добра выразаным усмешлівым ротам, валок інструмент. Гэта былі мечнік Гіаў Турай і ягоны сын, Марка.

— Здароў, Зянон,— сказаў Марка.

— Дзень добры,— сказаў Гіаў.

— Здароў.

— Чаго гэты ты, нібы каня няўдала ўкраў? — спытаў Марка.

Зянон неахвотна расказаў усё. Гіаў свіснуў і раптам сказаў сыну:

— Ану, пайшлі з ім. Кідай справу.

— Чакай, Кляоніка возьмем. Дый цяжар там пакінем.

— Ну, давай.

Яны пакрочылі да невялікай майстэрні ў суседнім Разьбярным куце.

— Вы, хлопцы, Ціхону Вусу толькі нічога не кажыце. Сорам! Задражняць. Скажуць: «Кіпаць».

— Ты, дзядзька, маўчы,— сказаў Марка.

Перад домікам разьбяра пылу не было. Усю вулку тут засцілаў тоўсты слой стружак і габлюшак, і старых, пацямнелых, і пахучых, новых. Пад навесам, што апаясваў будыначак, стаялі загадзя зробленыя падмайстрамі балванкі, недаробленыя багі. І вялікія, і сярэднія, і зусім малыя. Над нізкімі дзвярыма — складзень з двума адкінутымі, як аканіцы, палавінамі (каб прыкрыць у дождж ці завіруху). У складні, на немалую спакусу ўсім — маці божая, як дзве кроплі вады падобная на славутую зеляніўшчыцу з Рыбнага рынку Фаўстыну, нават не каталічку. Фаўстына, склаўшы ручкі і схіліўшы ўсмешлівую, чарцячую галоўку, з цікаўнасцю, бы з яра на голых купальшчыкаў, глядзела на людзей.

— Кляонік, дружа! — гукнуў Марка.

Адчынілася слюдзяное акенца. Выглянула, як на майстра, то і зусім саплівая (год пад трыццаць), галава. Смяецца. А чаго не смяяцца, як дагэтуль халасты, як усе цябе любяць, нават прыгажуня непараўнальная, Фаўстына.

Кляонік, вітаючы, узняў руку з разцом. Валасы, як залацістая хмара. Цёмна-блакітныя вочы і вялікаваты рот смяюцца. І Марка засмяяўся яму ў адказ. Сябры! Усмешкі аднолькавыя. Вельмі прыемныя, трохі лісіныя, але бяспечныя.

— Выходзь, Кляонік, справы.

— Чакай, вось толькі задніцу святой Інэсе дараблю,— сказаў разьбяр.

— Як задніцу? — спытаў Гіаў.

Замест адказу Кляонік паказаў у акно драўляную, у палову сажня, статуэтку жанчыны, якая ўкленчыла перад кімсьці. У жанчыны былі доўгія, да зямлі, валасы. Невядома, як гэта ўдалося разьбяру, але каштанавае дрэва гэтых валасоў было лёгкае нават на выгляд і, здавалася, празрыстае. А паколькі жанчына трохі схілілася, прыцiскаючы гэтыя хвалі да грудзей, валасы ўпалі наперад, прыагаліўшы частку спіны. Дзіўнай прыгажосці была гэтая спіна, схопленая мастаком ў лёгкім, амаль непрыкметным, але поўным грацыі выгіне.

І нічога тут не было кепскага, але разьбяр нібы саромеўся трохі і гаварыў грубавата.

— А так. Яна ж валасамі галізну прыкрыла ў паганскай турме. Дзіва здарылася.

— Дык, пэўна, і... спіну? — сказаў прыгаломшана Гіаў.

— А мне што? Усё адно яна ў нішы стаяць будзе. Хто заўважыць? А мне практыкавацца трэба. Усе святыя ў рызах, бы язык у звоне, а тут рэдкі выпадак.

Некалькімі амаль нябачнымі, пяшчотнымі рухамі ён падправіў статую, кінуў ёй на галаву фартух — прыкрыйся! — і выйшаў да гасцей, падпёршы трэсачкаю дзверы.

Вестуна, Дудара і Зянонавага сябра Ціхона Вуса знайшлі ля Ціхонавай майстэрні ў залатым радзе. Ціхон, і сапраўды такі вусаты, што каштанавыя хвалі вусоў віселі да сярэдзіны грудзей, выслухаўшы, скрывіўся.

— Дурань ты, дружа,— сказаў ён Зянону.— Я за той хлеб яму адрабіў. Пярсцёнак залаты з хрызапразам зрабіў ягонай... гм... яшчэ ў мінулым лістападзе. Яна ў лістападзе нарадзілася, то хрызапраз ёй — шчаслівы камень. Няўжо такая праца паловы бязмена збожжа не вартая? Я думаў — мы разлічыліся. І потым, калі галубы вінаватыя — ён павінен табе аддаць. Пляц, на якім ягоная крама стаіць, належыць Цыкмуну Жабе. І ён за яго ані шэлега Жабе не плоціць, а за гэта абавязаны галубоў з Бернардынскай і Янавай галубятняў гадаваць. То ён, відаць, ад нясытасці не гадуе. Вочы ў яго шырэйшыя за пуза і прагныя, як ястрабава валлё. Святых птушак да разбою прывучыў. Што ж рабіць?

Кірык схаваў у кішэнь косці, якімі ад няма чаго рабіць мужыкі гулялі ўтрох, і ўстаў.

— Ану, хадзем.

— Куды яшчэ? — спытаў Зянон.— Вечна ты, Марка, раззвоніш.

— Хадзем, хадзем,— падтрымалі каваля сябры.

Ціхон таксама ўстаў. У яго былі дзіўныя рукі, брудна-залатыя аж вышэй кісцяў — так за дзесяць год уеўся ў іх бязважкі залацісты пылок, адзінае багацце майстра. Жылаватыя вялізныя рукі.

І гэтыя залатыя рукі раптам сціснуліся ў кулакі.

...У суднай зале чыталі прысуд. Чытаў ларнік[1] суда, нават па выгляду дурны, як левы бот. Вырачваў вочы, рабіў жэсты пагрозы, жэсты міратворня, жэсты ўрачыстыя. А словаў зразумець было амаль нельга — быццам гарачую кашу варочаў у роце чалавек.

— Ясней там,— усміхнуўся Лотр.

— «...з гэтага сыходзячы,— ларнік адкашляўся, як Пярун,— высокі наш суд загадвае сатанінскаму гэтаму адроддзю...» Слухай!

Ад пярунападобнага голасу мышы ў клетцы сталі на заднія лапкі. Ларнік навучальна і ўжо ад сябе сказаў ім:

— Сказана бо, здаецца, у «Кнізе Выйсця»: «Шма, Ізраіль!» Гэта, значыцца, «слухай, Ізраіль», во як.

— У вас што, усе тут такія абдараваныя? — спытаў Лотр.

— Многа,— сказаў дамініканец.

Ларнік чытаў са скрутка далей:

— «Загадвае высокі наш суд асудзіць тых на баніцыю[2], выгнаць тых мышэй за межы слаўнага княства і за межы слаўнага каралеўства, да ерэтыкоў,— няхай ведаюць. А паколькі яно высокае, наша правасуддзе,— выдаць ім ахоўную грамату ад катоў і варон». Вось яна.

Карніла ўзяў у ларніка скрутак, пайшоў у кут, пачаў запіхваць яго ў мышыную нару. І раптам скрутак, нібы сам сабою, паехаў у падмосце, а яшчэ праз хвіліну адтуль даляцеў радасны, сатанінскі віск.

— То ж бо,— сказаў сотнік.— З моцным не судзіся.

Волат Пархвер прыслухаўся:

— Яны, па-мойму, яго ядуць. У мяне слых тонкі.

— Іхняя справа,— буркнуў Сотнік.

У падмосці пачалася радасная валтузня.

— Бачыце? — сказаў змрочны Камар.— І яны прыйшлі. І гэтым цікава.

Кардынал устаў.

— Думаю, не павінны мы забываць аб літасці, аб чалавечнасці, а ў гэтым выпадку — аб анімалізме. Трэба даць два тыдні спакою маткам з малымі мыша-

---

[1] Архіварыус, натарыус, часам — сакратар.

[2] Выгнанне.

тамі... Нельга ж гэта, каб у дваццаць чатыры гадзіны.

— Розум добра, а дурасць — гэта дрэнна,— як заўсёды, ні з пушчы ні з поля сказаў Жаба.

— І месяц тэрміну для цяжарных мышэй,— сказаў Басяцкі.

Ларнік слухаў, што яму кажуць і шэпчуць, крэмзаў нешта пяром. Потым устаў і агаласіў:

— У адваротным жа выпадку — анафема!

Сябры стаялі ля хлебнікавых дзвярэй. Хлебнік шныпарыў вачыма па суседзях-крамніках, але тыя, відавочна, не хацелі звязвацца са здаравеннымі, як буйвалы, рамеснікамі.

— То што,— спытаў Вус,— пярсцёнка майго не лічыш?

— Чаму? — схаваў вочы хлебнік.— Ну, памыліўся. Ну, памылка. Насыплю яму яшчэ вузлік.

— І той насып,— змрочна сказаў «грак» Турай.

— Гэта чаму? — узвіўся хлебнік.

— А таму,— сказаў, смеючыся, Марка.— Чыя справа галубоў гадаваць? Ціснешся, скупірака? З-пад сябе з'еў бы?!

— Ты ўжо змоўч, шчанюк,— засычэў быў на яго хлебнік.

— А я вось табе дам «вузлік»,— заступіўся за сябра Кляонік.

— Ты чаго лезеш?! Ты?! Каталік! Брат па веры!

— Брат я табе на нашых могілках буду: ты ля капліцы, я — з краёчку, дарма што я багоў рабіў, а ты іх рабаваў.

— Блюзнер! — кіпеў хлебнік.

— Змоўч, кажу,— усміхаўся Кляонік.— А то я з цябе лішняе дрэва здыму або зусім зраблю з цябе Яна Непамуцкага[1].

— А вось табе і торба дзеля гэтага.— Кірык кінуў да ног хлебніка мех.

— Гэта яшчэ нашто? — пачырванеў той.

— Ён даў табе дзесятую частку талера. Гэта больш паловы вось гэтага меха.

Зянону было хоць праз зямлю праваліся. Сам не здолеў, лабідуда, то вось сябры за яго распінаюцца.

---

[1] Адрэжу галаву.

— Не,— ледзь выдушыў хлебнік.
— Значыцца, не дасі жыта?
— Раджу, ці што?
— Та-ак,— падазрона спакойна сказаў Кірык.— Духі святыя ўсё падзяўблі, мышы падсудныя.
І ён раптоўна ўзяў хлебніка за грудзі.
— П'янюга, мачыморда, рабаўнік, ты ў мяне зараз Нёманаву ваду будзеш піць да страшнага суда.
— Дзядзька... Дзядуля... Татуля... Швагер.
— Ідзі,— кінуў яго ў дзверы Вястун.
Хлебнік пабег у склад.
— Дзі-ур-лі-бе-бе-бе-бя-бя-бя,— неператмальна, да самых нізкіх гукаў спускаючыся, прабляяла яму наўздагон дуда. Нібы вялізны дурны баран аддаваў пану богу садухі.
...Трохі пазней сябры спусціліся ніжэй Каложскай царквы, да Нёмана. Шырокі, імкліва-прыгожы, празрысты, ён ляцеў як страла. Праменні сонца гулялі на плыні, на купалах Каложы, на свінцовых, пазалочаных рамах у яе вокнах, на аліўкава-зялёных, карычневых, вясёлкавых крыжах з майалікі, на дахах і крыжах Барысаглебскага манастыра. На недалёкай драўлянай званіцы «Алене», пабудаванай коштам жонкі былога вялікага князя, блішчалі ахвяраваныя ёю званы. Шмат. Дзесяткі два.
Некалькі маладых мніхаў-жывапісцаў з манастырскай школы сядзелі на сонейку, корпаліся з фарбамі ў драўляных лыжачках, у паловах яечных шкарлупак, у кубачках, памерам з напарстак. Малявалі нешта на дошках, цюкалі чаканчыкамі па золату і срэбру.
— Таксама радыя цеплыні,— сказаў распешчана дудар.— Божаму сонейку.
— А яны што, не людзі? — усміхнуўся Кляонік.
— Дык вы ж адны адных не лічыце за людзей,— буркнуў Турай.
Каваль пакасіўся на яго.
— Яны — людзі,— сказаў разьбяр.— І страшэнна здольныя людзі. У мяне з імі больш братэрства, чым хаця б з тым... капланам Басяцкім. Непамысна мне, калі гляджу я ў ягоныя вочы. Ён нешта такое патаемнае, страшнае.
— Кінь,— сказаў Марка.— Што ён, ад веры можа нас адвесці? Мы вас не чапаем, а вы нас не чапаеце.

— Мы не чапаем. Я н ы могуць зачапіць.

— Яны? — усміхнуўся Марка.— Слабыя? Колькі іх на Гародню?

— А «Ганну» яны, слабыя, ужо адабралі ў вас. І пісар Богуш, са згоды караля, на іхнюю карысць былым Спасаіконапрэабражэннем паступіўся.

— То ён жа табе лепей...

— Мне ён не лепей. Мне будзе кепска, калі святую нашу раўнавагу яны парушаць. Калі ты за рэбры павіснеш, а я, каталік, за кампанію з табой. Як сябар. Чуў, вяшчальнікі сёння што крычалі? Мышэй судзяць. Нібыта проба. А доказная інквізіцыя гуляць пайшла. Малады Бекеш быў у Італіі, у Рыме. Жах там робіцца.

— І нашыя не лепей,— сказаў Турай.

— Правільна. Але «нашыя» далёка,— сказаў Вястун.— А гэтыя бліжэй і бліжэй. То што там казаў Бекеш?

— А тое. Страшныя ідуць часы. Царкву маю нібы ахапіў злы дух. Манахі і папы гуляшчыя і прагныя. Тысячамі паляць людзей. Цёмнае ідзе, хлопцы.

— Гэ-э,— сказаў Зянон.— Дарэмна ў набат б'еш. Тут у нас свой закон. Нікога асабліва за веру не чапаюць. Ну, паступіўся Богуш «Спасам». А чаму забываеш, што ён праваслаўны, што ён гэтаму вось манастыру Чышчаўляны падарыў, што нават вялікая княгіня яму, манастыру, званіцу пабудавала і сад пажалавала. Што суседняе з намі Панямунне яму кароль падарыў.

— Былы кароль,— сказаў Вястун.— Былая каралева. Цяпер у нас каралева рымлянка. З тых месцаў, дзе людцаў тысячамі паляць.

— Так,— сказаў Кляонік.— Дачка медзіяланскага[1] князя.

— Дый Богуш ужо не той,— казаў далей каваль.— Хістаецца панства, хлопцы. Войт у нас хто? Іншыя паны? Праўду кажа Кляонік. Як бы нам сапраўды на коле не верашчаць. Асабліва калі яны, як з мышамі, спяюцца... нашыя ды іхнія. А мы ж таксама для іх... мышы... Страшныя ідуць часы.

Яны адышлі далей, каб не перашкаджаць маста-

---

[1] Міланскага. Бона Сфорца.

кам, і разваліліся на траўцы. Зянон, сядаючы на свой мех са збожжам, думаў.

— Дурні яны, ці што? — урэшце спытаў ён.— Мышэй судзяць?

— Не яны дурні,— сказаў Дудар.— Гэта мы дурныя, як дарога. Хіба маленькія могуць столькі з'есці? А Камар іх судзіць.

— А Камар хіба вялікі? — спытаў Кляонік.

— А з добрую такі свінню будзе,— сказаў Вястун.

Маўчалі. Ласкавае — ля ракі — сонца гладзіла твары.

— Хто ўсё ж гэты Басяцкі? — спытаў змрочна Гіаў.— Нейкі ён не такі, як усе дамінікане. Алейны нейкі, халера на яго. Па начах да яго людзі ходзяць. Сам ён, здаецца, усё і пра ўсіх ведае.

Кляонік раптам крэкнуў:

— Добра, хлопцы. Усе тут свае — можна трохі і адкрыць. Чулі, з усіх амбонаў крычаць, што ерась галаву ўзняла? Тут табе ерась гусіцкая, тут табе — лютарская... Наконт гусітаў нічога не скажу, хаця «чашнікі»[1] і дзярмо. Забітых не судзяць. А астатнія такія самыя свінні, толькі што царква больш танная... Рым з імі, вядома, б'ецца не на жыццё, а на смерць. І мячом... і... атрутай. Крыжакі. І вось, Бекеш казаў, ходзяць паўсюль страшныя чуткі. Нібы ёсць пад зямлёй, у вялікай схове... больш магутнае за папу...

— Ну што замоўк? — спытаў Вус.

— Братэрства патаемнае,— скончыў разьбяр.— Тыя самыя крыжакі, што... атрутай ваююць. Нібыта ніхто добра нічога не ведае, але ёсць.

— А я б такіх молатам вось гэтым,— сказаў Вястун.— Каб галава ў жывот юкнула і праз пуп глядзела.

— І вось, калі праўду кажуць, могуць яны забрацца не толькі сюды, а і ў пекла. А калі сюды забраліся — неадменна Басяцкі з іх. Ты зірні ў вочы. Плоскія. Зялёныя... Змей. Так і чакаеш, што адкрые рот, а адтуль замест языка — травінка-джала.

— Можа быць,— сказаў Марка.— Усё можа быць.

— Ды нашто ім сюды? — спытаў Турай.— Тут у нас ціха.

Вус развёў залатымі рукамі.

---

[1] Правае, здрадніцкае крыло гусітаў.

— Маўчы ўжо... ціха,— сказаў ён.

— Няма ў нас цішыні, хлопцы,— сказаў Кляонік.— Бязвер'е ў нас з'явілася. Гэта больш страшна для іх, чым цюрынгійскія бунтаўшчыкі. Тыя, хаця ў бога вераць.

— А ты верыш? — з'едліва спытаў Турай.

— Мая справа. Як твая вера — твая, а ягоная — яго... Ну, магу сказаць: веру ў бога-духа, агульнага для ўсіх. Твары розныя, а ён адзін. І няма чаго за розныя лічыны божыя спрачацца і рэзаць адзін аднаго.

— Ты ж каталік? — спытаў Турай.

— Для мяне самая зручная вера. Я разьбяр. Ніхто іншы разьблёных багоў не прызнае. І таму я каталік... пакуль рэжуць жывых людзей з дрэва... і да таго часу, калі стануць... як дрэва... рэзаць жывых людзей.

Яму было цяжка і страшна выказваць гэтыя свае новыя думкі. Турай кінуўся на калені.

— Ерэтык ты, а не каталік!

— Ану, сядай.— Каваль паклаў руку на галаву мечніку і з сілаю пасадзіў.— Таксама яшчэ... айцец царквы. І я лічу: адзін бог ва ўсіх. Як ты... для мяне — Турай, дзядзька Турай... для Маркі ты — бацька... а для жонкі тваёй і сяброў — Гіаў. Змоўч. Сабораў нам тут не разводзь. Дай слухаць.

— Ды чаго ён?!

— Змоўч, кажу,— сказаў каваль.— Цікава. Судзіць чалавек тое, чаго дагэтуль ніхто не асмельваўся судзіць. Кажы далей, што там наконт бязверных?

— Ды што,— сказаў разьбяр.— З'явіліся пісаныя кніжачкі. Шмат. «Княства Белай Русі і Літвы, суджанае праўдай вечнай»[1].

— Там што? — прагна глядзеў у ягоныя вочы Вястун.

— Няма багоў,— сказаў Кляонік,— і не трэба тамлення і марэння духа па іх. Няма і не трэба аніякай улады Адамава сына над гэткім жа сынам Адамавым. Няма і не трэба лепшых і горшых у дзяржаве, царкве і касцёле, і ў багацці.

— Як гэта няма? — спытаў Вус.

---

[1] Трохі пазней тая самая падмётная ерэтычная кніга з некаторымі выпраўленнямі была ў Гародні надрукаваная.

— Не павінна быць... Не павінна быць розніцы ў законе, розніцы між каралём і народам, між тым, хто царуе, і тым, хто арэ, між плебеем і шляхціцам, а павінна быць усё для ўсіх, агульнае і роўна, і воля павінна быць і на зямлі і на небе, а веруй, як хто хоча.

Лягло маўчанне. Потым Турай уздыхнуў.

— Праўда. Толькі наконт бога — ілжа.

— Ну, гэта табе сам бог, калі памрэш, скажа,— усміхнуўся каваль.— Сказана: веруй, як хочаш. Сапраўды, «суджанае вечнай праўдай».

— Праўда...— сказаў Кляонік.— І вось таму і страшна мне. Нешта такое (толькі з верай божай) Гус казаў і Пракоп — як на іх кінуліся?! Крывёй залілі. А цяпер праўда зноў усплыла. У нас. Цёплая. А на цёплае вужакі і змеі паўзуць. То няўжо, думаеце, на нас яны не кінуцца?! І з мячом многія адкрыта кінуцца, і тыя, падземныя, з атрутай. Таму я і кажу: цёмнае ідзе, кроў ідзе, меч ідзе, атрута ідзе.

— Кінь,— сказаў легкаважны Марка.— Не папусціць бог.

— Які? Твой? Мой? Іхні?

— Адзіны ёсць бог. Праўду кажаш,— сказаў Вястун.

— Які?

— Наш. Мужыцкі.

— Дужа ён вам з хлебам дапамог,— сказаў Зянон.— А ёсць жа хлеб. Ува ўсіх гэтых ёсць. А богу нібыта і няма да нас нічога. Як вы мне памаглі, то памог тады і ён.

— А мы і яму... паможам,— засмяяўся Кірык.

— Чым? — злосна сказаў Дудар.— Чым ты іх трахнеш? Адным гэтым сваім молатам? Сапраўды, разбалбаталіся аб тым, што калі яшчэ будзе. Лепей падумайце, як вы зіму пражывяце.

— Вось голад і закрычыць,— сказаў Вястун.

— Гэ! Хай сабе крычыць,— сказаў Турай.— Галавы ў яго няма. Іконы ў яго няма. А нашы людцы звыкнулі скопам толькі за цудатворнай.

— Пане божа,— уздыхнуў Зянон.— Ну хаця б дрэнненькі які, абы наш, мужыцкі Хрыстос з'явіўся.

— Чакай,— сказаў Кляонік.— Яшчэ столькі чакай.

— То, можа, без яго? — іранічна спытаў Вястун.

Людзі сядзелі моўчкі. Грубаватыя твары трохі

маршчыніліся ад не вельмі звыклых думак. Нікому не хацелася першаму кінуць слова.

Сказаў яго Зянон. Яму дагэтуль было нязручна. Сябры абаранілі яго, і горш за ўсё было тое, што яны могуць палічыць яго баязліўцам. І таму, хаця меха, на якім ён сядзеў, магло хапіць надоўга, няхай сабе і на зацірку, Зянон крэкнуў:

— Чаму ж, без яго дык без яго.

Вястун са здзіўленнем глядзеў у шэрыя, глыбока пасаджаныя Зянонавы вочы. Не чакаў ён ад яго гэтага спрыту. Бач ты, раніцай за сябе заступіцца не мог, а тут... Ну, не трэба ж і яму, Кірыку, быць горшым за такога ціхоню.

Ён устаў і, крутануўшы, кінуў свой молат угору па схіле. Молат апісаў вялізную дугу і ўпаў у траву і нізкі цярноўнік. І раптам адтуль са звонам падскочыла ў паветра і рассыпалася на пыркі шкляная суляя. А за ёю, успуджаныя, ускінуліся манах і жанчына.

Кінуліся ўцякаць.

Некаторы час сябры ашаломлена маўчалі. Потым пакаціўся рогат.

— Бач, як іх,— сказаў Вястун.— Ану, хадзем. Ты, Турай, з сынам, на Рыбны рынак, а я з Зянонам на Стары. Ціхон — на левы бераг. А ты, Кляонік, гані на слабады... Паспрабуем, ліха на яго, узняць канцы ды трахнуць гэтых, што дужа хлебныя, ды заадно і замкавыя склады.

Яны развіталіся ля моста. Кірык і Зянон рушылі ўгору, зноў на рынак, але прыйшлі туды ў неспакойны час. Варта якраз заспела абаіх пракаў за недазволенымі ка́занямі.

І вось юрод кідаў у воінаў прыгаршчамі каровінага гною, а зверападобны Іллюк біў па руках, што адусюль цягнуліся да яго, і зверагласна крычаў:

— Не чапай! Я Ілія! Не чапай, кажу! З мяне ўжо галавы не здымуць! За мной Хрыстос ідзе!

Расстрыга страшна круціў вачыма.

— На беззаконні! Язык мой — звонам у роце!

— А вось мы табе зубы выб'ем,— сказаў яму Пархвер.— Тады языку твайму ў роце куды вальней боўтацца будзе.

Натоўп закрычаў:

— Не руш! Не руш, кажу, прарока! — наліваю-

чыся крывёю, рыкаў знаёмы гаршчэчнік Хларэнт.

І тады Вястун з ходу ўварваўся ў «гульню».

— А вось мы вашыя свірны памацаем!

— А чаго?! — узвыў натоўп.— Чаго, сапраўды?! Даввай!

Варта, разумеючы, што справы дрэнь, ашчацінілася была дзідамі. І тады Хларэнт папляваў у далоні і, паддаўшы плячом, перакуліў на іхнія галовы воз сваіх жа гаршкоў. Да тых, што засталіся цэлыя, пацягнуліся адразу сотні рук, пачалі кідаць ва ўзброеных.

— Бі іх,— крычаў Хларэнт.— Усё адно варыць няма чаго.

Гаршкі звонка разбіваліся аб шаломы. Варта павольна адступала ад замка.

— Людзі! У доўбні! — крычалі адусюль.— Мы іх зараз!

Гігаталі і ўставалі дыбам коні. А над усім полем пабоішча юрод уздзяваў угору складзеныя «знакам» пальцы і крычаў:

— Ідзе! Ужо ідзе Хрыстос!

## Раздзел IV

## «ЛІЦАДЗЕІ, СКАМАРОШКІ, БЛАЗНЫ НЕСАМАВІТЫЯ...»

> Але злы дух сказаў у адказ: «Ісуса ведаю і Паўла мне вядомы, а вы хто?»
>
> *Дзеянні, гл. 19, ст. 15*

> Вачыма намізаюць, і ў дуды равуць, і хары авечыя і іншыя на вобразе божым носяць, і беса цешуць, і, плешчучы далоньмі, клічуць: «Лада! Лада!» Сірэч бес і бог бесаў Ладон. А таму дуды іхнія і жалейкі ламаць і паліць.
>
> *Сярэдневяковы загад аб ліцадзеях*

Днём напярэдадні ў мястэчку Свіслач адбылася сумная і журботная гісторыя: жыхары ўпершыню пазнаёміліся з ліцадзеямі, а тыя — з гасціннасцю мясцовых жыхароў.

Яшчэ і дагэтуль існуюць нетэатральныя гарады,— што ўжо казаць пра тыя часы?! Але нават тады,

калі толькі батлейка ды вандроўныя жанглёры неслі ў масы святло мастацтва, гэта мястэчка было самае нетэатральнае з усіх нетэатральных мястэчак.

Рэдка-рэдка бараздзілі тады Белую Русь самотныя ліцадзейскія фургоны. Рэдка-рэдка вырастала з іхніх барознаў што-небудзь вартае. Хадзілі часам з містэрыямі бурсакі-шкаляры, спевакі, цыркачы. Часам траплялісія вечна галодныя акторы-прафесіяналы. На ўсіх іх, акрамя батлейшчыкаў, глядзелі з недаверам. Фокусы іхнія нагадвалі чарадзейства і не былі святой справай накшталт лерных спеваў. Ды, потым, занадта часта пасля іхняга адыходу знікалі з падстрэшша сыры і каўбасы, а з платоў — кашулі і іншае.

Таму, калі ў той дзень прыцягнуўся ў Свіслач прадзёрты палатняны фургон, запрэжаны парай кляч, жыхары не чакалі ад яго нічога добрага. Не чакалі, але глядзець прыйшлі, бо палічылі фургон за нечувана вялікую батлейку.

Містэрыя пачалася бліжэй да вечара, пад вялізным абшчынным дубам. Дзве дошкі, пакладзеныя на задок фургона, вялі з яго на памост, з якога, бывала, чытаў казані вандроўны прапаведнік ці агалашаў аб'явы панскі паюк.

Сядзеў на гэтым памосце і копны суд, калі прыязджаў у мястэчка.

А цяпер гэта была сцэна, і кулісамі ў яе былі з аднаго боку фургон, з другога — ствол старадаўняга дрэва. Мужыкі сядзелі на траве і вылуплівалі вочы на дзіўнае відовішча. Лялькі — гэта нястрашна, а тут жывыя людзі рабілі такое, ад чаго ратуй нас, пане божа.

Людзей тых было трынаццаць. Відаць па ўсім — нездарма. І рабілі яны, на думку мужыкоў і мяшчан, справу няправедную: рыхтаваліся распінаць Хрыста. Ніхто не бачыў, што праца гэтая людзям нязвыклая, што яны пакутліва стараюцца і што з гэтага нічога не выходзіць.

Пілат у хламідзе з паперы стаяў слупам пасярэдзіне памоста і круціў вачыма так, што бабы абміралі ад жаху. На галіне дуба стаяў чалавек у вопратцы анёла, якому, па ўсім відаць, трэба было неўзабаве спусціцца на памост па душу распятага. Вельмі высокі і моцны, шыракаплечы, са смешным абліччам

і густымі бровамі, ён трымаў на грудзях канцы блакітных крылаў, каб не зачапіліся, і шаптаў нешта чалавеку, які стаяў пад ім, у ценю:

— Ну які з Багдана Пілат, Іосія? Няварты Пілат.

— Пхе,— сказаў голас з цемры.— Пілат няварты быць не можа. Не прывязвайся да яго, Юрась. Ведай свае крылы і стой сабе. Глядзі сабе, як Шалфейчык добранька вісіць.

Адзін з распятых ужо разбойнікаў — па тыпу расстрыга, па носу запівоха — пакасіўся на іх і застагнаў, закаціўшы вочы.

Пілат паказаў рукою на крыж і, выгнуўшы даволі значнае пуза, агаласіў:

— А вось уліце яму воцату ў рот, каб не думаў пакутваць за чалавечы род. Прынясіце цвікі з асіны для сабачага сына.

— Для чалавечага сына,— падказаў распяты Шалфейчык.

— Сам ведаю,— голасна сказаў Багдан-Пілат.— Хам ты.

Гледачы, хто баяўся, а хто і шаптаў. Шапталі двух у адзеннях вандроўных гандляроў. Сядзелі яны збоку, адкуль відаць было анёла на дубе.

— Ведаеш, што мне здаецца? — спытаў адзін.

— Ну?

— Гэты, на дубе... Каплан з Ванячэ загадваў *яго* шукаць. Гэта, па-мойму, той, што на агнявым змеі зляцеў. Мы яшчэ яго перастрэлі ў пушчы. Спаў на гарачай зямлі.

— Быць не можа гэтага,— флегматычна адказаў другі.

— Я табе кажу. Глядзі, твар які смешны. У людзей часта ты такія бачыў? Зноў жа, крылы.

— Не можаць гэ-тага быць.

— Знакі нябесныя забыў? Чаго ён на праклятым месцы спаў? Чаго казаў, што ніякіх д'яблаў не баіцца? І запомні... і каплан, і магнат наш яго шукаць загадалі. Паліць такіх трэба. Сатана гэта.

— Быць гэ-та-га не можа.

— Глядзі, і корд той самы.

— Гэтага не можаць быць.

У гэты час у натоўпе раздаўся ўздых жаху. На сцэну з фургона вываліліся два эфіопы. Адзін быў здаровы, як халера, другі тонкі і вельмі жанчынапа-

добны. Але абодва былі чорныя, як дзеці самога сатаны. Дошкі прагіналіся пад іхнімі нагамі, бо яны цягнулі пад рукі чалавека з пароды тых, пад якімі падаюць у непрытомнасці коні. На чалавеку быў залацісты парык, а з-пад яго глядзела тупая, але даволі дабрадушная морда.

Натоўп узвыў ад жаху.

— Чэрці! — крычаў нехта.

І тут з дуба раздаўся анёльскай прыгажосці голас. Быў ён мяккі, гучны і моцны. Гэта, схаваўшыся за ствол, каб не заўважылі, гаварыў чалавек з крыламі.

— Ціха вы. Не чэрці гэта — эфіопы. Сажай яны намазаліся.

— Брашы! — крыкнуў нехта.

— Праўду кажу. Зваць іх Сіла і Ладысь Гарнцы.

— Хрыста нашто крыжуеце?!

— І ён не Хрыстос. Знарок ён гэта. Дрывасек ён былы. Зваць яго Акіла Кіёвы.

— Ну, глядзі,— трохі супакоіўся натоўп.

Эфіопы цягнулі Акілу-Хрыста да крыжа. Акіла пручаўся. І ясна было, што Гарнцам не пад сілу весці яго.

— Чуў? — спытаў адзін гандляр у другога.— Голас гэтага, крылатага, чуў? Голас той самы.

— Не можаць гэ... Праўда твая, браце. Той самы голас.

Натоўп весела рагатаў, сочачы, як лётаюць эфіопы вакол Хрыста.

— Дай ім, дай!

Акіла круціў рукамі, напінаўся, але ўсё ж ішоў наперад. Урэшце мурыны, скрыгочучы зубамі, узвалаклі яго на крыж.

— Ану, прыбівайце, каб не сышоў! — рыкаў Пілат.

І толькі тут сёй-той у натоўпе зразумеў: гэта табе не жартачкі. Крычалі-крычалі, а тут, бач ты, бога распінаюць.

— Хлопцы,— спытаў легкаверны голас,— гэта што ж?

— Бог... Амаль голы.

— Адзенне дзеляць.

Анёл пачаў шаптаць таму, хто стаяў ніжэй яго:

— Скажы Аўтуху і Лявону, хай не дзеляць.

«Салдаты» не зважалі на шэпт. Дзялілі са смакам і з веданнем справы. Над натоўпам вісеў размераны — як па труне — грукат малатка.

Акіла на крыжы закінуў галаву, закаціў вочы і выпусціў дух. Эфіопы адступілі, каб з выглядам мастакоў палюбавацца сваёю працай. І тут здарылася непапраўнае.

Пад вагою Акілы крыж склаўся напалам (так яго было зручней перавозіць у фургоне: складны, з прыступачкай для ног, з надпісам «INRI», які толькі што так велічна аблямоўваў Акілаву галаву). Крыж склаўся, і пад ім, паказваючы небу зад, стаяў вялізнай перавернутай іжыцай Акіла Кіёвы, няўдалы Езус.

— Хлопцы, гэта што ж? — спытаў нехта.— Што ж гэта, у госпада бога нашага зад быў? Ану, спытаем у гэтых.

— Ерэтыкі!

Ратуючы становішча, Юрась скочыў на лёгкіх крылах уніз. Апусціўся на памост. І тут закрычаў адзін з вандроўных гандляроў:

— Гэты! Гэты! Ён на агнявым зміі спусціўся! Хапаць яго загадана! Гэта сатана!

Паветра раздзёр свіст. Натоўп прыйшоў у рух і пачаў насоўвацца на памост... Анёл ліхаманкава аддзіраў ад памоста крыж. Распяты разбойнік разам з крыжам кінуўся ў фургон. Але ў паветры ўжо замільгалі гнілая рэпа, цыбуля і іншае. Коні рванулі з месца, кінуўшы людзей.

...Яны ўцякалі палявой дарогаю з усіх сіл, таму што ззаду, не дужа даганяючы, але і не адстаючы, з гікам беглі ганіцелі.

Папераздзе ўсіх ляцеў легкакрылы анёл. Твар у яго быў адухоўлены. Залацістыя — свае — валасы лунalі па ветры. Віўся хітон, адкрываючы голыя лыткі.

За анёлам ляцеў звар'яцелы фургон. Коні ўскідвалі ашчэраныя храпы, імкнуліся з усёй сілы і ўсё ж не маглі дагнаць Братчыка. У фургоне бразгатала зброя і рэшткі рэквізіту.

За фургонам лупіў на апошніх жылах ягоны гаспадар, лысы Мірон Жарнакрут, а побач з ім задыхаўся пад цяжарам крыжа «распяты разбойнік» Шалфейчык.

Ён адставаў і адставаў, і разам з ім адставаў канвой — два эфіопы. За імі ўваўсю беглі астатнія ліцадзеі ў разнастайных вопратках. І ўрэшце, наступаючы ім на пяткі, рука да рукі, чыкільгалі два салдаты, магутны ў чэраве Пілат і Акіла-Хрыстос. Хрыстос быў голы, таму што адзенне ягонае неслі салдаты.

— Наддай! — шалёным голасам крычаў той чалавек, якога анёл зваў Іосіем.

Яны беглі, а за імі з галёканнем і свістам валіў натоўп раз'ятраных праследавацеляў.

...Хто хоча ўцячы — уцячэ. Гэтыя ўцякалі і ўцяклі. Усяго цераз якую гадзіну яны перасталі чуць галасы за спіною, а яшчэ хвілін праз трыццаць прыходзілі да прытомнасці на невялічкай палянцы.

Цурчаў пад нагамі ручай, нібы гаварыў аб марнасці чалавечых намаганняў. Сядала за вязамі вялізнае чырвонае сонца. Жарнакрут гаротна войкаў у фургоне: спрабаваў скласці паламаныя дзіды.

Пілат адсопваўся, надзімаў тоўстыя шчокі:

— Абтрасём прах гэтага горада... вух-х... ад ног нашых... Хамы... Гэта яны так... беларускага двараніна... Хай я не буду Багдан Роскаш... хай я... не ад Усяслава паходжу, а ад свінні, ад гіены, ад малпы... калі я ім гэтага не папомню.

Акіла-Хрыстос сядзеў над ручаінай, мацаў сіняк пад вокам, паліваў яго вадою:

— Гэна... Б'юцца як... Хай яно...

І яму тураваў, таксама мацаючы сінякі, Жарнакрут:

— Сцеражыцеся ж людзей: бо яны будуць аддаваць вас у судзілішчы і ў сінагогах сваіх будуць біць вас.

Адчэпленыя крылы адпачывалі побач з Братчыкам.

— Не так вы гэта,— раптам з сумнай усмешкай сказаў ён.

— А як? — гнеўна спытаў лысы Жарнакрут.— Гэта я ліцадзей. Я ведаю, як яно граць трэба. А вы тут усе — набрадзь. Ву́чыце тут мяне, а правал — з-за вас. З-за вас мне ўсё паламалі. А гэта ўсё грошай каштуе.

— Што ім у тваіх містэрыях? Яны людзі цёмныя.

Гэта не тое, што прывычныя шкаляры. У нас, бывала...

Жарнакрут раптам устаў:

— Слухай, Юрась Братчык... Ведаем мы, што ты за шкаляр. Кажы, што гэта там крычалі пра агнявога змія? На кім гэта ты прызямліўся?

— Крычалі таму, што бедныя, цёмныя людзі,— непарушна сказаў Братчык.— Я шкаляр з Міра.

Мірон Жарнакрут выбухнуў:

— А білі... Білі нас з-за каго?

— Білі нас за тое, што мы кепска гралі. І яшчэ таму, што яны ніколі не бачылі такога. Што ім у тваіх містэрыях? Тут трэба, як у казцы пра асіну і распяцце. Цвікі не палезлі ў рукі, а асінавыя калкі палезлі (яны, мужыкі, ведаюць, бо асінавы цвік і ў бервяно палезе). І тады распяты затросся і закляў асіну: «Каб жа ж ты ўсё жыццё так трэслася, як я зараз трасуся». Т а к о е яны ведаюць. Т а к о м у яны паверацъ.

— А што,— сказаў Роскаш.— Праўда.

— Праўда! Праўда! — перадражніў Жарнакрут.— Мне лепей ведаць. Я — гаспадар.

— А як гэта ты, гаспадар, адзін апынуўся на дарозе з фургонам цэлага пазорышча, у якім чалавек пятнаццаць было? Знайшоў дзе?

Жарнакрут плямкнуў вуснамі, быццам скрыню зачыніў.

— Вось што,— сказаў «анёл».— Махлярыць дык махлярыць. Што нам у гэтых бедных мястэчках? Хадзем адразу ў вялікі горад, у Гародню. І зусім без розных там вяшчальнікаў пераапранёмся за мурамі ды ў горад. І — тавар лепшым бокам.

— У Гародні людзей больш,— сказаў, мацаючы сінякі, Акіла.

— То што?

— Ты Хрыста ў Гародні сам ігран,— сказаў Юрасю Акіла.— Я цяжкі на бягу. Для мяне гэта работа дужа шкодная.

Раздзел V

# АНАФЕМА

Я сказаў яму, што няма чаго запасіць, саліць, сушыць лаянку там, дзе яе і так досыць. Нашто гэтая справа, калі і так свет трымаецца толькі на ёй і лаюцца ўсе, ад папы і да таго, хто ходзіць з чарпаком. І чым больш лаюцца, тым больш лаянка — гарох у сценку... І потым, пры чым тут рыжы кот?

*Фарс аб анафеме рыжаму кату*

Гаршком назаві, ды ў печку не стаў.

*Беларуская прымаўка*

У той год Рым анафемстваваў Лютара і ўсіх, хто з ім, успамінаў праклёнам Арыя, Вальдэнса[1], чарнакніжніка Агрыпу, Гуса і Героніма Пражскага і іншых ерэсіярхаў. У той год Масква ўспамінала анафемай Святаполка Акаяннага і ноўгарадскіх «жыдоўствуючых», якія адмаўлялі манастыры і царкоўнае землеўладанне і казалі, што Хрыстос і без біскупа ёсць Хрыстос, а біскуп без Хрыста — тфу, і нашто ён тады ўвогуле?

У той год Гародня анафемствавала мышэй.

Ніхто не кінуў горада: ні цяжарныя, ні легкаважная моладзь. Нават калі і былі гэткія богабаязныя, то было іх так мала, што іхнія ўцёкі практычна не змянілі колькасці мышынага статка.

...Над Гародняй білі званы. Глуха бухаў дамініканскі касцёл, пагражаў бернардынскі, надрываліся званы Каложы і манастыра Барыса і Глеба, трывожна гудзелі святая Ганна і набрамная Зафея, стагналі званы францысканцаў.

І пагрозна раўлі — нібы адна адну праглынуць жадалі — барадатыя, праваслаўныя, і босыя, каталіцкія, пашчы дыяканаў.

— І ў тэрмін належны не пайшлі... Закон божы пераступіўшы...

— I nunc, anima anceps...[2]

---

[1] Вальдэнсы — рэлігійная секта, якая ўзнікла на поўдні Францыі ў канцы XII ст. Заснавальнік — П'ер Вальд, ліонскі купец (*рэд.*).

[2] Дык ідзі ж, грэшная душа...

— І за тое хай будзе ім Іудзіна ўдушэнне, Лазарава гніенне...

— De ventre inferi...[1]

— Гіезіева пракажэнне...

— Анафема!

— ...валхва імгненная смерць...

— А-на-а-фе-ма-а!

— Анафема, маранафа!

— Анафема!..

— А-на-а-фе-ма-а-а!!!

Гуд званоў быў жахлівы. Рыканне бязмежных, як пячора, глотак яшчэ страшнейшае.

А між тым мала хто звяртаў увагу на анафемстванне.

Напярэдадні, пасля вялікай бойкі на Старым рынку, людзі разышліся, але горад нібы застыў у чаканні нечага. Штосьці віравала пад вонкавым спакоем, мяшчане-рамеснікі шапталіся і глядзелі на варту з удаваным спакоем і патаемнай зларадасцю. Усю ноч з дома ў дом мільгалі нейкія цёмныя цені.

І ледзь толькі загулі званы, увесь горад (і ў адно імгненне) устаў. Відаць, дамовіліся загадзя, што пачнуць з пачаткам анафемы. У вокамгненне высыпалі з двароў узброеныя хто чым людзі, хапалі самотных вартаўнікоў, цяклі завулкамі, зліваліся.

Места валіла да Старога рынку. Разбіваць хлебныя склады. Хай сабе там і мала чаго ёсць — потым можна пайсці на склады замкавыя. Немагчыма больш было цярпець.

Над вуліцай стаяў такі крык, што яго пачулі нават ліцадзеі за мурамі. Яны якраз апраналіся ў грубы кужэль і перапаясваліся вервіем, калі места пачало рыкаць.

— Што гэта там? — з трывогаю спытаў тонкі Ладысь Гарнец.

Юрась ускладаў на галаву цярновы, з тупымі шыпамі, вянец:

— А чорт яго ведае! Горад... Відаць, нічога страшнага. Бачыш, варта нават брамы не зачыняе.

— Што рабіць будзем? — спытаў Жарнакрут.

Братчык спакойна ўскінуў сабе на плечы вялізны лёгкі крыж. Паправіў яго.

[1] З глыбіні пекла...

— Хадзем.

І спакойна пайшоў да брамы.

Дванаццаць чалавек у радне рушылі за ім. Следам пацягнуўся прадзёрты, брынклівы фургон.

Горад крычаў страшна. Тое, што ў замку дагэтуль не ўзнялі гвалту, можна было растлумачыць толькі гулам замкавых званоў. Цэрквы былі блізка. Вуліцы рамеснікаў — наводдаль. Замак маўчаў, але гарланне і крык каціліся ўсё бліжэй да яго.

Людзей было мала — ледзь адзін з пяцёх — дзесяцёх выйшаў на вуліцы,— але яны так напіналіся ў крыку, што ім здавалася: няма сілы, якая магла б стаць на іхняй дарозе.

Нізкалобы сотнік Карніла першы ўбачыў з кутняй вежы далёкі натоўп і, нягледзячы на тое, што быў цяжкадум, зразумеў, чым гэта пахне.

Пыл стаяў ужо над Старым рынкам: відаць, купцы баранілі плошчу ад рамеснікаў... Не, рамеснікі з мяшчанамі яшчэ далёка. Дарогаю, пэўна, разбіваюць нечыя дамы... Чаму ж пыл над рынкам?

І сотнік зразумеў: гандляры бягуць за зброяй... Збіраюцца... Будзе страшэнная бойка. Трэба разбараняць. Як? Мо бегчы па Лотра? Д'ябла яго паслухаюцца. Што такое кардынал у пераважна праваслаўным горадзе?

Карніла рынуўся з забрала і пабег. Шчасце, што Балвановіч тут, а не ва ўлюбёным Барысаглебскім манастыры.

Балвановіч толькі што сытна, з мёдам, паснедаў і заваліўся адпачыць. Хай яны там задушацца са сваёй анафемай. Паўсюль бываць — здохнеш хутчэй.

Замкавы мітрапалічы палац быў у два жылля[1] з сутарэннямі, у дзесяць пакояў з капліччкай. Стаяў трохі наводдаль ад Вітаўтавага палаца. Святліцы ў ім былі скляпенчатыя, нізкія, душныя, але затое вельмі цёплыя ўзімку: не тое што агульны замкавы палац. Там — колькі ні палі — золь сабачая.

Ад задухі маленькія вокны былі адчынены. Відаць было, як віліся над вежамі ўспуджаныя перазвонам стрыжы.

Балвановіч ляжаў і соп. У яго на жываце ляжала

[1] Паверхі.

вялізная, вельмі дарагая заморская кошка. Прывозілі такіх аж аднекуль з-за Індыі партугальцы. Прадавалі ў сябе, у Гішпаніі, у Рыме. Кошка была загадкава-суровая, з ізумруднымі вачыма, з аксамітнай карычнева-залатой шкурай[1]. Цягнулася да пастырава аблічча, нібы цалавала, і потым вараціла морду: ад мітрапаліта несла вінам.

— Ну і выпіў,— казаў Балвановіч.— Час такі, што зап'еш. Мо і ты хочаш? Тады я...

Побач з ложкам стаяў толькі што распячатаны глячок з мёдам і сподак суніц з вяршкамі. Грынь выпіваў чарку, мачаў палец у вяршкі і мазаў кошку па носе. Тая аблізвалася. Спачатку — нездаволена, потым — нібы робячы ласку.

— Не п'еш? Як папа? Брэшаш, і ён п'е. Павінна была ведаць, калі цябе з карабля ў папскай вобласці купілі... У-у, шэльма, у-у, латрыга, шпіёнка ты мая папская. Чаго морду вароціш? Не даспадобы? А мне, думаеш, даспадобы, што лазутчыкі вакол? Самага вернага дыякана пасадзілі. А горад больш чым на тры чвэрці праваслаўны. Вось няхай самі ў ім і спраўляюцца, а я сам сябе пад хатні затвор пасаджу. Мне і тут няблага. І вып'ю сабе, і закушу. Цішыня вакол, звон. І добра сабе.

Ён не паварухнуў і вухам, калі пачуў грукат. Нехта бег пераходамі, тупаў па сходах, як жарабец. Потым дзверы з гулам расчыніліся, і, нібы нехта кінуў да ложка самавар, уляцеў у пакой і ўпаў ніцма Карніла.

— Блаславі, святы ойча.

— Гэта ты за блаславеннем так бег, прыхвасцень?

— Але.

— Брэшаш ты.

— Святы ойча...

— Ізыдзі, рука Ватыкана.

— Праваслаўны я, ойча...

— Малаважна. Такіх паўсюль паляць. Чацвёрты ты Сікст...

Карніла пакрыўдзіўся:

— Я ўжо і не ведаю, на што гэта вы намякаеце.

---

[1] Сіямская парода.

— Інквізітар ты... Фараон... Саўл.

— Лайцеся сабе, лайцеся. Кідайце хульныя словы. А ў горадзе мяшчане бунтуюць. Павалілі з доўбнямі, з друкамі на Стары рынак.

— Няхай валяць,— мітрапаліт паварацiўся да Карнілы задам.— Дулеб ты багамерзкі.

Кошка ўскараскалася пярэднімі лапамі на Грынеў бок і глядзела на Карнілу, нібы д'ябал з-за муроў пекла.

— Купецтва ім насустрач кінулася. З мячамі.

— Няхай сабе і так.

— Кроў пральецца.

— А нябесны наш айцец не праліваў крыві?

— Дык разбараняць трэба,— амаль стагнаў Карніла.— З харугвамі ісці.

— Вось няхай Лотр з Басяцкім бяруць свае пратэсы сатанінскія ды Камара бяруць ды ідуць. Пагляджу я.

— Праваслаўныя б'юцца!

— Малаважна... ідалапаклоннік ты. Няхай б'юцца. Як разбараняць, то я, а цэрквы ў нас розныя там Богушы адбіраюць ды ім аддаюць.

— Лотр перадае: вярнуць праваслаўную Ніжнюю царкву.

— Пук ты... Рэдзька наскрэбеная, смярдзючая... Якую Ніжнюю? Тую руіну, што ў замку? Хай ён сам там служыць, ракам у алтар поўзае ды спіною голай прастол ад дажджу закрывае... філісцімлянін. Там муры над зямлёю яму да задніцы... немец ён, жаўтапузік такі.

— Ды не тую Ніжнюю... Тую, што на Падоле, пад Балонню.

— І трохкупальную Ганны,— дзелавіта сказаў Грынь.

— Пабойцеся бога!

— І яшчэ былое Спасаіконапрэабражэнне, што на Гараднічанцы. Драўляную... Даважка.

— Добра,— змрочна буркнуў сотнік.— Толькі хутчэй. Мяшчане да складаў ірвуцца. Кардынал з іншымі пайшлі ўжо.

Грынь Балвановіч раптам узвіўся так, што кошка, нібы падкінутая, пакацілася на падлогу.

— Да скла-адаў?! Што ж ты раней не казаў?!

Доўбня ты неўтаропленая... Даўгапят ты! Стрыгольнік[1], праваслаўем праклятыі!

— Ужо і не ведаю я, чаго вы мяне так бэсціце? Дарэмна вы гэта.

— Шатны[2]! Адзяянні! Ах, каб ім другога прышэсця не дачакаць!

Усё яшчэ гучала анафема і раўлі валасатыя і безвалосыя зяпы, а «другое прышэсце» падыходзіла да брамы места. Уваходзіла ў яе.

І наперадзе ішоў у прывязной барадзе і вусах адзіны хоць трохі самавіты чалавек з усёй гэтай кампаніі. Ішоў і нёс на плячах вялізны крыж. Ішло за ім яшчэ дванаццаць, усе ў радне, і на тварах іхніх было ўсё, што душа зажадае, толькі не святасць. Былі на гэтых тварах адбіткі галодных і халодных начэй пад дажджом і другіх начэй, ля карчомнага агню і ў хаўрусе з глякам віна. Было жыццё, якое сяк-так падтрымлівалася падманам... Ішоў, калі разабрацца, самы сапраўдны зброд: аматары выпіць, пад'есці, пераначаваць у чужой адрыне, калі гаспадара няма дома. Ішлі камедыянты, махляры, круцялі, лабатрасы, дагоднікі свайму чэраву, гарэзнікі, насмешнікі. На тварах іхніх былі посныя, добрапрыстойныя, набожныя міны — і гэта было недарэчна і смешна.

За імі грукатаў драны жалкі фургон, а перад імі ішоў чалавек.

З цярновым вянцом на лбе.

---

[1] Стрыгольніцтва — ерась, што была распаўсюджана ў Ноўгарадзе і Пскове ў XIV—XV стст. Стрыгольнікі паўставалі супраць права духавенства і манахаў на зямлю, супраць іхняй распусты. Адмаўлялі паборы за царкоўныя трэбы. Сцвярджалі, што адпраўляць культ можна і без папоў. Ерась была жорстка раздушана.

[2] Той, хто распараджаецца адзеннем.

Раздзел VI

# СЫСЦЕ Ў ПЕКЛА

...тых людзі разбараняць, бо ў запекласці сваёй бакі і галовы папрабіваць маглі і іншыя члены папсаваць, і было б з таго шкода і псота вялікая іх мосці і верхнасці каралю. А людцы тыя біліся і дараносіцамі, і каўчэгамі, і з моста ў ваду, дзе на глыбокім, адзін аднаго звяргалі; як тыя каты́ біліся, што засталіся ад абодвух адны хвасты; сысце пана Езуса нават іх не разбараніла б і не суцішыла.

*Варлаамаў летапіс*

Перад Старым рынкам, аддзеленая ад яго будынкам ратушы, ляжала маленькая квадратная плошча Ростань. Крыжападобна ішлі ад яе чатыры вулкі. Адна, самая кароткая, Старая вулка, злучала Ростань са Старым рынкам. Суседняя з ёю вуліца, Малая Скідзельская, вяла на ўсход. Яна злівалася з Вялікай Скідзельскай і за брамай выходзіла на Скідзельскі шлях, што вёў на Наваградак і Менск. Насупраць Малой Скідзельскай ляжала вулачка, што вялікай дугою ішла да заходняй брамы замка. Насупраць Старой — вуліца, што вяла да рамесніцкіх кварталаў.

Апоўдні таго дня на Ростані было непрытульна. Два натоўпы стаялі адзін супраць аднаго. З боку слабод напіралі мяшчане і рамеснікі з дручкамі, пожагамі, мечнымі палосамі.

З другога боку, загаціўшы выхад з Ростані на Старую, запоўніўшы ўвесь гэты кароткі завулак, калыхаўся натоўп гандляроў і багатых мяшчан. Гэтыя былі ўзброены лепей, але ў бойку лезці не спяшаліся. Атлусцелі. Спрыту не было ў членах. Ахвоты не было ў душах.

На чале натоўпу стаяў сам бурмістр Юстын, у кальчузе і пры мячы. За ім шчацініліся дзідамі шэрагі багатых купцоў, цэхавых. У атачэнні асабістай варты стаялі ратманы і лаўнікі.

Чакалі. Але ведалі: без бойкі не абыдзецца. З варожай вуліцы ўвесь час ляцела грознае:

— Хлеб! Хлеб! Хлеб!

Кірык Вястун не хацеў так, дарэмна, лезці на ражон. Паслаў у абход сыраядцам шэсцьдзесят падмайстраў і маладых мяшчан пад рукою разьбяра Кляоніка і Маркі Турая. Тыя нешта марудзілі. Проста перад сабою каваль бачыў вусы, разверстыя раты, налітыя крывёю вочы, зброю. Мільгнулі недзе сярод варожага натоўпу твары хлебніка і «рыбнага кардынала».

— Хлеб! Хлеб! Хлеб!

Кірык ведаў: не адаб'юць хлеба, не прымусяць падзяліцца — людзі неўзабаве пачнуць пухнуць. Вось гэтыя, звычайныя людзі, сябры. Гэты чорна-сівы Гіаў Турай, і Ціхон Вус з залатымі вышэй кісці рукамі, і гэты дудар, чыя дуда зараз плача над імі, і гэты шэравокі мужык Зянон, і сотні іншых мяшчан і мужыкоў.

Нехта крануў яго за плячо.

— Ты чаго тут, Марка?

— Выбраліся мы Шывальнай вуліцай на Заходні абход, а там духавенства ідзе. Дарогу перарэзала. Страшэнная сіла. Безліч. Калі вакол замка бегчы — не паспелі б. Яны вось-вось тут будуць. Хрэсным ходам разбараняць ідуць.

— Што рабіць? — спытаў суровы Кляонік.

— Ісці на гэтых,— змрочна сказаў Кірык.— Прашчнікаў сюды.

Народ павольна пачаў выціскацца з вуліцы на Ростань, расцякацца ў шэрагі.

— Вус,— сказаў каваль,— бяры дзесятак хлопцаў ды запры выхад з Заходняга абходу. Не пускай гэтых папоў нас разбараняць.

— Не хопіць. Мала нас.

— Як напруць, то адступай сюды.

— А як яны між намі і імі разбараняць палезуць?

— Бі па галовах,— гыркнуў Кірык.

— Папоў? З розуму з'ехаў, ці што?

— Папоў. Чаго ім у мірскія справы шчаміцца? Мы ў цэрквы не ломімся.

Шалёна зараўла над галовамі дуда. Засвісталі над галовамі, заляскалі — пакуль тое, па бруку, каб напалохаць — камянні.

— Хлеб! Хлеб! Хлеб!

Два натоўпы сутыкнуліся якраз на мяжы Ростані і Старой. Доўбні мільгалі рэдка, ды імі і нязручна

было дзейнічаць у цеснаце. Спадзяваліся галоўным чынам на кулакі. Біліся з ярасцю, аж храбусцела.

— Хлеб! Куды хлеб падзелі, навалач?!

Натоўпы віравалі.

— Хлеб?! Гной вам есці! — крыкнуў хлебнік.

Каваль навярнуў яму. Марка і Кляонік урэзаліся ў рады багатых плячо да пляча.

І тут Вястун убачыў, як з трэцяй вуліцы пачала выплываць залітая золатам, іскрыстая маса. Над ёю клубамі віўся дым ладану.

Ішоў хрэсны ход. Плылі праваслаўныя харугвы і каталіцкія пратэсы. У кранальнай еднасці. Нібыта ніколі не было і нават не магло быць іначай.

— Ах ты, ратуй, пане божа, людзі твае! — вылаяўся Турай.

Людзі Ціхона Вуса, хаця і вельмі павольна, але адступалі перад духавенствам. Ім нельга было біцца, яны стрымлівалі хрэсны ход дрэўцамі дзідаў, але вага тых, што ішлі, была нязмерна большая.

Вястун ледзь не застагнаў. Два натоўпы біліся ўпарта: чулася ляскание камянёў аб латы, з храбусценнем ламаліся дрэўцы дзід, мільгалі кулакі. Лаянка, крык, праклёны стаялі над натоўпам.

Але збіць гандляроў пакуль не ўдавалася. Яны стаялі насмерць, ведаючы, што калі адступяць са Старой на рынак — рамеснікі кінуцца да крам і складаў, а самім ім давядзецца змагацца на мосце, а там, як гэта не раз ужо было, будуць звяргаць з вышыні ў ваду, у роў.

Яны разумелі, што, адступаючы, можна страціць і тавар і жыццё, і таму пасоўваліся назад вельмі павольна.

Усё бліжэй плылі да месца бойкі рызы, пратэсы, крыжы, статуі на памостах. І вышэй за ўсё плыў над натоўпам убраны ў парчу і золата Хрыстос з усмешлівым васковым абліччам.

— Прымірыцеся! — закрычаў Жаба.— Калі бракуе апекавання, падае народ, а пры шматлікіх дарадцах...

— Яшчэ горш падае,— зарагатаў Кляонік.

— ...працвітае, благадзенствуе. Ну што вам трэба? Рай жа ў нас. Памятаю, выпівалі...

Лотр, замыкаўшы ад ганьбы, вельмі спрытна прыкрыў яму далонню рот.

— Браткі, браціе! — выгукнуў Балвановіч.— Мір вам! Мір! Што вам у гэтым хлебе? Не хлебам адзіным...

З адчаем заўважыў Кірык, што бойка суцішылася. Шмат хто зняў магеркі. Рукі, якія толькі што крушылі ўсё на сваім шляху, пачалі класці крыжы.

— Пан бог сказаў: царства маё не ад гэтага свету. А вы ў гэтым свеце хлеб сабе шукаеце.

— Гэй, бацька, спяваеш дужа салодка! — крыкнуў Дудар.

На яго гыркнулі. Невядома, чым гэта ўсё магло скончыцца, але сапсуў сваю ж справу біскуп Камар. Насупіўшы грозныя бровы, ён сказаў:

— А што хлеб? Тфу ён, хлеб!

І, нібы скарыстаўшыся з ягонай памылкі, раптам страсна залямантаваў Зянон:

— Язычнік ты! Паганец! На хлеб плюеш! А чым Ісус апосталаў прычашчаў?!

Другі раз за два дні здзівіўся мужыку Вястун. Але не толькі ён. Здзівіліся і астатнія. Блюзнерства сказаў біскуп. Па-простаму задумаў пагаварыць, халера.

Натоўп зароў. Друкі ўзляцелі над галовамі. Урэзаліся адна ў адну дзве масы, змяшаліся, спляліся. Шэсце, разубранае ў золата, ударылася аб жывы заслон, пачало свідраваць яго, імкнучыся стаць паміж тымі, што біліся. Гэта, аднак, не ўдавалася. Над месцам бойкі стаяў пах поту і пах ладану, вісела лаянка і дзікія гукі псалмоў, хісталіся — усё ўперамешку — крыжы, друкі, дзіды.

Зверху ўсё гэта моцна нагадвала тры стралы, нацэленыя вастрыямі адна ў адну, крыж з адламанай ножкай.

У крыжа не хапала адной часткі. Але ў самы разгар сутычкі з'явілася і яна: з Малой Скідзельскай вуліцы павольна выходзілі трынаццаць чалавек у радне. Трынаццаць, пакрытыя пылам усіх бясконцых беларускіх дарог. Такіх журботных, такіх манатонных, такіх пяшчотных.

— Стой-ойце! Глядзі-іце! — закрычаў нехта.

Крык быў такі, што бойка адразу суцішылася. Ашалелае маўчанне павісла над натоўпам. Кірык бачыў, што ўсе пераглядаюцца, але ніхто нічога не

разумее. І раптам — спачатку нясмела, а потым ярасна — раскаціўся над гурмою багатых рогат.

Хлебнік паказваў пальцам на шэсце:

— Глянь, гэты ў мешкавіне.

— Крыж нясе,— рагатаў рыбнік.— І вянец. Гэй, дзядзька, лоб паколеш!

Рогат неўзабаве заразіў і бедных мяшчан.

— Морды ў іх штосьці мятыя,— скаліў зубы Зянон.

Кляонік трымаўся за жывот:

— Не, вы глядзіце, якая ў яго морда крууцельская. Святы ваўкарэз.

Не рагатаў адзін Лотр. На вуснах ягоных была грэблівасць. Нават ён не зразумеў, што гэта містэрыяне.

— Гэтага яшчэ не хапала. Самазванцы.

— Сказана бо, з'явяцца лжэпрарокі,— прабасіў Камар.

Усё бліжэй падыходзілі да маўклівай гурмы тыя трынаццаць.

— Сотнік, вазьмі іх,— сказаў Лотр.

Карніла падаў знак варце і павольна рушыў насустрач ліцадзеям. Зачапіць чалавека з крыжам усё ж не пасмеў. Працягнуў руку да грузлага Багдана Роскаша.

— Не руш мяне,— наліўся крывёю Багдан.— Я беларускі шляхціц!

Але варта ўжо кінулася. На вачах у бяздзейнага натоўпу закіпела ярасная, кароткая сутычка.

— Мы ліцадзеі! — крычаў Братчык, але ніхто не чуў яго ў агульным шуме.

Апосталы супраціўляліся адчайдушна. Асабліва адзін, чорны, як цыган, з чорнымі, бліскучымі вачыма. Ставіў падножкі, штурхаў — з грукатам валіліся вакол яго людзі ў кальчугах. Урэшце на яго населі пяцёх, прыціснулі да зямлі. Ён звіваўся ў пыле, як вугор, і кусаў ворагаў за лыткі.

— Вяжы самазванцаў! — крыкнуў Пархвер.

Толькі тут Братчык зразумеў, чым пахне палон, і пачаў дзейнічаць крыжам. Біўся ён з дзівосным спрытам: можна было глядзець і глядзець. Ніводная з гродзенскіх мечных ці сякерных школаў не вучыла вучняў чамусьці падобнаму.

Круціў крыж, біў ім з замаху і ўколам, падстаў-

ляў яго акурат пад занесенае для ўдару дрэўца гізаўры[1], і дрэўца ламалася, як саломінка. Побач з ім дзейнічалі і астатнія,— Акіла з разваротам кідаў воінаў ад сябе,— але ўсе глядзелі толькі на чалавека з крыжам.

Ужо скруцілі ўсіх астатніх, ужо звалілі нават Багдана, які дзерся да фургона за шабляй, а Братчык усё яшчэ круціўся між тых, што нападалі, рыкаў, рабіў падманныя выпады, біў крыжам, нагамі, галавой. Урэшце нехта кінуў яму пад ногі пятлю, і ён, не заўважыўшы, адступіў і стаў адной нагою ў яе. Вяроўку тарганулі, яна свіснула, і чалавек цяжка бразнуўся ўсім целам на крыж.

Некалькі хвілін над ім яшчэ варушылася чалавечая куча. Потым усё сціхла.

Схопленых пацягнулі рынкам да замкавага моста.

Як пярун грымнуў, упалі за імі брамныя краты.

...Натоўп маўчаў. На плошчы ўсё яшчэ панавала непаразуменне. Карыстаючыся ім, хрэснаму ходу ўдалося ўшчаміцца між працаўнікамі і паступова пачаць ціснуць на іх, разводзячы гурмы ўсё далей і далей адна ад адной. Толькі што здарылася такое дзіўнае, што біцца ўжо не хацелася, а хацелася абмяркоўваць. Дый рэдка хто наважыўся б лезці на ворага цераз крыжы, пратэсы і памосты са статуямі. Ненарокам яшчэ святых абразіш.

Народ паступова пачаў разыходзіцца. Радзелі і расплываліся натоўпы. Толькі што гэта былі два кулакі. Цяпер — дзве рукі з расціснутымі пальцамі.

— Гэта што ж было? — у непаразуменні спытаў Зянон.

Дудар і Вястун паціснулі плячыма. Мечнік Турай плюнуў.

— Самазванцы,— грэбліва сказаў Кляонік.— А брыда гэта, хлопцы.

— Ну вось, гэтую брыду зараз пацярэбяць,— трохі нібыта ніякава сказаў бурмістр.

— Пацярэбяць,— сказаў хлебнік.— Там, браткі, такія жалезныя ракі водзяцца! Клюшні — ого-го!

Кляонік грэбліва зморшчыўся.

— Такія ракі паўсюль ёсць. Ды толькі самая што

---

[1] Гізаўра — нешта накшталт бердыша.

ні на ёсць свіння можа гэтаму радавацца ды гэтым выхваляцца. Не той кат, хто б'е, а той, хто, б'ючы, куражыцца.

— Пакажуць ім, пакажуць,— бубніў хлебнік.

І раптам рыбнік зарагатаў. Убачыў, што натоўп ужо зусім рэдкі і што напад на рынак удалося адбіць.

— Што? От вам і бунт. Гэта вам не пры каралі Аляксандру, што вас, беларусцаў, любіў, Гародню і Вільню любіў. Каралю нашаму імя Жыкгімонт!

— А ты не беларусец? — спытаў Марка.

— А ты правер,— на той самай мове, што і Турай, сказаў хлебнік.— Паглядзі рысі пад хвост.

— То хто тады?

— А хто прыйдзе ў горад, чыя сіла — таго і я, той і я.

З замкавай брамы вырваўся ганец. Падляцеў да натоўпу, свечкаю ўзняў каня. Жалезная пальчатка ўзвілася ўгору.

— Радцы-гаспадары... У замак ідзіце... Суд будзе... Усе лаўныя і царкоўныя і замкавыя, што да суда, хай ідуць.

Кінулі сваю залатую гурму некалькі чалавек у рызах. Паскакаў да брамы войт. Пачалі збірацца і ратманы.

Двое радцаў пайшлі апошнія. Толькі тут стала відаць, што п'яныя, як сучка ў бочцы з півам. Адзін нават пасярэдзіне плошчы стаў на чацвярэнькі. З-за адчыненага акенца аднаго з дамоў зазвінеў раптам дзіцячы галасок:

— Матуля, яны што? Ма, яны не ўмеюць? Мамця, яны нядаўна з карачак усталі?

І адказаў стомлены жаночы голас:

— Для хлеба, як, скажам, твая сучка, чаго не зробіць, сынок. Яны — з карачак усталі. Свіння — на каня ўссела.

Натоўп зарагатаў. Ганец наліўся барваю, пачаў гарачыць каня, пусціў яго на людзей. Але тыя ўсё яшчэ смяяліся. І тады ганец злосна кінуў:

— Не чулі, думаеце, як вы прышэсце Хрыстова клікалі? У нас паўсюль вушы, мякінныя вы галовы. Так вось, ні села ні пала, Хрыста захацелі. Ды вам больш патрэбныя карчма, нагайка ды турмы для зладзеяў. А «Хрыста» вашага зараз — порсь!

Правёў рабром далоні па глотцы. Зноў узняў каня, павярнуў, пусціў наўскапыт.

І дарэмна. Таму што пасля ягоных слоў над людскім скопішчам павіснула прыгаломшаная цішыня. Цяжка, відаць, варочаліся думкі за зблытанымі валасамі, што звісалі на лбы. Але затое гэтыя думкі былі падобныя.

— Хлопцы,— раптам падаў нехта голас,— гэта ж ён чаго такога сказаў?

Вястун абвёў вачыма Ростань. Сям-там моўчкі стаялі купкі рамеснікаў. Багатыя збольшага разышліся: няма чаго было тут рабіць.

У каваля асекся голас, калі ён ціха сказаў:

— Хрыс-та?

— Па ка́та паехаў ганец,— змрочна сказаў Гіаў Турай.

Навісла маўчанне.

— Слухайце,— сказаў раптам Зянон,— а мо і сапраўды Хрыста? Можа, гэта яны Хрыста ўзялі?

Вус разглядаў залатыя далоні, нібы ўпершыню іх бачыў.

— Дарма з палатніны смяяліся,— сказаў ён.— Апосталы, халера на іх, так і хадзілі.

— І сапраўды, радно,— уздыхнула нейкая бабуля.— Грубае. Я ўжо ведаю. Колькі той палатніны рукі мае ўткалі. Грубая. Апостальская.

Кляонік і Марка іранічна глядзелі на ўвесь гэты роздум.

— Гэта значыць, і мы такія самыя апосталы,— сказаў Марка.

— Не вярзі,— абарваў яго стары Турай.

Людзі думалі. Людзі марудзілі разыходзіцца, хаця заставалася іх на плошчы Ростань зусім мала.

Маўчалі.

## Раздзел VII

# КЛЮЧЫ ПЕКЛА І СМЕРЦІ

І жывы, і быў мёртвы, і се,
жывы ўва векі вякоў, аман;
і маю ключы пекла і смерці.

*Апакаліпсіс, гл. 1, ст 18*

Lasciate ogni speranza[1].

*Дантэ*

Праз гадзіну пасля таго як ганец паскакаў па ката, ліцадзеяў вывелі з часовай маленькай цэлі ў ніжнім паверсе заходняга нефа і павялі вузкім, як падземны ход, калідорам. Дзікія сцены і нізкае, рукой дастаць, скляпенне ціснулі на душу. Па баках трапляліся каморы ваякаў. У іх блішчалі на сценках шчыты і мячы. У гарачым вільготным паветры ледзь трапяталі языкі свечак, пахла потам, скуранымі рамянямі, іржою, алеем для зброі. Варта моўчкі ішла вакол, а наперадзе, з паходняй, ішоў Пархвер, згінаючы галаву. Толькі тут можно было зразумець, адкуль такія пісягі куродыму на скляпеннях.

У другім нефе каморы трапляліся радзей: відаць, кожныя дзверы вялі ў некалькі пакояў. Там, дзе гэтыя дзверы былі адчынены, можна было ўбачыць, што жытла тут багацейшыя: віселі на мурах кілімы, срэбныя люстэркі, на маленькім наборным століку за аднымі дзвярыма Юрась заўважыў вялікія, вельмі багатыя шахматы.

Увайшлі і ў тронную залу, скупа асветленую двума камінамі, дзесяткам смаласкопаў і верхнім святлом праз вузкія вокны. Сцены тут былі беленыя, разарваныя сям-там гранітнымі неатынкаванымі зверху брыламі. Зроблена гэта было для прыгажосці: роўная белая паверхня, а на ёй, плямамі няроўнай формы, шэрыя, крывавыя, зеленаватыя бакі камяніскаў. Тут і там гэтая прыгажосць была завешана старымі кілімамі і нетутэйшымі габеленамі. На іх вісела зброя.

— Схапіць бы,— шапянуў Роскаш.

— Ну і дурыла,— прашалахцеў цыганаваты — Усім вядома: клінкі тут прымацаваныя да піхваў.

---

[1] Вы, што ўвайшлі, пакіньце спадзяванні.

Каб не хапалі зброю пры асобе караля, калі сварыцца пачнуць.

Трон белай косці, пакарбаваны золатам, стаяў у другім канцы. Дзве жалезныя жывёлы нібы вартавалі яго з двух бакоў: воўк і арол.

Ля сцен стаялі лавы, укрытыя налаўнікамі з сукна і футраў, і лавы-скрыні са спінкамі. З адной такой лавы служка, адкінуўшы сядзенне, даставаў зараз срэбныя і залатыя кубкі, доўгія сталовыя нажы — у кожным дзюймаў пятнаццаць,— лыжкі і іншае. Клаў іх на рассцелены абрус. Падчас вялікіх прыёмаў да гэтых лаў прыносілі і ставілі літарай «П» сталы.

У цыганаватага, калі ўбачыў такое багацце, аж заблішчэлі вочы. А Багдан і ўвагі не звярнуў. Глядзеў на разьблёныя спінкі лаваў. На іх сядзелі за сталамі людзі ў багатых вопратках, чокаліся вялізнымі кубкамі і куфлямі, угрызаліся ў шынкі і аленевы сёдлы.

— Багата жаруць,— праглынуўшы сліну, шапянуў ён.

— Змоўч! — гыркнуў Пархвер.

Маленькія, страшна маленькія, яны ішлі залай. Скляпенні былі недзе нязмерна высока, куды вышэй нават за недасяжнае дзённае святло з акон. Настолькі вышэй нават за яго, што безнадзейна губляліся ў цемры. Круцілася галава, калі выпадкова глянеш угору.

Цьмяна зіхацеў над тронам срэбны авал з упісаным у яго прамым шасціканечным крыжам — старой, яшчэ да часоў Воўчага Хваста[1], эмблемай гэтых земляў. Паганскай яшчэ эмблемай, якую пакінулі за схожасць са знакам Крыжа.

— Гэна... зірні,— сказаў Акіла Кіёвы,— гэна... Юры святы.

Яшчэ вышэй за крыж, ужо амаль у поўнай цемры, узносіўся над усім, пагражаў мячом і прымацаванай да страменнай пятлі дзідай жалезны, крыты пацьмянелым срэбрам конны волат, агульны Патрон.

---

[1] Воўчы Хвост — ваявода, які прыводзіў да хрысціянства радзімічаў і крывічоў. У пагоні за гэтай добрай мэтай амаль цалкам выразаў Мсціслаў, жыхары якога з таго часу — «недасекі».

— Н-ну, крумкачова мяса,— сказаў са смехам Пархвер.— Хутчэй, халеры. Вам і Юры не паможа... Магу вось вам пад канец дзіва паказаць. Ану ты, лысы, задніца святога Пятра, ідзі да княжага месца.

Жарнакрут вагаўся.

— Ідзі-ідзі. Забіваць не буду.

Мірон павольна пайшоў. Перад княжым месцам падлога залы трохі, на тры-чатыры вузкія прыступкі, падымалася. Жарнакрут ступіў на першую, другую, трэцюю... І тут здарылася нешта такое, ад чаго можна было пасівець. Гулкі, металічны, страшны на сіле брэх забіўся аб муры, пачаў выбухаць пад скляпеннямі.

Натапырыўшы жалезныя, падобныя на пер'е, пасмы загрыўка, шырока раскрываючы пашчу, бумкаў, брахаў жалезны воўк. Павольна ўздымаліся крылы арла.

Жарнакрут кулём скаціўся ўніз, пабег да астатніх. Брэх змоўк, і ад раптоўнай мёртвай цішыні зазвінела ў вушах.

— І жалеза на вас брэша,— выскаліў зубы Пархвер.— Таму што кожнаму сваё месца. І ніякаму чалавечку без дазволу вышэй першай ступенькі не ісці, і наперад не кідацца, і месца сваё ведаць... Ну, хутчэй, хутчэй.

Моўчкі пацягнуліся яны калідорам першага ўсходняга нефа.

— Што будзе? — вельмі ціха спытаў у Юрася той, каго ён клікаў Іосіяй.

— Баюся — канец,— адказаў Братчык.— Іначай ён бы нам таго патаемнага сродку ад замахаў не паказаў. Ты чуў калісьці аб гэтым?

— Не.

— І я. Усё, значыць, ужо вырашана.

Яны ішлі ў змрочнай цішыні. Трапяталі агні паходняў.

— Рукі звязаны,— сказаў Братчык.— Не думаў я, што такі хуткі будзе канец.

Іосія прамаўчаў.

...Яны ўзняліся па стромых сходах і ўвайшлі ў судную залу.

— Мікіпар,— сказаў Пархвер.— Ідзі зараз да войта, вазьмі ў яго ключы ад катоўні і каменных мяхоў.

— Не трэба,— сказаў раптам мяккі, вельмі багаты

інтанацыямі голас з кута.— Адпачні, сын мой Мікі-пар. Я схаджу сам. Мне трэба бачыць войта.

Ніхто не заўважыў, што ў цёмным кутку за сталом сядзеў над світкам Фларыян Басяцкі, і таму ўсе здрыгануліся ад нечаканасці.

Патаемны лыцар Езуса накінуў на галаву капюшон і не пайшоў, а паплыў да выхаду.

Праходзячы паўз Юрася, ласкава дакрануўся далонню да ягонай рукі. Знік. Братчыка перасмыкнула. Ён упершыню бачыў тут такіх людзей. Нібы нешта патаемна-нячыстае, халоднае, недаступнае ніякім страсцям, апаганіла руку. Нібы, прачнуўшыся ўначы, з жахам адчуў на ёй слізкі ход змяі.

— Ключ ад катоўні? — непаразумела спытаў Акіла.— Гэна... Яно, сказаць бы, нашто?

Пархвер усміхнуўся:

— А ты што думаў, дубовы ты друк, цябе сюды выпіваць прывялі? Дарэмна нябожчык, іх свяцейства Сікст, стварыў інквізіцыю? Ды ён за гэта ў лоне Аўраа́млем.

— У лоне самога сатаны,— грымнуў Багдан.— Не смееце чапаць! Я беларускі шляхціц, а яны — мае сябры.

— Аднаго толькі не разумею, як людзі могуць цярпець такое,— ціха сказаў Іосія.— Ды яшчэ больш за сорак год.

Братчык упершыню за ўвесь час уважліва паглядзеў на хаўрусніка. Але глядзеў на яго і Пархвер. Ацэньваў.

Невялічкага росту, мо яшчэ і таму, што сагнуты, кволы на выглад, але, відаць, учэпісты і выносны, як жмойскі конік, смешны, нават вельмі смешны. Кісці рук, аплеценыя вяроўкай, вузкія і доўгія. Твар худы і цёмны, валасы чорныя да сіні, нос прамы і нядоўгі, з лёгкай гарбінкай. Рот сціснуў, цёмныя вочы глядзяць дапытліва і змрочна.

— Адкуль у цябе такія думкі, іудзей? — спытаў Пархвер.

— Яны даўно ў мяне, тыя думкі.

— А чаму не носіш валасы, як усе?

— А чаму б мне насіць валасы, як усе, калі я цяпер зусім не як усе?

— Ну, глядзі. Усе вы тут цёмныя, а ты з гэтай

прычыны яшчэ цямнейшы. Раз з гэткай шайкай звязаўся.

— Сам ты з хеўрай,— сказаў напапраўны Багдан.— Я дваранін.

— А вось пакаштуеце вы, як пашанцуе, цямніцы...

Шалфейчык раптам залямантаваў яловым галасам:

— Не бойся нічога, што табе патрэбна будзе зазнаць! Вось д'ябал будзе ўвяргаць... вас у цямніцу... і будзеце мець журботу...

— Ціха,— сказаў Юрась.— Не крычы ад жаху, браце.

Войт места Гародні, Цыкмун Жаба, нягледзячы на тое, што з канца сутычкі на Ростані не мінула і дзвюх гадзін, быў п'яны. З самага рання быў нападпітку, а цяпер яшчэ дабавіў раманеі. Тупое ганарлівае аблічча нібы раскісла, вочы глядзелі і не глядзелі, асалавелыя, быццам засцеленыя каламутнай плеўкай. Мясісты рот закасцянеў ад самаўзвышэння (яно заўсёды абвастралася ў п'яную гадзіну). Залатая чуга расхінулася, агаліўшы шырокія атлусцелыя грудзі, густа ўкрытыя воласам. Рукавы былі засуканыя, да локця адкрываючы рукі.

Гэтыя мясістыя рукі займаліся цяпер дзіўнай справай.

Амаль увесь невялічкі задні пакойчык, што межаваў з замкавай спачывальняй войта, займалі глыбокае крэсла і, перад ім, вялізныя начоўкі, сажні ў тры даўжыні, сажні ў паўтара шырынёю. Дно было пафарбавана плямамі ў чорны, зялёны, жоўты колеры. Над начоўкамі цямнеў вялікі круг: дно бочкі, роўна замураванай у сценку.

Рукі магнатавы бралі са скрыні нейкія невялікія прадметы і расстаўлялі на дне начовак.

Вось яны паставілі выразаную з дрэва белую Камянецкую вежу, на «поўнач» ад яе, наводдаль, Каложу, будынак курыі. Узвялі маленькія вежы замка. Потым, бліжэй да правай рукі, узніклі валы і будынкі, у якіх кожны абазнаны чалавек пазнаў бы Менск. Пасля апусціліся на дно начовак вежы Кракава, а яшчэ далей — карункавы Кёльнскі сабор.

Сталі на сваё месца, бліжэй да краю начовак,

абацтва ў Кентэрберы і змрочны Дурбан Кастл. Далей, за паласою сіняй фарбы, Жаба паставіў прыступчатую юкатанскую піраміду і нешта накшталт пагады, паколькі на дне начовак там было напісана «Вялікае Чыпанга» [1].

Ён не разбіраўся, дзе там што. Проста абазнаныя людзі шмат разоў паказвалі яму, дзе што павінна стаяць, і ён мог рабіць гэта нават п'яны, а значыцца, ва ўсіх гэтых ягоных дзеяннях было не больш ведання краін і цвердзі зямной, чым у пчалы, якая будуе соты, ведання геаметрыі.

Служка ўжо некалькі разоў гукаў яго. Жаба не звяртаў увагі.

— Вашамосць...

Маўчанне. Рукі цяпер ставяць на дно лясы. Шмат лясоў.

— Вашамосць, гэтыя... хадакі са Шчучынскага наваколля просяць падатак збавіць. Сорак два чалавекі па колькасці вёсак. Не ідуць прэч.

— І не думай. «Ідзі з падарункамі — і добра табе будзе»,— сказаў Саламон. А я ў калегіюме вучыўся. Я трохі-трохі разумнейшы за Саламона.

Пасля на дне начовак з'явіліся ўжо хаткі, дамочкі, садкі, кароўкі і конікі на зялёных плямах.

— Крыкам крычаць, вашамосць.

— Тады павесіць,— гікнуў Жаба.— Па-ве-сіць. «Карай сына і не абурайся крыкам ягоным»,— сказаў Саламон. А я паразумнейшы за Саламона. Я, можа, сам ёсць бог. Га?

— Так. Так.

— Ідзі.

Служка пайшоў, вырашыўшы ўсіх не вешаць, а павесіць, дзеля пастраху, аднаго-двух. Жаба расстаўляў цяпер на дне фігуркі людзей. Лялькі былі драўляныя. Рукі іхнія, змацаваныя на суставах ніткамі, боўталіся. Урэшце скрыня апусцела. Война пацягнуў з суляі і адставіў яе. Абапёрся падбароддзем на кулакі і зверху стаў глядзець на ночвы.

Плылі рэкі, стаялі гожыя гарады, пасвіліся на паплавах чароды. Жаба глядзеў на гэтую жывую, шчаслівую зямную лагчыну з замілаваннем.

— Хочаш да мяне? — спытаў ён у адной лялькі.

---

[1] Чыпанга, як называў Марка Пола,— Японія.

Лялька маўчала.

— Глядзі, пашкадуеш.

Ён узяў суседнюю фігурку і паставіў яе бліжэй да хаты... Потым уздыхнуў і выцягнуў з дна бочкі шпунт. У начоўкі нямоцным струменем паліла вада...

— «Ад чалавека да жывёлаў і гадаў»,— прашаптаў Жаба.

Ноздры ягоныя дрыжэлі, пашыраліся. Вада ўжо разлілася па дне начовак, дасягнула лялькам да каленяў. Жаба пераставіў тых з іх, што былі блізка, на стрэхі хацінак. Астатнія паступова заліваліся вадою і не ўсплывалі, бо ў ножкі быў заліты свінец.

Вось ужо заліло авечак... кароў... коней... Некаторыя чарапяныя і касцяныя фігуркі ўсплылі, бо былі пустыя ўнутры. Вада паступова набіралася ў іх, і яны павольна апускаліся ў яе. Астатнія засталіся, варушылі над напорам плыні рукамі, уздымалі іх па меры таго, як падымалася вада. Нібы цягнулі гэтыя рукі да тых, што былі на стрэхах.

Потым вада заліла іх з галавой, і яны стаялі, узняўшы рукі ўгору. Плынь пачала ўкрываць дворныя пабудовы... дахі...

Войт узяў адну ляльку са страхі і паставіў яе на званіцу. Вада ўжо заліла хаты і дрэвы. Толькі плавалі, паступова запаўняючыся вадой, некалькі лялек. Маленькія бурбалкі вырываліся ў іх з ратоў: відаць, у паветраны звон іхняга полага цела вялі тонкія, як волас, праходы.

Жаба ўзяў адну фігурку і паставіў яе на край ночваў. Усміхнуўся ёй.

...Заліло ўжо і званіцы. Павольна ішлі на дно «плыўцы».

...І калі ўсе яны зніклі, войт зняў з краю ночваў самотную фігурку, апусціў яе на ваду і стаў сачыць.

Якраз у гэты момант дамініканец праслізнуў у дзверы.

— Хадземце, вашамосць. Хадземце, сын мой.

— Куд-ды? — не адрываючыся ад відовішча, спытаў магнат.

— Рада сабралася. Самазванца гэтага, Хрыста з апосталамі, судзіць.

— А-а. Гэта я заўсёды.

Фларыян заўважыў стан свайго субяседніка.

— Можаце і застацца. Нам толькі ключы ад «апраметнай».

— Н-не-е,— закруціў галавою Жаба.— Гэта, можа, у іншых войтаў так. А я такі войт, што ключы гэтыя ў мяне з-заўсёды на поясе. Без войта не адчыніце. Хочаце адчыніць — ідзіце па войта. Раз «апраметная» адчынена — значыцца, войт там... Дзе кат?

— Паскакалі за ім.

— Эг-ге. Добра... добра.

Фларыян Басяцкі глядзеў на начоўкі:

— Нашто ж гэта вам пэцкацца па дробязях? Улады і сілы над гэтымі мясцінамі ў вас хапае.

І раптам зразумеў. Сказаў з бацькоўскай усмешкай:

— А-а, разумею, спроба перад вялікімі справамі...

— Ал-ле.

Войт пайшоў за мніхам. На імгненне затрымаўся ў дзвярах і кінуў прагны позірк на начоўкі.

Там, на паверхні вады, нікога ўжо не было.

Роўнядзь.

## Раздзел VIII
## КАТ

Ад першых людзей мая праца ідзе,
Старая яна, як рай.
Бог караў выгнаннем першых людзей,
Каін Авеля смерцю караў.
Нат Цара — калі трон свой няўчасна ўкрадзе —
На плаху валочыць кат.
І, значыць, галоўны — кат між людзей,
І, значыцца, кат — прымат.

*Сярэдневяковая лацінская эпіграма*

За апошняю з Гародзенскіх слабод, у глыбокім вільготным яры, наводдаль ад усялякага жытла, прыткнулася ля крыніцы халупа пад дзярновай страхой.

Ганец скочыў з каня, штурхнуў скалочаныя з аполкаў дзверы і спыніўся: так раптоўна, пасля сонечнага святла, цемра ўкрала вочы.

Некаторы час ён стаяў, нібыта сляпы, потым убачыў акенца, сноп святла, у якім курыўся дым,

і высока над сваёю галавой — дзве пары зялёных вачэй.

Вочы на хвіліну зніклі, потым нешта мякка ўдарылася аб падлогу, і вочы загарэліся ўжо каля зямлі. Наблізіліся. Нешта мякка пацёрлася аб ганцову нагу. Ён закалаціўся ад мярзоты.

— Агысь,— кінуў ён безасабовы выгук, таму што не ведаў, якую істоту ён гоніць.

Свінні ён крыкнуў бы «аюц», авечцы «ашкір», але тут, не ведаючы, жывёла гэта ці, можа, сам д'ябал, разгубіўся.

— Апсік! — прагучала з цёмнага кута.

Кот адышоў і завуркатаў. І толькі калі ён трапіў у квадрат святла на падлозе, ганец зразумеў, чаму ён не бачыў яго. Кот быў чорны, як кітайскі атрамант і як сама цемра: вялізны, з ягня, гладкі кацяра.

Вочы трохі прызвычаіліся да цемры. Ганец убачыў невялікі пакой. Падлога была гладка адгабляваная і напалову, дзе бліжэй да ложка, укрытая шкурамі. Ложак таксама быў пад шкурамі, а над ложкам віселі два мячы, абодва двухручныя і даўжынёй амаль з чалавека.

Роўны прызначаўся для дваран, палітычных злачынцаў і ўвогуле дзеля перарывання тых злачынстваў, у якіх суд не знаходзіў элементаў ерасі. Працаваць яму з гэтай прычыны даводзілася рэдка. А хвалісты, які не толькі сек, але яшчэ і рваў мускулы, быў дзеля людзей больш простых і ерэтыкоў. Гэтаму даводзілася б працаваць і працаваць, каб не такая акалічнасць, што простанароддзе ахвотней вешалі, а ерэтыкоў палілі.

Такі чынам зберагалася ўласцівая натуры раўнавага.

На лязе хвалістага мяча было выразана апошняе слова на дарогу: «I nunc...» [1], хаця кат лаціны не ведаў.

Стаялі яшчэ ў пакоі, у самым цёмным куту, разьблёная шафа, на якой блішчалі вочы другой невядомай істоты, стол і рознакаліберныя крэслы. І ад гэтага рабілася непамысна, бо адразу ўспаміналася, што кат мае права на адну рэч з канфіскаванага

---

[1] «Дык ідзі ж...»

абсталявання асуджанага (астатняе забіралі суддзі і следчыя, аддаючы сёе-тое даносчыку).

Халупа, відаць, была ўкапана ў схіл яра, таму што, вельмі малая знадворку, яна мела працяг: вялікае зусім цёмнае памяшканне, падобнае на пуню. Памяшканне было аддзелена ад першага пакоя завесай з аблезлых шкур.

— Чаму не прыйшоў Пархвер? — спытаў той жа самы ясны голас.— Па мяне заўсёды прыходзіць Пархвер.

— Сёння яму не да таго,— сказаў у цемру ганец.

— Як гэта не да таго? Ён што, не мог мне выказаць павагу? Ён што, не ведае, хто я?

— А што ён павінен ведаць?

— А тое, што з высокіх людзей толькі шчаслівы пазбягае маіх рук. Як і д'яблавых лап. І таму са мной трэба сябраваць. Як трэба мець, на ўсякі выпадак, прыяцеляў і ў пекле.

— Важная справа, гаспадар.

— Ну, добра.

Вочы ўрэшце прыстасаваліся да цемры. Толькі верх шафы безнадзейна губляўся ў ёй, і таямнічай істоты нельга было разгледзець. Але астатняе было відаць.

Кат сядзеў ля ложка на падлозе і складаў з пруткоў нешта дзівотнае, з крыламі.

— Зараз,— сказаў ён.— Дамайструю вось толькі, і паскачам.

Быў ён шырокі ў плячах, руках і клубах, але нейкі млявы і нібыта нават спешчаны. Аблічча шырокае. Бровы чорныя. Жорсткія мускулы ля рота. І дзіўна было бачыць у невялікіх вачах адценне нейкай дзіўнай меланхоліі, а ў беспярэчных складках ля рота — іронію і расчараванне.

— Гэта чаго?

— Я, братка, вынаходца.

— А гэта нашто? Клетка?

— Угу,— сказала з шафы невядомая істота. Нібы ў бочку.

— Змоўкніце, пан,— сказаў туды кат.— Так, гэта клетка.

Памаўчаў. Потым сказаў з прыемнай канфідэнцыйнасцю:

— Разумееш, шырыцца маці наша царква. І рым-

ская шырыцца, і ўсходняя. Рымская асабліва. І невядома, якая возьме верх. А хутчэй за ўсё — рана ці позна паміраццa. І прыйдзе час — будзе яна, правая вера, над усімі інымі паганскімі верамі, над усім светам. І нават над жывёламі і га́дамі. Усіх, хто хоць трохі іначай думае, змяце. І будзе тады рай, цішыня і добрарастварэнне вздухоў. Чалавека, яго маці наша пяшчотай, ды неадступным апекаваннем, ды бацькоўскімі клопатамі ўловіць у мярэжу божага царства і любві. А вось з жывёламі і га́дамі цяжэй. Яны сабе скачуць, гуляючы вясёлымі нагамі, поўзаюць, ды лётаюць, ды пяюць, і няма ім справы, што распіналі калісьці хрысціян і, значыцца, цяпер хрысціяне да скончэння свету павінны распінаць іншых і панаваць над імі. Паспрабуй улаві іхнюю душу. І ніхто над гэтым не думае. Ні філосафы гэтыя, ні акадэмікі, ні паэты, ніхто... Ёсць, вядома, ёсць, нічога не скажу. Але неяк усё бяскрыла, неяк усё толькі на людзей[1]. І раз яны, саплівыя кніжнікі, не хочуць думаць аб будучыні чалавецтва і ўвогуле ўсяго жывога — трэба гэта ўсё ўзяць у нашыя моцныя рукі. Мы не падрыхтаваліся. І камусьці трэба думаць аб будучыні, і рыхтавацца. Вось я, сціплы чалавек, і майструю.

Кат прымацаваў да паробкі другое крыло.

— Гэта клетка для салаўя,— ён разглядаў яе з пяшчотай і законным гонарам творцы.— З крыламі. Лятучая. Лётай сабе ў ёй дый слаў пана бога і нашу царкву.

І нечакана лёгка ўскінуўся на ногі.

— Хадзем, чаго табе пакажу.

Ён хутка пайшоў да завескі, адшмаргнуў яе і запаліў свяцільнік. У няпэўным мігатлівым святле праступілі ля сценак вялізнай пуні дзесяткі дзівотных, незвычайных для вока машын і спаруд.

— Усясільны ён, усё ён можа, чалавечы мозг, калі з ім бог і царква,— ціха сказаў кат.— Бачыш, унь прыбор для здабывання мозгу цераз нос і даследавання яго на прадмет небяспечных думак. Бяда толькі,

[1] Якім чынам непісьменны кат першай паловы XVI ст. мог прадбачыць з'яўленне, скажам, пана Канелапуласа, тэарэтыка партыі ЭРЭ, паэта, філосафа, акадэміка і тэарэтыка забойства, а таксама падобных яму,— таямніца сія вялікая ёсць! Пэўна, усё ад бога, і некаторыя асобы дзякуючы яму маюць дар прадбачання.

вымае добра, а вось назад уставіць, калі нічога не знайшоў,— гэтага яшчэ не дабіўся. Нічога, даб'юся. Гэта доўбня з прываднымі коламі. Калі ўдала стукнуць год у трынаццаць — ніякіх думак і замераў у чалавека больш не застанецца, акрамя замеру маршыраваць і атрымоўваць за гэта хлеб.

Ён песціў рукамі машыны.

— А ото клеткі.

Адна клетка была вялізная, як карабель, абцякальнай формы, з шарнірнымі лопасцямі.

— Унь плаваючая клетка. З плаўнікамі. Для кіта... А унь там — бачыш, з нагамі — бегаючыя, для львоў... Гэ, брат, тут тыдзень можна паказваць. Клеткі розныя. Хачу яшчэ такія, каб поўзалі, прыдумаць. Для чарвякоў.

— Для чарвякоў, бадай што, лішняе,— падаў голас ганец.

— Ну, не кажы. Мала што! Яны таксама ля карэнняў рыюць. Паехалі?

Ён падпяразваў сарочку скураным рэменем з кручкамі. Сарочка была відавочна з чужога пляча, і ганцу зноў стала непамысна.

Кат узяў меч.

— Можа, і не трэба,— сказаў ганец.

— Ну, на ўсякі выпадак. А што?

— Ды ерэтыкі. У лепшым выпадку вешаць, а то і вогнішча.

Кат расплыўся ва ўсмешцы.

— Ну, брат, гэта ты добрае прынёс... Гэта...

— Уга-га! — падзяліла захапленне, сказала замест гаспадара істота на шафе.

І толькі зараз у святле свяцільніка ганец убачыў там вялізную, у палову сажня, кугакаўку. Ён ніколі не бачыў такіх. У два разы большая за любога пугача. Ганец пазадкаваў да дзвярэй.

— Ну, звяры,— сказаў кат,— не дурэйце тут без мяне, заставайцеся разумныя. Я вам за гэта мяса прывязу з горада.

...Яны павольна ехалі берагам Нёмана. Сонца было ў зеніце і паліла няшчадна і нелітасціва.

— Я, брат, чалавека ведаю да апошняга,— разважаў кат.— Як ніхто больш. Работа ў мяне спрадвечная, пачэсная, ганаровая. З усімі вялікімі людзьмі, ужо не кажучы пра ўсіх разумных, знаёмы.

І раптам ганец зноў убачыў на катавым твары расчараванне і меланхолію.

— Але работа ў мяне няўдзячная. Гандляр, скажам, дагодзіць пакупцу — яму рукі ціснуць, у наступны раз да яго прыйдуць. А да мяне? Лекару ад таго, хто ачуняе — падарункі.— Кат усхліпнуў.— А я стараюся, начэй не сплю для агульнай, для грамадскай карысці, а мне — ну хоць бы хто. Айцы царквы, вядома, не ў лік, іх можна не браць пад увагу. Але нічога я так не хачу, як чалавечай падзякі. Мне — ад людзей бы дзякуй. Ну сказаў бы хаця адзін: вось, братка, здарава ты з мяне галаву знёс. Я проста цяперака на сёмым небе. Дык не... Сёння хаця каго? Чаго гэта ўвесь сінедрыён сабраўся?

— Хрыста з апосталамі смерцю караць.

Кат спыніў каня.

— Жартуеш, ці што?

— Ды не, праўда.

— Б-бацюхны,— глухім голасам сказаў кат.— В-вой!

— Што, не любіш?

— Ды не... Не! Выпадак які рэдкі! Шчасце, шчасце якое прываліла!

Кат задумліва ўсміхнуўся сонцу і жаўрукам. Яны набліжаліся да брамы ў валу.

— Лічыну апусці.

— Не лічыну, а забрала... Для барацьбы за справядлівасць.— Кат апусціў чырвоную маску.— Пане мой божа, шчасце якое. Слухай, няўжо грамада не падзякуе, не адзначыць маёй працы, доўгай маёй працы? І ён... Слухай, яму ж усё адно ўваскрасаць — можа, і пахваліць?

— А можа...

— Хутчэй, братка, хутчэй.

Яны пусцілі коней наўскапыт.

...Калі яны праязджалі праз Ростань, рэдкія людзі былога натоўпу яшчэ аставаліся на ёй. Сядзелі ля ратушы, маўчалі. І маўчанне стала яшчэ больш хмурнае, калі ўбачылі конніка ў чырвонай масцы.

— Паскакалі,— сказаў Зянон, убачыўшы ката і ганца.

— Паскакалі,— Гіаў стругаў мечнай загатоўкай трэсачку.

Марка і Кляонік гулялі ў косці. Нічога не сказалі, толькі змрочна прасачылі за коннікамі.

— Каб самазванец — яны б так хутка па ката не паскакалі, не павезлі,— сказаў Дудар.

— Ясна,— жорстка кінуў Кірык.— Абмішуліліся мы. На нашых вачах другі раз Хрыста ўзялі, а мы далі ім узяць. Апошнюю нашу абарону перад мытарамі. Шкада.

— Кінь глупства вярзці, галава,— усміхнуўся Кляонік.— Проста чалавек. Людзі. Таму і шкада.

Каваль ужо амаль кіпеў:

— Раз хапаюць, раз адразу па ката ды на каразн — значыцца, гэта не проста людзі.

Вус глядзеў на свет змрочнымі вачыма праз бліскучыя залатыя пальцы.

— Да нас прыйшоў. Ведаў, што кепска.

— Каб нас абараніць, прыйшоў,— яшчэ ўзвысіў голас Вястун.— Каб горад свой абараніць. Ад голаду, ад іхняй чумы, ад падаткаў, ад манахаў. Сам Хрыстос! То што, дамо?!

І раптам ён ускочыў. Абвёў вачыма бязлюдную плошчу, сляпучыя пад сонцам муры, зачыненыя ад гарачыні аканіцы.

— Гэй, людзі!

Плошча маўчала.

— Людзі! — гаркнуў на ўвесь голас Кірык.— Забойства! Хрыстос прыйшоў у Гародню!

## Раздзел IX

## ДНО ПЕКЛА

Памыслі, мог я без вачэй вільготных
На твар зямны глядзець, на воблік той,
Так звернуты, што плач вачэй гаротных
Між ягадзіц каціўся баразной?!

*Дантэ*

Дзе ты, бяда, радзілася,
Што за мяне ўчапілася?

*Песня*

Яны стаялі ў вялікай суднай зале, толькі цяпер не ля дзвярэй, а ля ўзвышэння, на якім высіўся стол. Нікога больш сёння ў зале не было: занадта важлівая

была справа, каб дапусціць кагосьці з пабочных, хай сабе і багатых людзей.

Толькі гэтыя трынаццаць з трапяткімі адбіткамі полымя на тварах (перад імі стаяла жароўня, і ад яе агню, здавалася, былі ружовыя хітоны з радна і крывавыя твары). Ды яшчэ варта (латы іхнія ад вобліскаў налівaліся чырванню, дрыжэлі і нібыта плавіліся). Ды яшчэ кат са скрыжаванымі на грудзях, голымі па локаць рукамі ля дзвярэй ў катоўню.

Ды яшчэ, высока за сталом, увесь вялікі гарадзенскі сінедрыён. Войт Жаба ад замкавага і магістрацкага суда, адзін у двух іпастасях; Юстын і радцы — ад магістрата, радзецкага і лаўнічага суда; Балвановіч з чатырма бязлікімі папамі і Лотр з Камаром і Басяцкім — ад суда духоўнага.

Іосія паказаў вачыма Братчыку на канец прэнга. Каб даўжэйшы быў падважнік, канец гэты прасунулі ў адтуліну ля дзвярэй катавальні: правасуддзе прыгадала падсудным, што яно такое, намякнула, якое яно, прыўзняло з сапраўднага свайго аблічча краёчак самавітай і гожай маскі.

Круцельскі Юрасёвы твар скрывіўся. Ён уздыхнуў.

— Зала чалавеказнаўства,— прашаптаў іудзей.

Братчык нявесела ўсміхнуўся.

— Тут прызнаюцца ў тым, чаго не рабілі,— сказаў Іосія.

— Ну, гэта не навіна,— аднымі вуснамі сказаў Братчык.

Упаў удар молата.

— Дык вось,— сказаў Лотр.— Што прымусіла вас, агідныя ерэтыкі, імя Хрыста, пана бога нашага, і апосталаў ягоных сабе прыпісаць і прыўлашчыць?

— Мы ліцадзеі,— з воцатнай усмешкай сказаў лысы Мірон Жарнакрут.— Праўдзівей, я ліцадзей. Іх я проста ўзяў у сябры. Астатнія, былыя мае сябры, выгналі мяне.

— Разам з фургонам? — спытаў Басяцкі.

Маўчанне.

— Добра,— сказаў Лотр.— А што прымусіла вас, няшчасныя, пайсці з ім? Ну вось хаця б ты, мардаты? Як цябе?..

Малады бялёсы мардач спалохана заміргаў вачыма.

- Хлеб.

Сінедрыён нават не пераглянуўся. Але кожнаму нібы стукнула ў сэрца. Гэтыя дні... Суд над мышамі... Збіццё хлебніка... Сённяшняя анафема... Пабоішча на Ростані... Магчыма, змова... Агульнае незадавальненне... І тут яшчэ гэтыя.

— Хлеб? — з асаблівай значнасцю спытаў Камар.

У Братчыка нешта нібы заенчыла, замерла ўнутры. Спачатку Пархвер паказаў ім таямніцу Жалезнага Ваўка, якая, магчыма, магла ўратаваць караля ад нападу. Цяпер ім задалі гэтае пытанне. Ён зразумеў, што паратунку няма і што ведае гэта ён адзін.

Юрась пакасіўся на астатніх. Відовішча, вядома, не з лепшых. Радно, скураныя поршні, зблытаныя валасы. Морды людзей, што здабываюць штодзённую лусту хлеба круцельствамі і маной.

— Жарнакрут брэша, — сказаў ён.— Усе яны прысталі да мяне. Мы, вядома, трохі махлярылі, але мы не зрабілі нічога дрэннага. І нават калі мы зрабілі невядомы нам злачын — адказ мой.

Лотр глядзеў на яго дапытліва. Высокі, дужа добра збіты, валасы залатыя, а твар нейкі смешны: густыя бровы, вочы ненатуральна вялікія і празрыстыя, аблічча мятае. Чорт ведае што за чалавек.

— Ты хто? Адкуль?

— Юрась Братчык з П'янага Двара. Пачынак П'яны Двор.

— Прасачы там,— сказаў Лотр пану земскаму пісару.

Пісар зашалахцеў вялізнымі аркушамі скуранай кнігі. Гэта быў «Вялікі чарцёж Княства». Кардынал глядзеў у вочы чалавеку. Вочы не міргалі. Наадварот, Лотр раптоўна адчуў, што з іх нешта нібыта льецца і памякчае ягоны гнеў і ягоную цвёрдую рашучасць. Не магло быць сумнення — гэты запылены прайдзісвет, гэтая шэльма, што гандлюе ўласным круцельствам, нібыта рабіў яго, кардынала, дабрэйшым.

Лотр адвёў вочы.

— Няма такога пачынка П'яны Двор,— спалохана сказаў пісар.

— Ну? — спытаў Лотр.

— Правільна. Няма. Цяпер яго няма. І жыхароў няма,— сказаў Юрась.

— Ну-ну,— успыхнуў Камар.— Ты тут на нашых душах не іграй. Татары, ці хто, пабілі?

— Татары, толькі не абрэзаныя. Не раскосыя. Не ў чалмах.

Басяцкі звузіў вочы.

— Ясна. Не круці. Чаму няма ні ў чарцяжы, ні ў пісцовых кнігах?

— І не магло быць.

«Ясна,— падумаў Юстын.— Пайшлі, відаць, у лес, расчысцілі пачынак дый жылі. А потым з'явіліся... татары... і пабілі. За што? А бог яго ведае за што. Можа, ад пабораў уцяклі людзі? А можа, сектанты. Веру сваю ерэтычную ратавалі. І за тое і за другое выбіць маглі».

— Лядзікі? — спытаў Балвановіч.— Вольныя аратаі лясоў?

— Не магу напэўна сцвярджаць,— сказаў з усмешкай Братчык.— Мне было сем год. Я вырас на гнойнай кучы, а ўзмужнеў сярод ваўкоў.

— Так,— сказаў Лотр.— Ты гаворыш не як прасталюдзін. Чытаць умееш?

— Умею.

— Распусцілі гадаў,— буркнуў Жаба.

— Дзе вучылі?

— У калегіюме.

«Ясна,— зноў падумаў Юстын.— Бацькоў, відаць, выбілі, а дзіця аддалі ў божы дом, а потым, калі ўбачылі, што не здох, узялі ў калегіюм».

Ён думаў так, але паручыцца нізавошта не мог. Магло быць так, а магло быць і так, што прайдзісвет маніць. Можа,і зусім таго П'янага Двара не было, а гэты — каралёў злачынец ці ўвогуле адроддзе пекла.

— У якім калегіюме?

— Я шкаляр Мірскага калегіюма...

— Калега! — зароў Жаба.— «Evoe, rex Juppiter...» [1]

Лотр пакасіўся на яго. Жаба змоўк. Бурмістр Юстын бачыў, што ўсе, акрамя яго і пісара, глядзяць шкаляру ў вочы. Ён не глядзеў. Так яму было лягчэй.

---

[1] Пачатак застольнай шкалярскай песні, блюзнерскай і непрыстойнай па зместу. «Лікуй, кароль, Юпітэр...»

Пісар гартаў другую кнігу.

— Няма такога шкаляра,— сказаў ён.— Ні ў Міры і ні ва ўсіх калегіюмах, парафіяльных школах, бурсах, царкоўных і іншых школах няма такога шкаляра.

— Так,— сказаў Братчык.— Цяпер няма. Я былы мірскі шкаляр.

Пісар працаваў як машына:

— І сярод тых, што скончылі і атрымалі...

— Мяне выгналі з калегіюма.

Дзіўна, Юстын фізічна адчуваў, што гэты невядомы хлусіць. Мо таму, што не глядзеў яму ў вочы. І яму было дзіўна яшчэ і тое, што верась гэтаму валацугу ўсе астатнія.

— За што выгналі? — прачнуўся біскуп Камар.

— За памяркоўнасць, спагаду і... сумненні ў веры.

Юстына аж перасмыкнула. Верась і дапытвась не будусь. Верась, што ты з П'янага Двара, што ты шкаляр. Але што ж ты гэта зараз сказаў? Як з месіка зваліўся, дурыла. Распісаўся ў самым страшным злачынстве. Хай бы тут быў папа, Лютар, усе бацькі ўсіх цэркваў — для ўсіх іх няма нічога горшага за гэта. Цяпер канец. І як ён сочыць за тварамі ўсіх.

— Іншаверцам, пэўна, спагадаў? — спытаў Лотр.

Юрась усё маўчаў. Глядзеў у вочы людзей за сталом. Адна нянавісць была ў іх. Адно непрынясце. Братчык адвёў вочы. Спадзявацца не было на што.

— У чым сумняваўся?

— У святасці Лота, пан Лотр. Я чытаў... Я даволі добра ведаю гэтую гісторыю. Анёлы дарэмна ўступіліся за свайго сябра. Не трэба было паліваць нечасцівыя гарады агнём. Няварта было ратаваць адзінага праведніка. Ледзь ён пазбегнуў небяспекі, як учыніў яшчэ горшае. Паўсюль адна брыда. Павольна жывусь і змяняюцца людзі. Цяжка жысь сярод іх і паміраць. Але што зробіш? Вольныя мы з'явіцца ў гэтым свеце і ў гэты час, але не вольныя выскачысь з іх. Кожнага кліча ў свой час зямля.

— Нешта такое дзівотнае ты ўкладаеш у вушы нашыя,— ялейна сказаў Басяцкі.— Ні храна не зразумесь... Ну?

— Ну, я і пайшоў па зямлі... Без надзеі, але каб ведась усё і жысь, як усе. Ні мне, ні ім і ні вам анічога не дапаможа. Шчасце не з'явіцца перадчасна. Але за-

стаецца цікаўнасць, дзеля якой мы... ну, як бы гэта вам сказаць... з'яўляемся ў гэты свет, калі... наш бог вядзе нас у яго.

«Паверылі ўсякаму, нават самаму цёмнаму слову,— падумаў Юстын.— Што за сіла? Іншых ужо катавалі і правяралі б. А тут... Але нічога, вогнішча яму не мінуць».

Маўчанне вісела над галовамі. Усе невыразна адчувалі нейкую няёмкасць.

— Гм,— сказаў Лотр.— Ну, а ты адкуль, іудзей? Ты хто?

Іудзей паспрабаваў выпрастацца, але яму гэта дрэнна ўдалося. Развёў вузкімі далонямі. Насцярожана і сурова глядзеў на людзей за сталом. Пацягнуўся быў пальцам да скроні, але ўраніў руку.

— Ну што вам казаць? Ну, мяне выгналі-ткі са Слонімскага кагалу. Я Іосія бен Раввуні. І бацька ў мяне быў бен Раввуні. І дзед. Д'ябал... прабачце, лёс прыгнаў прадзеда майго дзеда сюды. Спачатку з Іспаніі пайшлі маўры... Потым яму давялося ўцякаць і з Мальоркі. Каму ахвота быць чуэтам?[1] Потым быў ЦІроль і была разня... Потым разня ўжо была паўсюль. І адусюль беглі сюды, бо тут быў прыстанак. Хто ведае, ці доўгі ён будзе?

Дамініканец усміхнуўся. Братчык заўважыў гэта і перавёў позірк з яго на іудзея, незнаёмую аповесць якога ён слухаў з жахам, спагадаю і агідай.

— Я быў у Іспаніі,— сказаў Басяцкі.

Раввуні глядзеў на яго і адчуваў, як жах бяжыць у яго ад лапатак да самага таго месца, дзе, як сцвярджаў папа Сікст, ва ўсіх ягоных супляменнікаў знаходзіцца хвост. Ніхто лепей за Раввуні не ведаў, як мала грунту пад гэтай гіпотэзай. Але неўгрунтаванасць і няслушнасць у гэтым выпадку можна было б пераканаць, толькі ўсё жыццё ходзячы без портак. І не аднаму яму.

А гэтага не дазволіў бы ніводны цывілізаваны ўрад, ніводная рада.

І таму ён халадзеў. Яму не раз ужо даводзілася бачыць такія вочы. Няхай нават не самому. Няхай памяццю прашчура. Вось яны з'явіліся і тут. Наколькі лягчэй было жыць між напалову паганскага народа.

---

[1] Чуэты — нашчадкі хрышчоных яўрэяў у Іспаніі.

Але ён быў выносны і ўчэпісты, як дзяржы-дрэва на скале. І таму ён не закрычаў, а, упершыню за ўвесь час, усміхнуўся. І тут адкрыліся зубы такой сляпучай белі, што бурмістр Юстын усміхнуўся ў адказ.

— Прыемна чуць, што вы пабывалі ў такім падарожжы,— сказаў езуіту Раввуні.— Колькі вы ехалі адтуль?

— Два месяцы.

— Ну вось. А мне на гэта спатрэбілася амаль два вякі. Можаце-ткі мне паверыць.

— У мяне ў Іспаніі быў адзін друг,— усміхнуўся Басяцкі.

— Толькі адзін? — нечакана для сябе самога спытаў Багдан Роскаш.

— Ён адзін быў варты тысяч,— і мніх зноў усміхнуўся, бо ўспомніў парады гэтага друга наконт народа беларускай зямлі, які ўграз у язычастве, дагэтуль трымае ідалаў і слова і больш, чым у Хрыста, верыць у маці божую[1] (хаця ўсім вядома, што яе адзіная заслуга была нарадзіць богачалавека), які ўвесь засмечаны ерассю. Успомніў ён і другія парады вялікага друга. Наконт г э т ы х, якім па недахопу рэўнасці божай і дбання аб ягонай велічы далі тут прытулак. Успомніў ён і парады аб ведзьмах і ведзьмарах.

І таму, што ўсяму гэтаму заставалася жыць нядоўга, і таму, што вось гэтых ужо заўтра ўзвядуць на вогнішча, каплану стала лягчэй, і ён усміхнуўся яшчэ. На гэты раз іудзею, Роскашу і Юрасю.

— Гэты друг казаў мне, што калі ерэтыкі, накшталт гэтага шкаляра, пусцілі такіх, як ты, сюды — над галовамі прыхадняў віліся совы.

Раввуні таксама разумеў, што заўтрашняга полымя не абмінуць.

— Наўрад ці. Ніхто не разводзіць соваў. Мы — таксама.

— Гэта няпраўда, мніх,— сказаў Братчык.— Я ведаю. Чалавек, які быў пры гэтым, усё запісаў. Я чытаў яго запісы. Гэта праўдзівая кніга. Кніга жыцця. Больш ніхто не запісаў бы так.

Іудзей зноў усміхнуўся белазубаю ўсмешкай. Лыцар Езуса паглядзеў на яго і раптам спытаў:

---

[1] Культ маці божай прывіўся асабліва лёгка, бо яна атаясамлівалася з багіняй плоднасці, «вялікай бабай» Ціоцяй.

— Гэта праўда, што вы ўзялі ад старажытных ібераў[1] агідны і брыдкі богу звычай паласкаць свае зубы мачою і таму — вось хаця б у цябе — яны такія белыя?

— У мяне яны таксама белыя,— сказаў Братчык.— І ў многіх тут, хто здаровы.

Але яго ніхто не слухаў.

— Ну? — спытаў дамініканец.

— Адкуль гэта вядома? — спытаў Іосія.

— Катул, хаця быў паганец і кнігі яго паляць, данёс да нас гэтую звестку: «Чым хвалішся, трусінае адроддзе, ты, кельцібер брыдкі, мо выскалам зубоў, што ты мачой мыеш?» І яшчэ: «І хто з тых кельцібераў белазубейшы, той, значыць, і мачу хлябтаў руплівей за ўсіх».

— Гэта брыдка,— раптам сказаў Юстын.

— Вядома, брыдка,— згадзіўся Жаба.

— Гэта абрыдліва,— сказаў Юстын.

— Ну? — спытаў Фларыян.

— Магчыма,— сказаў Раввуні.— Я вось увесь час гляджу на вас. У вас зубы яшчэ бялейшыя за мае... І вы былі ў Іспаніі.

Па зале пракаціўся кароткі рогат. І змоўк. І толькі тут усе заўважылі, што ў мніха сапраўды белыя, але вострыя, як у сабакі, зубы. Ніхто неяк раней не заўважаў, таму што ён вечна ўсміхаўся, але толькі аднымі вуснамі.

— Гэта мярзотна, урэшце,— узвысіў голас Юстын.— Я забараняю гэта. Няхай агонь, абы не пляваць на вогнішча. Звер ірве ворага на кавалкі, але не паплюжыць яго. І чаго варты воін, які займаецца тым, што ганьбуе і бэсціць праціўніка? Што б вы сказалі аб бітве, дзе абодва бакі замест таго, каб біцца, узводзяць паклёпы адзін на другога?

— Вы што? — шчыра здзівіўся мніх.

— Мне абрыдла. Я хрысціянін і, як хрысціянін, дбаю аб веры і таксама не люблю людзей, якія распялі майго бога. Але тое, што вы кажаце — паклёп. Гэты ваш пісака, па-першае, не бачыў ніводнага іудзея. Ён проста няславіў шчаслівага суперніка ў каханні. Не ведаю, ці хлябталі кельціберы мачу,— хай гэта

[1] Іберы — кельтскае племя, што насяляла ў рымскія часы Іспанію.

будзе на ягоным сумленні. Калі гэта не так — ён проста брахун, як усе пісакі. А вы — горшы за яго. Вы — паклёпнік. У той час ва ўсёй Іберыі не было ніводнага іудзея. Ніхто не патрабуе, каб дзве арміі паклёпнічалі адна на адну. Іхняя справа — біцца... Кажы далей, іудзей.

Суровы, нягледзячы на разбэшчанасць, пасечаны шнарамі, адзначаны ўсімі распустамі Юстынаў твар быў у гэты момант страшны. З-пад падстрыжаных у скобку валасоў вуголлямі гарэлі вочы. І раптам з яго нібы нехта выпусціў паветра. Ён сеў і безнадзейна махнуў рукою:

— А-а, што там. Усё адно.

З гэтай хвіліны бурмістр нібы звяў і да самага канца ўжо не праяўляў ніякай цікавасці да таго, што адбывалася ў зале.

Басяцкі непаразумела зірнуў на Лотра. Той пацісНуў плячыма,— нічога, маўляў, глупства, бывае — і пакруціў пальцам ля лба.

— То за што цябе выгналі? — спытаў Лотр.

— Дзіўнае пытанне. За што выганяюць людзей? За тое ж, за што і яго, Братчыка.

— Раскажы падрабязней.

## АПАВЯДАННЕ ІОСІІ БЕН РАВВУНІ

— Гм, мая справа пачалася два гады таму, на яўрэйскае свята Рабігул Ахір. Менавіта тады я пачаў хаця трохі разумець усе кнігі. І якраз тады ў абшчыне з'явіўся адкупшчык Шамоэл. Бачылі б вы ягоныя вочы. Гэта быў... Ну... Мне не хапае слоў... Ну, воўк... Ну, Алаферн... Ну, Сенахірым... Ён быў для іудзеяў горшы за ўсіх самых страшных ворагаў. І не было волі божай, каб ён здох, як... асірыянін... Пачалося пекла... Абшчынны збор вырас так, што нам не было як жыць, і ўвесь ён трапіў у гэтыя рукі... Бачылі б вы гэтыя рукі! Тлустыя, у поўсці, усе ў бранзалетах... І з ім была трэць абшчыны, а астатнія не мелі кавалка салонай рыбы. Ён разарыў і ўсё наваколле, нячысты пёс. Ён і астатнія ягоныя людзі багацелі. І калі раней я думаў, праходзячы паўз могілкі, што тут ляжаць самыя лепшыя гоі, то цяпер я зразумеў, што вораг — ён, бо ён точыць... знутры... Бо ён філісцімлянін... Бо ён вораг іудзею і ўвогуле чалаве-

ку. Як вы. Мне варта было б маўчаць, але дурны Іосія не маўчаў, і вось яго выгналі, і ён быў па-за законам для сваіх і чужым, падазроным для іншых... Мне варта было б маўчаць. Але я ўстаў і стаў крычаць на яго, і бэсціць... і выкрываць яго, як Іерамія... Гора мне! Першы раз я крычаў на яго ў мінулым ліпені, на пост руйнавання храма. Я крычаў, што такіх, як ён, не павінна насіць зямля, што ён — паківанне галавою для іншых. А ён і ягоныя блюдалізы смяяліся. А наш рабін дакараў мяне.

(Ён яшчэ трохі выпрастаўся. І тут усім стала ясна, што ў гэтым кволым целе гарыць магутны дух старажытных пракокаў. Гарыць нават за баязлівасцю. Рукі гэтыя не маглі ўдарыць, але нельга было згасіць гэтае полымя.)

І потым я выкрываў яго на Хамішо. Я пляваў у ягоны бок і казаў, што ён рабуе сваіх. Я пляваў у ягоны бок, а яны ўсе плявалі ў мой бок. І мне бы... маўчаць... Але я забыў лёс прарокаў і тое, што іх заўсёды пабівалі каменнямі. І я выкрываў яго на пост Хедалі і крычаў, што Ізраіль стаў раб і зрабіўся здабычаю гэтай чумы і яго, Шамоэла, трэба пабіць каменнямі, бо мужыкі з-за яго наракаюць на нас і край гэты можа зрабіцца для нас краінаю змроку. І рабін наклаў на мяне пакаянне, а тыя бэсцілі мяне, а іншыя наракалі на мяне, хаця не мелі кавалка хлеба... І потым я, думаючы, што абудзіцца сорам у народа майго, выкрываў Шамоэла на першыя дні... кучак. Я казаў, што ў яго лоб блудніцы і ён апаганіў... зямлю і што ён знішчальнік народа... А ён сядзеў і звінеў бранзалетамі на тлустых руках, і на мяне наклалі другое пакаянне, і лаялі мяне, а бедныя ад мяне адступіліся... Паршывыя авечкі! Баязлівыя жывёліны!.. А я чытаў кнігі і разумеў, што так не павінна быць, а раз ёсць, то кнігі хлусяць, а раз кнігі хлусяць, то нашто яны? І не можа слова праўды не дайсці, хаця... дагэтуль пасля кожнага такога слова ён з падвойнай прагнасцю жор людзей. І я выкрываў яго на пост Эстэр і на Пурым. І я крычаў, што ўразяць яго леў і барс, а ён сказаў, што яны тут не водзяцца. І я крычаў на яго і ўсіх, хто з ім, што яны, як адгадаваныя коні, гігочуць на жонку другога, і гэта была праўда. І крычаў, што ўсе яны згубіцелі Ізраіля і што з-за іх пакаранне ўпадзе на ўсіх. І крычаў я, што рабін — асёл і птуш-

калоў нечасцівы і пераступіў усялякую меру ў зле, як усе яны, і што дамы іхнія поўныя падману і таму самі яны тучныя і тлустыя і справядлівай справе жабракоў не даюць суда. І не саромеюцца яны, і не чырванеюць, робячы брыду. І кадзяць Ваалу, які ёсць — грошы... І яны хацелі пабіць мяне каменнямі, а народ разводзіў рукамі і пляваўся. Гора мне, маці мая, што ты нарадзіла мяне чалавекам!.. Нікому не даваў я ў рост, і мне ніхто не даваў у рост, а ўсе праклінаюць мяне! І перад самым пейсахам яны адлучылі мяне ад абшчыны і выкінулі з кагалу. Але я... не хацеў ісці і казаў, што ісці трэба *ім*, бо яны ўсе — пастыры, якія губяць авечак сваіх, сасуды непатрэбныя. І тады яны выкінулі мяне, і бедныя не заступіліся за мяне... І цяпер кожны мог забіць мяне і не адказваць.

Раввуні прыкрыў вочы рукою. Стаяў, як жывая статуя адчаю і ярасці. І нават тым, што ніколі і не былі людзьмі, стала непамысна.

— Раскажы падрабязна пра сваё жыццё ад выгнання і да гэтага дня,— сказаў Камар.— Яны правільна зрабілі, што выгналі цябе. Мы б зрабілі тое самае... Раскажы, якімі новымі злачынствамі ты пацвердзіў справядлівасць прысуду.

Але іудзей нічога не сказаў і толькі жаласна агледзеўся. Шалёны парыў прароцтва прайшоў, і ён цяпер не ведаў, што і як яму казаць. Толькі што мова ягоная лілася вадаспадам, толькі часам запінаючыся на асобных словах, як плынь на асобных камнях. А цяпер ён з цяжкасцю шукаў гэтыя словы, размаўляючы больш рукамі, чым вуснамі. Так бывае, калі ў паэта праходзіць натхненне. Толькі што быў тытан, і вось ужо маленькі, бадай што варты жалю чалавечак.

— Я... гм... Ну, яны-ткі сха-апілі мяне... і... дацягнулі да... Я хачу, прабачце, каб вы зразумелі... мяне... Я вельмі кепска... ведаю... беларусінскую мову...

— Можа, ты будзеш гаварыць на нейкай другой? — спытаў самавіты Лотр.

— Я ведаю сваю... Ведаю старажытную... Ведаю іспаньёльскую... Прабачце... З гэтых — лепей за ўсё старажытную.

Суддзі пераглянуліся.

— Гэта нашто? — спытаў Басяцкі.

— А нашто вам латынь? — спытаў раптам Братчык.— Дый вам не зашкодзіла б ведаць старажытную,

раз на ёй напісана Біблія. Я вось не ведаю і шкадую. Трэба ведаць усё, раз мы людзі... Неяк у нас гэта не прадумалі...

— Пляваў я на ўсё гэта,— нахмурыў грозныя бровы Камар.— Я ведаю ідэнтычную біблію, і грэцкую, і біблію на вульгаце...

— І потым,— перабіў яго каплан,— чалавеку непадрыхтаванаму, чалавеку, які не прайшоў усіх ступеняў ведаў, не належыць самому, без рукі ўказальнай, чэсці Біблію, ніжэ Евангелле, каб не папсавацца ў розуме... Ты будзеш нешта казаць, іудзей?

Братчык уздыхнуў:

— Вы бачыце, ён збіваецца. Ён разгубіўся. Ён не можа. Астатняе я ведаю, як і ён... Магчыма, я мог бы расказаць?

— Кажы,— сказаў Балвановіч.

Юрась пацёр лоб.

## АПАВЯДАННЕ ЮРАСЯ БРАТЧЫКА

— З Міра я прыйшоў у Слонім. Мне давялося шмат блукаць да гэтага, і галадаць, і начаваць бог ведае дзе. Я ніколі не думаў, што мне будзе так цяжка. Год за дзвесце... відаць... было лягчэй. У Слонім я прыйшоў пад вечар. Там вакол густыя і вельмі прыгожыя лясы, а між іх, на ўзгорках, дзіўнай утульнасці гарадок. Я ішоў і думаў, дзе мне начаваць і колькі яшчэ беспрытульных начэй мяне чакае.

Дарога мая ішла паўз падвор'е старой Слонімскай сінагогі. Вы ведаеце, дзе яна. Высокі каменны мур, а за ім куб з дзікага каменя пад вострым дахам... Сам не ведаю чаму, але я спыніўся насупраць увахода на падвор'е сінагогі, там, дзе стаяць дзве каменныя жанчыны.

— Якія жанчыны? — спытаў Жаба.

— Каменныя. Калі пан магнат не быў там — магу растлумачыць. Кароль Жыкгімонт вывез іх з Нямеччыны і, не ведаю, падчас якога падарожжа, загадаў паставіць іх у Слоніме, на знак таго, што хаця і вельмі старая слонімская абшчына, але ў веры яна — сляпая. Адна жанчына, з паходняю ў руцэ, Касцёл. Другая, з павязкаю на вачах, Сінагога, бо пазбаўлена яна святла і блукае ў цемры.

— Чаму ты ўсміхаешся? — спытаў Жаба.

— Ды так, я падумаў, што і ў самых цёмных душах неўсвядомлена жыве справядлівасць... Дык вось, усе гэтыя дужа высокія думы былі незразумелыя людзям. Ніхто не мог уцяміць, чаму паставілі на скрыжаванні вуліц дзвюх дзевак і чаго адна свеціць другой, калі тая гуляе ў жмуркі. Нейкія людзі, відаць, руплівцы аб чысціні нораваў, паадбівалі ім насы, бо жанчыны былі амаль голыя... Другія, відаць, лыцары плоці, хацелі, напэўна, пераканацца, што жанчыны каменныя, і пакінулі сям-там сляды сваіх лапаў... А астатнія нанеслі пад камяні, на якіх стаялі жанчыны, кучу смецця.

Я стаяў і думаў, куды мне ісці, калі ўбачыў, што ў браме падвор'я сінагогі нешта кішыць. Потым адтуль вывалілася чалавек пятнаццаць ягоных супляменнікаў. Яны былі вельмі багата апранутыя. Лісіныя плашчы, доўгія, з дарагога сукна... халаты, ці як яно там... На галовах — жоўтыя з золатам вялікія павязкі. На руках — бранзалеты з вітога срэбра і золата. Астатнія — іх было многа, і яны былі ў больш цёмных вопратках — стаялі на вуліцы і на падвор'і і маўчалі. А гэтыя цягнулі вось яго... Але бог ты мой, што гэта былі за морды! Ноздры вонкі і трапечуць, рукі тлустыя, вочы і павекі чырвоныя ад гневу. А адзін, самы здаравенны, а па выгляду не іудзей, а каваль і бандзюга з вялікай дарогі, крычаў: «Начальніка ў народзе тваім зласловіў! Біце яго каменнямі!» Але людзі толькі падымалі ўгору рукі.

— Шамоэл аслападобны,— сумна сказаў Раввуні.

Ніхто яго, Раввуні, не біў. Пэўна, не хацеў. Але ніхто і не заступаўся. Ніводная душа.

— Што рабіць па-за абшчынай? — мармытаў іудзей.— Паміраць? Яны баяліся. І ўсе ж яны свінні. Яны ж таксама — абшчына.

Яны падцягнулі вось яго да брамы, але тут ён учапіўся за шулы, як «дзед» за валасы, і хаця яны былі страшэнна тлустыя і здаровыя — яны нічога не маглі зрабіць з ім адным. Бо яны перашкаджалі адзін аднаму, а ён, такі ўчэпісты, упяўся ў шулы, як самшыт дрэва ў расколіну скалы. Прызнацца, я адразу ўхваліў яго, і ён мне гэтым спадабаўся. Заўсёды прыемна, калі адзін мужна трымаецца супраць многіх... Я трохі разумею мясцовую гаворку і пачуў...

— Зладзеі вы! — крычаў ён.— Каб вы рэдзькай

раслі і каб гэтая бедная ваша задніца матлялася ў паветры.

Яны пыхкалі, і саплі, і вазіліся, як вожыкі, а я сачыў за імі. Мне не было куды спяшацца і не было куды ісці. У гэтым прытульным месцы для мяне не было месца.

Яны таўкліся, але нічога не маглі зрабіць з ім. Ён трымаўся і крычаў:

— Ва ўсіх разбойнікаў на зямлі адна мова! Яе-ткі вы... але, яе-ткі вы ведаеце! Што б сказалі вашы нябожчыкі, вашы богабаязныя бабулі, вашы набожныя продкі?! Яны перакруціліся бы ў магілах... задам да Ерусаліма, які вы прадалі! Нашто вам спісак пана бога — у вас спіскі нарабаванага.

І тут нечы выспятак выбіў, урэшце, яго з брамы. Ён паляцеў і пляснуўся ў пыл. А потым ускочыў і распачаў такую ярасную Іерэміяду, якой мне ніколі не даводзілася бачыць і чуць:

— Гігочаце вы над падзеннем народа свайго, як коні! Шакалы вы! Каб вам ціснуцца да гною, каб вашая скура стала сухая, як дрэва! Вушы ў вас неабрэзаныя, у трунах вы пачуеце; самі свінні і свінняў жарэце, і мярзотнае варыва ў гаршках вашых.

І раптам так закрычаў, што мяне аж разабраў смех:

— Басякі-і! Тфу на вас! Тфу!

Ён кідаў у іх прыгаршчамі пылу і плакаў ад бяссілля, бо гэта ім было, як і словы,— аб сценку гарох. Тады я падумаў, што яго і сапраўды могуць пабіць каменнямі і гэта будзе дрэнна. Я падышоў і сказаў яму: «Хадзем, братка».

— Ён сказаў мне: «Хадзем, братка»,— прамармытаў Іосія.— І я пайшоў. А што мне яшчэ заставалася рабіць?

— Мы пайшлі ўжо двох. У Слоніме нам заставацца не выпадала. Раввуні меў рацыю: бог нібы адабраў у гэтага Шамоэла розум. Ён хапаў, як воўк, за жывое. Пасля мы даведаліся, што мужыкі забілі яго і двух ягоных хаўруснікаў і яшчэ двох невінаватых.

— Ты ведаеш, што ён заплаціў доўг Слонімскага войта і атрымаў за гэта права выбіваць нядоімкі з ягоных мужыкоў? Што ён дзейнічаў законна, як то кажа права княства? — спытаў Жаба.

— Ён выбіваў... Ды хто там лічыў, колькі ён выбі-

ваў? — сказаў Раввуні.— Я папярэджваў яго, але ён не паслухаўся. Шкада невінаватых... Але, як не лічыць іх, мужыкі зрабілі святую справу, забіўшы яго. Таму што выбіў ён удвая больш, як заплаціў. І калі адкупшчыкі будуць і далей грабежнічаць — будзе не забойства, а бунт. Пераб'юць не толькі адкупшчыкаў — іудзеяў, беларусаў і немцаў. Будуць біць і вас[1].

— Но-но,— сказаў Камар.— Бліжэй да справы.

— Мы баяліся заставацца ў Слоніме. Баяліся людзей Шамоэла і баяліся мяшчан. І ўсё ж я адчуваў сябе такім моцным, якім ніколі дагэтуль не быў. Кепска аднаму, і лепей, калі ёсць побач хаця нехта падобны.

— Адзін з людзей мяне падабраў,— сказаў іудзей.— І да яго я прыляпіўся. Іначай — смерць. Ля сінагог мяне сустрэлі б каменнем. Ля чужых парогаў — непаразуменнем.

— То, можа б, ты гаварыў? — спытаў Басяцкі.

— Не слухайце яго. Ён гаворыць глупства. Яму цяжка гаварыць, і таму ён гаворыць лухту. Няма да чаго яму было ляпіцца. Я ж такі самы выгнаннік, як ён. Я таксама згубіў сваё племя... І што гэта за свет, дзе адны выгнаннікі чагосьці вартыя?

Дык вось, мы спяшаліся пакінуць між сабою і Слонімам як мага больш стадый. Я радаваўся, што я не адзін, і сілы мае прыбылі.

— Т-так,— сказаў Басяцкі.— Вось як, значыцца, ты прыдбаў свайго першага апостала, «Хрыс-тос».

— Пад вечар мы прыйшлі з ім на бераг Бяздоннага возера пад Слонімам і тут вырашылі начаваць. Галоднымі, бо я не спадзяваўся на тое, што нешта спаймаю сваёй самаробнай вудай. Возера было ўсё празрыста-чырвонае, гладкае, як люстра. І лясы вакол яго былі таксама зялёна-аранжавыя.

— Што гэта ён гаворыць? — спытаў Жаба.

— Н-не ведаю,— пацiснуў плячыма Балвановіч[2].

— Мы селі на адзіным голым узгорку, які зарос

---

[1] Інстытут адкупшчыкаў быў адной з прычын паўстання Васіля Вашчылы.

[2] Уся гісторыя старажытнасці і сярэдніх вякоў калі і ведала захапленне прыродай, дык толькі фізічна. Захапляцца прыродаю на паперы ці на словах лічылася справай падазронай, дарэмнай і пустой. Ці зашмат было гэтай самай варожай прыроды, ці бракавала мазгоў і эстэтычнага жыцця, ці не дараслі яшчэ людзі, але на працягу дваццаці сямі стагоддзяў еўрапейскай літаратуры

доўгай, як косы, травою. Гэта, відаць, быў нейкі могільнік, бо сям-там, прадзершы зямную шкуру, тырчалі з зямлі вострыя камяні. Як піраміды. Толькі вузкія ля зямлі і доўгія, амаль у чалавечы рост. То прамыя, а то і нахіленыя. Якая з трыма бакамі, а якая і з чатырма, як дах чатырохкутнай вежы.

— Я ведаю гэты могільнік,— ашчэрыўся Камар.— Гэта праклятае месца. Гэты могільнік паганскіх волатаў, пярэваратняў, ваўкалакаў. Хрысціяніну грэх нават глядзець на яго і падобна таму, як душу загубіць,— сядзець там... Запішы і гэтую іхнюю правіну, пісар[1].

— Не ведаю. Нам было там хараша і спакойна. Захад. Чырвонае возера. Старажытныя камяні. Камашня таўчэ мак.

Мы развялі вогнішча. Я ўзяў нітку і гачок і рушыў да берага, каб спаймаць нешта. Але як толькі я падышоў да вады, я пачуў, што з возера імчыць густая лаянка, якая абражала і возера, і магілы, і гэты спакой.

...Непадалёку адзін ад аднаго стаялі два чаўны. Стаялі і, відаць, не маглі раз'ехацца, бо мярэжы іхнія зблыталіся і спляліся, а якраз у месцы сплячэння білася вялізная рыба. Дальбог, я яшчэ не бачыў такой. Вялізны сом сажня ў паўтара — калі не ў два — даўжынёй. Відаць, ён заблытаўся ў адну мярэжу, пацягнуў яе, наскочыў на другую і зблытаў іх. Сом гэты біўся, раскрываў шырокі рот, плямкаў грыбамі, варушыў вусамі і вытрэшчваў маленькія вочы.

Братчык спыніў свой позірк на Жабе і ўсміхнуўся. Вельмі хітравата.

— З таго часу варта мне толькі ўбачыць тлустага дурня пры выкананні ім службы — і мне адразу ўспамінаецца гэты сом.

А ў чаўнах біліся і цягалі адзін аднаго за чубы

---

мы не сустрэнем у ёй нават такой колькасці пейзажаў, колькі іх, скажам, у «Вайне і міры». Проста не лічылі за патрэбнае, як і творцы дужа сучасных раманаў.

[1] На самай справе клады над Бяздонным возерам — унікальны старажытнаславянскі могільнік V — IX стагоддзяў. Падобнага яму бадай што і няма. Не курганы, а вострыя каменныя піраміды. Сведчанне высокай культуры. І яшчэ сведчанне чалавечнасці, таго, што і ў тыя часы любілі бацькоў і не хацелі для іх забыцця па смерці.

людзі. У адным чаўне вось гэтыя два браты, а ў другім — гэтыя. Таксама браты.

— До,— сказаў Лотр.— Цяпер яны. Ты хто?

Наперад выступіў кучматы і зарослы чалавек з падступнымі вачыма забіякі, адзін з тых «рымскіх ваякаў», што дзялілі ля крыжа адзенне. У адным з куткоў рота — пагардлівая ўсмешка; тытунёвыя вочы нядобра бегаюць. На галаве, як ва ўсіх кучаравых, што ўвайшлі ва ўзрост, пачынае прабівацца лысіна.

— Лявон Конаўка,— з выхвальствам сказаў чалавек.

Ягоны сусед, падобны да яго, але яшчэ па-юнацкаму танклявы (ды яшчэ ў вачах, замест выхваляння і нахабства, баязлівасць), дадаў:

— А я яму брат. І нічога мы больш не рабілі. Мы рыбакі.

Камар, які зноў заснуў, раптам прачнуўся, спытаў:

— Па чужых стайнях рыбакі?

І тут выступіў наперад той, цыганаваты, з вугольнымі бліскучымі вачыма, са жвавым, як у малпы, абліччам, які так спрытна ставіў падножкі ў часе сутычкі.

— Па чужых стайнях — гэта быў я. Міхал Іліяш маё прозвішча.

— Ты — пасля,— сказаў Камар.— Не хвошчуць — не дрыгай нагамі.

— Гэта я разумею,— выскаліў зубы Міхал.

— Н-ну, браты... То з кім гэта вы біліся?

Два былыя «эфіопы» выйшлі і сталі побач з імі. Адзін, здаровы, як халера, тугі, з платаядным ротам і самовымі вочкамі — сапраўдны Гарганцюа,— сказаў басам:

— Я таксама рыбак. Лаўлю выразубаў, мірон, а асабліва самоў. Гэта калі іх вымачыць ды патлушчыць іхнім жа тлушчам,— ён прыклаў да вусоў пальцы,— м-м-нм... А прозвішча маё Сіла Гарнец... А ото мой нягожы братка. Такі няўдалы, што двухгадовага шчупака толькі з цяжкасцю з'есць. Зваць яго Ладысь.

Ладысь Гарнец выступіў наперад. Худы, вельмі падобны на дзяўчыну, з доўгімі рыжавата-залацістымі валасамі. Рот прыадкрыты, як у юрода, у вачах мудрагельства.

— Рыбак. Але ў існіне хадзіць хачу. У існіне.

— Вы не глядзіце, што ён такі... прыдуркаваты,—

сказаў Сіла.— Ён два гады ў царкоўнай школе вучыўся. Выгналі. Мудрагеліць пачаў, прароцтвы чытаць... Сапсулі яго там... І зараз не сваімі словамі гаворыць, а не можа запомніць, у якім зарожку больш рыбы. А гэта проста... Вось, скажам, ля могільніка, там бялёзны — ані-ані...

— До,— сказаў Лотр.

— І балабы няма...

— Не рыбу, але будзеце ўлаўляць чалавекаў,— сказаў Ладысь.

— До. Кажы далей ты, Сіла.

— Ну вось, і атрымалася ў нас у той дзень з Конаўкамі бойка. Конаўкі ж таксама рыбакі, але горшыя. Сказаць, скажам, дзе ў нас там кляпцы водзяцца — гэта ім слабіна.

— Брэшаш,— сказаў Лявон Конаўка.

— Ваша правялебнасць,— сказаў Лотру Басяцкі,— хай бы ён і далей казаў. А то іншыя непрыдатныя. Адзін — трусік. Другі — рыбаед, і, як гаворыць, то рыбай нясе. А трэці — юрод не ад пана бога нашага.

— Ваша праўда,— сказаў кардынал.— Кажы ты, старэйшая конаўка.

Лявон выступіў наперад і абег усіх вачыма, ад якіх любой падножкі можна было чакаць.

## АПАВЯДАННЕ ЛЯВОНА КОНАЎКІ

— Гэта ён брэша ўсё, гэты Сіла. Ніякага ведання ў яго нямашака. Дый як можа быць, калі ў яго галава, як у сома — самі бачыце, якія вочкі,— і калі ён толькі жарэ. Першыя рыбакі і на нашым возеры — вось я, Лявонька, а калі брат у розум увойдзе-ўбярэцца, то і ён будзе разумнейшы за таго сама́. І мы заўсёды пану нашаму літасціваму, хаця ён і не ўтаропае нічога, але, папраўдзе, як то рабам шчырым належыць, па пісанню, больш за ўсё лепшай рыбы прыносім. А пан наш не схізмат які-небудзь, як мы, мужыкі-дураломы, бабовыя галовы, а высакародны Дамінік Акавіты, і дадзены яму, за рупнасць аб веры святой, лацінскі надпіс на шчыт: «Rex bibendi»[1].

[1] «Кароль п'янюг», то бок распарадчык папоек, тамада.

— Гэтага можна б і пусціць,— амаль расчулена шапянуў Лотру Басяцкі.— Лепшы матэрыял. Богабаязны чалавек, паналюбівы і... дурны, хаця і хітры.

Лявон раптам ганарліва ўскінуў галаву: відаць, не вытрымаў, сарваўся, няхай і на шкоду сабе. Хітрыя вочы забіякі засвяціліся.

— Каму разбірацца сярод гэтага мужычча? Мне дваццаць адзін... Яны ўсе дурні... А ў нас у хаце сам кроль Аляксандр дваццаць два гады таму спыняўся і начаваў і ўсіх жыхароў яе ласкаю сваёй крулеўскай адзначыў.

— Чулі, што вярзе? — шапянуў Лотр Басяцкаму.— Вось вам і адпусціць. Хай лепей пісар занясе акрамя багахульства яшчэ і абразу нябожчыку каралю.

— Чаму? — шэптам спытаў Балвановіч.— Магло быць. Ён быў добры кароль. Нас любіў. Просты. І, між іншым, ніводнай бабы, нават з курнай хаты, калі толькі магчыма было, ласкай і прыязнасцю сваёй не абмінаў. Гэта вам не іншыя. І што дзіўна, самі бабы так да яго і ліпнулі. Можа, таму так мала і цараваў.

— Магло-о быць,— перадражніў Лотр.— Магло быць, ды не тут. Дзеці іхняе мосці зараз ледзь дзеўкамі цікавіцца пачынаюць... Колькі год, як кароль памёр? Ага. А цараваў колькі? Чатыры гады і восем месяцаў. То за колькі год да ягонага каравання гэты боўдур нарадзіўся? Магло-о бы-ыць.

Лявон Конаўка зразумеў, што рэкнуў лішняе. Тытунёвыя вочкі забегалі.

— То вось у той вечар мы з гэтымі непадобнымі, з мужалапамі гэтымі пабіліся. Сіла гэты як пачаў крычаць і торгаць за сетку:

— Мая мярэжа!

— Ты яе разблытай спачатку, тады ўбачыш — чыя! — крыкнуў яму я.

— Ён за мярэжу — торг! Я таксама — торг! Тады ён разварочваецца і мне па пысе. Аж дзень залатымі мухамі пайшоў.

— Гэта ў мяне... мухамі,— сказаў Сіла.— Бо ён мяне — таксама...

— А тады гэты вось юрод, прарок-недавучка, Ладысь, абразіць мяне вырашыў.

— Вочы ў цябе,— кажа,— у неналежным месцы.

Я яму таксама — плюху. Але ён, відаць, збаяўся мне адказаць. Ён Аўтушка майго схапіў. А той яшчэ ў розум не ўвайшоў.

— Ён мяне схапіў,— сказаў трохі баязліва Аўтух.

— Чую — чабарох! — гэта яны, значыцца, у ваду ўпалі. Мне глядзець няма калі — я Сілу ваўтужу. Толькі чую: хістаецца човен. Братка, значыцца, вызваліўся ад таго і вылазіць. Толькі потым адштурхнуў старэйшага Гарнца і... Што такое?.. Малодшы Гарнец у маім чаўне сядзіць... А мой Аўтушок у Сілавым чаўне. Пераблыталі. Тут Сіла, пэўна, зразумеў: са мною яму не здужаць.

— Гэта ты зразумеў,— сказаў Сіла.— Куды карасю супраць ліна?

— Я тады размахнуўся ды гэтаму ягонаму Ладысю — балазе ён у маім чаўне — поўху. Гляджу — Сіла вачыма закруціў:

— Ах, ты майго брата?.. Дык — на і твайму,— і як дасць Аўтушку. Той, бедны, аж зубамі ляснуў. Мне яго, канечне, шкада. Я шалею. Я тады зноў Ладысю як даў-даў. Крычу:

— Гэ, ты майго любага брата? Хай і твой атрымае!

— І твой!

— І твой!

І дайшлі б мы абавязкова да смертазабойства, каб браты не здагадаліся. Скокнулі яны ў ваду ды паплылі да берага, як, шануючы вас, дзве сучкі... А ўва мне аж усё заходзіцца. Аж сэрца кіпіць. Хапаю я сякеру. І Сіла сякеру хапае. І тут прыбавілася б у нас у галовах яшчэ па адной дзірцы, каб ён не спалохаўся.

— Гэта ён спалохаўся,— сказаў Сіла,— нібы рак у вершы.

— Не спалохаўся я. Я, калі я ў шал увайду, нічога не баюся. Тады мне не супярэч. Развярнуўся я ды сякерай па ягонай мярэжы.

— Брата майго — крычу,— біў. Вось тваёй мярэжы! Вось!

— І тваёй на! — крычыць ён.

Тут сеткі нашы пачалі раскручвацца. Гулькнула рыба, паказала нам хваста...

— Добрая штука самовы хвост,— крэкнуў Жаба.

— ...дый пайшла да сябе. І тут я гляджу — стаіць Сіла, сагнуўшыся, хэкае і сваю мярэжу сячэ... Я — рагатаць... Але тут гляджу — і я ўвесь час сваю сек...

Гляджу — гэны дурань гэта зразумеў ды раптам як дасць абухом у дно маёй душагубкі — аж вада засвістала. Чую — ногі амаль па калені ў вадзе. Тут я думаю: «Будзе мне — будзе і табе». Ды як вухну сякерай у дно ягонага чаўна — так іываліў кавалак велічынёю з добрае сцябла[1]. Пайшлі нашы чаўны да азёрнага бога. І мярэжы з імі пайшлі, і, вядома, сякеры.

— Бо яны не плаваюць,— растлумачыў Сіла.

— А мы па шыю ў вадзе. І тады мы паплылі на бераг. А там нашы браты сядзелі ўжо з гэтымі двума... І ўсё, можа, было б добра, калі тут Іосія пачаў божкаць аб рыбе, хаця і не ядуць яны самоў.

— Яны шчупака ядуць,— басам сказаў Сіла.— Хаця і нельга шчупака есці па духоўных прычынах, і хто яго есць, асабліва галаву, таго на тым свеце прымусяць дзярмо есці.

— Што ты там вярзеш? — спытаў Лотр.— Як гэта нельга есці шчупака? Якія гэта «духоўныя прычыны»?

— Хто шчупака есць, а галаву асабліва, той грэшнік горш за каталіка і ерэтык горшы за Лютара ў сарамаце сваёй,— сказаў Ладысь.

— Гэта яшчэ чаму, паганец ты?! — ускочыў Басяцкі.

— А таму,— навучальна сказаў Сіла,— што ў шчупаковай галаве ёсць усё начынне, якім Хрыста каралі. Косткі такія накшталт храшчоў. Тут табе крыж, тут табе цвікі, тут табе і дзіда. Дарма, думаеце, іудзеі так шчупака любяць?

— Дурніла ты, вось хто,— сумна сказаў Раввуні.— Галаву на плячах мець трэба, вось што.

Лотр паціснуў плячыма:

— Гэтыя людзі закаснелі ў паганскіх павер'ях сваіх і ў самай абрыдлівай ерасі. Хіба гэта хрысціяне? Адзінае, што вылечыць іх ад дысідэнцтва — ачышчальнае вогнішча... Ну, далей. Значыцца, іудзей пачаў божкаць аб рыбе.

— Але,— сказаў Іосія.— Я пакляўся Выйсцем, што з-за такога Левіяфана, можа, і варта было біцца і ён быў бы тут вельмі дарэчы.

— І тут я сказаў, што буйную рыбу мы аддаём

[1] Сцябла — вялікі латок з ліпы, на які ўкладаюць сетку.

пану. А іудзей сказаў, што ён заўсёды лічыў рыбакоў за разумных людзей і сёння ўпэўніўся ў гэтым. Тады гэты Братчык спытаў, нашто мы з-за панскай рыбы seклі свае мярэжы.

Толькі тут я апамятаўся, што і мярэжы пасечаныя не нашы, і чаўны патопленыя — ад пана. І, значыцца, чакае нас кум-бізун і сядзенне ў калодках ля царквы прынамсі на чатыры нядзельныя імшы, а можа, і нешта горшае.

Тут Ладысь загудзеў:

— Браткі вы мае ўлюбёныя! А што ж гэта нам рабіць?! А як жа нам цяпер перажыць?!

І тады Братчык сказаў, што трэба ўцякаць. А іудзей пакруціў толькі галавою.

— Наро-од,— кажа,— сядзець і слухаць і зразумець. Назад вам нельга... І таму ідзіце вы з намі, хаця, вядома, дурань у дарозе не набытак.

Мы зразумелі, што ўсё гэта праўда, сяк-так памірыліся, з'елі на знак клятвы трохі зямлі, калі ўжо нічога больш ядомага ў нас не было, і пайшлі з імі.

У горадзе між тым зусім не было спакойна, нягледзячы на тое, што ўсе даўно разышліся вячэраць. Заставалася якая гадзіна да заходу сонца, і ўсе, у каго было што есці, спяшаліся з'есці гэта пры дзённым святле: улетку варта загадвала гасіць агні разам з канцом прысмерку. «Гэта не зіма: дні доўгія, надвор'е сухое — ці доўга да начнога пажару».

У слабадах вяшчальнікі ўжо былі, і цяпер іхні крык раздаваўся на ўскраінах:

— Аг-ні гасіць! Пе-чы, лучні-кі га-асіць! Не спіць аго-онь! Каганцы гасі-іць! Горны гасі-іць! Матка божая і святы Юры, злі-ітуйцеся з нас!

— ...на-ас!

— ...а-ас! — аддавалася недзе далёка, у ганчарным канцы.

Здавалася, павінна б быць цішыня, звычайная вячэрняя цішыня і мір. Але яе не было.

...Па Кавальскай, а потым па Мечнай вуліцах бег захэканы Кірык Вястун, грукатаў у аканіцы, біў нагамі ў дзверы і трубна крычаў адно і тое ж самае:

— Да замка! Да замка! Хрыста забіваць павялі! Забойства!

Калі б нехта глянуў з вышыні, ён бы ўбачыў, што па вуліцах, у розных канцах, мітусіцца некалькі такіх фігурак.

На Піўной кідаўся ад дзвярэй да дзвярэй Зянон:

— Людзі! Хрыста забіваюць! Хрыстос прыйшоў!

Крык каціўся вулкамі. Але рэдка-рэдка дзе расчынялася акно. Вуліцы, здавалася, вымерлі, безудзельныя ад адчаю.

Раўла на вуліцы Стрыхалёў дуда.

— На дапамогу! Хрыстос прыйшоў у Гародню!

У рэдкіх непрыкрытых аканіцамі шыбах дагараў крывавым святлом захад. Так слаба і неахвотна, так рэдка. Згасаў, як воля вялікага горада да ўстання. Яна ледзь тлела за гэтымі рэдкімі шыбамі. І лямантам у пустэлі былі крыкі, што глуха згасалі ў цяснінах вуліц.

— Хрыстос! Хрыстос з апосталамі прыйшоў у Гародню!

Кляонік і Марка лупілі ва ўсе дзверы Разьбярнага Кута.

— Людзей забіваюць! — крычаў Кляонік.

— Ну чаго там? — пытаў сонны голас з-за аканіц.

— Людзей забіваюць! Кажуць, Хрыста!

— А-а.

Першая зорка запалала ў празрыста-сінім небе.

Апошнія промні заранкі адбіваліся на руках Вуса, якімі ён грукатаў у дзверы. Рукі ў яго былі цяпер нібы з чырвонага золата.

— А-а. Тфу! Свінні сонныя.

Пабег, спатыкнуўся аб жабрака, які спаў на ўзбочыне.

— Хрыстос прыйшоў.

— Кінь, спаць хачу.

Гіаў Турай схапіў загрудкі чалавека ў багатай вопратцы, патрос. Ім аказаўся немец.

— Хрыстос у Гародні! Хрыстос уваскрэс!

— А-а,— сказаў немец.— Ён і ф мінулы гот такой ша штука фыкінуў.

— Тфу, каўбаса,— махнуў рукою Турай.

Згасалі верхнія вокны ў дамах. Безнадзейна згасала воля вялікага горада. І ўсё ярчэй у ліпеньскім небе разгараліся зыркія зоры. Ззяў золатам прыгажун Арктур, рассыпаліся ля яго валасы Беранікі.

Зіхацела на поўначы, зусім нізка ад далягляду,

шматкаляровая Капэла, і беглі да яе паўз Альтаір і Дэнэб туманныя віхуры Шляху Продкаў. І тады, у адчаі ад таго, што нічога нельга зрабіць, што ўсе глухія ў гэтым горадзе, Кірык Вястун стаў перад парталам касцёла дамініканцаў і, узняўшы рукі ўгору, з апошніх сіл, непрытомна і раз'юшана заляманта-ваў:

— Хрыстос прыйшоў у Гародню!

Маўчанне. Касцёл, здавалася, падаў на чалавека. Высокі, да зор шпілямі. Цішыня. Больш на паўночны захад зіхацелі над самай зямлёй Блізнюкі — брат залаты і брат белы. Яны бліжэй адзін да аднаго, чым людзі. Або унь як цесна збіліся вакол Нявесты, вакол белай Нявесты[1], яе жаніхі, два браты — плячо да пляча[2], і іхні нізенькі сапернік[3]. Так блізка, як ніколі не бываць людзям.

І ў адчаі, разумеючы, што ўсё адно што ў лепшым выпадку варта схопіць яго за буянства, Кірык зноў ускінуў да зор рукі і закрычаў:

— За-бі-ва-юць Хрыста-а-а-а!

— Рэха, што заўсёды было ў вежах, падхапіла крык, пачало адкідаць, гуляць з ім, як з мячом. У верхніх ярусах званіцы пачалі выбухаць дзіўныя гукі:

— ...ва-а... та-а... та-та-та!

І раптам здарылася дзіва. Ляснулі аканіцы, і ў акне з'явіўся белы твар.

— Чаго?

— Хрыста катаваць павялі.

Яшчэ і яшчэ галовы з'яўляліся ў вокнах.

— Дзе? Дзе?

— Хрыста забіваюць! У замку! Хрыстос прыйшоў у Гародню. Нас бараніць.

Адзін чалавек выйшаў з дому і другі. І трэці... Цяпер крычалі чатырох. Выйшаў заспаны чалавек з кордам.

— Што такое?

— Катаваць павялі! Ганец сказаў, што яны яго — па гардзёлцы! Што нам не ён патрэбен, а даўгавая турма!

Гэтая абраза перапоўніла чашу цярпення. Узвіўся да шпіляў званіц рык.

---

[1] Вега.
[2] Бэта і Гама сузор'я Ліры.
[3] Дэльта Ліры.

...І тут пайшло. Выбеглі з халупы два чалавекі з молатамі. Кінуўшы бедную крамку, выскачыў з бязменам гандляр.

— Хрыста ратаваць! — крычалі дзесяткі галасоў.

Усё абрастаючы, натоўп каціўся за Кірыкам. Грукалі ў дзверы, у вокны. Білі ў іх молатамі так, што ўздрыгвалі дамы, і, хочаш не хочаш, трэба было выходзіць.

Ля карчмы натоўп вырас удвая, прыядналіся бражнікі. Карчмар крыкнуў і, скінуўшы з пожага ў агонь курай — полымя шуганула, нібы з пекла,— прыяднаўся да тых, што ішлі. П'янічкі захапілі паходні. І калі раней у канцы вуліцы, на захадзе, ззяў у вочы людзям жоўты Арктур, пуцяводная лампада, то цяпер зоры нібы пабляклі ў чырвоным зарыве.

Непадалёку ад Ростані прыяднаўся да гурмы Зянон з сотняй людзей, а на самой Ростані — натоўп, які вялі Кляонік і Марка.

Валілі і валілі з дамоў, завулкаў, тупікоў яшчэ і яшчэ людзі. З ланцужнымі жгутамі, з доўбнямі, з іржавымі сякерамі, з друкамі, выламанымі з платоў, з лукамі.

Кінуўшы ля мясных радоў статак, прылучаўся да плыні пастух з прашчою, мяснік з разаком.

— Хрыстос прыйшоў у Гародню!

Цяпер ужо аніяк не менш за семсот чалавек валіла да замка.

Ноч чырванела агнём.

Сінедрыён на ўсе вочы разглядаў Багдана Роскаша. Відовішча было сапраўды дзіўнае. Пад мешкавінаю хітона тапырылася пацёртая шляхецкая чуга, у запазусе была мехавая шапка (нібы кот прыгрэўся і спаў). А на нагах — такія самыя мужыцкія поршні, як ва ўсіх.

Роскаш стаяў, ганарліва адставіўшы нагу. Даволі магутнае пуза — наперад, грудзі напнуў, твар — чырвоны, вочы — вырачаныя, вусы — заліхвацкія, звіслі да сярэдзіны грудзей, шчокі — трохі адвіслыя і такія круглыя, быццам ён іх назнарок надзьмуў.

Непрымірыма глядзелі на сінедрыён каламутнасінія вочкі. Грэбліва быў скрыўлены рот — рот аматара выпіць і задзіры. Для паўнаты карціны не хапала толькі шаблі.

— Ты хто? — спытаў Лотр.

— Не чулі, ці што? — грэбліва кінуў Багдан.— Я Роскаш Багдан. Беларускі шляхціц. Вось.

— Ты зараз не шляхціц, а падсудны,— сказаў Лотр.

— Гэта вы — адзін выгляд, а шляхта была, ёсць і будзе. Зброю вось толькі я ў фургоне пакінуў, а то не на мяне б вы зараз выскаляліся, а на вечка сваёй труны.

— Што ж ты, шляхта, сярод валацуг? — спытаў з'едліва Лотр.

— Сам ты хамло і бадзяга,— сказаў Роскаш.

Лотр ледзь стрымаўся:

— Добра, кажы.

Роскаш стаў яшчэ больш зухаваты, адставіў нагу яшчэ далей.

## АПАВЯДАННЕ БАГДАНА РОСКАША

— Мужыцкая толькі морда можа не ведаць, што такое род Роскашаў і да якога роду, суёму[1] і герба мы належым. Але я не здзіўляюся і велікадушна вам дарую, бо папы збольшага ўчарашнія мужыкі і самых важлівых рэчаў могуць і не ведаць.

Былі мы калісьці багатыя, як халеры, але літоўскі напад выбіў славуты род Роскашаў з сядла, хаця і не збіў з ног... Фальшывым загадам гэтага хама, гэтай кіслай аўчыны, Міндаўга, адабралі ў нас набытак продкаў, землі, і аддалі такому самаму кіпацю, як і Міндаўг, нейкаму бязведамнаму Квясткгайле. Засталіся мы на гэтай нашай зямлі гасцямі і высіліліся, але гонару не страцілі.

І асабліва заеўся я з гэтым аслянём, з малодшым Квясткгайлам, Тадэем. Мала яму было таго гонару, што на зямлі, якая яму няправедна належыць, сядзіць былы гаспадар, чалавек такога роду, як я,— ён падумаў з мяне яшчэ нейкую «гарэнду» браць, барбар такі... Вядома, не бачыў ён ад мяне дулі з макам і скідзельскага пачастунку.

У той дзень я высакародна араў сваё поле. Быў у гэтай вось футраной шапцы і, як то належыць лыцару, пры мячы на баку, пры гакаўніцы за спіною,

[1] Суём — нешта накшталт клана.

пры рагу для пораху, або, як мы кажам, «маку». Зброя павінна быць пры сабе, бо твой гонар у тваіх руках, і яшчэ... кожную хвіліну нехта слабы можа прыпасці да ног тваіх, молячы аб лыцарскай тваёй дапамозе.

Скура ў мяне не такая грубая і закарэлая, як у нейкага там мужыка або ў польскага ці жмойскага двараніна, і таму я ішоў за высокай сваёй сахою асцярожна, каб церне не ўпялася ў нагу.

І тут пад'ехаў на паршывым сваім варанку гэты хам у магнацкай вопратцы, якая сядзела на ім, як на карове шытае сядло. Пад'ехаў і, паколькі не ўмеў весці высокую бяседу, адразу пачаў непрыстойна лезці і прыставаць з гэтай сваёй «гарэндай».

Некаторы час я маўчаў. Гэта таму, што гэтыя худародныя сівалапы маюць кепскі слых. Скажаш ім: «Слава Езусу» — божага імя яны, пыхатыя, не чуюць. Але затое варта камусьці ў іхняй кампаніі трахнуць — яны пачуюць адразу. Кожнаму сваё. Кожны чуе тое, да чаго найбольш звык. Іхнія вушы прыстасаваныя не для гучання божага імя, а для больш нізкіх гукаў. Вусны іхнія забылі, як вымаўляецца слова «Езус», і памятаюць толькі словы: «Ф-фу, хамства».

І вось ён ехаў побач са мной і звягаў. А я маўчаў. Аж датуль, пакуль ён не сказаў нешта наконт таго, што хай ён не будзе Тадэем Квясткгайлам, калі не прымусіць мяне заплаціць. Толькі тады, учуўшы брыдкае богу ягонае імя, я зрабіў ласку адказаць і кінуў:

— Што твая «гарэнда» перад шляхецкім гонарам? Тфу!

Тады ён пачаў непрыстойна выхваляцца сваім захудалым шляхецтвам. І я сказаў яму з годнасцю:

— Тфу ты, а не шляхта! Вы з лясоў жмойскіх прыйшлі. Вы пісьма не ведалі, а Роскашы — карэнныя тутэйшыя. Вы на мядзведзях жаніліся, калі нас князь Усяслаў у лыцары вялебна ўсвяціў.

— Брэшаш. Мы вас заваявалі.

— Гэта мы вас заваявалі,— кажу.— На чыёй мове гаворыш, дзікун?!

Яму няма чым адказваць.

— Давай,— крычыць,— грошы!

А я яму, як соллю ў вочы, праўду:

— Вы ад Гедыміна па пятай бакавой малодшай лініі, а я ад Усяслава Полацкага — па другой. Тфу тваё дваранства перад маім!

— Хам! — насмеліўся ён.

— Дзікуны вы. З быдлам вы спалі ў круглых халупах сваіх. У шкурах хадзілі вы!

— Мужык!

Тут я, нібы праполваючы, выдраў чартапалох, святую нашу гербавую расліну, і сунуў яго пад хвост хамскаму каню гэтага хамскага нібы магната. Конь гэты даў свечку, і той вылецеў з сядла і бразнуўся ўсім целам аб раллю... І ён яшчэ казаў, што дваранін. Ды дваранін нізавошта б з каня не ўпаў — хіба што толькі зусім п'яны.

Я стаў над ім — не рухаецца.

— Я т-табе дам «мужык»,— спакойна сказаў я. Падумаў трохі, а потым выпраг каня, каб не пакутавала жывёліна, пацалаваў у храпу вернага свайго баявога сябра дый пайшоў па раллі да пушчы.

Перад Лотрам стаяў чарговы са святога сямейства. Той самы боўдзіла, што граў у містэрыі Хрыста. Ён перамінаўся з нагі на нагу, і падлога стагнала пад ім. Цяпер на ім не было залацістага парыка. Свае валасы, бруднавата-рыжыя ў іржу, былі зблытаныя. Лоб нізкі. Надброўныя дугі вялізныя. Тупаваты, але даволі дабрадушны твар — увасабленне флегмы.

— А ты? — спытаў Лотр.

— Гэна... Я? — спытаў, нібы здзівіўшыся, целяпень.

— Гэна... ты,— сказаў кардынал.

— Акіла Кіёвы,— сказаў чалавек.

— Распавядай,— сказаў Балвановіч.

Целяпень плямкаў вуснамі, як мень.

## АПАВЯДАННЕ АКІЛЫ КІЁВАГА

— Гэна... А я што? Я лесаруб... Прыстаў да іх, хай яно... Лесаруб я... Хаціну меў... гэткую... Ледзь, можа, болей... ну... за дупло... З хаціны... як жа яно... сагналі... Лес стаў запаветны... каралеўскі... Ну і потым, я на зборшчыка падаткаў выпадкова дуб пусціў. Спляжаны. І не сказаць, каб вялікі быў дуб.

Так год на семдзесят. Ды, мабыць, трапіў па голым месцы.

— Нішто сабе,— сказаў Лотр.

— Гэна... А чаго «нішто»? На мяне аднаечы стогадовы ўпаў. І нічога. Часам толькі... як жа яго... гэна... у вушах страляе.

— М-м,— у адчаі замычаў Басяцкі.

— Клянуся маці божай і святым Міхалам,— упадаючы раптам у прыпадак гневу, сказаў Пархвер,— вось каго проста і бог не дазволіць пакінуць без вогнішча. Ягоны тлушч адзін каштуе больш, чым усё ягонае вартае жалю жыццё.

— Гэна... А чаго маё... гэта... жыццё... Яно мне — нічога.

І тут раптам ускіпеў Багдан:

— Ты... хамуйла... Які ж ты тхор!.. Я пачынаю сівець, ты, шчанюк, і яшчэ нікога не дапікнуў жыццём. Мы памром. Але ты, вось так дакараючы людзей самым каштоўным, што ім дадзена, памрэш раней. А калі дажывеш да маіх год і не атрымаеш плахі ў загрывак ці стралы ў тэльбух — значыць, беларусы сталі быдлам і іхняя высокай пробы храбрасць памерла.

Роскаш быў такі страшны, што, баючыся праклёну асуджанага, у які тады верылі значна больш, чым цяпер, суддзі змоўчалі, і нават Пархвер сцішыў свой гнеў.

— Добра,— ціха сказаў Лотр.— Ну, а ты... наступны?

Наступны, чалавечак год пад сорак, гарбаносы, са сквапным ротам у сетцы буйных жорсткіх зморшчын, з шэрымі, адначасова фанатычнымі і сварлівымі вачыма, раптам закрычаў нейкім бязглузда-страсным голасам:

— А што наступны?! Што наступны?! — Вочы ягоныя бегалі.

— Ну, ты што? — спытаў Басяцкі.— Можа, хаця ты сумленны чалавек?

— Чаго сумленны?! Нашто?! Сярод такіх людцаў ды сумленны?! Я не сумленны, я — мытар! Мытнік я! Мытар!.. Данель Кадушкевіч маё прозвішча.

Братчык усміхнуўся.

— Чаго ж ты з мытараў пайшоў? — у мядзведжых

Балвановічавых вочках бліснула цікавасць.— Праца пачэсная... Харошая... Сам апостал Мацей быў мытар.

АПАВЯДАННЕ ДАНЕЛЯ КАДУШКЕВІЧА

— А што Мацей?! Што Мацей?! Яму, старой перачніцы, добра было. Яго бог да сябе прыблізіў. Ён цуды бачыў. А я нават звера Какадрыла толькі ў гішпанскай кніжцы глядзеў. І манаха марскога не бачыў. Чаго з мытараў пайшоў? А таго. Абрыдла ўсё. Раніцай устанеш, часам памыешся, пад'ясі. А што за ежа? А дзярмо ў нас ежа! Продкі тура елі — хаця б табе тут турыны капыт. Зямля аскудзела. Дзіваў мала. А што?! Няпраўда?! Захоча чалавек разнасол з'есці, звычайнае, скажам, зубрынае вымя, чаго дзяды і за ежу не лічылі, а яму пруць кожан дзень мядзведжую шынку або чорнага бусла. А ён мне абрыднуў, як гнілая рыба... А потым ідзеш мыт браць, вазы чапамі мацаць, каб не везлі недазволенага. А чаго яны там вязуць? Хіба гарэлку?! Няма таго, каб нешта такое, ну, гэтакае... Каб аж вочы на лоб палезлі. Ну, хаця б нейкага там аднарога... А потым дадому ды дадому, ды зноў есці, ды вячэраць, ды жонцы пад бок. Хаця б жонка нейкая... такая... дык не — баба... Каб жа ж гэта яна — мурынка, або... русалка, ці што, або, на горшы выпадак, турэцкая княгіня. Абрыдла мне ўсё. Есці абрыдла, мыта абрыдла, жонка абрыдла. У іншых краінах дзівы здараюцца, каметы кожны дзень, зямля цераз ноч трасецца, у небе тым розныя знакі. А ў нас толькі што цмокі ў Лепельскім возеры паздыхалі, дык я і тых не бачыў... Кінуў я ўсё... Лухта ўсё, лухта! Дзіва бы мне, дзіва,— няма дзіва. Я, можа, увогуле пракорам быць хацеў, а мне — мытарам. А што?! Тфу, вось што.

Лотр паціснуў плячыма. Паказаў на лысага Мірона Жарнакрута:

— Ну, доўга не будзем тут языком мянціць. Вячэраць час. А пра цябе я і так усё ведаю. Былі вы камедыянты. Выгналі цябе за бяздарнасць. Ты пайшоў, а паколькі ўсе спалі, то ты і фурген з вопраткай і іншым з сабою прыхваціў.

Лысы Жарнакрут падціснуў вусны. Вакол іх сабралася мноства зморшчынак, і рот стаў нагадваць зашмаргу каліты. Такія раты бываюць толькі ў з'едлівых і скупых да апошняга людзей.

— Я-як за бяздарнасць?! — спытаў Мірон, і голас ягоны зарыпеў, нібы нехта сапраўды пачаў круціць жорны.— Я?! За бяздарнасць?!

Бровы ягоныя палезлі на лоб, у вачах з'явіўся гнеў. Зашмарга каліты распусцілася, паказаўшы жоўтыя рэдкія зубы. Твар стаў падобны на бяздарна зробленую трагічную маску. Ён засмяяўся, і гэты смех спачатку рыпеў, як жорны, а потым перайшоў у трагічнае «ха-ха-ха».

— Ды я!.. Ды яны... Самі вы бездары. Вось, глядзіце! — Мірон стаў у позу.

Дакуль ты будзеш...

Нібы нясцерпна зарыпелі жорны. Праўдзівей, стары вятрак. Бо ліцадзей не толькі рыпеў, але яшчэ і шалёна махаў рукамі ў паветры.

Дакуль ты будзеш, Саўл,
Дом Езусаў шматаць,
Мужоў па стогнах... э-э... цягнуць
І ў турму саджаць?

— До! — залямантаваў раптам Лотр.— До, до, до! Гэта быў хутчэй крык адчаю, а не гневу.

— Бачыце? І вы не вытрымалі, правялебнасць,— задаволена сказаў Мірон.— Здольнасць таму што. А вы кажаце — бездар.

— Наступны! — раз'юшана і амаль непрытомна закрычаў Лотр.— За адно гэта з вас з усіх галовы пасцінаць трэба.

Бамбіза, даўжынёй з ангельскую мілю, зрабіў крок наперад і гукнуў. Асавелыя вочкі; падстрыжаны па-бурсацку, у доўгай, да пят, бурсацкай світцы пад хітонам і, дзіўна, з мордаю мамчынага сынка, нягледзячы на ўзрост. Нос панылы, куцейны.

— Jacobus sum,— сказаў ён.— Якуб Шалфейчык аз. Быў бы дыякан, ды толькі цяпер ужо не памятаю, ці мяне з бурсы выперлі, ці з дыяканаў ужо расстрыглі... Памяць мая, дзякуючы хваробе маёй, а значыцца, і богу — tabula rasa, чыстая дошка... Ік... Suum cuique

кожнаму сваё. Адны п'юць і блукаюць у завулках. Другія носяць чырвоныя мантыі.

— Ты заўтра раніцай таксама атрымаеш чырвоную мантыю,— сказаў Пархвер.— Зыркую мантыю.

— Pollice verso[1],— сказаў бамбіза.

— Прахвост ты,— сказаў Лотр.— Валацуга ты, а не дыякан.

— Не верыце? Дык вось... «Ангел вапіяша благадатней: «Чыстая дзева, радуйся».

Голас быў страшэнны, мядзведжы, яловы. Ён біў па галаве і нібыта пакідаў сотні скабак у вушах. Гаслі свечы. Дрыжала і дзерлася слюда ў вокнах.

— «І пакі рэку-у!!!»

Якуб устаў на дыбачкі, наліўся крывёй. Нехта нябачны пачаў гартаць адразу ўсе кнігі на стале, за якім сядзелі суддзі.

— Хопіць. Па-мойму, гэта не «ангел вапіяша», а падземны дух, копша,— сказаў Басяцкі.— Наступны!

Наступны выйшаў з рада. У ягоным хітоне было, бадай што, больш дзірак, чым у хітонах усіх астатніх. Варушыліся ў шырокіх драных рукавах спрытныя, нібы зусім без костак, доўгія пальцы рук. Каўнер ягонага хітона быў падобны на манашы, шырокі, у складках, і ў гэтым каўняры, нібы ў глыбокай місе, ляжала правільна-круглая галава з рэдкімі, у некалькі кучаравых валасоў, вусамі. Тая галава была надзіва пыхлівая, з хуткімі жывымі вочкамі, з такой вялізнай верхняй губой, нібы чалавек заўсёды трымаў пад ёю ўласны язык. Гэта, аднак, была няпраўда: язык гэты боўтаўся і званіў, як хацеў.

— Глядзіце,— шапянуў Лотр.— Галава, якая гаворыць.

Басяцкі ўсміхнуўся:

— Уценьце гловы свентэго Яна, даруй мне, грэшнаму.

— Су́дзіце вы нас не як суддзі ізраільскія. Няправедна судзіце. А самі не чулі, хто такі Ян Каток.— І ён ударыў сябе шчыпоццю ў грудзі.— Утучняеце сябе, нібыта свінні непатрэбныя, а не ведаеце, што і храм божы не гэтак для душы ўратавальны, як я.

[1] «Апусціўшы данізу вялікі палец». У сэнсе: «Дабі яго».

Ён палез у кішэнь і дастаў адтуль голуба. Галасна зашаптаў яму «на вуха»:

— Ляці да пана бога. Скажы: фокусніка самой маткі боскай судзяць.

Падкінуў голуба, і той вылецеў у акно.

Каток чакаў. Потым аднекуль, і здавалася — з ягонага зада, пачалі гучаць струны арфы. Фокуснік нібы прыслухоўваўся да іх:

— Га? Га? Кажаш, не за тое, што трэба, судзяць? Правільна, не за тое. Кажаш, адмечу цябе дабратворнасцю? Адмячай, адмячай.

У Карнілы, а потым і ва ўсіх, палезлі на лоб вочы: проста з ілба ў Яна Катка вырас і пацягнуўся ўгору куст ружаў, якія струменілі ззянне і водар.

— Ммм-а,— зажмурыўся Жаба.

— І яшчэ прагну раскошы тваёй...

Вакол бандыцкай морды запалаў зорны німб. Каток склаў рукі на грудзях і заплюшчыў вочы. І тут успыхнуў рогат. Фокуснік азірнуўся і плюнуў. У тонкай ягонай механіцы нешта не так спрацавала.

— У Яна Катка вырас вялізны і зіхоткі павін хвост.

— Тфу. Памылачка атрымалася.

— А казаў жа я... Пі... піць не трэба было.

— І ўрэшце ты, апошні,— сказаў цыганаватаму кардынал.— І хутчэй. Бо першая варта ідзе да канца.

— Пане божа,— уздыхнуў Лявон.— То ж бо, гляджу, я аж раз'юшыўся, так есці хачу.

— Нагаду-уюць вас,— іранічна сказаў Лотр.— Назаўсёды нагадуюць... Ну, кажы.

Вясёлы чорны чалавек відавочна махлярыў, нават вачыма.

— Я Міхал Іліяш. Майстра на ўсе рукі.

Ягоны рот усміхаўся вуснамі, зубамі, мускуламі шчок. Дрыжэлі, нібы ад затоенага смеху, бровы.

## АПАВЯДАННЕ МІХАЛА ІЛІЯША

— Спачатку я... гм... гандляваў конямі... У мяне бабуля цыганка. Каралева краіны Цыганіі. Тут ужо нічога не зробіш. Супраць крыві не папрэш. Так наканавана, і гэта яшчэ Ян Багаслоў казаў, калі ўвесь іхні апостальскі хаўрус абвінавацілі ў канакрадстве.

— Няпраўда,— сказаў Камар.— Якое там яшчэ канакрадства? Іх не за тое...

— Хэ! А як яны белага асла дасталі? Бог ім сказаў, а яны пайшлі браць, а гаспадары спыталі, нашто ім асёл... А тыя ўзялі. То конь асёл ці не? Конь. То што вам яшчэ трэба? Шкада толькі, што так павольна дабрэе чалавек. Тады пану богу нашаму за гэта некалькі калоў загналі. Цяпер беднаму цыгану заганяюць адзін, але так, што гэта не лягчэй, і ніякага я тут поступу не бачу... Але дзед мой і маці з бацем былі тутэйшыя... Кінуў я гэты занятак. Нездаровы занятак дужа. Пайшоў прафесарам у акадэмію.

— Дабрэча ты іх, відаць, вучыў,— сказаў Басяцкі.

— А чаго? Студэнты ў мяне былі цямлівыя, кемныя. Як, скажам, вы. Налажыліся да сваёй вучобы лепей, чым пан нунцый да латыні. Бывала, прыйдзе такі дзікі — жах. А там, глядзіш, і нічога.

І вось аднойчы стаю я на акадэмічным двары з улюбёным сваім студэнтам, Міхасём, ды вучу яго: «Так, братка. Ану, паўтарэнне. Яно, братка, матэр студыёрум. Ану, дыяканскую велікодную службу... Ды, так, ведаеш, каб зразумела было, што п'яны».

— Глупства кажа,— сказаў Камар.— П'янству ніякага дыякана вучыць не трэба. Гэта ў іх у крыві.

— Міхась лапы счапіў ды як раўне.

— Чакай, якія лапы? — абалдзела спытаў Лотр.

— Дык я ж, бацю, у якой акадэміі выкладаў? Я ў Смаргонскай. Я мядзведзяў вучыў. І такі гэты Міхал быў кемны, такі здаравеня!

Пасля велікоднай службы я яму і кажу:

— Так. Ану, пакажы, як нашы панкі да сябе дабро грабуць?

— Ён і тут усё ведае. Сеў на пілавінне з пяском і пачаў яго да сябе лапамі грэбці. Азвярэла грабе.

Гэты самы пясок з пілавіннем мяне і падвёў. Прыглушыў конскія крокі. Загадваю гэта я, а за маёй спіною стаяць трох коннікаў. І галоўны з іх пан — гетман Агінскі.

— Э-эх,— кажу,— Міхась. Ты мацней, весялей грабі. Панскага размаху ў цябе няма.

Міхал лапамі мацней замахаў. І тут мне ззаду — карбачом між вушэй. І ўбачыў я ў адну хвіліну і Частагоў, і матку Астрабрамскую, і ўсе чыста, колькі іх ні ёсць, цэрквы дый мячэці. Таму што цыганы

заўсёды былі той веры, якая ў той вёсцы, ля якой стаў табар.

— Пане гетман,— крычу,— пане... Міхал! Міхал! Ану пакажы, які пан Агінскі смелы, ды прыгожы, ды мужны на вайне.

Тут яно і здарылася. Ад многай навукі мядзведзь адурэў. Ці то ён зблытаў з бабай, якую муж з іншым заспеў, ці дужа быў разумны — толькі схапіўся ён за жывот і зароў. А потым пачаў стагнаць і качацца на пяску.

Гетман — за меч. І было б тут два Іліяшы, ды я раптам... убачыў... паказваю рукой:

— Бацюхны, глядзіце!

На Іліяшавым твары быў такі нясцерпны жах, што сінедрыён увесь нібы сціснуўся, гледзячы туды, куды ён паказваў. У наступны момант усе пачулі, як Карніла ціха сказаў: «Гэ-э, брэшаш...» Усе зноў павярнуліся. Сотнік ля дзвярэй трымаў Іліяша за шкірку.

— Ды не ўцякаю я. Гэта я вам проста паказаць хацеў, як я тады ўцёк. Яны ўсе азірнуліся, а я скочыў цераз плот і кінуўся бегчы, як ніводны ніколі не бегаў. Яны за мной. Я ад іх. Лесам. Да Віллі.

...Скочыў я са стромы да ракі і пакаціўся. І тут убачыў човен, а ў ім дванаццаць чалавек.

— Браткі, ратуйце!

...Коннікі выскачылі на крутаяр... Але човен з намі ўжо закруціла, панесла сястрычка Вілля.

Пасля хвіліны маўчання Лотр сказаў ціха:

— Што ж. Самазванства, спроба выдаць сябе бог ведае за каго. Твая, Братчык, ерэтычная дабрыня да іншаземцаў, твае сумненні ў веры... І тое, што ты разам з іудзеем, начальнікаў у народзе тваім зласловіў, і адкупшчыкаў асуджаў.

— І тое, што совы лёталі над галавою,— сказаў Басяцкі.— І мача, якой зубы паласкаў.

— І тое, што падбілі чатырох прыгонных уцячы ад пана і заклікалі Біблію і Евангелле самім, без папа чытаць,— сказаў Балвановіч.

— І тое, што папсавалі панскую маёмасць,— сказаў Жаба.— І ганьбілі нябожчыка караля, хлусліва сцвярджаючы ману.

— І казалі ерась аб шчупаку,— сказаў Камар.— І праз гэтага шляхцюка абражалі магнатаў і суд, называючы іх хамамі.

— За дуб, што ўпаў на зборшчыка,— сказаў Лотр.

— За тое, што знакаў чакалі нябесных, калі іх саміх чакала мытарская служба,— сказаў Балвановіч.

— За блюзнерства і апаганьванне брыдкімі фокусамі імя божага і тое, што арфы нябеснага Ерусаліма гралі ў яго ў непадыходзячым месцы,— сказаў Балвановіч.— І за абразу гетману... Па ўсіх грахах вашых адно вам пакаранне.

Хаўруснікі апускалі галовы ніжэй і ніжэй. Усё было ясна.

— Смерць,— сказаў Лотр.— Страта. Заўтра. На світанні.

Раздзел X

## ХРЫСТОС ПРЫЙШОЎ У ГАРОДНЮ

І вялікі жах апанаваў усю царкву.
*Дзеянні, гл. 5, ст. 11*

І тады сэр Хуг і яго капелан,
Пачуўшы, што латнікі ў дзверы б'юць,
Згаварыліся на вялікі падман —
Не для бога, а ў славу сваю.
*Старажытная балада*

У моры агню валіла да Замкавай гары гурма. Шчацінілася нажамі, косамі, пожагамі, старымі фузіямі, друкамі. Пусцелі дарогаю дамы, будынкі цэхаў. Выпаўзалі з зямлянак, падобных на норы, жабракі, у валасах іхніх была салома і сухое лісце, а ў руках вострыя кіі.

Скакала над галовамі мора агню.

— Хрыстос прыйшоў у Гародню!

— Багатыя Хрыста забіваюць!

Як шырокая рака ў цясніну, натоўп лінуў на мост. Варта не чакала нападу такой колькасці народу і спехам пабегла ў замак. Ратавацца.

Нібы вострая сківіца, упалі за імі краты. Тыя, што нападалі, пачалі пускаць праз іх стрэлы, але ўжо за кратамі павольна сталі змыкацца цяжкія, акутыя бронзавай луской, двухсотпудовыя палавінкі брамы.

Яшчэ праз хвіліну, адразаючы брамныя краты, глуха — бо на жывое — ляснулася зверху суцэльная брама — заслон.

Зянону здзерла скуру з пляча. З-пад ніжняга краю заслона цяклі стогны і змаўкалі па меры таго, як заслон апускаўся пад уласнай вагой.

— Бервяно! — нема крыкнуў мужык.— Бервяно, бервяно сюды!

І яно з'явілася. Нечыя рукі падсунулі яго пад ніжні абрэз заслона, спынілі ягоны павольны спуск. Сяк-так, падклаўшы яшчэ пару бярвенняў, удалося выцягнуць чалавек шэсць, напалову мёртвых, напалову знявечаных. Толькі тут Зянон зразумеў, адкуль бярвенні. Мяшчане і рамеснікі разнеслі па бервяну перадмостную вартоўню. Цягнулі бярвенні на мост.

І тут сярэдзіна моста — спознена — пачала была ўздымацца. Рыпелі ў брамнай вежы вароты, ляскалі ланцугі. Але варта ўзялася за гэта позна. Пад цяжарам людзей, што стаялі на ім, пад'ёмная частка моста толькі ўздыхала: падымалася трохі і ляскалася на месца пад акампанемент глухога «р-р-р» у вежы. Гэта калаўроты, не ў змозе трымаць цяжар, спускалі з сябе ланцугі.

Некалькі чалавек звалілася ў роў. Астатнія па загаду майстра на ўсе рукі, Гіава Турая, паклалі некалькі бярвенняў упоперак моста і ўвагналі іх канцамі ў схілы рова. Цяпер мост нельга было ўзняць.

Кірык Вястун махнуў рукою. У шчыліну пад заслонай пачалі торкаць бярвенні, складаць сістэму падважнікаў, павольна ўздымаць жалезную пліту, кастром падкладаючы пад яе плаху за плахай. Урэшце заслону ўдалося ўзняць на такую вышыню, каб спакойна прайшоў чалавек з дзідай.

З вежы паспрабавалі былі страляць — у адказ паляцеў каменны град.

Прашчнікі не давалі нікому ўзняць галавы.

Пачалі дзярбаніць у краты бярвеннямі. Нешта глуха дрыжэла, бухала ў чэраве вежы. На галовы тых, што таранілі, градам, бобам абсыпалася цамянка. Крычаў, наддзіраўся, распараджаючыся, Кірык Вястун.

Краты ўжо амаль выбілі. І тут з верхніх прадушын паліліся на людзей расплаўленае масла і гарачая смала. Толькі што, відаць, растапілі. Шчасце, што паспелі

выскачыць з лёгкімі апёкамі ды спаленымі валасамі і ніхто асабліва не пацярпеў.

Абложнікі стаялі ля варот і не ведалі, што ім рабіць. Урэшце частка людзей, на чале з Маркам і Ціхонам Вусам, пабегла па лесвіцы. Несці іх трэба было здалёк, з цэха муляраў на вуліцы Адвесу.

Для жаху прашчнікі ўсё яшчэ кідалі на вежу камяні. Усе чорныя, у куродыме, людзі стаялі перад брамай і гублялі залаты час.

І тут каваль, якому не цярпелася, убачыў раптам вялізную купу вільготнай гліны ля размётанай вартоўні. Відаць, прывезлі, каб абмазаць сцены, якіх ужо не было.

— А што, хлопцы,— выскаліў зубы Вястун,— прапалі сцены, то няхай і абмазка прападзе? Ану, скочце, хлопцы, ды здыміце трох-чатырох першых-лепшых варот.

Яго зразумелі. Яго надзіва хутка зразумелі. Нібы ён усё жыццё толькі і вадзіў войска. Чуйдух прыцягнулі знятыя вароты, тоўстым слоем пачалі раскладаць па іх мокрую гліну.

Дзякуючы прашчнаму дажджу варта не бачыла, што ёй рыхтуюць. Дый пара з дымам засціла байніцы верхняга і ніжняга бою.

Палавінкі варот узнялі на латы і бярвенні, панеслі ў цёмны тунель, пад арку. Пасля, пад прыкрыццём мокрай гліны і дрэва, туды ж рушылі тараншчыкі з бярвеннямі наперавес.

Хутка вежа зноў здрыганулася ад глухіх страшных удараў. Цяжка білі тры бервяны ў лускаватую паверхню брамы, мачаліліся аб бронзу, расколваліся аб доўгія — у локаць — шыпы, што тырчэлі сям і там.

Тады зноў паліліся масла і смала. Ліліся на гліну, курэлі, сцякалі пад ногі. Ланцуг людзей ледзь паспяваў перадаваць з рова вёдры смярдзючай вады і ліць іх пад ногі абложнікам. Сычэла пара. Людзі працавалі, бы ў пекле. Зянон загадваў біць у тыя месцы, дзе было дрэва, між бронзавай луской. Удары паступова расхіствалі браму, калывалі петлі, абсыпалі цамянку. Але ўсё адно было зразумела: біць давядзецца гадзіны тры, дый тое, ці зламаеш яшчэ. Моцная была брама, і, каб напад не быў такі нечаканы, з самага горада, а не з-за валоў, замак ніхто б не ўзяў, як не бралі яго ворагі.

А тут што ж? Проста разгубілася варта.

Брама пачынала трашчаць. І тут здарылася тое, што ледзь не пагубіла справы.

Некаторы час усе чулі, як нешта грукоча ў верхнім жыллі брамнай вежы. Думалі, што цягаюць катлы. І раптам з акна верхняга бою высунуўся хобат, вельмі падобны на гарматны. Натоўп зарагатаў. Праз байніцу верхняга бою канон мог плюнуць, але па Старым рынку, па камяніцы дамініканцаў, туды, дзе зусім не было людзей, над іхнімі галовамі, далёка.

Абложнікі весела скакалі на мосце і на перадмостным пляцы.

Кляонік паспрабаваў нешта крыкнуць — яго не ўчулі. І раптам хобат рыгнуў доўгай спадзістай паласою агню. Чорна-чырвоным струменем, з якога падаў уніз агнявы дождж.

Рогат змяніўся стогнамі, енкамі і крыкамі жаху. Людзі кінуліся прэч. Сярод агню, які заліваў мост, курчылася з дзесятак цел. І адразу рык гневу даляцеў адусюль. Народ зноў кінуўся да брамы, і хобат зноў плюнуў, на гэты раз бліжэй. Людзі кінуліся з моста.

— Стойце! — Кляонік выбег з тунеля.— Стойце! Стойце, брыдкія вы! Стойце! Гэта агнявы канон! Ён толькі два разы плюецца! Потым яму стынуць трэба. Іначай выбухне ў вежы.

Ён біў тых, што ўцякалі, дрэўцам дзіды.

— Яны не будуць адразу! Ды стойце ж! Яны не рызыкнуць спаліць сябе.

Нібы ў адказ на ягоныя словы, з верхняй прадушыны бухнуў у брамны тунель другі вогненна-дымны язык. Людзі пабеглі адтуль, бо гарачая нафта і агонь пацяклі па мурах на брук... І яшчэ плявок. Туды ж.

Тыя, што таранілі, прыбеглі ў страшным выглядзе. Закураныя, як вугаль, без броваў, без вей. У некаторых амаль не было на нагах портак. Двое мацалі паветра:

— Вочы мае! Вочы! Вочы!

Шчасце, што гліна зберагла ад прамога агню. Але ўсё адно ўвайсці ў браму цяпер было нельга. Адтуль валіў дым, цяклі агнявыя ручаі нафты. Потым нешта бухнула. Чорны з залатымі пражылкамі, зменлівы шар вылецеў адтуль. Гэта абваліўся памост-прыкрыццё.

— Кляонік,— разгублена спытаў Вястун,— гэта што ж? Пекла?

Разьбяр сурова сціснуў вялікі прыгожы рот. Залацістая хмара валасоў была брудная ад куродыму.

— Навіну завялі. «Аршанскі агонь»... Выдаў-такі ім нехта таямніцу. Не думаў, што застаўся хоць адзін знаўца. Ведаеш, чаму калісьці Літва аршанскае Благавешчанне доўга ўзяць не магла? Вось з-за гэтага.

— Ды што ж гэта?! — ледзь не плакаў ад адчаю каваль.

— А я і сам дакладна не ведаю. Кажуць, на Дняпры часам ля берагоў вада масленая. Гэта каменны алей плыве. Невядома ўжо, з чаго яго падземны валадар душыць. З цмокаў, можа, ці з волатаў. А мо і сапраўды з камянёў. На Куцейне, ля Ларынавай дубровы цячэ ён, братка, кажуць, нават струменьчыкам, з пруток таўшчынёй. Манахі ім у пячорах свецяць. Вось, кажуць, яны і прыдумалі.

Агонь на мосце згасаў. Але камяні былі ўкрытыя нібы акалінай.

— Зрабілі нібыта каменную кадушку, паставілі высока. З яе вывелі такую вось трубу. Над ёй, ля самага зрэзу, сталёвае кола ды крэмень, а ад яго — жалезны пруток. А ў кадушку — гэтае д'яблава масла. А над ёю — такі жом, як з арэхаў ці з яблыкаў масла ці сок выціскаюць, можа, бачыў. На падважнік націснуць, за пруток нехта таргане — вось яно і плюе. Недалёка, брат, а страшна. Але толькі і можа плюнуць, што двойчы. Раз ды яшчэ другі, да канца падважнік апусціўшы.

Падумаў.

— У іх, відаць, два было... Бацька Фаўстыны казаў. Ён там зялезных спраў майстра. Во, брат, халера. Думаў — згарым.

— То што мы стаім тут? — спытаў злосны ад апёкаў Зянон.

— Цяпер, пакуль не астыне, гэтай халеры ў кадушку заліваць нельга.

У браме ўсё яшчэ гарэла. І раптам цёмна-сінія Кляонікавы вочы гарэзліва бліснулі.

— Разбірай яшчэ адну хату.

— Чаго? —спытаў Зянон.

— Разбірай, кажу.

Каваль з групай людзей пабег да першай у шэрагу хаты. Скора пасыпаліся бярвенні.

— Асцярожна! — закрычаў разьбяр.— Не хапала яшчэ, каб прыдушыла! За мной.

Людзі з бярвеннямі на плячах пабеглі да брамы. У байніцах верхняга бою з'явіліся галовы. Са здзіўленнем глядзелі на дурняў, якія зноў, у дыме, пасля такога пачастунку збіраюцца тараніць браму.

І ўсё ж абаронцы заспяшаліся. Над хобатам агнявога канона з'явілася вядро. Прашчнікі падрыхтаваліся біць.

— Не чапайце іх! — крыкнуў Кляонік.— Хай студзяць!

Канон ахутаўся парай. Клубы яе са свістам ірвануліся ўгору. У паветры задушліва і кісла запахла воцатам.

Кляонік зусім не збіраўся тараніць браму. Па яго-ных указаннях людзі проста разгойдвалі бярвенні, кідалі іх у прорву брамы і беглі назад. У дыме і пары абаронцам кепска было відаць, што яны там такое робяць. Разьбяр гайдаў кастры бярвенняў пад заслонай.

Нават воцат кепска студзіў разжараны метал. І тады варта зноў пусціла ў прадушыны гарачае масла і смалу. У цёмным тунелі на хвіліну засычэла і пацьмянела.

Кляонік з апошнімі падручнымі з усёй сілы кінуўся бегчы прэч ад моста. Яму зусім не хацелася засквапыцца зажыва, калі зноў плюне «аршанскі агонь».

Павольна цяклі хвіліны. Прыбеглі людзі з лесвіцамі. Марка і Ціхон Вус паперадзе ўсіх спусціліся ў зялёную, смярдзючую ваду рва, палезлі да муроў.

На зубцах у тым месцы, дзе прыстаўлялі драбіны, з'явілася варта ў кальчугах. Крычаў на іх, машучы рукамі, сотнік Карніла, разяўляў рот. Да ног абаронцаў паўзлі па сценах, падалі на іх лесвіцы. Варта кінулася разгойдваць, скідаць іх з муроў. Доўгія жэрдкі ўжо ўперліся ў адну, дрыжучы, адштурхнулі разам з тымі, хто лез.

І ў гэты момант заляскалі па бычыных скураных рукавіцах цяцівы лукаў. Пяць з лішнім дзесяткаў лучнікаў пачалі з-за рова страляць па зубцах. Узвілася над імі дудная песня. Трыумфавала, захлыналася. Стрэлы заляскаталі па зубцах. Варту нібы змяло. Відаць, падбадзёрваючы яе, узнік між зубцоў сотнік.

Стаяў тварам да ваяў, якія перапалохаліся, трос мячом у паветры.

Звякнула нечая цеціва — Карніла пахіснуўся і знік. Дождж са стрэл размерана, шэсць разоў на хвіліну, не рэдка і не часта, як то належыць пры аблозе, падаў на зубцы. Цяпер па лесвіцах лезлі не баючыся.

...Кляонік між тым зразумеў: «Час!»

— Хлопцы,— загарланіў ён шалёна.— На злом!!!

Крык падхапілі. Людзі павольна рушылі наперад. Павольна, бо чакалі, што вось-вось плюне агнём канон.

І струмень «аршанскага агню» зноў узвіўся ў паветра. Зарана. Людзі не трапілі пад яго. Варта не вытрымала і пасяшалася.

Зноў зарыкаў агнявы шквал. І, нібы не вытрымаўшы ягонага напору, бабухнулася ўніз жалезная брама. Фырнулі, паляцелі з-пад яе галавешкі, бярвенне, жар.

Не зразумеўшы, у чым справа, адчуўшы толькі, як здрыганулася вежа, абаронцы, напэўна, падумалі, што гэта тараняць браму, жадаючы хоць некуды выбрацца з тунеля, заспетыя там полымем абложнікі.

Стрэліў у тунель брамы другі канон. У амаль наглуха закаркаваным праходзе выбухнулі вылітыя раней масла і смала.

Глуха, страшна ахнула нешта. Заслона ўспучылася і ўпала. У клубах агню і дыму рванула штосьці — нібы з гарматнага жарала. З грукатам паляцелі адтуль уламкі кратаў. У паветры свісцела, выбухала, раўло. Агнявыя галкі з шыпам ляцелі ў роў.

Калі дым трохі разышоўся, людзі ўбачылі, што пярэдні мур вежы трохі рассеўся, што з яго і з байніц дымее. І яшчэ ўбачылі агнявое пекла ў брамным тунелі. Унутраная брама ўстаяла. Нават выбух не вываліў, а выбіў яе. Але затое яна палала зыркім гарачым полымем.

— Вось яно,— сказаў Вястун.— Трохі-трохі счакаем, яна і ўпадзе.

З палаючых палавінак ляцелі жарынкі, пырскала расплаўленай бронзай. Абаронцы, відаць, толькі тут апрытомнелі і, пэўна, пачалі ліць прадушынамі ваду. Ім удалося трохі збіць агонь, але затое вежа цяпер стаяла ўся ў хмарах дыму і пары.

— Нічога, гэта нам з рукі,— сказаў Вястун.— Хутчэй згасне агонь.

— Гэта нам тым больш з рукі, што яны зараз кідаюць вежу,— сказаў разьбяр.— У такой лазні жывы чалавек не вытрымае.

Над вежаю стаяў сівы, непразрысты слуп. Калыхаўся. Плыў у ноч.

Пан пісар паставіў на лісце апошні подпіс і скруціў яго ў скрутак.

— Ну вось,— сказаў Лотр.— Страта заўтра на Зітхальным гарбе.— Папросту — на Уздыхальніцы... Раніцаю, у канцы апошняй начной варты. Хто хоча апошняе суцяшэнне — будзе яно. Апошняе жаданне...

— Каб вы здохлі ад чумы,— сказаў непапраўны Багдан.

— ...выканаем... Бог з вамі. Ідзіце, грэшныя душы, і няхай злітуецца з вас бог і Марыя-заступніца.

Кат падышоў да Братчыка. Барвяны капюшон быў апушчаны на твар.

— Ідзі,— амаль ласкава сказаў ён.

У гэты момант Пархвер стаў чуйна прыслухоўвацца. Усе насцеражыліся. Скора нават глухаватыя пачулі тупат. Ляснулі дзверы, і ў судную залу ўваліўся Карніла. Закураны, з рагамі бруднага поту на твары, ён смярдзеў дзікім зверам.

— Ваша правялебнасць,— загарлаў ён,— даруйце! Не папярэдзілі! Думалі — куды ім.

— Што такое?

— Народ! Народ патрабуе Хрыста!

Муры ў палацы былі такія тоўстыя, што знадворку сюды дагэтуль не даляцеў ніводны гук.

— Лезуць на замак! — крычаў Карніла.— Браму выбіваюць! Рабаваць будуць!

— «Той, хто бацьку разарае — сын сарамотны і несумленны»,— сказаў Жаба.

— Дык разгані іх,— сказаў Басяцкі.— Схапі.

Карніла падыходзіў да стала неяк дзіўна, не сваімі нагамі, нібыта з ім нешта здарылася. І толькі калі ён выйшаў на святло, усе ўбачылі прычыну гэтага. У сотнікавым задзе тырчала доўгая, багата апераная страла.

— Нельга,— прахрыпеў ён.— Думалі на сцены не пусціць — лезуць. Стрэлы дажджом. А ў замку варты трыццаць чалавек ды паюкоў дваццаць. Астатніх вы самі за царкоўнай дзесяцінай паслалі... Кат, выраж стралу, хутчэй!.. Яна неглыбока.

— Зброду баішся? — пачырванеў Жаба.

— Гэтага «зброду»... не менш як сем соцень.

Усе змоўклі. Вялікі белы сабака, якога прывёў Жаба, панюхаў, падышоўшы, стралу, падціснуў хвост і, стараючыся не стукаць кіпцямі, зашыўся ў кут.

Якраз у гэты момант страшэнны ўдар скалануў будынак. Пасыпаўся са столі пыл.

Гэта быў той самы выбух у галоўнай браме, які разнёс ушчэнт краты і заслону.

Цяпер толькі лічаныя хвіліны вырашалі пытанне. Лічаныя хвіліны аддзялялі гэтых людзей ад імгнення, калі замак падзе.

Брама палала ўваўсю. Сям-там абвалілася ўжо луска і, разжараная, ззяла на плітах, якімі быў забрукаваны под тунеля. Ужо сekліся на зубцах, і мур усё больш расцвітаў агнямі паходняў. Смельчакі ўжо грукаталі па дахах палаца, а Марка і Ціхон Вус у суправаджэнні двух з паходнямі (быў вятох, самы ягоны сход, і іначай біцца было амаль немагчыма, бо можна было забіць сваіх) дзерліся па забрале да Зафеі, каб расчысціць шлях сябрам, калі брама ўпадзе.

Нападаючых было так многа, што сур'ёзнага адпору яны, бадай што, і не бачылі. Калі апошнія абаронцы гэтай часткі мура гарохам пасыпаліся з яго — натоўп, і на мурах, і на плошчы, узняў галас і трыумфальны крык.

— Хрыста! Хрыста вызвалім!

Рык быў такі, што ён даляцеў нават да суднай залы.

— Што рабіць? — шэптам спытаў Лотр.

Ён глядзеў на хаўруснікаў і разумеў, што, акрамя Басяцкага, які задумаўся з чагосьці, спадзявацца тут няма на каго.

— Што рабіць, сябра Лотр? — мядзведжыя вочкі Балвановічавы бегалі.

Раввуні глядзеў на іх з іроніяй.

— Сябра,— вельмі ціха сказаў ён,— хавер. Такі не хавер, а хазер[1]. Хазер Лотр. І гэта, скажам прама, зусім не хавейрым, а хазейрым[2].

Суддзі маўчалі.

— Што ж рабіць? — ціха галаснуў Камар.— Пане божа, што рабіць?!

—...і збіваць грушы,— са злараднасцю шапянуў іудзей непрыстойную прыказку.— Нічога, Юрась, нас заб'юць, але ім таксама будзе...

Цішыня. Толькі раптам усміхнуўся Басяцкі. Хацеў сказаць нешта, але паспеў толькі кінуць:

— Ціха, панове. Нас у Саламанцы вучылі думаць... Ага, вось што...

І тут залямантаваў, раптам здагадаўшыся, Жаба.

— Божа мой, пане! — галасам загаласіў ён.— Бяда будзе! Як казаў Ісайя: «Аголіць пан бог цемя дачок Сіёна і раскрые пан бог сарамату іхнюю».

Жоўты, лісіны езуітаў твар перакрывіўся амаль прыемнай усмешкай. Разумнай і смелай да блюзнерства.

— Рабіць яму больш няма чаго,— непарушальна сказаў Басяцкі.— А што, уласна, крычаць?..

Паказаў белыя вострыя зубы і праз іх кінуў у цішыню:

— Яны патрабуюць Хрыста — дайце ім Хрыста.

— Ды няма ж яго ў наяўнасці! — загарлаў Камар.— Няма Хрыста!

— Маеце рацыю. Хрыста няма.

— Дык...

— А вам абавязкова каб быў сапраўды?

— Ну, як...

— А гэтыя? — і адзін з заснавальнікаў будучага ордэна спакойна паказаў на бадзяг.

— Гэ-этыя?! — абурыўся Лотр.

— Гэтыя,— спакойна сказаў каплан.— Не горшыя за іншых. Скажам, нам строіць дурня, з Хомкі каўпак здымаць, не хочацца. Цалкам натуральна зрабіць з гэтых ерэтыкоў саюзнікаў і імі ўтаймаваць быдла. Вядома, давядзецца дараваць быдлу і дараваць ерэтыкам. Першым — таму, што яны рабілі мілую богу

---

[1] Свіння.
[2] Не таварыства (сяброўства), а кампанія свінняў.

справу. Другім — таму, што гэтыя махляры, яны ж — апосталы.

Усе маўчалі прыгаломшана.

Басяцкі казаў далей:

— Вы палічылі іхняе з'яўленне няшчасцем? Наадварот, сіе сведчыць аб промысле божым...

Ён абвёў разумнымі халоднымі вачыма сяброў. Ва ўсіх членаў сінедрыёна былі не тое каб танзуры, а проста-такі даволі вялікія плешы, і мніх усміхнуўся:

— ...аб тым, што без ягонай волі і волас не ўпадзе з нашай галавы.

Счапіў вузкія нервовыя пальцы:

— У краіне цяжка, неспакойна. Каб не было гэтага «прышэсця» — яго варта было б выдумаць. Толькі наша лянота перашкодзіла нам у гэтым.

— Але як? — усё яшчэ жахаўся такой справы Лотр.

— Dixi et animam meam salvavi[1],— усміхнуўся дамініканец.

Яго зразумелі правільна, хаця і не ў тым сэнсе, які меў на ўвазе аўтар прыказкі.

— Т-так,— сказаў Лотр.— Ну, валацугі, хочаце быць апосталамі?

— Не,— хорам адказалі валацугі.

Усе здзівіліся.

— Т-то бок, як гэта? — спытаў Камар.

— А так,— адказаў Юрась.— Махляры мы, жулікі, гэта праўда. Можам нават сарочку з плота сцягнуць, але апосталамі быць не хочам. Ведаем мы, што такое азначае — звязацца са слугамі Хрыстовымі.

— Праўда што,— загучалі галасы.— Але... Смерцю карайце, а апосталамі быць не хочам...

— А вось гэта мы зараз паглядзім,— ашчэрыўшыся, сказаў Лотр.— Кат!

Чалавек у агністым капюшоне падышоў да схопленых.

— Вядзіце іх.

Варта рушыла да ліцадзеяў і павяла іх да страшных дзвярэй у заднім муры.

...Брама палала, і цяпер яе можна было б лёгка

[1] Я сказаў і ўратаваў сваю душу.

выбіць самым простым ударам бервяна, але падлога тунеля была густа і тоўста, дзюймы на чатыры, засыпана жарам. А тыя, што біліся на мурах, усё яшчэ не маглі зламаць добра ўзброенага ворага, закутага ў латы, і прабіцца да брамы з унутранага боку.

Жар палаў, шугаючы сінімі агнямі.

...Такі самы жар палаў і ў катоўні. Жароўня з ім стаяла проста перад тварамі ў бадзяг. Па скляпеннях скакалі цені. Чырвоная цэгла здавалася крывавай. Чорнай паласой перакрэслівала зарыва бервяно прэнга з цёмнымі раменнымі петлямі. Маскі, што віселі на сценах, здаваліся ад скокаў агню жывымі. І, як маска, што ажыла, стаяў перад валацугамі кат. Ён адкінуў капюшон і застаўся ў лічыне з барвянага шоўку.

На сценах, нібы залітых крывёю, віселі акрамя масак варонкі, шчыпцы, ціскі для ламання рэбраў. Стаялі ля сцен абрыдлівыя, незразумелай формы і прызначэння станкі.

Братчык з непаразуменнем абводзіў усё гэта вачыма. Тут працавалі таксама чалавечая фантазія і ўменне, працаваў чалавечы мозг — і ад усяго гэтага можна было хутка і назаўсёды пазбавіцца веры ў чалавека і ў ягоную будучыню, у ягонае прызначэнне і ў тое, што з гэтай жывёлы калі-небудзь што-небудзь атрымаецца.

Ён не падумаў аб тым, што самое існаванне такога сведчыць аб тым, што ёсць, няхай сабе і рэдка, іншыя людзі, дзеля якіх гэта ўсё існавала. Тут немагчыма было думаць пра гэта. Тут было пекла, тым больш абрыдлівае, што стварылі яго людзі, а не д'яблы.

Жалезныя, з ігламі шлемы... Іспанскія боты... Іншае, невядомае.

...Сучасны чалавек, незнаёмы з сутарэннямі гестапа, асфаліі і іншых падобных устаноў, параўнаў бы ўсё гэта з кабінетам зубнога лекара і тым абрыдлівым пачуццём, той дрыготай, якую выклікала ўсё гэтае начынне ў дзяцінстве... Але гэтыя, па розных прычынах, не ведалі кабінета дантыста, і таму параўноўвалі ўсё гэта з тым, чым яно і было, з катоўняй.

Нельга было паверыць, што такое можа быць між людзей.

...Братчык заплюшчыў вочы і з сілаю ўшчыкнуў сябе.

— Ты што, мазахіст? — спытаў кат.

Гэты голас вярнуў Юрася да прытомнасці.

— Не,— сказаў ён.— Я проста ўсмерчваю плоць... І заадно — веру.

Усё было на месцы. Гэта была праўда. І воласам нявартa было ахвяраваць дзеля ўсяго гэтага быдла, на ўсёй гэтай паршывай зямлі. Хай бы сабе выдахлі.

— Гэ... гэта нашто? — спытаў у тузе Аўтух Конаўка.

— Нельга ж забіць падабенства божае,— разважліва сказаў кат.— Трэба, каб яно раней перастала быць божым.

«Падабенства божае,— думаў Братчык.— Падабенства самога сатаны, вось што... Бруднае быдла... Не Садом і Гамору—усе гарады, усіх вас, усю зямлю трэ было выпаліць агнём і перасеяць новым насеннем».

Ён узняў галаву і аглядзеў усіх. Два-тры вартыя твары, дый на тых жах.

— Хай бы ж яно... гэна... Не хачу,— сказаў Акіла.

— Пачынай, кат,— скамандаваў Лотр.— Ну! Ці на прэнг, ці ў апосталы.

У крывавым святле твары іхнія былі, як пашчы саміх д'яблаў. І раптам з зарыва аддаўся гучны голас.

— І слухаць я вас не хачу,— сказаў Юрась.—Галасы ў вас д'ябальскія.

Жаба ўжо вярнуў сабе спакой.

— Брэшаш, раб. У начальных людзей д'ябальскага голасу быць не можа. Нават калі Ірад гаварыў у сінедрыёне — і то народ усклікаў: «Се голас бога, а не чалавека».

Лявона Конаўку падвялі да прэнга і заламілі рукі назад. Прэнг зарыпеў і пачаў набліжацца да рыбака... «Як страла пад'ёмнага крана»,— сказалі б вы... «Як прэнг»,— сказалі б яны.

Лявон бегаў вачыма, у якіх усё яшчэ бачны быў, відаць, забыты, забіяцкі азарт. Забыты таму, што рот скрывіўся.

— Ды што там, хлопцы,— сказаў Конаўка.— Я што... Бадай што, і згодзен.

— І я.

— І я.

— Гэта... і я.

— А чаму б і не я?

— Гонар мне не дазваляе на хамскім тым прэнгу... І я...

Галасы гучэлі і гучэлі. І разам з імі пасялялася ў сэрцы пагарда.

— Вось і добра, дзеці мае,— сказаў дамініканец.— Бласлаўляю вас.

— Я не згодзен,— сказаў раптам Братчык.

Ён пагарджаў зараз гэтым быдлам аж да апошняга. Худоба, паршывыя свінні, жывёлы, чарвякі.

— Ведаю я: не еш вішні з папамі — каменьчыкамі закідаюць. Ведаю, як звязвацца з псамі пана бога. Я, калі пройдзе ўва мне патрэба, знікаць не збіраюся. Бадзяга я, вось і ўсё.

— Шкадую,— сказаў Басяцкі.— Кат, уздзейнічай на яго міласэрным перакананнем.

Біцца не мела сэнсу. Як на эшафоце. Потым будуць казаць, што баяўся, што кусаўся, як пацук.

Кат і трох падручных схапілі Братчыка, здзерлі з яго адзенне (корд адабралі раней) і прывязалі да кабылы.

— Які я пасля гэтага апостал? — плюнуў шкаляр.— Бачыў хто-небудзь з вас задніцу святога Паўлы?

— Па ўпартасці і цвёрдасці табе Хрыстом быць,— сарамаціў Лотр.— А ты замест таго вось-вось з хвастанай задніцай будзеш. Або ператварайся ў бога, або лупцоўка да паўсмерці.

— Не хачу быць богам,— праз зубы працадзіў Братчык.

Ён бачыў злосныя і перапалоханыя твары суддзяў, бачыў, што нават хаўруснікі глядзяць на яго няўхвальна, але яму была ў вышэйшай ступені ўласцівая тая ўпартасць і цвёрдасць, якая пасуе сапраўднаму чалавеку.

— Во асёл! Во анагр![1] — сказаў Балвановіч.

Маўчанне.

— Братка,— з годнасцю сказаў Багдан.— Я ганаруся табой. Гэта нам, беларусам, заўсёды шкодзіла, а мы ўсё адно... Галовы нам за гэта, выгаднае іншым, прабівалі. То няўжо адзін раз за сябе не можаш паступіцца. Гонар жа страціш. Кабыла ўсё адно што голая зямля.

---

[1] Анагр — дзікі асёл.

— Ведаць я вас не хачу,— прарыкаў Юрась.— Ведаць я гэтай зямлі не жадаю... Чалавек я... Не хачу быць богам.

Басяцкі набожна ўзвёў вочы ўгору:

— Глядзі, каб суддзя не аддаў цябе... сам ведаеш каму, а... сам ведаеш хто... не ўвергнуў цябе ў цямніцу... Кажу табе: «Не выйдзеш адсюль, пакуль не аддасі і апошняга шэлега».— І зусім іншым, дзелавым тонам дадаў: — Евангелле ад Лукі, том дванаццаты, раздзелы пяцьдзесят восем, пяцьдзесят дзевяць...

— Гартань іхняя — адчыненая труна,— як падшыбленую, апусціў галаву шкаляр.

Усе, нават прарокі, хочуць жыць. І таму, калі з'явілася надзея на жыццё, захацелі жыць нават моцныя.

— Кінь,— сказаў Роскаш.

— І нашто так мучыць людзей? — сказаў Раввуні.— Яны ж са скуры лезуць. Ты ж разумны чалавек, у школе вучыўся.

— Угаворшчык — угаворвай,— сказаў Камар.— Не, пачакай. Малітва.

Кат са свістам круціў бізун. Перад вачыма Братчыка раптам закачаліся маскі, клешчы, станкі, іспанскія боты, ціскі. І з гэтага шабашу даляцеў размераны голас. Кардынал чытаў, склаўшы далоні:

— «Апостала нашага Паўлы да рымлян пасланне... Будзьце ў міры з усімі людзьмі... Не помсціце за сябе... але дайце месца гневу божаму. Бо напісана: «Мне адпомшчанне, аз адплачу, кажа пан бог». Дык вось, калі вораг твой галодны, накармі яго; калі засмагнуў, напаі яго: бо, робячы гэта, ты збярэш яму на галаву разжараныя вуголлі...»

Разжараныя вуголлі шугалі ў жароўні. І паступова пунсавелі ў іх шчыпцы. Чакаючы ўсяго гэтага, Братчык рыхтаваўся ўхапіць зубамі скуру, што абцягвала кабылу. Ён глядзеў на маскі, карбачы і іншае і ўнутрана ўвесь сціскаўся.

Яны не ведалі, што ён можа сцярпець. Не ведалі, як можа валодаць сабой чалавечая істота... Яны нічога не разумелі, гэтыя жывёлы... А ён ужо столькі сцярпеў, столькі... А, ды што там!

Размерана жундзеў Лотраў голас. Аднекуль даляцеў свежы павеў.

— Слухай,— шапянуў Юстын,— кінь пароць бяз-

глуздзіцу. Ты — мужчына. Але ж пасля цябе — возьмуцца за іх.

Юрась не адказаў. Адчуўшы павеў, ён узняў вочы і ўбачыў у акне, назнарок прабітым для катавальні, празрыста-сіняе неба і ў ім зорку. То белая, то сіняя, то вясёлкавая — яна гарэла ў глыбіні неба. Далёкая. Недасяжная для ўсіх. Божы ліхтар, як казалі гэтыя лемуры, што зараз у імя бога... Што ім карысці ў божых ліхтарах? Вось будуць катаваць і іх. Нашто?

Шкадоба за іх, змешаная з жалем да сябе, авалодала ім. Нашто? Хто ўведае, што тут здарылася? Хто ўведае, якія былі ягоныя, Братчыкавы, апошнія думкі? Здохне. Згіне. Пойдзе ў яму. І адметныя думкі разам з ім. Нашто гэта ўсё, калі ўсё адно незваротна закінуты ў жыццё, на ледзяную самоту, паміраць будзеш сярод гэтых людзей? Сярод іх, а не сярод іншых. Гэта толькі кажуць, што «нарадзіўся», што «прыйшоў не ў свой век». Куды прыйшоў — там і застанешся. А каб перанёсся ў другі — і там іншае, і там будзеш чужы... Трэба быць, як яны, як усе яны, раз ужо трапіў у гэткую саладуху. Тады не будзе нясцерпнай духоўнай, тады не будзе фізічнай пакуты.

Здаючыся, ён панікнуў, забыў аб усім, што думаў. І адначасова ў яго сам сабою падабраўся голы зад. Як у раба.

— Гэй, кат,— раптам сказаў Братчык вельмі «звычайным» голасам.— Штосьці мне тут ляжаць абрыдла. Ногі, разумееш, пацерплі. Рукі, разумееш, перацягнулі, халеры. Ну чаго там з-за дробязаў, з-за глупства. Ладна. Апостал дык апостал.

— Хрыстом будзеш,— сказаў Камар.

— Не. Апосталам. Адказнасці меней.

— Хрыстом,— з пагрозай сказаў Лотр.

— Ды я ж недавучка!

— А ён, цесля, думаеш, што універсітэт у Саламанцы скончыў? — усміхнуўся дамініканец.

— Ды я ж чалавек! — таргаўся шкаляр.

— А ён? Памятаеш, як у Лукі Хрыстова радаслоўная заканчваецца?.. «Еносаў, Сіфаў, Адамаў, Богаў». І ты ад Адама, і ты ад бога. Семдзесят шэсць пакаленняў між Хрыстом і богам. А ўжо амаль тысяча пяцьсот год з Галгофы мінула. Значыць, з таго часу яшчэ... колькі пакаленняў прайшлі. Значыць, ты больш высакародны і род у цябе больш старажытны. Зразумеў?

Гэты бацька будучых езуітаў, гэты сябра Лайёлы плёў сваю казуістыку нават без усмешкі, дакладна, як павук. Ён і блюзнерыў з адчуваннем, што гэта неабходна справе. І гэта было глупства, але страшнае глупства, таму што яно мела падабенства праўды і логікі. Жахлівая машына ваяўнічай царквы, усіх ваяўнічых цэркваў і ордэнаў, колькі іх было і ёсць, стаяла за гэтым няспешным пляценнем.

— Зразумеў,— сціснутым голасам сказаў Братчык.— Адвязвайце, ці што.

— Ну вось,— прымірэнча сказаў Лотр.— Так яно лепей. Праўда і талент — гэта зброя слабых. Таму яны яе і патрабуюць. Ды яшчэ і з дурной стойкасцю.

Адвязаны Братчык плюнуў.

— То ж бо вы, моцныя, закруціліся, як на патэльні.

— Нічога,— паблажліва сказаў Лотр.— Думай што хочаш, абы танцаваў па-нашаму, пан Хрыстос.

Між тым брама дагарала. Пунсавела разжараная бронзавая луска. Палавіны амаль абваліліся. Сычэў жар, на які лілі ваду.

— Малімончыкі,— нявесела жартаваў Кляонік.— «Хрысто-ос! Хрысто-ос!» Калі вы ўжо так верыце, што Хрыстос, то чаго вы пяткі свае парэпаныя падсмаліць баіцеся?

— До ўжо табе,— змрочна кінуў Гіаў Турай.— Спадзявацца — яно трэба, але волю божую выпрабоўваць — справа апошняя.

За брамаю ўсё яшчэ шалёна ляскалі мячы. Варта, закутая ў сталь, гінула, не пускаючы абложнікаў з муроў.

— Пайшлі! — сказаў каваль.

Мяшчане з бервяном рушылі проста ў пару і дым. Ударыла ў агонь бервяно. Узвіўся фантан іскраў. Паляцелі галавешкі і вуголлі.

...Карніла, ужо без стралы, уварваўся зноў у катоўню:

— Гінем!

— А вам за што плацяць? — спытаў Жаба.

— З апошняга б'ёмся! Знемагаем! — прахрыпеў сотнік.— Хутчэй, вось-вось уварвуцца.

— Ну вось,— сказаў Лотр.— Тут справа важлі-

вая, ролі размяркоўваем, а ты — не сказаўшыся, а ты — без дакладу.

Карніла прагна хапаў паветра.

— Дык вось, пан Хрыстос,— непарушна сказаў Лотр.— Адна перад табою ўмова: праз месяц — кроў з носа, а ўзнясіся. Каб усшэсце на славу было.

— Я, можа, і раней.

— Гэ, не. Пакуль не паробіш усіх спраў тваёй царквы — і не думай. Ты, Карніла, за ім сачы. Захоча, халера, раней узносіцца — бі яго ў маю галаву і цягні сюды.

— Гэта бога?

Лотр пачырванеў:

— Ты што, вышэйшы за святога Паўлу?! — гаркнуў ён.— А Паўла «раздзіраў і шкамутаў царкву, уваходзячы ў дамы і цягнучы мужчын і кабет, аддаваў у цямніцы».

За нізкім лобам у сотніка нешта варочалася. Хутчэй за ўсё, непамернае здзіўленне.

— Ды ну?

— Настаўнікі нашы кажуць! Намеснікі божыя! Выканальнікі ягонай волі! Першыя правадыры царквы на зямлі!

— Дзіўна...

— Імем Хрыста клянуся.

Сотнік выцягнуўся:

— Слухаюся.

— Сачы. І глядзі, каб не прывабіў цябе філасофіяй і пустою спакусай.

Па сотнікавым твары адразу было відаць, што спакусіць яго ніякай філасофіяй немагчыма.

— Гэтыя філосафы маюць нахабства пра жыццё і смерць разважаць. А жыццё і смерць — гэта наша справа, царкоўнага суда справа, моцных справа. І гэта **н а м** разважаць, жыццё там каму або смерць, і нікому больш...

Лотр абвёў вачыма бадзяг. Убачыў Роскаша, які трымаўся ўсё з той жа годнасцю, ганарліва адставіўшы нагу.

— Значыцца, так,— сказаў Лотр.— Ты, Багдан Роскаш, за шляхецкую ўпартасць тваю, зныня — апостал Фама, Тумаш няверны, інакш званы Блізнюк.

Чырвоны, як памідор, твар «апостала Тумаша» пачырванеў яшчэ больш:

— Мала мне гэтага па роду майму.

— Хопіць. Лявон Конаўка, рыбак.

— А! — тытунёвыя вочкі нядобра забегалі.

— Цябе з рыбакоў ледзь не першага завербавалі. Быць табе Кіфай, апосталам Петрай.

Конаўка пачухаў лысіну, якая пачынала прабівацца між буйных кучараў, падступна ўсміхнуўся:

— А што. Я гэта заўсёды ведаў, што ўзвышуся. Я ж... незаконны сын караля Алеся. Кроў! Дык першым апосталам быць, гэта мне — лузанцы.

— Брат ягоны, Аўтух... Быць табе апосталам Андрэем.

Танклявы Андрэй сутаргава праглынуў сліну.

— Нічога,— сказаў Лотр.— Ім таксама спачатку страшна было.

Лотр моцна забраў у свае рукі справу, і Басяцкі яму не перашкаджаў. Высунуў ідэю, уратаваў усім шкуры — і до. Цяпер, калі Ватыкан будзе незадаволены — можна будзе казаць, што думку кінуў, а далей усё рабіў нунцый. Калі будуць хапаць, ён воленс-ноленс заступіцца за мніха — адной вяроўкай звязаны. А Лотрава рука шмат чаго вартая. Магутныя сваякі, сувязі, багацце.

Каплан унутрана ўсміхаўся.

— Сіла Гарнец,— сказаў Лотр.

Гарганцюа плямкнуў платаядным ротам і засоп.

— Ты Іакаў Зеведзееў, апостал Якуб.

— Хай.

— Яны таксама рыбачылі на галілейскім моры.

— Цікава, якая там рыба вадзілася? — спытаў новы апостал Якуб.

Пытанне засталося без адказу. Трэба было спяшацца. Лотр шукаў вачыма падобнага на дзяўчыну Ладыся.

— А брат твой па жанчынападобству, Іаан Зеведзееў, апостал Ян, евангеліст Ян.

Мудрагелістыя вочы Ладысевы пашырыліся.

— Прыемна мне. Але пацерам-то мяне вывучылі, а іншаму ні-ні. І нікога не паспелі за тыя часы. Іншыя пачалі першыя літары, а я тут прапаведваць пачаў. То я нават не ведаю, як «а» выглядае. Ані ў глове гэта ў мяне, ані...

Лотр усміхнуўся:

— Яны, рыбары гэтыя, думаеш, дужа пісьменныя былі?

— То няхай,— закаціліся юродскія вочы.

— Значыцца, вы — Зеведзеевы,— з няўлоўнай іроніяй сказаў Басяцкі.

Раввуні ўздзеў вочы ўгору.

— Ваанергес,— па-старагебрайску сказаў ён.— Бож-жа мой!

— Праўда твая,— сказаў Басяцкі.— Дужа яны гучна. «Сыны громавы».

Лявон Конаўка — Пятро — падступна засмяяўся:

— А што? Хто ўжо што, а я гэта ведаю. З імі ў адным будане начаваць немагчыма — такія ўдоды.

— Хопіць,— перарваў яго Лотр.— Акіла Кіёвы.

Целяпень скалануў іржавымі валасамі, дабрадушна ўсміхнуўся: зразумеў — на вогнішча не пацягнуць.

— Гэна... я.

— Ты з гэтага дня — Філіп з Віфсаіды. Апостал Піліп.

З цяжкасцю захадзілі вялікія надброўныя дугі.

— Запомніш?

— Павучу пару дзён — запомню. Я здольны.

— Ты, Данель Кадушкевіч, быў мытар — быць табе, па схожасці працы, евангелістам Матфеем. Апосталам Мацеем.

Сварлівыя, фанатычныя вочы зможыліся.

— Ты, ліцадзей Мірон Жарнакрут, зныня Варфаламей.

— Хто? — зарыпеў Мірон.

— Апостал Баўтрамей,— растлумачыў Лотр.— За бяздарнасць тваю. Той таксама ў самога Хрыста вучыўся, а потым, у «Дзеяннях», яго і не нагадваюць.

Лотр разглядаў бурсацкую морду наступнага.

— А ты, Якуб Шалфейчык, апостал Якуб. Іакаў Алфееў меншы.

— Які я тут меншы. Я тут вышэй за ўсіх. Максімус.

І пакрыўджана змоўк.

Бурмістр Юстын глядзеў на фокусніка. Правільнакруглая галава, ускінутая ў несамавітым гонары. Верхняя губа надзьмутая.

— Гэтаму, Яну Катку,— устаў бурмістр,— па самахвальству ягонаму, трэба Ляввея даць.

— Праўда што,— сказаў Балвановіч.— Ляввей, празваны Фадзеем. Апостал Тадэй. А паколькі ў евангеллях розначытанні — хто ў лес, хто па дровы, то ён жа Іуда Іакаваў, ён жа Нафанаіл. Бач, імён колькі!

— Дзякуй,— сказаў Каток.— Я амаль задаволены.

Міхал Іліяш глядзеў на Лотра чорнымі хітрушчымі вачыма. Усміхаўся.

— Ты, Міхал Іліяш, з гэтага часу Сымон Кананіт, па мянушцы Зілот. Таму што «няма ў ім хітрасці».

Навісла маўчанне. Раввуні глядзеў у Лотравы вочы. Кардынал скрывіў усмешкаю рот:

— Ну, а табе, Раввуні, і бог загадаў быць Іудай з Карыёт.

— Чаму?

— А таму, што ты тут, бадай, адзіны, хто да трыццаці лічыць можа.

— Я...

— Сумленны? Ну й добра. У ходзе працы перавыхаваешся, паверыш у свае здольнасці... пан апостал Іуда.

Іудзей уздыхнуў:

— Ну што... Ну, дзякуй і на тым... Не я адзін... І не ў першы раз я за гэтага басяка адказваю.

Лотр устаў, і за ім узняліся ўсе.

— Усім, хто яшчэ звязаны, за дрэнны звычай даваць волю рукам, усім гэтым, хто добра біўся, развяжыце рукі. І хадзем да брамы.— Адшукаў вачыма Карнілу:

— Ідзіце наперад. Пастарайцеся ўпарадкаваць энтузіязм, сотнік.

Суддзі адкінулі свае капюшоны, скінулі чорныя мантыі. Варта зняла са сцен паходні.

У іхнім трапяткім святле шэсце пацягнулася да дзвярэй.

Раздзел XI

# «...І ПАДУЦЬ ПЕРАД ІМ НАРОДЫ»

Лёг перад Змеем, гледзячы ў прах, і паставіў ягоную нагу сабе на патыліцу, а сэрца маё калацілася, як рыба на пяску.

*Егіпецкае паданне*

...абурыўся духам пры выглядзе гэтага горада, поўнага ідалаў.

*Дзеянні, гл. 17, ст. 16*

Прарок Іллюк прымазаўся да нападаючых позна — можа, п'яны быў і толькі што праспаўся. Цяпер ён стаяў і крычаў на ўвесь стары горад:

— Біце! Вызваляйце! Як Хрыстос прыйшоў на нейкі там год праўлення Тыверыя, так і на гэты раз — на нейкі там год праўлення Жыкгімонта зноў ён прыйшоў.

Нячэсаная кучма калацілася. Звярыныя шкуры здаваліся ў агні запёклай крывёй, а голыя страшныя мускулы рук былі нібы з медзі.

— Прадказаў вам прыход ягоны — я — Ілія!.. Старайцеся, хлопцы. Бог вялікі глядзіць на вас... Вызваляйце — аддасць ён вам багатыя дамы на рабунак!

Два чалавекі ў чорным сукне пераглянуліся. Стаялі яны наводдаль, каб тыя, хто біў бервяном у браму, не зачапілі.

— Прарока гэтага даўно трэба ўзяць. Адразу, як толькі прарвуцца, хапаем яго і валачом.

— Кінь,— сказаў другі.— Каму ты яго павалачэш? Гаспадарам нашым? З іх вось-вось галовы палятуць.

— Кепска ты іх ведаеш. Усё скончыцца мірам.

— Брэшаш!

— Убачыш.

Вароты бурыліся ўжо вялізнымі кавалкамі. Іскры цягнула, бы ў трубу. Ляск мячоў за імі скончыўся, а замест яго ўзніклі аднекуль анёльскія ціхія спевы. Нібы з неба. Дзіўнае нешта адбывалася ў замку. Таму, відаць, біцца і кінулі.

Апошні ўдар бервяна разваліў браму. Веерам, кілімам ляглі на зямлю жарыны. Топчучы вугollі, натоўп уварваўся ў замак.

— На злом! — раўлі галасы.— Хрыста! Хрыста забіваюць!

Гурма валіла валам. І раптам спынілася. Анёльскія спевы ўзнесліся ўгору.

З вялікім здзіўленнем сачыў народ, як рухалася ім насустрач разубранае шэсце з крыжамі і як ішлі перад ім трынаццаць чалавек, апранутыя ў радно.

Людзі стаялі моўчкі. Завязваўся світанак, і ў ягоным няпэўным святле цьмяна ззяла золата рыз і адзіная залатая пляма ў гурме тых, што нападалі: залатыя вышэй кісцяў рукі Ціхона Вуса.

І, нягледзячы на тое, што святлела, некаторым у натоўпе рамеснікаў здалося, што наступае ноч. Зноў наступае. Таму што невялікі хрэсны ход падыходзіў, а з усіх нібы вынялі душу.

І Вус, і Зянон, і Турай з сынам, і разьбяр, і каваль, і яшчэ некаторыя разумелі, што гэтых, залатых, трэба няшчадна да апошняга біць. Але біць іх было нельга. Папераздзе, перад шэсцем, ішлі трынаццаць, апранутыя горш за апошняга мешчаніна, але ўсё ж так, як усе. Яны былі шчытом, які нельга было патрушчыць.

— Лёгка ж яны абышліся,— ціха сказаў Кляонік.

— А табе што? — агрызнуўся нехта.— Ты ж Хрыста патрабаваў — вось ён.

— Дурань,— сказаў Кляонік.— Я праўды патрабаваў.

— Ну і трымай.

Лотр уздзеў рукі.

— Людзі славутага горада! — узгласіў ён.— Мы з пострахам праверылі ўсё, што магчыма, і ўпэўніліся, наколькі можа ўпэўніцца слабым сваім розумам чалавек, у тым, што яны кажуць праўду.

Натоўп забурчэў. Усе радаваліся, што адолелі. Але адначасова было неяк ніякава на душы. Таму што разлічвалі на другі канчатак і ўсе чыста настроіліся на яго, а цяпер было так, нібы сабраўся ехаць, а тут выявілася, што ў гэтым няма патрэбы.

— Што ж крычыцё вы? Ныня і мы разам з вамі ўдзячна ўсклікнем: Хрыстос прыйшоў у Гародню!

Ён зрабіў вялікасны і пагрозны жэст:

— Занад доўга чыніліся распусты. Вось градзе Езус узвысіць царкву і ўратаваць свет.

Радасны галас пакрыў ягоныя словы. Натоўп выбухнуў крыкамі шчасця і захаплення.

Раздзел XII

# ЦУДЫ ПЕРШАГА ДНЯ

Я — хлеб жывы, што сышоў з нябёс.
*Іаан, гл. 6, ст. 51*

## СЛОВА АД ЛЕТАПІСЦА

*«...І вось нібы вочы тагды адняло ва ўсіх. Добра бы ў людства цёмнага, дбаннем айцоў царквы не прасветленага яшчэ.*

*Розум узяў Нячысты і ў мяшчан багатых, і ў гандляроў, і людзей са свентай службы — аж да нунцыя, і ў генеральнага камісарыя, і — жах сказаць — у літасцівага кроля нашага, і ў князя Маскоўскага, дысідэнта. І нават у тых, што вышэй за іх*[1].

*Якімі чарамі дабіліся гэтага шалберы тыя — ведае бог. Але дзіўна, чаму ўсе як аслеплі і чаму тая слепасць ад чарадзейства брыдкага так хутка мінула пасля, калі пачалі іх законна гнаці за блуд іхні, за тое, што хлеб знаходзілі, дзе яго не было, і ворагаў моцных, з малым людзем супраць іх выправіўшыся, грамілі — а пэўна ж сілаю Сатаны».*

## СЛОВА АД ДРУГОГА ЛЕТАПІСЦА

*«Той злодзей Пятра-рыбака — а хто кажа, мешчаніна — і іншых сабе падобных дванаццаць вэдлуг лічбы апостальскія выбраў, а сам ся Хрыстом назваў і падмануў тым святую маці нашу царкву. Бо княжаці царквы простыя былі, як галубы, і чыстыя сэрцам, як дзеці, якіх ёсць царства нябеснае. І тыя княжаці аб простым людзе паспалітым думалі і меркавалі, што пан бог, ся з'явіўшы, палёгку і радасць велькую таму люду зробіць.*

*О, велькі быў пасля гнеў іхні за падманутую зладзеямі тымі веру! Бо адкрыў ім із верхнасць госпад вочы і загадаў мячом караці тых махляроў за ерэтычныя вымыслы іхнія і ерась тую агнём выпальваці, а зладзеяў тых нішчыць.*

---

[1] Закрэслена. Дапісана на палях заўвага: «Хто ж гэта вышэй за іх? Калі бог — гэта пахне ерассю. І прытым, што гэта за звычай — казаць на святую Тройцу «яны» і звяртацца да яе на «вы». А калі гэта пра папу і мітрапаліта, то гэта палітычнае злачынства, ад чаго ратуй цябе божа больш, чым ад багахульства».

*А покуль злыдні тыя ў Гародні кілка дзён замешкаўшы, як бы апантаныя ад д'ябла ўчынялі і жыўнасць стараннем сабе і людзям здабывалі, бо сваёй кухні не мелі. І той Хрыстос тады там, як бы шалёны па гаспадах і рынках бегаючы і па крамах, хлеб людзям хапаў і мяса з гарнцаў і міс шарпаў і на свае таварышы мятаў, а яны іх, хапаючы, і елі. І была там на той час вялікая вялікасць людзей».*

## СЛОВА АД ДВУХ СВЕДКАЎ

*«І зноў брахня. І абрыдзела ўжо нам, людзям, што з ім хадзілі, чытаць гэта і слухаць гэта. Але ж хто ачысціць праўду ад калу[1] і возграў[2], калі не мы? Хто застаўся жывы? Гэтыя два, што вышэй, яны яшчэ хоць трохі, паловай слова, праўду кажуць. Знаходзілі і хлеб. Білі і ворагаў. Здабывалі і мяса, і рыбу, і жыўнасць людзям. І была там сапраўды «вялікая вялікасць людзей».*

*Але ў іншым — хлусня. Самі бачылі, як мы, галотныя, тую царкву і начальства тое «абдурылі». Пад пагрозай прэнга і вогнішча. Самі зведаеце, як гэтая іхняя «слепасць» прайшла, ледзь ён руку на золата царкоўнае падняў. І што тады зрабілі тыя, «простыя, як галубы» — зведаеце вы таксама.*

*Але Варлаам і летапісцы з Буйнічаў менш хлусяць. Вы Марціна Бельскага паслухайце. Ён Братчыка Якубам Мелшцінскім заве, шляхцюком каронным. У той час, як не ведаем мы, ці быў ён нават мірскім шкаляром. Дзіўны занадта быў для шкаляра. Ці разумны дужа, ці з месяца ўпаў — проста розуму не дабярэш.*

*А было так.*

*...Кінуліся да нас людзі. Тысячы многія. Падхапілі на рукі, узнялі, панеслі. А за намі панеслі тых самых князёў царквы. Д'ябал ведае, адкуль з'явіліся ў руках, угору ўздзетых, паходні, стужкі каляровыя, кветкі. Агонь скача. А мы, шчаслівыя, смяёмся: скону пазбеглі, бедныя.*

*Каб ведалі, колькі нам з тым апостальствам пакутаваць яшчэ — плакалі б, як іудзеі на рэках вавілон-*

---

[1] Праўлена: «ад крывадушнасці і неаб'ектыўнасці».
[2] Сопляў.

*скіх, а і замест таго, каб ліры на вербы вешаць, ім падобна, самі б на тых вербах павесіліся.*

*Натоўп скача, раве, лікуе: Хрыстос у Гародню прыйшоў. А мы ўжо на Старым рынку зразумелі, у якую саладуху ўквэкаліся. Там нейкі чалавек — слабы, відаць, вераю — цэлы воз мышаловак прывёз.*

*— Мышалоўкі! — крычыць.— Дзівосныя мышалоўкі!*

*І тут народ удрузг і ўшчэнт разбіў той воз і разнёс, а мышалоўкі стаў таптаць нагамі: нашто нам мышалоўкі, маўляў, калі ў нас вы ёсць. Тут мы і спалохаліся.*

*— Цу-да! Цу-да! Цу-да! — крычаць.*

*І воплескі...*

*Братчык быў разгубіўся, але потым паляпаў свайго «каня», нейкага мужыка Зянона, каб той спыніўся, пад'ехаў да Багдана Роскаша, а цяперака Фамы Няliving, дый шапянуў яму нешта. Фама галавою затрос.*

*— Тпру,— сказаў Хрыстос.— Добра, людзі! Зробім усё. Будзе вам цуд.*

*Закасаў рукавы:*

*— Прынясіце нам ад дамоў сваіх сотню мышэй.*

*— Але,— пацвердзіў Каток — Тадэй, дый вымае з-за пазухі мыш.*

*Натоўп узвыў. Пабеглі за мышамі.*

*...І вось сядзім мы ўсе ў нейкай пуні за мноствам клетак. Тумаш дастае з клетак мышэй, а мы іх дзёгцем мажам. І ўсё гэта здорава нагадвае фабрычны канвеер[1]. Правільна гэта Братчык прыдумаў, а Фама — Тумаш пацвердзіў. Мыш — ён дзёгця не любіць. Пусціш такога — ён іншых перапэцкае, тыя — іншых. Мышы палову жыцця мыюцца, а дзёгаць языком не адмыеш. Пачнуць яны кідацца, у другія дамы бегчы, у свае і там пэцкаць. Пачнецца страшэнная бойка. І сама позняе праз дзень усе мышы з горада выйдуць.*

*І вось мы працуем. Дастаем — трымаем за хвост — квачом плюхаем. І Іуда тых мышэй у норы выпускае.*

*...І выйшлі мы з пуні тае, і зноў узнялі нас на рукі, і паабяцаў Хрыстос, што заўтра мышы пойдуць з го-*

---

[1] Зноў жа невядома, адкуль людзі XVI стагоддзя ведалі пра фабрыкі, канвееры і вынаходніцтва Форда. Можа, было гэта ад падазронай абазнанасці Братчыка. А хутчэй за ўсё, выявіўся тут вялікі промысел божы.

*рада, бо пачуў бацька ягоны на небе маленні чалавечыя.*

*Усё было б добра, але тут Іуда ўбачыў, як Лотр з Балвановічам глядзяць на Братчыка, нібы на сваё стварэнне. І ўсміхаюцца, быццам ацэньваючы: «А нішто»,— і рукі іхнія сустракаюцца ў моцным поціску.*

*Так непамысна тады зрабілася. Нібыта будучы лёс свой убачыў.*

*...Потым уражанне ад абяцання мінула, і тут усе гэтыя людзі са змарнелымі тварамі, бледныя кабеты, жабракі ў лахманах, дзеці няшчасныя — усё гэтае беднае мора адчула, што галоднае яно, што рызыкавала жыццём за гэтага чалавека і мае цяпер права прасіць аб найвялікшым дзіве, якое магчыма на зямлі, аб кавалку хлеба. І пачалося маленне аб другім дзіве:*

*— Хле-ба! Хле-ба! Хле-ба!*

*Рукі цягнуць. І тут разгубіліся ўжо не толькі мы. Разгубіліся і «простыя галубы», князі царквы.*

*Шчасце вялікае, што некаторыя пачулі маленне людское, падумалі, што вось сапраўды дасць хлеба і тым гандаль падарве, дый ад аднае тае думкі трохі пашалелі. Глядзім — праштурхаліся праз натоўп ад сваіх крам два чалавекі. Адзін худы, рыжы і вэнджанай рыбаю пахне. Другі — нібы з боханаў хлебных збіты. І апошні са з'едлівасцю такою Хрысту кажа:*

*— Але. Хлебчыку. Створы ім цуд.*

*А другі з такой фарысейскаю мордаю пытае:*

*— Што ж не нагадуеш іх хлебам і рыбай?*

*Братчык маўчыць.*

*— Ці не можаш, і гандлярам трэба рабіць гэта? — пытае хлебнік.*

*І тут свежанькі наш Хрыстос нібыта зразумеў нешта. Паглядзеў на гандляроў. На крамы. На цэхавыя знакі над іхнімі дзвярыма.*

*— Гэта вашы склады?*

*— Н-ну, нашы.*

*— То прасцей, відаць, было б, каб гэта вы людзей нагадавалі.*

*— У нас няма шака,— кажа хлебнік.— Евангеллем святым клянуся.*

*— Ды яны ў нас пустыя, хоць ты сабак ганяй.*

*— Добра,— кажа Братчык.— Што ў вас ёсць, людзі?*

*Пашукалі ў натоўпе. Урэшце кажуць:*

*— У нас тут толькі пяць хлябоў і дзве рыбіны.*

*— Вось і добра,— усміхаецца шкаляр.— Вось мы іх зараз і парэжам. А каб не бачылі вы на свае вочы божага дзіва, мы зробім так. Ты, Тумаш, вазьмі трохі апосталаў і дзве рыбіны, ды ідзіце ў тыя дзверы (вось я іх блаславаю). А я з шасцю хлеб вазьму ды пайду сюды... А вы, людзі, ставайце ў хвост, не штурхайцеся, без чаргі не лезьце, хопіць на ўсіх. А хлеб і рыбу падаем праз акенца.*

*Хлебнік з рыбнікам кінуліся былі да яго. Той голас узвысіў так, што глядзець на яго страшна стала.*

*— Чаго вам? Людзі, вы ўсе чулі! Гэтыя евангеллем кляліся, што ў іх там пуста. То чаго шкодзіць вам свой хлеб атрымаць?*

*Толькі мы і чулі, як шыпеў хлебнік ля сваіх дзвярэй.*

*— Нельга сюды. Канкурыруеш, пан Езус.*

*Натоўп насунуўся бліжэй. І тут залямантаваў ля сваёй крамы рыбнік:*

*— Па жаданню веруючых цуду не будзе!*

*Але іх адцерлі ўжо. Хрыстос твар свой амаль да самых вачэй рыбнікавых прысунуў:*

*— Ану, ляці адсюль!*

*Той не хоча.*

*— У вас жа там нічога няма? — зноў спытаў Хрыстос.*

*— Н-ну.*

*— Тады ізыдзіце...*

*І пацяклі натоўпы. Дзве вялізныя змяі чалавечыя. А мы падавалі і падавалі праз акенцы хлябы, вэнджаную і салоную рыбу, мяхі з сухарамі і збожжам.*

*Пазней сказалі нам, што хлебнік з рыбнікам спалохаліся, што разарве іх галодны натоўп, але да самага канца глядзелі, як гэта можна з пустых складаў дзвюма рыбамі і пяццю хлябамі нагадаваць увесь горад. Надта гэта ім цікава было.*

*І нібыта хлебнік сказаў:*

*— Гадавец! А яшчэ Хрыстос. Ці Хрыстос бы так зрабіў?*

*А рыбнік нібы адказаў яму:*

*— А я здзіўляўся яшчэ ў царкве, якія гэта дурні крычалі: «Распні яго!» Дур-рань стары!*

*І нагадавалі мы тымі хлябамі і рыбінамі ўвесь горад, і ў запас людзям далі, і самі наеліся так, што лоб*

*і жывот былі аднолькавай цвёрдасці. Ды яшчэ і засталося дванаццаць кашоў аб'едкаў.*

*Адно насцерагала. З моманту гэтага большасць «апосталаў» адчула смак у салодкім жыцці і страціла адвечную пільнасць валацуг. Яшчэ б, то кралі, а тут самі нясуць табе. І нікуды не трэба ўцякаць, і тут добра, а катавальня — гэта нешта далёкае. Лявон — Пятро нават блюзнерыў, гладзіў сябе па пузе і ўздыхаў: «Царства божае ўнутр мяне ёсць». А як Братчык сказаў яму, што не скончыцца гэта дабром, ён яму кінуў: «Уцякаць не ўздумай. Выдадзім. Тут грошай — рэкі». І як ні казаў Іуда, што разумны чалавек даўно б падумаў, як адсюль навастрыць лыжы,— ніхто пра гэта сур'ёзна не думаў, бо рэдкая гэта з'ява на зямлі — розум.*

*Што ж датычыцца мышэй, дык яны сапраўды пайшлі з горада. Моўчкі стаяў натоўп. У адчыненую браму ветрам несла смецце і пыл. І вось з'явіўся ар'ергард[1] мышынага войска.*

*А потым пайшло і пайшло. Перапэцканая, трывожна-маўклівая рака.*

*Ішло войска. Запаланяла браму, плыло, рухалася. У нейкі свой апошні паход...»*

## Раздзел XIII

## ВЯЛІКАЯ БЛУДНІЦА

> І цары зямныя любадзейнічалі з ёю, і купцы зямныя ўзбагацелі ад вялікай раскошы яе... выйдзі ад яе, народ мой, каб не ўдзельнічаць вам у грахах яе і не зазнаць язваў яе... Колькі славілася яна і раскашавала, столькі аддайце ёй у адплату пакут і горкіх нягодаў.
>
> *Апакаліпсіс, гл. 18, ст. 3, 4, 7*

> Поп быў не дурань выпіць — анягож.
>
> *Чосэр, «Кентэрберыйскія апавяданні»*

У невялічкім пакоі новага дома на Старым рынку сядзелі тры чалавекі. Сядзелі і маўчалі. І маўчанне тое цягнулася, відаць, вельмі даўно, бо відавочна гняло іх.

---

[1] Відаць, трэба: авангард *(рэд.)*.

Гэта быў дзіўны пакой, не падобны на ўсе іншыя багатыя пакоі Гародні, скляпенчатыя, з маленькімі акенцамі. Тут вокны былі шырокія і вялікія, забраныя кутымі танюткімі кратамі. Ніхто і не падумаў бы, што гэтыя краты ад злодзея або віжа, так яны нагадвалі карункі або сплеценыя кветкі.

Столькі ранняга цёплага сонца лілося ў вокны, што ўвесь пакой аж плаваў у святле.

Безліч кніг на паліцах, стале, у разьблёных скрынях і проста на падлозе; чучалы жывёл і вясёлкавых птушак, скураныя папкі з гербарыямі, дзве дубовыя шафы з мінераламі, кавалачкамі дрэва і тарпы. За адчыненымі дзвярыма ў суседні пакой цьмяна свяцілася зорная сфера, блішчэлі шклянымі бакамі колбы і пузатыя бутэлі, грувасціліся ціглі, стаяў перагонны куб.

Адзін з трох быў ужо вядомы нам разьбяр багоў Кляонік. Побач з ім сядзеў у крэсле румяны чалавек у белым францысканскім плашчы. Ачышчаў ад па́ціны старую бронзавую статуэтку велічынёю ў палову мезенца і раз-пораз разглядаў яе ў павелічальнае шкло. Вочы ў чалавека былі цёмныя і мяккія. Гэта быў былы прыёр[1] маленькага францысканскага кляштара брат Альбін з Арэхвы, а ў ранейшым жыцці Альбін-Рагвал-Алёйза Крыштофіч з Дубатыння. Былы нобіль, былы прыёр — ён быў цяпер ерэтык, пакінуты пад моцным падазрэннем. Ад усіх яго імёнаў засталіся ў ягоным распараджэнні дзве мянушкі: Геамант[2] і Пожаг. Абедзве распусціла царква.

Паходжанне першай мянушкі больш-менш яснае. Другую трэба растлумачыць. Францысканец гэты даўно займаўся навукай, праслаўляў вопыт, важдаўся з чарнакніжнікамі, а значыцца, і з нячыстай сілай, чытаў не адных хрысціян і дакаціўся да таго, што стаў адмаўляць самога Арыстоцеля, тройцу, непарочнае зачацце і тое, што Хрыстос выкупіў смерцю сваёй першародны грэх. Святая служба даўно сачыла за ім, але да часу яму ўдавалася пазбегнуць яе кіпцюроў.

Схапілі яго ў часе ягонай паездкі ў Рым па даносу сябра. Галоўным пунктам абвінавачвання было тое,

---

[1] Настаяцель.
[2] Чалавек, які варожыць па фігурах на зямлі або пяску.

што ерэтык Альбін Крыштофіч, брат Альбін, падзяляў погляды Арыстарха Афінскага і горача прапагандаваў іх[1]. Але паколькі гаварыў ён аб гэтым у краіне, адкуль немагчыма было прывезці сведкаў; паколькі ў Рыме сведкам ягонай гнюснай ерасі быў толькі адзін чалавек — даносчык; паколькі святая царква ў тыя змрочныя часы лічыла, што даносу аднаго чалавека верыць нельга,— Крыштофіча аддалі на катаванне і паступова спускалі з прэнга на вострыя пожаг. Ён вісеў на руках сорак гадзін і не прызнаваўся ні ў чым, і, значыцца, даносчык не меў рацыі. Яго знялі і тыдзень паілі адным малаком. Калі ён у першы раз адчуў позыў — яму здалося, што зноў увахо-дзіць у ягонае цела вострыя кол. Ён страціў прытомнасць.

Лекар-магаметанін вылечыў яго. Пасля Крыштофіча адпусцілі. Цяпер першы данос мог зноў павесіць яго на прэнг. Але да Рыма было далёка, і гэты чалавек нічога не баяўся.

Трэці субяседнік быў юнак, амаль хлопчык, апрануты, бадай, залішне франтавата, дарма што сядзеў у сваім доме.

Гэтага перш за ўсё можна было заўважыць нават у самым вялікім натоўпе. Твар з румянымі ўсмешлівымі вуснамі і вялізнымі цёмна-сінімі вачыма быў гожы той рэдкаснай прыгажосцю, ад сузірання якой адразу прыходзяць у галаву думкі аб тленнасці зямнога, аб тым, што цябе вось чакае пекла, а гэтага стройнага, як трысцінка, юнака жыўцом возьмуць на неба.

І, аднак, калі верыць рупліўцам аб веры, менавіта гэтае дзіця ўжо зараз не чакала неба. І, аднак, гэта менавіта яму праз некалькі год пагражалі пеклам і вечнымі пакутамі шматлікія прапаведнікі Італіі, ледзь не ўсе папы Беларусі, Польшчы і Жмойскай зямлі, і, вядома ж, уся Святая служба.

Юнака звалі Кашпар Бекеш. І калі нехта і стварыў у той час славу Гродзенскай зямлі, то гэта ён і Крыштофіч, ерэтыкі, асуджаныя членамі Святога трыбунала,— імёны ж гэтых членаў ты вясі, божа, а не людзі, нават самыя вучоныя.

---

[1] Арыстарх Афінскі (канец IV — першая палова III ст. да н. э.) вучыў, што Зямля рухаецца вакол Сонца.

Бекеш трымаў на каленях познюю копію адной з Сафоклавых трагедый, чытаў яе сам сабе і па чарзе падціскаў пальцы. Пасля нешта запісваў у сшытак, што ляжаў на нізенькім століку.

Копія была сапсутая шматлікімі перапіскамі, часам у ёй не было аніякага складу, і вось ён правіў, аднаўляў яе, лічачы склады і раздумваючы над некаторымі словамі, якія недасведчаныя пісцы даўно ператварылі ў абракадабру.

Аблічча было сур'ёзнае, трошкі рэзкае ў выліцах (мабыць, ад продка венгерца); тонкая рука часам адкідала з ілба сонечна-залацістыя валасы.

Людзі маўчалі, але нешта прыгнятала іх, перашкаджала працаваць.

Можа, нялюдскі шум і крыкі з вуліцы.

— Зачыніў бы акно, Кляонік,— сказаў брат Альбін.— Гэтыя жывёлы вытрасуць з Кашпара ўвесь рытм, а з мяне — усе астаткі маёй думкі.

— Я сёння ўначы таксама ўвязаўся ў гэтую справу,— сказаў разьбяр.— І шкадую аб гэтым.

— Нашто шкадаваць? Пакрычалі, папалохалі. Але няўжо ты верыш у яго?

— Я? Кім ты мяне лічыш? Я так і сказаў: «Шкада, людзі...»

— Правільна,— адарваўся ад рукапісу Бекеш.— Бог ёсць?

— Ёсць,— адказаў Крыштофіч, а Кляонік моўчкі схіліў галаву.

— Бог — ён ёсць,— сказаў Бекеш.— Але хто сказаў, што яго можна памацаць, схапіць, звязаць, пацягнуць у турму?

— Хрыста ж схапілі,— сказаў разьбяр.

— А я не думаю, што Хрыстос быў бог,— усміхнуўся Кашпар.— Па-мойму, гэта быў вялікі прарок, большы за ўсіх біблейскіх. Таму яго і абагавілі. А можа, і не прарок, а так, прыхадзень аднекуль з зямлі справядлівасці, што ляжыць за цёплым морам і пра якую мы, бедныя, нічога не ведаем.

— Н-ну,— недаверліва сказаў Крыштофіч.— Чаму ж не сказаўся?

— А што б ён растлумачыў цёмнаму таму люду? Слова «справядлівасць»? Слова «роўнасць»? Слова «гуманізм»? Слова «праўда»? Слова «пазнанне»?.. Але заўваж, ён нідзе сам не называў сябе сынам бо-

жым, не хацеў хлусіць, хаця і не забараняў вучням «здагадвацца» аб гэтым, бо так яны лепей разумелі і так было ім лягчэй. І потым, чаму ён на крыжы крычаў: «Божа мой, чаму ты мяне пакінуў?» Ён жа сам непадзельная частка бога. А калі дагмат аб траічнасці няверны, калі ён — частка бога, як сын — частка бацькі, то чаму ён не клікаў бацьку, а нібыта чужога чалавека?

Брат Альбін пацягнуў носам:

— Слухай, Кашпар, сын мой, табе не здаецца, што тут пачынае смярдзець?

— Чым?

— Блізкім вогнішчам, сын мой.

— Сюды яны не дастануць. Тут іхняй улады — макавае зерне.

— А праз некаторы час будзе ўся ўлада. Мы занадта слабыя, каб даць па іхніх лапах. Доказ гэтаму — той шабаш за акном... Страшная рэч!

— Што ты думаеш аб ім? — спытаў Кляонік.

— Прахвост і самазванец,— абыякава сказаў Альбін.

— І я гэта ведаў. Ды толькі думаў, што мы ягоным імем тут пачысцім трохі. А выяўляецца, яны і імя прыбралі сабе, ды нас жа і ў дурні. Цяпер вылюдства гэтае, ізуверства адсюль і за сотню год не вымецеш. Чуеце?

Яны ўсталі і падышлі да акна. Унізе, на плошчы, дробна варушыліся галовы, раз-пораз выбухаў крык, раўлі званы. Проста перад сябрамі быў замкавы мур, і гэта да яго цягнуў рукі натоўп.

— Божа! Блаславёны будзь! Бацька ты наш!

Бекеш паціснуў плячыма:

— Вы іхнія морды бачылі? Гэта ж нешта неймавернае. У завулку ўначы спалохаешся. І вось нібы слепакі... Нічога не бачаць... А ясна, што прарокі з такімі не бываюць, тыя, што дасылаюцца часам на гэтую няшчасную цвердзь... Каб хаця зернейка нейкай думкі пакінуць.

— Ну, я з імі крычаць не буду,— сказаў брат Альбін.— Гэтая вера ў звышнатуральнае — гэта дурасць і невуцтва несамавітае. А гэты чалавек — ясна, што шалбер, махляр, круцель і ашуканец. І прыдумала яго тое прагнае быдла... А я ў іхнія пастулаты і догмы не веру... Не хаці ты ракаў, не мачы ты... портак.

Людзі пад імі плылі і плылі да недалёкай царквы. І паўсюль на іхняй дарозе стаялі манахі, са звонам патрэсваючы блюдамі.

Кляонік раптам заўважыў, што Бекешавы вочы нібы блішчаць.

— Беднае ты... Няшчаснае ты быдла, народ мой,— сказаў Кашпар.— За якія такія грахі?!

У вежным пакоі варты (дзверы з яго выходзілі на забрала замкавых муроў) ішла між тым вялізная, сапраўды «апостальская» п'янка. Большасць былых валацуг было ўжо «еле можаху». Адносна цверазейшыя былі тры чалавекі: Раввуні, Братчык і яшчэ Грынь Балвановіч, які так і прыляпіўся да новай кампаніі. Вісеў на плячы ў Хрыста:

— А братачка мой! А падумаць толькі, якога слаўнага чалавека ледзь не спалілі! А божа ты мой найсалодшы!.. Ну, дай жа ты бусю старому грэшнаму пастыру.

Братчык крывіў рот.

— Не глядзі ты на гэтае свінства,— расчулена сказаў Кашпару Кляонік.— Зірні, дзевак колькі... Гожыя...

— Тая? І сапраўды.

Непадалёку ад іх, ледзь не каля самых муроў, стаяла дзяўчына год семнаццаці. Блакітны са срэбрам «караблік» маладзіковымі рожкамі тырчаў над галавою, а з-пад яго падала да самых каленяў таўсценная залацістая каса.

Пухлы раток прыадкрыты, у чорных з сінявою вачах цікаўнасць, чаканне і захапленне: уся нібы цягнецца да забрала, на якім зараз нікога няма. Чакае. І ледзь з'явіцца на забрале вартавы — уздрыгваюць даўжэзныя вейкі. Відаць, што звычайна шкура на ёй гарыць, але цяпер нібы з'яўлення цудатворнай іконы чакае. На шчоках празрысты, лёгкі, з глыбіні недзе, румянец: высокія грудзі (хоць ты на іх поўную чашу стаў) абцягвае сіняя казнатка[1].

Яшчэ не зусім увайшла ў цвет, але ясна, што абяцае.

---

[1] Жаночая верхняя вопратка.

— Ах, д'ябал,— сказаў Бекеш.— Хто такая?
— Мечніка Палянкі дачка. Нічога, заможныя, статэчныя гараджане.
— Ды што мне ў гэтым. Імя як?
— Анея. Сяброўка Фаўстыны маёй.
— Ах, якая,— Бекеш нібыта забыў пра ўсё.— Ах, божа мой, прыгажосць невыказная.
— А як бы я маладзейшы быў, то і я...— сказаў Крыштофіч.
— Дык давай, дзядзька.
— Не, брат, не тыя ўжо ў каня зубы. Тут, брат, жаніся. А яна мяне макам напоіць ды з-пад бока — на пасядушкі да хлопцаў. Я, пры маіх гадах, усё больш унь да такіх...
— А што,— сказаў Кляонік.— А і нішто.
Да брамы ў гэты момант прадзіраліся праз натоўп два чалавекі. Жанчына на муле, укрытым сеццю з залатых ніцяў, і за ёю, на вараным жарабцы, кардынал Лотр.
— Смертаносная прыгажосць,— сказаў Кляонік.— Я з яе Магдаліну рэзаў бы.
— Марына Крывіц,— кінуў Бекеш.— Людзі кажуць: самадайка. А мне здаецца, не можа быць хлусівай гэткая прыгажосць. Можа, і дрэнь баба, але жыццё ж якое?! І ўсё адно не веру, што дрэнь.
— Ты, бацька Альбін, не занадта зіркай,— сказаў разьбяр.— Лотр за грэх з ёю на браме павесіць. І потым — гэта ж смяротны грэх, ты ж манах, хаця і кепскі.
— Няма, браток, у прыгажосці смяротнага грэху. Дый увогуле, што такое плоцкі грэх?
Ён махнуў рукою:
— Няма ў жаночых абдымках нічога ґрахоўнага. Глядзець не грэх — і ў чалавека ёсць вочы... Цалаваць не грэх...
Маладыя зарагаталі.
— Чаго рагочаце? Праўда. Каб бог прадугледжваў манахаў — ён бы прадугледзеў дзеля гэтай мэты і людзей з пэўнай ва́дай. А раз гэтага няма, то, значыцца, лухта гэта ўсё.

Братчыку абрыдлі п'яныя пацалункі Грыня, ён адвязаўся ад яго, кінуў кампанію і пачаў спускацца з

гульбішча, мяркуючы схавацца недзе ў царкоўным бабінцы і падумаць. Ён чуў крык натоўпу за мурамі, захоплены га́лас, бачыў праз байніцы, як плыве ў храм людская рака, чуў звон грошай на блюдах.

Але нават у бабінцы, калі ён спусціўся туды, яго не чакаў спакой. У бабінцы кіпела дзікая бойка. Ён спыніўся, уражаны.

Ля муроў стаялі скрыні з грашыма. Па вузкіх жолабах плылі і плылі струменьчыкі золата, срэбра, мужыцкай медзі, падалі ў місы і карцы (відаць, грошы ссыпалі з блюдаў там, за мурам, проста як хлеб у засекі).

Ніхто зараз не зважаў на тыя грошы. Між скрынямі, топчучы манеты, звіваліся захеканыя людзі ў белых францысканскіх, бурых дамініканскіх і іншых расах. Гваздзілі адзін аднаго вяроўкамі, што звычайна апаясвалі чрэслы, білі ў скіўіцы, па галаве, пад дых.

— Мы гадзіну толькі стаялі!

— Дамініканцам места саступай, бабздыр ты!

— Дысідэнт, свалата!

— На табе, на!

Кагосьці выкінулі ў акно, нехта літаральна ўзляцеў над натоўпам і, два разы перакруціўшыся ў паветры, вылецеў праз парэнчы кудысьці ў сутарэнне... Ніколі яшчэ не даводзілася Юрасю бачыць такой бойкі.

Пахла зверам.

Шкаляр паківаў галавою.

— І стварыў пан бог чалавека па вобразу свайму, па вобразу божаму,— сумна сказаў ён.— І ўбачыў бог, што гэта добра.

Ён махнуў рукою і рушыў на гульбішча. Можа, хаця на вежы можна будзе схавацца ад усяго гэтага.

Лотр выпадкова скочыў з каня побач з Анеяй і толькі тады заўважыў яе. Павільгатнелі вочы. Дзяўчына не заўважыла яго, усё яшчэ пільна глядзела на зубцы, каб хаця не прапусціць. Але пільны позірк чалавека яна ўрэшце адчула... Павярнулася — і тут у вачах нібы плесканууся цень сполаху, змешанага з піетэтам.

— Я зноў не бачыў цябе ў дамініканаў на споведзі, дачка мая,— мякка сказаў ён.

— Я спавядаюся ў сваёй слабадзе, ваша правялебнасць,— апусціла яна вейкі.— Вы занадта добры, калі заўважаеце такую нікчэмную істоту, як я.

— У бога няма нікчэмных. І калі я нагадваю...

— Вы — вялікі чалавек.

— ...Калі я нагадваю, каб спавядалася там...

У дзявочых вачах з'явілася раптам нешта цвёрдае. Варухнуліся вусны.

— Бог паўсюль.

— І ў схізмацкай малельні?

— Што ж, калі ён захоча — ён пойдзе і туды. Ён — там. Ён ужо выходзіў адзін раз. І вы самі сказалі, у бога няма нікчэмных...

Супраціўленне трохі ўзбуджвала і раздражняла. Ноздры Лотравы задрыжэлі.

— Глядзі, я нагадваю.

«Магдаліна» загадала служку трымацца таго месца, дзе спешыўся кардынал.

— Лягчэй знойдзеш.

Папраўдзе, ёй трэба было прыгледзецца да дзеўкі, з якой так доўга і так падазрона размаўляў патрон. Не сыходзячы з мула, яна глядзела, ацэньвала і адчувала, як варушыцца недзе пад душою раўніваe хваляванне. Пляваць ёй было на абдымкі гэтага чарговага, але з ім было спакойна. І яна, на жаль, вельмі хутка звыкала. І ёй, на жаль, кожны раз здавалася, што вось гэта не... надоўга (яна баялася слоў «стала», «заўсёды» і амаль успамінала, што ёсць слова «давеку»). Кожны, хто даваў ёй на пэўны час трываласць і ўсё, што звязана з гэтым (грошы былі дзесятай справай, хаця гэты і плаціў добра), выклікаў у яе душы прыязь і нават нешта падобнае на жаданне быць з ім.

І вось — гэтая. А можа, яшчэ і нічога? Можа, абыдзецца?

На сходах кардынал сутыкнуўся з Балвановічам. Чырвоны, хістаецца — чорт ведае што. І раптам, калі Лотр запыніў яго,— з-пад п'яных броваў Рыгора Гарodзенскага нечакана цвяроза бліснулі мядзведжыя вочкі.

— Рык чуеш? — спытаў Лотр.

— Адверз пан бог вушы мае.

— І што?

— Мяркую, сільненькі наш злодзей робіцца.

— Мм... але. Вось табе і лялька. Два гэткія цуды. Вось выйдзі зараз на муры крыкні супраць яго. Што будзе?

— Гэта ты выйдзі. Ты што, апошні аплот усходняга праваслаўя ў Гародні знішчыць хочаш? Гэта ты — пачакай.

Лотр махнуў рукою, пайшоў. І ўжо каля самага забрала ўбачыў, як сядзіць на выступе мура і думае пра нешта Басяцкі.

— Н-ну?

Шэрыя ў прозелень, плоскія вочы праезуіта паказалі ў той бок, адкуль ляцеў шум чалавечай гурмы.

— Т-так... ён дзе?

— Варта даносіць: па забрале ходзіць, з другога боку вежы.

— Сіла?

— Д-ды... с-сіла. Гэта трохі больш, чым тое, на што спадзяваліся.

— І што? — Лотр не жадаў пачынаць размовы першы.

— Ды што... Адно з двух. Або ён круцель, прагны на грошы і славу, а ўлады — па дурасці, а можа, па ляноце — не жадзён. У гэтым выпадку ён нам — як паветра. З ім нам і курыя — глупства.

— А што, гэта, па-мойму, някепска.— Лотр зрабіў нібы крок насустрач мніху-каплану, каб верыў, каб выказваўся далей.— Што б ты сказаў, каб я — папа, а ты — шэры папа?

— Усё ў руцэ божай.

— Ну, а яшчэ якое «або»?

— Або ён сумленны баязлівец-дурань і ні грошай, ні славы не хоча і не будзе нам памагаць (а такі ён нам не патрэбен).

— І яшчэ ёсць адно «або»,— з раптоўнай суровасцю сказаў нунцый.— А што, калі ён і круцель, і срэбралюбец, ды яшчэ і аматар улады... І што, калі ён сілу сваю адчуе дый зразумее, што ён сам усё можа?

— Мяркую, кепска будзе. Нашто мы, нашто царква пры жывым богу?

— Што ж тады?

— Прыбраць,— аднымі вуснамі сказаў мніх і дадаў, толькі трохі галасней: — Але я думаю, што не з тых. Чалавек, былы раб. Адкуль яму ведаць пра ўладу і жадаць яе... Ідзі, спытай яго. Усё ў руцэ божай.

— То ж бо. У ч ы ё й руцэ?

Басяцкі ўсміхнуўся кардыналу ў спіну. Бач, устрывожыўся, лупянуў, як ты яго, скажы, за пяты хапаюць. Дарэмна бяжыш. Чалавек — гэта або золата, або слава, а празе да ўлады гэтаму так званаму «Хрысту» яшчэ недзе было вывучыцца.

Лотр знайшоў Юрася там, дзе чакаў знайсці. Братчык хадзіў па забрале, моршчыўся ад крыкаў і мяў адну руку ў другой. І гэты звычайны, вельмі чалавечы жэст супакоіў кардынала.

— Ну што? — спытаў ён.— Тут лепей, чым на кабыле?

— Ану яго,— сказаў Братчык.— Нешта мне тут так, нібы гэта я камар у баршчы. Ва ўсіх на вачах, усе глядзяць... І думкі нейкія дурацкія. Учора голы жабрак. А сёння «дзівы» гэтыя. Горад сыты, горад крычыць. Усе мяне хваляць. І думаеш, як гараджане ўсе: а можа, і сапраўды тут без усялення духа і натхнення боскага не абышлося.

Лотр засяроджана пакасіўся на яго.

«Пачынаецца,— падумаў ён.— Не паспеў чалавек з гразі вылезці, а ўжо ў багі. Заўсёды, чорт яго пабірай, так».

Твар Юрася казаў толькі, што яму няёмка і кепска. І Лотр зрабіў дыверсію, каб даведацца, як далёка Хрыстос зайшоў думкаю:

— Ну, а скочыў бы адсюль ці не?

— Дудкі. Святога, можа, і вынеслі б анёлы, а я круцель, я шалбер.

Звычайны наіўны твар. Аблічча прайдзісвета, які здабывае хлеб хітрунствам. Лотр прысунуўся да яго.

— Слухай,— голас ягоны асекся.— Слухай, Хрыстос, і забудзь, што ты махляр. Ты вялікі, ты мудры, ты бог. Да таго часу, пакуль мы ўзносім цябе. Ты нам патрэбен такі. Але і ты нас трымайся. Бачыш — горад ля ног. Вялікі, багаты, прыгожы. А за ім уся Белая Русь, усё каралеўства, уся зямля. Калі будзеш трымацца... нас, калі скажаш, што без... нас плача прастол святога Пятра — азалоцім. Усё дамо табе. Пакланенне... царствы... багацце.

І асекся, убачыўшы на гэтым дзіўным, беспардонным твары агіду.

— Я ж казаў, што не хачу быць святым. Я задаволены быў, што я валацуга... Я сёння бойку бачыў... Лепей адпусціце вы мяне. Не хачу я ў Рым. І табе не раю. У Рым я пайшоў бы толькі, каб убачыць аднаго чалавека.

— Што за чалавек?

— Ён не мае ўлады. Але ён ведае больш за ўсіх на зямлі, хаця дае людзям толькі частку сваіх ведаў. Не разумеюць. Не зразумееш і ты. Ён рана прыйшоў. Ён цяпер, мабыць, стары. Я абавязкова хацеў бы ўбачыць яго. Але ў Рым, у гэты горад нечасціўцаў, я пайшоў бы толькі звычайным валацугам-шкаляром. Калі тут такое, што ж тады ў Рыме?

— Хочаш, я даведаюся аб гэтым чалавеку? — ласкава і прывабліва сказаў Лотр.— Што робіць гэты твой «знаўца»?

Ён зразумеў, што золатам з гэтым бадзягам не зробіш нічога і трэба шукаць іншыя шляхі.

— Адкуль? Дзе? — іранічна спытаў Хрыстос.

— Я не ведаю, але тут ёсць чалавек, які ведае ўсё. Што робіць гэты твой «знаўца»?

— Малюе, займаецца анатоміяй.

— Так я і ведаў, што нейкая брыда накшталт трыбушэння мёртвых.

— Ды гэтага не трэба... Досыць, што «ведае больш за ўсіх».

— Вартавы! — гукнуў Лотр.— Слухай, вартавы. Схадзі ў новы дом на Старым рынку і спытай там аб «чалавеку, які ведае больш за ўсіх і жыве ў Рыме», хаця гэтае «больш за ўсіх» моцна аддае ерассю, таму што больш за ўсіх ведае, вядома, папа, а ён, колькі я магу меркаваць, мерцвякоў не рэжа і няздатны намаляваць нават дулі.

— Каго спытаць?

— Спытай Бекеша.

Вартавы пайшоў. Сябры стаялі трохі нібы аглушаныя. У Крыштофіча лягла ад пераносся на лоб рэзкая зморшчына. Бекеш не верыў сваім вушам:

— Нашто гэтаму махляру спатрэбіўся вялікі майстра?

— Не ведаю,— глыбокім голасам сказаў «пожаг».— Але нешта ва ўсім гэтым ёсць. Пасобнік гэтай навалачы, бадзяга, ведае пра чалавека, што «ведае больш за ўсіх».

— Нешта ёсць,— сказаў Кляонік.— А можа, мы не дарэмна адбівалі яго? Буду глядзець... Буду вельмі пільна прыглядацца да яго.

— Чаму? — спытаў Бекеш.

— Мне цікава.

— Гэтага досыць,— сказаў Бекеш.— Але ён ведаў, што гэты чалавек мог спускацца на дно, але не адкрыў гэтага людзям, бо яны ператварылі б гэта ў зло. Адкуль ён ведаў, што гэты чалавек завяшчаў людзям лётаць, а ў яго ўменні жывапісаць было нешта боскае?

— А можа, мы мелі рацыю, калі гаварылі пра край за морам, дзе людзі ўжо ўмеюць лётаць? — спытаў Крыштофіч.

У гэты момант крык за вокнамі перарос у лямант і ў трубы архангельскія. Здавалася, вось-вось расколецца сама зямля.

На гульбішчы з'явіўся чалавек у хітоне і стаў падымацца на вежу.

— Божа! Божа! Божа! Ратуй нас!

— Адпусці нам грахі нашы!

— Ад кіпцяў д'яблавых, ад пекла ратуй ты!

— Божа! Божа!

Чалавек стаяў на вежы, і сонца гарэла за ягонай спіной. Сляпіла вочы людзям, што цягнулі да яго рукі.

На Кашпаравых вуснах з'явілася саркастычная ўхмылка. Юнак паказаў падбароддзем на вежу.

— Гэты? Адтуль? Ну ўжо не. Хутчэй я сам адтуль. А гэтае кажановае адроддзе, калі і пытала пра майстра, то напэўна каб паспрабаваць... а можа, і ягоныя механізмы могуць памагчы яму ў круцельствах. Абакрасці, а тады, магчыма, і самога святой службе выдаць.

Крыштофіч пахмурна буркнуў:

— Святая служба ўжо не страшная вялікаму майстру... Вялікі майстра памёр...

Хрыста не трымалі ногі. Ён сеў на каменны прыступак проста перад Лотрам і вартавым.

— Памёр? — разгублена спытаў ён.— І зусім нядаўна?

— Памёр,— паўтарыў вартавы.— Яны кажуць: «Вымушаны быў кінуць радзіму і памёр на зямлі найхрысціяннейшага, святому падобнага, дбайніка аб веры, кроля Францішака французскага».

— Памёр,— нібы сцвердзіў шкаляр.— А як жа я?

— Што як жа вы? — сурова спытаў Лотр.

— Ну вось... адзіны чалавек, дзеля каторага мне трэ было ехаць у Рым. І як цяжка, пэўна, было яму паміраць... Адзін. Такі высокі розумам, што з усімі яму было сумна.

Ён глядзеў нібы праз субяседнікаў, праз горад, праз увесь свет, і вочы ягоныя былі такія адсутныя, такія «д'ябальскія», як падумаў Лотр, такія нечалавеча самотныя, што двум другім стала страшна.

— Куды ты глядзіш? — спытаў Лотр.— Дзе ты? Што бачыш?

Той маўчаў. Толькі праз некалькі хвілін прытомнасць нібы стала вяртацца ў гэтыя вочы разам з ледзяным холадам і ледзяною самотай.

— Нікуды,— саркастычна адказаў ён.— Нідзе. Нічога.

На твар ягоны зноў нібы лягла круцельская злая маска:

— А нічога... Заставацца... Хіба я не такі, як усе, каб чакаць яшчэ і лепшага? Каб спадзявацца? Такі... І нічога не патрэбна было... І куды я цягнуўся, шукаючы ісціну?.. І чаму патрэбная яна была?

— Ён беснаваты,— шапянуў вартавы.

— Маеш рацыю,— ціха сказаў Лотр.

Шкаляр пачуў:

— Не, я не беснаваты. Я такі, як усе. І так буду жыць. Патроху цягнуць час. І памру, як ён, не дачакаўшыся. З цяжарам непатрэбных ведаў, па неабходнасці навучаны хлусні. Інтрыгам. Воўк сярод ваўкоў.

— Пане божа,— схіліўся Лотр,— плюньце вы на гэтыя думкі. Народ ужо ледзь не цэлую варту гарлае і кліча. Пакажыцеся яму. Ён прагне вас бачыць.

Шкалярова аблічча раптам стала адчайна-злым і нібы нават вясёлым.

— А чаго? Хадземце, ваша правялебнасць. Будзем ламаць кумедзь.

— Што вы? Якую кумедзь?

— Ну, звычайную. Зямную. Чаму не ламаць?

Вартавы адышоў, і тады Братчык зашаптаў з вясёлай злосцю:

— Чаму не махлярыць? Чаму не закахацца? Чаму не пусціцца ў распусту, махлярствы? Чаму не скінуць рымскага папу? Усе папы на сваім месцы, а лепшых не відаць.

Лотр усміхнуўся:

— Вы паразумнелі.

— Я даўно разумны. Я — сын бацькоў са знішчанага пачынка, я — шкаляр... Бадзяга... Камедыянт... Правадыр хеўры. Іншага імя ў мяне няма... Ерэтык у катоўні... Хрыстос... Бліскучае ўзыходжанне. Лепей, чым агароднік... Ва ўсякім разе, варта паспрабаваць. Я ж магу ўсё. Нават злачынствы рабіць.

Кардынал з павагаю схіліўся перад ім:

— Ідзіце пакуль адны, пане наш... Я хутка таксама падымуся.

Братчык рушыў на вежу. Кардынал праводзіў яго вачыма і пайшоў шукаць Басяцкага.

Ён стаяў на вежы даволі доўгі ўжо час. І ўвесь гэты час народ крычаў і цягнуў рукі:

— Бо-жа! Бо-жа! Бо-жа!

«Што «божа»? Ну добра, я ўсё мог бы зрабіць з вамі, я, самазванец і махляр, бадзяга і злодзей. А на што я мог бы паклікаць цябе? Рэзаць іншаверных або іншамысных?.. Нічога не скажаш, годная роля. Самазванцу пашанцавала. Нікому яшчэ не шанцавала так. Прынамсі, вельмі цікава. І каб задаволіць тую цікавасць, трэба цягнуць да канца. Што яшчэ застаецца? І, вядома, чыніць зло. Жывы бог злой грамады не можа не рабіць зла».

Ён працягнуў народу рукі. Проста каб паглядзець, а што будзе. Якраз у гэты момант над пляцоўкамі з'явілася Лотрава галава, а потым і ўвесь ён.

«Малайчына,— падумаў кардынал.— Хутка звыкае».

І стаў на верхнюю прыступку забрала, побач з Хрыстом.

Народ, убачыўшы рукі, працягнутыя да яго, узвыў. Крык стаў утрапёны. У ім нельга было нават разабраць асобных выгукаў.

Улешчаны выбухам энтузіязму, Лотр, хаця і пагарджаў гэтым быдлам, стаў з мілай усмешкай блаславляць натоўп.

— Вось,— шапянуў Юрась, нібы яго маглі пачуць.— Чаму ж не выбраць там любую жанчыну і не прымусіць узняцца сюды? Плакалі б ад захаплення... Чаму б не прымусіць іх скакаць у роў?

Тон ягоны, прызнацца, быў даволі брыдкі, але Лотра задавольваў. І раптам кардынал са здзіўленнем убачыў, як змяніўся твар Хрыста, як здрыгануліся бровы: той заўважыў кагосьці ў натоўпе.

У натоўпе выдзялялася постаць жанчыны на муле. Шкаляр міжвольна кінуў позірк туды і раптам убачыў, амаль ля самай галавы мула, блакітны са срэбрам караблік на дзявочай галаве, касу, чорныя з сіняваю вочы, якія глядзелі на яго, Братчыка, з непрытоеным, амаль малітоўным захапленнем, чаканнем, радасцю і надзеяй.

«Божа мой, якая святасць! — падумаў Юрась.— А я...»

— Ты што? — спытаў Лотр.— Сапраўды хочаш прымусіць кагосьці ўзняцца сюды? То пакліч пальцам, і ўсё.

— Змоўч,— праз зубы сказаў шкаляр.— Хто гэта там? Унь там?

Позірк Лотраў упаў на Магдаліну вярхом на муле. І кардынал узрадаваўся. Не таму, што жанчына паспела абрыднуць яму, зусім не, а таму, што ён намацаў урэшце ў гэтага чалавека слабае месца, ніць, за якую яго можна весці куды хочаш.

«Што ж, давядзецца аддаць,— думаў ён.— Шкада, а давядзецца. Дзеля такога чалавека, дзеля галоўнага козыра ў вялікай гульні. За меншыя козыры ў куды меншых справах аддавалі не толькі жанчын, а і сяброў. А тут і сам бог дазваляе... Глядзі, любенькі, глядзі. Лопай, лопай, раўняй рыла з мяккім месцам».

Уголас ён сказаў назнарок абыякавым голасам:

— Тая? Ды што... Магдаліна... Лілея далін. Не працуе і не прадзе. А і Саламон ва ўсёй славе сваёй не апранаўся, як яна. Хочаш? Вазьмі яе.

І трохі спалохаўся, убачыўшы выскал Хрыстовых зубоў:

— Э-э, кардынал. Не брашы. Па цэламу сабаку ў цябе з рота скача. На гэткую чысціню брэшаш.

Народ, убачыўшы, што бог нешта гаворыць, закрычаў утрапёна.

— Чуеш? — сказаў Лотр, паказваючы на яго.— Вось трыумф царквы. Жыццё мы табе далі. Жанчыну тую дамо. Служы.

Крык пачаў сціхаць: людзі хацелі паслухаць, пра што гэта гавораць на вежы. А раптам да іх.

І раптам у гэтай адноснай цішыні загрымелі выгукі, якіх раней нельга было пачуць:

— Гэй, Лотр! Ты што гэта побач з Хрыстом стаў, хамула?!

— Месца ведай, чакуша!

— Апусціся прыступак на пяць! Мышэй успомні! Хлеб!

— А то мы цябе падвесім, кот шкадлівы.

— М-мяў!!! В-ваа-ў! Ва-а-а!

Пачынаўся кашачы канцэрт, дзікі, шматгалосы, прарэзлівы. Лотр збялеў і спусціўся ніжэй. Зусім трохі.

— Гожая,— сказаў Юрась.

Ён так упарта глядзеў на праяву, якая цягнула да яго рукі, што не заўважыў, як балюча ўдарыў па Лотравым гонары народ.

Прыніжаны і крыху напалоханы, адразу ацверазелы, Лотр зразумеў: усё было памылкаю, гэты чалавек адчуў сілу. Ён згодзен зараз нават на паганыя ўчынкі, бо нешта зламалася ў ягонай душы. І ён, калі нават і будзе працаваць, то для ўласнага поспеху, а не для іхняга.

Зразумеўшы, якую пачвару ён нарадзіў і выпусціў на святло, Лотр схаладнеў. І тут яго чакаў яшчэ адзін удар. Машынальна ён зірнуў у той бок, куды глядзеў Хрыстос, і ўбачыў, што пад гульбішчам стаіць адна Анея.

Магдаліны і служкі з канём не было.

І тады, разумеючы, што куды ўжо яму строіць высокія планы, што ўсё сарвалася, што цяпер абы зберагчы тое месца, якое ў яго ёсць, застацца на ім і яшчэ перашкодзіць гэтаму шалберу заняць месца ў сэрцы дзяўчыны, якую ён, Лотр, за апошнія дні так шалёна і ўсё мацней жадаў, Лотр пачаў утрапёна думаць.

Ён, Лотр, хацеў гэтую дзеўку. Ён сам да гэтай хвіліны не думаў, што так яе хоча. І, значыцца, яна

павінна належаць яму. Яму і нікому іншаму, пакуль ён гэтага хоча. Заўтра ж ён паспрабуе дабіцца гэтага. Заўтра ж ён абкружыць гэтага махляра сотняй вачэй. Заўтра ж ён абгаворыць усё з дамініканцам, паспрабуе выдаліць гэтага чалавека з горада. Хай ходзіць, хай махлюе, як і раней, каб у горадзе быў спакой, каб гэты шкаляр быў далей ад мечнікавай дачкі, упартасць якой так распальвае яго, каб па-ранейшаму ён, кардынал Лотр, стаяў на кафізме[1] вышэй за ўсіх. У патаемным сваім гневе ён вытрымаў, сказаў з пазяхотай:

— Час табе, божа, узносіцца. Грошай дамо. Дзеўку гожую дамо. Тую — Лілею.

І асекся — так раптам гыркнуў на яго Хрыстос.

— Сам вазьму. Бач, ашчаслівілі. Сам знайду сваю дзеву Марыю... І ідзі ты са сваім узнясеннем!..

Бекеш у пакоі зачыніў акно. Шум нібы адрэзала.

— Махляры. Сыны сіманіі[2]. Адроддзе пекла. Глядзеў — і ўспаміналася: «Бачыш гэтыя вялікія будынкі? Усё гэта будзе разбурана, так што не застанецца тут каменя на камені...» Гандляры праўдай... Толькі б хутчэй разнеслі тут усё ўшчэнт... Гандляры богам... Сука! Вялікая блудніца.

І ён сціснуў кулакі.

## Раздзел XIV

## «ФІЛОСАФ ВЕЛІЙ, КНІГАЛЮБ...»

> Хрысціяніну, каб не папсавацца ў розуме, Біблію чэсці самому не належыць, а толькі слухаць з вуснаў пастыра.
>
> *Парада сынам духоўным*

> Глядзіць у кнігу, а бачыць хвігу.
>
> *Прыказка*

І ў тую ноч сеў ён вывучаць святыя кнігі.

Святліца ягоная была ў верхнім жытле гасцёўні на Старым рынку, невялікая, з белымі голымі сцена-

---

[1] Кафізма — узвышэнне для імператара ці вышэйшага духоўнага чына.

[2] Сіманія — гандаль царкоўнымі годнасцямі.

мі, з ложкам, з кіламам на падлозе, з нізенькай падстаўкай для кніг. І слабы сяцільнік асвятляў яе. І ён радаваўся, што ў ягоны пакой асобны ўваход, па вонкавых сходах.

Са смяценнем у душы прыступіў ён да справы. Ён, можа, і ўцёк бы, але апосталы ўчыстую разбасячыліся. Нават Фаму толькі што мучыў гонар, а так ён быў задаволены. Нават Раввуні, які ўсё жыццё надрываў жывот, радаваўся спакою і сытасці.

А кінуць іх ён не мог, бо звёў іх і звабіў, а цяпер адчуваў адказнасць.

І не было яснасці ў душы ягонай, і таму ён, шукаючы яе, узяў пудовы, пераплецены ў скуру том, паклаў яго на пахілае вечка падстаўкі і, скінуўшы хітон, сеў перад кнігай па-турэцку.

Усё адно. Цяпер яму трэба было ведаць гэта. Ён быў — Хрыстос. І адсюль ён павінен быў чэрпаць нормы сваіх паводзін. І тут ён павінен быў знайсці ісціну, бо нязведанасць мучыла яго. Ісціну, агульную для ўсіх людзей і народаў гэтай цвердзі. Ён прыблізна ведаў асноўнае, галоўны запавет, які даў ім — так яны верылі — бог. Яго цікавіла, што самі яны дадалі за вякі да гэтага запавету, што цяпер павінен ведаць ён, адзін з іх, былы мірскі школяр і шалбер. Ён вырашыў не ўставаць, пакуль не зведае гэтага.

Ён чытаў ужо некалькі гадзін. Месячнае святло падала ў акенца. Набліжалася поўнач, даўно ўжо варта загадала гасіць агні, а ён быў не бліжэй да ісціны, чым тады, калі сеў.

Ён прачытаў «Быціе» і абурыўся богам, і злосцю, і крыважэрствам — і не зразумеў нічога. І ён прачытаў «Выйсце» і абурыўся яшчэ і людзьмі (таму што да характарыстыкі бога не было чаго дадаць). Абурыўся як фараонам, так і Майсеем, і людзьмі іхнімі таксама, і блуканнямі ў пустыні, але галоўнае тым, што з гэтых трызненняў зрабілі вечны нязменны закон.

І прачытаў ён кнігу «Лявіт» — і ўвогуле не зразумеў, нашто гэта і якая каму б то ні было справа да таго, куды кідаць валляк ахвярнага голуба?

І чым далей ён чытаў, тым менш разумеў, аж пакуль не ўпаў у адчай. А зразумеў ён толькі адно, што кніга прапаведвае любоў да бліжняга, калі ён, вядома, не ерэтык, не іншаверац і не інапляменны. І ён ведаў, што ўсе людзі зразумелі з кнігі таксама адно толькі гэта.

Тады ён падумаў, што з ягонага боку гэта самаўпэўненасць: так, адразу знайсці верную дарогу. І ён падумаў, што, можа, бог або лёс пакажуць яму яе, калі ён аддасца на іхнюю волю і пачне разгортваць кнігу наўздагад.

Ну, вядома ж, пакажуць. Яны любяць, калі нехта спадзяецца на іх.

Ён разгарнуў кнігу з заплюшчанымі вачыма і торкнуў у адну старонку пальцам.

«І прыступіў я да прарочыцы, і зачала, і нарадзіла яна сына».

Гэ-эх. Не тое гэта было. Добра, вядома, але чаму трэба было выбіраць менавіта прарочыцу? І якія гэта мела адносіны да яго?

І ці была ў гэтым праўда, патрэбная не дзеля яго, злодзея, а дзеля ўсіх?

І ён яшчэ раз гартануў том.

«Вось я дазваляю табе замест чалавечага кала каровін памёт, і на ім гатуй хлеб свой».

І тут у яго ўвогуле палезлі на лоб вочы. Але ён не схільны быў занадта верыць сабе і сумняваўся.

— Лухта, здаецца,— ціха сказаў ён сам сабе і паглядзеў, чыё гэта.— Ды не, не можа быць лухтою. Бо Іаан Багаслоў. По́дзівамі апента́ны?[1] Ды быць не можа. Ану яшчэ... «Дай мне кніжку». Ён сказаў мне: «Вазьмі і з'еш яе; яна будзе горкая ў чэраве тваім, але ў вуснах тваіх будзе салодкая, як мёд».

Ён сам адчуваў, што ад непасільных разумовых намаганняў у яго дыбарам устаюць валасы. І яшчэ ён зразумеў, што, калі ён не кіне гэтай справы, ён сапраўды і давеку папсуецца ў розуме або неадкладна зап'е.

Таму ён непрытворна ўзрадаваўся, калі ў пакой ягоны раптам прыйшлі высокія госці: Басяцкі і Балвановіч з сувоямі. Узрадаваўся, бо не ведаў яшчэ, якое новае выпрабаванне зазнае сёння яго разумовая нармальнасць.

— Чытаеш? — спытаў Балвановіч.

— Чытаю. Занадта гэта ўсё, на маю галаву, разумна. Мудрасць дужа вялікая.

— А ты думаў...

— То што ў вас, святыя айцы?

---

[1] Шызафрэнік.

Абодва выпрасталіся і адкашляліся.

— Пасланне табе ад намесніка прастола святога Пётры ў Рыме.

— І ад патрыярха маскоўскага табе пасланне, божа.

— Ну, чытайце,— сказаў узрадаваны Братчык.— Чытай ты першы, каплан.

Балвановіч пакрыўдзіўся, але месца саступіў. Мніх з шолахам разгарнуў сувой:

— Була: «Да глыбіні...» Ад намесніка святога Пятра, папы Льва Дзесятага.

— Ну, давай. Якая там глыбіня...

— «Да глыбіні ўсхваляваныя мы другім прышэсцем тваім, месія. Будзем трымаць у імя тваё прастол святога Пятра. Молім цябе прыбыці ў вечны горад, але, думаецца, лепей зрабіць гэта як мага пазней, калі навядзеш ты парадак на любімай мною зямлі беларускай, вышпурнуўшы адтуль схізматаў праваслаўных, што гавораць ад святога імя твайго. Лабызаю ступакі твае.

Твой папа Леў Дзесяты».

— І праўда «да глыбіні». Ну, а што патрыярх?

Балвановіч замасліўся. Пачаў чытаць:

— «Царю и великому князю неба и земли от царя и великого князя, всея Великия и Малыя и Белыя Руси самодержца, а також от великого патриарха Московского — послание... Волнуется чрево церкви воинствующей от второго пришествия твоего, боже. Ждем не дождемся с великим князинькой пришествия твово; токмо попозже бы прибыл ты, дабы до того времени поспел выкинуть с любимой мною земли белорусской папежников и поганцев разных. Ей-бо, выкинь ты их. Они табачище курят, а табак, сам веdаешь, откуда вырос. Из причинного места похороненной блудницы богомерзкой. Вот грех божиться, а все же, ей-бо, вера твердая только у нас. Два Рима пали, а Москва — третий Рим, а четвертому не быть. Выкинь ты их, боженька. Припадаем до ног твоих и цалуем во сахарны уста. А Жигимонту этому паскудному так и скажи: «Г... твое дело, Жигимонт-царевич. Садись-ка ты на серого волка и поезжай-ка ты из Белоруссии к едреной свет матери». Еще раз цалую во сахарны уста.

Твой патриарх».

І тут перад вачыма Юрасёвымі паплылі, пачалі дваіцца, траіцца і чацвярыцца сцены, пудовыя дурныя кнігі, мніхі-капланы, мітрапаліты, сувоі, папы рымскія, патрыярхі і цары. Разумеючы, што яму канец, калі ён застанецца тут, Братчык скрыгануў зубамі (бацькі царквы адхіснуліся ад яго), схапіўся за галаву і як ашалелы кінуўся прэч.

## Раздзел XV

## «МАРЫЯ, ПАН БОГ З ТАБОЙ...»

І ўначы ёй сасніўся дзівосны сон:
Родны край, паплавы, зямля...
І пачула далёкі надводны звон
Ліляфея, дачка караля.

*Сярэдневяковая нямецкая балада*

Маці божая па муках хадзіла,
Па цямніцах, па пекле блукала.

*Песня баркалабаўскіх старцаў*

Зямля ўся была залітая аліўкава-зялёным месячным святлом. Рэзкія чорныя цені ляглі за дамамі, у нетрах дрэў, у байніцах вежаў... І было гэта так высока і чыста, што захапленне перапаўняла грудзі і хацелася ляцець насустрач гэтаму зіхоткаму срэбнаму шчыту, гэтаму акенцу ў другі свет.

Хістаючыся, ён ішоў начнымі вуліцамі, кідаўся ў непрытомнасці туды і сюды і цягнуў за сабою свой звязаны чорны цень, які таксама не ведаў, куды яму бегчы, і кідаўся ў розныя бакі... А за ім, наводдаль, цягнуўся другі, каржакаваты цень.

«А ўцячы? А што тады з хлопцамі? Ды куды? Божа мой, божа, за што ты пакінуў мя?!»

Маленькая, як цацка, каменная цэркаўка трапілася яму на вочы. Уся зеленаватая ў месячным ззянні з двума-трыма ўтульнымі агеньчыкамі ў маленькіх — з далонь — акенцах. Маленькая, чалавек на сорак — па тагачаснай модзе, толькі, відаць, для свайго вулічнага тупічка-кутка. Адтуль ціха-ціха далятаалі спевы: ішла ўсяночная.

Ён мінуў яе, прайшоў яшчэ трохі і раптам спыніўся. Нібы адчуў грудзьмі мечнае вастрыё.

Цераз нізкі каменны плот ён убачыў глыбокі, патаемны сад, увесь са святла і ценяў, і дзяўчыну з караблікам на галаве.

Сыпалася з дрэў раса. Месячнае святло ляжала на траве. І дзяўчына ішла да яго, цягнучы рукі.

Ён прыпаў да плота. Яна падышла бліжэй, і ён убачыў безуважныя, скіраваныя на нешта вялікае і светаноснае за ягонай спіной, амаль лунатычныя цёмныя вочы.

— Ты? — ціха сказала яна.— Я іду да цябе. Я пачула.

— Я іду да цябе,— гэта сказаў нехта за яго

— Ты,— сказала яна.— Ты. Я чамусьці ведала. Я адчувала. З тысяч нявестаў Гародні ты абярэш мяне. Хадзі сюды. Лезь цераз плот.

Неяк зусім безудзельна ён пералез. Ногі самі перанеслі. Стаяў нібы трохі ачумелы. І нічога ад бога не было ў ягоным вобліку. Але яна была як сляпая, як навекі аслепленая веліччу бога, што ішоў у славе.

І ён убачыў зусім блізка цёмныя, тагасветныя вочы і адчуў несамавіты боль, зайздрасць і сваю мізэрнасць. Але яна не ўбачыла і гэтага.

— Якія ў цябе вочы, божа...

Ён успомніў уцёкі пасля свіслацкай містэрыі.

— Якія валасы.

І ён успомніў, як ён ляжаў на ганебнай кабыле, гатовы для бізуна і здзеку.

— Увесь ты стройны і моцны, нібы елянец.

Ён глядзеў толькі на яе і таму не заўважыў, як нехта таксама падышоў да плота.

— Сонца маё, нашто ты на мяне кінула промнем сваім?

Яны павольна ішлі ў святло і цень.

...Там, дзе садовы плот прымыкаў да царквы, у густым чорным цені стаяў нізкалобы сотнік і змрочна глядзеў на іх.

Лотравы пакоі ў трансэпце гародзенскага замка нагадвалі пакоі багатай і не суровай норавам радавітай дамы. Каменныя сцены завешаны кілімамі і габеленамі з трохі легкадумным зместам. Іконы, дзе яны былі, здзіўлялі ўвагаю мастакоў да жывой плоці.

А той пакой, у якім зараз сядзеў кардынал, быў увогуле легкаважны. Шырокае, на шасцёх, ложа пад

гарнастаевай накрыўкай, крэслы з мяккімі падушкамі, нейкія каменныя і шкляныя пляшкі і флаконы на валошскім століку ля ложа. Пах якіхсьці салодкагаркавых маслаў.

Адзіныя духоўныя рэчы ў пакоі былі статуямі святога Себастыяна і святой Інэсы, дый тыя давалі відавочна пабольшанае ўяўленне аб сутнасці мужчыны і жанчыны.

На ложы ляжала Магдаліна, лянiва пагойдвала перад вачыма залаты медальён. Басяцкі, што сядзеў на крэсле каля сцяны, імкнуўся не глядзець у той бок.

Ля ног яе, таксама на ложы, сядзеў Лотр:

— Ты, сотнік, пачакай. Я вось толькі зараз дам загад братам-дамініканцам.

Сотнік асцярожна сядзеў ля самых дзвярэй на пазалочаным, гнутаногім венецыянскім крэселку. За крэселка тое рабілася страшна.

— Дык вось, пан Фларыян, за чалавекам гэтым трэба сачыць, каб не зрабіў чаго непажаданага.

Карніла ўсміхнуўся, але тыя не заўважылі.

— Атачыце яго даглядам. Прыстаўце людзей асабіста да яго... Дарэчы, ці ўзялі гэтага расстрыгупрарока? Гэтага... Іллюка?

— Узялі.

— Ён прарочыў прыход. Ён ублытаў нас у гэтую справу... Іл-лія! Пастарайцеся добра пагладзіць яму рэбры шчыпцамі... Каб ведаў: прарокі ў наш час — з'ява падазроная. А там можаце паціху адправіць яго — куды, самі ведаеце.

— Гладзіць яшчэ не гладзілі,— сказаў каплан, дачакаўшыся, пакуль Лотр выгаварыцца.— Дый няма патрэбы.

— Як?

— Ды ён усвядоміў, што не меў рацыі. І мы пазбеглі іх нараканняў у залішняй жорсткасці...

— Што, «велля»?[1]

Ды мы, бачыце, проста адвялі яго куды трэба і растлумачылі значэнне і прынцып дзеяння некаторых прылад.

— Такі конь? Спалохаўся? Прарок?

— Коні таксама хочуць жыць. І потым, ён не прарок, а шарлатан.

[1] «Велля» — «неспаннё». Падсуднага катавалі тым, што пазбаўлялі сну на працягу сарака гадзін.

— Добра,— сказаў Лотр.— Хай цяпер прыходзіць штотыдзень за тлумачэннямі і прарочыць тое, што патрэбна нам... Што там у цябе, Карніла?

— Удваіх,— сказаў сотнік.— У садзе ў Палянак. З Анеяй, дачкой мечніка.

Абодва жахнуліся, убачыўшы вочы кардынала.

— Ідзі,— глуха сказаў ён.— Схапі.

—Мяркую, позна,— сказаў Карніла.

Словы ягоныя міжвольна прагучалі як жарт.

— Выйдзі,— кінуў кардынал жанчыне.

Тая надзьмула вусны.

— Табе кажу.

Марына незадаволена ўзнялася. Пагойдваючы клубамі, пайшла да дзвярэй.

— В-вох,— ні з пушчы ні з поля сказаў Карніла.— Спакуса!

Усе маўчалі. Лотр сядзеў з заплюшчанымі вачыма. Белы, як сала. Калі ён расплюшчыў вочы, яны не абяцалі даравання:

— Дачка мечніка Палянкі Анея. Святая. Жонка пана Хрыста... І яна ўпэўнена, што ён — Хрыстос?

— Іначай, пэўна, нічога б і не было,— сказаў Карніла.— Яна славілася чысцінёю і цнотай. Яна ў вялікай веры жыла.

— Змоўч,— шэптам сказаў кардынал.

— Ведаеце, што з гэтага будзе? — плоскія вочы Басяцкага нядобра ўсміхаліся.— Гэты круцель цяпер не адмовіцца ад самазванага імя. Таму што збаіцца страціць яе.

— Гэта так,— шэптам сказаў Лотр.

— Калі яна даведаецца аб падмане — яна плюне яму ў твар. Ён цяпер не адмовіцца.

— Забіць,— ціха сказаў Лотр.— Абаіх.

Дамініканец усміхнуўся.

— Ненадоўга ж вас хапіла,— ён перайшоў на лаціну.— Казалі аб тым, што Ігнацы, што сябры ягоныя, што я — пачынаем велізарную справу. Што папа хай сабе праз дзесяць — пятнаццаць — дваццаць год прызнае нас. Што саюз наш будзе наймацнейшым саюзам зямлі. «Сыны Езуса», «Братэрства Езуса», ці як яно там. Казалі, што сіла наша ва ўсёпранікальнасці і патаемнасці. Казалі, што мы не павінны апаганьваць наш шлях яўнымі і адкрытымі расправамі. І вось цяпер ледзь нейкая дробязь закранула вас — вы за-

былі ўсё. Дарэмна браты адкрылі вам нашу таямніцу. Нас мала, мы пакуль вымушаны маўчаць і хавацца, як першыя хрысціяне. Але гора нам і мы прапалі, калі стаў на пачатку нашай дарогі такі, як вы. Я вымушан буду ўзняць голас перад людзьмі, якія здолеюць дабіцца ў папы Льва, каб ён заняўся гэтым сам і праверыў, ці адпавядаеце вы месцу, на якім сядзіце...

Лотр змежыў вочы. Мніх сказаў ужо мякчэй:

— Мне няма справы да жыцця і смерці гэтых людзей. Але схапіце іх тут, забіце іх тут — і мы ўбачым паўтарэнне таго, што было нядаўна. І на гэты раз нас не ўратуе нішто. А калі мы і ўцячом — увесь хрысціянскі свет зацікавіцца тым, што тут робіцца. Тое, што прыйдзе канец вашай славе, а магчыма і жыццю — дробязь. Але тое, што справа ратавання веры, мая будучая справа, справа майго братэрства выйдзе на свет — за гэта не будзе нам даравання ад улад і бога. Тут і індульгенцыі не дапамогуць. Гэта вам не Тэцэлева дурацкае абяцанне[1], гэта вам не на дзеву Марыю зрабіць замах.

Ён даў Лотру абдумаць свае словы і спытаў:

— Н-ну?

— Ты Хрыстова нявеста? — Лотр сказаў гэта праз зубы.— Што ж, будзеш Хрыстовай нявестай. Карніла, адразу, як гэтае адроддзе пекла пойдзе ад тае шлюхі, схапіце яе, схапіце... патаемна,— гэтае слова далося кардыналу з цяжкасцю.— І зараз жа адвязіце яе ў Машкаўскі кляштар, на пострыг. Хай замольвае пралюбадзейства.— І дадаў: — Мараль вышэй за ўсё.

— Вось такі вы на месцы,— усміхнуўся каплан.— Ты прыдумаў дзівосна. Ты нават сам не ведаеш, чаму тое, што ты прыдумаў, дзівосна.

Лотр знакам адпусціў сотніка. Годныя людзі засталіся адны.

— Ведаеш, чаму гэта добра? — спытаў мніх.— Ён адразу ж кінецца шукаць яе, і такім чынам мы пазбавім ад яго Гародню. Без шуму пазбавім... «Добры наш народ, чакай. Ён з'явіцца яшчэ. Хрыстос з апосталамі сваімі пайшоў хадзіць па краю, казаць слова божае і памагаць людзям».

---

[1] Саксонскі манах Тэцэль казаў, гандлюючы індульгенцыямі: «...яго свяцейшасць надзяліў мяне вялікай уладай — ад аднаго голасу майго брама нябёсаў адчыняецца нават перад такімі грэшнікамі, якія адчувалі пажадлівасць да святой дзевы, каб... апладніць яе».

— Чакай,— сказаў Лотр.— Тут трэба нібы ў шахматах... Значыць, яе выдаляем — ён ідзе з горада?

— Тут не трэба «нібы ў шахматы». Логіка супрацьпаказана жыццю. Гэта толькі дурні і поўныя бездары патрабуюць, каб усё было заматывавана. Гэта не жыццё. Гэта — шкілет. Без жыцця і яго пульсавання. Без плоці. Без праўды... Вось слухай. Трэба, каб ён ведаў, што яе нехта ўкраў і павёз. Для гэтага досыць і добрых суседзяў. І ён будзе рвацца за ёю. Але тут яго можа спыніць боязь моцных ворагаў. Таму адначасова трэба злёгку пераканаць яго, што яна кінула яго, і абудзіць гнеў. Гэтыя розныя пачуцці будуць мучыць яго. Цяга, нянавісць, абражаная вера. І, больш за ўсё, жаданне, каб скончылася гэтая няўпэўненасць, каб было нешта а д н о. Да гэтага, да раўнавагі, заўсёды імкнецца кожны чалавек, герой або шалбер і круцель. І гэтая прага да а д н а г о, да в е д а н н я выбавіць яго з горада хутчэй, чым адна нянавісць або адно каханне. Нянавісць можа забыцца. З каханнем можна праседзець у горадзе яшчэ тыдзень і, між іншым, за чвэрць дня скінуць нас або зрабіць наша становішча нясцерпным. А так ён не будзе чакаць і дня.

— Рацыя. Аб выкраданні скажуць суседзі. А хто аб здрадзе?

Пёс пана бога маўчаў. Пасля спытаў ціха:

— Табе не шкада будзе развітацца з ёю?

— З некаторага часу — не шкада,— сказаў Лотр.

— Я спадзяваўся на гэта. Вось яна і скажа. А згодзіцца пайсці ад цябе? Сачыць? Даносіць?

— Ёй давядзецца,— Лотр крыва ўсміхнуўся.— Хацеў бы бачыць я, як гэта яна не згадзілася б.

— Толькі без шуму. Разумееш, нам патрэбен каля яго свой чалавек. Каб раіў, сачыў, даносіў. Лепей за ўсё, калі гэта будзе жанчына. Яна. Вуха наша. Лепшае наша войска... Паабяцай ёй, што адразу, як толькі яна выканае справу, яна вернецца да цябе. Назаўжды. А калі захоча спакою — мы знойдзем ёй мужа... багатага нобіля.

— І што яна будзе даносіць? І як?

— У кожным горадзе ёсць сувязныя галубятні. Хай з кожнага горада адпраўляе па голубу. Калі яны будуць мірна махлярыць, апосталы, калі яны будуць мірна ашукваць і губляць славу і людзі па-

чнуць забываць іх — яна дасць яму грошай і перакане «ўзнесціся». І люд будзе чакаць яго.

— А калі ён зробіць замах на веру?

— Ён не зробіць. А калі пачне дбаць аб сіле і славе, калі замахнецца на нас — хай яна прывяжа да нагі голуба пярсцёнак і затрымае іх на тым месцы дні на тры. Тады ў тое месца паскача Карніла з людзьмі.

— І што?

Агонь трапятаў на твары мніха. Аблічча ўсміхалася. Цені бегалі ў зморшчынах і трывала ляжалі ў начніцах. Страшная маска нечым вабіла.

— Божа мой,— сказаў ён.— Сто́лькі глухіх яроў!.. Столькі сведкаў «узнясення»!

Месячнае ззянне ляжала на дрэвах. Снапы святла падалі з царкоўных акенцаў у сад, і ў гэтых снапах клубіўся лёгкі туман. А яны ўсё яшчэ ішлі некуды ў глыбіню гэтага вялікага саду, і цвіў глог, і кожная яго галіна была, як белы і зеленавата-ружовы — ад месяца — букет.

Галіны апускаліся за імі. Ён абняў яе за талію, і яны ішлі. Пасля спыніліся.

Закінуўшы твар, яна глядзела яму ў вочы, як на святую статую, што раптам ажыла. І ён, нечакана хрыпла, спытаў:

— Як цябе зваць?

— Я — Анея,— сказала яна.— Анея... Мне здаецца, гэта сон... Гэта не сон?

А ён успомніў прынізлівыя галадоўкі і вандраванні.

— Сон,— сказаў ён.— І ў цябе, і ў мяне — сон. Ты — Анея... А я...

— Не трэба,— спяшаючыся, сказала яна.— Я ведаю, хто ты... Сёння ты высіўся над усімі, і сонца было за тваёю спіною. У мяне — падгіналіся калені... Дзе твае крылы?

«Пане божа,— з болем падумаў ён,— спытала б яна лепей, дзе мае рогі».

Яму зрабілася пакутліва-балюча... Крылы... Ведала б яна, як яны здабывалі хлеб, як ён спалохаўся катавання, як вырашыў жыць, як усе, ваўком і махляром, падступным здрайцаю, бо іначай нельга. Ён будзе так жыць. А яна кажа аб крылах.

Ясна, што яна зусім не любіць яго, бадзягу і шалбера. Перад ёю — бог. Волі ягонай — не пярэчаць. Ён можа ўзяць яе, і яна не скажа слова супраць. Ён можа прымусіць яе зрабіць усё: забіць сябе, нагаю прайсці па вуліцах, і вось гэта... Ён ледзь не плакаў ад страшнага прыніжэння і ад нясцерпнай цягі, ад кахання да яе. Ён адчуваў сябе падманшчыкам, здраднікам усяго святога, тым, хто топча давер'е дурненькага і добрага чалавека. Ён ведаў, што не даруе сабе, і пагарджаў сабою, і ненавідзеў сябе, і ненавідзеў бога. І жылі ў яго сэрцы рэўнасць, нянавісць і гнеў.

— Ты кахаеш мяне? — з надзеяй спытаў ён.

— Я кахаю цябе, божа наш.

— А я? — пакутліва вырвалася ў яго з грудзей.— А каб я быў іншы... Тады... дзеля мяне самога?..

— Але ты не іншы,— у вачах у яе жылі ўтрапенне і шалёны, самнамбулічны экстаз.— Ты не можаш быць іншы... Ты — бог. У цябе залатыя валасы. Іскры ў іх.

Гэты шэпт прымушаў яго калаціцца. Што ж гэта за насланнё? Ён губляў галаву. А вакол былі нетры з кветак.

І ў гэтых нетрах яна ўпала перад ім на калені. Разгублены, ён паспрабаваў узняць яе, але сустрэў такое супраціўленне, што зразумеў: не здолее. Жанчыны ніколі не стаялі перад ім на каленях. Гэта было дзіка, і ён паспяшаўся таксама апусціцца на калені, пераступіўшы яшчэ адну прыступку да апошняга.

У месячным тумане гучалі здалёк спевы:

— «Анёл, увашэд да яе, сказаў: радуйся, благадатная! Пан бог з табою; блаславёная ты паміж жонамі».

«Блаславілася,— думаў Хрыстос.— Усё адно як з першым — лепшым. Радуйся! Ёсць чаму радавацца».

Яна плакала, абдымаючы яго. Магчыма — ад шчасця.

— Я ведала... заўсёды... Я чакала кагосьці... Не купца, якому — грошы... Не смярдзючага воіна... Нехта з'явіцца да мяне калі-небудзь... Але я не думала, што так... Што ты... Ты з'явішся да мяне... Чаму так доўга не прылятаў?.. Цэлых семнаццаць год?

— Нядаўна толькі навучылі,— сумна сказаў ён.— Калі вылецеў з калегіюма.

Ён глядзеў на яе. Яна была прыўкрасная. І яна не кахала яго. Яна казала гэта іншаму. Ён захлынуўся ад рэўнасці і не мог больш маўчаць:

— Анея... Ты ж гэта не мне... Ты — іншаму... А я просты шкаляр, валацуга, шалбер.

Яна не чула. А можа, няздатная была чуць, і словы зараз дзеля яе былі пазбаўленымі сэнсу гукамі.

— Не трэба,— як глухая, сказала яна.— Я ведаю тваё смірэнне. Простая палатніна, пыл дарог, уздыхальня, дзе ты ніжэй за разбойніка. Але ж я ведаю, хто ты. І я кахаю цябе. Я нікога яшчэ так не кахала.

У абурэнні і крыўдзе ён адарваўся ад яе, хаця гэта і было вышэй за ягоныя сілы. Глухая крыўда рухала ім.

— Ты не хочаш слухаць. Я пайду.

Яна ўся сціснулася.

— Я ведаю,— ціха-ціха сказала яна.— Я ж ведаю, што я не варта цябе, што гэта неба падарыла мне незаслужаную літасць. Хочаш — ідзі. Усё ў тваёй святой волі... Няма цябе — няхай тады пекла... Нашто мне жыццё, калі мяне пакінуў мой бог?

І ён зразумеў, што яна так і зробіць. Нельга было яе пераконваць. І нельга, смяротна-небяспечна было не зрабіць подласці, пакінуць яе і пайсці.

Самкнуўся круг. І ён, разрываючыся ад пагарды да сябе і несамавітай цягі да яе, здаўся, зразумеўшы, што нічога больш нельга, акрамя таго, што павінна адбыцца.

«І сказаў ёй анёл: не бойся...» — ляцелі здалёк, нібы з самага неба, спевы. Сакавік крочыў па зямлі. І яна заплюшчыла вочы і, дрыжучы, сказала:

— Пацалуй мяне; мне страшна. Але гэта, напэўна, так і трэба, калі прыходзіць бог... Я веру табе.

«Верыць? Мне?» — паспеў ён яшчэ падумаць з непамерным здзіўленнем, але вусны ягоныя прыпалі ўжо да чагосьці, і гэтага ён чакаў усё жыццё, і паплылі бліжэй да ягонага аблічча травы і спыніліся, а пасля, праз незлічоныя стагоддзі, здрыганулася зямная цвердзь.

Ляцелі аднекуль галасы, чуліся за мурам крокі, смех і гукі лютні. У ззянні месяца заспявалі маладыя галасы:

Глог у цямноцці сіні
На Замкавай цвіў старане,
Калі на падвор'е дзяўчыны
Дзівосны прыйшоў ганец.
Сказаў ён ёй: «Кахаю»,
З любоўю сказаў і тугой.
І заспявалі на небе:
«Дзяўчына, пан бог з табой».

Ціхі голас казаў, што нехта любы, мілы і каханы. А над усім гэтым у месячным дыме распасціралася бяздоннае неба, і мігцела ў ім то белая, то сіняя, то вясёлкавая зорка.

Раніцаю ён пераскочыў цераз плот:

— Я прыйду вечарам і забяру цябе.

— Так... Так...

— Назаўсёды. Я толькі павінен падрыхтавацца.

— Я чакаю.

...Ён ішоў вуліцай, і ягоны твар быў як быццам адноўлены тым, што з ім адбылося. Магчыма, таму, што ў нахабных калісьці, куцельскіх вачах жыло ціхае і добрае ззянне.

Яшчэ дужа здалёк ён убачыў, што насустрач яму рухаюцца дванаццаць занепакоеных постацяў. Але раней, чым ён паспеў хаця трохі наблізіцца да іх, на яго выкруціўся з завулка п'яны з раніцы, доўгавалосы, страшны і зверападобны, у сваіх шкурах Іллюк Спасаіконапрэабражэнскі.

— А-а, Езусе літасцівы,— ён ледзь трымаўся на нагах.— Во дзе сустрэліся! Дазвольце рончку. Я ж, можна сказаць, твой Ілія. Той, пра якога яшчэ Ісайя казаў: «Голас, што лямантуе ў пустыні». Я...— і тут ён змаху чабарохнуўся ў вялізную лужыну,— Іаан Ксціцель.

— Што гэта за свіння? — грэбліва спытаў Тумаш.

— Ілія,— сказаў Братчык.— Які папярэднік, такі і месія.

— А я ж... падрыхтаваў шлях твой перад табою.

Фама — Тумаш падміргнуў. Сіла — Якуб і Лявон — Пётр схапілі папярэдніка за рукі і павалаклі. Ён араў нагамі зямлю, робячы дзве баразны:

— Не пазнаеш? Адракаешся? А я ж цябе ў Ярдань мачаў! Ну пачака-ай! Прарочыў я! Зведаеш ты цяпер мае прароцтвы! Голас божы быў у тых начных людзей. Чака-ай!

Юрась плюнуў і рушыў далей.

Калі ўсе яны зварочвалі з Мечнай вуліцы на вуліцу Абдзёртага Бабра, насустрач ім трапілася два дзесяткі коннікаў у чырвоных плашчах: замкавая варта. За імі цягнулася вельмі абдзёртая закрытая карэта, запрэжаная парай добрых белых коней.

Хрыстос не звярнуў на іх увагі. Яму было не да таго.

...Праз некалькі гадзін яны сядзелі ў Юрасёвым пакоі і спрачаліся. Спрачаліся зацята.

— Ажэніцца ён,— іранізаваў Лявон — Пётр.— Не паспеў з'явіцца пан Езус, як ён, ці ведаеце, ажэніцца,— тытунёвыя Лявонавы вочы бегалі.— Ясна, што тут такое: шлюб пад плотам, а вяселле — потым.

— Я табе, Лявон, зараз дам па тваёй апостальскай лысіне, каб языка свайго атрутнага пазбавіўся,— спакойна сказаў Юрась.

Конаўка згубіў раўнавагу. Заенчыў ледзь не з адчаем:

— Ды ты разумееш, што гэта такое будзе, тваё вяселле? Ты ж адразу як Хрыстос ляснешся. Ты ж сам нядаўна казаў, што будзеш плысці, як лёс нясе, узвышацца, уладу браць, грошы браць.— І перадражніў: — «Раз ужо застануся ў гэтым гноі, ра-аз усе гэтыя свінні».

— Учора думаў,— сказаў Братчык.— А сёння брыдка мне.

— Яна Ксціцеля памятаеш? — нервова спытаў гарбаносы мытар.— Зладзеі мы. Нельга спыніцца, раз трапілі, як сучка ў кола. Вішчы ды бяжы. Спынішся — яны табе прыпомняць, што ты і хто ты. На прэнгу ўспомняць, якое яно, увазнясенне ды ў неба ўзяцце. Люд цябе на шматкі разарве.

— Як хочаце,— упарта сказаў Хрыстос.— Я павінен...

— Перад кім? — залямантаваў яловым голасам Якуб Алфееў.— Перад дзеўкай той? Ды спі ты з ёй колькі хочаш — слова ніхто не скажа. Бласлаўляць цябе стануць, стопы цалаваць. Ёй, думаеш, нешта іншае трэба? Ты — бог.

— Дзеля яе...
— А пра нас забыў?! Зноў на дарогу?! А жэрці што?!
— Аўтух — Андрэй па-дурному зазваніў у кішэні грашыма.
— А, грошы,— успомніўшы, сказаў Хрыстос.— Вось тут кожнаму па чатыры залатых... І мне тое самае... Я сабраў.
І тут выбухнулі страсці.
Братчык ніколі не мог уявіць, што дзесяць чалавек могуць так крычаць.
— А пасля што? Гэта на ўсё жыццё?
— Яшчэ каб казну ўзяць, коней накр... намяняць, дык тады нічога. А тое... чатыры манеты.
— У мяне гэта самая ўдалая роля,— рыпеў Баўтрамей.— Плацяць як ніколі.
— Пашанцавала так,— галава на блюдзе варушыла тоўстай верхняй губой.— А табе чаго яшчэ трэба?! Наракальнік ты! Еўнах!
— І я!.. Гэна!.. Як яго!.. Яно!.. Ну, таго!!!
— Каханыя,— супакойваў жанчынападобны Іаан.— Нашто ісці? Ён не думае. Добрае робіць свету і сабе.
Ад гвалту барабаніла ў вушах.
— Цыц! — гаркнуў раптам няверны Тумаш.— А я згодзен з ім. Дзеля гонару.
— Разумны чалавек,— сказаў Раввуні і пахваліў сябе, не ўтрымаўся: — Амаль як яўрэй.
— Дык што ты яшчэ вякнеш? — пагрозліва спытаў у Пятра Хрыстос.
Той, унікаючы позірку, глядзеў у акно.
— А ты падумаў, Лявон, на які ты час — Пятро? — сказаў Юрась.— І ты падумаў, што пакуль ты патрэбен — у цябе грошы, а калі ты не будзеш патрэбен — у цябе не будзе не толькі грошай, а і галавы...
— А ты падумаў, Хрыстос,— засычэў раптам Пётр,— што гэта адзіны раз лёс дае ў рукі такі козыр? Што не яны табе, а ты ім можаш знесці галаву? Што працягні ты руку, і Гародня — твая... Беларусь — твая... Жмойская зямля — твая... Падляшша — тваё... Каралеўства — твоё... Палова зямлі — твая. І ты ж сам яшчэ нядаўна згаджаўся на гэта, здаецца? Што яны могуць?! А ты можаш усё.

— Ведаю. Мог бы. Але гэта шмат намаганняў... Палова жыцця... Адна гадзіна змяніла ўва мне ўсё. Я не хачу губляць не толькі што паловы жыцця, а і ніводнай хвіліны. А калі не аддаць гэтаму ўсяе сілы, хітрасці... подласці — гэта скончыцца не панаваннем, а плахай.

— З-за дзеўкі залатую раку губляеш,— Жарнакрут — Баўтрамей распусціў рот-зашмаргу.— Дзеўку яму трэба.

— Няладна,— сказаў Тумаш.— Ну і дзеўку.

— Мілы,— са здзеклівай пяшчотай сказаў Іуда,— у савана няма кішэняў.

Юрась устаў:

— Як хочаце: я іду. Хто хоча ісці са мной — хай чакае.

— Я пачакаю цябе каля брамы,— сказаў Раввуні.

Якраз у гэты час у гатычнай капліцы Машкаўскага кляштара канчаўся пастрыг. Пагражалі галасы пад вострымі скляпеннямі, у змроку. А ў пляме слабага святла, што падала з акна на каменныя пліты падлогі, стаяла жанчына, і было на ёй — замест андарака, казнаткі і карабліка — грубае адзенне манахіні.

А побач з жанчынай стаяла маці-настаяцельніца, нязмерная ўпоперак баба год пад сорак, з абліччам адначасова ліслівым і ўладным, і сціскала руку новай манахіні. Сціскала разам са свечкай, каб не ўздумала кінуць ці выпусціць.

Свечка капала гарачым воскам на тонкія пальцы маладой рукі, але Анея не адчувала болю. Сцяла сківіцы. Глядзела ў адну кропку.

З капліцы яе павялі пад рукі. У левым нефе настаяцельніца спыніла яе:

— Н-ну, колькі яшчэ як драўляная будзеш? Усё ўжо. Усё. Чуеш?

— Чую.— У яе вачах раптам з'явілася жыццё.— Што ж, і так і так я нявеста Хрыстова, жонка Хрыстова... Ягоная.

— Гм... Усе мы тут яго нявесты.

І тут у вачах жанчыны плеснануўся гнеў. З непрыхаванай іроніяй яна агледзела постаць ігуменні.

— Гэта вы — нявеста? Доўга ж вам яго чакаць. Мой ён. Чуеш ты — мой. Ён праз муры ўбачыць. Ён прыйдзе.

І ён прыйшоў. І вось ужо вельмі доўга стукаў у аканіцы дома на Мечнай вуліцы, хадзіў, а пасля бегаў па сцежках саду.

Гэты дзённы сад страціў начное ачараванне. Голыя і паўсядзённыя былі дрэвы. Мёртва-белы быў у дзённым святле глогавы цвецень. І нават стаў у канцы саду быў не сіні, як уначы, а цёмна-празрысты.

І тут нідзе не было яе.

Пусты быў дом. Пустыя былі сцежкі.

— Анея! — не стрываўшы, закрычаў ён.— Анея.

Яго чамусьці ахапіў смяротны жах.

— А-не-я!

— Дзядзечка,— пачуў ён дзіцячы галасок,— вы чаго крычыцё?

Ён убачыў над плотам галаву. Хлапчук год пад дзесяць вырачваў на яго шэрыя вочы, хлопаў даўжэзнымі цёмнымі вейкамі:

— Анея тут жыве. Дзе?!

Хлопчык узлез на плот і сеў. Пачухаў адной босай нагой другую.

— Гэта ты той дзядзька, што «неадменна павінен быў прыйсці»?

— Ну.

— Пабажыся.

— А каб на цябе... Ну... ну, хай мяне пярун шасне.

— Эге... То Анею... коннікі пад'ехалі ды сілком павязлі.

— Сам бачыў? Што за коннікі?

— Не-а... Не ведаю, што за коннікі. Я ж сам не бачыў. Ужо як адвезлі, то нейкая цётка прыйшла, ды мне перніка дала, ды сказала: «Цётку Анею павезлі... То яна злаўчылася мне шапянуць, а я... а я вось табе кажу. Як прыйдзе той дзядзька, што неадменна павінен быў прыйсці — скажы яму, што... цётка Анея паехала па Лідскай дарозе».

Юрась стаяў, як прыбіты:

— То «паехала» ці «сілком павезлі»?

— А я ж, дзядзечка, не ведаю. Цётка тая казала — «сілком», але «паехала». Можа, і сілком, але я, каб

цётка Анея крычала, дык не чуў. Я тады ў каморы сядзеў, бо вяршкі злізаў. Яны толькі выехалі, а тут мяне матка і выпусціла, дараваўшы, дзякуй ёй божа, а тут і цётка пернік прынесла.

Юрась задумаўся. Што ж тут было? Сапраўды выкралі? А можа, адчула душою падман і з'ехала сама? Не даравала? Бацька, загадам князя, у Менску збройнікаў вучыць. Маці няма. То, можа, з'ехала да яго?.. Але трывога ўсё нарастала. Чаму не дачакалася? Не можа быць, каб да бацькі. Калі выкралі — то хто і нашто? І хто пасмеліцца ўзняць руку на дачку мечніка? А калі з'ехала сама, адчуўшы, што ён не той, успомніўшы яго начныя словы, якіх не чула тады,— то як, як яму тады жыць?!

Ён страпянуўся:

— Дзякуй, сынок.

— Вы яе знойдзеце. Яна мяне любіць. А я... ну, з бацькамі, ясна, яе аберагаю.

«Гэх, хлопча,— падумаў Братчык,— кепска ты яе аберагаў. Ды я не скажу табе гэтага».

— Мы з ёю сябры — не разлі вада.

— Я знайду яе, сынок.

Юрась пабег.

## Раздзел XVI

## САРОНСКАЯ ЛІЛЕЯ

> ...Кажуць таксама, што жыціе гэтай святой пачалося з таго, што, не маючы чым заплаціць пагоншчыку мулаў, яна заплаціла яму натурай.
>
> *Апокрыф*

Было ўжо зусім цёмна. За акном Братчыкава пакоя свяцілася ў змроку чырвоная стужка зары.

Свяцільнік ледзь мігцеў, вырываючы з цямноцця лысіну Баўтрамея, жывое, бы ў малпы, аблічча Ілія-ша — Сымона, доўгія валасы і юродскія вочы Ладыся — Іаана, ды яшчэ, далёка ад святла, вузкую руку Хрыста, што бязвольна звісала з каленяў. Вышэй за яе трывожна блішчэлі Юрасёвы вочы.

Апосталы не маглі зразумець, што здарылася.

Братчык з'явіўся змрочны і ніякіх загадаў не аддаваў, толькі шпурнуў Піліпу ледзь не трэць усіх грошай і сказаў:

— Віна... Вячэраць.

Гэта было добра. Значыцца, галава раздумаў ісці з горада на галодныя і пыльныя дарогі. Раздумаў, прынамсі, на некалькі дзён.

Апосталы радаваліся. Але, з другога боку, словы Юрася аб небяспецы і магчымай пласе ўсё ж запалі ім у вушы, дый Фама, пасля адыходу Хрыста з Іудам, добра-такі ўклаў усім розуму ў галаву. Княства княствам, а сваё жыццё даражэй.

І вось таму яны зараз і радаваліся, што застаюцца, і адначасова пабойваліся і хацелі пайсці і знікнуць.

Тумаша не было. Даведаўшыся, што будзе віно і вячэра, ён спытаў у Хрыста:

— Дзевак хіба паклікаць?

— Дзеля сябе і іншых — як хочаш,— думаючы пра нешта другое, сказаў ілжэ-Хрыстос.

Фама крэкнуў з многім значэннем, але той не раззлаваўся, і шляхціц, зразумеўшы такі стан як згоду, пашыбаваў у горад раскідаць свой брэдзень.

І вось усё было падрыхтавана ўжо, а яго не было, і ўсе моўчкі чакалі, і толькі Іуда ў куце пра нешта такое шаптаўся з Хрыстом:

— Ну і што ты думаеш рабіць?

— Пэўна, чакаць. Сюды, можа, дойдуць звесці, а там... голка ў стозе.

— І я-ткі пайшоў бы.

— Іосія, мілы. Што я магу ведаць? Я нават не ведаю, а можа, яна сама пайшла ад мяне? Можа, яна зразумела ці нехта адкрыў ёй вочы? І вось... не сцярпела падману, прыніжэння, таго, што сама кінулася.

— А можа, ёй зараз так кепска, што... Можа, чакае паратунку?

— А можа, шчаслівая, што мяне няма.

— Гм, рацыя,— сцвердзіў Іуда.— І, аднак, думаць трэба. Шукаць. І заўваж, тут шукаць непрытульна. І можа прыйсці час, што ты не здолееш і думаць. І я не здолею думаць. Чаму? Таму што думаць можна, калі ёсць чым думаць, а калі чым думаць няма, то і думаць няможна. Скажу толькі адно, каб табе, можа, было лягчэй. Што можа зрабіць Іуда? Ён можа кінуць

друга? А друг кінуў яго аднаго ў Слоніме? Ці ён можа, каб сябра павесілі?

У гэты момант адчыніліся дзверы, пачуўся вясёлы рогат і віск, і ў пакой пачалі плысці, не датыкаючыся нагамі зямлі, дзеўкі.

Адна, дзве, тры, чатыры, пяць... За імі з'явіўся, сапучы, наліты крывёй, шчакасты Багдан Роскаш. Дзеўкі віселі ў яго на працягнутай руцэ. Але гэта быў яшчэ не канец. Тумаш бокам зрабіў яшчэ крок, і другі, і трэці — і вось яшчэ чацвёра дзяўчат віселі на другой ягонай руцэ і матлялі нагамі ў паветры.

— Вось,— сапучы, сказаў Тумаш.— Добры вечар у хаце... Яны прыехалі... Меў ласку даставіць.

Апусціў дзяўчат на падлогу.

— Гэта не ўсе. Чатыры ішлі самаходам.

— Не здолеў, ці што? — спытаў Іліяш.

— Чаму не здолеў? Месца на руках не хапіла. Гэта ж не зморкі нейкія... Бачыце? Гэта ж ёсць што абняць!

Запалалі свечкі. Іх сталі ляпіць дзе можна, і скора ў пакоі стала светла, бы ў царкве на вялікдзень.

Асвяціўся вялікі, на ўсю падлогу, кілім і на сярэдзіне яго — смажаны баран, дзве шынкі, тры гусі, дзесяткі два смажаных курэй, паляндвіцы, місы з калдунамі, паранай рэпай, агуркамі салонымі, мочанымі яблыкамі і проста тушаным мясам і іншай рознасцю.

А паміж гэтага строем стаяла безліч бутэлек, пляшак, глякоў з гарэлкай, мёдам, крупнікам і віном.

Фама пастараўся. Нездарма так доўга хадзіў. Дзеўкі былі ўсе маладыя, літыя, цвёрдыя і гожыя. А калі некаторыя і не дужа, то шляхціц меў рацыю: абняць было што. Румяныя, белазубыя, вочы ад чакання выпіўкі і ўзбуджанасці блішчаць. Чырвоныя, блакітныя, аранжавыя кабаты-шнуроўкі, андаракі — як вясёлка. Істужкі, рознакаляровыя кабцікі[1] на нагах.

Пакой зацвіў, як весні поплаў. Адразу запахла нечым цяжкавата-духмяным, зарабацініла ў вачах, і, нават без выпіўкі, пачалі круціцца галовы... Усе з рогатам сядалі за сталы, на хвіліну здзіўляліся, што пан бог адзін, а пасля вырашылі, што так, відаць, і трэба, гэта ж не апостал там нейкі, і пачыналі тармасіць кожная свайго.

---

[1] Боцікі.

...Хутка віно палілося ракой,— усе гаварылі кожны сваё, не слухаючы іншых, цалаваліся, рагаталі. Некаторыя пачыналі ўжо думаць, што трэба трохі стрымаць сябе, а то яшчэ зваліішся з галерэі, на якую выходзілі іхнія дзверы, або не трапіш у свой пакой.

Галас, віск, смех. Суседка кусала Акілу за вуха, а той толькі жмурыўся ды бубнеў:

— Ай, ну... Ай, не трэба... Гэна... Казытліва.

Лілося ў пашчы віно. Гожанькая суседка Роскаша скосу паглядала на Раввуні.

— А гэта нібыта не на-аш... Нібыта з біблейскіх мясці-ін. Пане божа, а як жа ціка-ава!

— Нічога цікавага,— буркнуў Фама.— Такі самы, як і ўсе.

У Іуды ляжала на каленях дзівосная каштанавая галава. Вочы прыплюшчаныя, вусны чакаюць. І ён нахіляўся і цалаваў гэтыя вусны. Яму доўга давялося ісці. Але вочы яго, калі яны сустракаліся цераз галовы п'яных з вачыма Юрася, былі сумныя. Ён усё разумеў, нібы адчуваў сябе вінаватым, і, аднак, нічога не мог зрабіць, акрамя як пакінуць яго. Уначы — кожны за сябе. Адзін з горам, другі — з жанчынай, да якой ён доўга ішоў.

Юрась сядзеў над гэтай карчмою змрочны. Сплёў рукі між каленяў, глядзеў, слухаў, піў.

— Пі, Хрысце, божа наш,— дзерся Багдан.— Пі, аднойчы жывём!

— Заганарыўся наш Езус,— з падступнай усмешкай сказаў Пятро.— Падумаеш, бог. Я, можа, сам незаконны сын караля Аляксандра.

— Дзверы шырэй адчыніце! Душна!

— Навальніца будзе. Бач, бліскае.

На двары сапраўды часам бліскалі далёкія, бязгучныя яшчэ, маланкі. Рассякалі цямноцце, асвятлялі наводдаль вежы і грыфельны дах замкавай базілікі. Кожны раз лявей і ніжэй вежаў нешта шырока налівалася чырвоным святлом: Нёман, які пасля весняга разліву яшчэ не зусім увайшоў у берагі.

Затрапяталі раптам агеньчыкі свечак. Усе ўзнялі галовы.

Жанчына стаяла ў дзвярах. У цёмным дарожным плашчы паўзверх багатага ўбору. Вочы трохі грэбліва

глядзелі на хаўрус. Пасля яна ўздыхнула і стомлена, нібы неахвотна, пераступіла парог.

І гэта была сапраўды такая журботная, дасканалая і нейкая смертаносная прыгажосць, што ўсе прыціхлі. Адзін Ян Зеведзееў ускочыў, каб прыняць яе плашч, і замітусіўся вакол яе.

— Што мне ў табе? — абыякава сказала яна і пайшла па дыване, ступаючы проста паміж блюдамі, да Хрыста.

Трэба было быць мастаком, каб прайсці між гэтага разарэння, не наступіўшы ні на што, не зачапіўшы ні адной бутэлькі нагою або краем сукні, які яна ўрэшце прыўзняла. Але яна ішла, нібы па роўнай падлозе і яшчэ лепей, ішла, нібы танцавала, і ўсе сачылі вачыма за дзівоснай гэтай праявай.

І прайшла. Не зачапіла нічога. Да Хрыста.

Ён паглядзеў на яе і міжвольна засланіў вочы, нібы ад святла, далонню вонкі.

— Што табе трэба? — спытаў ён.

— Мне абрыдла маё жыццё і ўсё тут. Я хачу ісці з табой.

— Нашто? Ты жанчына.

— Магчыма, я мацнейшая за вас.

— Не, для цябе нашто?

— Магчыма, я магу быць карысная табе,— з той самай стомленай усмешкай сказала яна.

Пасля на імгненне прыкрыла вочы і раптам усміхнулася, глянула з даверлівым маленнем, чаканнем, што яе не падмануць, і радасцю.

— Мне трэба ісці за табою. Я не ведаю, чым жыць. І ў мяне няма рашучасці пакінуць жыць.

— Што я магу сказаць табе, сам седзячы ў цемры?

— Можаш даць майму жыццю святло. А я пастараюся рассеяць тваю цемру.

— Як хочаш,— сказаў ён.— Сядай.

Яна села побач з ім. Пaступова ў пакоі аднавіўся п'яны шум і смех. І тады, убачыўшы, што ніхто не звяртае на іх увагі, Магдаліна ціха спытала.

— Кепска табе, Хрыстос? — спытала пад п'яны шум.

— Добра, аж няма дзе дзецца. А табе што ў гэтым?

— Я падумала, што табе цікава ведаць пра Анею.

Яна ўбачыла ашалелыя Братчыкавы вочы, сама сабе ўсміхнулася і сказала прачула:

— Горад устрывожан зікненнем мечнікавай дачкі. Разумееш, за ягонай адсутнасцю клапаціцца пра яе павінна была рада. Ходзяць розныя плёткі.

— Ну? — амаль груба сказаў ён.

— Ну і вось. Адна жанчына нібыта сустрэла яе сёння раніцай за горадам. Ехала ў суправаджэнні багатай варты... Гаварыла з ёю весела.

— Калі?

— Другі час першай варты нібыта.

«Праз гадзіну пасля мяне,— прамільгнула ў ягонай галаве.— Здрадзіла... А я ж...»

— Што яна збіраецца рабіць? — гледзячы ў адну кропку, сказаў ён.

— Тая кабета нібыта сказала, што мечнік збіраецца выдаць яе замуж. І як быццам сама Анея сказала ёй, што на захадзе сонца ёй расплятуць касу і яна стане нявестаю і жонкаю другога.

Твар Хрыста пайшоў плямамі. Вышэй сіл было спытаць, і ўсё ж ён спытаў:

— Той... ён хто? Магнат?

— Магнат,— сурова сказала Магдаліна.— Самы ўплывовы і моцны магнат. І не толькі на зямлі княства... Яна ехала да яго ў замак.

«Ён паверыў. Адразу, з холадам у душы, паверыў. Шчанюк,— падумала яна.— Даверлівы, няхітры душою... Дурань... Мне яго крыху шкада... Але я ненавіджу яго... Дзякуючы яму зноў у дарогу, зноў, магчыма, у іншыя ложкі. Лотр — быдла, але я хацела б усё ж застацца ў яго. І вось Баран! З ім нават нецікава весці гульню. А можа, сказаць кардыналу, што не паверыў? Ды не, з якой ласкі? Хіба хтосьці калі-небудзь шкадаваў яе? То нашто будзе несці літасць гэтым людзям, усім людзям, яна? Хай плоцішча. Знайшоў яшчэ ка-хан-не. Не ведае, па дурасці, што гэта такое. Ну дык атрымай. Можна маніць нават смялей».

І яна дадала:

— Вельмі моцны. Мацнейшы нібыта за ўсіх. Але хто?

«Паверыў і гэтаму. Ды з табой можна рабіць усё. Можна хлусіць нават зусім бязглузда. І зараз ты паверыш усяму, а пасля зноў дам табе надзею. Усё можна. Шчанюк».

— Горад гаварыў, што табе гэта не ўсё адно. Таму

я і прыйшла. Магчыма, гэта хлусня, але некаторыя гавораць, што і яна... што і ёй мінулай ноччу не ўсё было адно. Ну, гэта ўжо так. Мана. Магла і сама сказаць. Мала адкуль можа прыцягнуцца баба, каб мець гонар панесці ад бога, або хаця і проста збрахаць, пахваліцца гэтым... Такая парода.

Гэтыя словы, нібы ліпучыя ніці, аблытвалі яго, засноўвалі святло, вязалі, перашкаджалі дыхаць, ціснулі.

— А муж? — без голасу спытаў ён.

— Кажуць, нібыта такі дурань, што ўсё адно да самай смерці так ні аб чым і не здагадаецца.

Свет пачаў круціцца ў вачах Братчыка. Нейкі скрогат цінуў на вушы. І ліпучыя ніці круціліся разам са святлом. А потым свет пацямнеў.

...Ён ляжаў ніцма, галавою ў паваленыя пляшкі. Ляжаў, адкінуўшы адну руку і няёмка падкурчыўшы другую. Спалоханая такім вынікам, жанчына адхіснулася ад яго, нібы хацела ўшчаміцца ў кут. А над нерухомым целам стаялі апосталы. Ніхто нічога не разумеў. І раптам з'явілася палёгка.

— Ну вось,— сказаў Мацей.— Нажлукціўся, як свіння.

— Чужое, чаму не жлукціць,— усміхнуўся Баўтрамей.

Філіп з Віфсаіды прыцягнуў вядро:

— Гэна... Адцягніце яго з дывана... Хай бы яно...

І шухнуў ваду на галаву Хрыста.

Чатыры коннікі ўбачылі праз дзверы гэтую сцэну і рушылі з месца коней.

— Ну вось,— сказаў Лотр.— Нам тут больш няма чаго рабіць. Астатняе яна даробіць...

— Шкада, пэўна, ваша правялебнасць? — спытаў біскуп Камар.

— Захачу — вернецца. Паехалі. Бачыце — маланкі.

Маланкі паласавалі неба часцей і часцей. Першы павеў свежага ветру варухнуў плашчы.

— До гэтай камедыі,— сказаў Лотр.— Рым занепакоіцца. А нам што? Не атрымалася — атрымаецца ў другі раз.

І раптам славуты Рыгор Гародзенскі, моцна, відаць, п'яны, пачаў бурчаць і лаяцца:

— Ну добра, брыдкія вы ерэтыкі... Няхай... Але блюзнерыць нашто, садаміты вы... Не толькі немаўлят манастырскіх — ісціну вы хаваеце, адаміты, што галізною сваёю багабрыдкай выхваляюцца.

— Чаго ты? — спытаў Камар.

— А што? Брахала самазванцу гэтая ваша Магдаліна, блюзнерка, дачка сатаны і папскай палюбоўніцы. Стане бог пасля гэтага дробнага махляра з той дзеўкай спаць? І які яшчэ там магнат?

— А чаму? — спытаў раптам сябра Лайёлы.— Хіба пан бог не самы ўплывовы і моцны магнат на беларускай зямлі? І хіба манастыры не ягоныя замкі? І хіба манашкі не божыя нявесты? Усё правільна.

— А хіба бог не здолее адрозніць дзеўку ад маладзіцы? — выбухнуў Балвановіч.— Хіба нябесны муж — дурань?!

— А вы што, іншай думкі? — прыжмурыўся дамініканец.

Ён захінуўся ў плашч. Коні зніклі ўначы.

Увесь мокры, ён сядзеў ля кіліма і сціскаў у руцэ кубак. Цяпер ён сапраўды быў цяжка, да змрокавага стану, п'яны. Магдаліна абдымала яго, церлася шчакою аб ягоную шчаку, абвівала валасамі яго шыю — ён быў безудзельны. Патлы валасоў падалі, мокрыя, на лоб, і пад імі трапяталі да шаленства пашыраныя зрэнкі.

А галасы раўлі і раўлі старую шкалярскую песню. І яна грымела і вырывалася з пакояў у ноч, пад маланкі.

Bibamus papaliter![1]
Гарэлкі ў гляк налі...
Ні Зеўс і ні Юпітэр
Гарэлкі не пілі.

І яловай актавай бурчаў Якуб Алфееў меншы, бамбіза з асалавелымі вачыма.

Дурныя... Во дурныя
Багі тады былі!

Слухаючы гэта, Братчык нібы ад сэрца адрываў словы:

---

[1] Будзем піць, як папа!

— Піце, хлопцы. Застаемся тут.

Раввуні стаяў над ім.

— Плюнь, Юрась.

— Хрыстос,— змрочна папраўляў ён.— Ідзі ты з суцяшэннямі, Іуда... Давай ламаць кумедзь. Усё адно.

Іуда развёў рукамі і раптам сарваўся:

— Не, вы паглядзіце на гэтага дурня! Раней я думаў, што большага дурня, чым слонімскі рабін, не стварыў мудры бог. Але цяпер бачу, што нам з імі пашанцавала ўсё ж болей, чым беларусам з табою... Ша!.. Прашу цябе... Бяры коней, грошы, нас...

— Ты мне д-друг?

— Я табе друг. А ты мне?

— І я табе друг.

— Тады пойдзем. Не сёння заўтра здарыцца жах. Гора мне, маці мая! Так распусціцца... П'яная свіння! Юрась!.. Хрыстос!.. Божа мой! Ліхаманка табе ў галаву! Кінь гэтыя глупствы! На прэнг захацеў? Уцячом...

— Усё адно. Вернемся, Іуда. Няма любві на свеце. Дарэмна распяўся бог. Падман адзін. Усё адно. Піце. Гуляйце. Застанемся да смерці ў гэтым дзярме.

Хрыстовы вочы п'яна і страшна заблішчалі. Ён грукнуў кулаком:

— Застанемся. І гор-ра ўсім. Зняжам! Скруцім! Усё княства, усю Б-беларусь і ўсю Карону... Разнясём магнацкія камяніцы! Усіх д-да-станем-м! І з жонкамі хлуслівымі!

— Мілы! Даражэнечкі! Можа б, ты пабляваў? Га? Паблюй. І потым ціха-ціха пойдзем, і няхай яны тут задавяцца са сваім панам богам і сваёй верай. І няхай у іх будзе столькі вошай у галовах, колькі было пакрыўджаных імі ад дзён Выйсця і да нашых дзён. Няхай будзе ў іх столькі вошай, і не будзе рук, каб пачухацца.

— Д-душыць мяне... Ціснe,— вочы Хрыстовы пацьмянелі, абвіслі рукі.

У яго рэзка змяніўся настрой: на месцы Машэкі сядзеў цяпер Ерамія.

— Прарокі прарокуюць хлусню, і свяшчэннікі вывяргаюць брахню, і народ мой любіць гэта. Ну што ты будзеш рабіць пасля... гэтага? Як сказаў... яшчэ... Ерамія.

— Пхе,— суцяшаў Раввуні.— Ну, наплюй ты на іх. Ды яны ж усе сволачы. Гэты добранькі, разумнянькі Басяцкі, і гэтая свіння Камар, і тая трэфная курыца Балвановіч. А Лотр? Уй, не кажыце мне пра Лотра.

Магдаліна ўбачыла, што Юрась досыць п'яны, каб паверыць у другую частку маны, і яшчэ не досыць п'яны, каб забыць канчаткова тое, што яна сказала раней.

У пакоі было зусім пуста. Апосталы зніклі. На дыване не засталося аніякай ежы. Хоць бы крышачку пакінулі.

— Ідзі, Іуда,— сказала яна.— Ты толькі шкодзіш. Ты разумееш? Ідзі. І вазьмі з сабой дзяўчыну.

— Я разумею.— Іуда трохі хістаўся.— І праўда, так будзе лепей. Не кідай яго.

— Я яго не кіну.

— Не кідай! Падары яму цеплыні! — маліў за друга Іуда.— Іначай мне будзе сорамна маёй.

— Ідзі,— мякка сказала яна.— Не саромейся. Яму будзе не горш.

Раввуні ўзняў дзяўчыну, і тая прыціснулася да яго, і так яны выйшлі. Магдаліна ўстала, замкнула за імі дзверы і вярнулася да Юрася, які мармытаў нешта, седзячы, ці то ў сне, ці то ў прастрацыі.

— Езус,— ціха сказала яна.— Пойдзем адсюль. У палі.

— Усё адно... Няма сумленных жонак... Няма праўды... Здрада... П-піце, гул-ляйце!

— Ціха! А ты ведаеш, што я не веру гэтым плёткам? Што гэта няпраўда?

Яна паўтарыла гэта яшчэ пару разоў і раптам убачыла амаль свядомыя вочы. Гэты было так нечакана, што сэрца ледзь не спынілася ў яе грудзях.

— Не верыш? — Хрыстос паматляў галавою.

— Амаль не веру. Ходзяць і другія чуткі. Толькі я не хацела гаварыць пры іншых... У мечніка нібыта ёсць моцныя ворагі, і ці то сам ён, распусціўшы чуткі аб шлюбе, вывез дачку, ці то самі гэтыя ворагі выкралі яе.

— Што ж праўда? — зноў на вачах п'янеючы, спытаў ён.

— Я не ведаю. Можа быць і тое і тое. Могуць быць хлусамі і мужчыны, і жанчыны.

— Хто ворагі?

— Як быццам нейкі царкоўнік.
— Ты мяне забіваеш. Што ж гэта такое?!
— Я кажу, можа быць усё. Але хіба табе самому не трэба адшукаць, упэўніцца, ведаць праўду, ведаць нешта адно?
— Трэба.
— Ну вось. І таму пойдзем з горада. Заўтра ж.
— Пойдзем... Заўтра ж.
— Я пайду з табою. Я не кіну цябе. А зараз кладзіся... Я лягу з табою.
Яна прыцягнула з кута адну шкуру і амаль звaліла на яе п'янага. Пасля разула яго і накрыла другой шкурай ягоныя ногі.
— Не думай... Кінь думаць зараз... Я лягу з табой. Я не кіну цябе.
— Ляж,— ціха сказаў ён.— Так будзе лепей. «Таксама, калі ляжаць двое, то цёпла ім; а аднаму — як сагрэцца?» — сказаў... Эклезіяст... Я чытаў... Я стараўся зразумець... Не так будзе далёка ад людзей уначы... Я не крану цябе... Проста мне... Проста я, здаецца... страшэнна п'яны... І мне... Ты не смейся... Мне сапраўды страшна.
«Страшна. Як малому,— падумала яна.— А што? І праўда, страшна».
Ён заснуў, ледзь дакрануўшыся галавою да падушкі. Спаў, па-дзіцячы прымасціўшыся галавою на кулак. Аблічча ў сне было прыгожае і спакойнае.
Яна адшукала чысты кубак, наліла ў яго віна і павольна, з асалодаю выпіла. Цяпер было можна. На сёння яна зрабіла сваю справу.
Потым яна наліла яшчэ кубак і паставіла ля шкуры. Можа, яму давядзецца даць уначы, калі пачне хапацца за сэрца і стагнаць... Напіўся, дурань.
«Нібы п'янаму гаспадару»,—падумала яна і ўсміхнулася. Думка на хвіліну дала ёй нават нейкую радасць і гонар. І яна здзівілася гэтаму.
Пасля яна скінула сукню і забралася пад шкуру побач з ім. Дзьмухнула на апошнюю свечку. Навалiўся змрок.
За акном урэшце лінуў дождж. Спорны, часты, густы. У акно і дзверы павеяла прахалодным і прыемным. І ён у сне нібы адчуў гэта і яе цеплыню побач, працягнуў руку і паклаў ёй на грудзі.
Што ён сніў?

Яна ляжала на спіне, адчувала цяжар і цеплыню ягонай рукі на сваіх грудзях, і гэта было добра, і — дзіва — зусім нязвыкла.

Гэты мужчына не імкнуўся да яе. Нават цяпер. І гэта было шкада і адначасова добра.

Апошнія думкі блукалі ў яе галаве:

«Спаў, як дзіця... І ўвогуле, дзіця па думках і помыслах... Усяму паверыў. На́ табе: пойдзем заўтра... Пойдзем шукаць каханне. Толькі і ў галаве гэта ёй... Як пакутаваў!.. Шчанюк... А харошы шчанюк... У многім лепшы, чым тыя... Шкада, што давядзецца яго забіць».

## Раздзел XVII

# ВЫЙСЦЕ Ў ЮДОЛЬ СЛЁЗ

...Шлі... там прэрачоны Хрыстос з сваімі апосталамі, дзе іх яшчэ знана.

*«Кроніка Белай Русі» Мацея Стрыкоўскага*

Адходжу да адрынутых сяленняў.
Іду туды, дзе вечны, страшны стогн,
Адходжу да забытых пакаленняў.

*Дантэ*

Не пад покрывам цемры выходзілі яны з горада, а ўдзень. Але іх таксама шукалі забіць — няхай сабе і не сягоння.

Усе чатырнаццаць былі ў звыклых саматканых хітонах, у скураных моцных поршнях. Ува ўсіх чатырнаццаці за спінамі былі клункі, а ў руках кіі. На шыі ў Іуды вісела грашовая скрынка.

Толькі адна Магдаліна, як то і належыць, адрознівалася ад іх вопраткай: нават самае сціплае з яе адзенняў здавалася побач з хітонамі бадзяг багатым. Але яна таксама збіралася ісці пешшу, і толькі мул, наўючаны саквамі (яго вёў за аброць Роскаш), сведчыў аб тым, што яна ўзяла сёе-тое з свайго майна.

Каля Лідскай брамы, высокай, з дзікага чорнага каменя, моўчкі стаяў народ. На гэты раз не чуваць было крыкаў. Развітвацца было страшнавата: пойдзе

і не вернецца, а там розная навалач і возьме за бакі. Аднойчы ўжо так было.

Сядзелі на конях ля самай брамы Лотр, Басяцкі і Рыгор Гародзенскі. Стаяў за іхнімі спінамі кат.

А насупраць іх збіліся ў кутку старыя знаёмыя: да сіняга чорны Гіаў Турай, разьбяр Кляонік са сваёй чарцячай зяленіўшчыцай Фаўстынай, усмешлівы Марка Турай, залатарукі Ціхон Вус, дудар з вечнай дудой і змрочны волат Кірык Вястун.

— Вось і ідуць,— сказаў ён.— Пажылі некалькі дзён, а тут зноў...

— А братачка,— сказаў ласкавы дудар.— А бог, пэўна ж, не выдасць. Ну што зробіш? І паўсюль трэба, каб добрым людцам палепшала.

— Людцам палепшае,— сказаў Зянон (на такі выпадак ён прыцёгся з вёскі).— Як бы вось нам не пагоршала.

Марка Турай думаў. Пасля ўзяў Кляоніка за руку:

— Глупства мы зрабілі, што не паспрабавалі з ім дамовіцца, пакуль тут быў.

— Піў, кажуць,— сказаў Вястун.

— Ну і што? А ты не п'еш? — спытаў Кляонік.— Давай хадзем да яго.

Яны падышлі да Хрыста.

— Ану, божа, адыдзем трохі.

Твар Юрасеў быў трохі бледны і мяты з пахмелля. Ён кіўнуў галавою і адышоў з хлопцамі ўбок.

— Што вам, дзецюкі?

— Каб адразу зразумеў, з кім гаворыш,— сказаў Кляонік,— ведай: вось гэты каваль горад узняў, калі вас у катавальню пацягнулі.

Юрась ускінуў галаву.

— Братка! Чаго ж ты раней не прыйшоў?

— А так,— апусціў вочы Кірык.— Справу сваю зрабілі. Увесь горад вакол таўчэцца. Чаго дужа лезці?

— Вось так мы заўсёды,— сказаў Хрыстос.— Я і не ведаў, ці была там проста гурма, ці вёў яе нехта. А цяпер вось іду. Так і не зведаў харошага чалавека. Завуць як?

— Кірык Вястун.

— Запомню. Добрую ты вестку прынёс мне, Вястун. А мне было дужа самотна ў горадзе.

Дзве рукі, чорная і звычайная, сустрэліся.

— Часу мала,— сказаў Вястун.— Па сваёй ахвоце ідзеш?

— Здаецца... па сваёй.

Лотр не бачыў, з кім там гаворыць самазванец, дый не дужа цікавіўся гэтым. Затое ён атрымаў магчымасць пераглянуцца з Магдалінай. Вочы іхнія сустрэліся. Кардынал ухвальна апусціў веі, нібы падбадзёрыў. На вуснах Магдаліны быў дзіўны іранічны выраз. Як бы малення і, зусім трохі, нейкай пагрозы. Кардынал ужо не глядзеў на яе. Яна ўздыхнула рашуча і стала шукаць вачыма Юрася.

— Ведай і гэтых,— казаў каваль.— Яны ўздымалі канцы горада. Гэты — разьбяр Кляонік. Гэта Марка Турай. А унь там яшчэ нашы стаяць.

Ён называў прозвішчы, а Хрыстос варушыў вуснамі.

— Запамятаў?

— Але. У мяне памяць, як вечная.

— А раз вечная, то навек і ведай. Гэта свае. І ў бойцы, і за чаркай, і на прэнгу. Спатрэбіцца дапамога, будуць цябе нейкія там фарысеі хапаць — па дапамогу толькі да нас. Галавою наложым, а выручым.

— Хлопцы,— расчулена сказаў Юрась,— за што так?

— Ты людзей, ты дзяцей нагадаваў,— сказаў Марка.— Мы такога не забываем.

— Верыце, што я — бог?

— А бог цябе ведае,— сказаў Кляонік.— Я... не дужа. Але ж хто б ты ні быў — ты з намі ў адну дуду дзьмеш, аднолькавыя поршні носіш, галадаеш, як мы. Даў ты нам хлеб. І яшчэ... даў ты нам веру. Веру ў тое, што не ўсе нам ворагі, што не ўсе нас хочуць цiснуць. Павінен быў ты прыйсці. А там хаця д'ябал лысы з адною наздрой.

— Што ж,— сказаў Юрась.— А можа, і недарэмна так здарылася, што я прыйшоў? Я не віню, а толькі чаго вы не падышлі да мяне, хлопцы? Але і так — дзякуй вам.

І ўсе чацвёра земна пакланіліся адзін аднаму.

— Ідзі,— сказаў Вястун.— Імёны помні.

У гэты час Лотр узняў руку:

— Людзі славутага горада! Пан бог наш Езус з апосталамі вырашыў на нейкі час пакінуць нас. Будзе ён хадзіць па краі, вястуючы слова божае.

Кардыналавы вочы былі вільготныя. Твар дыхаў высакароднасцю.

— Спадзяюся, не заробім мы ад яго нараканняў. Ціха і спакойна будзем выконваць свае абавязкі перад ім, месіяй нашым, перад зямлёй нашай улюбёнай, царквою, дзяржавай і панамі. Будзем чакаць яго... За працу, мілыя браты мае. За працу!

У гэты момант не вытрымала і загаласіла нейкая баба ў натоўпе: «А на каго ж ты нас?!.» — і змоўкла, відаць, суседзі цыкнулі. Людзі стаялі моўчкі.

І тады загулі дуды ў руках варты і сумна, высока заспявалі рагі.

Слухаючы іх, стаялі ля мура, на выступе, фра Альбін, Крыштофіч і Кашпар Бекеш. Апошні, відаць, трохі выпіў віна: разрумяніўся гожы твар. На сонечна-залатых валасах юнака ляжаў аксамітна-чорны, з адлівам у сіняе, берэт. Ветрык варушыў на ім пышны султан пер'яў. Плашч перакінуты цераз плячо. На поясе кароткі залаты меч — корд. Дзеўкі заглядалі на юнака. Але ён глядзеў толькі на гатовых у дарогу апосталаў і на таго, хто называў сябе Хрыстом. Глядзеў, нібы імкнуўся зразумець яго.

— Яны не могуць верыць,— сказаў ён урэшце Крыштофічу.— Глядзі, які твар. Відавочна з пахмелля. Боскага ў ім не больш, чым ва ўсіх тут. Звычайны чалавек.

— Лепей скажы, як яны могуць верыць? — усміхнуўся Крыштофіч.— Ну, гэта ў законе. Але твар у яго сапраўды махлярскі. Валацуга, ды і ўсё. І падумаць толькі, што ты так захапляўся гэтай дачкою мечніка, збіраўся сустрэць у касцёле...

Ён перавёў вочы з Бекеша на Хрыста. Параўнанне было яўна не на карысць апошняму:

— Гожы, адукаваны, багаты, з розумам, які з дзяцінства звольнены ад догмы. А ён, кажуць, толькі працягнуў руку...

— Замоўкні, брат Альбін,— змучана сказаў Кашпар.— До...

— Вось яна, сіла сляпой веры.

Бекеш зразумеў, што ў сябра настрой гаварыць ка́зані. І таму ён сказаў з'едліва:

— Ты, здаецца, таксама кінуў на адну жанчыну вокам... І вось яна таксама ідзе з ім. Зірні. Спачатку адну, потым...

— Кгм,— збянтэжана сказаў «пожаг».— Я — гэта іншае...

— І ўсё ж яна ідзе,— мучыў далей Бекеш.

— Ты павінен быў бы ведаць, сын мой, што гуманістам у гэтай юдолі не шанцуе,— павучальна сказаў брат Альбін.— А шанцуе ў гэтай юдолі шэльмам, паскуднікам, ашуканцам і круцялям.

Трубы і дуды ўсё яшчэ спявалі. Лотр схіліўся да Хрыста:

— Бывай... Жыві вольна... Толькі вось што: маску, маску насі. Вочы ў цябе разумненькія. Не дуры. Надзень.

Братчык глядзеў на яго дураслівымі, хітрымі і разумнымі вачыма.

Да Бекеша і Крыштофіча праштурхнуўся праз натоўп Кляонік.

— Здароў, Кашпар. Што, добра ўчора пагулялі?

Конча засмучаны Бекеш адказаў яму з адценнем лёгкай іроніі:

— Ну, пагулялі. Але ж гэта ад абрыдлівасці да ўсяго гэтага. Папойка сярод чумных. Дэкамерон.

— Цудоўная кніга, ці не праўда? — трохі ненатуральна спытаў разьбяр.

— Цудоўная,— не даў яму літасці Бекеш.— А вось ты мне лепей скажы, чаму ты, Кляонік, штурхаўся між гэтых ашуканцаў, вадзіў да іх сяброў-фанатыкаў, што ўзнялі тады гэты вэрхал з узяццем замка? Да жывой рэліквіі цябе пацягнула?

— Слухай, Кашпар,— рашуча сказаў Кляонік.— Слухайце, брат Альбін з Дубатыння. Здаецца мне, мы трохі перагнулі. Нельга быць непамяркоўным, як тыя... як нашы ворагі. Іначай, можна адно ізуверства замяніць другім. А мы, гуманісты, ва ўсім павінны ад іх адрозніваца... Гэта цікавы чалавек. Я шкадую, што не разабраўся ў ім. Гэта варты ўвагі чалавек.

— Шалбер,— рэзка сказаў Бекеш.

— Магчыма, але трэба зразумець і гэта. Што ён такое? Адкуль?

— Угу. І чаму спеўся з царквою?

— Не думаю, што гэта так, Кашпар. Магчыма, гэта няшчасце. Магчыма, страта веры ў нешта.

— А хто яго прымушаў хлусіць, дапамагаць выбіваць з гэтай гурмы апошнюю медзь, зводзіць дзяўчат-фанатычак, шырыць забабоны, ізуверства, змрок?

— Магчыма, абставіны. Няшчасныя абставіны.

І ён не сябра царкве. Ён... баіцца. Я сэрцам адчуваю: вісіць над ім нейкі меч. І як ты сабе хочаш, Каппар, а я і далей буду цікавіцца ім, старацца зразумець да апошняга і, магчыма, памагаць, калі зразумею, што варта.

Альбін усміхнуўся.

— Вера са дна ўскалыхнулася.— Бекеш не помніў сябе.— Пабег за божым хвастом. І ён яшчэ абвяшчаў піетэт толькі да розуму і вопыту. Трывала ж ты іх трымаўся! А чым ты давядзеш нават сабе, што гэта ён? Ісус?

Крыштофіч зразумеў, што спрэчка можа давесці да сваркі двух лепшых сяброў. Трэба было ратаваць становішча. Тры чалавекі на ўсю Гародню. І так іх мала паўсюль, так мала, а тут і гэтыя пасварацца!

— Мяркую, давесці сабе гэта лёгка,— цёмныя вочы ягоныя смяяліся.— І ўпэўніцца таксама лёгка. Не спатрэбіцца нават сусветны сабор. Працягні руку — і ўсё... Будзеце спрачацца ці дасцё слова мне?

Сябры прыціхлі. Абодвум было ўжо трохі сорамна сваёй гарачнасці. Абодва радаваліся, што Крыштофіч не даў ім дайсці да ўзаемных абраз. Па тоне ягоным яны здагадаліся, што ён зараз скажа нешта выключна злоснае і меткае: на гэта ён быў вялікі майстра.

— Ну? — буркнуў Бекеш.

— Наш ныня жывы папа, Леў X,— манах гаварыў ціха,— адразу пасля выбрання адмяніў адну старажытную цырымонію. Якую, хачу я вас спытаць?

— Прылюдную праверку coram populo[1],— здагадаўшыся, пырснуў Кляонік.

— Менавіта,— сказаў манах.— Мала што, а можа, там суцэльныя дурныя язвы. А тое, што ён мужык — кожны папа давядзе, мяркую, і так. Дурная справа няхітрая.

— Не разумею, куды ты вядзеш? — злёгку ўсміхнуўся Бекеш.

— І цябе яшчэ вучылі па законах рыторыкі? Бездар! Дык вось, адна мая пасылка тая, што ў кожнага можна праверыць ягоны coram populo.

Ён гэта ўжо і так давёў,— сказаў Бекеш,— Хрыстос гэты.

---

[1] Мужчынскага полу.

— Чакай, цяпер другое. Скажыце, ці пры кожным сваім з'яўленні месія выбірае новы воблік, ці карыстаецца старым воблікам?

— Мяркую... старым...— няўпэўнена сказаў Кляонік.— Хіба што ран няма, таму што яны — справа чалавечых рук, так, справа чалавечых рук.

— І я думаю — старым. Першавоблік бога-сына — рэч устаноўленая і страшэнна каштоўная. Не можа ён з'явіцца ў выглядзе гарбуна, бязногага, рабога. Нездарма ж на ўсіх іконах ён збольшага падобны: каштанава-залатыя валасы, блакітныя вочы, «тварам не круглы».

— Ясна,— сказаў Кляонік.— Далей.

— Яшчэ адно пытанне. Скажыце, можа адна рэч быць адразу ў двух месцах?

— Не,— сказаў Бекеш.

— І яшчэ адно. Якую самую галоўную рэліквію прыдбаў пры сваім жыцці для Францыі Людовік святы?

Сябры стаялі аглушаныя. Знішчальны, бязлітасна лагічны ход думкі Крыштофіча пачынаў адкрывацца ім.

— Крайнюю... плоць... Хрыста,— ледзь выдушыў разьбяр.

— Так. Воблік Хрыстоў — рэч нязменная, настолькі вялікая і вечная, што Езус не дазволіць сабе вечна мяняцца, як гэты паскудны свет. Адна рэч не можа быць у двух месцах. Праўдзівасць рэліквіі Людовіка гонарам сваім зацвердзіў Рым. Значыцца?..

— Значыцца, трэба ўчыніць гэтаму круцялю праверку coram populo і заадно ўпэўніцца ў іншым,— засмяяўся Бекеш.— Наўрад ці гэта пацвердзіцца.

— Горш другое,— з'едліва і сумна сказаў Крыштофіч.— Намеснікі Хрыста лічаць, што яны вышэй за яго. Што пасуе Хрысту — не пасуе ім. Хрысту можна было не мець крайняй плоці, папе — аніяк нельга, і на гэта ёсць найстражэйшы закон. Я зусім не за тое, каб такое рабілі з усімі людзьмі, я — хрысціянін. Але, уласна кажучы, чаму? Злітуйцеся, дзе тут справядлівасць?

Змоўклі трубы. Цяжкія палавінкі брамы пачалі разыходзіцца. У натоўпе пачуліся ўздыхі.

— Так і не праверым,— прытворна ўздыхнуў Бекеш.— Зірніце, як іх Лотр праводзіць... Са слязой.

І ў гэты момант Кляонік з усмешкай сказаў:

— Слухайце, хлопцы, не можа гэтага быць, каб Лотр не хацеў быць папай... Спадзяецца, відаць?

Сябры, улавіўшы ход ягонай думкі, зарагаталі. Бекеш уявіў сабе тую карціну і, паколькі меў жывую фантазію, аж заліўся смехам.

— А добра было б, хлопцы, яму тыя спадзяванні абрэзаць.

— А што, пры выпадку, можа, і зробім,— сказаў Кляонік.

Брама выпусціла Хрыста з апосталамі. Народ кінуўся быў за імі,— варта, налягаючы на жалезныя палавіны, са страшэннымі намаганнямі зачыніла іх.

— Усё ж ненадзейна гэта, што выпусцілі,— ціха падаў голас кат.— Ім бы хадзячыя клеткі. У мяне ёсць вельмі міленькія.

— Цыц,— сказаў Басяцкі.— Не трэба ім гэтага. Увесь свет — клетка. А ўжо такой клеткі, як княства Беларуска-Літоўскае — пашукаць, дык не знойдзеш... Бывай, пане божа.

Дарогі, дарогі, беларускія дарогі. Дажджлівая далячынь. Дарогі. Манатонныя, пяшчотныя і журботныя, як лірны спеў. Чорныя палі. Лужыны. Курныя рэдкія хаты сярод палёў. Скураныя поршні месяць гразь.

Чатырнаццаць чалавек адны на гразкай дарозе. Перад імі — далячынь.

## Раздзел XVIII

## ЛАЗАР І СЁСТРЫ ЯГОНЫЯ

> ...усюды па сёлах ходзячы, дзівы, чары і гуслі якіясь справавалі, накшталт чарнакніжнікаў... Умерлых васкрашалі... што многім людзям у вялікім здзіўленні было.
>
> *«Кроніка Белай Русі»*

> Быў хворы нехта Лазар, з... сяла, дзе жылі Марыя і Марфа, сястра яе.
>
> *Іаан, гл. 11, ст. 1*

І хадзілі яны па зямлі беларускай, і, не дужа выказваючы сябе, глядзелі, што робіцца на ёй. І Хрыстос шукаў, і не мог знайсці, і ўсё больш верыў, што адзі-

ная ў свеце жанчына падступна кінула яго. І дайшло да таго, што стаў ён казаць, што не кахае яе, а хоча адшукаць і адпомсціць. А Іуда не верыў гэтаму, бо кожны час бачыў вочы Хрыстовы.

Магдаліна то ішла, а то і ехала на муле. Не забывала з кожнага мястэчка галубоў адпускаць. А апосталы ад нудзьгі патроху сварыліся. Каток, напрыклад, даводзіў Шалфейчычу, што Тадэй — апостал вышэй за Якуба, а той на гэта рэзонна заўважаў, што гэта нават толькі зірнуўшы, і то ясна, хто вышэй. Ён, Якуб, дыяканам быў, а тыя амаль спрэс рослыя. А Тадэй — скамарох бяскосты, смаржок. Пасля чаго дужа пашкадаваў Тадэй, што ў яго хадуляў няма, бо йначай гэткаму бамбізе і ў морду не плюнеш..

І засумавалі яны.

Але блізкі ўжо быў час, калі зноў давялося ім давесці здольнасць сваю тварыць дзівы.

Прыйшлі яны ў гарачы вечар у весь Збланы, што ля Нёмана, і ўбачылі, што ляжыць пасярэдзіне вуліцы і перакачваецца ў пыле з боку на бок багата апрануты чалавек. І селянін і нібыта не селянін. А над ім квокчуць дзве бабы: старэйшая і маладзейшая. І клічуць яны яго: «Лазар! Лазар!», а той толькі: «Жад-даю пам-міраць. Адкасніцеся!»

— Лазар! Гэта ж я, Марта! А божачка мой! А ці ён набраўся, як жаба гразі, ці гэта ён памірае? Марылька, падтрымай ты яго, ліханька наша горкае, апошняе.

— І памру,— сказаў Лазар і ляснуўся ў пыл.

І кінулася тады Марта да прышлых людзей, і пачала лямантаваць:

— Ратуйцелюдзідобрыятамуштопамёрбратнаш Лазарзгорадавярнуўшыся — ізасталісямыўдзвюхзсястроюсіротыняшчасныяінеабароніцьнасніхто!

А Хрыстос заціснуў далонямі вушы. І ўбачыў малодшую, дзіўнага смаку вясковую кабету. І ўсміхнуўся.

— Лазар, брат наш, памірае,— сказала яна.— А ты хто?

— Я? Я Хрыстос,— і ён схіліўся і прыўзняў галаву таго, хто ляжаў.— Лазар... Паўстань, Лазар...

Лазар, пачуўшы тое, расплюшчыў вочы. Плыло над ім чорнае сонца, а ўбаку, над акаёмам, весела скакаў цёмна-барвяны серпік месіка.

— Сонца ператворыцца ў цемру і месяц у кроў,— шапянуў ён.
— Лазар, гэта я, Хрыстос.
— Хрыстос? Пане божа, у рукі твае аддаю дух мой.
А потым узніклі перад ім два Хрыстосы... Пасля яшчэ два... Сорак... А за імі — незлічоная колькасць апосталаў.
— Легіёны госпадні,— сказаў ён, і ўпала ягоная галава.
Тады Марыля, сястра Лазара, пачала гаротна плакаць і стагнаць, а Марта, ломячы рукі, залямантавала:
— Аказаліўцарквенексмерціхваробатаяалекславебожайхайпраславіццапразяесынбожы-ы-ы... Восьбачышпанебожакабтыбыўтутнепамёрбыбратмой.
— Не памёр, але спіць... Дзе тут бліжэйшая крыніца.
— Там, пане мой! — і Марыля паказала ім у яр, зарослы хмызнякамі.
— Добра,— сказаў Братчык.— Ану, Іакаў, Піліп, Багдан, бярыце яго за белы рукі, нясіце за мной.
А крыніца тая была дзівосная. Пясчаная, узятая ў зруб, уся пад крутым схілам.
Падала ў яе вада танюткім, чыстым, як шкло, струменьчыкам з трубачкі балігалова, устаўленай проста ў жарало.
І пасадзілі яны яго ў крыніцу па шыю, і так, каб струмень падаў на галаву, а самі адышлі і сталі чакаць божага дзіва.
— Ты адкуль даведаўся, што п'яны? — спытаў Піліп з Віфсаіды.— Я... гэна... нізавошта б не даведаўся.
Юрась пацягнуў носам:
— Ды гэта і адсюль чуваць. Слівянка... Мёд... Жытняя гарэлка.
— Прыгарэлая,— Якуб абіраў сцяблiны лопуха і еў іх.— Ужо я ведаю.
Тумаш чысціў шаблю.
— Ну і дурыла. Гэта не ад яе дымком цягне,— ён аблізнуўся.— Гэта зельвенская аржанка. Яны нарок робяць, каб з дымком.
— А я кажу — прыгарэлая,— сказаў Якуб.
— З дваранінам ён яшчэ аб гарэлцы будзе спрачацца. Хам!

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, але ў гэты час мярцвяк у крыніцы заляскаў зубамі.

— Б-б-божа, в-в-ваз-зры на мяне. У по-по-порубе сяджу... Це-цемра непрасвя-цімая, скро-скро-скрогат зубоўны.

І пачалі глядзець у той бок Марта і Марыля, якіх паклікаў Баўтрамей, і з'явілася надзея ў вачах іхніх.

— Лазар! Ідзі прэч! — узгаласіў Братчык.

— В-в-в,— адказаў Лазар і, густа-сіні, з'явіўся з зарасцяў.

— Пане божа...— Марта ўпала ў ногі Юрасю.

— Н-н-ну, б-б-божа, н-навекі я цяпер р-раб твой. На крыж нацягнуць пакліч — прыйду.

І павёў іх Лазар у хату, і выбілі яны донцы з бочак, і засмажылі кормных цяльцоў, і распачалі пір сілен. І села Марыля ля ног Хрыстовых, і слухала яго. А Марта не села, бо такую плойму нагадаваць ды напаіць — гэта вам не байкі слухаць.

І ўсё менш верыў Езус у тое, што дзяўчына з месячнага саду выкрадзена кімсьці, а ўсё больш верыў, што падманула яна яго.

А было між тым не так. Было тое, што новую манахіню ніхто ніякімі сродкамі не мог прымусіць жыць так, як жылі ўсе ў Машкаўскім манастыры. Да імшы не хадзіла, у хоры спяваць адмаўлялася, высокім гасцям прыслужваць не хацела. Ціхая і сціплая раней, трымала яна сябе цяпер так, нібы ў яе ўсяліўся бес. І ўрэшце ігумення не вытрымала, сама прыйшла да яе ў келлю і завяла апошнюю размову. Не паслухае — хай наракае на сябе. Сказала, што калі апаноўваюць цябе д'ябальскія думкі, дык трэба пасціцца, а не то — бічавацца, а не слухаць старэйшае пакаленне — гэта ўжо зусім нікуды не варта.

Анея не глядзела на яе.

— То што, даслаць бізун?

— Дашліце яго гародзенскім айцам царквы. Ён з іх крыху юру выпусціць. А я ні маліцца, ані бічавацца не буду. І вы не робіце — і я не буду.

— У нас д'ябальскіх думак няма.

— У каго ж яны тады ёсць? Кажу: бізун пакіньце сабе.

— Што ж гэта, паня такая?

— Нельга ўзняць руку на плоць божую. У мяне можа быць сын.

— Адку-уль?

— Не ведаеце, як бываюць дзеці? Дзіўна, мне здавалася, што менавіта вы павінны ведаць гэта лепей за ўсіх... Я г о н ы сын.

Твар ігуменні пайшоў плямамі.

— Не магу... Не магу,— яна раптам зарагатала.— Дык ты думала, ён бог? Шалбер ён, прайдзісвет, шкаляр, які з калегіюма вылецеў. Апосталы ягоныя — зладзеі ды канакрады. Яго пад бізунамі прымусілі богам быць. Хрысто-ос! Ды ён з васковага Хрыста ў храме за шэлег порткі здыме.

Жанчына паглядала ёй у вочы і зразумела — праўда.

І раптам загучала музыка начнога саду, шолах дрэў, гукі пацалункаў. І пачула яна зноў ягоныя словы аб тым, што ён шкаляр, што «дзеля яго самога», што «а каб я быў іншы». І ўбачыла яна месячны дым, і неба, і гукі далёкіх званоў, і спевы анёла, які казаў аб тым, што боязі няма, і другія спевы, у якіх ганец з любоўю і тугой казаў: «Кахаю».

Ён не хацеў падманваць яе. Ён казаў пра ўсё, і толькі яна была глухая, была дурніца і чакала прывіду... А прывід быў жывы. І ён шаптаў ёй дзівосныя словы, ніколі дагэтуль не чутыя на зямлі, узятыя з неба... І, значыцца, было ўсё адно хто ён.

— А прывід быў жывы,— ціха сказала яна, і вочы яе з нянавісцю зірнулі на ігуменню.

Тая не зразумела яшчэ, што прайграла:

— Разумееш? Прайдзісвет!

— А мне ўсё адно,— усміхнулася Анея.— Магчыма, я і хацела па́сці? І менавіта з ім.

Аблічча было нязломна-незалежнае. Ігумення яшчэ знайшла сілу іранізаваць:

— Па́сці? То ішла б адразу ў наш кляштар.

— А мне вашы зладзеі з вялікай дарогі без патрэбы. У мяне — мой. Мне ўсё адно хто ён,— яна ўперла рукі ў бокі.— Параўнаць з вашымі ніжнікамі, дык ён вышэй за бога. І яго вы не адбярэце ў мяне, добрага, моцнага, пяшчотнага. І мяне нельга ад яго адабраць. І я не ўздыму рукі на ягоную плоць!.. А кляштар ваш не ў імя Марты і Марыі, а ў імя вялікай блудніцы і самога сатаны, у якога другое імя — Лотр!

...Марта і Марыля раніцай наступнага дня правялі іх да раздарожжа. І Марыля спытала, ці прыйдзе Хрыстос яшчэ... да яе. А ён адказаў ёй, што, відаць, не, што занадта далёка ідзе ягоны шлях. І тая пайшла дадому, здзіўляючыся яго незразумелай святасці. Таму што яна не паставілася б да яго жорстка. А Марта ішла і ў душы радавалася яе няўдачы.

...І зноў дарога. Поўныя сумы за спіною. У скрыні ў Іуды бразгаюць грошы, і, значыць, можна ісці далёка-далёка. А перад Іліяшам бяжыць свіння. Адна з двухсот Лазаравых. Таму што Лазар — сальнік. Свіння харошая, пярэстая.

Радасна глядзець на божы свет. Але не ўсім.

У Пятра балела галава. Ішоў і звягаў:

— У падзяку за ўваскрэсенне паднеслі яны нам хваробы.

— А малодшая была нішто,— сказаў Андрэй.

— Не з тваім... гэна... лычам...— абарваў яго Піліп.— Яна... гэна... ад Братчыка не адыходзіла. Аж старэйшая... узраўнавала. І чаго глядзеў чалавек?

Магдаліна ўсміхнулася трохі пагардліва. У бліжэйшым мястэчку трэба выпусціць голуба і напісаць, што Юрась, нават калі і не шукае схопленую, нікога не хоча, і, значыць, гэта занадта сур'ёзна. Значыць, калі ён даведаецца праўду — гневу яго не будзе мяжы.

І ўсё ж ён быў не такі, як тыя, з кім зводзіў яе лёс дагэтуль. Яна адчувала нават міжвольную зацікаўленасць да яго. Цень павагі, калі яна здатная была да павагі.

Раздзел XIX

# ІНДУЛЬГЕНЦЫІ

Кажуць, аднаму чалавеку напляваць было на веру і пекла, а патрэбная яму была бяскарнасць. І гэты адзін купіў індульгенцыю і тут жа даў патаўпешкай па галаве суседу.

*«Кроніка Белай Русі»*

Пасля гэтага пайшоў Хрыстос са сваімі апосталамі ў бок Любчы. Ногі іхнія былі ў пыле шматлікіх дарог, і не маглі яны ўжо ісці далей, і вырашылі спыніцца на ноч тут.

Паўсюль пытаў ён аб жанчыне, якую шукаў, і нідзе ані слова не пачуў пра яе, і ў адчаі ўсё больш злаваўся на подласць роду людскога. Але злосць — кепскі дарадчык. Часам яна можа штурхануць высакароднага ў тое балота, у якім сядзіць яго подлы вораг.

Ён ішоў, апусціўшы вочы, бо не хацеў бачыць твараў людскіх. На ўсіх тварах, здавалася яму, ляжаў водсвет блізкага пекла. Рылы, пысы, брудныя храпы, а не твары. І ўвесь час хацелася яму зрабіць з кімсьці нейкае злоснае свавольства.

І, наблізіўшыся да Любчанскага замка, узвёў ён вочы, і ўбачыў вялізны натоўп народу, і зразумеў, чаго яны тут, і зразумеў, што тут ён, нарэшце, здолее на сім-тым адвесці душу.

Сярод натоўпу стаяла вялізная ятка, крытая белым ядвабам. За ёю, у нішы мура стаялі дзве скрыні, поўныя срэбрам, і столік з вялізнаю стопкаю пергаменту. Пергаменты з пячацямі віселі і на ятцы. А пад навесам стаяў непамерны ў азадку і пузе дамініканец, які нагадваў з гэтай прычыны лютню або мандаліну на кароткіх тоўстых ножках. З ім былі два служкі.

Нават па адных нахабных паводзінах гэтага чалавека, па развязных словах ягоных Юрась здагадаўся, хто перад ім. Але дзеля вернасці ўсё ж перапытаў:

— Брат Волесь Гіменіус?

— Але,— малітоўна адказаў той.— Прападобны брат Волесь Гіменіус, вялікі Ачышчальнік.

І тады яны сталі слухаць Ачышчальніка. На шчасце, яны не вельмі спазніліся. Той не паспеў яшчэ нават пачырванець.

— Вось што тут напісана,— торкаў ён тоўстым пальцам у пергаментны скрутак, пад якім, як крывавы плявок, вісела і гайдалася пячатка мудрага і вялікага Айца.— Напісана самім вялікім львом нашай думкі. «Хай даруе вам той, што прыняў смерць на крыжы за грахі вашы». Я! — І тут ён шырока распахнуў брудную таўсташчокую пашчу.— Я, сам Валенты Гіменіус, уладаю Хрыста, блажэнных святых апосталаў Петры і Паўлы вызваляю вас ад усіх царкоўных парушэнняў, грахоў, праступкаў, празмернасцей, як былых, гэтак і будучых, якія б яны ні былі вялікія... Купіце індульгенцыю, і паступіце вы ў шэрагі ваяўнічай царквы, якая ўсе будучыя грахі вашы адпусціць. І прылічаныя вы будзеце да святых подзвігаў ваяўнічай царквы нашай, хаця б ані храна ні рабілі! Будзеце ўслаўленыя ёю і разам з ёю будзеце некалі, пахаваўшы ворагаў яе, панаваць над зямлёю.

Людзі маўчалі. Частка, відаць, верыла, частка баялася сказаць слова супраць. Але нехта непадалёку ад Хрыста няголасна сказаў:

— Добрае будзе панаванне. Панаванне соваў. Над падлаю і руінамі.

І тады Братчык зразумеў, што, цалкам, магчыма, люд не возьме нічыйго боку. Злосць усё яшчэ кіпела ў ім. І на гэтае быдла, і на гэтага мазурыка, які не плаціў, як яны, жахам за кожнае круцельства. І ён зразумеў, што задыхнецца ад гэтай злосці, калі не абсмяе гэтую чараду або не раскладзе гэтага манаха і не ўсыпле яму ў тоўстую задніцу.

— Купіце індульгенцыю, насіце яе ў каліце заўсёды з сабою і заўжды будзеце мець рацыю перад ерэтыкамі і розным хамлом, якое не купіла яе. Бо тут напісана: «Я далучаю вас да святых таямніц, да чысціні нявіннасці, роўнай чысціні хрышчонага новароджанага; і хай будзе пекла зачынена для вас, і хай мецьмеце рай на зямлі, а брама будучай раскошы таксама адчыніцца для вас пасля смерці. Аман!»

Ён крэкнуў і змяніў тон, перайшоў, так бы мовіць, да размовы «па шчырасці».

— А вы, ёлупні, думаеце, што трэба быць светлым і заўсёды бездакорным, каб прапаведваць святую ідэю? Глупства. Мы — людзі, і царства божае таксама робіцца рукамі людзей. Наш вялікі Айцец зразумеў гэта. Карыстайцеся!

Некаторыя зазвінелі грашыма. Але яшчэ раней за іх да манаха падышоў чалавек у чорным з золатам плашчы (залаты меч прыўздымаў край плашча), у багатай чузе і кабцях чорнага з золатам саф'яну. Шырокі грубы твар з нядобрымі вачыма быў насцярожаны, нібы заўсёды чакаў удару з-за павароткі.

— Ваявода наваградскі,— сказаў нехта.— Мартэл Хрыбтовіч.

За ваяводамі ішоў юнак, амаль дзіця, вельмі падобны на яго, але з чыстым і наіўным яшчэ тварам і празрыстымі ад цікаўнасці да свету вачыма.

— Сын,— сказаў той самы каментатар,— Ратма па імю. Або Радша. Ратмір.

— Маладзенькі яшчэ,— сказаў нехта.

— Чаго? Дзеўкамі цікавіцца пачаў. Ды нядоўга яму цікавіцца. Мартэл, дарма што сам багаты як сатана, прасватаў за яго Ганорыю з Валевічаў.

— Чаго-о? Ды гэта ж чорт ведае што? Агульная...— і чалавек адпусціў нечытэльнае слова.— Яна ж яго, калі не заб'е, за адну ноч такому навучыць, што... А божа, хлопчыка як шкада! Або надарвецца з такою, або...

— Або хутчэй будзе падобны, як сто аленяў. Ды Мартэлу што? Палічыў за магчымае прадаць сына. У яго, брат, вельмі павярхоўнае ўяўленне, што такое мараль. А ў той — багацейшыя землі ў пасагу. І вось... жаніх багатай самадайкі... Золата мала.

Магдаліна прыслухоўвалася да размовы чуйна, як каза ў начным лесе. Хлопчык стаяў ля бацькі і зычліва глядзеў на яго, на індульгенцыі, на манаха і натоўп. Сустрэўся з Магдалінай вачыма, і раптам вусны здрыгануліся, рот прыадкрыўся. Тая смірэнна апусціла павекі.

— Дай мне вось што,— змрочна казаў ваявода.— Вось той водпуск на нявіннасць і чысціню да канца майго... ну, на сто год... На жонку, святую дурніцу, нічога не давай — ну, можа, дробязь. Малака там у пост выпіла па слабасці...

— Будзе зроблена,— мітусіўся Волесь.— Чаго яшчэ?

— Поўны водпуск на гэтага. Яму-та столькі, анёлку, не пражыць... бабы заездзяць... Але давай і яму на сто год... Гэта верна?

— Як удар нажом у спіну.

— Ну... на ўсякі выпадак давай яшчэ нам вечнае вызваленне ад чыстца, а жонцы на сорак восем тысяч год. Ёй усё адно гарэць больш года, а ёй гэта нават карысна за тое, што часам са мною спрачалася. Пакараю трохі, паднясу ёй апошні мой загад.

— Яшчэ чаго? — мніх быў у захапленні.

— Давай яшчэ «асабістую» мне.

— Разумею вас-с. Каб дзесяцём асобам, па вашым выбары, дзевяноста дзевяць раз на год маглі грахі адпусціць.

— Во-о! Гэта — якраз.

— Загарнуць? — спытаў Волесь.— У новую малітву за ўбіенных?

— Давай, загортвай,— адсопся ваявода.— За тыя ж грошы.

І кінуў на ятку цяжкую каліту.

Хлопчык чакаў, куды ён пойдзе. На шчасце, Мартэл рушыў у той бок, дзе стаялі апосталы. Цяжка ішоў, прыціскаючы да грудзей скрутак. Стаў непадалёку ад іх, запіхваючы яго ў сумку, што вісела цераз плячо. Юрась звярыным сваім слыхам пачуў мармытанне:

— Ну, чакай цяпер, кашталян... Кляшчамі ўсё мяса спушчу... Вазьміце мяне цяпер голымі рукамі.

Пасля ён загаварыў са служкамі. Радша стаяў і глядзеў на Магдаліну, якая ўсё яшчэ не падымала вачэй. Убачыў ля яе ног хусцінку, схіліўся, спытаў, пачырванеўшы:

— Ваша?

— Дзякуй,— шэптам сказала яна.

Робячы тое, што ёй было загадана, яна не бачыла прычыны, чаму б ёй не склеіць і нейкай сваёй справы, асабліва калі чалавек сам ляціць на агонь. Багаты чалавек. Акрамя таго, ёй было трохі шкада хлопца, якога чакала цяжкая чаша. Ён быў вельмі прывабны і ляцеў сам.

— Коней прывядзі,— сказаў служку ваявода.

І гэта прымусіла Ратму паспяшацца. Ён быў наіўны, і гэта нараджала ў ім шчырасць, у чымсьці падобную да ваяўнічасці, смеласці.

— Мы едзем. Мой бацька — ваявода наваградскі. Як шкада, што я ніколі ўжо не змагу ўбачыць вас.

— Я іду з гэтымі людзьмі. Унь наш паважаты. Ён святы чалавек.

— Я так і заўважыў, што вы свята верыце,— спяшаўся ён.— У вас твар, поўны чысціні. Куды вы ідзяце?

— Не ведаю. Вядзе ён. Можа, адсюль пойдзем на ўсход. Можа, на поўдзень. А можа, рушым у Мір.

— У Мір?! Гэты шлях ідзе праз Наваградак. Які я быў бы шчаслівы, каб вы, калі пойдзеце праз мой горад, далі мне ведаць. Я разумею, гэта зняважыць... Я не маю... Ах, што там... Але верце, мне вельмі хочацца яшчэ раз убачыць вас.

— Вы верыце?

— Верую ў Айца...

— Даволі,— сціпла сказала яна.— Дзе вера — там ідзі спакойна. Я добра бачу, вам можна давяраць. Вы — рыцар.

— Як добра вы гэта сказалі,— пачырванеў ён.— Гэта праўда. І... не злуйцеся на мяне, вы таксама як святая. Я адразу заўважыў вас у натоўпе — вы іншая.— Ён апусціў вочы.— Разумееце, хацелі мяне ажаніць. Цяпер я, нібы смерці, не хачу гэтага. Ведаеце, яна зусім не такая. У яе прысутнасці мне нячыста і нібы пагрозна. Якая вы іншая! Божа!

— Радша! — паклікаў ваявода.

— Я малю вас верыць мне. Малю, як пойдзеце праз Наваградак, даць мне звестку. Вось пярсцёнак, ён адчыніць вам дзверы.

«Бедны,— падумала яна.— Адну мяняе на другую, бо верыць святлу на яе твары»,— і яна ўзяла пярсцёнак, нясмела, дрыжачымі пальцамі.

Ён усё яшчэ трымаў яе хусцінку.

— Вазьміце яе сабе,— шэптам сказала яна.

Яна ўбачыла шалёную радасць на яго твары. Што ж, гэта, магчыма, будзе ёй зачэпка. Давядзецца ж, рана ці позна, выдаць свайго «святога».

Коні аддаляліся, а яна ўсё бачыла над натоўпам яго прасветлены ад неймавернага шчасця твар.

...Юрась не заўважыў гэтага. Ён глядзеў на манаха, які крычаў, гарлаў, лаяўся, нібы гандляваў салонай рыбай. Братчыка раздражняў гэты нахабны балаган.

Ён шмат чуў аб гэтым чалавеку. Адзін з самых удачлівых гандляроў дараваннем, ён прыносіў прастолу столькі грошай, колькі не прыносіла сотня другіх махляроў, а сабе ў вацок клаў не менш. Яму і далі

гэтае месца як знак асаблівай прыхільнасці папы Льва. Сябравалі ў юнацтве. І агульныя круцельствы чынілі.

Гэты мазурык, неабазнаны і непісьменны, як вяленая вобла, разам з намеснікам Пятра ў юнацтве перадаваў жанчынам і юнакам запіскі з прапановаю па́сці — у аблатцы святой прычасці, напляваўшы на святасць госціі. Абодва яны пазней знаходзілі сабе ахвяры сярод замужніх кабет і цнатлівых дзяўчат нават у алтары божага храма... І вось зараз гэты дурыць і крыўляецца, як малпа, і плюецца бруднымі словамі.

Хрыстос ведаў, што разумней было б прамаўчаць, але злосць аж душыла яго, і ён адчуваў: яму не вытрымаць. А там хай будзе, што будзе.

— Купляйце! Купляйце! — гарлаў манах.— Купляйце дараванне. Вы можаце купіць сабе адпушчэнне нават за тое, што згвалціце адзінаццаць тысяч вядомых святых дзеў — оптам ці ў розніцу, калі хопіць на гэта моцы вашай, якая — ад бога... Вы, цёмныя доўбні, можаце нават вызваліць з чысцяца ўсіх родных і знаёмых. Вось пергамент. За 24 гадзіны між першым і другім днямі ліпеня вы можаце колькі хочаце разоў заходзіць у храм, чытаць там «патэр ностэр» ці нават «ойча наш» і выходзіць. Гэта будзе лічыцца як малебен. Колькі малебнаў — столькі і душ, вызваленых з агню. О слодыч! О велькая боская літасць!

Юрась сказаў даволі голасна:

— Адзін, кажуць, на гэтым звар'яцеў. Бегаў туды і назад цэлы дзень. Вызваліў увесь гарадок. І ніхто там больш не купіў ніводнай індульгенцыі. І такая была страта для папскай кішэні! То каб гэтага не было — войскі зраўнавалі ўсё мястэчка з зямлёй і ўсіх жыхароў выправілі проста ў рай.

Натоўп засмяяўся. Волесь, аднак, распінаўся далей:

— Ты атрымаеш свяшчэннае паўнамоцтва папскае. Хіба наша справа не стане тваёй?! Справа Хрыста — папежа Льва — кардынала Лотра і мяне, грэшнага. Не сумнявайся, ты ўвойдзеш у наша воінства. Бо галоўнае не тое — злодзей ты, прыгнятальнік, распуснік, садаміт або скаталожнік, а галоўнае — адданасць справе нашай і святому храму, цар-

кве. Ты можаш украсці срэбную агароджу вакол труны Пятра або накласці ў дарахраніцельніцу ягоную срэбную, вагою ў тысячу шэсцьсот фунтаў. Ты можаш, калі прыйдзе табе ў галаву такая фантазія, згвалціць самую матку боскую на залатой надгробнай пліце апостала Пятра, пастаўленай Львом IV... І нават больш. Прасвятая дзева панесла толькі па асобым загадзе пана бога і, маткай стаўшы, засталася цнатлівай... То вось, нават каб нехта надумаў узнагародзіць пана Езуса зямнымі братамі і сёстрамі, а Юзафа — цеслю — рагамі і каб ён пасняхова зрабіў гэта — будзе адпушчаны яму і гэты грэх.

— Слухай ты,— азваўся раптам Юрась.— Лягчэй наконт зямных братоў. У яго былі яшчэ браты і сёстры. Чацвёра братоў і сёстры.

Гіменіус не разгубіўся:

— Ну, гэта пасля. Яна зрабіла сваю справу і далей магла трымаць сябе як хоча.

— Пэцкаеш ты ў тое самае карыта, з якога ясі,— сказаў Хрыстос.— Урэшце, усе вы так.

— Мала таго,— паспрабаваў замяць размову Волесь.— Вы можаце купіць тое, што маці божая перад смерцю сама з'явіцца да вас, каб асабіста аднесці душу вашу ў рай.

— Жанчына нясе ўласнага гвалтоўніка. Думай, што гаворыш.

— Слухай, сатана, кінь вывяргаць гразь!

— Гразь — справа твая...

Магдаліна, сама не ведаючы чаму, паспрабавала затрымаць яго, але ён вызваліўся. І яна зразумела: усё. Час, прызначаны Лотрам, настаў. Дзень пройдзе, два, тры. І тады давядзецца ёй займацца іншай справай. Лотр наўрад ці верне яе да сябе. Давядзецца, відаць, сапраўды спакусіць таго хлапчука з Навагрудка.

— Чорт яго ведае, што там напісана,— сказаў Хрыстос.— Можа, лаянка?

— Прачытай! — з бруднай мніхавай пашчы ляцела сліна.

— Адкуль ім чытаць?

— А хто забараняе?

— Папа Сабініян, як вядома, пад пагрозай анафемы забараніў простым вучыць грамату.

— Дык ці не паўтарыць таго і нам?

— Да таго ідзе.

Натоўп ажывіўся і зашумеў.

— Забараняйце,— чырванеў Братчык.— Усіх запішыце ў манахі. А хто вас тады будзе гадаваць? Гэта ж яны і без таго, як жывёлы... Урэшце дай і мне адну індульгенцыю. На адзін грэх. Колькі?

Мніх усміхнуўся:

— Дзесяць грошай. Бачыш, і цябе праняло. Наш папа гэта табе не папярэднік, не паршывец Юлі другі. Вялікая розніца.

— Вядома. Абодва хворыя на неапалітанскую хваробу. Адзін ад яе памёр. Другі дзякуючы ёй прыдбаў тыяру.

— Блюзнерыш? — мніхавы вочы зрабіліся вострыя.— А святая служба?

Юрась паказаў яму кавалачак пергаменту.

— Дзеля таго і купіў. Маўчы.

Народ засмяяўся.

— Блюзнеру цяпер колькі хачу, аж пакуль не спынюся... Дзіўна, як гэта ў вас. Паскуднік Баніфацый VI праклінае мярзотніка Фармоза I, Стафан VII праклінае Баніфацыя, а труп Фармоза аддае публічнаму ганьбаванню[1], Раман I адмяняе ўказы Стафана наконт Фармоза і бэсціць Стафана... Леў бэсціць Юлія. І кожны аб'яўляе, што ён непагрэшны, а папярэднік — адроддзе Сатанііла, і выкрывае яго ўтрапёна і з жывёльнай нянавісцю. То хто мазурыкі, мы ці яны?.. Ёлупы! Сячэце сук, на якім седзіцё. Трэба ж мне навучыць хаця адну тваю дурную галаву. Раз падманулі... два... дзесяць. Аднаму раскрылі твар, другому... сотаму. І яшчэ думаеце, што вам будзе нехта верыць. Ужо і зараз ведаюць людзі, што то за птушка — Леў.

Змоўк.

— Скончыў? — спытаў мніх.— Вось і добра. Індульгенцыі!.. Індульгенцыі!

— Можаш прадаць яшчэ адну, медналобы?

---

[1] Папа Стафан загадаў выкапаць згніўшы труп Фармоза (быў пахаваны ўжо сем месяцаў), прыцягнуць за ногі, пасадзіць на трон. надзець на галаву тыяру. Над трупам учынілі суд з адвакатамі, але тыя адмовіліся бараніць яго і пачалі абвінавачваць. Пасля труп адлучылі ад царквы, папа ўдарам нагі скінуў яго з прастола. Труп распранулі, адсеклі тры пальцы правай рукі, пераламалі рукі і ногі, адсеклі галаву, пасля кінулі астанкі ў Тыбр.

— Колькі пажадана будзе,— нахабна сказаў Гіменіус.

— Адрэж яшчэ на адзін учынак.

Волесь пачаў арудаваць нажніцамі. Юрась кінуў яму манету.

— К-колькі пажадаеце.

— Вось дзякуй,— сказаў Хрыстос.

І раптам адвесіў манаху пярунападобную поўху. Той вякнуў, адлятаючы. Братчык паматляў рукою ў паветры. Вакол зарагатаў народ.

— Не маеш права падымаць руку на пасланца папы,— захныкаў Гіменіус.

— А на маці божую, значыцца, маю, варта толькі паперку купіць? Чуеце, людзі?

Служкі Гіменіуса пачалі былі набліжацца.

— Вось добра,— сказаў Хрыстос.— Гэтым я і без грошай морду наб'ю. Тры чалавекі. Па трыццаць тры з трэццю грошы за рыла. Даволі танна. Увесь век хадзіў бы дый лузаў.

Служкі спыніліся. Манах варушыў сківіцай, але прыходзіў ужо да прытомнасці.

— Спаймаў ты мяне, невядомы,— няшчыра ўсміхаючыся, сказаў манах.— Ну, індульгенцыі! Індульгенцыі!

Хрыстос паклаў руку на рукаяць корда:

— Тады прадай яшчэ на адзін учынак.

Мніхавы вочы забегалі:

— Ну, гэта ўжо занадта. До, людзі! Да заўтра, а мо і на тры дні ятка зачыняецца.

— Ятка толькі адчыняецца,— сказаў Юрась.— Ану, людзі, слухайце. Імем сваім, імем сына божага кажу, што вам брэшуць. Мне і айцу майму ўсё гэта патрэбна, як дзесятая дзірка ў целе.

— Ты хто? — спытаў нехта з натоўпу.

— Я — Хрыстос...

Натоўп загуў. У Магдаліны мільгнуў у зрэнках жах. Гурма крычала.

— Ці-ха! Імем сваім вінавачу ўсё гэтае быдла ў хлусні і рабунку, у зневажанні маці божай! Калі вы мужы, а не садаміты — шэлег вам кошт, калі не заступіцеся за яе! Імем сваім загадваю — натаўчыце гэтай торбе з гноем у каршэнь, выкіньце з Любчы, а нарабаваныя грошы аддайце на сірот і дзяўчат-беспасажніц...

— Ура! — загуло ў натоўпе.— На беспасажаніц! На сірот!

Народ рынуў наперад.

У тую ж ноч, калі яны ўцякалі з Любчы, над змрочнай зямлёй ляцеў у вышыні асветлены апошнімі промнямі сонца і ружовы ад яго камячок жывой плоці. Ён нёс звестку аб тым, што рачоны Хрыстос узняў руку на маёмасць царквы і загад самога папы, якога, да таго ж, бэсціў несамавіта разам з царквою. Ён нёс вестку аб тым, што рачоны Хрыстос забыў свае месца і тое, што ён махляр, і падбухторыў натоўп на рынку. Ён нёс вестку аб тым, што вядомы царкве чалавек распусціў чутку аб вядомай жанчыне, якая нібыта знаходзіцца ў наваколлі наваградскім і зараз вядзе Хрыста з апосталамі ў цэнтр ваяводства, дзе і паспрабуе затрымаць іх на тры дні. Вядомы чалавек прасіў, каб сотнік з атрадам паспяшаўся.

Голуб ляцеў, і промні апошняга сонца згасалі на ім, а на перайкі клаўся сіні водсвет ночы.

Калісьці ён нёс Ною вестку аб даравнні і міры. Цяпер ён нёс бразганне мячэй, прэнг і ганебную смерць.

Раздзел XX

## ГРАШОВАЯ СКРЫНКА ІУДЫ

> У Іуды была скрынка.
> *Іаан, гл. 13, ст. 29*
>
> Не ўсім дастаюцца порткі, хто ім жадзён.
> *Прымаўка*

Яны ўцякалі ўначы, бо ведалі: за тое, што зрабілі ў Любчы, мала ім не будзе. Яны не ведалі аб тым, што па слядах іхніх імчыць Карніла, але, пабойваючыся любчанскага кашталяна, блыталі сляды, ідучы непрамою дарогай.

Адну ноч, замятаючы сляды, яны ішлі прэч ад Наваградка, на поўнач, начавалі ў пушчы, а потым рушылі кружным шляхам, кіруючыся на Усялюб. Апоўдні наступнага дня наблізіліся яны да сяла Хадасы.

Магдаліна ішла з Хрыстом, быццам баючыся, што вось цяпер ён можа ўзяць і знікнуць. А ён, апусціўшы галаву, думаў пра сваё, не заўважаючы нічога вакол...

Усё ж гэта былі чуткі. Зноў чуткі. Толькі чуткі. А мінулі тыдні, і лета ўвайшло ў панаванне сваё. І невядома, ці сапраўды Анею схавалі, ці яна сама кінула яго.

І трывога разрывала ягонае сэрца. І нічога ён не заўважаў. А заўважаць было што. Вёска нібы вымерла. На прыгуменні ля першай хаты дзікага выгляду чалавек трыбушыў карову з уздзьмутым жыватом, выбіраў нейкія кавалкі, і мухі віліся над ім хмараю.

На хатах нідзе не было стрэх.

Яны ішлі праз чорнае ад гора сяло. Хрыстос глядзеў у зямлю. Апосталы балбаталі пра нешта сваё. А ззаду ўсіх цягнуўся цыбаты і, аднак, невялікі ростам недалужны Іуда з грашовай скрынкаю цераз плячо.

Змрочныя вочы на худым і цёмным твары варочаліся туды і сюды.

Іудзей аніяк не мог уцяміць, у пекле ён ці на зямлі, пакуль не зразумеў:

— Голад!

Голад. Чорная гразь на дарозе. Чорныя хаты. Чорныя сады.

І ля кожнай хаты сядзелі дзеці, падобныя на старых. Безнадзейна праводзілі вачыма прахожых апосталаў.

Не прасілі. Толькі глядзелі.

І ўспомніў ён усіх кінутых і галодных, і абурыўся ў сэрцы сваім.

І, праходзячы паўз кожную чарговую хату, рабіў ён непрыкметны жэст рукою. Колькі дзяцей — столькі і жэстаў.

Дзеці непаразумела глядзелі ў кулачкі на маленькія жоўтыя сонцы. І ўсё ніжэй і ніжэй, у бяссіллі сваім, апускаў галаву Раввуні.

...Толькі за весніцамі дагнаў ён Хрыста.

— Ты што гэта такі лёгкі? — спытаў той.

Іуда зірнуў на неба і перарывіста ўздыхнуў:

— Нашаму слонімскаму рабіну — а ён, трэба вам сказаць, быў проста аж царскі дурань — кожны вечар клалі на пуза гарачую мокрую палатніну. Дык ён меў звычай казаць, калі яму дакаралі: «Мяса мірнай

ахвяры ўдзячнасці належыць настаўніку з'есці ў дзень прынашэння яе; не трэба пакідаць ад яго да раніцы». У гэтым сэнсе ён ведаў біблію і талмуд нават лепей за мяне.

Ненарокам ён страсянуў скрынкаю, і ў ёй зазвінела самотная манета.

І тут Хрыстос, успомніўшы, што ідуць яны ўсё ж насустрач нявесце, сказаў:

— Трэба, Іуда, палатніны купіць. Ты паглядзі на ўсіх. Гэта ж хаўрус бандзюг, а не апосталы. Дзеўкі глядзяць на іх і хіхікаюць і, вочы хусткаю прыкрыўшы, глядзяць з-пад хустак.

Тады Раввуні пачырванеў, бо яго спаймалі на месцы злачынства, за растратаю агульных грошай, і сказаў:

— Купіць. На што купіць? У цябе ёсць лішнія грошы? Галоўнае, каб была галава і каб у гэтай галаве была ідэя палатніны, дзе яе дастаць, як сказаў... А хто яго сказаў?.. Ну, няхай Хіва.

Ён выказаў погляды некаторых філосафаў аб тым, што толькі чалавечыя ўяўленні — рэальнасць, але не ганарыўся, таму што не ведаў, якое гэта адкрыццё.

## Раздзел XXI

# ХРЫСТОС І КАМЕННАЯ БАБА, АБО «ПРАРОКІ, ПРАРОКУЙЦЕ...»

> ...дзе, да адной шляхцянкі прышэдшы ў адным сяле, ракле ёй: «Хрыстос табе, о нявеста, з сваімі апосталамі наветае. Пра то яму ся ахвяру, а будзе збаўлена душа твая».
>
> *«Кроніка Белай Русі»*

> Завесілі вушы каменнем каштоўным і не слухаюць слова божага.
>
> *«Маленне Данііла» пра жанчын*

Шляхецкі хутар трохі наводшыбе ад вёскі Верасхава быў багаты. Адрыны, стайні, дрывотні, бясконцыя гумны, млын-вятрак. Вялізная дубовая хата пад тоўстай шматгадовай страхой. На адхоне да самай ракі цягнуліся, снежна бялелі на зялёнай траве палосы палатна.

Пятро, пацягваючы люльку, з павагаю глядзеў на іх.

— Шляхецкі дом, а багаты які,— сказаў Тумаш.

Трапілі ў сенцы, пакруціліся там і ўрэшце, адшукаўшы дзверы, грукнулі ў іх.

— Конаўкай, галубочкі, конаўкай сваёю... Макітрай,— азваўся з хаты вісклівы голас.

Увайшлі, усё ж не скарыстаўшыся з парады. Хата з вышараванымі сценамі палілася па-беламу. Вісела над ложкам багатая зброя. Сажэнная, упоперак сябе таўсцей і крамяней гаспадыня з тупым тварам — вельмі ж падобная на каменную бабу — мясіла ў дзяжы цеста.

Цеста было бялюткае, яно пішчала і вухкала пад ударамі страшных рук. Як быццам пакутавала і прасіла аб літасці.

— Белае,— сказаў Тумаш няверны.

— А побач у Хадасах людзі мруць,— дадаў Іуда.

Баба ўзняла шырокі, каменна-нерухомы твар:

— Няхай мруць. І так гэтых галадранцаў развялося. Хутка на зямлі гэтай плюнуць няма куды будзе, каб у свінню нейкую двухногую не трапіць.

Агледзела лёзных людзей:

— Трэба што? Ну!

— Хрыстос табе, о нявеста, з сваімі апосталы навятае,— з не дужа вялікай рашучасцю сказаў Братчык.

— Ідзіце-ідзіце,— буркнула яна,— бог падасць... Які яшчэ Хрыстос?

Іліяш, ён жа Сымон Канавіт, шныпарыў цыганскімі вачыма па хаце: па налаўніках, пляшках на стале, кублах.

— Сапраўды, баба ты дурная, з неба,— сказаў ён.

Тая выцягнула рукі. Цеста злучала яе пальцы з дзяжою, цягнулася. І адначасова наліваўся, наліваўся крывёю каменны твар.

Тадэй разумеў, што справа тут можа не скончыцца дабром. Таму ён пастараўся стаць так, каб шляхцянка не бачыла яго, зрабіў два няўлоўныя рухі рукамі, нібы кідаў нешта, і застыў. За імгненне да гэтага ягоныя грудзі былі пукатыя, нібы ў жанчыны. Цяпер хітон ляжаў на іх роўна.

Баба абводзіла вачыма грубыя хітоны, кругельскія страшнаватыя морды, але не баялася. Мо па тупасці.

— Якая я табе баба? Я дваранка! Хам ты! Мужык!

Тумаш крэкнуў, нібы ў кепскім люстэрку ўбачыў сябе. Затое мытар Мацей не стрываў. Сказаў са страснай з'едлівасцю:

— Я з такіх дваран мытарам апошнія штаны здымаў. Быдла ганарлівае.

Баба адарвала руку і языкамі цеста ляснула Мацея па мордзе. Пасля чамусьці Пятра. Пасля — зноў і зноў Мацея.

— Ходзяць тут. Ходзяць тут зладзеі.— Лясь! — Ходзяць усялякія.— Лясь, лясь! — Швэндаюцца.— Лясь! — Палатніну не пакладзі — сцягнуць.

Неабдымнымі каменнымі грудзьмі яна насоўвалася на апосталаў, і тыя паволі адступалі.

— Стой, баба,— сказаў Якуб.— Табе кажуць — Хрыстос прыйшоў.

— Няхай бы і сядзеў у сваёй царкве! — крычала тая.— Няма чаго яму бадзяцца, як сабаку.

Іліяш ужо засунуў у кішэнь пляшку са стала і збіраўся юркнуць у дзверы, але тут Каток — Тадэй узняў рукі. І выгляд ягоны быў такі дзіўны і страшны, што каменная баба заміргала вачыма.

— Жэно! — магільным голасам сказаў ён.— Наракальніца! Хлеб ставіш, а хлябы ўжо гатовы ў цябе ў пешчы тваёй.

І ён лапатаю з печы выбраў два боханы. Ударыў па адным нажом — пацягнулася пара. Баба войкнула:

— Каторага ж там ніхто не саджаў...

— Ад бога ўсё,— грозна паказаў пальцам Тадэй.— Ад яго!

Баба кульнулася ў ногі.

— Пане божа! Даруй мне, дурніцы!

— Давай палатніну,— узяў быка за рогі Баўтрамей.— Садзі за стол. Давай яму ахвяру, будзе збаўлена душа твая.

У бабы сквапна забегалі вочы:

— А галубочкі! А я ж ведаю, што не тыя вы хадасоўскія галадранцы. Ужо вам бы я дала. Не скупая... Але мужа дома не маю. Не магу так без волі яго ўчыніці, хаця бы хацела.

Якуб з тугою паглядзеў на дарэмна аддадзены хлеб.

— Вы ўжо лепей, галубкі, ідзіце далей. Па дарозе ў вёсках не спыняйцеся, таксама дохнуць. А ідзіце

проста на Усялюб. То там, можа, у каго і муж удома будзе.

— Маеш якую палатніну або лён да пасвячэння? — спытаў Пётр.

— Пага-аненькая,— яна падала гнуткі сувой.

— То мы з сабою возьмем,— Якуб усміхнуўся.— А Хрыстос цябе будзе благаслаўляць, абы табе кудзелю хутка прала.

— Кажы другое палатно, утканае, калі маеш,— падступныя Пятровы вочы нібы чаравалі.— А мы табе будзем пасвячаць.

— Людзі мруць,— ціха сказаў Юрасю Раввуні.— А гэтая... Во каб пярун яе спаліў.

Баба з сумненнем падала Пятру таўсценную штуку палатна. Пётр узвёў вочы і зашаптаў нешта сам сабе. Ніхто не заўважыў, як ён непрыкметна выбіў у сярэдзіну сувоя жарынку са сваёй люлькі:

— На. Будзь благаславёная за дабрыню да нас.

— І да суседзяў,— з іроніяй дадаў Раввуні.

О, каб ён ведаў, што словы тыя трэба казаць не з іроніяй, а з пагрозай!

...Баба паклала палатно ў скрыню і зноў пачала ласкава насоўвацца на іх грудзьмі.

— Прабач, пане божа. Прабачце, божыя госцейкі. Я ўжо і затрымаць вас не магу.

Яна выціснула іх у сенцы, а пасля на двор.

— Ані на хвілінаечку не магу. Па кароўкі ў чараду бегчы трэба... Хаця якія ўжо там кароўкі. Два дзесяць нейкія разоў па сем. Вы ўжо як калі-небудзь яшчэ пойдзеце, можа, то заходзьце, заходзьце.

І хаця ўсе — і яна сама — разумелі, што па каровы ісці рана, усе зрабілі выгляд, што так і трэба.

— Мужык калі вернецца? — падступна ўсміхнуўся Пятро.

— Заўтра, любенькія, заўтра.

— То перадавай яму прывітанне ад Хрыста з апосталамі,— усміхнуўся Пятро.— Яшчэ раз будзь благаславёная за дабрыню.

Ён ведаў такіх людзей.

Яны рушылі сваёй дарогай, а баба пабегла сваёй.

І калі яны адышлі ўжо вельмі далёка, Лявон — Пятро раптам зарагатаў. Усе пачалі распытваць, і тады ён расказаў ім усё. Хрыстос аж збялеў.

— Вернемся.

— Позна. Цяпер, пэўна, яна з лазінай да чарады ідзе, а са скрыні з усіх шчылін дым валіць. Пакуль дойдзем... Пакуль тое... А ты што, Езус? Пагоні баішся? Мужык заўтра вернецца.

— Можа, яна гэта таму сказала, каб мы вечарам не вярнуліся,— баязліва сказаў Андрэй.

— Глупства! — сказаў Пятро і раптам зноў зарагатаў.— Каб жа яна не была гэткая разумная ды не выжыла нас адразу з хаты. Ну, пачаў бы кубел смылець — пачула б. А то... «кароў-кі». «Хай здыхаюць...» Во, цяпер яна, пэўна, да чарады падыходзіць... А дым ужо з акон.

— Вось што,— сказаў Хрыстос.— Праўда, вяртацца позна. То сядай, кабета, на мула і едзь. А мы за табою. І — бегма! Каб усе гэтыя вёскі бокам абысці, за сабою пакінуць. Каб начаваць ва Усялюбе, а то і далей. Спаймаюць — галаву адкруцяць. А табе, Пятро, за такія штукі я ў другі раз усе кіі абламаю аб лысую тваю пустую конаўку.

Яны ішлі хутка. Яны амаль беглі за мулам. Але Пятро ўсё адно часам спыняўся і захэкана рагатаў.

— Во, быдла гоніць... Во, дым убачыла...

І праз некаторы час:

— Во, падбегла... Дом гарыць... Бурным, халера на яго, полымем.

І потым:

— Во, пластае!.. Во, раве!

Калі яны такім чынам ужо ўначы дабеглі амаль да Усялюба, убачылі агеньчыкі і, знясіленыя, пайшлі трохі цішэй, Раввуні раптам вылаяўся:

— Ну і д'ябал з ёю... Хай уся згарыць...

— Ты што? — здзівіўся Юрась.

— А тое,— з негасімай злосцю сказаў Іуда.— Хай гарыць!

І пасля маўчання дадаў:

— Тыя ў яе таксама, пэўна, прасілі аб літасці. А ўся літасць — кавалак хлеба, каб душу ў целе ўтрымаць, у брудным, у паскудным гэтым свеце.

За іх спінамі было ўжо вельмі многа вёрстаў. Яны дайшлі да Усялюба і пераначавалі ў апошняй, на выездзе, глухой карчме.

...А на захадзе сонца набліжаліся да Вераскава два коннікі, адзін з якіх быў муж каменнай бабы, а другі — яго пляменнік.

— Бачыш? — сказаў старэйшы, вытрасаючы з каліты на далонь тры залатыя.— А ты казаў, каб я росту з тых Хадасоў не браў. Захацелі, дык адразу і доўг вясковы заплацілі... А ты: «пашкадава-аць, адкласці бы тро-охі». Вось табе і пашкадаваў бы. Сам бачыў: п'юць ды ядуць. Прыкідваліся ўсё, вядома... Не, праўду вучыць начальства: «Не плоціць мужык падатку — раскладзі яго на прыгуменні ды лупцуй, пакуль не заплоціць. Не бойся — знойдзе».

— Ды я, дзядзька, і сам цяпера бачу,— panыла адказваў грыбасты пляменнік.

— То ж бо,— і шляхцюк засунуў каліту ў запазуху багатай чугі.

— Бацюхны, гэта што ж?! — ахнуў пляменнік.

З павароткі яны ўбачылі зыркае вялізнае полымя, што рвалася ў прыцемак.

Каменная баба сядзела каля дома, які палаў, і выла.

— Гэта ж як, жэно?!

— Хры-Хры-Хрыстос! — смаркалася і рыдала яна.

— Ведаю, што ўсё ад бога,— нагайка ў мужавых руках уздрыгвала.

— З-ле-е ў дому Хрыста з апо-осталы чэствавала, пра тое ён на наш дом помсту зэсла-аў...

— Якога Хрыста, бервяно ты?!

— Палотны свяці-ілі. Кла-а-ала ў скрыню,— морда ў каменнай бабы была чырвоная, а не плыло хіба толькі з вушэй.— Ад катарага палат-на скрыня, а ад скрыні до-ом, заняўшыся, згарэў... Праклялі-і... Нібы жакгва з агнём той праклё-он! У-ы-ы-ы!

Муж пачынаў нешта разумець.

— Казалі, за яе дабрыню да іх, ды-ды-ды Хадосоў-цаў! А тут зарана па каровы пайшла, ды абачыла дом спалены.

— Дык чаго ж ты, халера табе ў жывот, па каровы зарана пайшла?

— Хры-хрыста хацела вы-жыць.

— Дурніца! Калода! — у гневе кінуў ён.— Для бога... Шалберы якіясь, зладзеі, а не Хрыстос быў.— І ў гневе, разумеючы, што ўсё адно дом згарэў і зараз нікуды не паткнешся, аперазӑў жонку нагаем.— Каб ты спрахла, у бога... душу... свяціцеля...— І звярнуўся да пляменніка: — Бяжы, кліч суседзяў. Чорта

дагонім, то хаця нап'емся, хаця пысу, рыла гэтае свіное ноч бачыць не буду.

Пляменнік кінуўся на суседні двор. Потым здалёк пралунала:

— Суседзі! Су-се-едзі!

Праз нейкую гадзіну кавалькада коннікаў у сорак, на чале з разгневаным мужам, памчалася ў ноч.

У карчме было цемнавата і дымна. Сталы — векаўшчына — застаўлены ежай і пітвом. Лавы ля сценак. Сценкі на адным узроўні выцертыя спінамі да бляску.

Хаўрус прыйшоў позна. Усе бакоўкі, усе стайні і пуні былі ўжо занятыя. Давялося начаваць у агульным пакоі, галавою на краі стала. На апошні Іудзін залаты засмажылі трох бараноў, папрасілі цыбулі, часнаку і рэпы, чорнага хлеба, двух куранят для Магдаліны, трохі віна і тры «буслы» гарэлкі і мёду. Астатняе карчмар ім зараз жа не аддаў.

— І што паны будуць есці недзе ў нейкага там наваградскага Шабса? Гэта ж, дальбо, і не іудзей. Гэта ж чорт ведае што такое! Беланогая падла, і носіцца са сваім... як... Ну, я не буду лаяцца. Але ж у яго не куры, а ціхія па старасці нябожчыкі. І хіба ў яго гарэлка? Божа мой! Ваш Люцыпар мыў ногі — то і тое вада крапчэйшая была. А заўтра паны будуць мець амаль тое, што і сёння, і за тыя самыя грошы. А я вам яшчэ сена на падлогу...

Пасмяяліся, дый згадзіліся. Куды спяшацца?

І вось сядзелі і елі. Якуб адзін даядаў палову барана. Астатнія наеліся ўжо, глядзелі на людзей.

Палаў вялізны камін. Круціліся ў ім на пожагу, шыпелі ў агні кроплямі тлушчу куры. Карчмар стаяў за загародкай у атачэнні куфляў, мерак, бочак; наліваў, мераў, кідаў на гліняныя місы. Прытрымліваючы хусткай, адразаў ад вісячай шынкі. Любата было глядзець — здаецца, удзесяцёх не ўправіўся б за аднаго.

Людзей было ўжо не так і многа. Позна было.

Ян, прыадкрыўшы па-юродску рот, разглядаў на паліцах, што цягнуліся па ўсіх сценках, для прыгажосці пастаўленыя алавяныя і гліняныя распісаныя місы. Іуда пісаў нешта на краёчку стала.

— Ты... гэна... што гэта? — спытаў Піліп.
— А евангелле пра нас... Трэба ж камусьці.
— Добра табе, пісьменны.
Усім было добра. У галаве прыемны туман. Шум. Сядзіць са шлюхай манах-дамініканец. Смяюцца чагосьці. А унь у куце п'е кампанія шляхціцаў. Адзін ужо ляжыць галавою ў місе... Самы сярод іх паджылы, з пасечаным тварам і пачварнымі сівымі вусамі, бурчыць:
— Не, не тое ўжо, што было. Чорт яго ведае, куды коціцца свет! А бывала... Ой, бывала!.. Бывала, ежа была лёгкая. Паеў — праз гадзіну зноў есці хочацца... А жанчыны якія былі! Дваццаць узапар цалаваў бы. А цяпер? І на адну не глядзеў бы... Вы ўсе тут шчанюкі. Бывала, віно, дык гэта віно — усе бы, як вось ён, ляжалі б... І вечная слава ў людзей цягну-у-лася, цягнулася. А сёння — то-олькі аб'явілі вечную славу — бац, памёр; бац, заўтра ніхто ні храна яго не помніць.
Паступова, аднак, карчма пусцела, і яны засталіся адны. Нават карчмар пайшоў да сябе. Сёй-той ужо драмаў, паклаўшы галаву на стол, або на падлозе, на сене. Не спаў з Хрыстом Пятро. Было душна, і Юрась адчыніў акно. І вось тады, адчыніўшы, яшчэ далёка пачуў ён у перадранішняй цішыні, прыглушаны адлегласцю, тупат шматлікіх капытоў.
— Здаецца, дасціглі,— сказаў ён.— Ну вось, маеш, Пятро.
З'явіліся агні паходняў.
— Хлопцы, пагоня!!! — крыкнуў Хрыстос.
Усе замітусіліся па карчме. Толькі адзін Іуда, здаецца, нікуды не спяшаўся. Некаторыя скочылі за дзверы. Андрэй пачаў ліхаманкава цісну́цца ў падпечча.
... Іліяш, выскачыўшы, пабег гародам, капуснымі градкамі, блытаючыся ў гарбузінні, якое, здаецца, лавіла яго за ногі.
...Хрыстос уздзеў рукі:
— Петрэ-Петрэ, набліжаецца ўжо да мяне келіх мой. Маем праз цябе ўзяці.— І раптам выставіў акно, скеміў: — Хіба што пакуту акном адсюль вымкнуць?
Пятро кінуўся за Братчыкам, які ўжо ціскаўся ў акно:
— І я, пане, па сіле маёй не адпушчу цябе. Але

дзе ты будзеш, і я за табою пайду. Куды ты, божа, туды і я.

Яны ўцяклі акном і пабеглі гародамі. І тут за іхнімі спінамі пачуўся звон шкла і крыкі — коннікі ўварваліся ў карчму.

За стойкаю гасцінна стаяў Раввуні:

— Можа, яснавяльможныя паны выпілі б? Такіх каплуноў, такога мёду!

— Дзе махляры, карчмар?! — зароў муж.

— Якія махляры?.. Э-э... Ну... тут, разумееце, я, а ў бакоўцы — жонка, а ў падпечку, разумееце, куры.

— К-куры?

— Я ж не кажу, што львы.

Андрэй у падпечку пачаў квахтаць, раздзімаючы тоўстую морду. Гроб салому і квахтаў, нібы яйка знёс. Вельмі натуральна.

— На двор,— сказаў муж.— Там яны! Н-ну, мы ім!

Магдаліна паднялася ад печкі і выйшла за імі ў сенцы.

— Слухай,— сказала яна мужу.— Ты ведаеш, што на гэтых людзях?

— Здохнуць, каб яшчэ не ведаць?.. Заб'ю падлаў!

— На гэтых людзях справа і прэнг самога кардынала. Іх вось-вось павінны ўзяць. Уцяміў?

Шляхцюк атарапеў.

— Д-добра,— урэшце сказаў ён.— Забіваць не буду. Але ўжо д-дам-дам! За мной, хлопцы!

...Апосталы ўцякалі як маглі. А за імі адусюль, даганяючы, валілі коннікі і пешыя з кіёвым крапілам.

Іліяш — Сымон, на шчасце, паспеў схавацца ў вадзе ля бабровай хаты ды сядзеў там, пускаючы бурбалкі.

Коннікі гналіся за Тумашам. Ён круціўся з шабляй, адганяючы ўсіх, хакаў, а пасля з кашэчым спрытам амаль узбег на бярозу. Бярозу пачалі трэсці.

— Я дваранін! — крычаў ён зверху.

Астатнія ж спаўна выпілі келіх свой. За імі гналіся да шляху самога і яшчэ далей і, трэплючы, пыталі:

— Пракрокі, прарокуйце, у каторым лесе тыя кіі раслі?

Яны, нічога на тое не адпавядаючы, з усёй сілы ўцякалі ад небяспекі.

### СЛОВА АД ЛЕТАПІСЦА

*«...пакуль жывата свайго паправілі, паўтаралі частакрот тыя словы: цяжка нам пакуту панскую і апостальскія даручэнні на целе сваім насіць. Валеем так у сваёй скуры хадзіці, проста жыці на свеце без вымыслаў кругельскіх, бо гэта нам першы раз заплацілі, бо нам зась не казна другі раз прарокаваць. І там жылі ў спакоі».*

### СЛОВА АД ДВУХ СВЕДКАЎ

*«І зноў зманіў летапісец... І Бельскі напісаў так... А было не так. Не жылі мы і надалей у спакоі. Не кінулі масак сваіх на шчасце для людзей, на гора для нас».*

## Раздзел XXII

# УЗДЫХ ІОСІФА АРЫМАФЕЙСКАГА

> І, высунуўшы язык, ён закруціў вачыма, як паміраючая каза.
>
> *Рабле*

> Калі яны ўздыхалі — сцены хат надзімаліся, як бычыны пузыр... Такіх цяпер няма. Вывеліся.
>
> *Казка*

> Пі, але закусвай.
>
> *Старажытная народная мудрасць*

Сядзелі яны ля карчмы, і большасць лічыла сінякі.

— Плач і скрогат зубоўны,— сказаў жанчынападобны Ян.— Не наследуй злу, але дабру.

— Калі вока тваё спакушае цябе,— мацаў здаровы ліхтар Пятро.

А Тадэй выняў з рота зуб і сказаў сумна:

— Фокусы можна было б паказваць.

Пятро ўзарваўся:

— Што ж гэта, кожны раз нас так біць будуць? Куды ж такая работа?!

— Сказана бо: «Будуць біць вас у сінагогах», — сказаў Мацей.

— Пры чым тут сінагога, казёл?! — узлямантаваў Раввуні.

— Не,— усё яшчэ не мог супакоіцца Пятро,— як так далей жыць?! Ты, Езус! Ану давай нам грошы і ежу, раз вучняў набраў! Хоць нарадзі, хоць з калена выламі, а дай.

— Гандляваць трэба,— сказаў Баўтрамей.— Унь царква індульгенцыямі гандлюе, зноў жа, мошчамі, і ніхто іх не б'е.

— А дарэмна,— сказаў Хрыстос.

— Ну? Дык што? Што?!

— Чакайце,— стомлена сказаў Ісус.— Ёсць план.

...Праз некаторы час прыйшлі яны ў Наваградак і там, не плацячы наперад, бо не мелі грошай, але спадзяваліся іх здабыць, размясціліся ў гасцёўні, што ў парафіі святой тройцы. Ляглі з малітваю аб удачы замест вячэры.

Магдаліна ж, паказаўшы каму трэба пярсцёнак, дабілася вернага слугі і перадала з ім Ратму, што стаіць у гасцёўні. Яна вельмі спадзявалася, што ён з'явіцца адразу, і не памылілася ў сваіх спадзяваннях.

Ратма прыйшоў і цяпер стаяў у гэтым пакоі, румяны ад хвалявання. Глядзеў на вартую жалю мэблю, на скупое святло свечкі. Гэта была святая сціпласць. І, аднак, ён бачыў, што перад ім знатная дама. Магдаліна паспела выцягнуць з сакваў парчовае пакрывала, распяцце слановай косці і ружанец з рубінаў.

Яго здзіўляла такая сціпласць. Ён быў ад яе без памяці. Гэта была не Ганорыя з Валевічаў.

— Вы... прыйшлі. Вы абяцалі мне... і не падманулі.

— Я не падманваю ніколі... І асабліва такіх людзей... Прашу прабачэння, я нават не магу паднесці вам келіх віна. Я тры дні пасцілася, і вось мы спазніліся сюды, хаця пост мой скончыўся з заходам сонца. Крамы на замка́х, рынак пусты, у корчмах згас агонь. Міжволі мне давядзецца аддаць богу і гэтую ноч. Я збіраюся не спаць. Добра, што вы падзеліце неспаннё са мной.

— Божа мой! — сказаў юнак.— Якая сціпласць!

І, вы думаеце, я дам вам пасціць лішнюю ноч? Богу досыць і таго, што ён атрымаў. Я хачу вячэраць з вамі... Вы будзеце мяне слухаць... Ну!

І ён пазваў слугу Хроля і загадаў, каб той прывёз усяго патрэбнага і віна, што хутка было выканана, а пасля яны сядзелі побач, і елі, і суцяшаліся вінам.

— Бачыце, я вам падчынілася,— сказала яна.— Хаця гэта і не кажа на карысць кабеты: сядзець уначы ў адным пакоі з мужчынам. Але я веру вам... Вось, адпіце з майго кубка. Гэта будзе прычасць вечнага нашага сяброўства.

І засумавала:

— Хутка мы ідзём далей за сваім святым.

— І вы кінеце мяне? — збялеў ён.

— Дурнік, гэта абяцанне. Але я вярнуся,— яна паклала руку яму ў далонь.— Як толькі давяду яго да ягонай мэты. Магчыма, мы сустрэнемся ізноў.

— Але,— у яго раздзімаліся ноздры.— Іначай мне хаця не жыць.

— Які вы. А ваш шлюб?

— Я дашлю іх да апраметнай!..

— Што вы?! — з жахам прашаптала яна.

— Прабачце, я забыў, хто вы... Але я дашлю іх... Я ненавіджу сваю так званую нявесту... Мне цяжка і страшна з ёю. Усё жыццё я шукаў такую, як вы... Як я доўга шукаў!

«Доўга,— падумала яна.— Колькі табе там было яшчэ шукаць?»

Ён быў у гневе, але ён нават рукі не працягнуў да яе.

— Я хачу вас... Я хачу жонкаю толькі вас... Я памру, калі гэтага не будзе... Я даб'юся гэтага... Заўтра ж.

— Вы небяспечны,— уздыхнула яна, нібы з сілаю адводзячы вочы.

Рукамі яна нібы адштурхоўвала яго, і ён міжвольна схапіў гэтыя рукі.

— Толькі вас... Пашкадуйце!

— Пашкадуйце вы мяне... Мне цяжка... Гэта вышэй за мяне.

У яго калаціліся плечы, зрываўся голас. І гэтым голасам з нечуванай пяшчотай ён прашаптаў:

— Што мне яшчэ зрабіць, каб вы былі маёю?

— Я мяркую, вам трэба замкнуць дзверы,— сказала яна.

Раніцаю ўвесь хаўрус займаўся тым, што штурхаўся па кірмашы, шукаючы, як бы тут змахляваць на ежу. Не было толькі Сымона і Баўтрамея, якія гойсалі загадам Братчыка па гарадскім сметніку, выкопваючы з адкідаў найбольш старыя, крый божа, не сённяшнія, пляшачкі, бутэлечкі і бутэлькі, а пасля да слёзнай чысціні мыючы іх у рацэ.

Ва ўсіх добра круціла ў жываце ад голаду. У страўніках сядзела нібы гайня галодных ваўкоў.

Магдаліна, што праўда, перадала раніцай Братчыку залаты, але ён не сказаў сябрам, збярог манету. Мала што магло здарыцца. На ягоную прыдумку маглі і не клюнуць.

Кірмаш ляжаў на плошчы між чорным, дзікім Наваградскім замкам і вялізнай карчмою. Плыў натоўп, свісцелі свісцюлькі, вялі свой напеў сляпыя жабракі, нібы душу з казла цягнулі. Штурхаліся мужыкі, дзеўкі, багатыя кабеты. Зрэдку паважна, як каравела пад ветразямі, плыў праз натоўп дваранін у плашчы.

Магдаліна не знаходзіла сабе месца. Нават уначы, даводзячы каханка да непрытомнасці і ўтрапення, сама задыхаючыся ад яго абдымкаў, яна думала краем думкі, ці здолее выканаць загад, вызваліцца, магчыма, назаўжды застацца з гэтым. Не жонкай, дык каханкай. Бо гэтага яна не адпусціць. Гэты ніколі, удзячны ёй, не здолее забыць яе і гэтыя начныя пацалункі.

Трывога ўзрастала. Ці паспее сотнік? Ці атрымалі яны кліч? А можа, голуба сустрэла страла ці коршак?

На рынку было ўсё дарага. Нейкі скнара — па мордзе відаць, што пры выпадку растаўшчык, як муж каменнай бабы, гандляваў яйкамі. Юрась прыглядаўся да яго спачатку з усмешкай, пасля — з абрыдлівасцю.

— Пачым? — пытае бедная баба.

— Два грошы сотня,— голас такі, нібы глотка поўная скабак.

— А божачка, гэта ж за свінню столькі...

— А ты вось і купі, і жары гэтую свінню... калі гэткая багатая. Ды яшчэ дастань яе. А яйкі — ежа панская. Не для твайго халуйскага хлябала. Бач, яйкі! Р-рас-пусціўся народ.

— Два шэлегі? — спытаў Юрась.— Бога пабойся, чалавеча. Сорам.

— Сорам, сабачы ты сын, людзям толькі ў лазні відаць.

У Хрыстовых вачах загарэлася раптам хітрае, з'едлівае і круцельскае.

— Добра. Угаварыў. Трымай прыпол — будзем лічыць.

Людзі, здзіўленыя вялізнай пакупкай, пачалі збірацца вакол. Бессаромны гандляр узняў прыпол даўжэзнай кашулі. Хрыстос пачаў класці яму ў прыпол яйкі.

— Пяць... Дзесяць... Дваццаць.

І тут Магдаліна з радасцю, аж упала сэрца, убачыла.

За натоўпам сядзеў на кані, падобны на самавар, чырвоны Карніла і аглядаў натоўп. Шалом трымаў у руцэ. Падстрыжаныя гаршком валасы падалі на нізкі лоб.

Шукаў змрочна і не знаходзіў. Яна хацела была падаць яму знак, але забаялася.

— Пяцьдзесят,— лічыў Хрыстос.— Дзвесце...

Гандляру было ўжо цяжка трымаць. І тады Хрыстос, нагнуўшыся, чыкнуў нажом па ачкуры ягоных портак. Порткі ўпалі. Скупірака, увесь чырвоны ад ганьбы, баючыся выпусціць яйкі, да белых суглобаў учапіўся ў прыпол. Уцякаць ён таксама не мог: порткі звязвалі ногі ля самай зямлі. І таму ён казаў людзям і далей сваю непрыглядную галізну.

— Бачыце? — пад агульны рогат спытаў Юрась.— Сорам у лазні.

І тут Магдаліна з радасцю ўбачыла, што Карніла пачуў рогат і глядзіць сюды.

...Убачыў. Крануў каня ў натоўп. А за ім, клінам рассоўваючы гурму, рушылі коннікі. Пайшлі перад імі поп і два ксяндзы.

— Сорам, бачыце, толькі ў лазні. А сорам твой і ў натоўпе можна купіць. Усяго за дзве сотні яек. Ану, людзі, бяры астатняе. Бяры, баба, маломі ў ручку дасі.

Рогат аж глушыў... Магдаліна бачыла, што побач з канём Карнілы ідуць поп і два ксяндзы. Ясна чаму. Каб агаласіць загад аб узяцці ад імя царквы. Аб усім падумалі. Яна зразумела, што сёння ж будзе вольная, што сёння ж уладкуе сваё жыццё. Ратма не забудзе яе — яна цвёрда ведала гэта.

Юрась рагатаў разам з усімі, выскаляючы белыя зубы. І раптам змоўк — гэта штурхнуў яго Тумаш. Знікла ўсмешка. Разразаючы натоўп, набліжаўся да іх закуты ў латы і кальчугі конны атрад. Бязлітасныя, дрымучыя вочы Карнілы сустрэлі ненатуральна вялікія і празрыстыя вочы Хрыста. Сотнік усміхнуўся.

Зразумеўшы нешта, змоўк і народ. Цяпер жалезны конь высіўся над самім Юрасём. Сотнік паклаў адну руку на эфес мяча.

— Адгуляўся, шалбер. Ланцуг сюды!

І працягнуў руку ў жалезнай пальчатцы:

— Узяць!

— Што такое? Хто? За які грэх? — шапталі паўсюль галасы.

І тады заспявалі галасы свяшчэннікаў:

— Прысуд духоўнага суда... Злодзей... Блюзнер... Зневажальнік бога і царквы... Па загаду святой службы.

Пачуўшы страшную назву, людзі пачалі адступаць. Вакол невялічкай купкі людзей лягла шырокая паласа адчужэння і жаху. І тут раптам дзікім голасам, нібы на судны дзень, залямантаваў Раввуні:

— Я табе дам ланцуг, басяк! Ты на каго руку ўзняў, ты на каго!..

Змрочная, нежывая ўсмешка зноў рассунула сотнікавы вусны.

— Н-ну... На каго?

— На Хрыс-та! — раптам нясцерпна ўзвысіў голас Юрась.

Натоўп ахнуў.

— Так, на Хрыста! — раўнуў Фама.— Чулі, у Гародні?

— Ці-ха! — узняў пальчатку сотнік.— Гэта не той. Гэта самазванец і шалбер па імю Якуб Мялшцінскі, уцякач з Польшчы, якога даўно шукае за ерась і злачынства доказная інквізіцыя.

Аб Мялшцінскім многія чулі. Гэта сапраўды быў самазванец, які няўдала выдаў сябе за месію. Месіі ў той час раслі як грыбы.

— Мана! — сказаў Братчык.— Ісцінна я — Хрыстос.

— Калі ён Хрыстос,— звярнуўся да натоўпу сотнік,— хай прылюдна створыць дзіва.

Юрась маўчаў. На гэты раз яго, здаецца, сапраўды спаймалі. На гэты раз не выкруцішся. Усё. Маўчаў і натоўп.

У гэты момант Хрыстоў позірк упаў на сляпых, што сядзелі ля аднаго воза. Страшныя буграватыя верхнія павекі, безудзельныя твары. Магчыма, вырвуць вочы і яму.

І тут ён здзівіўся. Адзін са сляпых, карыстаючыся, што на яго ніхто не звяртае ўвагі, ва ўсе вочы глядзеў на беспарточнага гандляра, на сотніка і на яго, Юрася.

З радасцю адчуваючы, як вяртаецца жыццё, Юрась непрыкметна паказаў яму залаты (якое шчасце, што яго не праелі!) і спытаў вачыма:

«До?»

«До»,— апусціў «сляпы» вочы і пачаў шаптаць нешта суседу, чалавеку такога ж бандыцкага выгляду, як і ён.

Ноздры Хрыстовы раздзімаліся. Ён ускінуў галаву, і ў прыціхлы натоўп ударамі сякеры ўпалі словы:

— Будзе цуд!

Кірмаш замёр. На сотнікавым твары было непаразуменне.

— Прывядзіце мне... ну, хаця б унь тых сляпых.

Людзі кінуліся да калек, узнялі іх і на руках даставілі да Юрася. Натоўп глядзеў са свяшчэнным жахам на бугрыстыя, відаць, ад старых язваў, павекі. Сумнення не было.

— Але найперш я хачу спытаць у іх, ці хочуць яны зрабіцца відушчымі? На такі паскудны свет, можа, лепей і не глядзець... Людзі, хочаце вы пачаць бачыць?

— Бацюхна,— застагнаў першы,— ратуй. Дзеці малыя! Хоць пару год. Білі мяне людзі пана Жабы карбачом па галаве.

Народ змоўк. Ён не ведаў, што гэта круцялі, але свята ім верыў, занадта ўжо звычайныя рэчы яны казалі:

— Дзеля цябе выпаліла мне вочы ў маскоўскім паходзе.

— Божа! — лямантаваў трэці.— Дзеля цябе ў катоўні мне святлом у вочы цэлы тыдзень білі.

Натоўп ашчацініўся. І тут, разумеючы, што справа

пакуль ідзе не на карысць сотніку, папы пачалі галасіць.

— Не слухай, люд наваградскі... Гэты ерэтык, а не Хрыстос!.. Злодзей!.. Схапіце! Выдайце святой службе. Не выпрабоўвайце бога гуслямі чарнакніжнымі... На прэнг іх!

Нехта стаў перад імі:

— А я табе, папоўскае адроддзе, зараз дам, то ты і азадак небу пакажаш. Не перашкаджай. Хрыстос ці не — самі вочы маем. А сляпых не руш — бачыш, павекі якія? Ды ці не ў цябе яшчэ ў катоўні, дамініканская ты падла, яго і асляпілі.

Людзі моўчкі насоўваліся нараснікаў. Запанавала маўчанне.

Юрась шапянуў Тумашу:

— Ну, брат, калі выблытаемся, я ім пакажу. Думаў яшчэ, ці рабіць нам той фокус. А раз яны, царкоўныя пацукі, так з намі — ну, мы ім...

— Прабач, люд наваградскі,— у цішыні сказаў дамініканец.

— То ж бо... Давай, чалавеча.

Хрыстос схіліўся, чарпануў з-пад ног гразь і левай рукой узяў «сляпога» за руку. Залаты перайшоў «сляпому», і той моўчкі схіліў галаву: «До». І тады Хрыстос мазануў гразёю ўсіх трох па вачах.

— Ідзіце. Абмыйцеся. Будзеце бачыць святло нябёсаў... Людзі, адвядзіце іх да ручаіны, пакіньце на хвіліну адных.

Каб ён ведаў, якую памылку ён ледзь не дапусціў, ён бы пахаладзеў. Але ўсё, на шчасце, абышлося добра.

...«Сляпыя» ўмыліся ля крыніцы.

— Во халера,— сказаў адзін.— Як плюхнуў па вачах! А што, хлопцы, калі мы зараз яго кінем ды ўцячом? Залаты ў нас.

— Не кажы,— сказаў той, што глядзеў на Юрася.— А раптам дагоняць. Скажуць, ён вас вылечыў, а вы замест падзякі яго — на прэнг. Не, брат, давядзецца вярнуцца.

— Дый гразь нейкая смярдзючая,— сказаў трэці.

— Нічога,— сказаў ініцыятар.— Мы з яго за гэтую гразь ды за тое, што не ўцяклі, лішнія залатыя возьмем.

— Бедны,— сказаў першы.

— Чорт з ім. Ды яшчэ і з гледачоў здзяром. Пайшлі. Вымай гарох.

Яны вынялі з-пад павек пакладзеныя туды палавінкі гарошынак, праміргаліся і, заплюшчыўшы вочы, пайшлі назад.

Карніла з тупой іроніяй глядзеў на бадзяг. Убачыў, што сляпыя набліжаюцца, што вочы ў іх заплюшчаныя, і ўсміхнуўся:

— Што, выкручвацца хацеў? — не памагло?

Сляпых падвялі. Юрась перахрысціў іх.

— Бач! — загадаў ён.— Глядзі на бога ў славе ягонай!

Сляпы «з цяжкасцю» прыўзняў павекі.

— Пане божа,— крануліся шэптам вусны.— Бачу... Бачу, пане божа... Сузіраю светлы твар твой!

Зірнуў на сотніка:

— А гэта што за багабрыдкае рыла?

Сотнік разгубіўся. Два другія былыя слепакі глядзелі на яго з кепска прыхаванай агідай.

— Чорт,— сказаў адзін.

— Ясна, што сатана,— сказаў Раввуні.— Толькі рогі пад валасамі.

Два мешчаніны падышлі да сотніка.

— Н-ну, рыла. Гэта як жа? На бога руку ўзняў. Саўл, пачэ калу смярдзяй.

Карніла наліўся барваю. Вырваў меч.

— Ці-ха, хлопы!

Гэта ён зрабіў дарэмна. Наваградскім мяшчанам, як і ўвогуле тагачасным мяшчанам, зброяю пагражаць не варта было. Рык натоўпу дайшоў да шалёнай раз'юшанасці. Гулка лопнуў аб галаву Карнілы пусты гаршчок. Коннікі пацягнулі з піхваў мячы. І тут белае, сіняе, чырвонае, золатавалосае, стракатае ад доўбняў, кіёў, кордаў, кляўцоў і дзід мора кінулася на іх з усіх бакоў. Паляцелі дзежкі, паленні, зафырчалі ў паветры бручыны.

Спалоханыя крыкам, асепленыя, коні ярыліся і ўставалі дыбам, а потым чуйдух прабіліся праз натоўп і паляцелі прэч. Наўздагон ім для пастраху пусцілі з дзесятак стрэл. Магдаліна ў адчаі глядзела на шалёныя ўцёкі латнікаў, ведала, што раней чым праз пару дзён (і то, узяўшы падмацаванне ў Любчы) Карніла сюды не вернецца. Ведала, што Хрыстос цяпер нагострыць адсюль лыжы, і, значыць, зноў

дарогі, самыя глухія, дзе нават галубіных станцый няма, значыць, трэба ісці і кінуць Ратму.

Каб яна ведала, што гэтая акалічнасць уратуе яе, яна думала б іначай. Але яна не ведала і таму пайшла глухімі вуліцамі да замка, каб, магчыма, развітацца з Ратмам і ўзяць клетку з галубамі ў запас. Клетку яна атрымала, але хлопца не ўбачыла. Вартавы сказаў груба:

— Ідзі-ідзі. Ён пад замком.

— За што?

— Ну, значыцца, добрых спраў нарабіў.

Гэтая вестка напоўніла яе трывогай. Што такое магло здарыцца? Няўжо за начную прыгоду? А можа, ён усё адкрыў бацьку? Ну не, не можа ж ён быць такі дурны, каб вось так адразу. Усё гэта трэба было доўга рыхтаваць. ...Яна не ведала, што Радша і выявіўся менавіта такім «дурным». Ашалелы, звар'яцелы ад шчасця, кахання і цягі, ён адкрыў бацьку Мартэлу, што з нявестай у яго ўсё скончана, што ён не хоча з-за земляў быці пасмешышчам і вырашыў ажаніцца з другою. Бацька ўрэзоньваў яго, што ўсё гэта лухта, што радавітыя не гаспадары сабе, што, ажаніўшыся, можна пасля мець хаця сто палюбоўніц. Юнак ашалеў. І тады ваявода загадаў узяць яго пад замок.

Ёй было вельмі трывожна, і нейкае нібы прадчуванне мучыла, і цягнула, і смактала пад сэрцам.

...Між тым агульны энтузіязм дасягнуў апагея. Юрась бачыў, што на другім канцы плошчы ўжо стаіць над ручной каляскай, застаўленай закаркаванымі пляшачкамі, жаўтазубы Баўтрамей. Чакае, і твар — як кепская трагічная маска. І яшчэ Хрыстос бачыў, што ніхто да яго не падыходзіць, усе глядзяць на іх, і, значыцца, фокус пакуль выгарае Усё ішло добра.

І тут да яго зноў падышлі два былыя слепакі. Народ сустрэў іх сяброўскімі крыкамі.

— Ну як, сталі бачыць? — спытаў ён.

— Але,— выскаляўся той, што ўзяў манету.

— То добра, ідзіце з мірам,— дружалюбна сказаў Хрыстос.

— Мір не танна дастаецца,— шапнуў мазурык.— Давай яшчэ тры залатыя.

Яны шапталіся з ласкавымі ўсмешкамі на вуснах. Народ з замілаваннем глядзеў на гэтую сцэну.

— Няма ў мяне больш. Слова. Пасля, можа...

— Крыкнем,— сказаў сляпы.

— А я вось зараз таксама крыкну,— сказаў Пятро,— што вы за вылячэнне яшчэ і грошай просіце. Тады вам жыва вочы выб'юць, а другога Хрыста — дай вам бог, галубочкі, дажыць да яго з'яўлення.

Братчык з кранаючай пяшчотай абняў іх:

— Ідзіце да д'ябла, улюбёныя браты мае. Пакуль не пасыпаліся зоркі з вачэй вашых. Не хацелі па-добраму пачакаць. Стра́шыце? Ко́пну вам у зад.

У натоўпе ўзніклі ўздыхі замілавання. Братчык падвёў «братоў» да прыступак паперці і непрыкметна даў ім моцнага выспятка ў азадак. Тыя з каметнай хуткасцю паляцелі праз натоўп.

— Бач, пабеглі як,— пракаменціравала баба.— З радасці, мілая!

— З радасці пабяжы-ыш.

...Магдаліна ішла, і трывога яе рабілася нясцерпная. Што ж, урэшце, здарылася? Яна раптам адчула самоту і жах. Ёй хацелася хутчэй дабрацца да тых, каго яна гадзіну назад ледзь не аддала ў рукі святой службы. З імі не так небяспечна, яны нешта прыдумаюць.

Гатычныя, папярочна-смугастыя дамы навісалі над ёю, здаецца, сачылі вострымі маленькімі акенцамі, прыціхлі. Яна фізічна адчувала, што за кожным рогам яе чакае небяспека.

Урэшце ў самым канцы вулачкі яна ўбачыла на прыступках храма Хрыста з хаўруснікамі, адчула гэта з раптоўнай радасцю і... стала.

Паміж ёю і Хрыстом стаяў і глядзеў на яе невялічкі, пераважна жаночы, натоўп. Былі тут касцельныя жоўтыя дэвоткі і чырвоныя маладзіцы з тупымі і злоснымі вачыма, былі вечныя «дзяўчаты» з вуліцы святой Цэцыліі, што глядзелі прагна, з адчуваннем сваёй бяспекі, было некалькі пажылых мужыкоў у пераломным узросце і манахаў з блудлівымі зрэнкамі. Было нават некалькі няпростых кабет у багатых сукнях.

Яе вочы з дзіўнай рэзкасцю бачылі ўсё гэта.

А наперадзе стаяла мажная кабета ў дзявочым шлягавым вянку. Расставіла ногі, склала на грудзях

пачварнай магутнасці рукі. Грыбасты рот усміхаўся.

«Ганорыя з Валевічаў,— зразумела яна.— Усё. Адкрыў ёй стары хрэн ваявода».

Яна аглядала агульную і Ратмаву нявесту і міжволі іранічна думала: «Бедны Ратмір. Ну, гэтая яго навучыць».

— Вядзьмарка! — кінула Ганорыя ціхім голасам.— Абпаіла д'яблавым зеллем. Спакушальніца...

Магдаліна рушыла наперад, гледзячы ёй у вочы. Тая сумелася, і таму, здаецца, нахабства яе яшчэ ўзрасло.

— Ну,— сказала Магдаліна,— ачысці дарогу.

Натоўп па-ханжаску маўчаў. Баяўся смелых вачэй.

— Распусніца,— хавала вочы Ганорыя.— Самадайка. Вядзьмарка. Тварына. Жаніхоў чужых зводзіць?..

— Ты ўжо хто? — з усмешкай сказала «лілея».— Дарога кірмашная.

Яна адставіла клетку, каб часам не растапталі.

— Прыходзяць тут гнілыя... Хамка... На дваран замахваешся? Не па чыне.

— Адыдзі.

Голас быў такі ўладны, што нахабная бабішча адступіла была, з уласцівай усім такім подлай баязлівасцю, але вакол зашапталі:

— Не пускай... Не пускай.

Магдаліна зразумела: прайсці не выйдзе. Цяпер трэба было ўчыніць вялізную сварку — можа, пачуюць свае і вызваляць, пакуль не пабілі.

— Чарадзейка... Атрутніца... Вочы выдзеру, шлюха ты,— кідала Ганорыя.

— Маўчы, грамадская студня... Зажыва гніеш, а на маладога рыцара брудным вокам кідаеш... З турэмшчыкамі табе спаць, з пракажонымі, з катамі! І ён яшчэ з табою пойдзе, святы хлопец? А дулю.

— З табою хіба, з шалавай? — спытала гаспадыня Валевічаў.

— А і са мною. Арол такой гусі бруднахвостай не пара.

— А ты хто, хлопка?

— Ды ўжо ж не ты. Да чыйго дома ў горадзе самы біты шлях? — яна выдумвала, але ведала: з гэтай усё будзе — праўда.— Ці ёсць у Наваградку такі

хаўрус, які б цябе «нашымі жорначкамі» не называў? Ды ў яго, калі ён дурань будзе, шыя зломіцца ад тых падарункаў, што ты яму да шлюбу назапасіла!

— Дрэнь! Чарнакніжніца! Ерэтычка!

— Ад каго браты зажыва засмярдзелі ды божага царства пайшлі шукаць?! Хто ва ўласнай маткі ў дванаццаць год законнае права жонкі адабраў?

Удар нечакана трапіў у цэль. Ганорыя задыхнулася.

— У студні закінутай у яе пашукайце,— цадзіла Магдаліна (яна добра ведала норавы жанчын такога тыпу).— Бачыце, айцы святыя непарочнай яе агаласілі. За колькі? Ці мо натурай заплаціла? Можна і гэтак. Тыя казлы згодзяцца. Дзявочы вянок беднаму добраму Ратму. Ды табе б ганебны каўпак, ды прыпол абрэзаць, ды — віцамі! А лепей крыж забараніць насіць, ды радзюгу нашыць на плашч, лапічак, ды бранзалет на нагу [1].

— Ды што?! — не знайшлася шляхцянка.— Біце яе! За распусту бязбожную! На Евангеллі ў чысціні паклянуся!

Яны ўчапіліся адна ў адну. Магдаліна першым чынам збіла з галавы Ганорыі вянок. Абедзве валтузіліся. І тут нейкі клірык, з жоўтым, як чэрап, тварам і чорнымі вачыма, сказаў:

— Стой! Ну! Вы што, ля студні? А між тым яна ж царкву абразіла! Абразіла! Слова, якім касцёл заступіўся за цноту гэтай дзяўчыны. Чаму? Ачараваўшы ваяводскага сынка, жадала на іншых свае правіны скінуць. Між тым гэта адна з самых страшных кабет Гародні.

Магдаліна магла яшчэ выцягнуь знак, ладанку, дадзеную Лотрам. Але пры ўсіх гэтага нельга было рабіць. Смерць без суда. Чаму яна загадзя не паказала яе дамінікаццам?

Яна зразумела, што гэта ўсё. Цяпер нішто не ўратуе. Пасля, на трупе, знойдуць той знак; клірыка за выкрыванне і забойства асабліва даверанай асобы, той, што можа загадваць ад імя царквы ўсім, аддадуць службе і знішчаць. Ці лягчэй ёй будзе ад гэтага? Яна склала рукі і адступіла.

---

[1] Сярэдневяковыя адзнакі дзяўчат пэўнай прафесіі, спайманых на рабунку гасцей, дужа ўжо нізкапробнай распусце, брудзе або хваробе.

— Распусніца! — узвыў народ.
— Бі яе!
— Дзеўкі, у камяні!!!
Камень ударыў Магдаліну вышэй скроні.
...І тут, пачуўшы гвалт, Раввуні штурнуў Хрыста.
— Глядзі!
— Што такое?
— Магдаліну, здаецца, б'юць,— прабасіў Тумаш.
Збялелы Юрась кінуўся да натоўпу. А гурма ўжо лезла наперад, ціскалася, выла. Лезлі ледзь не па галовах, каб дабрацца наперад, вішчалі. Недзе дурным голасам екатала апантаная бесам. Юрась штурхаў баб, адцягваў за валасы клікуш — і амаль дарэмна.
Але Тумаш добра разумеў, што такое азвярэлы натоўп, а асабліва жаночы. Ён выдзер аднекуль кол і арудаваў ім. Тут было не да ягонага «рыцарства да дамаў». Кол, прынамсі, цверазіў, прымушаў хапацца за выцятае і менш думаць аб ахвяры, а больш аб тым, як знікнуць.
Камяні ляцелі ўжо градам. Але ў клікуш было крывава ў вачах ад ярасці, і яны кідалі свае снарады абы-як. Магдаліна бачыла белыя вочы, разверстыя раты, чырвоныя твары.
Яшчэ адзін камень ударыў яе ў грудзі. Пасля трэці — па галаве... Павісла рука. Зямля пад яе нагамі штохвілінна гусцей пакрывалася плямамі. Яна заплюшчыла вочы, убачыўшы, як здаравенны манах узнёс доўбню. І тут нехта прыціснуўся да яе грудзей спіною, закрыў.
...Юрась перахапіў доўбню, з сілаю, выкручваючы ворагу рукі, выдраў яе і шпурнуў пад ногі наступаючым. Там заенчылі.
— Ці-ха! — выгляд Хрыстоў быў страшны.— Кідай камяні! Нашто б'яце?!
— Не б'ём! — вішчаў народ.— Забіваем яе!
— Маў-чы-це! Маўчаць! Змоўч, ізуверкі!
Ён бачыў, што яго несамавіты крык прыцягнуў увагу мужыкоў з кірмашнага натоўпу і, значыцца, бабу, магчыма, можна будзе ўратаваць.
Было не да тонкасцей. Ён узяў Ганорыю загрудкі і адвесіў ёй страшэннага ляпаса.
Тумаш зрабіў тое самае з «мёртвай галавою» — аж ляснулі зубы.

— Адступі!

Фанатычкі замерлі.

— Імем бога б'еце, а ў душы што? Зайздрасць?! Або свае грахі на іншых спіхваеце?! «Трымай злодзея»?! Ты, дзеўка, хіба сапраўды не кірмашны шлях?! А ты, чэрап, за што ёй цноту засведчыў?! А ў цябе хіба не бранзалет наназе?! А хто тут з вас па закутках не швэндаўся, мужу галаву не прыўкрашаў?!

Гіпнатычны погляд ненатуральна вялікіх страшных вачэй абводзіў гурму:

— Вось зараз вянкі ды наміткі ў любадзеек у неба палятуць. Каб з простай галавой хадзілі, як шлюхі!

Многія схапіліся за галовы. Ціхі смех прагучаў сярод мужыкоў.

— Пісанне чытаеце?! А там што сказана? Хто без граху — першы кінь у яе камень... Хто кіне?.. Ты?.. Ты?..

Камні пачалі падаць з рук. Ляскалі па каменных плітах часцей і часцей.

— А цяпер пакажыце ж і вы сваю ўладу, мужыкі! Бярыце іх хто за што здолее ды ганіце дадому, а каго — у касцёл, бо там іхні дом, і спяць яны, відаць па іх, са статуямі. Гэх, дурніцы! Не з вашай галавою ў словах папоўскіх разбірацца. З вашай галавою — у гароху толькі сядзець!

Мужыкі патроху пачалі разганяць гурму. Дзе віцамі, а дзе і хапаючы. Віск, гвалт, тупат. Некаторых — па ўсім відаць, тых, што схапіліся за галавы — мужы взялі за касу і штурхаючы пад бакі. Чакала іх горкая чаша.

Хутка вуліца апусцела.

— Устань, жанчына,— сказаў Юрась, бо Магдаліна ад слабасці ўпала на калені.— Ніхто не кране. Хадзем у гасцёўню.

Са скроняй, па якой сплывалі кроплі крыві, з апушчанымі рукамі (у адной з іх была клетка), яна пайшла за ім. Апосталы зноў расселіся на прыступках і сталі сачыць за гаротным Баўтрамеем.

Намачыўшы губку ва ўчарашнім віне, ён абмываў ёй галаву. На акне, у праменнях сонца, вуркаталі галубы.

— Ну, на галаве толькі моцны сіняк... А тут, ля скроні, скуру рассекла. Нічога. Вось і кроў спыняецца. Смолкай залепім — і ўсё...

Тая раптам заплакала.

— Во, дурына! Кінь. І шнар будзе пад валасамі. Будзеш гэткая самая прыгожая. Вельмі прыгожая. Прыгажэйшая за ўсіх. Што яшчэ?

— Грудзі. Дыхаць цяжка.

— Ці не рабрыну зламалі?

— Н-не ведаю.

Ён пачухаў патыліцу:

— Раздзявайся.

— Ты што?

— Ладна, кінь дурэць. Часу мне няма. Інакш уся гэтая апостальская банда зноў галодная ляжа. А ў жыхароў цыганіць нельга.

Яна раздзелася. Ён пачаў абмацваць бок жанчыны. Проста і натуральна, нібы рабіў гэта Тумашу або Іудзе.

— Цэлая,— урэшце сказаў ён.— Хіба, можа, маленькая трэшчынка. Сёння дастанем насілы — будзем цябе дні два несці. Пойдзем, відаць, на Вільню. Уцякаць трэба.

— Адкуль насілы?

— Гэта не твой розум. Адзявайся.

Пасля ён пагладзіў яе па плячы.

— Па галаве не рызыкую. Вось ужо як зажыве. За што ў вас там бойка была — не мая справа. Але разумніца, дзяўчынка. Смелая. Так ужо іх трапала! Ну, ляж, ачуняй. І супакойся. Мы іх, у выпадку чаго...

Ён пайшоў. Некаторы час яна сядзела моўчкі. Гучна завуркаталі галубы. Ім было добра ў праменнях сонца, якое яна сёння ледзь не ўбачыла ў апошні раз. Нічога. Усё абышлося. Цяпер трэба ўбачыць Ратму.

Яна дзейнічала машынальна, як заўсёды. З Лотрам не жартуюць. Гэта прэнг, і «велля», і расплаўлены свінец у роце, а там і вогнішча... Галубы... Значыць, запіска. Яна дастала маленькі скрутак танюткай паперы, ачыненае вераб'інае перайка, інкаўст[1] у скураной чарніліцы і пачала пісаць кірылаўскімі літарамі:

---

[1] Чарніла.

«Эядянмяэлсчюпялёэасўтўсокмфсяегнчёэгмэяіла-ўшфупяэйспбфшямоыўняэчшярсб...»

Гэта была «літарэя за адной пячаткай», стара-жытны беларускі тайнапіс[1]. Магдаліна пісала ім спрытна і хутка. Машынальна рухалася рука. Дум ак не было. Нібы нейкая запруда стаяла перад імі. Нібы кій трапіў у кола і застапарыў яго.

І раптам яна ўспомніла цеплыню чалавечай спіны на сваіх грудзях. Спачатку толькі яе. Яна была непадобная на ўсе іншыя цёплыя спіны. А яна памятала іх шмат.

Яна ашчаперыла пальцамі галаву і, нягледзячы на боль, сядзела так некаторы час. Пасля ўдарылася лобам аб падвоканне. І яшчэ. Яшчэ. Адзіная вялікая кропля крыві ўпала на пергамент. Жанчына скамячыла яго.

Лілася кроў. На палях, у катоўнях, на вуліцы. Шмат крыві.

Жанчына думала яшчэ некаторы час. Пасля адчыніла клетку, звыкла — лапкі між пальцаў, вялікі палец на крылах — вынула аднаго голуба і падкінула ў неба. Той затрапятаў крыламі ў блакіце, пакружыў і памкнуў на паўночны захад.

З другім голубам пальцы нібы развучыліся. Ён забіў крыламі, вырваўся ўрэшце і паляцеў за першым.

Трэцяга яна проста вытурыла з клеткі, выпусціла, як жанчыны выпускаюць птушак на вялікдзень.

...Тры хусточкі ператварыліся ў кропкі, зніклі за акаёмам. З хвіліну яна думала, ці не варта адкрыць усё Хрысту. І спалохалася.

Ведала — не кране пальцам, але не даруе ніколі. І ёсць яшчэ Лотр, які ўрэшце ўсё ж спаймае і яго і — цяпер — яе. Ён учыніць ёй «веллю» не на сорак, а на восемдзесят гадзін, парве вены і ўсё ж спаліць жывою.

Яна адчувала сябе злачынцаю. Толькі так! Ні гонару, ні ўдзячнасці не было ў душы — толькі сабачая прыніжанасць. Яна выканала б усё, што ні загадаў бы ёй кардынал. Але не гэта.

---

[1] Літарэя-тайнапіс, калі да кожнай літары падбіраюць пару і пішуць замест адной літары другую. «Пячатак» было да сямі. «Літарэя з адной пячаткай» — найпрасцейшая. Яна не патрабавала шыфру. Словы пісаліся злітна. Тут напісана (для зручнасці чытача, вядома, сучаснай моваю): «Ваша правялебнасць, вялікі Лотр. Злачынец вырваўся. Ідзе на Вільню. З дарогі паведамлю».

«Хай рабуе, хай блюзнерыць, хай нават павесіць самога Лотра або замахнецца на папу — я не магу... Я не магу выдаць гэтага чалавека».

Баўтрамей выскаляў рэдкія жоўтыя зубы над сваімі пляшачкамі:

— Вось тавар! Вось святы тавар! Наваліся, хто грошы мае!

Апосталы з Хрыстом сядзелі ўбаку, грэліся на вячэрнім добрым сонцы.

— Няўжо яму паверацъ? — спытаў няверны Тумаш.

— Усяму паверацъ,— змрочна сказаў Хрыстос.

— Добра, каб паверылі,— сказаў Гарганцюа — Якуб.— Здаецца, Валаамаву асліху з'еў бы. Бывала, на возеры мянёў напячэш, ды юшка з акунькоў...

Тумаш недаверліва круціў галавою.

— Але ж вера... Вера, яна...

Хрыстос раззлаваўся:

— І ахвота табе гаварыць. Ну вера, вера! Плявузгае. А ў пісанні даўно аб ёй сказана, што вось... калі будзеш мець веру велічынёй з гарчычнае зернейка і скажаш унь той Замкавай гары перайсці адсюль — яна пяройдзе.

— Ну, з зернейка ў мяне ёсць.

Ён утаропіўся на вежы, напружыўся ўвесь і заплюшчыў вочы. Пасля расплюшчыў іх — гара была на месцы.

— Храновіну гародзіш, ойча.

— Трэба практыкавацца ў веры,— сказаў Хрыстос.

— Добра. Пастараюся.

Маўчалі.

— Што Анея? — шэптам спытаў Раввуні.

— Ніч-чога. Невядома дзе. Нават апошнія чуткі заглохнулі. Сёння пойдзем на поўнач, на Вільню. Усё адно — голка ў стозе.

Да Баўтрамея падышоў багата апрануты мешчанін. Узяў бутэлечку, страсянуў:

— Ды яна ў цябе пустая.

— Не боўтай, не боўтай, кажу, пляшачкі,— узяў яго на перапуд ліцадзей.— Няшчасця хочаш? Я т-табе дам, пустая!!!

Ад гэтага тону, а яшчэ больш ад трагічнай маскі — твару, мешчанін сапраўды перапалохаўся.

— А ў ёй што?

— Уздых святога Ёсіпа Арымафейскага. Што ён уздыхнуў, яшчэ калі Хрыста распіналі.

— І ва ўсіх — уздых?

— Уздыхнуў моцна.

— А... ад чаго памагае?

— Ад запою...— натхнёна збрахаў актор.— Ад хмялення.

Мешчанін падумаў трохі, адлічыў грошы. Пасля павагаўся і... пайшоў у карчму.

— Клюнула,— сказаў Пятро.

Хвілін праз дваццаць з карчмы выскачылі з дзесятак прапойцаў, хуценька купілі па пляшцы і вярнуліся.

Яшчэ праз палову гадзіны нейкі чалавек, па выгляду слуга духоўнай асобы, купіў бутэлечку і ў завулку перадаў яе таму самаму клірыку — «мёртвай галаве».

— Эг-ге,— выскаліўся Юрась.— Ну, д-добра. Цяпер я вам пакажу... І як святой службе нас аддаваць, і камяні, і ўсё.

Праз нейкую гадзіну пайшло і пайшло. Да Баўтрамея валіў і валіў народ. І дарога ў людзей была адзіная: Баўтрамей — карчма.

Пад вечар горад нельга было пазнаць. Нагадваў ён поле страшнага пабоішча. Людзі ляжалі паўсюль: на парогах, на вуліцы, у вокнах. І было гэта страшней, чым пасля татарскага ўварвання, калі выразалі яны Наваградак пад корань. Нават пасля татар так страшна не было.

Кожны ляжаў там, дзе засцігла яго варожая сіла. У кучах ці паасобку, ніцма ці дагары.

І сапраўды няма каму было плакаць, бо ўсе ў капе бездыханна ляжалі. Занадта бо паспадзяваліся на сілы свае і на сілу новага святога патрона.

Спаў кустод у браме. Спала варта на вежах. Нават ваявода Мартэл спаў, мармычучы ў сне:

— Пагублю мудрасць мудрацоў і розум разумных адвергну.

Першая скарысталася з гэтага Магдаліна. Проста, нібы ў свой дом, прайшла ў замак да адзінага цвярозага жыхара горада, Радшы. Ёй чамусьці зусім не

хацелася ісці да яго, і ўсё ж яна пайшла. Яна шкадавала гэтага юнака, памятала пра ўсё. І хіба ён не заплаціў воляй за тое, што ўпарта хацеў толькі яе?

На жаль, нельга было выпусціць яго. Ключар запёрся ў цямніцы і налакаўся ўжо там. Але яна гаварыла з Ратмам праз краты на дзвярах, казала, што вымушана ісці далей за сваёй мэтай, але абавязкова вернецца. І плакала. А ён (твар ягоны быў нібы з крэменю) сказаў ёй, што чуў, як яе сёння хацелі забіць за яго, што ніхто не прымусіць яго да шлюбу, што ён будзе чакаць.

...А ў цемры з уздыху святога Ёсіпа Арымафейскага скарысталіся і тыя, што сабралі яго.

З мяхамі яны хадзілі з касцёла ў касцёл, з плябаніі ў плябанію, з царквы ў царкву. Па пустым, нібы вымерлым, горадзе. І мяхі іхнія рабіліся ўсё цяжэйшыя і цяжэйшыя.

Рабавалі падчыстую. За спробу выдаць кату, за спробу потым забіць, за тое, што прымхліва надзерліся, а самі паўсюль крычалі аб цвярозасці. Рабавалі так, каб назаўтра няма з чаго было прычасціць. Пацíры, дзіскасы, дарахранільні, лампады, грошы з тайнікоў і скарбонак, каштоўныя камяні. Здзіралі ўсё. Палахлівы мардач Андрэй аж стагнаў, што пагоняцца.

— Лухта! — белымі каменнымі вуснамі казаў Хрыстос.— Збаяцца. Не крычаць жа ім, што напіліся, як свінні. Маўчаць будуць.

Памылкова зайшлі ў нейкі багаты дом, палічылі за плябанію. І там сустрэлі яшчэ аднаго цвярозага.

Хрыста з імі не было. Мацей пачаў быў браць маёмасць.

Тумаш аглядаўся вакол. Непадобна было на папоўскі дом. Ат, усё адно!

І раптам...

— Гулі-гулі-гулі.

Стоячы ў калысцы, аптымістычна ўсміхнуўся бандзюгам дзіцёнак. Ружовы, толькі са сну.

Твары вакол былі ў ценях ад паходняў, зарослыя, з крывымі ўсмешкамі, катаржныя.

— Гулі-гулі-гулі.

Тумаш працягнуў да малога страшныя, з цэбар, далоні.

— Гу-у, гу-у,— усміхнуўся той.

— Ах ты мая гулечка,— расплыўся Фама.— Гу... Гу... І пялюшкі мокрыя.

Ён змяніў малому пялюшкі.

— Ну, ляжы, ляжы. Ах, яны — быдла! Ах, яны — дарослыя! Ну-ну-ну, мачыляпы... На... На вось коржык.

Малы радасна ўчапіўся ў коржык дзёснамі.

— Кідай усё,— скамандаваў Фама.— Дом багаты... Ну і што?.. Нешта мне, хлопцы, нешта мне... неяк... Бач, як глядзіць...

І яны выйшлі.

У апошнім касцёле ледзь не памерлі з жаху. Тут таксама было поле бітвы. Спаў ля аргана арганіст. У абдымку ляжалі на амбоне пробашч і званар. Панамар звесіўся з месца для ка́заняў.

Хрыстос якраз узломліваў скарбонку. І раптам дзіка, як дэман, зароў арган. Затрэсліся шыбы. Ад нечаканасці скарбонка ўпала, з ляскам і звонам пакаціліся па плітах манеты.

Усе ўскінуліся. Але гэта проста арганіст упаў буянай галавою на клавіятуру.

— Тфу! — сказаў Хрыстос і вытрас грошы ў мех.

Абрабаваўшы ўсе храмы, нагружаныя скарбам, яны пад покрывам цемры пакінулі горад. На ўсякі выпадак ім трэба было пакінуць між сабою і Наваградкам як найбольш дарогі. Закусвалі на хаду. Частку нарабаванага вёз мул. На плячах у апосталаў Піліпа з Віфсаіды і Якуба Зеведзеева плыў біскупскі партшэз з Магдалінай. Пагойдваўся.

На паваротках дарогі мянялі сваё месца зоры. А яна сядзела і з трывогай і адначасова з дзіўным пакоем адданасці лёсу думала: «Чаму я так зрабіла? Хіба не быдла ўсе людзі і хіба не ўсё адно каму служыць? Вось і гэтыя... абрабавалі. Сапраўды, блюзнеры, махляры, валацугі. Чаму ж мне не хочацца служыць супраць іхняга атамана?»

— Ну, быдла,— сказаў раптам Тумаш.— Ну, айцы душаў!

І змрочны Хрыстоў голас адказаў з цемры:

— Кінь. Яны ўсё ж вышэй за быдла. Можа быдла катаваць іншых? А прынізіць сябе? А сябе прадаць на таргах?

«Жывы,— падумала яна.— Проста ён жывы. І рабуе, і ўсё... а жывы. А тыя і рабуюць, і словы гаво-

раць, а мёртвыя. Гандляры, дрэнь, золатам залітыя, гвалтаўнікі, мяснікі, каты майго цела — мёртвыя яны, вось і ўсё. А гэты глядзіць на мяне, як на дрэва, а жывы. Там, дзе мерцвякі глядзяць на мяне, як на дрэва, ён — як на жывую. І ў адзіным выпадку, калі яны глядзелі, як на жывую, ён, як на дрэва. Ну і схопяць. Вядома, з табою не толькі ў неба не трапіш, з круцялём і мазурыкам, а і на зямлі доўга не паходзіш, у зямное пекла пападзеш... Хай так. Не хачу баяцца. Ніколі больш цябе не прадам. Выкуплю грэх, ды можа, і вярнуся да Ратмы... Не хочацца вяртацца да Ратмы, хаця і ласкавы ён, і кахае, і кранальны да замілавання. А, усё адно!.. Вось дарога — і ўсё».

У дрымоце яна глядзела, як плывуць зоры, слухала, як крычыць драч, бачыла, як рухаецца на фоне зорак Хрыстова постаць, апранутая ў брудна-белы хітон.

## Раздзел XXIII

## СТАРОЕ КАХАННЕ

І ўсё здаецца, што сад там цвіце,
А там і лаўжоў няма.

*Гэльская песня*

Тыдні і тыдні яны знемагалі ад пошукаў. Нідзе ніхто не даваў ім адказу. Нават чутак больш не было. І хаця нэндзы яны пасля наваградскага рабунку не адчувалі — душы іхнія былі спустошаны. Дарэмна шукалі яны дрэва, каля якога маглі б абвіць сваё жыццё. Ішлі ўлегцы, таму што большую частку грошай паспелі закапаць на будучае, але ў душах іхніх жылі цяжар і знявер'е.

Аднойчы падыходзілі яны да невялічкай вёсачкі ў баку ад дарогі. Біў звон драўлянага касцёла. Цягнуліся над папарам клубастыя белыя аблокі.

— Ведаеш, што за вёска? — спытаў Хрыстос у Іуды.— Тут жыве дзеўка — цяпер-та яна баба,— якую я калісьці кахаў.

— Калі гэта?

Хрыстос усміхнуўся:

— У мінулае сваё кароткае з'яўленне. Калі сышоў паглядзець, што тут і як.

— І праўда, што шалбер,— сказаў Іуда.— Нездарма шукаюць.

— Ну-ну, я жартую. Калі шкаляром быў.

— Хочаш паглядзець? — спытаў Іуда, убачыўшы нясцерпную тугу і чаканне чагосьці ў вачах Хрыста.

— Ці трэба? Прадала яна мяне. Прадала Анея. Магла ж хаця неяк спавясціць, каб хацела. Не шануе мне... А раней шанцавала.

— А цягне цябе?

Хрыстос маўчаў.

— Ідзі,— амаль груба сказаў іудзей.— Мы цябе на плошчы пачакаем.

І ўсе яны звярнулі з гасцінца да вёскі.

...Хрыстос пайшоў прыгуменнямі. З мірской плошчы ляцеў нейкі шум, а яму не хацелася зараз бачыць людзей.

Сандалі асклізаліся з мяжы. Двухзубныя ваўчкі чапляліся за хітон. Пахнула зямлёй, нагрэтымі кустамі чорных парэчак.

І скора ўбачыў ён знаёмы сад і абцяжараныя пладамі яблыні. Пайшоў паўздоўж іх, каля плота. Сонца грэла ў спіну. Хвалявалася чаканнем сэрца... Здрадзіла... Даўно ён не быў тут... Ды не, нядаўна.

І здалося яму: цвілі яблыні. І сам ён, зусім тады малады, прыгожы, нетутэйшы, стаяў пад імі... І дзяўчына бегла да яго... І зараз ён не ведаў, тая гэта або Анея.

...Рассоўваючы рукамі цяжкія галіны, ён глядзеў на векаўшчыну — дом, на багацюшчыя свірны, на вастраверхі страшны паркан вакол іх.

І ўбачыў. Жанчына рыхліла грады. І ён не мог пазнаць, тая гэта ці іншая. Агрубелая ад вечнай прагнай работы, што ўжо не радасць і не праклён, а — ідал, шыракаклубая, скурчаная на гэтай тлустай зямлі, як тлусты белы корч.

Рагі гразі між пальцамі ног, плоскія ступакі, велізарныя звісаючыя грудзі... Хутчэй... Хутчэй перабірайце, рукі... Хутчэй працуй, трызубец... Нават сотня наймітаў не дагледзіць, як ты сама.

Калі яна ўзняла на яго тупы твар, ён зразумеў, што гэта ўсё ж яна, і ледзь не крыкнуў.

Ах, багаты двор, багаты двор! Найміты і наймічкі, паркан, грошы ў скарбонцы недзе ў падполе (іх вечна няма, калі нешта патрэбна купіць), чароды коней і

кароў, самыя багатыя і дарагія іконы ва ўсім наваколлі.

— Чаго стаў?.. Ідзі...

Грубы ад вечных дажджоў і вятроў голас.

— Ну.

Вочы Хрыстовы былі вільготныя. І тут з хаты выйшаў Ён. І ў ім мала што засталося ад мяккага юнака з цёмнымі вачыма. Нясцерпна грубы твар. Столькі крывіў душою, што вочы блудліва бегаюць. І таксама не пазнаў. Ды што! Кожны дзень прагнасці, як тысяча вякоў, і толькі ў шчодрага жыццё кароткае і спявучае, як палёт птушкі.

— Чаго ён? — спытаў гаспадар.— Ты гаварыла з ім, Тэадора?

Імя, якое раней гучала, як мёд. Цягучае жыццё скнары! Пракляцце!

— Хлеба, відаць.

— Нават госція — хлеб толькі для цела,— апусціў вочы шкаляр.— Хлеб душы — літасць і разуменне.

— Святоша з бадзяг,— зразумеў яго гаспадар.— Ідзі. Каб гэта я ўсім хлеба даваў — куды б мае пяцьдзесят валок пайшлі? Псу пад хвост? Ідзі, кажу.

Хрыстос маўчаў. Яму яшчэ ў чымсьці трэба было ўпэўніцца. У чым? Ага, ці прамільгне на яе твары хаця цень успаміну.

— Ты хто? — спытаў гаспадар.

— Хрыстос,— машынальна адказаў ён.

Гаспадар нават не асабліва здзівіўся.

— І цуды можаш?..

— Сёе-тое магу.

— Тады зрабі дзеля мяне... Вось і памінальнічак падрыхтаваў, ды ў храм пакуль не наважваўся... Ну, ужо цяпер!..

— Што?

— Я табе... сала кавалак дам. А ты за гэта зрабі, каб... Вось тут усё... Каб у Янкі... карова здохла і ў Рыгора... і ў Андрэя, і ў другога Андрэя... і ў Навума, і ў Васіля, і ў Волеся, і ў Яўгена, і асабліва ў Ладыся, паскуды, ерэтыка.

Хрыстос уздыхнуў і ўзяў памінальнік.

— А... сала?

— Не трэба. Ісцінна кажу табе, сёння ж уздадуць табе па жаданнях тваіх... Бывай, жэно.

Пайшоў. Жанчына пры гуках апошніх славаў раза-

гнулася была, успамінаючы нешта даўняе і цёплае, але так і не ўспомніла і зноў схілілася да градак.

Цяпер ён ішоў проста да плошчы. Няма чаго было хавацца ад людзей. І тут жыццё нанесла яму страшны, пад сэрца, удар. Хаця б ведаць, што ён здраджаны шчаслівымі і добрымі: «Каб карова здохла...» Вось і ўсё, што дало ёй жыццё. Чалавека, які хлусіць і каецца, святошу, які хрысціцца шырэй за ўсіх, а сам... Тоне сябра, а такі святы, хлуслівы смярдзюк, толькі што аблізаўшы моцнаму ўвесь азадак, кажа яму з берага: «Спачуваю, братачка, спачуваю, але нічым памагчы не магу. Ты лепей на дно хутчэй спускайся».

...Амаль ля самай плошчы ён размінуўся з трыма ўзброенымі манахамі. Яму было ўсё адно куды яны ідуць, ён не азіраўся і не бачыў, што яны ўвайшлі ў дом гаспадара.

## Раздзел XXIV

## ДОКАЗНАЯ ІНКВІЗІЦЫЯ

Каяўся ў грахах Вавілон і Навуханасор, цар ягоны... І, кажуць, Навуханасор, каючыся, пасыпаў сабе галаву попелам і пылам. Але пыл той быў пылам разбітых ім гарадоў, а попел — попелам спаленых ім ахвяр.

*Сярэдневяковы беларускі апокрыф*

Хрыстос выйшаў на плошчу пад абшчынны дуб і, уражаны, ледзь зноў не кінуўся ў завулак. Гэткае відовішча заўсёды прымушала ягоныя ногі рухацца нібы самастойна.

Пад дубам доўгім глаголем стаялі сталы. За імі сядзелі людзі ў дамініканскіх расах. Убаку сядзеў над жароўняй кат, чысціў трэсачкай пазногці. Чалавек пяцьдзесят людзей, закутых у латы, пакарбаваныя крыжамі — чэрнь на срэбры,— абкружала стол: духоўная варта, гвардыя царквы.

Некалькі «гвардзейцаў» атачылі маленькую купку людзей. Паўсюль шныпарылі служкі ў расах. Цягалі лаўжы і паленні пад пяць дубовых слупоў, укапаных у зямлю з падветранага боку.

Апосталы стаялі наводдаль, і Хрыстос пайшоў да іх. Баяцца асабліва не было каго. Іх трынаццаць, усе ўзброены, танна жыцця не прададуць у выпадку чаго.

Ён страшэнна не любіў ордэн псоў пана бога. Вынюхваць, шукаць, караць — вось у чым бачаць яны служэнне богу. Шкада, што нельга напасці і разагнаць гэтую падлу. Слабыя сілы. Каб жа яшчэ быў тут вясковы народ! Але гэта не горад, жыхары, відаць, у жаху пахаваліся. Стаіць маленькая купка людзей. Можа, сваякі схопленых.

Хрыстос падышоў да сваіх.

— Доказная інквізіцыя засядае,— невядома каму растлумачыў дурыла Якуб,— святая служба.

Вочы Хрыстовы сустрэліся з вачыма Іуды. Той быў толькі зеленаваты, і шкаляр зразумеў, што Раввуні відавочна не па сабе.

— І сюды дабраліся,— сказаў іудзей.— Дзвесце пяцьдзесят год паўзлі. Дацягнулася святая служба... А я нібыта сам помню.

— У нас яна доўга не працягне,— буркнуў Тумаш.— Не бойся. Цябе не дамо.

Яны ўбачылі, што перад святым сінедрыёнам стаіць скручаны мужчына з маладой сівізною. Злое, рэзкае аблічча, глыбокія вочы.

Апосталы глядзелі на яго і не слухалі пытанняў службы. Пытанні былі заўсёды амаль аднолькавыя. Гэта пасля, у пратаколах, іх расквечвалі краскамі мудрасці, чыстага высакародства і веры, якая сарамаціла і разбівала ўшчэнт сцверджанні ерэтыкоў. А на самай справе допыт быў хуткай і абрыдлівай адправай, вельмі будзённай і сумнай. Пытанне — адказ — прызнанне або адмаўленне, і тады некалькі сказаў пры катаванні — прысуд — напусцце на страту. Нікому не цікава было, што чалавек адчувае, чаму ён зрабіў тое ці іншае, гаворыць ён праўду або брэша (даносчык ведаў лепей, чым той, на каго даносілі). Калі падсудных было многа ці суддзі спяшаліся — задавалі толькі некалькі пытанняў, асабліва калі справа датычылася аднаго падсуднага, а не арганізацыі. Дробных ерэтыкоў, якіх нельга было назваць страшным словам «ерэсіярх», асуджалі часта і без гэтага. На вялікіх вядзьмарскіх працэсах у Германіі, калі трэба было за нейкія пару дзён ачысціць горад ад

двухсот — трохсот чалавек, прызнанні ахвяр лузалі як арэхі. У выпадку судовай памылкі рэабілітаваў і расплачваўся месцам у раі пан бог.

Былі і правілы: «Адзін даносчык — не даносчык» (у Германіі нядаўніх часоў на гэта не звярталі ўвагі, што сведчыць аб безумоўным прагрэсе), але падсудны мог прызнаць праўду даносу. «Нельга два разы прымяняць адно катаванне». Але можна было яго «перарываць і пачынаць зноў». «Прызнанне і сама-асуджэнне — кветка дазнання». Але калі чалавек не прызнаваўся і на прэнгу, яго лічылі «моцна западозраным у ерасі» і выпускалі пад нагляд.

Страшна было тое, што на тагачасных беларускіх землях машына шматвяковай хлусні і звыклай крывадушнасці сутыкнулася з першабытнай, язычаскай яшчэ праўдзівасцю большай часткі людзей. Люд у вёсках не замыкаў дамоў (хіба што ўначы, ад звера), сведчыў толькі сваім словам; за аблудныя сведчанні — забівалі. Але ўжо тады сярод найбольш блізкіх да храма людзей пачынала буяна расцвітаць хлусня, крывая прысяга, ілжэсведчанні, даносы — усё тое, што народ непаразумела называў «душою рыгнуў».

За пару стагоддзяў гэтаму паспяхова навучылі цэлую грамаду. Як не паверыць пасля гэтага, што вера і догма змякчаюць норавы?!

— Гаварыў ганьбавальныя словы на пана бога? — спытаў камісарый суда.— Зневажаў?

Чалавек, відаць, быў старой рошчыны. Не зразумеў, чаму ён павінен хлусіць.

— Я яго не лаяў. Нашто мне зневажаць яго? Я пра другое...

Ён прызнаваў тое, што казаў калісьці. Не ўвесь учынак, а частку яго, тое, што было сапраўды. Ён не ведаў, што досыць і часткі, што астатняе дахлусяць за яго.

З усіх бакоў на гэты адзіна чалавечы твар глядзелі морды. Знясіленыя бяссоннымі начамі, або тлустыя, пергаментныя, або налітыя крывёй,— але ўсё адно морды. Кожная — не аблічча, не «вобраз божы», не адзнака Высокай Істоты, не Твар, а менавіта os porci, свінячае рыла без сораму і сумлення... Чакалі.

— Я не лаяў,— паўтарыў мужчына.— Пустое месца не лаюць. Я проста казаў, што не дазволіў бы ён такіх пакут добрым, каб быў.

— Адвядзіце... Па агавору сазнаўся... Наступны...

Падвялі шляхцюка. Вельмі пацертая вопратка ў пыле розных дарог, збітыя чобаты. Відаць, бяздомнік. Маленькі, нягеглы сабою, ужо ў гадах. Тварык з кулачок, рэдкія вусы, галодныя і вартыя жалю вочы.

— Імя,— перад шляхцюком камісарый здаваўся асабліва сытым, няспешным, грамагласным, як асёл.

— Варган Будзіміраў пан Коцкі,— усміхнуўся чалавечак.

— Ты раскажы пра сябе.

— Яно, пане... з сагнаных я. Перавялі з зямлі нашы магнаты ўсіх нас, бедалагаў, у загонавую шляхту. Яно можна б і жыць, ды толькі нобіль наш упаў вокам на маю дачку... Прыёмную. Сябра нябожчыка... Я, прызнацца, і жанаты не быў... Шкада стала сірату. Пайшоў беззямельнікам з ёю. А яе і задумай адабраць,— голас у чалавека быў слабы, ён нібыта мяўкаў.— Яно... моцныя людзі — што скажаш? Але і на моцных ёсць бог... Ёсць!.. Яна таго не вынесла. Прасіўся я, каб мне хаця вусы мае на ганьбу выдралі, ды не чапалі дзіця... Не вынесла... Каб ганьбы не было — павесілася... Няўжо яна пеклу душу сваю аддала, каб гонару не страціць? Не можа быць такога жорсткасэрддзя. Што можа бяссільны?.. Вось і хаджу ўжо дзесяць год. Бог смерці не дае... То курачку было насіў з сабою. Дзе гной на дарозе або зерне нехта рассыпаў — выпушчу, падзяўбе. А яна мне часам — яечка. Ды ад старасці няспрытная стала. Забіў яе капытом магнацкі конь... Беленькая, так яна крывёю і аблілася... Сям-там і я, як яна, падзяўбу. Ды вось учора прыйшоў сюды ды ў карчме малака трохі купіў. Даўно не піў малака, а тут...

— До,— сказаў камісарый.— Агаварыў цябе той самы чалавек.

— Ды ў чым, ойча? Мне і памерці даўно трэба, і ў турме мне лепей будзе, сыцей, дый усё адно. Але ж праўду таму чалавеку шанаваць трэба. У чым?

— Ты пераўвасоблены чорны кот, што належаў раней мясцоваму касцельнаму арганісту.

— Зроду не быў катом... Вы мне, можа, растлумачыце?

— Спачатку ты растлумач і давядзі, што гэта не так.

Лягла паўза.

— Бачыш, не можаш. А мы давядзём. Мы ўсё ведаем, і ты нам пра курачак не брашы. Ты паглядзі на сваю богу брыдкую морду.

Аблічча ў чалавека было сапраўды падобнае да аблічча старога гаротнага ката. Маленькі круглы тварык, зеленаватыя галодныя вочкі, выцертыя кароткія валасы на галаве — чорныя, у проседзь, вусы — рэдкія, спрабуюць тырчаць.

— Ты на сябе паглядзі. Вусы рэдкія, унь якія — раз.

— Раз,— паўтарыў пан Коцкі.

— Прозвішча — два.

— Каюся, два.

— Ты з'явіўся, а ў той самы дзень кот знік — тры.

— Не ведаю я гэтага. Нашто мне кот? Я і сам вечна галодны.

— Арыштавалі цябе, калі піў у карчме малако,— чатыры.

— Піў. Хацеў малачка.

— Бачыш? А які добры хрысціянін з таго часу, як першая карчма з'явілася, піў у карчме малако?! Га?!. Пераўвасобіўся воляй сатаны.

— Ды я... Што ж мне рабіць, ойча?

— Пераўвасабляйся назад, бо шкоду прынёс ты арганісту. Лаві мышэй.

— Зроду я мышэй не лавіў,— жаласна ўсміхнуўся чалавечак.— Не магу.

— Упарціцца,— сказаў камісарый.— У памылковых думках непапраўны. Адвесці да тых.

Стары апусціў галаву. І раптам Хрыстос сам адчуў, як цяжка, са свістам, ён дыхае, адчуў цеплыню нагрэтай рукаяці корда. Ён агледзеўся, нібы непрытомнасць толькі што пакінула яго.

Яны адарваліся ад усіх. Побач з ім стаяў пузаты Фама, сціскаючы шаблю. Побач з Фамою — іудзей, Ільяш, яшчэ пара апосталаў. А супраць іх стаяла некалькі дзесяткаў латнікаў з дзідамі і мячамі. Маленькі натоўп павольна знік перад вачыма Хрыста. Ён шумна ўздыхнуў.

— Нічога не здолеем,— ціха сказаў ён.— Роўна нічога. Адыдзем, Тумаш. Памаліся ты свайму богу, Іуда, а ты, Фама, свайму. Можа, мы вымалім праклёны на іхнія галовы і на ўсё гэта паскуднае жыццё.

Яны адышлі на старое месца, адчуваючы, што яны — як пабітыя псы. Камісарый, відаць, заўважыў іхні дэмарш і сказаў голасна:

— Нагадваю жыхарам, што пры спробе вызваліць ерэтыкоў вёску спаляць, а жыхароў аддадуць святой службе... Наступны!

Падвялі бабу. Не звязаную. Стаяла яна незалежна. Камісарый, відаць, спяшаўся скончыць суд:

— Вінавацяць цябе, што адбірала ў кароў малако, крала цёплыя захады і насылала чырвоныя, што прарочаць раннія зазімкі.

— Ідзі ты ведаеш куды, поп,— сказала баба.— Калі я і вінаватая ў чым, то хіба ў тым, што рэпа мая буйнейшая, чым у жонкі агаворшчыка, святой курвы Тэадоры...

У Хрыста пацямнела ў вачах.

— Кошт буйнай рэпы,— сказаў ён.

— Д'яблавай сілай,— камісарый трымаўся за гэтыя словы, як п'яны за плот.— Ясна. Адвядзіце... Наступны.

Наступны, малады чалавек, быў настолькі зламаны катаваннем, што ледзь ішоў. Манахі спрабавалі былі падтрымаць яго пад рукі — ён гідліва адштурхнуў іх.

— Забойства клірыка,— нагадаў камісарыю пісец.— Жонка дужа веруючая.

— За што забіў? — спытаў камісарый.

— Справа не твая, казёл,— сказаў падсудны.

— Т-так,— сказаў камісарый, відаць, палічыўшы, што ў гэтым выпадку трэба даць нейкія тлумачэнні.— А між тым існуе закон, прыняты яшчэ пры пантыфікаце Стафана Восьмага, які забараняе такім мужалапам, як ты, адразу хапацца за мяла або цэп.— Ён узняў палец.— Ведай! «Міране не маюць права ніколі вінаваціць свяшчэннікаў, нават калі спаймаюць іх са сваімі жонкамі або дочкамі. Веруючыя павінны ў такіх выпадках думаць, што клірык пажадаў даць іхнім блізкім благаславенне ў больш цёплых, сардэчна-сяброўскіх і інтымных абставінах...» Н-ну? Што скажаш ты цяпер?

Твар маладога мужчыны быў бледны.

— Дай я па галаве за гэта звычайнаму чалавеку, суседу — копны суд судзіў бы за «бойку з роўнасці». Але дай я за гэта заступніку перад богам, уладару —

і вось вы пачынаеце казаць тое, што казалі мне на прэнгу. Ужо не бойка, ужо «збіццё карыснага дзеля царквы чалавека, блажэннага дзеяча яе». І тады суда нам, простым, няма, акрамя смерці. Ужо мы зрабілі гэта, бо мы «ў змове», бо «назнарок хацелі забіць», бо «ерэтыкі і схізматыкі-дысыдэнты падбухторвалі нас». Ужо мы «змоўшчыкі, чарнакніжнікі, ворагі і паўстанцы, віжы і шпегі». Суд толькі для нас, а вы — без суда... І вось я падумаў, а чаму так? І калі няма на вас суда божага і чалавечага, то ці не я — суд? Можа, нехта другі падумае, перш чым беспакарана рабаваць і гвалціць.

Кулакі яго сціснуліся. З лікаваннем у голасе ён сказаў:

— Я не браў мяла і цэпа. Вось пад гэтым кулаком расселася, як шкарлупіна яйка, галава гэтай збрадлівай жывёліны. Я не шкадую, абы і другія рабілі так... Таму што вы — грамада зброду, шыбенікаў, уладалюбцаў і бруднай сваляты.

— Адвесці.

У гэты момант вочы Хрыстовы зірнулі ўбок, і ён ледзь не анямеў ад здзіўлення. Тыя манахі, якіх ён сустрэў, вялі па плошчы гаспадара. Ён ішоў увесь светлы і ўсё паскараў хаду. Падышоўшы да стала, зямно схіліўся камісарыю:

— Дзень добры, сонца наша яснае. Слава Хрысту.

Камісарый гартаў паперы.

— Гэта ты іх агаварыў? — спытаў урэшце глава доказнай інквізіцыі.

— Я,— ударыў сябе ў грудзі гаспадар.— І не шкадую ў руплівай дбайнасці сваёй да царквы.

— А ўчарашні самаагавор нашто? З глузду з'ехаў?

— Н-не! На сябе данёс! Таму — думку, мысль, у сябе адчуў.

— Якую?

— Нашто пан наш бог у патопе жывёлін тапіў? Яны ж граху не імуць. Каб гэта веруючаму нейкаму выгадна было — тады ясна... Ну, а падумаў — спалохаўся. Што ж гэта будзе, калі кожны — думаць?.. Каюся, ойча!

Камісарый зрабіў знак, каб гаспадара адвялі да іншых.

Раздзел XXV

# БОГ НАШ — АГОНЬ, ЯКІ ПАЯДАЕ

Не давайце святыні псам.
*Мацей, гл. 7, ст. 6*

Апошняга з пяцёх даўно прывязалі да слупа. Камісарый даўно ўжо кінуў змрочныя словы водпусту:

— I nunc, anima anceps, et sit tibi Deus misericors[1].

Палалі, цягнуліся да неба, ірваліся ў яго пяць агнёў.

Чацвёра на вогнішчах маўчалі. Сівы мужчына глядзеў на сонца, якое набліжалася да далягляду. Цяпер ён не баяўся аслепнуць. Гэтае сонца знікне, а другога ён не ўбачыць. Хаця б памерці раней, каб яшчэ не знік цёплы бог.

Пан Коцкі дрыжэў усім целам і не мог стрымаць сваёй пакуты: агонь ужо лізаў ягоныя ногі, хаваў яго вышэй каленяў. Буйныя, як боб, слёзы каціліся з галодных, жаласных вачэй. Баба звівалася ў агні, як дазвалялі ланцугі, але маўчала, і струменьчыкі крыві сплывалі з закушанай губы.

Мужчына-забойца абвіснуў. Можа, не трымалі ногі, а можа, хацеў хутчэй задыхнуцца, каб скончыліся пакуты. Але галава была ўзнята незалежна. Ён глядзеў у вочы суддзям, як дантаўскі Фарыната, з пагардай да самога агню.

Толькі гаспадар, нібы не верачы сабе, вадзіў вачыма ў розныя бакі. Нават сюды, у тое месца, дзе стаялі апосталы, часам нясцерпна наносіла агнявой спякотай. Што ж было тым?

Клубілася, круціла, раўло. Нібы ў залаціста-крывавых варонках стаялі пяць чалавек. Агністыя зыркія птушкі часам адрываліся ад свайго гнязда і ляцелі ў ружовы прысмерак.

Хрыстос адчуваў, што часам, калі паварочаць ветрам полымя ў ягоны бок, у яго патрэскваюць валасы. I ўсё ж ён не адступаў.

«Божа! Божа мой! Ратуй маленькіх. Ратуй прыгнечаных, ратуй нават бадзяг і махляроў, бо аднялі ў іх вартае жалю жытло і могуць адабраць нават дарагое адным ім жыццё, калі не паклапоцяцца яны

---

[1] Дык ідзі ж, грэшная душа, і хай злітуецца з цябе бог.

аб ім самі. Божа, дык кінь ты ў іх перуном! Ды біце ж іх, людзі, плюйце на іх, пінайце нагамі! Куды ж гэта я трапіў, і ці варта нават распінацца за такіх мал-паў?!»

Ён адчуваў, што вар'яцее, што змешвае сябе і іх і тысячы іншых.

У гэты час нешта прыглушана бухнула. Нясцерпна запахла смаленым і гноем. Схаваны агнём ледзь не да шыі, забойца азваўся страшэнным крыкам. Пасля ён сціснуў зубы і, амаль крычучы, стаў мерна чытаць нешта, падобнае на малітву:

— Адроддзе пекла... Сыны Веліяла... Нашчадкі д'ябла і сукі з манастыра... Ісцінна кажу: сярод звя-роў драпежных на першым месцы — поп, на другім — начальнік і толькі на трэцім — тыгр.

Галава ягоная ўпала. Жанчына ўжо абвісла, ві-даць, учадзеўшы. Сівы маўчаў.

На твар Хрыста лепей было не глядзець. Па твары Фамы відаць было, што ён зусім адурэў. Вочы за-плюшчаныя, кулакі сціснутыя. Пасля ён з надзеяй расплюшчыў вочы — слупы былі на месцы.

І тут раптам залямантаваў гаспадар:

— Дык я ж з руплівасці! Я ж з дбайнасці! Няўжо і мне адплата?!

— І табе,— няголасна сказаў Хрыстос.— Не ага-ворваў бы, каб верыў чыста.

Гаспадар нібы толькі тут заўважыў яго і ўспомніў аб абяцанні:

— Хрыстос! Ратуй мяне! Р-ратуй мяне, Хрыстос!

— Ісцінна кажу табе, сёння ж уздадуць табе па жаданнях тваіх,— ціха паўтарыў шкаляр.

— Я ж ча-ла-ве-ек!

Раввуні не мог больш цярпець гэтага. Ён пагля-дзеў на Юрася і жахнуўся: вочы ў шкаляра былі бязлітасныя.

— Успомніў,— сказаў Хрыстос.— Свіння бачыць зоры толькі, калі ёй пнуць у рыла.

Падбег сабака, радасна паглядзеў на вогнішча, панюхаў, заматляў хвастом.

— Хрыстос,— натужна сказаў Фама.— Я зараз не вытрываю. Я збыдлеў. Зараз забрашу, на ўсе чатыры стану і...

— К-куд-ды? — схапіў яго Братчык.— Табе нель-га. Ты... чалавек.

Фама відавочна вар'яцеў. Вар'яцеў і апошні жывы на вогнішчы, шляхціц. І раптам ён, відаць, знайшоў дзеля сябе нейкі выхад, пакуль не згасне прытомнасць:

— Божа, калі ты ёсць! Намучыў ужо, до! Аддаю табе душу маю!.. У раі, то ў раі. А ў пекле, то ў пекле — на ўсё твая воля. Толькі змясці ты нас разам, каб не клялі мы цябе... Адзіных, што дзеля мяне... А я дзеля іх... Сябра майго... Дачку... Мяне... Курачку-бялютку. Няпраўда гэта, што душа ў яе маленькая і небессмяротная... Яна дзеля... больш, чым многія... Курачку не забудзь!

У наступны момант пан Коцкі перастаў быць.

...Раўло, круціла, несла. Агонь разгараўся ўсё зырчэй, і страшна было думаць — чаму? Страшна і нявартa. А ад сталоў манатонна бубніў і бубніў голас:

— Святога апостала нашага Паўлы да яўрэяў пасланне...

Хрыстос адчуваў, што ён памірае. Знікла сонца.

— Яны загінуць, а ты застанешся; і ўсе абвятшаюць, як рыза...

Знікла сонца.

— Бо як сам ён выцерпеў... так можа дапамагчы і тым, каго спакушаюць...

Цемра стаяла ў вачах.

— Таму што бог наш ёсць агонь, які паядае.

Ірваўся, ірваўся ў неба агонь.

## Раздзел XXVI

## ЧОРНАЯ ІМША

Ратуй нас, божа, ад сатаны і басурманаў,
А яшчэ больш ад папы і патрыярхаў.

*Сярэдневяковая прыказка*

Там, сярод высокіх гор,
Чвалам прэ вядзьмарскі хор.

*Гётэ*

Ноч для іх была страшная. Яны не пажадалі і на хвіліну застацца ў злашчаснай вёсцы і сышлі прэч. Хацелі былі дабрацца да мястэчка, да суседняй вёскі, хаця да якога-небудзь жытла, ды збіліся з дарогі,

блукалі ў непрасвяцімай цемры па хмызах, змакрэлі і закалелі ад расы.

Урэшце ім удалося знайсці нейкую лагчынку. Па тым, як трашчала пад нагамі, зразумелі: лаўжы, сухастой. Сяк-так наламалі сушняку, расклалі вогнішча. Пры ягоным маленькім святле справа пайшла весялей, і хутка зароў, зашыпеў зыркі агонь.

І ўсё ж ім брыдка было сядзець каля самага цяпла. Яны з занадта вялікай свежасцю памяталі, што можна зрабіць з кожным божым блаславеннем, нават гэтым.

І ніхто з іх не захацеў есці. Смажыць мяса было вышэй за іхнія сілы. Нават вышэй за сілы Піліпа з Віфсаіды і Якуба Зеведзеева. Пры адным успаміне брала дрыготка агіды. Таму яны задавальніліся святлом, здалёк падкідаючы ў полымя сушняк.

А калі агонь разгарэўся яшчэ больш — яны агледзеліся і зразумелі, што трапілі з агню ў полымя.

Яны сядзелі на старых, відаць было па ўсім — закінутых, могілках. Пахілыя, замшэлыя крыжы, каменныя пліты, укрытыя зялёнай коўдрай моху, тоўстыя абрэзкі магутных бярвенняў на ўсю магілу, з «галубцамі», прыбітымі да іх. Пліты ўлежку, пліты перагорнутыя, пліты пахіленыя, пліты старчма. І на ўсім гэтым — разліў імхоў, а над усім гэтым — сухія дрэвы.

Паўсюль нейкія ямы, разбураныя капліцы, праваленыя магільні. Відаць, тут добра пагаспадарыла нечая рука, што не звыкла саромецца або даваць справаздачу перад іншымі ў сваіх учынках.

За іхняй, маленькай, лагчынкай ляжала вялікая, абкружаная даволі стромымі схіламі. На ёй, па краях, цьмяна былі відаць рэшткі якіхсьці фундаментаў. Вакол вялікай лагчыны таксама цямнелі нейкія камяні, расла высокая трава (пэўна, на месцы былых градак ці кветнікаў). Але ўсё гэта густа зарасло даволі ўжо вялікім лесам. Лес быў цёмны, але сямтам у ім мёртва бялелі высахлыя шкілеты былых садовых дрэў.

Яны памёрлі ад глушыні і бязлюддзя і вось бялелі далей і бліжэй, абкружалі лагчыну і падступалі да яе. Нібы вычварныя распяцці. Нібы дзесяткі пачварных прывідаў.

Страшна было глядзець на гэта, і людзі зменшылі вогнішча да маленькага агеньчыка, які асвятляў толькі іхнюю лагчынку, дзесятак крыжоў і пліт у іхнім маленькім котлішчы.

Знясіленыя, яны нікуды не ў змозе былі ісці, спаць не маглі таксама і вырашылі сяк-так перачакаць у гэтым месцы ноч.

Гаварыць таксама нікому не хацелася. Толькі пасля вялікай паўзы Тумаш сказаў:

— Калі палілі іх, я ўсю веру прызваў, каб зніклі слупы — куды там, чорта бяспятага! Стаяць як стаялі. Куды ён вядзе нас, бог?

— Вядзе,— сказаў Іуда.— А куды — не ведаю.

— Наперад,— буркнуў Хрыстос.— Пад узброенай аховай, каб часам не паварацілі, куды не трэба.

І зноў доўгае маўчанне. Але Тумашу было відавочна нясцерпна. На адхоне ўстаў ягоны доўгі цень.

— Божа,— з тугою сказаў Фама.— Ну вось я ўсю веру сваю прызаву. Ствары дзіва. Скажы, што не адна дрыгва перад людзьмі. Намякні, што не вечна адвечнае свінства. Зрабі нейкі знак.

Ён напружыўся і непрытомна сціснуў кулакі. І раптам... па небе з шыпеннем, раскідваючы іскры, прамчаў вялізны агнявы метэор. Фама ўсім задам сеў на зямлю. Змаху, як падсечаны.

— Свят, свят, свят.

І тут, яшчэ раней за падзенне Фамы, ускочыў Хрыстос.

— Агонь...— толькі і паспеў прахрыпець ён.— Аг-гонь.

Ненатуральна вялікія вочы з надзеяй сачылі за нябеснай праявай. Ён працягнуў да яе рукі.

Метэор нібы спыніўся над голай градою далёкіх узгоркаў. І адразу рассыпаўся на іскры, што ўпалі ўніз і згаснулі ў цямноцці.

Павольна апусціліся рукі Хрыста.

— Нябесны камень,— сказаў ён.— Плюнь, Фама. Багна наперадзе. Пра нас даўно забылі на небе. Лічаць, што ў нас — рай.

Захутаўшыся ў плашч, ён сядзеў, нагадваючы вялізную хворую птушку са зламанымі крыламі. Увесь як жывая беспрытульнасць.

Пасля пачаў пагойдвацца, нібы ад болю. Пасля пачаў бязладна гаварыць:

— Спаганеная, згаджаная зямля... Нашто тут быці, чыстаму?.. Агеньчык у цямноцці... Агеньчык у самоце... Д'яблу аддадзеная... Памерці б — забаронена... Трэба ісці і паміраць, калі даў згоду жыць.

Усе глядзелі на яго з жахам.

— Царства фарысеяў... Труны схаваныя, над якімі людзі ходзяць і не ведаюць таго... Гора вам, што забіваеце пасланнікаў... Гора вам, хлусам... І вам, законнікам, гора, што накладаеце на людзей ёрмы пранязносныя... Гора вам, што будуеце магільні прарокам, якіх забілі бацькі вашы.

Твар у яго быў такі безнадзейны, што Магдаліна ўскрыкнула:

— Кінь... Страшна!

Толькі тут Юрась нібы апрытомнеў. Гледзячы ў зямлю, глуха сказаў:

— Даруйце. Ніхто з вас не ведае, як гэта цяжка, калі цябе не разумее ніхто. Тут і звар'яцець нядоўга.— І дадаў са змрочнай усмешкай: — Заўтра пайду і павешу генеральнага камісарыя. Або злаўчуся і... усю святую царкву. Мне можна. Я цяпер — як вар'ят. Святы... як яго там... Гальяш з мядзведзямі на бязлюдным востраве.

— Кінь, мілы,— упершыню паспагадала Магдаліна.— Як ты жыць будзеш?

— А, як жыву. Маўчы, Магдзя.

— Ну добра, ну ёсць злыя пастыры, злыя законнікі.

І тут раптам Хрыстос узвіўся.

— Ёсць?! Ты добрых сярод іх пашукай! Дзе яны?! Смурод суцэльны ўсе справы іхнія! Запалохалі, загадзілі... Вы тут сядзелі, а я надпісы на помніках чытаў! Я іх да смерці не забуду! Няма даравання зямлі, дзе нават пра нябожчыкаў так пішуць, пра тых, пра каго хлусіць нельга... І пісалі, і хвастом круцілі. І ўсё адно кімсьці знішчана вёска. Могілкі!

Ён не ведаў, што вёску сапраўды знішчылі за «ерась і непакорлівасць», а месца аддалі праклёну, што абрабавалі нават клады, што нават на могілках разбілі ўсе звычайныя пліты. Але ён і ведаў гэта. Падсвядомай упэўненасцю душы. І рука ягоная торкала ў помнікі.

— У-унь. Так на дух чалавечы замахнуліся, што перад імі і ў смерці баяцца, трусікі.

Ён стаў на магілу і прачытаў:

— «Дзеля бога вялікага чакаю... Жыццё ўслаўленню ягонаму аддаўшы, не пісаў я канонамі незацверджаных, непадобных ікон».

Цяпер ён з ярасцю папіхаў нагою другую пліту.

— «Не быў я арыянінам, ані багамілам, ані ў іншай ніякай ерасі не быў. Сплю спакойна».

Ён пхнуў нагою збуцвелы крыж.

— Унь, дзеці пастараліся: «Тата, заўсёды ты быў з ісцінным богам, верыў у яго, літасцівага, пакорлівы быў намеснікам яго і ўладзе, а ерась ненавідзеў чыстай душою сваёй. Спі спакойна».

І Хрыстос выскаліў зубы, як ваўкалак:

— Ён спіць спакойна. А вось пад якой спаленай хатай, пад якой з іх, у якім попеле спяць вашы костачкі? Ды што ж гэта за быдла! Ды колькі ж разумным людзям вучыць вас, каб былі вы не чарвякамі, а людзьмі? — шкаляр затрос кулакамі ў паветры.— Законнікі, кажаш? Паны? Тысячаначальнікі кепскія? Брэшаш! Не яны смярдзяць! Справа смярдзіць! Справа іхняя ў шкоду чалавеку і зямлі! Не чалавек вінен — кодла! «Род лукавы і любадзейны! Сляпыя правадыры сляпых! Дрэва па пладах пазнаюць. Як жа яны могуць гаварыць добрае, будучы злы!»

— Ціха! — сказаў раптам Фама.— Чуеце?

Запанавала маўчанне. Усіх уразілі не столькі словы шляхціца, колькі ягоны выгляд, насцярожаны, увесь нібы напяты, з прыхаванай трывогай у вачах.

— Ціха... Чуеце?

Вогнішча амаль дагарэла. Цемра насоўвалася на маленькую лагчынку. І ў гэтай цемры, недзе ўнізе, у лесе, на подступах да вялікай лагчыны, яны пачулі нейкі дзіўны трывожны шолах, нейкія рытмічныя ціхія гукі.

— Ідуць,— шэптам сказаў Тумаш.

І сапраўды, гэта было падобна на прыглушаныя, слізготныя крокі дзесяткаў маленькіх ног, сярод якіх часам выдзяляліся цяжкія, нібы ішла вялікая жывёла. Набліжалася нібыта нешта шматногае, і яно ці грузна ступала па зямлі і моху, ці скакала, ці гучна наступала на карэнні. Ціхі пошчак, нібы ад буслінай дзюбы, часам гучаў у змроку, нейкія пагрозлівыя ўздыхі.

— Хто гэта? — спытаў Сымон.— Або што гэта?

— Ціха,— сказаў Тумаш.

Глухі, бы з-пад зямлі, раздаўся раптам нейкі прызыў — а можа, маленне? — і сціхнуў. Зноў паўтарыўся... І нечакана ў адказ на яго прагучаў нечуванай сілы голас, ад якога ў нявольных сведкаў пабег па спінах мароз.

— Хто там кліча мяне? — біўся ў вялікай лагчыне голас.

— А-о-о-о-оў-у-у! — праспявалі з цемры галасы.

— Хто не баіцца праклятага богам і слугамі яго месца?

— Слабыя,— прастагнаў нечы голас у адказ.

— Чаму слабыя не баяцца зямлі, ад якой адступіўся бог? — бразгаў металам пачварны голас.

— Бо выракаюцца. Бо хочуць быці моцнымі.

— Хто жыве на пустой зямлі?

— Ніхто.

— Хто пануе над ёй?

— Ты.

— Чаго хочаце вы?

— Быці тваімі. Мана.

— Як гэта на мове таго, каго выракаецеся?

— Аман.

— А папраўдзе?

— Мана.

У цішыні прагучаў нібы здушаны, пачварны рогат многіх галасоў.

— І вучыць,— захлыналіся галасы.— І сэнс таемны... І ў кожным амане — вялікая мана.

— Імя маё? — спытаў голас.

— Сатанііл,— ціха застагналі галасы.— Люцыпар... Светаносны... Пахвіст... Чарнабог!..

— І-мя ма-ё! — быццам галоўнага патрабаваў голас.

— Уладар! — прарыдаў нечы голас.— У-ла-дар!

— Што прынеслі вы мне?

— Сябе. Душы свае. Кроплі крыві сваёй на гэтым лісце.

— Што яшчэ?

— Слухай,— сказаў нехта.

І тут над лагчынай прагучаў немы, нібы ў сонным кашмары, чалавечы крык. Нават не чалавечы, а такі, нібы рыкаў пад няўдалым нажом у перадсмяротным жаху бугай. Пасля нехта замыкаў.

— Пазнаю голас ворага майго і людскога. Чакайце з ім.

Крык яшчэ гучаў у вушах сведкаў. А вакол даўно стаяла мёртвая цішыня начнога лесу.

— Цяпер кажыце вы,— гулка, нібы ў бездань, пралунаў голас.

Па шолаху травы можна было меркаваць, што нехта зрабіў крок наперад.

— Вялікі ўладар роду зямнога, усіх нас,— сказаў чалавек.— Яшчэ пазаўчора ніхто з нас не думаў ісці сюды. Прабач нам. Мы неслі наш цяжар і спадзяваліся і цярпелі. Твае ганцы ўмаўлялі нас, але мы заставаліся вернымі сынамі трыадзінага нашага бога.

Голас з цемры з'едліва зарагатаў.

— Нас заганялі ў смяротны загон, нас вабілі туды байкаю аб райскай канюшыне, а мы жылі, як у пекле. І нас палохалі пеклам. Нас, верных. Мы галадалі і паміралі з голаду, а нас палохалі пеклам, бо не маглі мы купіць ані індульгенцыю, ані імшу. Нас білі, як хацелі, а пасля палохалі пеклам за адсутнасць смірэння. Нас гналі ў рай сілай, а мы бачылі, што месца і там купілі багатыя. Вогнішчы гараць на нашых плошчах, нас катуюць, дзеці нашы паміраюць з голаду, не зрабіўшы яшчэ і першага граху. На зямлі гэтай пануе зло... Нічога не можа бог. Ён бяссільны супраць ім самім пастаўленай улады, супраць уласных слуг. Ён бяссільны супраць цябе, уладар зла. Ён катуе, гоніць і распінае лепшых сваіх сыноў, лепшых сваіх абаронцаў, або проста не можа абараніць іх. Ты, прынамсі, не мучыш верных сваіх слуг. Ты не будзеш, як ён, гнаць светлых розумам і душою, лепшую надзею, цвет стварэння свайго. Ведаем, што цябе няма тут, што гэта толькі голас твайго першасвяшчэнніка, але ты пачуеш, уладар. Твой слуга — не клірык. Твой храм — не царква. Ты пачуеш... Мы знемаглі. Мы не можам больш. Мы дапаможам табе зрынуць таго, каб на гэтай зямлі было нешта адно. Ці не ўсё адно з кім будаваць добрае?

Ён перадыхнуў.

— Бяры нас. Мы больш не можам. Мы паміраем усё жыццё ў нашых складзеных з гною хатах. Чым больш яны гоняць нас да святасці і будучай райскай канюшыны — тым нам цяжэй, тым больш мы прагнем

цябе. Яны даб'юцца, што ўсе мы зробімся тваімі. Усё жыццё мы зажыва паміраем, Чарнабог. Дай нам царства тваё, дай нам хаця аднекуль палёгку ў гэтым жыцці. Нам няма адкуль больш чакаць яе. Дай нам водбліск хаця нейкага святла, хай сабе і чорнага. Або — калі нельга і гэтага — дай нам на сваіх патаемных шабашах хаця адну хвіліну забыцця. Дай нам забыць вось тут, хаця на хвіліну, наша страшнае жыццё. Мы больш не можам. Забяры нас.

Юрась адчуў, што рука Тумаша халодная як лёд.

— Што гэта? — спытаў ён.

— Ціха,— аднымі вуснамі адказаў Фама.— Інача́й — смерць.— І адным подыхам адказаў: — Чорная імша[1].

Лягла доўгая паўза. Магчыма, уладар голасу думаў. Пасля зноў металам пралуналі ў цемры словы:

— Людзі! Вы, якія з вёсак Красовіца, Хітрычы, Бярэзіна і іншых, лікам дваццаць. Гаспадыні вашы — верныя дочкі мае. Імем сваім загадваю — хай яны дадуць вам трохі святла. Імем Чарнабога заклінаю іх забараніць згон, адмяніць стаўны невад і прыгон кормных кабаноў. Хай скінуць грашовага ўзносу па дваццаць грошай з кожнай капы. Клянецеся?

— Але,— уразнабой уздыхнулі жаночыя галасы.

— На знак згоды дасцё сёння подпіс уласным целам з тым сваім падданым, якога абярэце... Іншыя слухайце. Вялікі ўладар падумае і пра вас. Вам не трэба чакаць іхняга страшнага суда, якога не будзе. А яго не будзе! Я абяцаю вам гэта.

Рэхам задрыжала лагчына.

— Я знікаю. Вам скажуць, што рабіць. Спаліце крыж. Я знікаю...

Зырка пабеглі ўгору першыя языкі полымя. Праз хвіліну над котлішчам палаў вялізны, з цэлай сасны, крыж. Агонь вырваў з цемры лагчыну, навакольныя зарасці, прывіды сухіх дрэў і шматлікія твары людзей.

Іх было мноства. Некалькі сотняў. Цэлае мора. Збольшага зусім голыя. Крыж палаў над іхнімі га-

---

[1] Пачварная тыранія над целам і думкай спарадзіла не менш пачварны, але законны адказ. Гэтая форма пратэсту называлася «чорнай імшой». Кажуць, што цяпер сям-там у Еўропе (Іспанія, Італія і інш.) заўважаны рэцыдывы. Сімптаматычна!

ловамі. Вогненнымі і чорнымі птушкамі мітусіліся над імі святло і цень.

Ля крыжа стаяў чалавек у чорным плашчы. На твары — груба намаляваная маска, на шапцы — турыныя рогі. У руцэ — доўгая дзіда.

— Неафіты, дзе ваша абяцанне?!

Над галовамі людзей паплыў вялікі, увесь няроўна, плямамі спярэшчаны чырвоны ліст пергаменту.

Мужчына сярэдніх год, вельмі падобны на таго, сівога, што спалілі сёння, магчыма брат, узяў яго ў рукі. Сказаў ужо знаёмым голасам, тым самым, што казаў «забяры нас»:

— Мы выдзерлі яго з самага вялікага евангелля, калі бралі ахвяру. І кожны пакінуў на ім кроплю крыві. Вось.

Ён узняў вялікі палец левай рукі. І за ім пачалі сям-там уздымацца рукі з адстаўленымі пальцамі. Дзесяць... трыццаць... сто... яшчэ і яшчэ.

— Ён чырвоны,— сказаў мужчына.— Кроў выклікае кроў. Зло не нараджае дабрыні, але гнеў і зло. Дарэмна стараюцца.

Рагаты ўзняў на дзіду пергамент і падпаліў яго ад крыжа.

— Гары,— хрыпата сказаў ён.— Попел — разам. Кроў — разам. Гнеў — разам.

Усе моўчкі глядзелі, як скура карабацілася ў агні.

— Кляніся,— сказаў рагаты, калі попел абсыпаўся на зямлю.

— Клянуся за ўсіх,— сказаў мужчына.— Клянуся ў гэтым выпаленым месцы, клянуся на попеле выкрадзеных і пахаваных, што мы аддаем сваю душу, помыслы, усіх сябе і дзяцей нашых табе, Чарнабог. Навучы нас быці трывалымі, як ты, навучы нас перамагаць, як ты, навучы нас не стагнаць нават тады, калі ўся кроў у нашых жылах пачне гарэць ад іхняга жалеза, як згарэлі гэтыя кроплі. Імем тваім выракаемся Бяссілага, яго гарадоў і нават Нябеснага Града, у якіх як і ў сэрцы слуг ягоных, як і ў іхніх гарадах, няма ні шкадавання, ні літасці, у якіх няма нічога святога, нічога чалавечага. Ён не даў нам ані кроплі святла, ані іскры надзеі. Таму рэкі нашай крыві, агонь нашай лютасці мы аддамо, каб дапамагчы табе заваліць яго, Чарнабог. Вер нам. Мы з та-

бою да канца і, на знак гэтага, прыносім табе ахвяру.

Натоўп трохі адышоў ад агню. Плечы Хрыста калаціліся.

— Што з табой? — шэптам спытаў Іуда.

— Які гонар! Якое беднае быдла! Якая мужнасць! Якая цемра!

Перад агнявым крыжам ляжаў на плоскім камені нехта, укрыты грубай палатнінай.

— Адкрыйце,— сказаў рагаты.— Развяжыце яму хлябала.

Нехта таргануў з ляжачага покрыўку. І тут Хрыстос закрыў далонямі рот, каб міжволі не крыкнуць. На камені ляжаў генеральны камісарый доказнай інквізіцыі. Вялікая грузная туша.

Калі ў яго зноў выцягнулі з рота кляп — аддаўся той самы, што і раней, жывёльны крык.

— Судзіў і судзімы будзеш,— сказаў рагаты.— Кажы, што хацеў яшчэ сказаць, іначай будзе позна.

— Адпусціце,— з клекатаннем у глотцы сказаў той.— Бачыце, вы ёсць. Значыць, нельга сказаць, што мы вядзём вайну з бязвіннымі. Паўсюль вайна за душы, і ў гэтай вайне я — салдат. Палонных не забіваюць.

Бялявыя валасы таго, што прысягаў за ўсіх, зблытанымі кучмамі падалі на шалёныя вочы. Твар запаў у шчаках. Вусны пабялелі так, што амаль не адрозніваліся ад колеру ўсяго аблічча.

— Значыць, і ерэтыкі — палонныя салдаты? — Вочы ягоныя ашклянелі.— А што робяць з імі? А знішчаныя вёскі і гарады? А разораныя краіны без людзей? Чым вінныя былі перад табою і богам тыя, спаленыя сёння? Той стары з курачкай? Нас не было. Гэта ты нас выдумаў. Ты жорсткасцю зрабіў нас. Хто пайшоў бы сюды, каб не штурхнуў ты і твае браты ў забойстве? Можа, я? Па даносу хапаў бязвінных, гвалціў жанчын, катаваў і паліў — і ты салдат? Не было б цябе — не было б і д'ябла. За жорсткасць — жорсткасць... Рыхтуйся. Мы дамо табе хуткую смерць. Не як ты.

І тады, зразумеўшы, галава доказнай інквізіцыі зноў нема закрычаў. Брат спаленага прыставіў яму нож да сэрца і налёг на рукаятку.

— Не ха-чу! — крык захлынуўся ў нейкім булькаценні, змоўк.

Чалавек вытаргнуў нож, ашалела паглядзеў на ўсіх.

— Б-бярыце гэтую пад-длу.

Ён стаяў, хістаючыся, і раптам упаў, нібы яму ўдарылі пад каленкі. Яго аднеслі. Народ стаяў у суровым маўчанні. Ціха-ціха. Пагрозна ціха. І тады рагаты падышоў да падгарэлага крыжа і адным ударам нагі паваліў яго на труп. Узляцеў ураган іскраў.

— Жары... Каб яшчэ з аднаго бандзюгі не зрабілі святога.

Дыван жарынак засыпаў ляжачага. Ускінулася полымя. На яго накідалі яшчэ сушняку. Вакол былі суровыя, амаль безнадзейныя, мядзяныя твары з рэзкімі чорнымі ценямі.

І тут за спінамі людзей, недзе ў цемрыве, пачалі павольна біць барабаны, раўці дуды, уздыхаць бубны. Заспявалі смыкі.

Палілася павольная музыка. Рытм яе ўсё пачашчаўся. У ім было нешта пагрозлівае, д'ябальскае і, аднак, поўнае жыцця, страснае.

Успыхнулі раптам яшчэ два вогнішчы... Яшчэ. Разам з узрастаннем языкоў агню паскараўся тэмп гукаў.

У гэтым рытме было нешта такое заразлівае, што нават Хрыстос з вялікай цяжкасцю падавіў міжвольныя рухі сваіх ног і прымусіў сябе сядзець нерухома.

Усё меншыя рабіліся паўзы, усё больш прыбаўлялася мігатлівага святла. Нагія людзі пачалі павольна пагойдвацца. Натоўп, зачараваны ўсім гэтым, нібы забыў аб жыцці, аб тым, што чакала ў хатах з гною, прыйшоў у рух.

Рукі шукалі другія рукі, спляталіся. Ногі пачалі спачатку павольна, а потым хутчэй і хутчэй папіраць зямлю.

Яшчэ агні... Яшчэ... Усё больш нясцерпнай і д'ябальскай рабілася музыка і ўдары барабанаў. Бубны клікалі, захаплялі, вялі.

І вось пацягнуўся між вогнішчаў чалавечы ланцуг. Наперадзе цягнулі за вялізныя рогі казлоў, і густы казліны мех мяшаўся з чырваннью чалавечай скуры.

Дуды... Трубы... Імкненне... Палёт.

Усё хутчэй і хутчэй, у нястрымным карагодзе між

агнёў і вакол галоўнага, нахіленыя наперад, імпэтныя. Выгукі, крыкі, сп'яненне.

Рытм стаў невыносны. Ляцелі развеяныя ў неўтаймаваным палёце валасы, мільгалі ногі, рукі, закінутыя твары. Сям-там, не вытрымаўшы экстазу, бегу, шалёнага імкнення, пачыналі падаць людзі. Але ў віхуры, у вінна-крывавым святле, у ярасці і ўтрапенні, у крыках імчала няздольнае спыніцца чалавечае кола.

Нібы ўзнесеныя пякельным ветрам, нібы сапраўды ў вечным Дантавым карагодзе, у штохвілінным сконе і ўзлёце і як быццам у паветры, не адчуваючы нагамі зямлі, імчалі яны.

Віхура, ураган, вецер саміх стагоддзяў на твары. Забыццё розуму і самога сябе. Пекла, вечнае полымя, шалёны вечны палёт самога жыцця.

## Раздзел XXVII

## ПАГАНСКІ АРКАН

> У кожнай рэчы ёсць два бакі. Непатрэбным урыўкам пергаменту можна распаліць камін, а можна і напісаць на ім індульгенцыю, прадаць і купіць за тыя грошы дом з камінам. На пожагу можна смажыць курэй, а можна і ўстраміць яго ў печань гандляру індульгенцыямі. У кожнай рэчы ёсць два бакі, але бачыць іх дасведчаны і абазнаны, астатнія ж глядзяць, як совы на сонца.
>
> *Сярэдневяковы ананім*

> Стоячы тварам да сонца, мой дружа, мачыцца нягожа.
>
> *Гесіёд*

Ніколі яшчэ дагэтуль не былі яны так блізка да мэты сваіх пошукаў, як у гэты дзень. Ад мястэчка, у якое прыйшлі яны на кірмаш, было да манастыра не больш за дзень упартай, з летняга ўсходу да захаду, хады. Але ведала, што яны ідуць у гэтым напрамку, адна Магдаліна. І яна адначасова радавалася, што хутка скончыцца яе шлях, што яна выкупіць свой грэх, і незразумела тужыла.

Падалі на натоўп гукі храмавага звона. Кірмаш быў як кірмаш. Мянялі, прадавалі, куплялі. Неяк асабліва добра было чуваць пасля той неймавернай, бы ў сне, ночы звычайныя чалавечыя галасы, будзённыя размовы. Апосталы радасна штурхаліся між людзей. Толькі на адным твары, на твары Хрыста, ляжаў пакутны, не ўчарашні і не пазаўчарашні роздум.

Звінелі макітры. Звінелі ўедлівыя жаночыя галасы ад ятак. І нерухома, як ідал, стаяў сярод натоўпу багата апрануты крымчак з шабляй. Чалма вакол паўкруглага, з шыпам, шалома, насурмленыя бровы, пільны позірк пагардлівых халодных вачэй. Малады яшчэ, прыгожы, гарбаносы твар. Каптан стаіць лубам, відавочна, ад паддзетай кальчугі. Нязмерна шырокія ў калашынах аксамітныя шаравары не гнуцца. На нагах — пацёртыя ад страмёнаў саф'янавыя чобаты. Стаіць, нібы нічога яго не абыходзіць.

На самай справе крымчак слухаў. Так сядзіць на кургане па-царску непарушны драпежны сапсан, не зварухнецца і нібы спіць, а сам чуе падземны віск землярыйкі ля падножжа.

Гаварылі два мужыкі. Адзін маладзенькі, празрыста-прыгожы, з авальным іканапісным тварам, акруглым падбароддзем і некароткім носам («Якшы,— сказаў сабе крымчак.— Для Персіі найлепшы быў бы тавар»), другі — пажылы, але моцны яшчэ, з хітрымі вачыма, тонкім кручкаватым носам і сівымі, аж снежнымі, вусамі.

— Гародзенец адзін прыязджаў,— лупэткі малалога былі поўныя наіўным здзіўленнем перад дзівамі божага свету,— то ён казаў: Хрыстос выйшаў з горада. І вось нібыта гэта якраз яны унь ходзяць па рынку. Вя-алі-кай магутнасці людзі.

— Па рылу непадобна нешта,— сказаў сівавусы.— Мазурыкі, па-мойму.

Татарын агледзеў вачыма апосталаў, пацiснуў плячыма. Пайшоў праз натоўп да храма. Людзі расступіліся, убачыўшы страшненькага.

— Бар-раны,— праз зубы сказаў крымчак.

Ён ішоў незалежна, ведаючы, што закон мясцовых гарадоў — за ўсіх чужаземцаў і не дасць іх у крыўду. Ішоў і гуляў канцом аркана, прывязанага да кушака.

Як гаспадар, узняўся па прыступках, увайшоў

у прытвор, памкнуўся быў далей, у самы храм. Кустод стаў у яго на дарозе.

— Нельга.

І адразу незалежнасць нібы некуды знікла. Татарын лісліва прыклаў руку да сэрца і схіліўся, адставіўшы шырокі, расплясканы вечнай скачкай, цяжкі азадак.

— З дзвярэй пагляджу, бачка,— маслена ўсміхнуўся крымчак.— Уваходзіць мне сюды скора. Зупсым скора-хутка.

— Аглашэнны, ці што?

— Аглы-лашэнны.

— Ну, глядзі,— з сытай паблажлівасцю сказаў кустод.— Гэта ты правільна. Вера наша сапраўдная, праўдзівая.

Крымчак пачаў прыглядацца да праўдзівай веры.

«Ля ўвахода тоўпяцца з блюдамі, на якіх грошы, са свечкамі, абразкамі, ружанцамі.

Паўсюль прыгожа і добра пахне, але на мурах, супраціўна алаху, падабенства людзей. Колькі ж гэта душ адабралі яны гэтым у жывых?! Нячыстыя! А унь нехта спаражняе вядзёрную скарбонку».

Вузкія вочы аглядалі залатыя і срэбныя ракі, рызы, аклады ікон, цяжкія срэбныя свяцільнікі. Пасля драпежна перапаўзлі на статуі. У парчы, срэбры і золаце, у каштоўных каменнях. З усіх, нібы вадаспад, льецца золата. Залатыя сэрцы, рукі, ногі, галовы, дзетародныя члены, тулавы, маленькія статуэткі жывёл — кароў, коней, свінняў... Усмешка прабегла па абліччы:

— Бульбд добыра, бачка... Сюды сыкора прыходзіць буду.

Нехта даткнуўся да яго плечука. Крымчак скочыў убок, як вялізны камышовы кот. І супакоіўся, адступіў яшчэ, даў дарогу Хрысту. Той зрабіў быў яшчэ крок і нечакана спыніўся. Да яго цягнулася рука. Густа-карычневая, паплямаваная амаль чорнымі і амаль белымі плямамі, перацягнутая сеткай жыл, чорная і пасечаная ў далоні, нібы кожная пясчынка, перабраная ёю за жыццё, пакінула на ёй свой след.

— Літасцівец, падай,— маліла старая ў рыззі.— Стаю і стаю. Не хапае.

— Дай ёй, Іосія.

Старая радасна зачыкільгала да старасты. Высыпала перад ім прыгаршчу медных шэлегаў.

— Бацюхна, каровачку мне б... Маленькую хаця.

— Тут, родненькая, у цябе на кароўку не стае.

— Час дарагі,— лавіла ягоны позірк.— Пасля аддам.

— Ну вось. От, дурнота бабская!

— Бацюхна, кароўка ж наша памірае. Ляжыць кароўка.

Ненатуральна светлыя, дзіўныя, нібы зачараваныя, глядзелі на гэта паўзверх галоў Хрыстовы вочы.

— Кажу, не стае.

— Б-бацюхна...— старая кульнулася ў ногі.

— Н-ну, добра,— злітаваўся той.— Восенню адробіш. На срэбную. Не тая, вядома, раскоша, але — літасцівы пан бог.

Старая паўзла да іконы маці божай. Імкнулася паўзці хутчэй, бо надта хацела, каб карова хутчэй устала, але часам спынялася: разумела — непрыстойна. Малады, гожы, уседаравальны твар глядзеў з вышыні на другі твар, зморшчаны, нібы сухі яблык. Старая павесіла сваю мізэрную кароўку якраз ля вялікага пальца нагі «Ціоці».

Вочы Хрыстовы бачылі вадаспад золата... Кароўку, якая самотна пагойдвалася пад ім... Скурчаную старую, што, укленчыўшы, аж калацілася... Твар старасты, які светлымі вачыма глядзеў на ўсё гэта.

Магдаліна схапіла была Хрыста за руку. Той павольна, ледзь не выкруціўшы ёй рук, вызваліўся. І тады яна ў раптоўным жаху адхіснулася ад чалавека, у якога дрыжэлі ноздры.

Юрась пашукаў вачыма. Позірк ягоны ўпаў на валасяны аркан, абвязаны вакол пояса ў крымчака.

— Дай!

— Ны можна. Ны дзеля таго.

— Ты проста не разгледзеў, на што гэта яшчэ прыдатна,— праз зубы адказаў Юрась.— Дай!

Ён таргануў за канец. Татарын шалёна закруціўся, як ваўчок, падсцёбнуты пугай.

— Бачка!

Але аркан ужо разрэзаў паветра. На твары старасты пралёг чырвоны пісяг. Ад удара нагою ўпала стойка. Золата з шоргатам і звонам пацякло пад ногі людзей.

— Памагай бог, бацька,— басам сказаў Фама.— А і я дапамагу.

Да іх кінуліся былі. Але яны працавалі нагамі і рукамі, бы ўтрапёныя. Змеем свістаў у паветры аркан. Сыпаліся грошы. Храбусцелі, ламаліся пад нагамі свечы.

— Гандляры, навалач! — Вочы Хрыстовы былі белыя ад ярасці.— Гандляры! Што вам ні дай — вярцеп разбойніцкі зробіце. Хрысці іх, Фама! Хрысці ў натуральную веру.

Яны раздавалі выспяткі і аглушальныя поўхі з неймаверным спрытам. Праз вокны, праз дзверы, з прыступак ляцеў, сыпаўся, скатваўся, выў натоўп. Тумаш загнаў старасту ў бабінец, і той, адступаючы, упаў у купель з вадою. Фама даў яму свяцільнікам па галаве.

І здарылася дзіва. Дваіх раз'ятраных выціснулі з храма, рассеялі, пагналі як хацелі натоўп гандляроў.

Ля прыступак сядзеў з нявіннай мордай Раввуні і часам бліскавічна высоўваў наперад нагу: ставіў падножкі тым, што беглі. Пераважна тоўстым. Некаторых ён паспяваў яшчэ, падчас іхняга падзення, копнуць ступаком у азадак.

Хрыстос адкінуў аркан.

...Перад храмам стаяў аслупянелы народ і глядзеў, як чалавек сыпле ў далоні старой залатых коней, кароў, свінняў... Крымчак убаку трымаў свой аркан і здзіўлена глядзеў на старую, на золата, на шкаляра.

— Бабуля, бедная. На, купі каровы, купі ўсё. Ніхто нам, бедным, не паможа. Брэшуць усе. Брэшуць усе на свеце. Брэшуць.

Малады асцярожна сціснуў сівавусаму локаць:

— Кажаш — мазурык?.. А я думаю — праўду казалі. Бог прыйшоў. Бог. Мы людзі бітыя. Ніхто, акрамя бога, не пашкадаваў бы, не ратаваў. Я іх ведаю.

Татарын, пачуўшы гэта, пачаў павольна штурхацца праз натоўп да свайго каня... Ускочыў... Пусціў каня ў намёт, прэч ад храма.

Юрась закрыў далонямі вочы. Усё — ад кабылы, на якой ён ляжаў, ад вогнішчаў, ад чорнай імшы і да гэтай хвіліны бою,— усё гэта перапоўніла яго. Ён не

хацеў, не мог глядзець на белы свет. Пасля яго ўразіла цішыня. Павольна спаўзлі з вачэй пальцы.

Людзі стаялі на каленях.

## Раздзел XXVIII

## ЕЖА ДЗЕЛЯ МУЖЧЫН

Року таго ж... маючы вожа дарог, ведама Марлора імем... уварваўся і, пабіўшы людзей, што (кожнае) чалавечае места да кгрунту спаліў...

*«Кроніка Белай Русі»*

Хто не есць свежага мяса і не п'е свежай крыві — таго паляўнічага класці і аброццю з бляхамі або і нагаем добрым сыпаць у тое самае месца, каб ведаў і прывучаўся.

*Статут сакольнічага шляху*

Татарын імчаў нагім полем, як шалёны. Двойчы перасядаў ужо на заводнага каня, даючы магчымасць другому адпачыць.

Вакол было бязлюддзе. Ані душы. Колькі вокам сягнуць, нідзе не было відно ані чалавека. Толькі лунадлі недзе наперадзе, магчыма над нейкім ярам, крумкачы. Кружлялі чорнымі чаінкамі, але не сядалі — нешта трывожыла іх.

Крымчак падумаў, узяў трохі правей і пад'ехаў да спадзістага адрожка. Дном ягоным скаціўся ў яр.

Ніхто б не мог нават і падумаць, што мёртвае бязлюддзе можа быць такое падманлівае.

...Яр, наколькі вокам можна было акінуць да павароткі, на вярсту і напэўна яшчэ далей, быў набіты людзьмі. Стаялі нерассядланыя, калманогія конікі простых воінаў, елі сухую канюшыну арабскія скакуны сотнікаў. У большасці коней былі на нагах аўчынныя макасіны, а на храпах — перавязкі.

Сядзелі і з усходняй непарушальнай цярплівасцю чакалі людзі. Ля кожнага дзесятка і сотні тырчалі ўторкнутыя ў зямлю бунчукі, падпёртыя круглымі шчытамі. Блішчэлі сталь дзід і срэбныя піхвы крывых татарскіх шабляў.

З глыбокай катлавіны, выкручанай, відаць, весняй

вадою, высіліся бакі, гарбатая спіна і лабастая галава велічэзнага слана. Зморшчакаватая скура ягоная была, як зямля ў засуш. Цемнаскуры пагоншчык-індыянін вохраю і кармінам наводзіў вакол ягоных вочак застрашлівыя, жоўта-барвяныя вачніцы. Зброя пагоншчыка — востры анк — і зброя слана — адпаліраваны, таўшчынёю ў руку ля пляча і даўжынёю ў два сажні ланцуг — ляжалі ўбаку. Слон уздыхаў.

Крымчак спешыўся і куцалапа павалюхаў да невысокага белага шатра, каля якога сядзеў на кашме мажны, яшчэ не стары татарын. Сядзеў нерухома, як бажок, глядзеў нібы праз таго, хто падыходзіў.

Малады даволі нядбала схіліўся перад ім:

— Бацьку майму, цёмніку, хану Марлоры звесць. Добрая звесць.

Толькі тут ля вачэй татарына склалася сетка ўсмешлівых зморшчын. Прадубленая ўсімі вятрамі і сонцамі скура ля рота і рэдкіх вусоў прыйшла ў рух:

— Увесь дзень скакаў, сын мой, першародны Сялім-мурза?

— Спяшаўся, бацька мой.

— Дай мне, Сялім,— сказаў стары хан.

Сын адкінуў потнік са спіны свайго ўспененага каня, дастаў з-пад сядла тонкі і вялікі, далоні на чатыры, скрыль сырога цёмнага мяса. Працягнуў.

— Ты заўсёды падумаеш аб бацьку, сынок.

— А як? Тры дні і тры ночы сядзець тут і не бачыць гэтага ў вочы.

Каніна была смачная. Уся змачаленая і адбітая за дзень скачкі, цёмная ад добрага конскага поту і прапахлая ім. Няма на свеце лепшага паху, чым пах конскага поту, гэта ведаюць усе... Хан еў.

— Сядай, сын. Нічога няма смачнейшага пад небам алаха за такое вось мяса. Натрудзіцца за дзень. Пахне палыном, стэпам ля блакітных узгоркаў, дзе пасвяцца нашы табуны.

— Ежа дзеля мужчын, о мой бацька.

— Дык вось, кажы, Сялім-мурза.

Малады нібы амыў далонямі твар. Мяккая, кашэчая грацыя была ў няспешных ягоных руках.

— Край багаты, о айцец.— Вусны ягоныя, калі ён загаварыў, склаліся, нібы для пацалунка.— Але ў простых хатах, як заўсёды тут, можна браць ці не

адных толькі рабоў. І яны рахманыя, бо дазваляюць сваім мулам, нават не воінам, браць у сябе амаль усё... Жывуць тут беларусы, трохі іудзеяў і нават татары, узятыя ў палон яшчэ ў часы Бату і пазней.

— Гэтых знішчыць,— сказаў хан.— Убраць з гэтага свету. Гэта будзе лепей дзеля іх. Магаметанін, па закону прарока, павінен аддаваць перавагу смерці перад палонам. Яны ўжо не мужчыны.

— Грэх.

— Прымусь іх забіваць няверных. Пасля няверныя заб'юць іх. Тады нашы трапяць у рай за забойства хрысціянскіх сабак, а хрысціянскія сабакі пойдуць у эдэм да свайго бога, бо той загадаў ім знішчаць няверных.

Марлора засмяяўся свайму жарту.

— Усім будзе якшы.

— Усё золата маюць яны ў іхніх мячэцях. Добра гэта зрабілі яны дзеля нас... Варта п'е. Ханы — журботныя галавою.

— Ханы ў іх заўсёды журботныя галавою.

— Крэпасці недагледжаныя. Вельмі проста будзе прайсціся ступою гневу і жаху па кіліме іхняй пакорлівасці, ператварыць іхнюю зямлю ў попел адчаю і размятаць яго нашымі арканамі.

Марлора аддзёр кавалак мяса і запхнуў яго ў рот сыну, які прыплюшчыў дзеля гэтага вочы і па-гусінаму выцягнуў шыю.

— За добрыя звесці. Ідзі ў Га-ро-ды-ну. Скажы — не будзе ясаку, не будзе рабоў, не будзе золата, не будзе саф'яну, славутага ў гэтай зямлі, мы вырабім саф'ян з іхняй шкуры.

— Ёсць і сумнае,— сказаў мурза.— У іх... толькі што... Толькі што ў іх аб'явіўся і сышоў на зямлю іхні бог. Іса бен Марыям-мн, Іса Кірысту.

— Ты бачыў? — непачціва спытаў хан.

— Як цябе. Ён узяў у мяне аркан. Разам з адным сваім прарокам ён разагнаў гэтым арканам цэлы натоўп. Хто яшчэ можа такое?

— Б-бог,— хан мацаў аркан.— Няма бога, акрамя алаха. Але памятай, нават Бату пазбягаў бурыць шатры чужых багоў. Мала што! Гэт-та можа несці вецер небяспекі. Калі сутыкнёмся — бога браць першага. Нават калі наперадзе бой... Скачы ў Га-ро-ды-ну, сын.

Сялім ускінуўся на каня. Хан усміхнуўся яму:

— Гаворка гаворкай, пасольства пасольствам і ясак ясакам. Але я думаю: нам няма чаго марудзіць. Жах — харошы памочнік. А дадуць згоду на даніну — мы спынім тады.

— Згода.

І, калі мурза крануў з месца, хан пляснуў у далоні:

— Збор!

Глуха заракаталі бубны. Стан прыйшоў у рух.

## Раздзел XXIX

## ПЯТКА НЕ МАЕ СОРАМУ

> І тады гэты паршывы нечасцівец склікаў да сябе — таемна і пад покрывам цемры — яшчэ дзесяцёх, чые імёны хай не апаганяць вашага слыху.
>
> *Усходняя казка*

Усяго праз два дні гэты самы грукат нясцерпна рассыпаўся над дамамі і вуліцамі Гародні. Нясцерпна, хаця тут яго вывяргалі ўсяго два барабаны і з дзесятак бубнаў у руках варты.

Гук быў нясцерпны, таму што вялікая, мёртвая цішыня стаяла на поўных народам вуліцах горада.

Ішлі пасланцы ад крымчакоў, а гэта азначала, што і сама арда недзе тут і ўжо льецца кроў, ляскаюць, бразгочуць мячы, свісцяць арканы і лямант стаіць у паветры.

З жахам глядзелі на чужынцаў дзеці, з бязмернай агідаю жанчыны, з гневам — бо хто ж іх калі-небудзь зваў на Белую Русь — мужыкі і мяшчане.

Што праўда, татар прымусілі спешыцца яшчэ на Малой Скідзельскай, але ім пакінулі ўсё, нават бубны. І вось пабедныя, варварскія гукі чужой музыкі, той, якую памежныя людзі снілі нават уначы, агалошвалі Ростань, пасля Старую вуліцу, пасля Стары рынак. Ніхто не папярэдзіў аб з'яўленні крымчакоў ні раду, ні нават духоўны суд, што якраз сядзеў у палацавай царкве, у першым усходнім нефе замка. Татарын загадаў тысячніку Карніле не цягнуць гадзінамі і днямі, калі не хоча, каб ягоная тысяча су-

стрэлася з цьмою, а адразу весці яго «да ўладароў». Іначай будзе горш. Кожная хвіліна — лішняе спаленае сяло.

І Карніла вырашыў весці мурзу на сваю адказнасць.

Ударалі, грукаталі бубны. І ішоў, валюхаючыся, паперадзе сваёй дзікай вобразам варты пасыльны татарын. Ногі ў ботах з загнутымі насамі ўпэўнена папіралі зямлю. Адна рука — на эфесе, другая — абаранкам на тугіх вітках аркана. Галава закінута, вочы глядзяць зверху ўніз. І нахабна, пагардліва ўсміхаецца рот.

Толькі аднойчы вытрымка здрадзіла яму. Убачыў залатыя кісці рук і даўжэзныя вусы Ціхона, і яны так уразілі яго, што ён засмяяўся і ўхапіўся за іх, нібы дзіця за цацку.

— Доб-ры баран. Мой будыш!

Сябры кінуліся былі на крымчака. Гіаў развярнуўся быў, каб даць. Вястун узняў молат. Але тут замкавая варта, якая суправаджала пасланцоў, выставіла дзіды і гізаўры.

— Вы што, хамы? — спытаў тысячнік.— Пасла?!

...А славуты гародзенскі сінкліт сядзеў між тым у паўночным прытворы дварцовай царквы і анічога не ведаў пра нечаканую «радасць», якую рыхтаваў яму лёс.

Перад пачцівымі і высакароднымі раснікамі стаяў ганец, запылены да таго, што здавалася, нібы ён усё жыццё дагэтуль пражыў на млыне. І вось яго выцягнулі адтуль і, сяк-так пачысціўшы (бракавала часу), даслалі з даручэннем.

— Трэба пахваліць вашу службу,— вельмі ціха сказаў Лотр Фларыяну Басяцкаму.— І як вашы галубы?

— Прыляцелі,— змрочна сказаў праезуіт.

— Цікава,— сказаў Лотр.— Цікава было б ведаць, чаму вы ўважылі за лепшае ўвесці нас у зман наконт таго, што ўсё добра, пакінуўшы пры сабе весткі аб падзеях у Наваградку, аб спробе перашкодзіць святой службе, аб тым, што знік генеральны камісарый і што ў знікненні гэтым, магчыма, таксама вінаваты яны? Урэшце аб апошніх падзеях... Гэта была ваша ідэя з галубамі?.. Вы штосьці ўжылі?

— Ужыў,— змрочна сказаў мніх-каплан.

— Цікава было б ведаць, што?

— Я ўжыў гэтых галубоў. Смажаных у масле. Памятаеце? Вы яшчэ памаглі мне іх ужываць. Было смачна. Магу таксама нагадаць, што была серада.

Кардынал папярхнуўся.

— Калі ласка,— амаль бязгучна сказаў ён,— маўчыце.

— Чаго мне маўчаць, калі не маўчыце вы?

— Але ж...

Твар каплана абцягнуўся скурай. Бязлітасна і жорстка ён сказаў:

— Галубы вярнуліся без запісак.

— Можа...

— Усе тры галубы вярнуліся без запісак,— паўтарыў мніх.

— Магдаліна? — узняў Лотр непаразумелыя вочы.

— А вось гэта ўжо была ваша ідэя,— зваліў правіну на кардынала дамініканец.— Я толькі выказаў меркаванне «а можа». І тут вы ўхапіліся за яго, як клірык за бутэльку, як папа Аляксандр VI за ўласную дачку, як п'яны за плот...

— Хопіць,— сказаў Лотр.— Давайце дзейнічаць.

Фларыян Басяцкі кашлянуў і ласкава звярнуўся да ганца:

— Дык што ж гэта ты нам такое сказаў? Як гэта гандляроў разагнаў?! Як дазволілі?

І тут уставіў свае тры грошы Рыгор Гародзенскі, у міру Гіляр Балвановіч:

— Самі казалі: «махляр», «бяспечны».

— Быў бяспечны,— сказаў мніх.— Быў.

— Гаворыш чорт ведае што,— сказаў біскуп Камар.— Гэта што ж будзе, калі кожны вось так, у храм? Разважаць трэба.

— «Брыда перад богам — чалавек разважлівы»,— як заўсёды, ні з пушчы ні з поля падаў голас войт.

Ганец пакутліва баяўся прынесеных кепскіх вестак.

— Айцы,— сказаў ён,— і гэта яшчэ не ўсё. Яшчэ кажуць, нібы заўважылі татар. Татары ідуць.

— Змоўч! — успыліў Лотр.— «Нібы-ы», «нібы-ы». Татары прыйшлі і пойдуць. А той, хто замахваецца на народныя святыні, гэта табе не татары?

Варухнуўся ў цёмным куту бурмістр Юстын. Рас-

плюшчыў вочы. Хацеў быў сказаць, але толькі злосна падумаў:

«Ясна, чаму вы так. Вас нават у рабы не возьмуць па поўнай няздатнасці, няробы. То вам што?!»

І зноў пад скобкаю валасоў згаснулі вуголлі ягоных вачэй.

— Ты разумееш, на якія асновы ён замахнуўся?! — пабарвавеў Лотр.

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася для ганца, каб не пачуліся на пераходах крокі, нейкія прыглушаныя ўдары і бразгат. Усе насцеражыліся. Пачулася нешта накшталт перапалаю. Карнілаў голас угаворваў кагосьці трохі пачакаць. Пасля тысячнік увайшоў, але не паспелі яны спытаць у яго, што здарылася, як з грукатам адчыніліся дзверы. Лінула ў царкву дзікая какафонія гукаў. Бубны аж захлыналіся ў бразганні і гулкіх ударах.

Мурза Сялім увайшоў на напаўсагнутых нагах, бязгучна, як кот, і адначасова нахабна. Тарғануў тысячніка за нос на знак таго, што ўсё ж паставіў на сваім.

Агледзеў царкву. Здзёр дарогаю з іконы бясцэнныя «абяцаныя» каралі з рубінаў, пацмокаў языком і запхнуў у запазуху.

Пасля асцярожна падышоў да «врат», прыслухаўся, ударам нагі расчыніў іх. Агледзеў бегаючымі вачыма.

— Што? — рэзка спытаў у талмача.

— Прастол.

Мурза нібы ўспамінаў нешта. Пасля ўсміхнуўся высакамерна і ўскінуў галаву:

— Прастол. Сыдзець тут хачу.

І сеў.

— Мыня слухай, уладары Га-ро-ды-на. Кіназ Джыкамон няма — вы кіназ... Ваш адказ... што трэба аддасцё — татар не пойдуць. Што трэба не дасцё — татар пойдуць. І пыл ад Гародына дасягне неба. І смурод ад гэтай зямлі дасягне неба. Белы кіназтва — будзе кара, чорны кіназтва.

У адказ лягло маўчанне. На тварах людзей у прыторы нельга было нічога прачытаць. У вачах людзей з варты ясна чыталіся абраза, невымоўная агіда, жах і гнеў.

Мурза выцягнуў вусны, нібы для пацалунка, узняў

руку, сціснутую ў кулак, і павольна пачаў адгінаць пальцы. Адзін за адным.

— Залатых чатыры цьмы, па адным на воіна, бо сорак тысяч нас. Рабоў чатыры цьмы — на кожнага воіна раб. І цьма рабоў — мурзам і хану. І дзве цьмы залатых — мурзам і хану... І коней — чатыры і чатыры цьмы. І быдла — чатыры і чатыры цьмы.— Ён паказаў на аклады.— І золата яшчэ вось такога чатыры гарбы, бо яно блішчыць.

— Мы не з багатых,— сказаў Лотр.— І ў сціплай беднасці жывём.

— Твар твой — пятка, што не мае сораму,— выскаліўся крымчак.— Таму што не чырванее пятка. Што маніш? Глядзі!

Па мурах, іконах, статуях плыло золата. Уладары маўчалі. Сялім павольна выцягваў шаблю з піхваў. Яна выпаўзала з іх амаль нябачнымі рыўцамі, як змяя.

— Імгненне кожнае прыбаўляе да вашай даніны. Я вырву шаблю, і што тады ўратуе вас?.. Імгненне кожнае прыбаўляе... Бо татары — пайшлі!

І такая нахабная сіла была ў гэтым голасе і ў павольным выпаўзанні сталі, што ўсе нібы пачулі далёкае гіканне, несамавіты гул бубнаў, рыданні вярблюдаў і ослоў і шалёны пошчак капытоў нялічанай арды.

Шабля выпаўзла амаль да канца.

— Дан,— выскаліўся мурза.— Дан давай — жыць будзеш.

Людзі ў прытворы пераглянуліся. І тут Басяцкі ласкава, з адчуваннем сваёй годнасці ўзняў руку:

— Стой.

Мурза ўсміхнуўся і з ляскам закінуў шаблю назад у піхвы.

— Не пагражай нам, мурза. Мы досыць моцныя, каб растаптаць вас.

Варта ля дзвярэй ускінула галовы.

— І калі мы ўсё ж дамо табе тое, аб чым просіш, то не з боязі,— плоскія вочы смяяліся,— а таму, што так загадвае нам наш бог. Сказана бо ў Мацея: «І хто захоча судзіцца з табою і ўзяць у цябе сарочку — аддай яму і верхнюю вопратку».

— Добрая вера,— сказаў мурза.— Зручная для моцнага вера.

— Ты што ж, не кранеш тады зямлі? — спытаў Грынь Балвановіч.

— Нашто «зямлі»? Вашай зямлі не крану.

Сінкліт думаў.

«Прасяшчаму ў цябе — дай»,— ціха сказаў Лотр.

— Па вазе дай,— сказаў крымчак.

Жаба ціха забубніў:

— Няверныя вагі, сказаў Саламон, брыда перад панам богам, але правільная вага жаданая яму.

— І жанчын дайце нам. Бо нам патрэбны жанчыны. Нараджаць моцных ваякаў... дзеля нашай веры.

Кардынал і мніх пераглянуліся. Зразумеў іх таксама біскуп.

— Хіба што... некалькі манастыроў,— узняў ён грозныя бровы.— Усё адно з манашак талковага, як з кошкі воўны.

— Мніх ціха сказаў:

— Машкаўскі... Ігуменні сказаць, каб каго ўжо каго, а тую выдала басурманам,— і ўсміхнуўся.— Нічога, яны там з іхнім вопытам не адну, а тры арды адразу знутры раскладуць.

Татарын глядзеў на тых, што шапталіся, чакаў.

— Дамо,— сказаў Лотр.— Толькі каб зберагчы мір.

— Будзе мір,— падступна ўсміхнуўся крымчак.

Карніла зашаптаў Лотру на вуха:

— А як падмануць? Грошыкі ж на рамонт мура ля Лідскай брамы вечна нехта ў кішэнь?..

— Ну-ну.

— А мур там такі, што я кожны раз з жахам гляджу, калі да яго сабакі падыходзяць ды падмываюць. Грошай не даеце.

— Рада хай плоціць,— сказаў кардынал.

— Вы аднойчы ўжо магістрацкія грошы цю-у,— сказаў, дачуўшыся, Юстын.— А гарадская рада заўсёды была бедная, як царкоўны... прабачце, як магістрацкі пацук.

— Тым больш адкупіцца трэба,— бязгучна сказаў Лотр і ўголас дадаў: — Мы пакажам табе, дзе вы будзеце мець права браць жанчын, мурза. Першым можаце Машкаўскі кляштар...

У гэты момант моцна аддаўся пад гатычнымі скляпеннямі гук смачнага пляўка.

Плюнуў малады чалавек год дваццаці пяці, які

стаяў сярод варты. Худы, але цыбаты і моцны, у цяжкіх латах ад шыі да ног (шлем ён пачціва трымаў у руцэ, і доўгія попельныя валасы ягоныя ляжалі на сталёвых наплечніках), ён цяпер выціраў тыльным бокам вузкай і моцнай далоні вялікі і цвёрды рот, рот утрапёнага.

Шэрыя, прыгожай формы вочы глядзелі з абурэннем, саркастычнай усмешкай і амаль з фанатычным гневам. Просты нос нібы акасцянеў.

— Тфу!

— Гэй, ты гэта што, у храме?..— спытаў Карніла.

— Кар-чма гэта, а не храм,— кінуў чалавек.— Таргі! Хто са мною? Мы ім...

Некалькі чалавек рушылі за ім.

— Будуць ваяваць? — занепакоена спытаў мурза.

— Адступнікі,— сказаў Лотр.— Сказана — «не забі». Тысячнік, загадай, калі скончым, замкнуць браму і не выпускаць з горада мяшчан.

Так завяршыўся самы ганебны торг з басурманамі, які калі-небудзь ведала Зямля Белай Русі. З тым, хто плюнуў, з правадыром асуджанага заслону, паспела выйсці, дзеля ўратавання сумлення і гонару, не больш як за трыста — чатырыста чалавек, пераважна без коней. Выйшлі на верную смерць.

У гонар гарадзенцаў варта сказаць і тое, што, пасля таго як тысячнік зачыніў брамы, нешта чалавек каля пяцідзесяці ўмудрылася спусціцца з муроў і ўсё ж уцячы за раццю.

## Раздзел XXX

# САРАНЧА

> ...але ў людзях рыцарскіх, каторых там множства пагінула, вялікую шкоду карона падняла.
>
> *«Кроніка Белай Русі»*

### СЛОВА АД ЛЕТАПІСЦА

*«І ўторгнуліся, і ўварваліся татараве крымскія ў нашы краі, і здарылася так, што не было ім, папушчэннем божым, заслоны і рассыпаліся яны там і там.*

*О войска вялікае, шмат тысячаў ездных! О гора вялікае! Не спадзяваліся на тое, заўжды з пакораю бога вялікага аб міры і спакою просячы, пры міры жывучы.*

*І зямля гарэла, і хаты, і людзей у палон вялі, і клейны на лоб ставілі, як быдлу.*

*І рассыпаліся татараве па зямлі нашай, як саранча, аб якой ў адкравенні святога Яна Багаслова, Апакаліпсісе тож, прарочана. Усё, бы ў яго, спраўдзілася. Па абліччу нават: «Па выгляду свайму саранча была падобная коням, падрыхтаваным на вайну; і на галовах яе як бы вянцы, падобныя на залатыя, твары ж яе — як твары чалавечыя. На ёй былі броні, як бы броні зялезныя, а шум ад крылаў яе — як грукат ад калясніц, калі мноства коней бяжыць на вайну». І спраўдзілася тое, што: «У тыя дні людзі будуць шукаць смерці, але не знойдуць яе; пажадаюць памерці, але смерць уцячэ ад іх».*

*Але яшчэ страшней было за Апакаліпсіс. Бо ішлі яны, ляцелі яны, а разам з імі ляцеў звер з бязодні, рачоны слонь. Лаціньцы кажуць — лефант, а нашое — слонь. Тая слонь таўстамясая, упоперак сябе таўсцейшая, у вышыню сябе даўжэйшая, ногі — нібы дрэвы і тоўстыя, як кадзь, бязпоўстая, страхавыглядная, вялікагаловая, гарбаспінная, з азадкам віслым, бы ў мядзведзя (без поўсці толькі), і хадою, як мядзведзь, і замест носа як нібы хвост і два зубы, як у дзіка, гэтак і сяк і ўгору, і вушы, нібы колдры, а ў носе — хвасце — чэп пабіваючая.*

*Дужа зверападобная і жаху падобная слонь!*

*Змялі яны са слонню людзей, і ляцелі, і палілі. І ўцякалі ад іх бедныя і багатыя, і царкоўныя людзі кідалі ўсё і ўцякалі.*

*З усіх расафорных — здзіўленне! — адзін дыякан Нясвізкай драўлянай Сафіі, што зачыняе пяцідзённы Нясвізкі славуты кірмаш, царквы драўлянай не па беднасці, а па смірэнню свайму, выявіўся чалавекам. Катавалі. Пэцкалі мёдам і садзілі на сонца, дзе мухі і восы. Душылі між дошкамі. Палілі. Трэскі забівалі пад кіпці. Але ён, пакуту смяротную прыняўшы ад паганых, ні тайніка скарбнага, ані ўвахода ў хады падземныя і пячоры, дзе хаваліся людзі, не паказаў. І тады прывязалі яго да дзікіх коней і пусцілі ў поле.*

*А людзей у пячорах сядзела, можа, тысяча. А імя дыякана было Аўтроп».*

*Палалі вёскі, палалі гарады. Бурыліся ў агні драўляныя вежы крэпасцяў. З гіканнем, пад гул бубнаў імчалі коннікі. Луналі бунчукі. Жудасным, страшэнным воблакам стаяў пыл. Рыдалі вярблюды і аслы.*

*Гналі на арканах напаўголых людзей, жанчын з сінякамі на грудзях. Забаранялі здымаць з палонных толькі крыжы. Таму што адзін, калі здзёрлі з яго, сцягнуў крымчака з сядла і ўдарыў кайданамі па галаве, і тады Марлора — хан — успомніў завет і забараніў. А таму, хто ўдарыў, увагналі ў жывот стралу і кінулі.*

*І ўсіх мецілі. Падносілі клейну да лоба, стукалі па ёй, і заставаўся на лбе крывавы татарскі знак.*

*Лупілі, луп цягнулі. Лямантуючы, імчалі орды. А паперадзе іх, матляючы ланцугом, бег баявы слон.*

*Пажары... Пажары... Пажары... Цягнуліся гарбы і фуры з данінай, цягнуліся рабы.*

*А ў горадзе гарадоў цягнуліся набажэнствы, цягнуліся малебны. У Дамініканскім касцёле... У касцёле францысканаў... у простай, белай знутры, Каложы.*

*І адны ў дамініканаў казалі:*

*— А я кажу вам: любіце ворагаў вашых, благаслаўляйце тых, хто праклінае вас, чыніце дабро тым, хто ненавідзіць вас, і маліцеся за тых, хто крыўдзіць вас і гоніць вас.*

*А другія казалі ў Каложы:*

*— Бо Ён загадвае сонцу свайму ўзыходзіць над злымі і добрымі... Няварты тыя, хто дзеяннямі сваімі падмяняе волю яго.*

*І ляцелі ў крывавым дыме коннікі з апакаліпсіса.*

*Толькі праз некалькі дзён атрымалі яны першы і апошні адпор. Вымчалі з хмызоў на бязмежную вапняковую пустку, укрытую рэдка плямамі, шорхлай травою, узнялі капытамі хмару ядучага белага пылу і спынілі коней, уражаныя.*

*Далёка-далёка, белыя на белым, з'явіліся расцягнутыя ў рэдкі ланцуг кропкі.*

*...Невялікае войска стаяла на дарозе арды. Людзі таго, што тады плюнуў у храме. Іх было вельмі мала, але твары, у прадчуванні канца, былі суровыя.*

*Усе пешыя, у латах і кальчугах, са звычайнымі і двухручнымі мячамі ў руках, з авальнымі шчытамі, у якіх былі ўпісаны шасціканечныя крыжы, у белых плашчах, яны стаялі на бялёсай вапняковай зямлі, пад гарачым апошнім сонцам. Белыя на белым.*

*Увесь акаём перад імі варушыўся. І тады нехта заспяваў старажытную «Багародзіцу». Страсным і грубым голасам:*

Пад тваю літасць...
Пад тваю літасць прыпадаем, Багародзіца Дзево,
Маленняў нашых не адрынь у журбе,
А ад бед ізбаві нас,
Адзіна і чыстая і благаславёная.

*Журботныя, празрыстыя галасы падхапілі яе, панеслі:*

На цвярдыню тваю мы ўпаваем, Багародзіца Дзево.

*Плыў над імі, над пусташшу страсны харал. Нібы на мячах, узнятых угору. Цягнуўся пусткаю доўгі ланцуг.*

*Наперадзе, моцна адарваўшыся, ішлі военачальнікі ў белых плашчах.*

Яка імя тваё!
Яка слава твая!

*У апошняй мужнай і безнадзейнай тузе ўзляталі галасы. А вочы бачылі, як вырваўся наперад слон, страшная, нібы пекла, жывая гара, як паляцела конніца.*

О ўсяпетая...
О ўсяпетая Маці,
Рождшая ўсіх святых свяцейшае Слова.
Сённяшняе наша прыемшы прынашэніе,
Ад усякія збаві напасці ўсіх
І будучыя ізмі мукі табе вапіюшчых.
Алілуя.
Алілуя!
Алілуя!!!

*Слон уварваўся ў рады. Са свістам разрэзаў паветра ланцуг.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Праз гадзіну ўсё было скончана.*

*Апошнія гукі харала змоўклі. У атачэнні бурых,*

жоўтых і шэрых целаў ляжалі на бялёсай зямлі, на рэдкім верасе белыя целы.

Толькі ў адным месцы купчыўся натоўп конных і пешых крымчакоў. У іхнім паўколе трубіў, як струны, напінаючы вяроўкі, ашалелы слон.

А перад ім, таксама распяты вяроўкамі, ляжаў кіраўнік асуджанага заслону. Дзве крывавыя палосы расплываліся па белай тканіне плашча. Адна нага была ненатуральна, як не бывае, падгорнута. Попельныя валасы ў белым пыле і крыві.

Сціснуты ўтрапёны рот. У шэрых вачах асуджанасць, адсутнасць і спакой. Ён зусім не хацеў глядзець. І ўсё ж бачыў, як высіцца над ім, як пераступае на месцы, грузна танцуе слон, як касяць ягоныя налітыя крывёй вочкі. Ён не баяўся яго цяпер.

Ён не хацеў бачыць і іншага. І ўсё ж бачыў схілены над ім, рэдкавусы твар Марлоры. Хан выскаляў зубы:

— Рыхтуецца нехта яшчэ на бойку? Не? Адны?

— Не ведаю,— абыякава сказаў ён.

Яму куды цікавей і да апошняга значней было тое, што высока над ім, над ханам, над сланом кружыліся ў сінім небе і чакалі крумкачы. Калі гэтыя, урэшце, адчэпяцца і пойдуць — крумкачы рызыкнуць спусціцца. Яны думаюць, што напалохаюць яго тым, што рыхтуюць. А гэта ж лепей, чым жывому, без змогі рухацца, адчуць вачыма павеў крылаў.

Дый хіба не ўсё адно?

— Адкасніцеся,— сказаў ён і дадаў:— Два ў нас скарбы было: зямля ды жыццё. А мы іх аддалі. Даўно. Чужым... Жабракі... Усё адно.

— Чаго ты дабіваўся?

— Я хачу памерці.

Марлора даў знак. Змаршчакаватая, вялізная слановая нага павісла над вачыма.

— А цяпер што скажаш?

— Я хачу памерці,— паўтарыў ён.

— Бог у вас, кажуць, з'явіўся? Ён дзе? Што робіць?

— Ягоная справа. Ён жывы. А я хачу памерці.

Марлора ўзмахнуў рукою. Слон апусціў нагу.

## Раздзел XXXI

# ВІНО ЯРАСЦІ БОЖАЙ

Той будзе піць віно ярасці божай, віно цэльнае, прыгатаванае ў чашы гневу...

*Апакаліпсіс, гл. 14, ст. 10*

Ад твайго дзяржаўнага бегу па паднябессю ў жаху трапечуць сузор'і! Ты павядзеш гнеўна брывом — і ў небе загрукочуць маланкі, валадар!

*Гімн Азірысу*

Ты чаго яшчэ хочаш? Ад бога выспятка?!

*Прымаўка*

Нешта дні праз тры пасля бітвы на вапняковай пусташы апосталы пад началам Хрыста падыходзілі да невялічкага манастыра сярод дубовых гаёў і палёў канюшыны. Рачулка абкружала падножжа ўзгорка, на якім ён стаяў. Перагароджаная ў некалькіх месцах грэблямі, яна ўтварала тры-чатыры стаўкі, што адбівалі бляклае падвячэрняе неба.

Трынаццаць мужчын і жанчына ішлі над вадою, успуджвалі з дзікіх макаў конікаў і думалі толькі аб тым, каб дзе-небудзь знайсці прытулак.

Да іх даходзілі чуткі аб з'яўленні на поўдні татар. І хаця яны не верылі, што ніхто іх не сустрэне, што той жа самы Лотр не ўзніме супраць іх людзей,— даводзілася берагчыся. Цяпер нельга было начаваць у безабаронных хатах або ў чыстым полі. Трэба было забірацца глыбей у лес. Але тут і лясы былі дагледжаныя, чыстыя ад лаўжоў і ветрабою.

Да таго ж яны не маглі доўга сядзець у бязлюдным месцы. Людзі — гэта быў хлеб, які ім, хай сабе і нячаста і не памногу, удавалася купляць.

Таму сёння, убачыўшы белую цацку кляштара, Юрась узрадаваўся. Можна заначаваць пад мурамі. Калі ўначы здарыцца татарын — няўжо не пусцяць нават у жаночы? Быць таго не можа. Манастыры ж таму і будуюць, для прытулку.

А раніцай можна будзе купіць хлеба, а можа,і рыбы (бач, якія ставы, неадменна ў іх будуць і лін, і цёмна-залаты, з блюда, манастырскі карась і вугор). І Юрась аддаў загад раскінуцца табарам пад

пяццю-шасцю вялізнымі дубамі, амаль каля муроў.

Калі пад дубы нацягалі сена, калі гаршчок з капустай пачаў балбатаць на агні, Юрась заўважыў, што Магдаліне нібы неяк непамысна.

— Ты што, нядужыш?

— Трохі ёсць.

— Тады кладзіся на сена ды накрыйся. Я табе капусты сам прынясу.

— Дзякуй табе, пане мой.

Яна лягла пад плашч. Ёй сапраўды было непамысна, але не ад нядужнасці. Прыплюшчыўшы вочы, яна слухала размовы і... баялася. Вось вярнуўся з ахапкай лаўжоў целяпень Піліп з Віфсаіды.

— Што за кляштар? — спытаў абыякава Хрыстос.

— Гэна... Машкаўскі нейкі... У імя Марты і той... Марылі.

Магдаліна здрыганулася пад плашчом. Яна ведала гэта. Толькі мур аддзяляе яго ад той.

— Цікавы кляштар,— сказаў Хрыстос.— Бач, Магдаліна, што на мурах.

На нізкім, у паўтара чалавечых роста, знешнім муры стаялі драўляныя, у натуральны рост, статуі. Прапорцыі іхнія былі парушаны: тулавы тоўстыя, мясістыя, вочы вырачаныя, галовы вялікія. Статуі былі пафарбаваныя ў ружовы (твары), чорны або рыжы (валасы), сіні, блакітны, чырвоны і ліловы (вопратка) густыя колеры. У большасці былі разяўленыя раты, і каля іх нешта вілося. Накшталт дымка. Так было ў святой Цэцыліі, святых Катарыны і Ганны. Сярод іх стаяў святы Мікола з люлькай, і ў таго дымок віўся над цыбуком. У драўлянага Хрыста дым круціўся над прыціснутай да сэрца і трохі адстаўленай далонню.

Раты, цыбукі і далоні былі ляткамі, статуі — вуллямі, дымок — пчоламі.

Святыя глядзелі на Магдаліну няўхвальна. Яна не ведала, трызніць яна ці не. Стаялі вакол ідалы, калыхаўся дуб (а мо то было дрэва Дабрыні і Зла?), звешваўся і варушыўся ў паветры вялізны льсняны змей, падобны на тоўстую даўжэзную каўбасу.

У жаху расплюшчыла вочы і ўбачыла, што гэта не змей, што гэта Сіла Гарнец, Якуб Зеведзееў, плямкае платаядным ротам і блішчыць самовымі вочкамі, паказваючы Хрысту здаравеннага лілаватага вугра.

У кошыку ў яго было яшчэ некалькі драбнейшых: цішком налавіў у стаўку.

— З-змей! Гэта каб тая конаўка дурная, Пятро... куды яму? А тут яго спячы на вуголлях — м-мух! А вэнджаны ж які! Няма, братка, дзе завэндзіць. Жытка наша, жытка, уюны ёй у пуза.

«Ну і што? Існуе недзе Лотр. Дагэтуль не спаймаў. Можна зашыцца так глыбока, што й не спаймае. Цэлыя вёскі жывуць у пушчах і ніколі не бачаць чалавека ўлады. Можна ўцячы на Палессе, у страшныя Сафіёўскія лясы пад Воршай, да вольнай памежнай варты, да панцырных баяр. Яны прымуць. Яны любяць смелых, хаваюць іх, запісваюць да сябе».

Чаго яна павінна, уважаючы на іх праўялебнасць Лотра, маўчаць? Трэба сказаць яму, што Анея тут, выкрасці яе або ўзяць сілай, дарогаю вырваць з кіпцюроў ханжэй і прагнага бацькі Ратму і ўцякаць да панцырных баяр. Хата ў лесе за частаколам, зброя, наводдаль вышка з дровамі і смалою. Можна жыць так дваццаць — трыццаць год, падрастуць дзеці і пойдуць вартаваць замест бацькі. Будуць волаты... А можна і праз тры гады ляснуць — як пашанцуе. Убачыць здалёк агні, запаліць свой, убачыць, як за дзве вярсты ад цябе ўстане яшчэ адзін чорны дымавы султан. І тады спусціцца і за ваўчынымі ямамі і заваламі з лукамі і самастрэламі чакаць ворага, біцца з ім, трымаць да падыходу другіх чарнарукіх, прапахлых смалою і порахам «баяр».

Затое звычайная раніца, божа мой! Роўны шум пушчы, сонца падае ў акенца, у залатой пляме святла на свежавымытай падлозе гуляе з клубком кацяня. Ратма, хай сабе і не дужа каханы, але звыклы, свой, вечна свой, есць за сталом гарачыя, падрумяненыя ў печы калдуны.

Або ноч. Ціха. Зоры. І той самы вечны лясны шум. Трохі нядужыцца, і ад гэтага яшчэ лепей. Толькі страшэнна хочацца піць. І вось Ратма ўстае, шорстка чэрпае ваду. І яна адчувае ў вуснах паліваны край конаўкі. І Ратма кажа голасам Хрыста «папі», і чамусьці адразу цёплая, гарачая хваля коціцца па ўсім целе. Такая, што яна ад здзіўлення ледзь не губляе прытомнасць. А можа, гэта не ад здзіўлення?

— Ты прасіла піць? — сказаў Хрыстос.— Пі. Напілася? То зараз еш. Капуста, халера на яе, такая ядраная.

Яна маўчала, каб даўжэй затрымаць у сабе тое, што абудзіла яе.

— Гэ, ды ты зусім паганая. Кепская, як беларускае жыццё. Ну, давай нагадую.

Ён шарпаў лыжкай у місе. Пасля яна адчула зубамі мяккае і пахучае грушавае дрэва, смак гарачай, жывушча-вадкай, наперчанай капусты. Яна спаймала сябе на думцы, што з тых часоў, калі жывыя яшчэ былі бацькі, калі сама была малая — не было так спакойна, добра і даверліва.

— Ну вось,— сказаў ён.— Спі. Засмажым рыбу — тады ўжо...

І яна сапраўды як правалілася ў дрымоту. Здалёк даносіліся глухія гукі размовы. Часам прытомнасць вярталася, і тады адна-дзве думкі праплывалі ў галаве, і яна адчувала, што лёгкая нібы нядужасць, боязь і дрыгота пакідаюць яе. Ад сну на паветры, ад гукаў вечара, ад прысутнасці гэтага чалавека побач.

Юрась глядзеў на ставы, на сініх стракоз, што лёталі над вадою, на твар той, што спала. Дзіўна, нешта клікала яго, нешта нібы не давала сядзець на месцы, але вечар супакойваў і прымушаў сядзець. З манастырскай брамы выйшлі некалькі дзесяткаў маладых манахінь у белым, чарнабровыя, зіркатыя. У адной на плячы была лютня.

Сваім надзіва чуйным слыхам ён чуў гучныя, над вадой, урыўкі размовы:

— Чаго гэта яна і сёння ўдабрухалася ды нас выпусціла? І ўжо трэці дзень.

— І ў ігуменняў...

— Сэрца... Ведаем мы, што за сэрца...

— Пэўна, зноў гэты, мардаты, у яе будзе...

— Дзеўкі, чорт з ім... Дзеўкі, хай сабе... Добра ісці... Вечар. Рыба брохае.

На паверхні ставоў сапраўды расплываліся кругі. Жанчыны ішлі, і іхнія белыя постаці сумна і чыста адбіваліся ў вадзе. Здаецца, і сам бы застаўся тут, каб вакол былі такія.

Адна дзяўчына раптам падала голас:

— Бач, хлопцы якія. Сядзяць, не ведаюць, а чаго б гэта зрабіць. Гэта я іх знайшла.

— А раз знайшла, то цягнула б сюды.

— Ды, бач, яны нягеглыя нейкія. На хаду спяць.

Юрась узняў руку. У адказ над вадою даляцеў ціхі смех.

— Ой... сёстры... Будзе ад ігуменні...
— А няхай яна на мурашнік сядзе, як я яе баюся.
— Не, гэта хлопцы адмысловыя.
— Кашы наеліся... Асавелі...
Апосталы пераглянуліся. Пасля Тумаш, Сымон-Кананіт і Піліп махнулі рукою і пачыкільгалі ў бок дзевак. Крэкнуў Якуб і таксама ўзняўся.

Даганяючы, кінуліся іншыя. Раввуні затрымаўся быў.

— Ідзі, Іосія,— сказаў Братчык.— Ты ж ведаеш.

Іуда пабег. Хрыстос застаўся адзін. Сядзеў над панвамі[1], варочаў кавалкі.

— Вось як уламлю зараз адзін усіх гэтых вугроў,— ціха, сам сабе, сказаў ён.— Будзеце вы тады ведаць дзевак, піндзюры вы гэткія.

Магдаліна пачула. Шкадаванне штурханулася ў сэрца. Скутая сном, яна думала, што трэба зрабіць.

«Ага. Трэба адразу ж адкрыцца, сказаць яму, дзе дачка мечніка. Дурань, яна ж тут, тут. Можа, у гэтай вежы. Можа, у іншай. У маўчанні. Пад даглядам адной гэтай ігуменні, якая чамусьці сапраўды выслала ўсіх сваіх манахінь з будынка. Чаму?»

Гэта трывожыла яе. Такога, ды яшчэ без дагляду, сапраўды не павінна быць. Ды яшчэ трэці дзень узапар.

«Ат, усё адно. Можа, сапраўды круціць з кімсьці? — Думка правальвалася.— Што трэба сказаць яму? Зараз жа».

Хрысту здалося, што ў яе лёгкая гарачка. Ён паклаў ёй на лоб далонь, але рукі былі гарачыя ад агню, бо ён варочаў рыбу,— не разбярэш, ёсць гарачка ці не. І тады ён схіліўся і прыклаў да лоба вусны. Не, усё добра. Проста агонь і свежае паветра.

Яна адчула дотык ягоных вуснаў на сваім лобе. І гэты просты жэст раптам бясспрэчна сказаў ёй, што яна ніколі не адкрые яму, што чакае яго за гэтым мурам. Будзе ненавідзець сябе, пагарджаць сабою, але ніколі не скажа. І не з-за катоўняў Лотра.

«Не трэба мне ні паселішчаў панцырных баяр, ні Ратмы, ні нікога іншага. Нічога мне не трэба».

Адзін гэты дотык прымусіў яе зразумець тое, у

[1] Панва — гліняная патэльня.

чым яна цэлы месяц — а можа, і больш — баялася сабе прызнацца.

Ад далёкага гаю, куды пайшлі апосталы з манашкамі, даляцеў сільны і страсны жаночы голас, поўны чакання і тугі. Зазвінеля лютня.

За мурамі, за чорнымі вежамі —
Воля, вецер, сонца ў гаях.
Кожны вольны стралок з Белавежы —
Пакута і радасць мая.

І яна раптам уся затрэслася ад неадольнай, вострай, апошняй цягі да гэтага чалавека, што сядзеў побач і не думаў пра яе. Ды не, яна не магла сама, сваімі рукамі... аддаць. Уся паступова выцягваючыся, яна нібы памірала ад усяго, што звалілася на яе. Нібы працятая знішчальнай стралой.

Ломіць дрэвы ён турам буйным,
Сталь чужую рукамі гне.
Ах, чаму ён манахаў рабуе
І не схопіць манашку, мяне?

Узяць бы яго ў рукі, у абдымкі, і не выпусціць, пакуль не прыйдзе канец свету, пакуль не рассыплюцца зямля і неба і не застануцца яны адны ў абшары, дзе няма ні цемры, ні святла.

Цяпер спявалі і мужчынскія галасы. Яны змянілі бег песні, і яна гучала нават пагрозліва, нібы ў тупаце капытоў нечуваная навала ляцела на беднае чалавечае сэрца, якое і без таго рабіла апошнія ўдары.

Паклічу — і ён прыскача з мячом,
Ён кіне хаты ў бары,
За яго магутным белым канём
Сотня коннікаў спусціцца з грыў.
Як архангел, ён прыйдзе да гэтых муроў,
Затрубіць — падуць муры.
І няхай тады маё сэрца згарыць,
Няхай маё сэрца згарыць.

«Любы,— моўчкі маліла яна.— Нахіліся, абдымі, мне ўжо нельга. Нават грубасць, абы не абыякавасць. Я ўжо больш не магу жыць без гэтага майго кахання, без гэтай журбы».

Яшчэ імгненне, і яна сказала б гэта ўголас. І хто ведае, чым бы гэта скончылася. Таму што яна кахала, а ён ужо некалькі тыдняў назад паверыў, што нікога не знойдзе і што мечнікава дачка сапраўды ці не здрадзіла яму.

Але ў гэты час мяккі вячэрні прыцемак прарэзаў шматгалосы дзявочы віск і крыкі.

— Што ў іх там? — устаў Хрыстос.— Вось, чэрці, валандаюцца паўсюль, швэндаюцца, як сабакі.

Крыкі і віск змоўклі.

— Неадменна гэта яны раней часу ад тэорыі да практыкі перайшлі,— сказаў Хрыстос.— Ах, беларускі народ, беларускі народ! Слабаваты ў тэорыі, дурны. І не вучыцца.

Галас між тым узняўся зноў. Шалёны, быццам жанчын там, у гаі, атачылі полчышчы мышэй.

Крык набліжаўся. Хрыстос глядзеў у той бок, якраз на захад, і раптам зразумеў, што гэта не проста паласа заранкі гарыць на даляглядзе. Так, гэта была заранка. І, аднак, не толькі заранка. Барва яе сямтам варушылася, была больш дымная, чым трэба. Амаль як захад у жорсткі мароз.

Раптам ён зразумеў. І ўжо не мог уцяміць, чаму не бачыў, калі не разумеў. На захадзе, у водсветах заранкі, недзе далёка шугала полымя. Нешта гарэла зырка і безнадзейна.

Пасля ён убачыў іх. Да муроў здалёк бегла некалькі дзесяткаў мужчын і жанчын у белым. Уцякалі шалёна, запінаючыся, падаючы і зноў ускакваючы на ногі. Уцякалі ва ўсе лапаткі, наўскач, унамёт, як можна ўцякаць толькі ад чагосьці смяротна небяспечнага і пачварнага.

Пасля даволі далёка за імі з'явілася нейкая цьмяная маса. Некаторы час ён не мог зразумець, што. А пасля ўбачыў бляск сталі, хвастатыя бунчукі, грывастыя цені коней — і зразумеў.

Тыя, хто бег, маглі ўцячы. Трэба толькі, каб была адчынена брама.

Ён схапіў Магдаліну, паставіў яе ногі сабе на плечы, а пасля выцягнуў рукі ўгору, як мог:

— Скачы, за вонкавы мур! Скачы!!!

— Я не...

— Рукі мне развязваеш! Скачы!

Магдаліна пераскочыла.

— Бяжы да ўнутранай брамы! Грукай! Кліч!

Сам ён кінуўся да брамы ў гэтым вонкавым, нізкім муры. Схапіў за вяроўку звона, якім выклікалі сястру-брамніцу. Ударыў раз, другі, трэці... З усёй сілы, блізка ўжо, з усіх ног ляцелі ўцекачы. А за

імі, проста з зарыва, імчала арда, сотні дзве татар.

— Ігі-гі! Ігі-гі! Адзя-адзя! Ігі-гі-і-і! — віск іхні ха-ладам аддаваўся ў спіне.

...Ігуменя ў сваёй келлі пачула гэта і ўзняла галаву з ложка.

— Ну вось, здаецца, усё кончана.

Чалавек, што ляжаў побач з ёй, той самы волат Пархвер, што калісьці вёў Хрыста і апосталаў на катаванне, ляніва расплюшчыў вялікія сінія вочы:

— Ну і добра. Нездарма я табе загад прывёз ды тры дні выканання чакаў.

— А мне грэх,— сказала тая, адзяваючыся.

— Тры дні — і ўжо грэх,— усміхнуўся той.

— Я ж не аб тым,— ігуменя пагладзіла яго мокрыя залатыя валасы.— Я ж іх сама тры дні адпускала. У нейкі з іх, маўляў, і схопяць.

— Ты не спяшаешся?

— А чаго? Я дык і ўвогуле з гэтай справай не спяшалася. Адзін дзень не прыйшлі па іх — ах, як добра! Другі — ну, проста цудоўна! Трэці... І каб яшчэ не прыходзілі — дзякуй богу. Я ж ведаю, хіба ты на мяне паквапіўся б? Так проста, ад нуды тры дні чакаючы. Ды яшчэ ў суседняй келлі замкнёны.

Магутныя грудзі Пархвера затрэсліся.

— Ерась! — з паблажлівай ласкавасцю сказаў ён.— Ты баба нішто. Проста мне, відаць, усё жыццё ад адной да другой ісці. Пажартаваў бог, надзяліў расточкам. Абдымаешся недзе ў гаю, а яна табе добра як пад дыхалам галавою... А што, ёсць, пэўна, краіна волатак?

— Пэўна, ёсць... Добра, пойдзеш дык пойдзеш. Хадзем, дзеўку тую з вежы выпусцім.

— Хадзем. А як ты яе вытурыш?

— А проста. Выведзем за вялікі мур, а пасля я з-за яго калаўротам браму вонкавага падыму. Не думай, спаймаюць.

— А нас яны не спаймаюць?

— У той вежы спаймаюць? Глупства! Там аднаму можна супраць усёй арды пратрымацца. Прыпасаў хопіць,— яна ўсміхнулася.— Вось і пасядзім.

— Ну-ну, разышлася.

— Я цябе, галубок, не трымаю. Спатрэбіцца — у той самы дзень ходам выведу — і гані ў Гародню... калі дарогаю нехрысці не перахопяць.

Яны выйшлі.

Хрыстос усё яшчэ кідаўся каля мура. У вочка брамы ўбачыў твар Магдаліны.

— Не адчыняюць!

— Бяжы,— голас у яго адзічаў.— Бі, грукай, рукі разбі — дастукайся!

Зноў пачаў шалёна торгаць вяроўку звона.

Між уцекачамі і коннікамі ўсё яшчэ была адлегласць. Хрыстос не ведаў, што яны былі ўпэўнены ў тым, што браму не адчыняць, і таму не спяшаліся. Дый лезці на ражон не хацелася: Тумаш і яшчэ пара апосталаў часам спыняліся і кідалі ў коннікаў камяні.

Але дзверы не адчынялі, а ён ужо бачыў не толькі твары сваіх, а і твары крымчакоў, збольшага шырокія і мускулістыя, гарбаносыя, з ашчэранымі пашчамі. Шаломы — місюркі, малахаі, халаты паўзверх кальчуг, чоўнікі страмёнаў.

Ноздры ягоныя лавілі ўжо нават пах ворага: дзікі, чужы, сумесь палыну, барановага лою, пранасцяў, поту і яшчэ чагосьці.

— І-гі-гі! І-гі-гі!

І раптам ён усім нутром зразумеў: не адчыняць. Збаяліся або намер такі, чорт яго ведае, дзеля чаго. Цяпер і самому не ўскочыш. І, значыцца, усе трапілі ў пастку, і ён таксама. Калодка на шыі, ланцугі, аркан, шлях у Кафу. Вось і канец твой, ілжэ-Хрыстос. І няма чаго з надзеяй глядзець на неба, не дапаможа

Захэканыя, чырвоныя ад напругі твары з дзікім выразам жаху былі ўжо блізка. Нават калі б яны пачалі падсажваць людзей — перш за ўсё жанчын — на мур, яны паспелі б падсадзіць ад сілы трох-чатырох. І, значыць, схопяць і Тумаша, і Іуду, і ўсіх, і яго Бедных не выкупяць. Рабства. Бізун.

Ён агледзеў мур, і раптам нешта мільганула ў яго вачах: «А можа, і ўскочыш?»

Хрыстос пабег насустрач уцекачам. Убачыў, што ў вачах некаторых шалёнае здзіўленне. Але ён не бег доўга. Сажняў за дзесяць ён павярнуўся і, набіраючы хуткасць, памчаў да мура.

— Так! — хрыпата крыкнуў Тумаш.— Так! Абы не палон.

Ён падумаў, што Хрыстос хоча разбіць галаву аб камяні. Але той не думаў пра гэта. Разагнаўшыся, ён, нагамі наперад, скокнуў на мур і, скарыстаўшы

інерцыю, зрабіўшы на ім два крокі, ускінуў рукі, захапіў такі пальцамі за востры верхні край яго, зрываючы пазногці, наддзіраючы жывот, звіваючыся, падцягнуўся і з нечалавечай сілай, сілай адчаю і безвыходнасці, ускінуў-такі адну нагу, а пасля і сам сеў верхам на замшэлыя камяні. Упаў галавою на верх забрала ў раптоўным страшным знясіленні.

Зверху ўбачыў твар Раввуні, ягоныя працягнутыя рукі, вочы, у якіх былі радасць за яго і адначасова бязмерная роспач.

У гэты час татарва нагнала і схапіла Яна Зеведзеева і Фаму. Хрыстос не разумеў, чаго так. Ян быў жанчынападобны, гэта так. Але Фама? Толькі пасля ён здагадаўся, што ў гэтым няверным прысмерку не было часу разглядаць. Акрамя таго, крымчакі, па дурасці і недасведчанасці, не здолелі адрозніць белых рас манахінь ад палатняных, брудна-белых апостальскіх хітонаў.

Апосталаў цягнулі на коней. Пасля пачалі ўзлятаць арканы. Сталі хапаць жанчын. Чуўся віск, крыкі, тупатанне коней, чужая лаянка.

— Я тае лапну! — Фама апусціў аглушальную аплявуху.— Я тае лапну двараніна!!!

— Гвалт!

— Вось гэта бабы! — крычаў крымчак.— Дужа вылыкы бабы. Гэтых хапай.

— Ігі-гі! Ігі-гі!

З краканнем, нібы дровы сек, малаціў Піліп. Але вакол усё больш гурбіўся конны смярдзючы натоўп.

Ніхто з уцекачоў не здолеў бы скочыць на мур, занадта былі знясіленыя. Але Хрыстос і не думаў аб паратунку аднаго сябе. Патрэбна была, можа, адна толькі хвіліна, каб нешта... Ат, чорт!

Над Іудам са свістам узляцеў аркан. Захапіў за глотку.

— Хрыстос!!! — у адчаі, з перахопленым дыханнем, толькі і паспеў крыкнуць няшчасны.

І тады Хрыстос устаў на ногі.

...Ігуменння і Пархвер, якія цягнулі скручаную Анею да брамы ўнутранага мура, спыніліся, пачуўшы гэты крык.

— Ч-чорт, што такое? — спытаў волат

Твар Анеі быў змарнелы і безуважны. Яна глядзела ў зямлю. Яна чула віск і крыкі і разумела ўсё. Ігу-

мення пастаралася яшчэ пазаўчора адкрыць ёй вочы на лёс, што яе чакаў.

— То адчыняй дзверы,— шэптам сказаў Пархвер.

Ігумення, аднак, не спяшалася: яна ўчула, што за брамай, у двух кроках ад іх, нехта глуха рыдаў.

...Магдаліна, да крыві разбіўшы кулакі, распасцерлася на брамнай палавінцы, шырока раскінуўшы рукі, як распятая. Адзін адчай валодаў ёю. Скажы яна аб усім — яны ўдзерліся б сюды некалькі гадзін назад, і тады нічога б не было. А цяпер ён у іхніх руках. Чорт з імі, з астатнімі, але ён у іхніх руках. Яна калацілася галавою ў акутую жалезам палавіну, а пасля кінула і ўжо толькі плакала.

— Цс-с! — сказала ігумення.

Яна ціха, як кошка, узбегла сцёртымі каменнымі сходамі на забрала. Мур той быў утрая вышэйшы, чым вонкавы, з зубцамі. Яна прыпала да прасвету між імі і ўбачыла чалавека, які раптам выпрастаўся на вяршыні каменнай агароджы.

Тады яна паспешліва збегла ўніз, зашаптала Пархверу:

— Гэты, на муры. І жанчына тут, ля брамы. Зараз ён, пэўна, кінецца сюды. Зведаў.

— То выпускай...

Скручаная жанчына безудзельна глядзела ў зямлю. Яна сядзела на траве. Як толькі Пархвер кінуў яе, яна села: не трымалі ногі. Твар быў нібы здраўнелы. Вакол вачэй — сінія цені. Ігумення пакасілася на яе:

— Яму ў рукі?

— Чорт з ім. Абодвух і захопяць.

— А як не? А як выкруціцца ды прыскочыць сюды?

— Мур!

— Мур з дзікага каменю. А гэты спрытняга...

— Пускай, кажу,— Пархвер быў белы ад трывогі.

— Не,— уладна адсекла тая.— Трэба паглядзець, што і як. Павялі ў вежу. Адчынім вонкавую браму. Калі схопяць — выпусцім. А як па-мойму, дык выпускаць не трэба. Трэба выбірацца адсюль. Ходам. Ён выводзіць у яр. Крымчакі туды не рызыкнуць — нетры. А там заўсёды чакаюць коні.

— Загаду не выканаеш,— раззлаваўся волат.

— Лепей не выканаю. Лепей самому Лотру ад-

дам — хай робіць, што трэба. Яму лепей ведаць. Спіхнуць з рук, і хай сам разбіраецца. А як выпусцім, як аддамо, ды яны дзівам нейкім уцякуць, схаваюцца — то што тады? Мне — духоўны суд ды, у лепшым выпадку, каменны мех да смерці. А ўжо табе ўздыхальні не мінуць. Як пакароцяць цябе,— яна змерала вокам,— дзюймаў на пяць-шэсць — чым тады заспяваеш?

Пархвер пацёр шыю. У гэты момант зноў прагучаў адчайдушны крык:

— Хрыстос!

І хаця Анея нічога не чула — гэты крык нібы вярнуў ёй прытомнасць. У вачах мільганула жывая цікаўнасць. І нечакана жанчына нібы ўзвілася:

— Ю-рась! Хрыстос! Хрысто-ос!

Пархвер кінуўся да яе, падхапіў на рукі, бегма памчаў да вежы. Ігуменя трухала за ім.

— Хрыс...

Пархверава далонь заціснула не толькі яе рот, але і ўсё аблічча.

...Шкаляр на муры, пачуўшы крык, выпрастаўся. На хвіліну вочы зрабіліся дзікія.

«Пачулася? — падумаў ён.— Яна?.. Ды не, ніхто не крычыць. Цішыня... Пачулася... І як гэта я нічога не забыў?»

Ён урэшце адчуў, што сілы вярнуліся. Унізе ўсё яшчэ мітусіўся натоўп, кіпела звалка, гучалі немыя крыкі.

Зрынуты Іуда, усё яшчэ з зямлі, усё яшчэ перацiснутым голасам кінуў:

— Пакідаеш нас?

Замест адказу Юрась пабег па сцяне. Спыніўся.

— Кладзі-іся! — несамавіта закрычаў ён.— Хто свае — кладзі-ся! Усе! Ляжы ціха!

Гэта быў такі крык, што яго пачулі нават сярод шалёнай какафоніі бойкі. Большасць з непаразуменнем.

— Кладзіся!

Людзі пачалі падаць тварам на зямлю. І тады Хрыстос моцным ударам нагі скінуў уніз адну фігуру святога, вялікі вулей з доўбленай ліпы.

Вулей ляснуўся ўніз, раскалоўся, нібы на пару ночваў. Вываліліся круглыя рэшаты вашчыны. І адначасова з разбуджаным натужным гулам узвіўся ўгору дымок.

Хрыстос бег па муры, разумеючы, што спыняцца нельга: заядуць да смерці. Бег і штуршкамі нагі скідаў вуллі. Святыя павольна хіліліся, пасля дзяўблі носам і, набіраючы хуткасць, падалі, разбіваліся. І ўсё гусцей і гусцей было ў паветры ад «дыму», і ўсё гучней і гучней звінела, гудзела, раззлавана гнева-лася паветра.

Ён бег і скідаў, бег і скідаў... Кацярыну... Ган-ну... Міколу... з люлькай... Самога сябе, драўля-нага.

Нехта закрычаў унізе. Пчолы знайшлі ворагаў. Яны не чапалі тых, што ляжалі нерухома. Яны раямі кідаліся на тых, хто рухаўся і цягнуў і хапаў, чые коні скакалі ў паветры.

Немы лямант. Нехта адпусціў паланянку, зама-хаў, нібы млын, рукамі. Завыў Тумаш, трапіла і яму. Гэта карысней, чым ісці на аркане... Яшчэ ўдар нагою. Зрабіў свечку адзін конь, другі, трэці. Яны пачалі шалёна кідацца, гігатаць, збіліся ў поўную жаху чараду.

Узляталі і ўзляталі чорныя, як хмара, раі. Татары пачалі кідаць палонных, адмахвацца, круціцца. Юрась убачыў, што галовы ў некаторых ужо нагад-ваюць рухомы жывы шар.

Вызваленыя кінуліся да ставоў, пачалі змаху ска-каць у іх, ныраць.

Знізу ляцеў ужо не галас, а рык. Адзін, другі, трэці ляснуўся долу з шалёнага каня, што перакінуў-ся на спіну, каб пазбавіцца ад укусаў.

Коннікі ўжо вылі.

Хрыстос, выскаліўшыся, трос уздзетымі рукамі ў паветры:

— Салодкага захацелася! Ану, мядку! Не любіш, сэрцайка?

Зразумеўшы, што ўсё скончана, коннікі пачалі адрывацца ад атрада. Хутка ўся зграя шалёна скака-ла прэч, цягнучы за сабою пчаліны вэлюм. Ён віўся, налятаў туманнымі струменямі, гудзеў, адлятаў і на-падаў зноў.

Коні імчалі ўтрапёна. І то адзін, то другі крымчак падаў з каня.

— Вось вам інвазія! — крычаў Хрыстос.— Не баб нашых цалуйце! Пацалуйце пад хвост пчале!

Ён скакаў на муры і ледзь не істэрычна выў, выў,

як шалёны. Палёгка і адчуванне небяспекі былі такія, што можна было ўвогуле звар'яцець.

...Пачуўшы параможны крык, ігумення таксама закрычала:

— А гаварыла ж табе! Ну, у вежу! Вось бы і выпусцілі. Цягні! Хутчэй!

Распятая на браме Магдаліна бачыла гэта праз вочка і, аднак, не магла нават клікаць на дапамогу. Хто б пачуў яе ў гэтым дзікім харале радасці? Не ўжо, нічога не зробіш. Канец.

Ляснуў за ўцекачамі цяжкі бронзавы завал. Загудзелі медныя дзверы. Магдаліна асела на калені, павольна, у глыбокай непрытомнасці ўпала на зямлю.

Гэта быў канец. На паплаўцы дабівалі татар, лавілі перапалоханых коней, якія дзіка гігаталі і кідаліся туды і сюды. Крычаў на ўсіх шалёна Хрыстос:

— Лаві іх! Ды хутчэй вы, чэрці, дальбог! Давай, давай! Яны гэтага так не пакінуць.

Манашкі стаялі ўбаку. Сумныя.

— А мы як? — спытала тая, што заігрывала з Юрасём.

— Любачкі,— сказаў шкаляр,— у другі час, самі ведаеце, вы на той свет і мы ўслед. А зараз нельга. Яны сюды праз гадзіну такую сілу нагоняць... І сцягнуць з вас і нас скуры ды нацягнуць на барабан ці кастрою наб'юць... А вам з намі — ніяк нельга. Тут на конях скакаць трэба... Унь у вас вежы непрыступныя... Тая унь.

— Тая чамусьці замкнёная.

— А тыя?

— Тыя адчыненыя.

— То хіба татарын конны туды ўзлезе? Першыя байніцы — дзесяць сажняў ад зямлі. Прыпасы ёсць?

— Ёсць.

— То бяжыце туды, замкніцеся, ніжнія байніцы заторкніце ды сядзіце сабе ціхенька. Пераседзьце бяду. Не бойцеся. Яны штурмаваць не майстры. І доўга яны тут не будуць.— Юрась весела скаліўся.— Яны — на хапок. Налятуць, нарабуюць, спаляць, накладуць ды назад. Больш за тыдзень у адным месцы не бываюць.

Яму падвялі каня, ён скочыў у сядло. Убачыў, як

нясуць непрытомную Магдаліну, як садзяць на каня проста ў абдымкі Тумашу.

— Ну, таечкі, хутчэй.

— Дай хаця пацалаваць цябе, божа,— сказала сумна гарэзлівая.— Цудатворца ты наш. Упершыню я ў цябе паверыла, сокал.

— Ну ўжо і сокал. Варона.— Ён узняў яе, з сілаю пацалаваў у вусны і паставіў на зямлю.— Бяжыце, дзеўкі! Хлопцы, за мной!

Узялі ўнамёт. Закурэў пад нагамі пыл. Здрыганулася ад пошчаку дарога.

Каб нехта зірнуў у гэты час на зямлю з вышыні птушынага палёту, ён бы ўбачыў тры кавалькады, якія разбягаліся ў розныя бакі ад замкнёнага на ўсе завалы і нібыта бязлюднага кляштара.

Адна (невялікая — два коннікі і два завадныя коні) бегла ў бок Гародні глухімі ляснымі дарогамі. Імчалі мужчына і жанчына. На сядле ў мужчыны нерухома ляжаў бездыханы скрутак.

Другі атрад таксама нібы ўцякаў, але ў процілеглы бок. Там разважалі так: калі крымчакі і пагоняцца, то ніхто не падумае гнацца туды, дзе блукаюць іхнія ж атрады. Імчаў з намерам аддаліцца ад кляштара, а там, звярнуўшы, накіравацца страшэннымі наднёманскімі пушчамі на поўнач. Коні ляцелі, як страла з цецівы. У гэтай кавалькадзе на адным сядле таксама быў нерухомы скрутак.

І, урэшце, трэцяя кавалькада, далёка абагнаўшы другую, ехала ледзь не па паралельнай з ёю дарозе. Успененыя, загнаныя, коні ішлі ступою. Коннікі былі фантастычна страшныя. І без таго шырокія морды сталі ненатуральна, яшчэ ў два разы шырэйшыя. І без таго вузкія вочы сышлі на нішто. Ехалі ўсляпую, пакладаючыся на коней. Галава атрада зрэдку падымаў павека пальцам і глядзеў на дарогу.

Хрыстос і не думаў увязвацца ў агульнае бязладдзе. Ён не ведаў аб зговары бацькоў царквы і мурзы Сяліма. А каб і ведаў, быў бы ў непаразуменні наконт таго, што здолее ён з дзесяткам людзей, калі ў бяздзейнасці вялізнае войска.

Добра, што шкуру паспелі ўратаваць. Прыемна, што ўратавалі жанчын. Яшчэ лепей, каб удалося ад-

шукаць Анею — усё адно здрадзіла ці не. А наконт астатняга — што ж... Страшэнна, вядома, шкада людзей. Але што можа зрабіць бадзяга з тузінам паплечнікаў? На гэта ёсць войска. Вялізнае, магутнае войска Гародні. Яму будзе цяжка — устане войска Беларуска-Літоўскага княства. Хто яго перамагаў дагэтуль? Крыжакі? Батый калісь? Іншыя? Ого! Вось чакай, збяруцца толькі, устануць — паляціць з татарвы пер'е. Рэпу будуць капаць носам. А ён — маленькі чалавек; яму трэба выжыць, зберагчы людзей, якія спадзяюцца на яго і за якіх ён адказвае. Магчыма, знайсці сваю жанчыну.

Трэба сяк-так дажыць жыццё, раз ужо трапіў у гэты гной. Калі ўбачыць, што недзе б'юцца, бокам аб'едзе.

...Здарылася, аднак жа, зусім не так. Праз нейкія там пару гадзін ён трапіў у такі пераплёт, якога яшчэ не бывала ніколі ў ягоным жыцці.

...Мінула кароткая яшчэ, на дзве птушыныя песні, ноч самага пачатку жніўня. Пачало днець. Сонца вось-вось павінна было ўзысці. Перадранішні ветрык блукаў па някошаных травах.

Трэба было даць коням адпачыць і хаця сяк-так папасвіць іх. Жывёл не рассёдлывалі. Скінулі толькі саквы.

Спыніліся на самай вяршыні ўзгорка. Спускацца ўніз не варта было. З вышыні яшчэ здалёк можна было заўважыць набліжэнне арды і ўцячы. Лес, у які павінны былі яны звярнуць, каб прабіцца на поўнач, быў — рукой падаць. Туды яны і паскачуць, як з'явіцца небяспека.

Перад імі была лагчына. Па ёй вяла, даволі блізка набліжаючыся да грады ўзгоркаў, прасёлачная дарога. На поўдні, дзе магла быць небяспека, дарога вынырвала з пушчы за нейкіх там пяцьсот сажняў: часу, каб уцячы, хопіць па горла.

Магдаліну знялі з каня, але прывесці яе да прытомнасці ніяк не ўдавалася. Узрушэнне было такое глыбокае, што непрытомнасць яе перайшла ў глыбокі, непрабудны сон. Дзьмулі ў нос, злёгку хлопалі па шчаках — нічога не памагала. Юрась загадаў кінуць. Апрытомнее.

Паставілі на варту Іуду, а самі раскінуліся ў траве, каб хаця трохі адпачыць самім ды, можа, хаця хвіліну

прыдрамнуць пасля бяссоннай ночы. Паступова ўсе змоўклі. Задрамаў і Хрыстос.

Сніў ён, што плыла ад далягляду нейкая няясная маса. Пасля яна наблізілася, і ён са здзіўленнем убачыў, што гэта людзі ў чыстых белых адзеннях. Яны ішлі то паасобку, то па два, а то і даволі вялікімі купкамі, але не ў натоўпе, таму што між імі плыло бясконцае мора жывёл. Людзі ветла гаварылі між сабою, але здзіўляла не гэта, не адсутнасць гневу, зайздрасці, нервовай варожасці, а другое. У чарадзе ішлі побач вясёлыя, усмешлівыя ваўкі і глядзелі сонечнымі сабачымі вачыма на какетлівых аленяў і махалі ім хвастамі. Каля ўзбочыны сабака гуляў з катом: рабіў выгляд, што ідзе бокам, па сваёй справе, а пасля кідаўся, хапаў за азадак і мякка «жваў». Кот, лежачы на спіне, млява, мяккімі лапамі, адбіваўся. Ішлі ягняты і львы. Апошніх ён адразу пазнаў. Зусім бы ў кнігах. Вельмі падобныя да сабак.

Далятаў тупат ног, бэканне, нейкі незразумелы рып.

А людзі ішлі і дружалюбна падымалі да яго руку, на знак прывітання, і смяяліся. У іх былі дзівосныя светлыя твары, зусім не такія, як даводзілася бачыць дагэтуль. Не анёлы. У анёлаў халодныя вочы. У гэтых вачах была любоў, а ў жылах — гарачая плынь крыві.

Ён страшэнна любіў іх. Гэтай хвілінай ён страшэнна любіў іх. Такімі нельга было ўладарыць, такіх нельга было падманваць. Ён вельмі, ён страшэнна любіў іх, аж сціскалася сэрца. Ён сам здзіўляўся, як ён усім на свеце гатовы ахвяраваць дзеля іх, дзеля такіх вось.

І ехала на велізарным, падобным на сабаку, ільве Анея. Чамусьці не глядзела на яго, і ён спалохаўся, што не заўважыць, і кінуўся да яе...

Рып, галасы і крык жывёлы былі не ў сне. Ён убачыў на грабяні скамянелую постаць Іуды, глянуў і жахнуўся.

Бег натоўп. Знясілены, высnажаны, ён, праўдзівей, хацеў бегчы, ды не мог. Нібы ў жахлівым сне.

Гналі чароды: няшчасных кароў, запыленых авечак. Дзяўчынка ледзь перастаўляла ногі, несучы на руках кацяня. Цягнулі нейкія каляскі, штурхалі тачкі з мізэрным скарбам. Ехалі вазы і рыпелі, рыпелі, рыпелі.

Брудныя, пыльныя, многія ў лахманах. Зноў тое, што заўсёды бачыў дагэтуль: боль, гнеў, асуджаная пакора, тупасць. Ля ног машынальна пераступаюць сабакі з высалапленымі языкамі. А гэтыя ідуць, такія заўсёдныя, такія брудныя і непрыгожыя. Вочы. Тысячы абыякавых вачэй.

І ўсё ж у гэтых вялікіх ад пакуты вачах было столькі чалавечага, столькі ад т ы х, што ў Хрыста ўпала сэрца. Гэтыя лахманы, падобныя на абрыдлівы брудны кокан. Якія матылі хаваюцца ў вас?!

Ён глядзеў. Многія слізгалі па ім пакутным позіркам і зноў ішлі.

— Што ж ты не даў знаць?

— А чаго? — голас у Іуды быў суровы.— Я адразу ўбачыў, што не татары. Чаго было будзіць стомленых? Каб паглядзелі?

Вочы ягоныя пачарнелі. Змрочныя вочы.

Прачнуліся і другія. Таксама падышлі. Натоўп не звяртаў увагі на людзей, што на ўзгорку. Рэдка хто кідаў позірк.

Магчыма, мора так і праплыло б паўз іх, але ў ім ішлі тры старыя знаёмыя Хрыста, тры «сляпыя» прайдзісветы, і адзін з іх заўважыў яго, штурхнуў сяброў.

— Ён,— сказаў нехта з іх пасля роздуму.

— А што, хлопцы, ці не свярбіць у вас тое месца, куды ён тады...— другі махляр пачухаў азадак.

— Ды не было ў яго, пэўна, больш.

— Кі-інь. Ну, не было. Дык баяцца павінен. Украсці, а даплаціць... Ну, як хочаце. Я не з міласэрных.

Астатнія ў знак згоды схілілі галовы. І тады махляр шалёна і прарэзліва залямантаваў:

— Браты ў го-ры! Лю-удзі! Ніхто нам не дапамога! Бог толькі адзін!

— Вось ён! — паказаў другі.— Ад слепаты вылечыў мяне!

— Ён Гародню ад голаду ўратаваў!

Людзі пачалі запавольваць хаду. Хто мінуў — аглядаўся назад. Заднія напіралі... Шалёна крычала старая, трымаючы за вяроўку, наматляную вакол рог, карову:

— Гандляроў выгнаў! Карову вось гэтую мне даў! Глядзіце, людзі, гэтую!

— Не трэба далей ісці! Ён тут! — загарлаў нехта.
— У Гародні — чулі?..

Братчык раптам убачыў, што натоўп зварочвае з дарогі і плыве да ўзгоркаў. Ён чуў крык, але словаў разабраць не мог. І толькі пасля нібы прарэзаліся з агульнага галасу паасобныя крыкі:
— Ён! Ён! Ён!
— Гэта яны чаго? — спытаў дурыла Якуб.— Біць будуць?
— А табе што, у першы раз? — Сымонавы вочы шукалі коней.
— Жах які,— сказаў Тадэй.— Хвалі, што пеняцца сарамотамі сваімі.
Раввуні пацiснуў плячыма.
— Гэта азначае — прыйшоў час,— сказаў Раввуні.
Натоўп набліжаўся, паступова аточваў іх. І раптам стогн, здаецца, скалануў узгорак:
— Божа! Божа! Бачыш?!
Цягнуліся чорныя далоні, худыя жылаватыя рукі. І на закінутых тварах жылі вочы, у пакуце сваёй падобныя на вочы т ы х, у сне.
— Прадалі нас! Рада царкоўная з татарынам спелася!
— Войскі стаяць... Не ідуць!.. Не ратуюць!
— Адзін ты ў нас застаўся!
— Зброі!
— Прадалі... Хаты спаленыя.
Тысячавокі боль знізу поўз да шкаляра.
— Забітыя яны ўсе! Стань галавою! Ратуй!
— Людзі! Што я магу?..
— Ратуй нас! Ратуй!
— ...Я жабрак, як вы, бяссільны, як вы.
— Пакажы сілу тваю! Дзяцей пабілі.
Клікалі вочы, рукі, раты.
— Я — самазванец! Я — махляр!
Але ніхто не чуў, бо словы танулі ў агульным лямантце.
— Ратуй! Ратуй!
— Што рабіць? — ціха спытаў Раввуні.
— Нічога,— сказаў Фама.— Тут ужо нічога не зробіш.

І Братчык зразумеў, што тут сапраўды нічога ўжо не зробіш. І ён узняў рукі і трымаў іх над крыкам, а пасля над цішынёю.

Ён памятаў, якімі ён бачыў іх у сне.

Увесь дзень і ўсю ноч кіпела, віравала тысячарукая чалавечая праца. Згодна з невядомым пакуль планам Братчыка людзі прыйшлі на гэта возера, з трох бакоў абкружанае лесам. Вялікае, плыткае і топкае возера са шматлікімі астраўкамі.

На самым вялікім з астраўкоў быў калісьці замак Давыдавічаў-Кароткіх, нашчадкаў колішніх пінскіх князёў. Замак даўно быў разбураны. Заставалася толькі затравелая дарога праз лес. Яна калісьці была засыпана каменем, таму і не зарасла.

Сутыкнуўшыся з возерам, дарога ўспаўзала на штучную дамбу і ішла возерам яшчэ сажняў трыста, пакуль канчаткова не абрывалася. Калісьці, як замак яшчэ быў цэлы, людзей і коней перавозілі адсюль да вострава на вялікіх цяжкіх плывіцах. Цяпер і плывіцы дагнівалі па берагах ды на дне. Дый сама дамба зарасла па абодвух схілах вялікімі ўжо меднаствольмі хвоямі, чорнай вольхай, дубкамі і хуткімі ў росце волатамі ясакарамі.

Натоўп займаўся тым, што цягнуў дамбу яшчэ далей. Мільгалі рыдлёўкі, рыпелі коламі вазы з пяском, сыпалася зямля. Угразаючы ў глеі, людзі цягнулі вярэйкі з зямлёй, трамбавалі. Кіпела шалёная праца. Усе верылі: не паспееш зрабіць справу ў тэрмін — канец. За суткі дамбу працягнулі яшчэ сажаняў на дзвесце. Да астраўка заставалася яшчэ столькі, колькі было зроблена, з невялічкім гакам. І тут работу спынілі. Пачалі забіваць у дно палі з роўна зрэзаным верхам.

Толькі тут ачуняла Магдаліна. Загадала пакліцаць Хрыста. Замест яго прыйшоў цыган Сымон Кананіт, сказаў, што Хрыстос, Фама, Іуда і яшчэ некалькі чалавек ловяць дарогаю ўцекачоў і прымушаюць іх ісці ў Крыцкае ўрочышча, дзе сабраўся ўжо сякі-такі народ: рэшткі разбітых вартавых атрадаў з маленькіх гарадкоў, узброеныя вольныя мужыкі, дробная шляхта... Магдаліна ахнула, даведаўшыся, колькі была ў непрытомнасці.

— Ды ты разумееш, што Анею яны з кляштара павезлі?!

— Анею? Позна. Уквэцаліся ў такую саладуху, што ці будзем жывыя. Застанемся на зямлі — знойдзе. А не, то і Анея і іншыя будуць нам без патрэбы.

...Хрыстос сапраўды тым часам перапыняў уцекачоў. Наскроб трохі людзей. Ганцы з возера данесілі, што справа ідзе, але да канца яшчэ даволі далёка. Ганцы з татарскага боку спавяшчалі, што Марлора ідзе, што ён блізка, што частку коннікаў, на чале з Сялімам, аддзяліў і паслаў на Волхаў: гнаць быдла дзеля катлоў, коней дзеля падмены і паліць дарогаю вёскі, гарадкі і крэпасці. Хрыстос, пачуўшы аб падзеле, пачаў лаяцца так, што ганец з павагі толькі галавою круціў... Пасля ён сеў і думаў некалькі хвілін. Хрыстос надумаўся. Паклікаў распарадчыка, змрочна сказаў:

— Хутчэй забівайце палі. Не паспяваем... Таму ты, ганец, скачы да Марлоры, нясі яму вось жменю зямлі.

— Ты што? — збялеў ганец.— Зямлёй кланяцца?!

— Лепей прыгаршчай, чым усёй, ды яшчэ з тваёй шкураю ў дадатак. Скажы, што ваяводы разбегліся, што папы моляцца, што не маюць яны права гаварыць, калі сам бог тут... Скажы: хай возьме сорак чалавек і чакае мяне на Князёвым кургане. Скажы: я вазьму трыццаць воінаў. Слова даю.

— Ды нас дваццаць восем,— сказаў начальнік варты.

— Са мною Фама і Іуда... І я прыйду да яго. Будзем гаварыць. А войскі нашыя хай будуць далёка за нашымі спінамі. За трэць дня дарогі. Ну, давай.

Ганец пусціў белага наўскач.

## Раздзел XXXII

# МЯСА ПА-ТАТАРСКУ, АБО ПАДСТАЎ ДРУГУЮ ШЧАКУ

> У другі раз я хацеў падцерці зад кошкай, але яна падрапала мне абодва паўшар'і.
>
> *Рабле*

Курган быў утаптаны стагоддзямі да каменнай цвёрдасці, зарослы пушыстым палыном, лямцаватым сабачнікам, укрыты сінімі зоркамі цыкорыя і ўвесь застаўлены чартапалохамі, што тапырылі свае стальныя дзіды і высока ўзносілі малінавыя шапкі.

Вельмі стромы, нягледзячы на ўзрост, ён высока-высока ўзвышаўся над гэтым роўным, амаль не паплямаваным дрэвамі, вялікім аполлем сярод лясоў. Куды ні зірнеш — роўнядзь. Толькі вельмі далёка, на самым даляглядзе, дымна сінелі бясконцыя лясы.

— Якшы,— сказаў Марлора.— Абшар. Коням ёсць дзе пасвіцца, воку ёсць куды глядзець. Мы падумаем. Можа, мы ў наступны раз прыйдзем і застанемся тут. Тады мы прымусім вас высечы лясы, гэтую брыду, дзе няма куды глядзець, дзе лёгка хавацца баязліўцам.

Дзве групы кальцом сядзелі на кургане. Стракатая, смугастая група татар і строгая група мясцовых людзей: шаломы ў руках, белыя адзенні, цьмяны бляск кальчуг. У цэнтры, адзін супраць аднаго, сядзелі Марлора і Братчык.

Хрыстос глядзеў на грузлага хана, на ястрабіныя яго вочы і думаў, што вось на гэтым кургане сядзяць звычайна сокалы, а сёння, сагнуўшы іх, уладкаваўся стары падлаед,воляй лёсу нарочаны імем бога.

— Не кажы,— адказаў ён.— Ну, а калі мы не паслухаемся? Калі нам дарагі гэты лес?

— Кх! Мы гаворым і гаворым, але ў нас, відаць, нічога не будзе. Давядзецца ісці з крывёй і попелам. Бачыць алах, я не хацеў гэтага. І я не ведаю аднаго: нашто ты кланяўся мне зямлёй.

— Я не кланяўся. Я паслаў табе жменю зямлі.

— Ну-у...

— У кожнай рэчы, створанай алахам, ёсць некалькі сэнсаў,— сказаў Братчык.

— Які сэнс у гэтай жмені, няверны?

— Некалькі... Магчыма, гэта прапанова задаволіцца гэтай жменяй і, пакуль не позна, адысці...

— У мяне чатыры цьмы магутных людзей. У цябе? Далёка з-за тваёй спіны прыйшоў чалавек і сказаў, што ў цябе ледзь набярэцца адна цьма, без мячоў, амаль без кальчуг... Тут, у трох гадзінах дарогі, у мяне тры цьмы; цьма блукае па вашых гарадах, і вядзе яе сын мой. Нават калі за цябе бог або ты сам, калі людзі кажуць праўду, вашых сем тысяч... Ха!.. Кожны з іх будзе біцца супраць пяці, а бог за таго, у каго сіла... Ну, якія яшчэ сэнсы ў гэтай жмені?

— Ты можаш з'есці яе, калі будзеш клясціся, што ніколі больш не прыйдзеш сюды. Можаш засыпаць ёй свае вочы, каб не бачыць, як уцякаюць твае чатыры цьмы. Гэта будзе. Ты сам ведаеш.

Хрысту абавязкова трэба было раззлаваць Марлору. Пачварна, да жывёльнай ярасці раззлаваць. І не супраць каго-небудзь, а супраць сябе. Іначай прапала праца, іначай зноў пажары і смерці. Трэба было давесці гэтую тушу да ўтрапення і сляпой ярасці — тады ёсць невялічкі шанс, што справа выгарыць.

І яму пачынала ўдавацца гэта. Бурая, пасечаная мячамі, скура на абліччы Марлоры пачынала нагадваць пераспелы памяранец.

— Бессаромнае нахабства — шчыт баязлівасці,— сказаў хан.— Я свет прайшоў, і не праціваліся мне. А што можаце зрабіць вы, людзі палахлівай веры, зайцы з непадвоенымі капытамі? Схавацца ў лес? Паставіць маю пятку, пятку сілы, на шыю сваёй пакоры? Я ў вас сорак гарадоў спаліў. Ясак браў. Рабоў браў. І толькі адзін раз бачыў ворага ў твар.

Юрась з вонкавым здзеклівым спакоем сказаў:

— Ты казаў: «Бог за таго, у каго сіла». Я — за іх. Ты кажаш: «Толькі раз бачыў ворага ў твар». А я яго бачыў у спіну. Тваіх воінаў. Ты кажаш: «Пяцёра вашых супраць аднаго нашага». А я нядаўна разграміў ля манастыра твой атрад... Дык вось я ўстаў супраць дзвюх тваіх соцень і пагнаў іх, як пацукоў.

Марлора прыўстаў:

— То гэта быў ты? Гэта быў ты, хлуслівы чужынскі бог?

— Бачыш,— сказаў Юрась.— Вось ужо другі раз ты бачыш нас у твар. Сцеражыся трэцяга разу. Бога нельга выпрабоўваць тройчы.

— Гразыш. Дзіва чакаеш, тутэйшы Мухамед? Ны чакай. Дзіва бяруць у рукі моцныя мужчыны. Яны ніколі не злазяць з каня, у іх плоскія зады.

— Зручна, як выспятка даваць будзем.

Хан ужо амаль тросся. І раптам убачыў спакойны, дапытлівы позірк Хрыста. Той нібы вывучаў абрыдлівую, але цікавую жывёліну. І хан стрымаў сябе:

— Ці табе чакаць дзіва, вастразады? Багі вашыя заплылі золатам, як бараны лоем. Ты — бог?

— Накшталт таго. Часова.

— Цікава мне будзе паглядзець, якая ў бога кроў.

Хрыстос дастаў нож і разануў ім сябе па руцэ. На запясці.

— Вось,— спакойна сказаў ён.

— Тц-тц-тц,— сказаў хан.— Як ва ўсіх.

— Як ва ўсіх. І добрая, і злая, калі пакрыўдзяць. Таму бяры ты свае сорак тысяч грабніц для падлы дый бяжы. Таму што я сваю кроў магу паказаць, але не табе праліваць яе.

Марлора ўздзеў вочы. Ён гневаўся больш і больш.

— Вы — баязліўцы, вы — людцы. Мы гналі вас. Не паможа табе тваё дзіва, гнойны робак, сын сабакі. Хутка ты будзеш лямантаваць на палі, як ужо раз лямантаваў у Ерусаліме, і ні людзі, ні бог твой за цябе на заступяцца! Убачыш ты яшчэ ганьбу і попел зямлі сваёй.— У глотцы хана клекатала, каламутнай плеўкай засланіся вочы.— Вы не ўмееце бараніцца. Ханы і мулы вашы — калоцяцца, як мядузы.

— Затое люд цвёрды, як зямля вось тут,— і Хрыстос пастукаў пяткай па закляклай курганнай зямлі.

— Людзі... Людзі вашы цягнуць кожны ў свой бок. Няма і не будзе ў вас такога, як у нас.— Ён прыўстаў на калені і вадзіў каламутнымі вачыма вакол.— Вось глядзі! — І ён ляснуў у далоні.— Джанібек.

Моцны, не стары яшчэ джура[1] зрабіў крок наперад. Не схіліўся, не кульнуўся ў ногі, нібы разумеў, што яго чакае, і ведаў, што перад гэтым усе роўныя

[1] Вартаўнік, воін для даручэнняў.

і нават ён, джура, ідучы на гэта, стае побач з ханам.

— Але, наймудрэйшы,— спакойна, нібы па той бок, глядзелі ластаўчыны крылы вачэй.

— Давядзі сваю адданасць ханству і мне.

— Так, тварам падобны поўні.

Міжволі халадзеючы, стаялі на схіле воіны Хрыста і ён сам. Джанібек спакойна аддаў суседу тул, шчыт, раскруціў аркан і скінуў кушак, сцягнуў кальчугу. Пасля куцапа пайшоў з кургана. Марлора глядзеў на яго з гонарам, і вецер варушыў вэлюм вакол ягонай місюркі.

Джура сышоў у поўнай цішыні. Зняў крывую шаблю — ялмань, уторкнуў яе канцамі ў зямлю. Моцна ўторкнуў. І пасля — ніхто і слова сказаць не паспеў — кінуўся на яе жыватом, націснуў, з сілаю праехаў ад пашырэння на канцы ляза ледзь не да самага эфеса.

Лязо усё глыбей уваходзіла ў цела, і ён апускаўся. Хрыстос стаяў белы як папера.

— Бачыш ты, жаўтавухі?! — трыумфаваў хан.

Джанібек раптам закрычаў, грызучы зямлю.

— Не забудзь мяне ў раю алаха, заўсёды слушны! Не абдзялі мяне, калі прывядзеш туды абраны твой народ!

Вочы ў хана ззялі. Ён пачакаў яшчэ трохі і сказаў суседу Джанібека:

— Досыць. Ён ужо знойдзе адчыненай браму эдэма. Апусці дзеля друга шаблю літасці.

Той няспешна пайшоў па схіле. Пасля знізу даляцеў шалёсткі ўдар.

— Ну,— звычайным голасам сказаў хан.

Хрыстос ужо справіўся.

— Што ж, адным ворагам меней.

— Вось чым мы перамагаем,— выскаліўся хан.— Ёсць такое ў вас? Можа быць?

— Крый божа нас нават ад перамог, калі яны стаяць на такім. Калі ў нас будуць гэтакія перамогі — гэта канец. Яны ў нас будуць іншыя або ніякія... А за гэта твой стан я зраблю ўладаннем вожыкаў і балотам.

Спакойны гнеў кіпеў у ягоных вачах. Вочкі Марлоры ўсміхаліся, твар нібы замасліўся.

— Тц-тц-тц. Нядобра гаворыш. А як жа «ворагаў любіць»? А закон твой што гаворыць? — Хан павяр-

нуўся адной шчакою: — Хто ўдарыць цябе ў правую шчаку тваю...— і Марлора, нібыта атрымаўшы адзін удар, павараціў галаву.

— Падстаў яму і другую,— спакойна сказаў Хрыстос.

І раптам — ніхто не паспеў заўважыць — ён нанёс хану скрышальны ўдар у зубы. Ляснулі сківіцы. Марлора пакаціўся з кургана.

Крымчакі схапіліся за шаблі. Але вакол Юрася ўжо трымцелі, накладзеныя на нацягнутыя аленевы жылы, пёрыстыя стрэлы.

— Вось так ты і будзеш ляжаць, дагары варонкаю,— сказаў Хрыстос.

Хан узняўся. Твар ягоны быў у зямлі, і нельга было не жахнуцца, гледзячы ў яго вочы. Джуры павесілі галовы, ведалі, што гэта, магчыма, апошні іхні дзень, бо сведкі ганьбы не павінны перажываць ганьбу.

— Гэй, хан! — сказаў Хрыстос.— Ты памятай, нельга гуляць з мяккай рысінай лапай. Не палохайся. Не кранём. Бяры арду. Ідзі проста на поўнач. Я цябе чакаю. Я трохі і адзін буду. Паспееш шкуру здзерці — тваё шчасце.

Людзі пачалі спускацца з кургана да коней. Пяціліся.

## Раздзел XXXIII

## МЕЧ І ДЖАЛА

> Татараве з вялікім лупем шлі... супраць каторых... ён, з малым людзем выправіўшы, народ паганскі за помашчю божаю неспадзявана паразіў і паграміў і лупы паабіраў.
>
> *«Кроніка Белай Русі»*

> Цяжка сумленнаму праціўна вадзе плываць.
>
> *«Кроніка Белай Русі»*

Дарога спускалася па спадзістым схіле і пасля ўваходзіла ў лес. Прыблізна пасярэдзіне рос на гэтым схіле вялікасны стары дуб. Хрыстос стаяў пад ім, задзёршы ўгору твар.

— Што, не відаць? Тумаш!

У дубе, на вышыні пяці сажняў, было дупло, а з яго тырчаў круглы, з адвіслымі шчокамі, твар Фамы. Вырачаныя вочы варочаліся. Здавалася, у дупле сядзеў вялізны пугач. Пасля гэты пугач свіснуў.

— З'явіліся. Кацяць сюды. Ты падбаў хады. Калі да пушчы, да дамбы схопяць — і айцец нябесны табе не паможа. Аднаму кепска.

Юрась рушыў уніз па схіле.

— Гэй, Юрась, коней яны пагналі. Хутчэй! Хутчэй!

Юрась ішоў павольна, як раней. Да лесу ад яго было недалёка. Да грады — сажняў дзвесце пяцьдзесят.

І тут арда з'явілася на грабяні грады. Адзін коннік... Дзесяць... Шмат, да жудасці шмат коннікаў. На грабяні нібы вырас лес.

Фама ў дупле напружыўся (твар стаў, як сліва), сціснуў кулакі і заплюшчыў вочы: ён усё яшчэ часамі выпрабоўваў сваю веру, не мог забыць метэора. Пасля расплюшчыў вочы — арда была на месцы.

— Веры малавата,— ціха сказаў Фама.

І нібы ў адказ яму, сказаў Хрыстос:

— Сілы. Сілы малавата.

Ён павольна ішоў да пушчы. І вось спіною адчуў: заўважылі.

— Ага-а-а-а-а! — спявуча залямантаваў голас.

Шалёна закрычаў Марлора. Пасля раўнулі бубны, пачуўся ўсё нарастаючы аглушальны тупат; з гікам рынула лава.

Фама абамлеў: шкаляр ішоў павольна-павольна. Тумаш няверны не ведаў, што калі каго даганяеш плоймай, а тут бачыш, што ён, адзін, ідзе і не спяшаецца, нібы яму начхаць,ярасць пагоні робіцца вышэй за сілы таго, хто даганяе.

— Бярыце бога! — крычаў Марлора.— Бога бярыце!

Юрась увайшоў у лес. Знік. Каб Фама бачыў яго ў гэтую хвіліну, ён бы трохі супакоіўся. Бо чалавек, схаваўшыся з вачэй, раптам ірвануў з месца так, як не ўцякаў і Іосіф ад пажадлівай жонкі Паціфара.

У гэты момант ён з поспехам мог бы ўцячы ад стралы, пушчанай яму ў спіну.

Мільгалі дрэвы, імшаныя пятачкі, зарасці крушыны. Усё злівалася ў зялёную, стракатую мяшанку. У канцы кожнага прамога ўчастка дарогі ён запавольваў бег, пераходзіў на хаду (ніхто не павінен быў бачыць, што ён спалохана ўцякае), а пасля зноў паддаваў так, што ледзь не рваліся паджылкі.

А за спіною ўсё бліжэй нарастаў пошчак.

Ногі не трымалі яго, калі ён вылецеў на дамбу, убачыў з двух бакоў сінюю іскрыстую роўнядзь возера, а перад сабою — роўную стужку насыпу. Ён бег і цяпер, магчыма, нават хутчэй, бо выкладаў апошнія сілы, але ўвесь час азіраўся, каб пакінуць бегчы, як толькі яны з'явяцца.

Кожны сажань быў радасцю. Значыць, магчыма, не дагоняць, значыць, можа, і ўратуецца, не загіне.

І вось... выскачылі. Ён пайшоў спакойна, як раней. Разлік быў правільны. Ён выйграў некаторы час, пакуль лава перастройвалася на ўзлессі ў вузкі парадак, а цяпер, перад дамбаю, у змяю. Вось змяя ўсцягнулася на насып.

Ён азірнуўся якраз тады, калі нехта ўздымаў лук. Кепска! І тут жа ён убачыў, як Марлора ўдарыў таго раменнай камчой па галаве.

— Жыўцом браць! Шкуру з яго!..

Скакалі. Даганялі. Хрыстос ішоў, нібы не чуў іх.

І раптам Юрась спыніўся. Дамба канчалася, і наперадзе было люстра вады. Жах плеснануўся ў ягоных вачах.

Хан зарагатаў:

— Жыўцом!

Яны былі зусім ужо блізка. Яшчэ трохі і — як кінуць арканам. Адзін нецярплівы аркан упаў ад яго сажні за чатыры.

І тут Хрыстос павярнуўся, ляснуў сябе па азадку і, перажагнаўшыся другой рукой, спакойна накіраваўся ў свой спрадвечны шлях па водах. Ішоў далей і далей, нібы плыў у паветры. А на зрэзе насыпу стаяла прыгаломшаная арда.

Марлора залямантаваў у экстазе, укусіў сабе вялікі палец рукі і крывёю пачаў крэсліць на абліччы знакі.

— Мусульмане! Алах з намі! Тут плытка! У пагоню, браты!

Лава ўспеніла ваду. Сапраўды было плытка. Але яны рухаліся па даволі гразкім дне, а чалавек ішоў па зрэзах паляў, ледзь не па самай паверхні.

Настрой арды з гэтай незразумелай прычыны трохі падупаў, і ўсё ж арда даганяла. Глыбей... Глыбей... Пачалі вязнуць коні... І тут Хрыстос стаў.

— Марлора, а я адзін! Толькі зямля мая са мной! Чуеш?!

Ён чабарохнуўся ў ваду і паплыў. Уздзьмуты пузыром хітон плаваў на паверхні.

Плыў ён надзвычай хутка. З-за астраўка вывернулася насустрач яму падобная да пірогі плавіца. Човен слізгаў, нібы па масле. І тут Марлора зразумеў: нападуць на чаўнах.

Да берага было сажняў пяцьсот. Але дамба — вось яна, рукой падаць. А ў лесе няма людзей. Іначай крычалі б, клекаталі спецыяльна абвучаныя крэчаты на плячах у некаторых воінаў. І ўсё ж дарэмна ён зрабіў, што паткнуўся сюды. Нічога, вось яна, дамба. Шкада толькі, што бог уцёк. Нішто, нядоўга і яму... А ён, Марлора, за сваю абразу выпаліць усё на дзесяць дзён скачкі вакол.

— Назад! — крыкнуў ён.— На насып.

Арда павярнула. Пенілі ваду коні. На дамбе пагоншчык імкнуўся паварачваць слана. Нехлямяжы волат трубіў і пераступаў нагамі. З дзесятак коннікаў ужо вылезла на насып.

І тут Марлора з жахам убачыў, як на дамбу, бы ў страшным сне, пачаў падаць лес, які рос на схілах. Падалі медныя хвоі, срэбныя таполі, чорныя вольхі, відаць, загадзя падпілаваныя, ламалі сушняк, самі ламаліся. У трэску ўзляталі высока ў паветра кавалкі дрэва, шумела галлё. Праз некалькі хвілін уся дамба была як суцэльны непраходны завал. Ашалелы слон цяжка бухнуўся ў ваду, затрубіў, правальваючыся на багністым дне.

І тады коннікі, абцякаючы дамбу, угрузаючы, пачалі рвацца да такога далёкага берага. Коні падалі — нехта наторкаў у дно вострых альховых старчакоў, дый без іх на купінах і карчах сам д'ябал зламаў бы нагу... Крыкі, лаянка, гігатанне.

Людзі падалі і хапалі вады, бо коні падміналі іх.

Борсаўся ў вадзе, топячы коннікаў, баявы слон.

А з-за астравоў выходзілі новыя і новыя чаўны-пірогі з лучнікамі. Ляскалі цяцівы аб скураныя пальчаткі, стрэлы ляцелі роем.

І гэтыя людзі плылі між тымі, што ўгразалі, і білі, білі на выбар. Ім няма чым было адказаць. Падмоклая цеціва — не цеціва.

Хан з жахам бачыў, як адна за адной знікалі галовы. Ён разумеў: б'юць бязлітасна, не шкадуючы нават тых, што завязнулі, бо іх мала, вельмі мала. Адзіны выхад быў — вырвацца на бераг.

Ён быў ужо блізка. Значная частка арды паспяхова прарывалася да яго. Між імі і берагам ляжала не такая ўжо і шырокая паласа, густа зарослая сітнікам, жоўтай кубышкай, чаратамі і белымі гарлачыкамі.

Марлора крычаў, махаў шабляй. Яму ўдалося збіць арду ў адносны парадак. Заднія кідаліся на чаўны з дзідамі, жыццём плацячы, каб даць магчымасць астатнім вылезці на сухое.

Белыя гарлачыкі. Хан імкнуўся да іх, як да жыцця. Недзе там, за імі, была цвёрдая апора дзеля конскіх капытоў... Конь раптам асеў. Марлора вызваліў ногі і, кепска плаваючы, ухапіўся за хвост пярэдняга каня.

Намацаў нагамі грунт, стаў.

І тут з-пад гарлачыкаў, адкідаючы пустыя сцеблі сітніку, выраслі, усталі гурмы. Нібы сама вада нарадзіла іх. Іх было, як чарота на гэтай вадзе.

Паляцелі каменні з прашчаў. Прашча не лук, яна не баіцца вады. Град каменняў. Каменны дождж, бы ў каране. Воіны падалі, ашалелы слон цяпер, можа, звар'яцеўшы, хапаў сваіх жа, круціў у паветры і падкідаў высока ў неба.

Вада пенілася пад камянямі. Марлора ўбачыў, што частка коннікаў усё ж прарвалася, але ён ужо не верыў і таму не здзівіўся, калі пушча адказала дажджом стрэл.

А пасля ён убачыў, што над ім высіцца, стоячы ў чаўне, гэты Хрыстос, той, хто ўпершыню ў ягоным жыцці ўзняў руку на гонар яго аблічча. І яшчэ адчуў, што ногі заселі і ўгразаюць усё хутчэй.

— Шайтан! — утрапёна сказаў Марлора.— Сын ішака! Апаганшчык грабніц, мазараў, мячэцяў.

І са здзіўленнем пачуў, што ў голасе ворага сум і амаль шкадаванне.

— Дурань,— нявесела сказаў Хрыстос.— Ну хто з нас калі-небудзь апаганіў мячэць? Татары тут жывуць. Моляцца па-свойму. Добрыя, мірныя людзі. Сумленныя, чыстаплотныя. Хто іх хаця пальцам крануў? А ты іх як?.. Яны нам — нічога. Вось ты нашто сюды прыйшоў? Нашто крычаў аб крыві, аб богу, што прагне? Нашто Джанібека зарэзаў? Толькі каб давесці? Нас гэтым не давядзеш, не напалохаеш... Толькі... якое ж вы быдла... Што ў вас, што ў нас...

Марлора стараўся непрыкметна, пад вадой, выцягнуць з тула стралу (лук быў таксама пад вадой). Ён не падумаў, што зверху відаць.

— І тут страляць хочаш? Не навучылі цябе? Нават калі... Ну, страляй.

Жаласна звякнула падмоклая цеціва. Страла ўпала каля чоўна, рыбкаю ўвайшла ў ваду, усплыла і захісталася стоячы.

— Смерць несла,— сказаў Хрыстос.— Як ты. А цяпер? Вось усе вы так, моцныя, калі ўстае на вас зямля і вада.— І з нейкай прагаю зашаптаў: — Слухай, біць цябе брыдка. Слухай, скончым справу мірам... Дасі слова не прыходзіць — пушчу.

Хан плюнуў.

— Пажыральнік падлы! Тут не толькі мае! Тут ляжаць і твае. У сына вялікае войска. Насцярожаны, ён не трапіць у пастку, як я. Усё адно канец табе. Здавайся! Даю адно слова: не заб'ю цябе, нават рабу вушэй не пракалю.

Заплюшчыўшы вочы, Хрыстос спусціў стралу, і яна ўвайшла Марлоры ў лоб.

...Над возерам дагарала лютае вынішчэнне.

Дачуўшыся аб разгроме і смерці бацькі, мурза Сялім аддаў смерці дрэннага вестуна, і вось ужо чацвёртыя суткі адыходзіў, кружляў, не ўвязваючыся ў бойку, адрываўся, рабіў ложныя выпады, праходзіў бокам і нападаў на вёскі, паліў мястэчкі.

Крымчакі зарэзалі ўвесь палон, перарэзалі захопленыя чароды, залаты луп распіхалі па саквах. Ідучы праз лясы, імкнуліся пусціць палы.

І ўсё ж Братчык, у якога паўсюль былі вушы,

няўхільна наздаганяў, знаходзіў, цясніў усё яшчэ магутныя і пагрозныя рэшткі арды. Іх і цяпер было толькі трохі менш, чым праследавацеляў. Але ў беларусаў было мала конніцы, не ўсе былі ў латах (даволі невялікія татарскія кальчугі лезлі далёка не на ўсіх высокіх сабою лясных людзей). Не з лепшых была і зброя.

Няма чаго было і думаць узяць хітрасцю яшчэ і гэтых. Даводзілася шукаць адкрытага бою, і сэрца Хрыстова балела пры думцы аб тым, колькі будзе забітых (ён ужо ўсё ведаў ад Магдаліны аб Анеі, і ад гэтага было яшчэ горш). Але як бы ні балела сэрца, ён бачыў, што без сечы не абыдзешся. Не кінулі б зброі самі людзі, задзертыя за жывое спусташэннем, крыўдай і забойствамі. Усе нібы моўчкі вырашылі: не выпускаць.

Урэшце яны самі пачалі паліць лес і перастаялыя сухія травы.

Малыя атрады рассыпаліся наперад, каб падпальваць там, дзе арда магла прарвацца. Адразаючы дарогу агнём, прымушаючы арду зварочваць туды, дзе ёй не трэба было, рацъ паступова сцягвала вакол крымчакоў агнявую пятлю.

Людзі ішлі чорныя ад дыму, толькі зубы ды вочы блішчэлі. Паўсюль дзень і ноч, дзень і ноч палалі лясы, і нізка вісела над зямлёй засмужанае, спякотнае неба.

Урэшце ім удалося зацягнуць мех. Яны прыціснулі мурзу Сяліма да Нёмана, ля вёскі Бяроза. На тым баку таксама, як і на гэтым, з бакоў зырка гарэлі лясы і курэлі балоты. Ісці ракой Мурза не рызыкнуў. Помніў, чым скончылася хрышчэнне на возеры.

Ён не баяўся. Ягоныя людзі не адставалі: адстаць азначала памерці. А людзі Хрыста, сцёршы ногі ці знясілеўшы, ахвотна заставаліся сярод сваіх. Куды лепей узброены, хаця і роўны па колькасці людзей ворагу, татарскі загон ведаў, што пераможа.

Яны не ўлічылі гневу і жадання перамагчы ў сэрцы гаспадароў зямлі. Калі раніцай зноў узнік на шырокім полі белы ланцуг і зноў загучала «Багародзіца», яны зразумелі, што не той гэта ланцуг і не той харал. Там стаялі сотні, што хацелі памерці. Тут ішоў народ. Іуда сказаў з гэтай прычыны, што бог памагае толькі тады, калі паможаш ты сабе сам.

Хрыстос наперадзе ланцуга — быў народ. Іуда з вечным сваім сувоем і сцілом — быў народ. Фама з двухручным мячом, роўным яму па даўжыні,— быў народ. Народ, які рухаўся, ашчаціні́ўшыся дзідамі. І калі ўзвіўся над радамі крык, яшчэ да таго як татары і беларусы сутыкнуліся, Сялім зразумеў, што ён загінуў.

...У чатырохгадзіннай лютай сечы беларусы ўзялі поле. Узялі вялікай крывёй, але не выпусцілі з яго ніводнай душы.

У гэтым не было суцяшэння. Не было суцяшэння ў тым, што і тыя загінулі, бо і тыя былі людзі, і шмат у каго з іх была толькі сапрэлая сарочка пад кальчугай. Бо і над тымі быў свой Лотр і патрэба штодзённа даводзіць, што ты адданы ханству і яму. Яны проста шукалі свой кавалак ежы. Шукалі не там, дзе трэба, а там, куды вяла іх шабля, занесеная над галавой.

...Цяпер пра гэта можна было думаць. І Юрась думаў, разглядаючы клейну, якую трымаў у руках. Вось гэта абяцаў яму на лоб Марлора. Замест гэтага сам атрымаў стралу ў лоб.

Між броваў у Юрася была доўгая зморшчына. Учора яе яшчэ не было. Ён быў той самы, але большасць апосталаў і Магдаліна відавочна пачыналі яго пабойвацца.

Пад вечар праз натоўп прывялі на аркане Сяліма. Ён не паспеў прарвацца далёка.

Але яшчэ да таго, як Хрыстос пачаў гаварыць з ім, перад Юрасем сталі выбраныя ад мужычай раці і папрасілі адпусціць іх. Лета хілілася на восень, хаты былі спаленыя, нівы выбітыя, ворагаў не было. Трэба было паспець падабраць хаця тое, што не вытапталі, ды паспець выкапаць сякія-такія зямлянкі.

— З азімінаю, думаю, не спазніліся... Сеяць трэба. Мужыкі мы.

— А дадуць вам гэта зрабіць? — спытаў Хрыстос.

— Павінны б... Але ўсё адно... Зямля кліча... Патрабуе: «Сеяць!»

— Пойдзеце,— сказаў Хрыстос,— а нас тут, безабаронных, заколюць.

— Цябе? — над усім натоўпам выбухнуў рогат.

Юрась убачыў, як нейкі мужык, падабраўшы ятаган (а ён, выгнуты, сячэ, як вядома, унутраным бокам, нібы серп), разглядае сталь, мацае яе пальцам.

Урэшце мужык радасна ўхмыльнуўся, схіліўся і пачаў спрытна рэзаць ятаганам траву: здагадаўся, да чаго ён прыдатны.

І тады Хрыстос зразумеў — утрымаць не ўдасца. Значыць, як бы цяпер ні шукалі, як бы ні ганяліся (а цяпер будуць ганяцца ўтрапёна, як за зверам, таму што пасля падвойнага разгрому ён страшны ім) — давядзецца ўцякаць, хавацца недзе ў леснічоўках або нават імчаць нагамі за мяжу.

— Добра,— сказаў ён.— Ідзіце, людзі. Чаго ўжо.

Сялім глядзеў на яго поўным трыумфу позіркам. І, нягледзячы на тое, што твар яго быў у зямлі і куродыме, здавалася, што пераможца — ён, а не чалавек, які стаяў на схіле і працягнутымі рукамі (з'явіўся ў яго з нядаўняга часу такі жэст: распасцёртыя да людзей рукі), з раптоўнай чыгуннай стомай і абыякавасцю развітваўся з натоўпамі, якія плылі з поля ў розныя бакі. Яны крычалі да яго радасна, але ішлі хутка. Упэўненыя былі, што з ім нічога не здарыцца, а вось неаплодненая зямля можа адпомсціць.

Сілуэт ягоны на вячэрнім небе быў нібы паніклы. Як быццам стрыжань вынялі з яго.

Урэшце разышліся амаль усе. Пад узгоркам стаялі яшчэ толькі два атрады: адзін — спыненая днямі варта з Міра, уцекачы, усе ў жалезе і з добрай зброяй, хаця і нешматлікія колькасцю, і даволі вялікі мужычы натоўп.

— Ваўкавыскія мужыкі,— сказаў Тумаш.

А Іуда дадаў:

— Адпусціў — дарэмна.

— Чаму? —спытаў Братчык.

— Думку аб сяўбе кінулі шаптуны. І, здаецца, ці не з таго-ткі мірскага загона. І хай мне не дажыць да наступнага кавалка хлеба са шмальцам, калі я не здагадваюся, чыя гэта рука.

— Думаеш, сочаць? — спытаў шляхціц.

— Мала таго. Ведаюць, што зямля кліча.

— Кінь,— сказаў Братчык.— Зараз усё адно.

Сядала халаднаватае сонца. Трохі зызнулі без агнёў і чакалі чагосьці людзі пад узгоркам.

— Дурань ты,— сказаў Фама.— Асёл, раменныя вушы. А што, калі пастка?

— До,— паказаў на натоўп Юрась.— Хопіць крыві. Калі ўжо яна іх нічаму не навучыла.

І тут зарагатаў мурза:

— Вось! Вось табе і канец дарогі тваёй, бог. Успомні Джанібека, што прайшоў ужо лязом райскага моста, што цяпер ляжыць сярод гурый! Магло ў нас быць такое, каб, перамогшы, адразу думаць, ці не давядзецца аддаваць алаху душы свае? — Ён захлынаўся.— Ых-ых-ых!.. Дзівам выдзер перамогу, чарадзействам, а не мужнасцю. Алаху пажадалася.

Хрыстос не вытрымаў. Зноў нібы прыдбала хрыбет, выпрасталася спіна.

— Нешта ў цябе, мурза, памяць кацiная. Часта ж ён вам здраджвае, алах. Часта ж мы чарадзействам вас пабівалі. Забылі, як вы, Кіеў узяўшы, на нас, беларусцаў, ішлі?! Як тады пад Крычавам просты мужык Іванко Мядоўнік з рацццю сваёй вас гнаў?! І як мы вам яшчэ пад Крутагор'ем наклалі?! Памятай цяпер. Але ты на нас больш не пойдзеш.

— Заб'еш? — нахабна спытаў Сялім.— Ну-ну. Мы смерці не баімся.

Юрась усё яшчэ трымаў у руках слупок клейны.

— Нашто? Проста клеймаваны ганьбаю — не хан Яго не палацы сустракаюць. Ты помні Крычаў! Помні Крутагор'е! Памятай Волхава балота! Памятай гэтае поле! А вось табе і метка, на памяць.

І ён з сілаю ўдарыў клейнаю ў лоб мурзе.

— Ідзі цяпер да сябе. Сядзі з жанчынамі на іхняй палове. Падбірай за конямі гной. Каб ведаў, як жывуць разбоем.

— Забі,— асэнсаваўшы ўсё, з надзеяй сказаў мурза.

— Ідзі. Дайце яму каня.

Мурза пабрыў да ўзгорка. Сеў у сядло. Рушыў каня абы-куды.

...І тут устрывожыліся крумкачы над лесам. Устрывожыліся мужыкі пад узгоркам. Страпянуліся мірскія коннікі.

Ад пушчы цягнулася кавалькада: некалькі дзесяткаў коннікаў на чале з грузным чалавекам у латах. Побач з ім ехаў нехта ў плашчы з капюшонам.

— Карніла,— сказаў Тумаш.— І каплан Басяцкі з ім.

— Нешта яны пасля імшы,— сказаў тупаваты Піліп.— Гэна, як татарам на галовы дубы пускалі, то яны... А слабыя ўсё ж татары. Падумаеш, дрэва. Мне дык унь стогадовы...

— Змоўч,— сказаў Хрыстос.— Ідзі, Марыя, стрэнь іх.

Басяцкі заўважыў яе здалёк. Шапянуў Карнілу:

— А мужыкі стаяць. Не зусім зработала спакушэнне.

— Ды няшмат і засталося іх. Можна і сілай...

— Паглядзім. Шуму не хочацца. Паспрабуем іначай.

Магдаліна спынілася перад храпамі коней.

— Сядай,— сказаў Карніла, паказваючы на вольнага каня.

— Адвыкнула,— незалежна сказала яна.— Не хачу.

Яны павольна ехалі за ёй да ўзгоркаў.

— Ты ведаеш, дзеўка, што ён страшны, што нельга ўжо яго выкарыстаць дзеля перамогі над курыяй?

— А мне гэта хоць бы што.

— Здрадзіла,— сказаў сябра Лайёлы.— Забыла, хто цябе з гною ўзняў, забыла, як іх правялебнасць цябе цаніў, як паважаў раней біскуп Камар.

— Не з гною, у гной вы мяне затаўклі. Самі сюды шпурнулі — то чаго вам ад мяне чакаць.

Басяцкі аж трохі спалохаўся, такой пагардай камянеў смертаносна прыгожы твар жанчыны.

— А між тым ён хацеў бы, каб ты вярнулася, ён па-ранейшаму дасылае табе сваю любоў.

— Нічога,— з усмешкай сказала жанчына.— Ён хутка суцешыцца. Хіба мала блудніц вакол? Ці ўвогуле жанчын? А каб і яны ўсе раптам зрабіліся строгія ці вымерлі, што вам? Думаеш, не памятаю, як вы пацяшаліся над адным законам? Маўляў, «забаранiць манахам браць на выхаванне малпаў, а таксама адасабляцца ў келлях з навічкамі пад маркай навучэння іх малітвам». Хіба вам не ўсё адно?

Яна абражала разлічана і жорстка. Ведала, што адзін канец, і плаціла за ўсе гады.

Карніла пацягнуў меч.

— Кінь,— сказаў каплан. І прызнаў: — Так, звод законаў абата Пятра з Клюні. Але гэта было даўно. Цяпер царква не тая.

— Што, у мяне не было вачэй? — з'едліва спытала яна.— Усё мяняецца, не мяняецеся толькі вы ды ўладары.

— Ты ведаеш, што цябе чакае?

— Ведаю. Шчасце ваша, што спазніліся. Тут бы мне крыкнуць толькі — на дзіды б вас узнялі.

— А калі мы скажам, што ты — шлюха, падасланая да яго?

— Не паверыць. Я адкрыла яму, дзе была Анея. Я сама бачыла.

— Але, ва ўсякім разе, ты будзеш маўчаць, каб мы не аддалі яму яе,— здагадаўся раптам пра ўсё мніх.— Іначай не бачыць табе яго.

— А я ўжо і не ведаю, ці хачу гэтага.

Каплан добра разумеў, што намацаў нейкую трэшчыну, што жанчына можа і не выдаць, можа нават падсвядома памагчы.

Але ён сам сапсуў справу, вырашыўшы пашырыць гэтую трэшчыну.

— Што ў цябе, каханне? — І дадаў: — Каторае?

— Першае. Ён не ведае, але першае. І апошняе.

— Трапіш — спалім.

— А я і так спаленая. Кідалі вы мяне з рук у рукі. Позна ўбачыла, што ёсць і іншыя. Таму давай, разводзь вогнішча.

Надзвычай багаты інтанацыямі голас капланаў нібы ўсміхаўся. З-пад языка асцярожна высунулася травінка-джала.

— Ды я не аб тым. Вось, калі не заб'ем — ты ж сама разумееш, што недарэмна мы «спазніліся»,— то аддамо яму бабу, і хай ідзе з апосталамі за мяжу. Ты не застанешся, ты з ім вымушана будзеш пайсці. Будзе ў іх дзіця. А ты? На торнай дарозе трава не расце. Ды я не аб тым. Вось каб памагла нам, перапканала, каб пайшоў без сутычкі і шуму за мяжу,— пайшла б з ім. Нікога б мы не выпусцілі. І ён бы ўрэшце стаў тваім. Калі надзеі няма, хто такую прыгажосць прапусціць. Падумай, як многа мы табе даём?

— Многа,— сказала яна.— Толькі не пойдзе ён ад яе за мяжу. А вы мне сапраўды многа прапаноўваеце. Прыміце за гэта маю падзяку.

Каплан гаварыў з ёю, схіліўшыся з сядла, каб ніхто не чуў. І яна, сказаўшы аб падзяцы, з нечака-

най сілай адвесіла яму поўху. Аж у таго зазвінела ў вушах.

Мніх успыхнуў, але насільна стрымаў сябе.

І пад'ехалі яны да ўзгорка, і, конныя, сталі перад Хрыстом. Карніла ад'ехаў у ар'ергард, высіўся між конным мірскім атрадам і мужыкамі.

— Чаго не пайшлі? — спытаў у мужыкоў Карніла.

— А яны чаго не пайшлі? — паказаў на воінаў нехта.

— Справа не ваша.

— Ну і гэта не ваша справа,— дзёрзка адказаў мужык.

Хрыстос між тым глядзеў у шэрыя, трохі ў прозелень, плоскія вочы каплана. Вочы былі халодныя, нібы ў яшчаркі.

— Калі я татар біў — вы маліліся. А цяпер налязелі на гатовае.

Басяцкі добразычліва здзівіўся:

— Ты? Але ж паўсюль ужо ведаюць, паўсюль паведамлена, па храмах, весях, гарадах, што паграміла іх наша рука. Што ты без царквы? Што гэты мізэрны люд без царквы, без нашых модлаў і нашага духу?

— Э-эх, чарвякі гнойныя,— сказаў Хрыстос.— Зляцеліся на храбрую смерць, трупы абрахалі. Сцярвятнікі хаця не брэшуць.

Мніх усміхнуўся аднымі вуснамі.

— Гардыня? Так. І неразумнасць. Без царквы улічы гэта, сын мой, не было б перамогі. Без царквы нічога не бывае, такі закон. Ва ўсіх летапісях, што ты там ні ведай і ні крычы, запісана, што мы не ўцяклі, не кінулі вас адных, што мы падрыхтавалі гэты страшны адпор, што «татаре да беларускай зямлі ўварваліся, але царква, з малым людзем выступіўшы, народ паганскі за воляю божаю і помашчю неспадзявана ўразіла і паграміла і лупы паадбірала».

Ён чаканіў гэта, нібы апускаў на плечы бессаромны, невыносны цяжар.

— Мачыся вам у вочы — скажаце: божая раса,— буркнуў Багдан Роскаш.— Ну, а ён?

— А ён, мілы наш Тумаш, паўсюль запісаны як шалбер, які «імя божае сабе прыўлашчыў».

— Нічога,— сказаў Раввуні,— праўда ёсць.

— Не цягніся, любы,— сказаў каплан.— Праўды

ў такіх справах не было і не будзе. Царква перамагла, а не ён, не народ.— Словы ягоныя сачыліся нібы смярдзючым, усепераможным гноем.— Усе подзвігі, усе дзівы, усё чалавечае — ад яе.— Ён прыніжаў, бы ў разлічаным, халодным экстазе.— Гэта мы патаемна кіравалі вамі. Дый маліліся мы... Ты што гэта пішаш, іудаіст?

— Тое, што сказана.— Раввуні спакойна вадзіў стыласам.— І потым, ты па слабасці мазгоў не так назваў нас. Разумееш, я не іудаіст. А ён, Хрыстос, не католік. А унь Фама не праваслаўны. Гэта такая ж праўда, як тое, што ты не чалавек, а гніда, якой трапіла панства...

— Хто ж вы, цікава?

— Мы — людзі,— адказаў чалавечак.— Мы людзі, таму што мы адрынутыя ўсім гэтым светам хлусні. Але мы, адрынутыя, абылганыя наклёпам, бітыя, мы і ёсць людзі ва ўсёй праўдзе сваёй. І няма ніякай іншай праўды — ні праўды Шамоэла, ні праўды Лотра, ні праўды Яхве, ні праўды Хрыста... А калі ёсць, калі нясеце яе нам в ы, то...

— На храна нам такая праўда,— дакончыў Фама.

— Правільна,— пацвердзіў Раввуні.

Каплан зразумеў, што размовы не будзе. Азірнуўся. І адразу Карніла з бразганнем пацягнуў меч. І тут побач з ім спакойна сказаў нейкі мужык:

— Ану, не руш! Не руш, нашай мовай кажу табе, падла ты свінячая, божая ты гліста.

Басяцкі абводзіў вачыма натоўп. І раптам спалохаўся, убачыўшы, што мужыкі трымаюць напаўнацягненымі страшныя лукі з турыных рог. Некалькі такіх лукаў глядзелі на яго. Вось ён падасць знак, і мужыкоў пасля больш-менш доўгай сутычкі самнуць... Але ён ужо не ўбачыць гэтага. Хто спадзяваўся, што тут не сякеры супраць мячоў і дзід, што гэта — паляўнічыя з поўдня? Сякера — глупства. Нават меч не бярэ міланскіх лат. Але супраць такіх лукаў яны — шкарлупіна яйка.

«Íніга Лопес дэ Рэкальда,— у думках паклікаў каплан.— Друг, Ігнацы Лайёла. Парай, што мне рабіць. Табе трыццаць, але ты разумнейшы за ўсіх нас, разам узятых. Парай, друг».

І ён убачыў твар дона Íніга. Заварушыліся вусны. «Кінь,— сказаў Íніга — Ігнацы.— Адступі. Грэх

не пакараць адступніка адразу. Але патаемны грэх — дараваны богам грэх. Ты ж не ехаў сюды з н а м е р а м адступіць? Усё ад абставін. Менавіта ў іх мудрасць уладара. Дай ім слова, ну».

Мніх засмяяўся.

— Супакойцеся, людзі,— мякка сказаў ён.— Тысячнік пагарачыўся. Але гэтая гарачнасць заслужыць дараванне ад бога, як і ваша непачцівасць. Царква нікога не кране («у гэтую хвіліну»,— дадаў ён у думках), клянуся вам. Разыходзьцеся. Арыце. Мы сыходзім да вас. Як ні цяжка, а можа, падзешавее хлеб. Магчыма, мы саб'ём, дзеля вас, цану на сёетое...

— На мыла і на вяроўкі,— уголас сказаў Хрыстос.

— ...Пойдзем, людзі, пакінем іх. Ім ёсць аб чым падумаць. Бывай, вясёлы цудатворца.

Варта з атрадам, што прыяднаўся да яе, паскакала ад вогнішчаў у ноч.

І ледзь сціхнуў пошчак капытоў, як гэтыя вогнішчы пачалі сычэць і рваць парай, бо іх залівалі вадою.

Да Хрыста падышоў той мужык, што гаркнуў на Карнілу.

— Ну вось... Мы сваю справу зрабілі, не далі цябе. Цяпер — выбач.

— Я разумею. Вы ж не багі, каб без страхі жыць.

— Але ты — бог,— мужык зямно схіліўся перад ім.— Ты ўзнясіся. Ты, ведаеш, з вясною прыходзь. Як адсеемся.

І яны засталіся адны, а вакол была ноч. Хрыстос моўчкі глядзеў у змрок бліскучымі вачыма.

— Бачыш, як яны,— сказала Магдаліна.— Пойдзем... Бачыш, як яны з табою...

— Не,— з пераціснутай глоткаю сказаў ён.— Я іду да іх. Я яшчэ толькі не ведаю як. Але гэта беднае мора... Без грошай, без зямлі, без магчымасці ісці куды хочаш, без вачэй, без мовы — бог мой, што перад гэтым мая шкура, што перад гэтым усе храмы!

Ноч падала зорамі. У цемры, здавалася, не было дарогі.

Хрыстос устаў.

Раздзел XXXIV

# БОЛІ НАРАДЖЭННЯ

І з'явілася на небе вялікае знамение — жанчына, адзетая ў сонца; пад нагамі яе месяц, і на галаве яе вянец з дванаццаці зорак. Яна мела ў чэраве і крычала ад боляў і пакут нараджэння.

*Апакаліпсіс, гл. 12, ст. 1, 2*

Перапёлка! Ты не ві гняздзэчка блізка ля дарогі, перапёлка!

*Песня*

У тым жніўні цэлы тыдзень лілі страшэнныя ледзяныя дажджы, нібы стаяў кастрычнік або нават лістапад. Не было дня, каб не выпаў на зямлю град. Перанасычаная глеба не магла больш усмоктваць залеву, і воды шырока разліліся палямі.

І па гэтай дарозе, што была нават не гразёю, а плынню, ішлі на поўнач чатырнаццаць чалавек. Знемагалі, падалі і зноў ішлі. Шмат дзён яны гала далі. Нават за грошы, якіх было мала, па ўсім поўдні нельга было купіць і лусты хлеба. Яны калаціліся ў азнобе, і ім недзе было не толькі пераначаваць, але і абсушыцца, бо вёскі былі спалены.

І ўсё ж яны ішлі на поўнач не толькі таму, што там былі цэлыя хаты і хлеб. Нават зусім не таму. Каб толькі гэта — Хрыстос пайшоў бы ў Гародню. Проста за імі ішлі па слядах. Відаць, паўсюль былі разасланы загады, бо некалькі разоў іх хацелі схапіць, і ўраталіся яны толькі дзівам.

Гойсалі дарогамі раз'езды. Правяралі каля весніц. Начуючы ў лесе, не раз чулі яны сабачы брэх. І варта ім было торкнуцца спачатку на паўночны захад, а пасля — на захад — начыналася ўтрапёная аблава. Пэўна, па нейкай лініі былі выстаўлены пасты.

Часта чулі яны на начных дарогах крокі, галасы, тупат, часам немы лямант. Яны хаваліся ад усіх людзей і таму не ведалі, што не адны яны бягуць на поўнач.

Беглі натоўпамі. Беглі ад холаду і разарэння, ад бізуноў і падаткаў. Беглі, каб не памерці. Вандравалі цэлыя вёскі. Некаторых спынялі і вярталі назад. Але Юрась і яго паплечнікі не ведалі гэтага. Ім не было да гэтага справы. Іх кінулі ў момант, калі больш за

ўсё ім была патрэбна дапамога. Вера ўзвяла іх на вышыні, вера і скінула. Усе ведалі, што Хрыстос — усемагутны.

...Па чарзе неслі саслабленую жанчыну. Стакрот на дні паміралі і заставаліся жывыя, і ў непаразуменні былі, калі ж народзіцца праўда. Нешта каля тыдня беглі яны.

І Хрыстос зразумеў у гэтыя дні, што ў сець трапляюць вялікія рыбы, а малыя выскакваюць з яе. А ў сець жыцця, у нерат, пастаўлены моцнымі, трапляюць адны маляўкі, а для вялікай рыбы яна не існуе.

Ён таксама быў дробнай рыбай. І толькі касяк такіх, як ён, мог прарваць браднік, заведзены лёсам. Нельга бясконца адступаць.

Ля самай дарогі было гняздо перапёлкі. Коні і каровы маглі растаптаць яго, пастушкі падабраць яечкі, конюхі разнесці вартыя жалю сцяблінкі, з якіх яно было звіта. Але з кожнага цэлага яйка мог вылупіцца гнеў.

...Іх гналі, як малявак на водмелі, як перапёлак у жыце. Трэба было спыніцца і хаця слабаю дзюбай пачаць дзяўбці, каб не загубіць навекі душы.

Нельга больш было бегчы. Трэба было паказаць зубы, хай сабе цаною жыцця.

## Раздзел XXXV

## «ДАРУЙ, МАЦІ! ТАБЕ НЕ ТРЭБА!»

> ...Ку вобразаві прачыстай дзявіцы, каторы ў тамтым крае гэтак слаўны быў цудамі. Потым тые шалбераве аблудныя онага свайго аблуднага (Хрыста) да алтара прасвятой багародзіцы прывялі, дзе быў абраз оный чудоўны. А меў той шалёны дваістую сукню...
>
> *«Кроніка Белай Русі»*

І ўвайшлі яны па раскіслай, страшнай дарозе ў прадмесце Вільні і падышлі да Вострай святой брамы.

Віраваў перад брамай натоўп. Штурхаліся, гама-

нілі, чуліся праклёны, божканне, смех. Але чым далей яны прасоўваліся да аркі, тым больш было ціха і чынна, нібы людзі, як яны ёсць, на вачах ператвараліся ў анёлаў. Вочы сціпла апушчаны ці ўзведзены, на галовах няма шапак.

А людзі былі тыя самыя. Той самы разнамасны, абдзёрты натоўп, сярод якога — суконныя ўрады мяшчан багатых ды залатыя плямы даспехаў і багатых адзенняў.

Білі званы. На ўсім абшары горада.

— Скінь шапку,— сказала Хрысту Магдаліна.

— Ну не,— з нядобраю ўсмешкаю азваўся той.— У сваёй хаце што хачу, тое і раблю.

— Саб'юць.

— А я вось ім галовы дурныя пазбіваю,— сказаў Фама.

Не скідаючы шапак, яны прайшлі брамай. Ім пашанцавала: ніхто не прычапіўся. Магчыма, проста ніхто не заўважыў, якая гэта цаца прыйшла з Мядзінінскай дарогі.

— Вось тут і пачнём,—сказаў Хрыстос.—Калі ўжо не пачуюць перуна каля святыні, то нідзе не пачуюць.

...Амаль голы, ён стаяў за аркай глухога завулка, што выходзіў на Татарскую вуліцу. Рэдкія прахожыя не звярталі на гэта ўвагі. Мала што можна ўбачыць на вулках святога горада. Можа, так прапіўся чалавек, што гэта шынкарка з яго за доўг сукню здымае.

Між тым Магдаліна займалася дзіўнай работай. Раввуні толькі што ўсунуў адну верхнюю сукню ў другую і расправіў іх на плітах бруку. Магдаліна ліхаманкава зафастрыгоўвала абедзве сукні ля каўняра, сшывала іх адну з другой. Пасля яна зашыла іх па бартах, пакінуўшы на грудзях распор, у які маглі ўлезці два кулакі. Раввуні тым часам асабліва моцна сшыў абедзве сукні ля пояса. Усунуў кулак у распор, паспрабаваў разарваць зашытае — дудкі. Не ўдалося нават Фаме. Пасля абедзве сукні зафастрыгавалі па краях крыссяў. Цяпер сукня была дваістая.

— Ну вось,— сказаў Раввуні.— Цяпер сукня двaістая.

— Як душа чалавечая,— ялейна сказаў Ян.— У ісціне ходзяць дзеці божыя, а на дне смурод.

— Каханы брат мой,— сказаў яму Якуб,— што ж

ты ў нашым княстве жывеш, жэрці хочаш, а за праўду стаіш? Што-небудзь адно.

Хрыстос між тым калаціўся ў адной сарочцы: усё яшчэ было золка пасля дажджоў. На яго нацягнулі дваістую сукню і моцна перапаясалі яе.

— Ну вось,— сказаў Юрась.— Ану, Пiлiп, набяры каменьчыкаў. Ды сып іх мне між сарочкай і сукняй, за пазуху.

— Яно... Ды нашто... Халодныя.

— Паразважай мне яшчэ, доўбня,— лісліва сказаў Пятро.— Бог, ён ведае.

Пiлiп нагроб жмені каменьчыкаў.

— Куд-ды ты,— раззлаваўся Хрыстос.— Не ў распор, не між сукнямі. За сукні, галава яловая. Між імі і сарочкай. Каб толькі пояс трымаў.

...Мяркую, што ў нашай краіне не адзін я з'яўляюся аматарам нашай старажытнай беларускай мовы, яе чароўнага, лаканічнага і трохі наіўнага стылю. Таму я не магу не парадаваць астатніх, адступаючы сям-там ад майго няскладнага шматслоўя і даючы словы чалавеку, які сам бачыў гэты і расказаў аб гэтым залатой па сціпласці, народнасці і гумару тагачаснай мовай. Нашы летапісцы былі дзіўныя людзі. Нават хлусня іхняя была празрыстая і давала магчымасць убачыць на дне праўду. Магчыма, яны не надасканаліліся ў брахні ці, можа, назнарок рабілі гэта. Але нават мечучы перуны і бліскавіцы, яны самым стылем сваім паказвалі, што сімпатыі іхнія на баку гарластых, дзёрзкіх, знаходлівых людзей, якія ўмеюць абвесці вакол пальца нават самога бога, а ўжо служак ягоных і пагатоў.

Адзін з летапісцаў больш за ўсіх наблытаў вакол гісторыі ілжэ-Хрыста, калі не лічыць, вядома, Марціна Бельскага. Услед за Бельскім ён, магчыма, не па сваёй волі, змяшаў Братчыка з каронным самазванцам Якубам Мялшцінскім, махляром, на якім пробы недзе было ставіць. Нават гісторыю з сукняй ён аднёс у Чанстохаў. Тое, што здарылася з ілжэ-Хрыстом пасля, зрабіла так, што нават успаміны аб ім сталі смяротна небяспечныя.

Але апавяданне аб сукні напісана ў яго такой цудоўнай грубай і плоцкай мовай, так па-беларуску гавораць, гарлаюць і спрачаюцца ў ім удзельнікі гэтай гісторыі, такія яны жывыя, нягледзячы на ад-

легласць стагоддзяў, што я не магу пазбавіць вас, сябры мае, радасці патрымаць яго ў руках, памацаць яго разам са мною, пакаштаваць на язык.

Я не магу абакрасці вас, зрабіць вас бяднейшымі, адабраўшы ў вас гэтую маленькую жамчужыну, згубленую ў старой пыльнай кнізе. І адначасова гонар мой не дазваляе мне выдзерці кавалак з «Кронікі Белай Русі» і паднесці яго вам як сваё. Таму буду казаць я, а там, дзе слабы будзе мой язык, я дам словы летапісцу, які наблытаў і сям-там нахлусіў, але застаўся геніем стылю, геніем мовы, геніем хітрай іроніі і сонечнага гумару.

Дам словы беларускаму летапісцу Мацею Стрыкоўскаму, каноніку, які больш за ладан любіў жывога чалавека і з'едлівы чалавечы смех.

І вось ён кажа пра гэта:

«А меў той шалёны дваістую сукню, на тое ўмыслене ўробленую, дзе межы разпора могл улажыць, што хацеў, а камыкаў яму межы сукню і кашулю наклалі, ад цела...»

Яны прыйшлі да маці божай Вастрабрамскай. Зноў у шапках. Назнарок. Каб бачылі.

І здарылася так, што першы чалавек, які падскочыў да іх, быў той сівавусы, які бачыў Хрыста падчас выгнання гандляроў з храма і першы прызнаў яго не за махляра, а за бога, стаўшы на калені.

— Шапку скінь, басурман!!! Бо-о!..

На крык азірнуліся бліжэйшыя, і тут Хрыстос са здзіўленнем убачыў, што ў натоўпе зашмат знаёмых твараў. Быў тут малады паплечнік сівавусага, старая, што калісьці маліла аб карове, яшчэ сёй-той і — ён не верыў вачам — той самы кіраўнік ваўкавыскіх мужыкоў, які тады абараніў яго ад Басяцкага і Карнілы, а пасля кінуў, сказаўшы: «Ты з вясною прыходзь. Як адсеемся».

— Свет цесны,— сказаў Хрыстос.— Цябе што, паветрам сюды прынесла?

Сівавусы ўсё яшчэ лез. І раптам ахнуў:

— Пане божа... Хрыстос...

— Я,— сказаў Братчык.— Ну як, адсеяўся?

Той нізка апусціў галаву.

— Як быццам я не казаў, што сеяць можна... калі ёсць чым. Чаго гэта тут так хутка? Управіўся бліскавічна. І сюды раней за мяне трапіў.

— Не бі па душы,— сказаў той.— Усё ў нас забралі. Ані шэлега падатку не скінулі... Ды тут шмат нашых... Ледзь не палова... Вёскамі бягуць ад голаду. Палова краіны на поўнач сыпанула. На Полаччыну, у Гародню, сюды, на Мядзель. Паўсюль, дзе татар не было, як падвоіўся народ. Усё ж,можа,кавалак хлеба заробіш, не памрэш.

— Ну і як, зарабіў хаця першую лусту?

— Занадта нас густа, каб была луста,— сказаў сівавусы.

— Ледзь не мруць людзі,— сказаў мужык.— А што ж будзе зімой? Душу б заклаў, каб здабыць насення ды хаця трошкі хлеба. Пад карчом зімаваў бы. Як мядзведзь. Палова краіны на поўнач сыпанула.

— Каму яна патрэбная, твая душа,— сказаў сівавусы.

Хрыстос меў досыць далікатнасці, каб не нагадаць ім усяго, не расказаць, як самога яго цкавалі сабакамі. Да таго ж, натоўп ужо заўважыў чалавека ў шапцы. Адусюль штурхаліся дбайнікі аб святасці месца.

— Шапкі далоў! Шапкі прэч! Ану, збіце! — нягодасна пакрыквалі яны.

— Сто-ой! — залямантаваў сівавусы.

Крычаць, тым больш гарлаць, тут было не палажана, і таму натоўп здзіўлена змоўк.

— Гэтаму дазволена! Ён татар паграміў! Гэта Хрыстос!

Цішыня. Аглушальная цішыня. І раптам гурма выбухнула такім крыкам, якога нават у самыя страшныя аблогі і сечы не чулі гэтыя сівыя муры.

— Хрысто-ос!!!

Ускінуліся са званіц вароны і груганнё.

— Прыйшоў! Прый-шоў! — цягнуліся рукі.

— Зачакаліся мы! Тугой сышлі! — лямантавалі змарнелыя твары.

— Шкуру з нас апошнюю зажыва здзерлі!

— Котлішчы, попел вакол! — плакалі закінутыя вочы.

— Магнаты ды папы ненасытныя!

— Жыцця! Жыцця дай! Зажыва паміраем!

Тады ён стаў падымацца на гульбішча. Ён быў упэўнены: правільна ён зрабіў, што нанясе ўдар тут. Ён толькі не ведаў, што тут столькі тых, якія ішлі

з ім на татар, якія ведаюць яго, з якімі яму будзе лягчэй.

Вось яны. Мора.

Каплан стаў перад ім, загарадзіў дарогу.

«Маленькі, падобны на бачонак, чалавек. Пэўна ў гэты час павінен правіць тут імшу. А за спіною ягонай — манахі, служкі. Гэтых не пераканаеш, што не хоча ён абразіць святыню, што ён проста хоча зрабіць тое, на што з ахвотаю пайшла б і сама вялікая Жытняя баба, маці ўсяго сутнага, якая толькі трохі змяніла тут свой твар. Маці. Гаспадыня беларускай зямлі.

Тая, якая дае сілу хлебу. Нашто ёй жыць, калі памруць тыя, хто верыць у яе».

— Стой,— сказаў каплан.— Ты хто?

— Хрыстос.

— Калі ты Хрыстос, дзе маці твая? Дзе сёстры і браты?

— Я маці яму! — крыкнула з натоўпу старая, што маліла аб карове.

— І я!.. І я!

— Мы яму браты! Мы сёстры! Мы! Мы!

І гэты крык прымусіў Братчыка забыць, што за ім палявалі, бо людзі кінулі яго. Гэты крык зрабіў тое, што свет неяк дзіўна затуманіўся ў яго вачах, і ён упершыню не асудзіў свой лёс.

«Магла ж сапраўды быць хата».

І ён нібы ўспомніў хату пад яблынямі... Старых на траве... Ціхую рэчку, дзе вадзіліся самы. Самога сябе, які пускаў на купалле вянкі.

І ўжо разумеючы: так трэба... так трэба дзеля святой прыналежнасці да гора ўсіх гэтых людзей, да радасці іх, да агульнага жыцця ўсіх людзей, ён сказаў (і гэта была праўда):

— Была ў мяне хата. Далёка-далёка. Там цяпер вогнішча. Попел. Прах. Як ва ўсіх вас. І вінаваты я, ведаю: забыў. У гонары сваім узнёсся, пагарджаў, ніжэй сябе лічыў, даруйце мне. А цяпер успомніў... Ану, гэць з дарогі!

Са звонам вылецела вялізнае акно: як заўсёды, перастараўся Пілíп.

— Даруй, маці Сутнага, Ціоця, Жытняя баба, маці божая,— сказаў Братчык.— Табе ж не трэба.

І ён прыгаршчамі стаў браць з алтара золата

і каштоўныя каменні і сыпаць іх між сукнямі. Каплан, убачыўшы святатацтва, пабег, каб разам не загінуць ад немінучай нябеснай маланкі.

«...і кеды быў да алтара прыведзены, з рук іх вырваўшыся, яка шалёны прыпаў да алтара, на якім было поўна пенязей [1] і камыкаў, на афяру злажоных, і, хвацяючы пенязі, клаў іх сабе ў распор аж занадта. Мніх-каплан, каторы на той час мшу справоваў, ад страху ўцёк».

Народ на вуліцы чуў крыкі. Пасля сам каплан бачонкам скаціўся з гульбішча, кінуўся прэч:

— Да алтара прыпаў! Камні хапае! Матка боска, ды лясні ты яго па галаве!

...Служкі схапіліся за мячы,— стаў на дарозе ў іх Тумаш. Выставіў наперад даволі магутнае, хаця і падупалае ад галадоўкі, пуза. Напнуў грудзі.

— За зброю хапаецеся? Пры Маці? Я вам хапану. Я вас зараз так хапану!..

Тыя сумеліся. І тады на Хрыста кінуліся ашаломленыя было манахі. Схапілі за пояс, здзерлі яго...

«Па ім (каплану) другі мнішы, адумеўшыся, прыпадуць пояс на ім абарваць, мнімаючы, бы пенязі клаў за кашулю занадта, але ад тамтоля толькі камыкі павыпадалі, а пенязі ся ў распоры, за падшыўкаю сукні засталі. Мніхі, здумешыся... думаючы, бы пенязі ў каменне ся абярнулі справаю дыявальскаю, пачалі заклінаць каменне і малітвы над нім модліць і псалмі спяваць, абы ся знову ў першую форму сваю абярнулі».

...На падлогу сапраўды высыпаліся каменьчыкі. І ўсе аслупянелі.

А пасля пачаўся шабаш і садом: стогны, плач, дзікае выццё ад жаху, выгукі. Ледзь не істэрычныя галасы на верхніх нотах выкрыквалі псалмы.

— Нечасцівыя не будуць прад вачыма тваімі: ты ненавідзіш усіх, хто робіць беззаконне.

Нехта рыдаў:

— Бо няма ў вуснах іхніх ісціны... Асудзі іх, божа, хай падуць яны ад задумаў сваіх; па мноству нячэсця іхняга, адрынь іх, бо яны ўзбунтаваліся супраць цябе.

Яшчэ адзін гарлаў, як спалоханы змяёю бугай:

---

[1] Грошай.

— Сакрушы мышцу нечасціваму і злому так, каб шукаць і не адшукаць ягонага нячэсця.

Хрыстос стаяў над гэтым стоўпатварэннем і ўсміхаўся. Зараз ён пагарджаў толькі гэтымі.

Музыка змянілася. Нехта, відаць, зняверыўся ў псалмах і пачаў заклінаць, як цёмныя яго бацькі:

— Чорт Савул, чорт Калдун — паступіцеся. Пане наш Пяруне, Езус наш найлітасцівы, Вялес, быдлячы бог і Уласі святы, рассейце, забурыце падкопы, зрабіце, каб каменні ў першую форму сваю абярнуліся.

Пасля гэтай дзікай какафоніі звалілася раптоўная цішыня. Мніх схіліўся над каменьчыкамі і асцярожна, як жар, памацаў іх:

— Н-не памагло.

Твары былі збянтэжаныя і расчараваныя. І тады мніх узняў евангелле, псалтыр і заклінальную кнігу і шваркнуў іх аб падлогу:

— Калі такога д'ябла не бачылі — ідзіце з ім самі да ўсіх д'яблаў!

«...але калі тое каменю нічога не памагло, мніх кнігі свае заклінальныі, разгневаўшыся, кінуў аб зямлю, мовечы: ежасмы такога дыявала не бачылі, пойдзеце там з ніх да ўсіх д'яблаў».

Гучна, страшна бразнуліся аб каменныя пліты цяжкія тамы ў скуры, дрэве і золаце. Якуб Алфееў заплюшчыў вочы.

Яму здалося: ударыў пярун і д'ябал, дзіка зарагатаўшы, з'явіўся ў агні, схапіў кнігі пад пахі, што смярдзелі потам, серай і паленымі грэшнікамі, зрабіў непрыстойны рух у суправаджэнні гэткага ж гуку і пярунападобна ўзляцеў.

Ён узняў вейкі і зразумеў, што гэта коцяцца сходамі, уцякаючы манахі. Кнігі па-ранейшаму ляжалі на падлозе.

Хрыстос кідаў з гульбішча ў народ ахапкі караляў і грошы:

— Спакойна падыходзьце, людзі. Бярыце па залатому або па жамчужыне. Хопіць гэтага на зіму, абы было дзе купіць. Бярыце! Не патрэбна гэта ні Жытняй маці, ні мне. Нясіце дзецям! Жывіце! Дзеля каго, як не дзеля сябе сабралі ўсё гэта яны?!

Залаты дождж падаў на рукі людзей. І за ўвесь гэты час ніхто не штурхнуў другога, не наступіў на нагу, не вылаяўся, не ўзяў больш адной жамчу-

жыны, або адной манеты, або — калі сям'я была дужа вялікая — дзвюх. Грошы належалі Жытняй маці, іх нельга было шарпаць.

— Хіба яны пастыры? Яны аддаліся распусце так, што робяць усялякую нечысціню з ненаеднасцю. Морды іхнія горш за д'яблаў азадак. Мацей яшчэ аб іх сказаў — праўда, Мацей?..

— Н-но...

— Любяць, мярзотнікі, прадузляжанні на бяседах і старшынствы ў сінагогах... І прывітанні ў народных сходах і каб людзі звалі іх: «Настаўнік! Настаўнік!»

Моўчкі, сурова слухаў люд.

## Раздзел XXXVI

## ШТО ЛЮБЯЦЬ ПАСКУДНІКІ АБО ШПІЁН

> І не дзіва; таму што сам Сатана
> прыймае выгляд анёла святла.
>
> *Другое пасланне Карынфянам, гл. 11, с. 14*

> Не еш занадта цукру — завядуцца
> ў цябе там, дзе не трэба, пчолы.
>
> *Беларуская народная мудрасць*

Яны сапраўды любілі тое, аб чым казаў людзям з гульбішча Братчык. Але зараз ім было не да гэтага, таму што больш за ўсё яны любілі свой спакой, сваю ўладу і саміх сябе. Першае паляцела сёння да ўсіх д'яблаў, разам з віленскім ганцом, і можна было меркаваць, што калі так пойдзе і далей, то палятуць другое і трэцяе.

Таму не было больш шчадралюбага сходу за ўсю гісторыю ў вялікай суднай зале. Усе зліўкі сабраліся тут сёння бараніць сваю любоў.

Сядзелі ўсе духоўныя асобы, як каталіцкія, так і праваслаўныя, бо любоў іх была аднолькавая; сядзелі радцы і войт, бо яны падзялялі тую любоў. Сядзеў Карніла, бо яму загадвалі ад імя любві. Сядзеў бурмістр Юстын. Па прывычцы хутчэй, бо першых дваіх любовей яго паспяхова пазбаўлялі, і таму ён не мог любіць і паважаць сябе.

Перад любячымі стаяў расстрыга Іллюк, ра-

ней прарок па схільнасцях, цяпер — па заданню:
— Вось і ўсё... А людзі ў горадзе гавораць, што неадменна ён цяпер за Гародню возьмецца... Маўляў, хай толькі пакліча — усе пойдзем... Маўляў, вось гэта сапраўдны Хрыстос наш. На што ўжо татары ды іудзеі — і тыя яго чакаюць. Назва, кажуць, імя — гэта справа дзесятая. Па-іхняму ён Хрыстос, па-нашаму «месія», «махадзі» і чорт яго ведае яшчэ як.
— Добра, Іллюк. Але ж мы адразу анафему яму агаласілі,— сказаў Лотр.— Як гэта слухаюць? Няўжо няма постраху?
— Плююцца,— апусціў звярыную галаву Іллюк.— Кажуць: «Гэта ўсё адно...»
— Ну, чаго замяўся?
— Не карайце... «усё адно як д'яблы анафематстравалі б анёла».
— Т-так,— сказаў Басяцкі.— А юроды крычаць? А ты?
— Крычым. «Сарамата галізны яго... Журба вялікая... Звер, вачыма споўнены спераду і ззаду». Як пажахлівей крычым, каб незразумела. «Сонца, як валасяніца! Мора робіцца крывёй! Сем тысяч імён чалавечых у адной Гародні загіне!»
Ён загікаў і закрычаў так, што ва ўсіх мароз прабег спінаю.
— А яны на зважаюць. Кажуць, усё адно жыцця няма. І сёння Кірык Вястун, каваль ды дудар «Брачачка» гаварылі нейкаму вусатаму, каб ён заставаўся тут і памагаў... А мы, маўляў, выходзім і чакаем, а нейкі Занон (адзін Гаўрыла ў Полацку!) каб збіраў людзей, ды хадзем яму насустрач.
— Знайшлі? — спытаў Камар.
— Не,— адказаў Карніла.— Паспелі ўцячы. А Зянона ніхто не ведае. Пэўна, не з Гародні.
— Ч-чорт! — сказаў дамініканец.— Ну добра, пакуль нічога не здарылася. Менавіта п а - к у л ь. Небяспека ёсць, але пакуль толькі цень небяспекі. А вы то памылку за памылкай рабілі, а то галовы ад жаху пагублялі. Нарадзілі пачвару і не ведаеце, як утаймаваць.
Сказаў ціха:
— Іллюк, ты пакрыўджан. Знайдзі людзей, здатных раз ударыць нажом.
— Не выйдзе,— сказаў Іллюк.— Усе моляцца на

адну ягоную памяць. А і я таксама баюся. На калкі расшкамутаюць. Вераць. Няхай сабе ён гэта і сілаю Вельзувела дзівачыць.

— Шкада. Мог бы атрымаць трыста злотых.

— Мёртваму што трыццаць, а што і тры тысячы.

— І ўсё ж паклапаціся аб нажы. Іначай...

— Пастараюся,— зразумеў Іллюк.— Пастараюся знайсці.

— І яшчэ пастарайся крычаць галасней, што гэта антыхрыст, што цяжка адразу разабрацца. Ідзі.

Іллюк пайшоў: сумёт бруднага меху і нячэсаных валасоў. Сінкліт маўчаў. Пасля Лотр буркнуў:

— Смурод які! І любіце ж вы гэтых шпіёнаў, віжоў, даносчыкаў. Сорам проста.

— А вы не любіце? — ціха спытаў дамініканец.

— Па-мойму, таксама глупства гэта,— сказаў біскуп Камар.— Не сачыць трэба. Не сачы, а сячы. Пій V мае рацыю [1].

Твар наліўся бурай крывёй, пенныя заедзі заварушыліся ў кутках рота:

— Памятаеце ягоную інструкцыю венецэйскаму інквізітару? «Катуйце без жалю, шматуйце без літасці, забівайце, спальвайце, знішчайце вашых бацькоў, матак, братоў, сёстраў, калі выявіцца, што яны не аддадзены слепа вярхоўнай ідэі». Вось гэта па мне. Вось гэта так. І паўсюль добрыя гасудары так робяць: і наш, і французскі, і сам папа, і вялікі князь маскоўскі... хаця ён і схізмат.

Дамініканец кашлянуў.

— Залатыя словы,— саркастычна сказаў ён.— Толькі ваша вучоная галава, па занятасці, відаць, ведала інструкцыі Пія інквізітарам і не ведала інструкцыі таго ж Пія трыбуналам. А там сказана: «Завядзіце столькі шпегаў і даносчыкаў, колькі вы ў стане аплаціць. Абавяжыце іх назіраць за міранамі... і даносіць вам аб усіх грамадскіх і прыватных непарадках. Ніколі не стаўце пад сумненні іхнія паказанні, паражайце ўсіх, на каго яны вам будуць

---

[1] Адкуль біскуп Камар і дамініканец Басяцкі маглі ведаць, што скажа венецыянскаму інквізітару і трыбуналам Пій V, пантыфікат якога прыходзіцца на 1566—1572 гады, ледзь не на пяцьдзесят год пазней за нашы падзеі, аўтар не ведае. Але прадбачанне імі будучыні трэба таксама аднесці на кошт промыслу божага. Геніі празараюць праз дзесяцігоддзі і нават стагоддзі.

указваць, нявіннага або вінаватага, бо лепей умярцвіць сто нявінных, чым пакінуць у жывых хаця б аднаго вінаватага».

Мніх усміхнуўся:

— І вось таму я люблю абедзве інструкцыі і люблю шпегаў і займаюся з імі. Урэшце, я дамініканец, майму ордэну даверана святая інквізіцыя. І таму я займаюся і дазнаннямі адначасова. У той час, як вы толькі мянціце языком.

Камар уярасці ўскочыў.

— Гэта вы ўжо занадта,— з дакорам сказаў Лотр.— Так абразіць вернага служыцеля царквы.

Басяцкі таксама патроху закіпаў:

— Вось што, мне гэта абрыдла. Збудуеш нешта стройнае — заплююць, заваляць, загадзяць у вачах усіх. Я не ведаю, як служаць царкве, як любяць бога,— ён зірнуў на біскупа,— большасць клірыкаў. Але я ведаю адно — ведаю, што на вачах у людзей нельга распуснічаць так, як яны. На ва-чах... Бо гэта нараджае нелюбоў, нянавісць, гнеў, выбух, смерць!

— Аб чым вы?

— Аб тым. Завялі голад у той час, як хапіла б і моцнага недаядання. Хацелася мець лішні шэлег, а страціце ўсё. А адсюль і няўдачы з гэтым аспідам, і ганьба з татарамі, і тое, што мы ўвесь час сячом сук пад сабою і ляснемся азадкам або, прабачце, мордай у гной. Абжэрліся салодкім жыццём — і нарадзілі, магчыма, сваю смерць. Знемагалі ў празмерных асалодах, а цяпер круціцеся. Як тут не ўспомніць прыказкі аб пчолах?

Сінкліт маўчаў. За вузкімі вокнамі былі цішыня і ноч, але яны слухалі гэтую цішыню і не верылі ёй.

## Раздзел XXXVII

## НАБАТ

Я плакаў, мора ўбачыўшы. Я плакаў,
Калі з каўчэга зноў убачыў сонца.

*Міф аб Утнапішціме*

Святой службе і ўвогуле царкоўнай і магістрацкай, раднай эліце, роўна, як і нобілям, было аб чым непакоіцца. 13 жніўня шматтысячны натоўп выйшаў

з Вільні на гародзенскую дарогу. Некаторыя летапісі казалі пазней аб «багамольцах», але на самай справе гурмы былі далёка не такія аднародныя. Акрамя пілігрымаў былі тут рамеснікі з поўначы (даўно ўжо ў іх не было працы), найміты, разлічаныя па закан чэнні жніва, моладзь з пачынкаў, шкаляры, але галоўную частку гурмы складалі ўцекачы з разоранага, выпаленага татарамі поўдня і сярэдзінных земляў Белай Русі. Наўрад ці ім у гэты час было да багамолля. Проста і ў Вільні яны не знайшлі хлеба для жыватоў і зерня дзеля пустых сваіх ніў. Нельга было купіць нават за грошы, што прыдбалі яны дзёрзкасцю Юрася Братчыка, рачонага Хрыста. Быў неўраджай.

Яны ішлі абы ісці. Большасць не ведала, куды падацца, і рушыла на гародзенскую дарогу, бо на яе выйшаў Хрыстос з апосталамі.

Рухала імі не мэта, а немагчымасць заставацца на месцы.

А галоўнае, усімі гэтымі тысячамі рухаў голад або прывід блізкага голаду.

Нішто яшчэ не прадракала наступных падзей, калі яны, адтупаўшы ў той дзень блізка сарака (нямераных, вядома, ані імі, ані кім яшчэ тады) кіламетраў, сталі начлегам ля нейкай невялікай вёскі. Панываласць валодала імі. Раніцай частка хацела ісці на поўнач, у балтыйскія гарады, частка на поўдзень, бо спадзявалася, што ўцякло зашмат народу, што поўдзень моцна абязлюдзеў і магнаты, з нявыкруткі, будуць даражыць працоўнымі рукамі. На Гародню амаль ніхто не хацеў ісці. Ведалі, як звязвацца з бацькамі царквы і прыснымі.

І, магчыма, нічога б не было, каб загад аб анафематстваванні прыбыў у вясковую царкву днём пазней і не сустрэўся тут з чалавекам ад Іллюка, які спяшаўся ў Вільню, не ведаючы, што Хрыстос выйшаў з яе, што ён ужо тут і, галоўнае, не адзін.

Выпадковасць, падрыхтаваная голадам, нашэсцем, хцівасцю багатых і моцных, зрабілася раптам заканамернасцю і прынесла праз некаторы час свае страшныя, крывавыя і велічныя плады.

У стане ўжо дагаралі вогнішчы (ночы пасля дажджоў зрабіліся цёплыя, нібы ў ліпені, а гатаваць дужа не было чаго), калі ў царкве, наводшыбе ад

вёскі, запалалі вокны, а праз некаторы час пачуліся спевы.

З цікаўнасці людзі рушылі туды, пачулі страшны, чэраўны рык дыякана, знаёмыя словы аб пракажэнні, удаўленні і імгненнай смерці розных там ворагаў людства, зразумелі, што ідзе анафематстваванне, а пасля ўчулі, што анафему спяваюць чалавеку, які пабіў татар (аб ягоных выбрыках у Наваградку яны, вядома ж, не ведалі, а каб і ведалі, то не паверылі), разагнаў гандляроў і вось толькі зараз даў ім грошай, чалавеку, які стаіць сярод іх і нават з цікавасцю слухае страшныя, глухія, закасцянелыя словы праклёнаў.

Натоўп застыў.

Яны б, вядома, менш былі ўражаны, каб даведаліся, што анафему спяваюць паўсюль, куды дасягне лапа святой службы і гародзенскіх папоў.

Але яны ў той час не думалі пра гэта. Для іх менавіта ў гэтай вось драўлянай царкве, што тырчала перед вачыма, увасобілася зараз галоўнае зло.

— Чуеш? — спытаў ваўкавыскі мужык.

— Гэта яны за тваё дабро, Хрыстос,— сказаў сівавусы.

Натоўп маўчаў, але яшчэ не ведаў, што рабіць. Нейкі шэры чалавек, увесь гнуткі, нібы бяскосты, пачуўшы імя, названае сівавусым, праштурхаўся праз натоўп і стаў, гледзячы Юрасю ў рот цьмянымі, нібы ў крата, вачыма. Чакаў.

— Плюнь,— сказаў Раввуні.— Быў злодзей — быў якраз. Стаў Хрыстом — значыцца, анафема. Закон.

Шэры, нібы пачуўшы пацверджанне, пачаў непрыкметна заходзіць у бок Юрасю, дзе шчыльней за ўсё стаяў натоўп. Твар ягоны быў нібы сляпы і не выклікаў ніякіх падазрэнняў. Доўгія рукавы хавалі рукі.

Невядома, чым бы скончылася маўчанне, каб шэры раптам не кінуўся наперад. Гэта было зроблена бліскавічна, ніхто нават не паспеў зразумець, што такое. На імгненне ён як бы прыліпнуў да Хрыста, вокамгненна выхапіў руку з чымсьці бліскучым, прыціснутым да запясця і перадплечча, і зверху ўніз нанёс слізготны, страшны, на волас ад цела, майстэрскі ўдар.

Пасля ён вытаргнуў бліскучае (сляпое аблічча ягонае ззяла нечуваным, фанатычным захапленнем) і прарыдаў у трыумфу і самазабыцці:

— Лотр!.. Царква святая! Прымі ворага!

Хрыстос павярнуўся і, хістаючыся, глядзеў на яго. Усё гэта здарылася так хутка, што не мог бы мінуць час нават між адным мірганнем веяў і другім. Шэры разлічана перахапіў нож (ніхто не заўважыў як) і ўдарыў на гэты раз знізу. Але на гэты раз ён не паспеў: Юрась стукнуў яго нагою па руцэ, выбіў бліскучае і ўдарам у твар зваліў на апосталаў. Шэрага схапілі.

— Ваўкі божыя! — у экстазе, з пенаю на вуснах крычаў шэры.— Ірвіце! Шматайце!

— Лотр? — усё яшчэ хістаючыся, перапытаў Хрыстос.

— Гляньце на лепшы мой час! — напінаўся фанатык.— На пакуту маю! Гляньце, вось ірвуць мяне, але ўражаны сын Беліяла!

Усе глядзелі на яго і на зямлю. На ёй ртутным, трохі скрыўленым языком ляжаў страшны зарукаўны ікол — паменшаная копія мяча для бою ў цеснаце. Паменшаная і, вядома, разлічаная на ўдар адной рукою.

— Чаго ж ты не падаеш?! — хрыпеў схоплены.— Падай! Падай! Душа твая ўжо ў дарозе.

— Майстра,— нават з некаторай павагаю сказаў Хрыстос.— А падаць мне — чаго ж?

Народ ахнуў толькі тут.

— Бессмяротны? — фанатык абвіснуў.

— Не дзейнічае,— загулі галасы.— Вядома, не дзейнічае. Ведаў бы, на каго руку ўздымаць.

І зноў маўчанне. І зноў людзі пачулі, як дыякан на верхніх нотах, амаль зрываючы голас, узглашае: «Ан-на-фем-ма-а-а-ы».

— Хлопцы! — залямантаваў раптам малады.— Дык гэта што ж?! Яго гнаць будуць, праклінаць, а мы маўчым? Ён заступаецца, а мы маўчым? На яго нож імем царквы заносяць, а мы маўчым? Ды калі яны бога клянуць, калі нож на яго заносяць — што дамы іхнія, як не гнёзды д'яблавы?!

— Раскідаць! — падхапілі галасы.

— Па бервяну разнесці!

— Гані іх з пацучынага занорка!

Натоўп рынуў да царквы.

Праз некаторы час уся яна, ад падмурка да званіцы, зырка палала: на сцены вылілі некалькі вядзёрных бутыляў з алеем. Астатнія глуха бухалі ў падклецці. Полымя, знайшоўшы цягу ў званічнай трубе, пачынала лізаць званы. У трубе круцілася і раўло, бы ў пекле, і тромб паветра, увесь час мацнеючы, пачынаў гайдаць званы. Часам яны глуха ўздыхалі.

Шэры глядзеў на агонь ненавідзячымі, нібы сляпымі, вачыма.

— А з гэтым што? — спытаў малады.

— Кінуць! — крычалі адусюль.

— У агонь!

Дзесяткі рук схапілі яго і панеслі да пажарышча, узнялі, пачалі разгойдваць.

— Стой,— сказаў Хрыстос.

Дзіўна, яго пачулі адразу.

— А што, кепская з яго будзе смажаніна, хлопцы? — усміхаючыся, сказаў ён.

— Д-ды нельга сказаць, каб самы смак...— вусы сівавусага варушыліся.

— То хай ён трохі яшчэ лою нагуляе, смаркуль,— сказаў Хрыстос.— Будзе ведаць, як са сваімі цацкамі ў сур'ёзную гамонку лезці.

Людзі вызвалена зарагаталі.

— Хай паплачацца ў тых, хто даслаў, дурань няшчасны. Можа, яму цыцу дадуць.

— Няма ў іх.

— А чорт яго ведае. Там у іх адзін Лотраў прычотнік ёсць, рымлянін, то, дальбог, не разбярэш, хто ў іх там мужык, а хто баба.

— Забі,— хрыпеў кінуты.— Забі, сатана.

— Ідзі,— сказаў Хрыстос,— ідзі, пакуль не перадумаў. Бач, з ножыкам яму абысціся, бы ў свайку згуляць. Гэта ж падумаць, руку на чалавека!

Кінуты ляжаў, як мех з анучамі. Усе глядзелі. Пасля ён узняўся і павольна, не сваімі нагамі, пайшоў прэч ад агню, у цямноцце.

— Іосія,— сказаў Хрыстос,— ану, пройдзем.

Яны спусціліся па адхону да самага крайняга вогнішча, над самай ручаінай. Людзі засталіся каля царквы глядзець на агонь.

— Няма, брат, на свеце лепшага відовішча за пажар,— з павагай да іх сказаў Хрыстос.— Калі, вядома, гарыць не твая хата.

Падумаў і дадаў:

— Калі гарыць не чалавечая хата.

І сеў, скідаючы хітон.

— Паглядзі, што гэта ў мяне на спіне.

Іуда ахнуў. Хітон густа набракнуў крывёю. Сарочка была хоць выцісні.

Абмываючы цела, іудзей сказаў:

— Адно я здзіўляюся, як цярпеў? Другое я здзіўляюся, як гэта ўсё так абышлося? Проста глыбокі парэз.

— Нельга паказваць крыві, разумееш.— Шкаляр заскрыгатаў зубамі, калі сушаная трава-крываўка лягла на рану.— А наконт другога, то правільна здзіўляешся. Вялікі майстра наносіў удар. Надвае распаласаваў бы, каб не пашэнціла.

— Добрае шанцаванне. Далі былі па шыі, але пашэнціла, паспеў унікнуць. Крутануўся, і ўсяго толькі і выбілі, што восем зубоў.

— Пашэнціла. Зажыве, як на сабаку. Пашэнціла, што ікол узяў. Смертаносная брыда, не ўратуешся. Але скрыўленая. Што да рукі, што і да цела прылягае... О-ох! Калі сустрэне перашкоду — слізгане, і ўсё. А я ў сукню там дваццаць залатых шчыльна нашыў. Ты, конаўка, заўсёды ніц не ўтаропаеш, раздасі, а раптам варту падкупіць давядзецца або коней дастаць, калі смерць на плячах вісець будзе? То ж бо! А яшчэ кажуць, што грошы — ад д'ябла.

Калі яны вярнуліся да пажарышча, натоўп неяк дзіўна маўчаў.

Усе глядзелі на іх.

— Ну, пагаварылі? — спытаў сівавусы.— Цяпер што?

— Не ведаю.

— Павінен ведаць, раз бог,— аблічча маладога было страшнае.

— А калі я шкаляр?

— Усе мы шкаляры ў бацькі нябеснага,— непахісна сказаў сівавусы.

Страшная сіла была ў ягоных словах і пільным позірку.

— Я чалавек.

— І сын божы быў чалавек,— вочы ў сівавусага былі як жар, можа, ад зарыва.

— Ды я...

— Кінь, ты і тады баяўся, як упершыню прыходзіў. Гэта нічога. Мы цябе ў крыўду не дамо.

— Не ведаю, аб чым кажаш ты.— Хрыстос адчуваў, што яго зацягвае, што дарогі назад няма.

— Брэшаш, ведаеш,— прарвала раптам сівавусага.— Павінен быць бог, раз нам гэтак кепска, раз нам — смерць.— Горла ягонае раздзімалася.— Не смей ношай грэбаваць.

— Скінеш яе з плеч — канец нам,— горача зашаптаў малады.

Фама раптам крэкнуў і ўстаў:

— Вось што, хлопчыкі. Я мяркую, гэта ў вас дух божы ўсяліўся. Чаго пытаць, раз усе вы пра адно зараз надумалі. А раз усе пра адно — ад каго гэта, як не ад яго? Ну і дзейнічайце сабе, чаго да бога па дробязях прысталі? Усё адно як старая баба: «Божачка мой, зрабі, светленькі, каб мой певень курэй маіх удала таптаў, каб не было больш баўтуноў, каб піскляткі крапіўку хораша дзяўблі». А богу толькі і справы да таго пеўня і да таго, што баба, дурная, новага не купіць. Хоць ты самому тых курэй тапчы.

Рогат.

— Думаеце аб адным, што хлеба няма — і ён пра гэта думае. Што ўвесь хлеб у пэўным месцы і яго трэба ўзяць — і гэта думка ад яго. Што трэба нам, пакуль нас шмат, не па хатах ісці, а туды, бо раней сяўбы ўзяць трэба хлеб, каб было чым сеяць. Ды заадно і вінаватых у голадзе за гардзёлку патрэсці.

Радасны, агульны крык узвіўся над пажарам.

— Дзякуй, Тумаш,— ціха сказаў Юрась.— І ім і мне трэба туды. Толькі сам, без цябе, без гэтага крыку, я б іх туды не наважыўся клікаць. Сорам. Нібы дзеля сябе на смерць вяду.

— Ну і дурань,— сказаў Фама.— Няма за што. Чуеш, як крычаць?

— Мілы,— ціха і горача сказаў сівавусы.— Зразумей, усё адно. Павінен быў ты прыйсці. Бог... Чорт... Чалавек... Усё адно. Але не паверым мы,

што ты не бог. Не таму, што дзівы твае бачылі. Таму, што бязвер'е нам зараз — смерць.

І ён зразумеў, што ўсё зрабілася так, як павінна было быць і як хацеў ён сам. Невядомая сіла прывяла яго сюды, каб настала гэтае імгненне, і ўжо сам ён не вядзе ці яго вядзе шматтысячнае наканаванне — усё адно. Ён узняў рукі.

— Людзі,— ціха сказаў ён.— Дзецюкі! Народ мой! Адна ў нас дума, і няма больш сілы маёй трываць, як няма яе ў вас. Цяпер — да канца.

Маўчанне. Бо Юрась узняў рукі.

— Хлеб у Гародні. Але я не хачу думаць, што ідзём мы па адзіны хлеб. Не хлеб яны ўзялі ў свой Вавілон, у кубло гадзючае, а хлеб дабрыні вашай, літасці, даверу. Не толькі той кавалак, што несяце ў рот, а той, які далі б жабраку, суседу, у якога вымерзла ніва, брату з суседняй весі, брату, што прыйшоў з зямлі, на якой голад. Няма ім за гэта даравання, дзе б ні схаваліся — у доме рады, у зборні, у кляштары, у царкве ці касцёле. За абражаную веру ў дабрыню чалавечую — няма даравання, вы яшчэ зразумееце гэта. За тое, што кожны дзень там распінаюць чалавека, даравання няма. Мог бы я вам сказаць словамі пісання, накшталт: «Ачышчаюць вонкавасць чашы і блюда, а ўнутры поўныя яны рабунку і няпраўды». Або: «Абходзяць яны сушу і мора, каб схіліць хаця адну душу, хаця аднаго, і, калі гэта здараецца, робяць яго сынам пекла, удвая горшым, чым самі». Але нашто мне казаць вам гэта? Пісанняў на зямлі шмат. Праўда чалавечая — адна!

У гэты момант, відаць, абурыўся алтар і аркі прытвораў. Страшэнны парыў ветру рынуў у трубу званіцы, і ад яго на ёй глуха, бязладна, страшна, самі сабою забухалі, зараўлі званы.

— Вось і набат,— сказаў сівавусы.

Гэта сапраўды было падобна на нечалавечы, магутны набат. Раўла нібы сама зямля.

## Раздзел XXXVIII

# ...І ЧАГО ПАСКУДНІКІ НЕ ЛЮБЯЦЬ, АБО ЦАРКВА ВАЯЎНІЧАЯ

Слухаючы гэта, яны разрываліся ад гневу...

*Дзеянні, гл. 5, ст. 33*

Падрыхтуйце таксама аслоў...

*Дзеянні, гл. 23, ст. 24*

На гэты раз яны сядзелі ў вялікай троннай зале. Магчыма, адчувалі важнасць моманту, магчыма — думалі, што болей ім тут сядзець не давядзецца. А хутчэй за ўсё хацелі надаць кожнаму свайму загаду адценне ўрачыстай дзяржаўнасці, кожнае слова сказаць нібы ад пустога каралеўскага трона белай косці з золатам, ад імя гэтага знака, старажытнага, паганскага яшчэ, шасціканечнага крыжа, ад імя Патрона з мячом і дзідай, які распасцёр над усім гэтым капыты свайго каня.

І не думалі яны, што няма да іх справы ні крыжу, ні конніку, ні трону. Проста тыя глядзелі з вышыні, як трапечуцца нешта пад імі першыя людзі горада. Першыя ў пашанах — першыя ў заганах.

Некалькі гадзін таму яны зведалі, у дадатак да таго, што замах не ўдаўся і што шэры некуды знік, яшчэ і тое, што мужыцкі натоўп, на чале з ілжэ-Хрыстом, ідзе на Гародню і адлегласці да яго самае больш ае два дні. Яны не спадзяваліся, што ён можа рухацца так хутка. А ўсё было вельмі проста, і чарговы ганец растлумачыў гэта.

Людзі Хрыста дарогаю куплялі коней у мясцовых жыхароў. Танна куплялі, бо кожны прадбачыў зімнюю бяскорміцу і рад быў прадаць лішняга каня, калі меў. Акрамя таго, людзі спяшаліся ісці. Ліхаманкава спяшаліся. Наддзіраліся, каб толькі прыйсці хутчэй. Жнівень пераваліў на другую палову. Прагна чакала зямля. Знемагала па тым часе, калі прыкрые зерне пухавой, чорнай коўдрай. Трэба было хутчэй даць сім-тым па кіпцюрах, узяць нарабаванае і спяшацца.

Пры гэтай звесці Басяцкі і Лотр, як найбольш дальнабачныя, пераглянуліся. Гэта іх суцяшала. Аднак толькі гэта і было суцяшальным. Горад нібы

падмянілі. Ніхто не кланяўся Лотравай кавалькадзе і Лотру, усе змрочна глядзелі ўбок і ўніз, нейкія людзі шнырылі ў раёне Мечнай вуліцы. Шпегі і віжы збіваліся з ног і нічога не маглі зрабіць. «У кожную гадзіну чакай удару ў спіну». Адзінае спасенне было — стрэць ворага далёка ад муроў і раздушыць жалезам, дый на гэта цяпер не было часу.

Цэлы дзень на Ростані, на Старым і Рыбным рынках кіпелі страсці. Крычалі, спрачаліся, заводзілі нейкія дыспуты. Школяры лаялі манахаў, манахі — школяроў. Нават Бекеш з прыснымі швэндаліся па горадзе з падазроным выглядам: так і чакай, што пачнуць выкрываць. Пад вечар Лот з Басяцкім вырашылі праехаць горадам і самім паслухаць, што і як. У глыбіні душы яны ведалі: калі Гародня завірыць — Гародню давядзецца кінуць. Яны ведалі, нават не дамаўляючыся, хто павінен на такі крайні выпадак застацца ў ёй. Вядома, той, хто вечна быў у цені, чый сапраўдны твар людзі зведвалі занадта позна, калі было ўжо два выхады — плаха або каменны мех.

І ўсё ж у глыбіні душы яны і не верылі, што ўсё гэта зойдзе так далёка. Войска Хрыстова абрастала людзьмі, як лавіна снегам, гэта так. Зараз у яго было, па даносах, нешта каля цьмы людзей. Але ж гэта былі мужыкі. Неабучаныя валоданню зброяй, няспрытныя на сваіх сялянскіх конях, нязграбныя бравэрачнікі, чорная костка. Нават ідучы на разбой, яны бяссільныя супраць коннага чалавека ў латах, калі ў таго меч, а ў збраяносца аркебуза ці пулгак. Хіба не адбіўся аднойчы на паляванні Мартэл Хрыбтовіч ад сарака гэткіх? Адзін, бо збраяносец быў у бойцы аглушаны.

То дзве з паловай тысячы конных латнікаў ды дваццаць канонаў — хопіць вышэй галавы, каб раздушыць хамскае войска. Слаўны Бертран спяваў праўду:

I люба бачыць мне, як раб,
Што здуру кінуўся ў баі,
Бяжыць і кідае свой скарб,
А войска гоніцца за ім.

І нічога, што гэта падобна нападу на мірную вёску з мэтай рабунку. Так і здарыцца. Тым і скончыцца.

Раздражняла несуладнасць моцных. Нібы не разумелі ўсёй небяспекі, цягнулі кожны ў свой бок. Зараз

палохалі, як заўсёды, ці то п'янага, ці то проста дурнога (ніяк нельга было ніколі здагадацца) войта. Цыкмун Жаба не хацеў даваць у атрад Карніле сваю варту і сваіх загонавых:

— Не дам. Сабе ахова патрэбная. У караля прасі.

— Шмат ты ў гэтага...— дамініканец сказаў непрыстойнае слова аб годнасці Жыкгімонта як мужчыны,— выпрасіш.

— Ты што гэта? — буркатліва кінуў Камар.

— А што? Нездарма княгіня Медзіяланская[1], здаецца, і замуж не паспела выйсці, а некалькі месяцаў у Рагачове сядзела ды тамтэйшага двараніна, Гервасія Выліваху, у веры параконвала,— дамініканец быў злы да нястрыманасці.— Упарта параконвала, нават па начах. А ерэтык Гервасій так ерэтыкам і застаўся. Невядома яшчэ, чый і сын.

— Змоўч,— папрасіў Лотр.

Але мніх са злосці на гэтае быдла, што не разумее, які абух у яго над галавою, не супакойваўся.

— У іх ва ўсіх так. Пераважна жонкі іхнія, кабеты, аб дынастыі стараюцца. Аляксандрава жонка не падбала, то трон і дастаўся дзеверу.

— Змоўч,— яшчэ цішэй сказаў кардынал і раптам раўнуў на Жабу: — Вядзі людзей, іначай...

— Кніжнік ты,— ашалеўшы ад жаху, залямантаваў Жаба.— Фарысей! На галовах вашых імёны багахульскія!

— ...іначай, святой сёмухай клянуся і жыватворным крыжам, мы раней, чым яго, абяззброім тваіх малайцоў, а цябе выставім аднаго насустрач хамам.

Жаба зразумеў, што жарты кепскія.

— Добра,— ляскаючы зубамі, сказаў ён.

— Даўно б так,— сказаў Лотр.— Прыцісні да загаду сыкгнет[2]. Вось так. А цяпер паспрабуем, дзякуючы дару, які даў нам бог, прадбачыць усе магчымыя вынікі.

«Ты ўжо раз прадбачыў»,— падумаў Басяцкі, але змоўчаў. Лотравы вочы спыніліся на ім:

— Ты, каплан, паскачаш сёння пад вечар у стан

---

[1] Бона Сфорца, жонка Сігізмунда Першага, дачка міланскага тырана Ладавіка Сфорца.

[2] Пярсцёнак з пячаткай.

гэтага д'ябла. Не мне цябе вучыць. Але скажы: войска каралеўскае ідзе.

— А яно ідзе? — спытаў Жаба.

Цяпер на яго можна было не зважаць: сыкгнет стаяў перад загадам. І кардынал абарваў:

— Глупства пляцеш... Дык вось, калі не спалохаецца — прапануй водкуп.

— Так,— Камар узняў пагрозныя бровы.— Сто тысяч залатых. Скажы: больш, чым татарам. А сілы ж у яго менш.

— Паскачу, але ён можа адмовіцца,— сказаў пёс божы.

— А ты пастарайся, каб чуткі аб выкупе дайшлі да хлопаў. Паднясі ім яблык раздору... Ну, а ваша думка, ілюстрысіме гаспадар Жаба?

— «Яблыкі харошыя — вельмі харошыя, а кепскія — вельмі кепскія, так што іх нельга есці, таму што яны дужа нехарошыя»,— казаў у падобных выпадках мудры Іерэмія.

— Прыбярыце гэтае п'янае быдла,— засычэў Лотр.

— «Лепей быць п'яным, чым цвярозым»,— казаў у падобных выпадках Саламон,— сказаў Жаба.— Лепей быць вялікім і мудрым, чым маленькім і дурным. Што ёсць — тое ёсць, чаго няма — таго няма. У нашых парсюках наша будучыня... А парада мудрага...

Яго ўзялі пад рукі і вывелі.

— Ну вось,— сказаў Лотр.— Астатнія могуць ісці рыхтаваць воінаў. За работу. Ты, Фларыян, застанься, а ты, Карніла, прывядзі ката.

— За што?! — з усмешкай, трагічным шэптам спытаў мніх.

— Тфу,— сказаў Лотр.

Сябры ў сатане засталіся адны.

— Мяркую, ты ведаеш, аб чым будзе размова?

— Але. Думаю, Хрыстос можа ўзяць горад. Прыйдзе гаспадар, а вы гэтага страшэнна не любіце.

— Цярпець гэтага не магу,— усміхнуўся Лотр.— Ход падземны хаця не абваліўся?

— Што ты. За ім сочаць. Гэта ж не муры... Дык што, заставацца мне?

— Але. Адразу. Пастарайся, калі ён не згодзіцца, калі раздору не будзе, вярнуцца цішком. Мы скажам,

што ты паскакаў у Вільню за падмогай. А ты тым часам пяройдзеш у цёмны схоў. Да гэтага можа не дайсці. Усё ж водкуп, раздор, магутнае войска, бітва... Але як дойдзе — мы правімся ў Ваўкавыск за падмогай. Там крэпасць не ўзялі крымчакі. Там моцнае войска. Прывядзём. Суцяшае тут...

— Суцяшае тут тое, што ягоныя мужыкі не будуць сядзець доўга. Разыдуцца. Земляны чарвяк не можа без зямлі. Застануцца хіба мяшчане. Ты зразумеў, што табе рабіць?

— На гэты выпадак, ведаю. Калі ты падыдзеш — дай знак. Я пастараюся да таго часу сабраць багатых цэхавых, сярэдніх, купцоў і іншае такое. Ды як на мядзведзя — адным махам.

— Так. Гульня наша не ўдалася. Усё здарылася не так, як хацелі. Значыцца — карты пад стол ды па зубах.

— Ты непапраўны. За такія параўнанні на тым свеце...

— Нам усё даруюць на тым свеце, калі мы раней за нас адправім туды гэтага Хрыста. А калі не яго аднаго, ды яшчэ з вялікай крывёй — тым болей.

— Ну вось,— уздыхнуў Басяцкі.

— Ну вось. А цяпер забудзь. Гэта проста размова да крайняга прадбачлівых людзей. Водкуп вялізны. Такіх грошай ніхто з іх не бачыў у вочы. А не разбягуцца ад золата — разбягуцца ад мяча. Дзіваў не бывае.

Прыйшлі Карніла і кат.

— Слухай,— сказаў кату Лотр.— Табе загад такі: як толькі я дам ведаць, дзеўку, што ў цябе, прыдушы.— Нейкая думка прамільгнула ў яго на твары.— Слухай, а што, калі згуляць на ёй? Заложніца.

— Месяц назад атрымалася б,— змрочна сказаў дамініканец.— Ад радасці ўцёк бы з ёю хаця ў Влохі, хаця ў Турцыю. А цяпер... Ты кепска ведаеш такіх людзей. Памрэ пасля ад тугі, а тут палічыш, што гэта не варта ягонай годнасці. Узвысілі вы гэтага махляра сабе на шыю.

Кат глядзеў на іх млява і спешчана. Рот жорсткі і іранічны, а ў вачах меланхолія.

— Ты аб чым думаеш? — спытаў Лотр.

— Птушачка,— паказаў кат на жалезнага арла.— Леўчык. Або не, гэта воўчык.

— Ну і што?
— Непарадак. Клетачку б. Вось займуся.
— Займіся ты, пакуль жывы, тым, што загадана.
— «Жалезнай дзевай»?
— Чым хочаш.
— Значыцца, белы ліст. Ціка-ава як. Дзякуй, ваша правялебнасць. А што далей?
— Калі такі загад будзе — далей рабі, што хочаш.
— Прысягу, значыцца, здымаеце з мяне?
— Здымаю... Калі не навек.
— Ну, добранька. Я знайду, што рабіць, падумаю.
— Ідзі.
Яны засталіся ўтрох.
— А ты рабі вось што, тысячнік. Адмовіцца ён, не адмовіцца — збірай усе сілы ды выводзь на тое месца, дзе зліваюцца лідскі і віленскі шляхі. Усіх, нават гандляроў, бяры. Яны яму гісторыі з рыбай не даравалі. Прымуць водкуп — ганіся, бі паасобку. Не прымуць, падыдуць туды — разбі іх. Гані і рэж да апошняга. А Хрыста цягні сюды.
Лоб у тысячніка здаваўся яшчэ ніжэйшы таму, што быў Карніла падстрыжаны пад гаршчок. Гэты лоб не моршчыўся. І раптам Карніла сказаў дзіўную рэч:
— Самі кажаце, Хрыста?..
— Ды гэта ж мы яго...
— Ну, вы... Раней аб'явілі. Пасля ўсе людзі паверылі. Дзіваў столькі нарабіў. Татар адлупасіў. Мяне два разы прагнаў. І Матка Вастрабрамская нічога з ім не зрабіла... І вось «хапай». Непарадак.
— Ты што, сябе з Маткай Вастрабрамскай раўняеш?
— Таксама сіла і я. Не бывала такога, каб мяне білі. А тут: на мурах — раз, на рынку — два, пасля бярозаўскага разгрому — тры... Не да ладу. Ды яшчэ і Матка... Непарадак. Нешта тут не тое.
— Ну ты ж можаш яго пабіць.
— Дзіва што. Канонаў столькі. І адзін латнік з мячом, аркебузай, пулгакам усяго на чатырох сівалапых у палатніне. Тут і думкі не можа быць: першай коннай атакай, адной вагою расціснем, перакулім і яшчэ раз у блін расціснем. А толькі — непарадак.
— Шашок ты,— раззлаваўся Лотр.

— Ну і няхай. А загады сабе супярэчыць не павінны. Непарадак.

— Чакай, Лотр,— сябар Лайёлы ўсміхнуўся.— Ты, Карніла, мяне паслухай. Ты што, свяцей святога Паўлы?

— К-куды там. Ён ля бога самога сядзіць.

— А Паўла між тым «дыхаючы пагрозамі і забойствам на вучняў пана бога».

Карніла пакутна моршчыў рот. Як гэта было цяжка. Чаго хоча ад яго гэты? Тысячнік, урэшце, дадумаўся.

— Дзе гэта? — недаверліва спытаў ён.

— Клянуся табе, што гэта так. Гэта дзеянні апосталаў, том дзевяты.

— Хіба што том дзевяты,— з палёгкаю сказаў тысячнік.— Слухаюся.

— Ідзі,— сказаў Лотр.— Будзе ўцякаць — не бяры жывога. Так нават лепей.

— Што ж, м а е рукі ў крыві?

— Дурань. Чым болей ён для ўсіх — тым меней дзеля сябе, тым мацней, тым больш небяспечны нам.

Карніла нічога не зразумеў, і гэта, як заўжды, супакоіла яго. Ён кіўнуў.

— Таму вось табе загад: вязаць, забіваць усіх, хто прызывае імя гасподне.

Гадзінай пазней Лотр і Басяцкі на чужых конях і ў звычайных ваўняных плашчах з капюшонамі, што хавалі амаль увесь твар, ездзілі па горадзе і прыслухоўваліся да таго, што гавораць.

Горад гудзеў, як вулей, у які нейкі гарэза кінуў каменьчык. Паўсюль спрачаліся, а сям-там справа даходзіла і да грудзей. Але паўсюль фонам размовы было:

— Мужычы... мужычы... мужычы Хрыстос!

І толькі вяртаючыся дамоў, на Старым рынку, калі замак быў рукою падаць, трапілі яны ў непрыемны пераплёт.

На Старым рынку лаяліся, лаяліся да зубоў і пены. Ішоў дыспут між маладзенькім бялявым шкаляром і мажным сівым манахам. Манах відавочна перамагаў. А ўбаку стаялі і з цікавасцю глядзелі на ўсё гэта людзі, якіх Лотр не любіў і пабойваўся ледзь не болей, чым ілжэ-Хрыста, што зараз ішоў на горад.

«З тым ясна, махляр, бунтаўшчык, і ўсё,— думаў

Лотр.— А хто гэтыя? Хто гэты юнак Бекеш? Ён багаты, бач якая рука! Што прымушае яго з пагардай глядзець на цудоўна ўладкаваны свет? І хто гэты Кляонік, што стаіць побач з ім? Разьбяр багоў, пачэсная работа. Што яму? І што гэтаму Альбіну-Рагвалу-Алёйзе Крыштофічу ў францысканскім белым плашчы? Мяцежнікі? Ды не. Бязбожнікі? Пакуль, здаецца, не. Чаму ж яны так непакояць? Можа, таму, што ад гэтых ухвалы не дачакаешся, што яны бачаць усё, што кожная дзея высокіх людзей для іх — да апошняга дна зразумелы, малапачцівы фокус? А можа, таму, што яны ўсё разумеюць і ўсё раз'ядаюць сваёй думкай, нібы царскай гарэлкай. Нават золата багатых. Так вось гэта, відаць, і самае страшнае. Думаюць. І ўсё, што было дагэтуль, не вытрымлівае, па гэтай думцы, ніякай крытыкі, не можа быць фецішам. Адзінае бажышча — чалавек, якога пакуль няма. Ну, а калі ён, чалавек, іхнімі намаганнямі і верай ды дарасце да такога бажышча?! Падумаць страшна. Памяць знішчаць. Магілы аплююць».

Бес асцярожна аддзяліўся ад Лотравай спіны і знік. Кардынал стаў слухаць.

— Дык вось,— «дабіваючы», сказаў манах.— Калі папа Ян XXII казаў, што за забойства бацькі і маці чалавек плоціць у канцылярыю 17 ліўраў і 4 су, а забіўшы біскупа — 131 ліўр і 14 су; ён не казаў гэтым, што можна забіваць бацьку ці біскупаў, а проста паказаў цёмнаму народу ў адзіна зразумелы для яго спосаб, што такое людзі плоці, хаця б і самыя дарагія, і што такое людзі духу, людзі вышэйшай ідэі.

Шкаляр маўчаў. Ён не ведаў «Кодэкса апостальскай канцылярыі», якому было дзвесце год.

— Нават тупыя мазгі хама могуць зразумець такі просты спосаб ацэнкі,— трыумфальна агалашаў манах.— Вось што такое плоць і што такое душа!

Бекеш хацеў быў утрымаць Крыштофіча, але францысканец мякка вызваліўся. Усміхнуўся сябрам іранічнымі цёмнымі вачыма, зрабіў крок да шкаляра, які азіраўся, шукаючы падмогі:

— Малайчына, сын мой, ты зрабіў, што мог. Не твая віна, што ты пакуль не ведаеш гэтай брыды, забароненай яшчэ Піліпам пятым.

Шкаляр пачаў лавіць руку Альбіна. Той перахапіў ягоныя рукі, пацалаваў у лоб.

— Запомні, руку нельга цалаваць нават богу, калі ён з'явіўся ў вобліку чалавечым, бо цалуеш ты плоць. А богу-духу нельга пацалаваць рукі. Ergo нікому не цалуй рук.

І лагічна дадаў:

— Акрамя жанчын. Але, урэшце, гэтаму цябе, як прыйдзе твой час, вучыць не давядзецца.

Стаў супраць дамініканца, увесь белы, румяны тварам, спакойны.

— Значыцца, брат спявае алілуйю душы. Я згодзен з ім. Калі б ён вытрымаў сорак гадзін на коле — ён бы яшчэ больш р'яна заспяваў славаслоўе духу. Брат дазволіць замяніць мне гэтага маладзёна? Я цалкам згодзен з братам, але хацеў бы перавесці нашу спрэчку трохі... убок, назваўшы яе, скажам, «плоць, душа, ліцамер'е, або розум аб плоці, душы і аб тых, хто стаіць на варце іх».

Манахавы вочы забегалі. Ён адчуваў, што супраць яго магутны праціўнік, які з вонкавай зычлівасцю гуляе апанентам, як мячыкам. Але не згадзіцца, ды яшчэ з павернутай тэмай, гэта азначала прызнаць свой разгром. А іх не дзеля гэтага выслалі на вуліцы. Трэба было крычаць і спрачацца, каб люд не думаў аб тым, хто стаіць пад мурамі. Урэшце, хай нават і гэтая спрэчка.

— Калі ласка,— сказаў ён...

Крыштофіч уздыхнуў. Пасля рукі ягоныя цвёрда ўхапілі парэнчы подыюма.

— Брат сцвярджае, што «Кодэкс», ацэньваючы біскупа ў сем разоў даражэй за бацькоў, проста і наглядна сцвярджае аб тым, што такое чалавек плоці, набліжаны да суседзяў і сямейнікаў, і што такое чалавек духу і ідэі, то бок набліжаны да вярхоў.

— Так,— сцвердзіў дамініканец.

— Дазвольце нагадаць брату, што далей там сказана: за першага забітага свяшчэнніка — 137 ліўраў 9 су, а за кожнага астатняга — палову цаны.

Натоўпам пакаціўся смяшок.

— Я разумею, некалькі свяшчэннікаў даражэй за аднаго, хаця б нават біскупа. Але, прабачце, што наглядна сцвярджаецца тут? Тое, што наступныя свяшчэннікі менш людзі ідэі, чым першы? Тое, што яны больш людзі плоці і прыватнага жыцця? Або гэта проста такса для разбойнікаў, ды яшчэ такая,

што клапоціцца, як бы забойствы былі не занадта цяжкія для кішэні? Бедныя наступныя свяшчэннікі! Ім не пашанцавала трапіць пад руку першымі. Тады за іх заплацілі б поўнасцю. Іх бы гэта, безумоўна, суцешыла ў іх жаласнай юдолі. Не смейцеся, людзі. Таму я і кажу аб ліцамер'і тых, хто ўвесь час галасней за ўсіх крычыць аб духу і плоці. Гэтае пустапарожняе пытанне яны прыдумалі, каб вы менш разважалі аб сённяшнім дні, каб прыдаць сваім махінацыям адцене глыбакадумнасці і філасофскай праўды. На самай жа справе іх гэта цікавіць прыблізна, як мяне — лёс зношанага мною ў дзяцінстве плашча. Не цікавіць іх ні дух, ані плоць... Вось я зараз давяду іхнюю двудушнасць. Яны сыны мамоны і пуза. Але чаму яны так клапоцяцца аб вашым духу і вашых мазгах? Скажаце, таму, што аддаюць пальму першынства душы? Мана!

— І тут брэшаш ты, сцвярджаю,— сказаў манах.

— Чаму? Вось наш папа сказаў багасловам, якія давялі неўміручасць душы: «Меркаванні, прыведзеныя вамі на карысць сцвярджальнага адказу, здаюцца мне глыбока прадуманымі, але я аддаю перавагу адмоўнаму адказу, бо ён падахвочвае і схіляе нас з большай увагаю ставіцца да свайго цела і мацней даражыць сённяшнім днём».

— Не можа быць,— ахнуў нехта.

— Клянуся! Таму я і кажу вам, сыны мае, што куды б яны ні ставілі дух — справы ім да гэтага няма, і спрэчка гэтая не каштуе выедзенага яйка. Жаруць не ў сябе курэй, і рыбу, і мёд, і заморскую садавіну, і віна, крычаць пры гэтым аб духу для вас, а клапоцяцца аб плоці сваёй. Вось вам ганьба сённяшняга дня. Не слухайце іх філасофіі. Таму што яны ліцамеры, труны павапленыя. Справа ім да думак! Ім абы вы думалі, як яны, і не перашкаджалі ім жэрці.

Лотр і Басяцкі пераглянуліся.

— Ты загадаў адцягваць спрэчкамі ўвагу,— сказаў праезуіт.— Чуеш? Гэта ж падбухторванне!

— Людзі, якім сапраўды важны чалавечы дух, плоццю сваёй плацяць за жывых. Вогнішчам, гаротным выгнаннем, турмою, катаваннямі, паклёпам брудным, які на кожным з іх. А гэтыя махлярчыкі і брахуны? Шмат яны пакутнікаў далі за апошнія стагоддзі? Калі і далі, то гэта былі простыя цёмныя ваякі царквы ваяўнічай, якія па тупасці сваёй не здо-

лелі разабрацца ў тым, што ніводны біскуп, крычучы аб духу, не гіне за веру. Яны клічуць вас у крыжовы паход супраць туркі і няверныя, збіраюць на гэта грошы з простых. А вось што піша адзін з нямногіх сумленных біскуп Іаган Бурхард[1]. «50 блудніц скакалі ў скоках, якія не апіша прыстойнасць. Спачатку адны, а пасля з кардыналамі... І вось папа зрабіў знак да спаборніцтва, і... госці пачалі чыніць з жанчынамі...» Я не буду абражаць вашага слыху, простыя і наіўныя, але ўсё гэта рабілася на вачах у другіх, а дачка папы сядзела «на высокім подыюме і трымала ў руках узнагароду спаборніцтва, якую меў атрымаць самы стойкі, палкі, няўтомны».

Дамініканец сціснуўся і ўжо нават не спрабаваў лезці ў спрэчку. А голас Крыштофіча грымеў:

— Вы адмаўляеце сабе ва ўсім дзеля нябеснага Ерусаліма, галадаеце і мерзнеце, льеце кроў, а яны, лежачы з блудніцамі, падбухторваюць вас: «Так, так». Дыякан часоў першапакутнікаў мог не баяцца чэрава львінага на рымскай арэне, апостал нават не баяўся крыжа, а ў нас знайшоўся адзін толькі, бедны нясвізкі пакутнік Аўтроп. Чалавек, які досыць не еў поліўкі з часнаком, чалавек, якому вера ягоная нічога не дала, аддаў за гэтую веру больш, чым тыя, каму яна дала ўсё. Аддаў самае дарагое, што ў яго было: нясытае, вартае жалю, але ўсё ж *жыццё*. І не толькі за людзей, а і за майно царквы, дробачкі якога хапіла б, каб дзеці ягоныя ўсё жыццё не кладліся спаць нагаладзь. Бедны чалавек! Бедны святы дурань! Вялікі святы дурань! Ён не ведаў, што рыба даўно ўжо смярдзіць з галавы!

Людзі маўчалі нейкім новым, нябачным дагэтуль маўчаннем. І тут загрымеў раптам голас. Лотр не вытрымаў.

— Ерась вярзеш! Перакульваеш трон Хрыста, філосаф!

Усе глядзелі, як ён жалезнай пальчаткай адкінуў капюшон і явіў людзям румяны ад гневу твар. Басяцкі не паспеў затрымаць яго і зараз ужо не мог адкрыць сваё інкогніта.

«Што ж,— падумаў ён,— хай атрымае па пысе.

---

[1] Цырымоніймайстра папы Аляксандра VI, аўтар «Дзённіка рымскай курыі».

А атрымае. Не дужа спрытны ў спрэчках, а я не маю права падтрымаць. І каму гэта патрэбна ў такі дзень?!»

— Гэта ён не тое мае на ўвазе.— Крыштофіч звярнуўся да натоўпу, нібы ўключаючы яго ў тое, што мела адбыцца.— Ён хоча сказаць, што філосафы і тыя, хто піша, куляюць нібыта трон Хрыста, каб пасля кульнуць трон Цэзара. Вось чаго ён не любіць. Да Хрыста яму — э-эх!

Натоўп скамянеў ад жаху. Крыштофіч, не спалохаўшыся сваіх словаў, сказаў з усмешкай:

— Хто можа быць супраць словаў «любіце бліжняга»? Я — не!

У гурме пачуліся ўздыхі палёгкі. Да апошняй ерасі, да адмаўлення бога, не дайшло. Дый Крыштофіч быў далёкі ад гэтага.

— Але паглядзіце, як разумеюць гэтую любоў тыя, што смярдзяць з галавы. Хрыстос пераконваў, даводзіў, ён нікога не судзіў і не забіваў. А яны? Усе яны?

— А я табе кажу, што лютарцы лепшыя! — крыкнуў з натоўпу нейкі патаемны паборнік новага вучэння.

— Лепшыя, як адна купа гною за другія. Няма лепшых! Хіба ён не праклінае тых, хто гаворыць аб роўнасці? Што, Лютар не хрысціянін? А мужыцкі Тумаш?[1] Што, Хіва не іудзей? А тыя, хто крычаў, каб яго пабіць камянямі, яны хто? Туркі? Што, Вяргілій Шатландскі не каталік? Вальд не каталік? А тыя, што палілі іх, яны хто? Язычнікі? Магаметане — магаметан! Іудзеі — іудзеяў! Хрысціяне — хрысціян! Свае сваіх! Цэрквы ваяўнічыя! Вам паўтараю, сыны мае. Заўсёды так, калі рыба смярдзіць з галавы.

— Клірык,— сказаў з пагрозаю кардынал.— Ерась чаўпеш параўнаннем тым. Даўно спадзяваўся на вогнішча?

Альбін толькі крэкнуў:

— Ці да вогнішча зараз? Вось прыйдзе той, хто набліжаецца да горада, і дашле на яго перш за ўсё вас, а пасля, за кампанію, і мяне. Хто ведае, ці не будзе праўды ў гэтым ягоным учынку.

Лотр бачыў: людзі стаяць вакол яго сценкай. З ерэтыком нічога нельга было зрабіць — будзе бунт, бу-

[1] Мюнцар.

дзе горш. Ён ужо шкадаваў, што ўлез у дыспут, але і пакінуць поле за падбухторшчыкам, хай сабе міжвольным, было нельга. Даводзілася спрачацца.

— Якая ж праўда ў знішчэнні сыноў веры? — амаль ласкава сказаў ён.

— Сыноў веры? — ціха спытаў францысканец.— Былі мы сынамі веры. Зараз мы — гандляры праўдай, і самае існаванне наша на беларускай і ўсякай іншай зямлі — знявага пану богу. Гандлюем праўдай. Судзім праўду. Паўтараю: Хрыстос не дамагаўся суда і не меў яго. Як жа ён мог даць у рукі намеснікам сваім і іншай бандзе тое, чаго не меў сам? У спадчыну ж можна пакінуць толькі тое, чым валодаеш.

— Змяніліся часы, фратэр.

— Ты хочаш сказаць, што богачалавек, крычучы не аб судзе, а аб справядлівасці, крычаў так проста таму, што не меў сілы? І што, як толькі прыходзіць сіла, трэба не крычаць аб справядлівасці, а душыць яе?

Лотр сумеўся:

— Зусім не так, але зусім адна справа хрысціянін часоў Нерона і зусім другая — нашых часоў. Першы бараніў, другі — усталёўвае.

— Што ўсталёўвае? — наіўна спытаў фра Альбін.— Тое, аб чым казаў бог?

— Але.

— Бог казаў аб сціпласці і беднасці — мы рабуем царкоўную і мірскую маёмасць, рабуем працу простых. Бог не ведаў плоцкай любві, хаця яго ўсе любілі — нас не любіць ніхто, але мы кладзём распусніц на ложак свой і сілком цягнем на яго сумленных дзяўчат і замужніх кабет. Ён нагадаваў народ — у нас галодныя здыхаюць ля дзвярэй, у апошнюю хвіліну сваю чуючы гукі папойкі. Бог аддаў кроў сваю — мы гандлюем прычасцю... Брудныя сласталюбцы, сыны блудзілішча, люцыпары — вось хто мы!

Ён змоўк на хвіліну.

— То, значыць, гэта ўсталёўвае судом і караннамі сучасны хрысціянін? Як мы станем перад абліччам бога? П'яныя, брудныя, з кісцянём у руцэ і нарабаваным золатам у торбе, з шлюхамі, з мёртвымі немаўлятамі на дне царкоўных ставоў. Думаеце, яны не пакажуць пальчыкамі на сваіх бацькоў і адначасова катаў?! І як бог разбярэцца ў вашым сваяцтве,

калі вы самі ў ім не разбіраецеся, паскуднікі, бо спіцё з маткамі сваімі, цёткамі, сёстрамі, дочкамі ад іх, сваімі і братневымі, і з дочкамі гэтых дачок ад сябе і ад іншых, так што ўрэшце сам сатана не разабраўся б, хто там каму ў якім сваяцтве сваяк, і самі вы ўрэшце робіцеся бацькамі сабе самому і сынамі саміх сябе. Мы жылі і раскашавалі, ведаючы, што такое цвярозая крытычная думка, а стаўшы сынамі догмы, разам з вамі ператварыліся ў быдла, бо яшчэ святы Геронім казаў: нідзе не знайсці гэткага быдла, фарысеяў, атрутнікаў простых, як сярод служак веры і ўладароў. І гэта праўда, бо падчас імшы качаецеся п'яныя на прыступках алтара і ўзводзіце ў святых самадаек, пэўна, каб праведнікам у раі было трохі весялей.

Вочы брата Альбіна ліхаманкава, светаносна блішчэлі, рот дрыжэў ад гневу, ссунутыя бровы трапяталі.

— Будзьце вы праклятыя, хлусы! Здохніце ад паганых хвароб, як здыхаеце, гніль! Вы, зводнікі чыстых! Вы, каты сумленных! Манастыры вашы — пітомнікі садамітаў і могілкі неахрышчаных душ. Праклён вам, начныя грамілы, вечныя скажальнікі ісціны, каты чалавека! Ідзіце да такой матары... ды не, жанчыны не імуць граху, калі ў свеце існуеце вы, ідзіце да д'ябла, мярзотнікі! Дармаеды, паразіты, Садом і Гамора, рабаўнікі, забойцы, садаміты, зладзеі. Спапялі вас гнеў божы і чалавечы!

Брат Альбін страціў сябе, але не думку. Думка кіпела, хвастала, забівала, джаліла, паліла.

— І гэта свяшчэннаслужыцель,— сказаў Лотр.— Лаецца, як п'яны наёмнік!

— Я ў карчме, таму і лаюся,— Альбін — Рагвал патрасаў рукамі ў паветры.— Я ў карчме, імя якой — вы. У вас зброя, «велля», каменныя мяхі і вогнішча. Чым ты праб'еш гэтую мярцвячыну цемры, чым запаліш агонь у гэтых тупых вачах? У вас зброя! У мяне толькі слова маё. Зразумелае люду, часам грубае, часам нават пахабнае. Але мы паглядзім, чыя зброя мацней! Божа, ці ёсць недзе на свеце цвердзь, дзе вас няма? Калі няма гэткай цвердзі — ачысцім ад вас сваю!

Лотр не стрымаўся:

— Чулі? Ён гаворыць аб іншых цвердзях. Не-

здарма ён успамінаў Вяргілія[1]. Вяргілія, якога асудзіў папа Захарый. Таго, пра якога папа пісаў, што ён сцвярджае, нібы ёсць іншыя сонцы, акрамя нашых, і якога за гэта трэба аддаць усім пакутам, якія прыдуманы людзьмі, а пасля кінуць у самае чорнае сутарэнне. Ты гэтага хочаш, мніх?!

— Закрэсліце землі, якія адкрыў Калумб,— саркастычна адказаў брат Альбін.— А гэты вось цяжкі залаты ланцуг, які каштуе трох вёсак і зроблены з золата, прывезенага адтуль, кіньце ў балота.

Лотр трохі збянтэжыўся:

— Што да чаго?

— Гэта золата адтуль? Светлае, мяккае? Выкіньце ланцуг, кажу вам!

— Чаму?!

— Яго не існуе, як не існуе тых земляў! Значыцца, гэта падарунак д'ябла, рука ягоная.

— Што да чаго, пытаю я цябе?!

Брат Альбін Крыштофіч адступіў:

— Папа Захарый заклікаў катаваць і забіць Вяргілія за тое, што той,— голас францысканца грымеў і чаканіў словы,— меў нахабства сцвярджаць, быццам на зямлі існуюць невядомыя краіны і людзі, а ў сусвеце — месяцы і сонцы, падобныя нашым. І вось ты паўзверх крыжа носіш ланцуг, падараваны д'яблам, ланцуг з зямлі, якой не было і не можа быць. Таму што ўсё гэта патрызнілася Калумбу, таму што не можа мараход ведаць больш за папу, бачыць тое, чаго няма, мець рацыю там, дзе не мае рацыі намеснік бога, ды яшчэ прывозіць адтуль неіснуючыя рэчы... Скінь свой ланцуг. Сатана!

Лотр хіснуўся. Вочы адусюль глядзелі на яго. Страшныя вочы. Упершыню ён бачыў вочы, якія глядзелі наскрозь. І твары былі незвычайныя. Такія ён бачыў у гэтых, што ўбаку, і яшчэ... аднойчы... а мо і неаднойчы... у таго, які падыходзіў да муроў. І, зрэшты, ён хрыпата сказаў:

— Гэтыя веды — яны не ад бога, мніх. Трэба быць сціплейшым і ў ведах. Блажэнны простыя духам...

— Брэшаш,— са страшнаю ўсмешкай сказаў Крыштофіч.— У нас зараз блажэнны начныя грамі-

---

[1] Вяргілій Шатландскі (VIII ст.) — вучоны, які сцвярджаў, што зямля — шар, а сусвет мае мноства населеных светаў.

лы, гандляры жаночым гонарам, ханжы, забойцы, атрутнікі чыстых, п'яныя каты, зацямніцелі, душыцелі праўды. Блажэнны прадажныя... Ведаю, кожнае маё слова — нож мне ў спіну з-за рога, як то ў вашым звычаі, як то не раз і не два бывала. Але мой чалавечы жах не прымусіць мяне маўчаць, бо я чалавек, бо гнеў мой мацнейшы за боязь.

Ён панізіў голас, але чулі яго ўсе:

— Калі я памру ў цвеце год, калі мяне заб'юць ворагі, схізматы, рабаўнікі або п'яныя, калі конь перакуліць мяне на вуліцы або чарапіца ўпадзе на мяне з даху — ведайце, людзі, гэта іхняя рука, іхнія кіпцюры. Гэта яны забілі мяне, баючыся праўды. Калі спіхнуць смерць маю на татар, ведайце, гэта яны.

— Ведаем,— голасна сказаў нехта.— Мы любім цябе, брат. Мы будзем ведаць. Хай насмеляцца.

— І ведайце, нават пасля смерці выклічу я іх на божы суд. Не пазней чым праз месяц памруць і яны.

— Пастараемся,— сказаў той самы голас.

І тады Альбін пайшоў на Лотра. Пайшоў, гледзячы ў вочы.

— І ўсё ж скінь свой ланцуг, сатана,— ціха сказаў ён.

Кардынал ірвануў з шыі ланцуг. Страшэнна збялелы, паставіў дыбам каня, павярнуў яго і ўнамёт кінуўся прэч.

## Раздзел XXXIX

## «УЗНЯСІСЯ, АЗАЛАЦІМ!»

> Вароты былі моцныя, іх нельга было разбіць, але каля іх была маленькая фортка. І вось праз яе я адночы загнаў у горад гружанага золатам асла.
>
> *Піліп Македонскі*

> Трохі слоў перадайце ад Катула, злых і апошніх.
>
> *Катул*

Натоўп ішоў ад цемры да цемры. Спяшаўся. З усіх дарог, сцежак, гасцінцаў плылі групы людзей і далучаліся да яго. Нібы сам Вялікі Мужык зразумеў, што

рана яшчэ ператвараецца ў касу ятагану, знятаму з забітага крымчака.

Мялы, бязмены, косы, доўбні, пешні, падобныя на кароткія дзіды, татарскія шаблі, лукі, кісцяні на ржавых ланцугах, мячы і цапы, твары, грудзі пад рыззём, чорныя рукі, калматыя сілуэты коней — усё калыхалася ў зарыве: палілі ўсе сустрэчныя цэрквы і касцёлы, усе багатыя маёнткі і замкі. Вакол усё палала.

Край пусцеў перад імі. Край тых, хто ўцякаў. Край пусцеў за імі. Край тых, хто далучаўся. Падзеленыя Хрыстом на дзесяткі, сотні і тысячы, людзі ішлі ў адносным парадку, кожная сотня пад сваім сцягам (у цэрквах бралі толькі харугвы з Маткай і Хрыстом, а астатняе раздавалі або знішчалі агнём і лязамі сякер). Асобныя конныя атрады баранілі «твар» войска, «бакі» і «спіну» яго. Коннікі з ахвотнікаў ішлі на некалькі гадзін дарогі наперадзе.

Вечарам перададпошняга дня здарылася кепскае з Магдалінай. Яна ехала ў галаве войска, побач з Хрыстом. За імі на тры вярсты калыхалася коннікамі і пешымі дарога. Як вока сягае, гарэлі ў цемры языкі факелаў, чуліся галасы, гігатанне коней, спевы, смех і рыпенне вазоў.

Хрыстос раз-пораз касіўся на яе. Сядзела ў сядле лёгка і звыкла. На вопратку накінуты грубы плашч, як у соцень і соцень тут. Толькі капюшон адкінуты з прыгожай галавы. Замест яго на бліскучых валасах — карункавая іспанская мантылья. Дзіўна, прыгажосць яе сёння зусім не смертаносная, а мяккая, уся нібы абмытая чымсьці нябачным. Векікавокі рахманы твар. Нібы ведае нешта страшнае, але ўсё ж прымірылася з гэтым і едзе.

Яна маўчала. І раптам ён убачыў, што вочы яе з жахам глядзяць некуды ўгору. Ён таксама ўзняў вочы.

На прыдарожным вялізным крыжы вісеў, прыбіты нагамі вышэй за дзіды, драўляны распяты. У мігатлівым святле твар Ісуса здаваўся рухомым, перакрыўленым, дзіўна жывым. Распяты крычаў зорнаму небу, і ад смаласкопаў драўлянае цела ягонае было нібыта залітае крывёй.

— Слухай,— пасля паўзы сказала яна.— Я была прыстаўленая да цябе. Я сачыла за табой.

— Я ведаў,— таксама пасля паўзы сказаў ён і, убачыўшы, што яна спалохана, паправіўся: — Я здагадваўся. Галубы. Потым галубоў не было. Я ведаў, што ты калі-небудзь загаворыш.

— Ты? Ведаў?

— Я ведаў. Не так гэта складана, каб не адчуць простых думак.

— Калі ты здагадаўся?

— Я ведаў. Галубоў не стала.

Яна шумна ўцягнула паветра.

— Кінь,— сказаў ён.— Я ведаю, што спачатку яны ўсё пра мяне знали.

Працягнуў руку і дакрануўся да яе валасоў:

— Няма правіны. Ні тваёй, ні маёй і нічыёй іншай. Яны аблыталі тут усё. І ўсё трымалі пад сякерай. І ўсім на гэтай зямлі зламалі жыццё. І знявечылі хлуснёю цябе.

Памаўчаў. Гарэла ў небе, проста над іхняй дарогаю, наперадзе, зорка. То белая, то сіняя, то вясёлкавая. Ішлі да яе коні.

— Не ведаю,— ціха сказаў ён.— Часам мне здаецца, што ўсе яны — шпіёны і віжы... аднекуль яшчэ. Такія яны... нялюдскія.

— Гэта я ўгаварыла цябе пайсці, калі ты мог і... за глотку.

— Не хочацца мне нешта нікога... за глотку.

— Забі мяне,— ціха сказала яна.— Калі ласка, забі мяне.

— Нашто? Я ж сказаў, я зразумеў нядаўна: ні на кім простым на гэтай зямлі няма віны. Таму я і тут.

— Што ж мне цяпер рабіць? — амаль шэптам сказала яна.— Не ведаю. Дый хіба не ўсё адно? Можа, Ратма? Можа, яшчэ нехта? Нікога няма. Распяццяў гэтых панатыркана на дарозе... Унь яшчэ адно... Божа, гэта ж як лёс. Ты, значыцца, туды? Царства божае ўладкоўваць?

— Паспрабую,— глуха сказаў ён.

— І за ёю?

— Калі яна жывая — і за ёю.

— Аслеплены,— змежыла яна вочы.— Святы дурань. Юрась, ты што, вось гэтага захацеў? — яна паказала на распяцце.— Прэнга? Плахі? Ты ведаеш, чым гэта канчаецца?

— Ведаю. Але не пайду. У першы раз бачу, што яны вартыя. Верацъ у нешта лепшае, чым самі яны сёння. Не магу падмануць гэтую веру.

— Прападзеш. Яе не аддадуць. І царства твайго не будзе.

— Так.

І ідзеш бяскрылы, бяззбройны, як матыль на агонь.

— На агонь.

— І на смерць. І царства твайго не будзе.

— Трэба ж каму-небудзь паспрабаваць. У першы раз паспрабаваць. Дзеля іх — варта.

— Уцячом,— голас яе калаціўся ў глотцы.— Уцячом, апантаны. Не дзеля сябе... Каб жыў... Схаваемся. Я не магу, каб ты... Божа, ты ж за-гі-неш!

Яна зарыдала. Ён ніколі не чуў, каб так рыдалі жанчыны. Глуха, беспрасветна, трымаючыся з усіх сіл і не ў змозе стрымацца. Так часам, раз ці два ў жыцці, плачуць мужчыны, згубіўшы апошняе шчасце, трапіўшы ў апошнюю бяду.

Толькі тут ён зразумеў усё, што чытаў у людскіх вачах, і працягнуў рукі.

— Рукі прэч! — са смяротнай крыўдай за сябе і яго прарыдала яна.

Хрыстос глядзеў у яе вочы.

— Ну так... так... так... та-ак!

Ён апусціў вочы. Ён не ведаў, што сказаць. Дый што скажаш у такім выпадку? Лепей памерці, чым адмовіць вялікаму. Сапраўды вялікаму.

— Я не ведаю,— урэшце сказаў ён.— Але ты не ідзі. Свет страшны. Кожны чалавек можа вельмі спатрэбіцца другому.

— Я не кіну цябе.

Хрыстос глядзеў на яе твар і не пазнаваў яго.

— Я пайду за табою непрыкметна,— яна накінула на галаву капюшон.— Проста таму, што не магу інакшай. Пайду да канца. Усё адно якога. Магчыма, ты памрэш, бяззбройны, бяскрылы. Я не ведаю, як памагчы табе. Але і пакінуць не магу.

І, канчаткова схаваўшы твар, скокнула з каня, кінулася назад.

— Куды ты?! — у раптоўным адчаі закрычаў ён.

Ён хацеў спыніць каня, павярнуць, кінуцца. Але плылі і плылі гурмы, ціснулі, цягнулі за сабою. Конь не мог плысці супраць іх. Неадвольна аддаляўся

капюшон, яго закрывалі плечы, шчыты, харугвы, такія самыя капюшоны.

— Стой! Дзеля бога, стой!

Але плынь тысячаў несла яго, адцірала. Вось ужо з цяжкасцю можна было адрозніць яе капюшон сярод дзесяткаў такіх самых. Вось ужо блытаеш яго з імі, з іншымі.

Усё.

І так яна знікла з вачэй Юрася.

У тую перадапошнюю ноч яны сталі станам вакол самотнай хаты. Звычайна Хрыстос адмаўляўся займаць жытло, спаў ля вогнішча, разам з усімі, а тут чамусьці згадзіўся.

...Вакол хаты палала мора агнёў. І па гэтым моры плыло да хаты дзесяць цёмных ценяў, апосталы.

— Не падабаецца мне гэта,— бегаў вачыма Пятро.— Мужыччо гэта. Смажаным пахне. Трэба, хлопцы, вастрыць лыжы.

— А Іуда зноў апошнія грошы бабам раздаў, што мужоў сюды прывялі,— трагічная маска Баўтрамея ўздрыгвала, голас рыпеў.— А нам бы яны — ого! — пакуль старым не зоймемся.

— Ты... гэна... не забыў? — спытаў у Тадэя Піліп.

— Н-не-е,— усміхнулася галава ў місе.— Забяру цябе. Ты будзеш на галаве дошкі ламаць. Я — фокусы паказваць.

— А нам з табою, Ладысь, хіба пад мост з кісцянём,— крэкнуў Якуб.— На двухногіх асятроў.

Худы, на дзяўчыну падобны, Ян усміхнуўся прыадкрытым, бы ў юрода, ротам:

— Не злу наследуй, брат мой, але дабру.

Пятро плюнуў:

— Зло, гэта калі ў мяне ўкрадуць або жонку ўвядуць, а калі я ў каго — гэта дабро. Дарэмна мы сварыліся з вамі тады на возеры. Што, возьмеце мяне ды Андрэя з вамі? А то тут, бач, лёгкае жыццё канчаецца, ды можна і кепскае страціць.

— Добра,— сказаў Якуб.

Яны зайшлі ў кінутую хату амаль адначасова з Раввуні і Багданам, што падышлі з другога боку. На голым стале гарэла самотная свечка. Братчык сядзеў на покуці, паклаўшы галаву на далоні.

Узняў яе. І без таго ненатуральна вялікія вочы нібыта яшчэ павялічыліся.

— Вось што,— сказаў Пятро.— Там, у яры, якраз трынаццаць коней.

— Чыіхсьці коней,— удакладніў цыганаваты Сымон Кананіт.

— Знікнем,— сказаў Пятро.— Кінем гэта.

— Ну вось,— сказаў Хрыстос.— Пятро — гэта камень. Паспрабуй створы нешта на гэтым камені.

Тумаш здымаў са свечкі пальцамі нагар. Цені скакалі на абліччы, па заліхвацкіх вусах, па вуснах аматара выпіць і закусіць.

— Я не пайду,— сказаў Тумаш. І растлумачыў не вельмі разумна: — Вы тут усе хамы, а ў мяне — гонар.

Мацей зірнуў на мора агнёў за акном і сцепануўся:

— Ну, мы дык пойдзем. Мытарам яно спакайней. Я яшчэ дзіваў хацеў, дурань. Даруй нам даўгі нашыя. Зроду мы не плацілі іх.— І раптам буйныя жорсткія зморшчыны ля рота скላліся ў сквапную, просьбітна-нахабную ўсмешку.— Толькі... евангелле б сваё няхяй Іуда нам аддаў.

— Ты ж непісьменны! — залямантаваў Раввуні.

— Малаважна. А я евангеліст. Мы вось з Іаанам яго раздзелім, падчысцім, дзе небяспечна, і добра. А Іудзе евангелля нельга. Не заведзена.

Раввуні паказаў яму шыш.

У Іаана Алфеева часта і незалежна ад яго мяняўся настрой. Вось і тут яму раптам шкада стала Хрыста.

— А я б з табою, божа, пайшоў. Толькі каб без зброі гэтай. Мы б з табою ўдаліліся ад свету ды духоўныя вершы пісалі.

— Не хавайся ў вежу з слановай косці,— сказаў Хрыстос.— Хутчэй знойдуць.

Усім было няёмка. І, відаць, каб перарваць гэтую няёмкасць, усе пачалі выказваць свае незадавальненні, кепскія прароцтвы на будучае. Узнялася гамана, пасля галас. Мацей лез да Іуды і крычаў нешта малазразумелае бязглузда-страсным голасам. Той лямантаваў у адказ. Сварыліся і гарлалі астатнія.

Ад падзей сённяшняга дня і гэтага крыку Братчык ледзь не вар'яцеў. Устаў над сталом:

— Маўчыце!

Затросся ад удару кулаком стол. І тады Фама, у захапленні, што можна паказаць сябе, з бразганнем вытаргнуў меч і секануў ім па сталешніцы. Стол разваліўся напалам. Стала ціха і цёмна. Раввуні нашарыў свечку, выбіў крэсівам іскру, запаліў.

Апосталы, сціснуўшыся, глядзелі на Хрыста.

— Вось што,— сказаў ён.— Я гэта не дзеля сябе. Патрэбныя вы мне дужа. Я гэта для вас, святыя душы. Шкодзілі — замольвайце грахі. Хто пойдзе адсюль — аддам мужыкам. Вось як.

— Вось як,— сказаў Тумаш.

— Вось як,— паўтарыў Раввуні.

Апосталы вінавата, як пабітыя, пераглянуліся.

— Ды што,— сказаў Сымон.— І мне карціцца ў Гародню ўвайсці. Паглядзець, як там, коні там якія. Я ўжо быў і адвучыўся...

— Дый праўда,— сказаў Пятро.— Кінуць на парозе...

— Гэта... Грэх.

— Хто крок зробіць — таго я мячом,— сказаў Фама.

— Таго я мячом,— рашуча сказаў Раввуні.

— Добра,— за ўсіх сказаў Андрэй.

— Мы ў ісціне хочам хадзіць,— падтакнуў Ян.— Ты нам вер.

— Паспрабую. У апошні раз.— І Хрыстос убачыў твар Фамы, нейкі сабраны, дзіўны твар.— Ты чаго, Тумаш?

— Абрыдлі мне гэтыя паганцы. Вось паклічу ўсю сваю веру, і палова іх з хаты знікне. Хай ля агню ходзяць.

— Валі,— сказаў Хрыстос.

Фама прыжмурыўся, сціснуў кулакі. Твар з нібы незнарок надзьмутымі шчокамі стаў яшчэ чырванейшы...

...Ляснулі дзверы. У хату зайшоў сівавусы:

— Паслы з Гародні. Басяцкі.

Фама моцна аддзьмуў паветра і залыпаў вачыма. Пасля плюнуў:

— Вось табе маеш. Яшчэ і нават больш стала... Не, брат. Як брыду нейкую наклікаць — гэта ў мяне лёгка. А як добрага чаго — гэта не.

Басяцкі ўвайшоў у хату і ўсміхнуўся ўсмешкай старога знаёмага.

— Вітаю цябе, Хрыстос. І вас, апосталы.

Убачыў рассечаны напалам стол. Плоскія вочы пашырыліся.

— Ды гэта так,— прысаромлена растлумачыў Юрась.— Трохі забаўляліся.

— Практыкаваліся трохі,— сказаў Фама.

— Тлумач, нашто тут? — сурова спытаў Братчык.

...Дамініканец скончыў. Усе сядзелі моўчкі. Стомлены цень ляжаў у вачніцах Юрася.

— Што ж, я выслухаў,— сказаў ён.— Дзякуй за выкуп.

У некаторых загарэліся вочы. Толькі Фама непаразумела і грэбліва склаў вусны, ды Раввуні ўскінуў галаву.

Хрыстос цяпер глядзеў у вочы Басяцкаму. І доктар ганорыс каўза са здзіўленнем убачыў, што зараз з гэтых вялізных вачэй не плыве тое, што няўлоўна падпарадкоўвала чалавека, нібыта робячы яго больш добрым. Вочы былі разважлівыя і сухія.

— Бачыш,— сказаў Хрыстос.— Гэта як палічыць, колькі на Белай Русі простых, ды падзяліць, дык на адзін залаты — сорак чалавек.

— Ну. Ды яны і таго не мелі. Бярэш?

— Разумееш, страшэнна мне шкада. І ўзяў бы, раз людзі добрыя так стараюцца даць. Нельга ж крыўдзіць. Бога ў душы мець трэба. Ды вось толькі для аднаго мяне гэтыя сто тысяч — многа. Не каштую сам столькі. А як на ўвесь народ падзяліць — ганебна мала. Ну чаго ім з гэтага? Адных поршняў большператапталі, сюды ідучы. Усё адно як старгаваць карову па дарозе на кірмаш ды, не ўбачыўшы яго, перці назад. Прабач, не хачу я нічога браць ад вас.

— Узнясіся, азалацім! Свабодны будзеш.

— Дык дзеля мяне тае свабоды і так досыць. А ты унь іх спытай.

Дамініканец вадзіў вачыма па тварах апосталаў і цвёрда ведаў, што гэтыя пайшлі б на згоду.

— Ды мы з імі дамовімся.

— Глядзіш не туды, мніх.

Юрась паказваў у акно. За акном былі агні. Нібы зорнае неба ўпала на зямлю.

— Можа, гукнуць? Расказаць пра выкуп. Спы-

тацъ, ці досыць ім свабоды? Ці не аддадуць лішняй?

Басяцкі зразумеў, што ўсё кончана. Толькі не ўтрымаўся, каб не буркнуць:

— Свабода... Свабода... Кожны раз, як вы яе клікнеце — яна падымае галаву. Не таргайце вы яе. Яна харошая баба. Дайце вы ёй год сто паспаць спакойна, а там хаця канец свету — няхай устае.

— Яна харошая баба,— сказаў Хрыстос.— Наша баба. А паколькі яна наша баба — не твая, мніх, справа, у які час ночы нам яе будзіць. Ты мніх, святы, значыцца, ты ў гэтых справах разумець не павінен.

Спакойны, амаль лянівы здзек. Пёс божы ўздыхнуў:

— Не, Хрыстос. Гэта не я, відаць, святы, а ты, калі столькі золата бабе пад ногі кінуў, абы ёй на імгненне ў вочы зірнуць, а пасля здохнуць без пакаяння.

Хрыстос устаў:

— Ідзі ты адсюль. Дарэмна стараўся ехаць. Не баімся мы каралевы, не патрэбен нам водкуп. Але, святы. Д'яблам быў, а цяпер святы. Свяцейшы за Паўлу.

Схіліўся да яго і сказаў шэптам:

— У цямніцах сядзеў, мяне ранілі, я сто разоў быў пры смерці.

Пальцы схапілі дамініканца за патыліцу сталёвай хваткай, няўхільна павярнулі тварам да акна, да агнёў.

— Мяне хвасталі, як іх, таму кожны ўдар па іхняй спіне гарыць цяпер на маёй. Мірыяды ўдараў кіямі, бізуном, каменнямі. Я валачыўся, блукаў, як Паўла і як яны. Разбойнікі на мяне нападалі і свае браты. Я галадаў іхнім голадам, і прагнуў, і мёрз, і памыляўся, і грашыў, і свят быў. Але я нікому яшчэ не здрадзіў на гэтай зямлі. І не збіраюся. Я не хачу быць ні з кім, акрамя гэтага народа, цяпер навекі майго. Я заслужыў гэтае права... Я гэта ўсё за іх... І калі яны — народ, то я — таксама. Вось апошняе маё слова.

Плоскія, трохі ў зелень, бы ў яшчаркі, вочы нібы згаснулі. Дамініканец устаў.

— Глядзі. Заўтра яшчэ можаш перадумаць. А паслязаўтра загаворыць сталь.

— Хай,— адрывіста кінуў Хрыстос.— Калі модлы не пераконваюць — хай гаворыць яна.

Бразнулі дзверы. Чорная постаць павольна праплыла пад акном, загасіўшы на хвіліну агні. А пасля яны заззялі нібы яшчэ ярчэй.

## Раздзел XL

# НАГОРНАЯ КАЗАНЬ

Калі на зямлю лінуць патокі гора,
Кожны — прарок, хто людзям плыт
паратунку падгоніць,
Плыт паратунку і праўды.

*Гімны Рыг Веды*

І перад апошняй той ноччу павольна ўсходзіў народ на Чырвоную гару, што пад самай Гародняй. Цягнулі пару канонаў, захопленых дарогай, стомлена плыла людская плынь.

Гара ўсё больш шчацінілася віламі, цапамі і дзідамі. Дзесяткі і сотні знаходзілі сабе месца. Але большасць не спяшалася з гэтым.

Сядала сонца. У апошніх праменнях ягоных зіхацеў далёка вялікі горад, мэта паходу.

Горад ляжаў спакойна і мірна, нібы не ведаў, што глядзяць на яго тысячы вачэй. З усімі сваімі чатырохкутнымі і круглымі вежамі, з дзесяткамі вуліц і завулкаў, з вуліцай Стрыхалёў і Мечнай, Утэрфінавай і Абадранага Бабра, з выселкамі, тупікамі і слабодамі, са шпілямі храмаў і свінцовым дахам замка, з далёкім Нёманам, з ценем і святлом і страшнай Зітхальняй, якую было не відаць адсюль.

Сілуэты вежаў. Іскры вокан. Усё гэта было так мірна, так нагадвала нейкія іншыя гарады, дзе нікога не забіваюць, дзе гучаць арфы і гуляюць вясёлыя людзі, дзе нават муры — проста павага да часоў, якія неймаверна даўно адышлі ў нябыт, што Братчык на хвіліну да болю пашкадаваў гэты спакой. Добры, ціхі горад. Ён нагадваў... Што ён нагадваў?.. А тое, што нагадвала і ўся гэтая зямля: скажоны, перакручаны, няўмелы, чарнавы малюнак чагосьці сапраўднага.

У гэтым горадзе былі сутарэнні, велля, бессаромныя людзі. Зітхальня, якой не было відаць адсюль.

Каб ён мог, ён бы знішчыў усё гэта на твары зямным і пакінуў толькі там, дзе наблізіліся да дасканаласці: Каложу, Фарны касцёл, яшчэ некалькі веж, будынкаў, храмаў. Усё астатняе не варта існавання. Палацы з каменнага гною.

І ўсё ж ён ведаў: ён ідзе на небывалае, неўласцівае такім людзям, як ён. Ні ў якім разе нельга было запляміць рукі. Ніхто не даведаецца, не асудзіць, але нельга. Ён помніў вочы людзей. Вочы, вочы, вочы.

...У гэты момант з гаю, што ў баку ад брамы, вылецела сотні дзве коннікаў і памчала, нібы з апошніх сіл, нібы ў безнадзейную атаку, сотні дзве чалавек.

Ляцелі адным імклівым клінам, адным кулаком.

Сівавусы крэкнуў, падаў знак. Хаця было і далекавата яшчэ, людзі нацягнулі лукі з рагоў. Малады стараўся асабліва, хацеў паказаць сябе: адцягнуў цеціву ледзь не да вуха, шукаў вачыма мэту. Страшэнна хацеў удала стрэліць далей за ўсіх.

— Стой! — залямантаваў раптам Іуда.— Дзе вы носіце свае вочы, дзе?! Халера вам у бок, ліхаманка вам у галаву!

Нацягваць так цеціву не варта было. І волат не здолеў бы пасля страшэннай напругі турыных рагоў асцярожна вярнуць яе ў ненацягнуты стан.

Нешта ценькнула. Усе з жахам глядзелі, хто на маладога, хто на конніка. Малады абамлеў; мядзведзем зараўла сярод імклівага шалёнага кліна дуда.

Чалавек з чорнымі рукамі каваля, даўжэзны боўдзіла, жоўты, у пшанічны колас, падскочыў у сядле...

...Спаймаў слабую — пры канцы лёту — стралу. Усе войкнулі.

Пошчак капытоў нарастаў. Кавалькада падляцела пад адхон, пачала спешвацца. Толькі боўдзіла са стралой конна ўзляцеў на стромы адхон, шукаў шалёнымі ястрабінымі вачыма.

— Гэта хто стрэліў? Га? Хто?! — Ён быў страшны.

Маўчанне.

— Я,— урэшце прызнаўся малады.

— Малайчына,— сказаў Кірык Вястун.— Далёка страляеш.

Пакаціўся рогат. Кірык злез з каня:

— Здароў, Хрыстос, не забыў?

— Кірык Вястун... Кляонік з Разьбярнага Кута... Марка Турай...

— Памятаеш,— засмяяўся чарцяка Вястун.— Ну, давай пацалуемся... Здароў, апосталы... Гізунты адрасціў ты сабе, Фама, на апостальскім хлебе... А-а, здароў, брат Іуда. Як, здрадзіць яшчэ не збіраешся?

— Дзякуй,— сказаў Раввуні,— сабе даражэй. Адзін ужо аднойчы паспрабаваў, і нельга сказаць, каб гэта было асабліва весела для астатніх. А я вось дарма гэтым хлопцам крыкнуў... папярэдзіў.

— Ну добра, добра, давай пацалуемся, ці што... Слухай, Хрыстос, вось табе і падмога небальшэнькая. Мы былі ўцяклі, а пасля ў гай вярнуліся, сачыць. Ты сцеражыся, не лезь, як галавою ў печку. Войска з вартаю будзе даваць бой. Сядзяць унь там, у правым гаі і ў лагчыне, і там. Заўтра выйдуць строем на Воласава поле. У цябе людзей колькі?

— Тысяч каля дзесяці, каб яны здаровы былі,— сказаў Хрыстос.

— Ну, а іх з вартай войта тры з невялікім. Лічы, удвая больш. Цяжкая конніца, латы, каноны.

Усе змоўклі. Адчулі смяротны цяжар заўтрашняй працы.

— Значыцца, спачатку трэба не дапусціць да сябе,— сказаў Фама. З прашчаў біць.

— Таксама мне яшчэ Давід,— сказаў Іуда з іроніяй.

— Ты што ведаеш? — раззлаваўся Тумаш на тое, што нехта засумняваўся ў ягоных ваенных здольнасцях.— Навучыся спярша меч трымаць!

— Не ўмею,— сказаў Раввуні.— Але ўсё адно. Ты заўтра пойдзеш на двабой. Я з кімсьці — дражніць іх. Кожны робіць што можа.

— Не пойдзеш ты,— сказаў Хрыстос.

— Пайду,— упарта сказаў Раввуні.— Калі не мячом, то трэба ж нечым. Я не ўмею мячом. Ніхто з дзяцінства не практыкаваў маіх рук. Усе практыкавалі галаву. Праўдзівей, сушылі яе. Калі ў мяне ёсць сякі-такі розум — гэта не «дзякуючы», а «насупор». У дзяцінстве я зрабіў быў прашчу і кідаў. Доўга кідаў... У нас, дзяцей, амаль не было вольнага часу пры дзённым святле. Але я навучыўся добра, някепска кідаць. Пасля мяне страшэнна ад-

хвасталі за тое, што кідаў, а не вучыў модлы. А цяпер і прашчы няма.

Памаўчаў і сказаў яшчэ:

— Дый не хачу.

Братчык глядзеў на яго. Гэты кволы і ўчэпісты чалавек цікавіў яго і няўлоўна, несвоечасова на гэтай паганай цвердзі, нагадваў нешта добрае, што павінна на ёй быць і чаму, аднак, не прыйшоў час.

Таму ён падлягаў смерці, як некаторыя яшчэ, не дужа шматлікія, якіх ён сустракаў. Як ён сам, Юрась, але гэта ўжо справа іншая.

Задураны, з тысяччу недахопаў, слабы, непрыдатны да навакольнага жыцця, безабаронны перад сілай да таго, што аж злосць брала і хацелася даць яму па шыі, ён усё ж быў бязмерна лепшы за многіх. Прынамсі, не стаў бы гарлаць:

— Лаўжоў! Лаўжоў у агонь!

Ён быў — у самым галоўным — падобны на велічэзную частку гэтых людзей у белым, што стаялі пад гарою і што можна было назваць словамі: няздатнасць да гвалту. А гэта заўсёды выклікае некаторую безабароннасць перад гвалтам чужых. У, як гэтым будуць яшчэ карыстацца ўсе, каму не лень! Асладобныя шамоэлы, лотры, басяцкія, патрыярхі, папы, жыкгімонты, іншая навалач! Нічога, галоўнае вытрымаць. Калі гэтыя белыя, калі Раввуні, калі Фама, калі ўсе, падобныя ім, не вымруць — прыйдзе час, калі больш за ўсё на свеце будуць патрэбны яны. Чужога гвалту не будзе. І будуць страшэнна патрэбныя тыя, хто шмат выцерпеў, але ніколі без крайніх абставін, без смяротнай небяспекі не запэцкаў бессаромным гвалтам сваіх рук.

Гэта добра, што ўсе вылюдкі адразу трапляюць у кардыналы. Чысцей будзе непарушная. Сутнасць.

І Юрась асабліва мякка спытаў у Іуды:

— Чаму ты думаеш, што не трэба спачатку прашчнікаў?

— Гэта ж ясна. Напасці адразу, не даць вылезці з гэтай лагчыны, што бліжэй да муроў.

І тут Хрыстос зразумеў: дажджы.

— Правільна! Праўду сказаў ён! Яны ў латах, яны цяжкія як халера. Дажджы. Пад восень глеба кепска сохне. Там гразка. Для іх. Ну не зусім, ну па бабкі коні ўгразаць будуць. І то хлеб. Паспрабуй пазма-

гайся, пападзі, ухіліся, калі ногі, бы ў мухі на смале.

...У тую ноч увесь горад — хто з цьмянай радасцю, а хто і з заміраючым ад жаху сэрцам — сачыў за далёкай гарою, што ўся, ад падэшвы да вяршыні, зырчала бліскаўкамі агнёў.

А на гары, у самы цёмны перадсвітальны час уставалі, разбіралі зброю, сяк-так строіліся ў доўгую баявую лінію. Трэба было яшчэ да сонца падступіць бліжэй, не даць выйсці з лагчыны, зберагчы хаця колькі жыццяў і тым, хаця трохі, зраўняць няроўныя сілы.

Яны спадзяваліся на адно. У горадзе было жыццё, засеяныя палі, нівы пад каласамі. Без яго так ці інакш была смерць. Таму ніхто не думаў ухіляцца ці адступаць.

Толькі ў гэтым і была іхняя сіла.

Гара шугала агнямі. Блукалі цені коннікаў і пешых. Дзіды ўторкнутыя ў зямлю былі, як лес. І лес гэты пастулова радзеў, узносіўся ў паветра, калыхаўся ў чалавечых руках.

Да Братчыка падышоў Сівавусы.

— Скажы,— коратка і проста сказаў ён.

— Мо не трэба?

— Скажы. Чакаюць. Некаторыя, можа, у першы, у апошні раз, чалавечае да сябе пачуюць. Многія да заўтра не дажывуць.

Ён падаў яму руку. Братчык узлез на воз.

— Вышэй! — закрычалі адусюль.— Відаць не ўсім. Вышэй.

Сівавусы падумаў. Пасля сказаў нешта хлопцам. Некалькі чалавек падышлі і ўзнялі воз на плечы.

— Вышэй! — гарлала гара.— Усе хочуць бачыць!

Тады пад воз пачалі падстаўляць дзіды, асцярожна ўздымаць яго. Урэшце пяцьдзесят капейшчыкаў узнялі яго на вастрыях дзід высока над галовамі, разам з чалавекам, які стаяў на ім.

Агні не гасілі. Трэба было, каб войска чужое пазней спахапілася. Паўсюль скакаў агонь.

— Паспрабуйце ўпусціць, лабідуды! — крычаў нехта.

— Па́даць тады дужа высока будзе,— сказаў Братчык.

— А гэта заўсёды так, калі без розуму высока

забраўся,— сказаў Вястун.— Ды ты не з тых. Давай.

Стала ціха.

— Ну вось, хлопцы. Заўтра біцца. Сябе літаваць не буду. Калі хто думае, што плоць мая вытрымае ўдар дзіды — страшэнна той памыляецца. Думаў я, што не трэба мне лезці ў самую саладуху, што пастаў ваяводам хоць бы й лепшага ў... нашым свеце, дык тое самае будзе. Аж бачу, не. Павінен быць хаця маленькі агеньчык, на які глядзелі б дзеці. Зменіцца калісьці цвердзь, зменяцца і людзі. Добра было б, каб і мы і яны не казалі: «Наша ўзяла... і рыла ў крыві». Разумееце, вы людзі. Яшчэ і яшчэ раз кажу: вы — людзі. Не трэба нам забываць: мы — людзі. Вось сякуць камусьці за праўду галаву. Калі не можаш памагчы — не схіляй сваёй галавы ніжэй за ягоную плаху. Сорамна! Нічога ўжо няма ў наш век ніжэй за плаху. І нічога няма вышэй, калі зразумець. Таму і ўсталі. На тым стаім.

Зноў уразілі яго аблічча ўнізе. Не маскі, не сцёртыя праявы — твары, аблічча. І вочы з нязвыклым ім самім выразам, прыўкрасней за якіх не было нічога на свеце.

— Не люблю слоў халодных, як вяршыня ў снезе. Але як мы на вяршыні гары — хай будзе й казань нагорная. Калі ўжо так крычалі аб непатрэбным.

Ён узняў у паветра баявую сякеру — гізаўру.

— Блажэнны вялікія і добрыя духам, якія б малыя яны ні былі.

Агонь скакаў па лязе.

— Блажэнны тыя, што плачуць па сваёй зямлі, няма ім суцяшэння... Блажэнны тыя, хто ахвяруе людзям кроў сваю і свой гнеў, таму што на рахманых ездзяць.

Медзяныя ці бронзавыя ад агню твары, шуганне зыркіх языкоў і лес дзід. І ў паветры — чалавек з узнесенай гізаўрай.

— Блажэнны міратворцы, калі не прыніжаны чалавек... Блажэнны выгнанцы за праўду... Блажэнны, калі выходзіце са зброяй за просты, бедны люд і пакаецеся... Таму што тады вы — соль зямлі і святло свету. Любіце і мірыцеся. Але і ненавідзьце тых, хто замахваецца на вас і вашу любоў. Мячом, занесеным над моцнымі, над хцівымі, над забойцамі праўды,

дайце ўсім простым мір. І як спытаюць, нашто прыйшлі, адкажыце: адпусціць змучаных на свабоду, рабоў — з ланцугоў, бедных — з халуп, мудрых — з турмаў, гордых — з ярма.

Ён гаварыў няголасна. Але чулі ўсе. Перадсвітанкавы змрок пачынаў радзець. Святлела на ўсходзе. Ляцелі з абозу свежыя, рэзкія галасы пеўняў.

— А цяпер хадзем,— сказаў ён.— Ідзіце як мага цішэй.

У гэты момант ён убачыў, як вочы людзей нібы цьмянеюць, глядзяць некуды з прадчуваннем нядобрага. Пасля пачуў хрыпатае, гартаннае карканне.

Ад пушчы цягнулася на кармленне велізарная, як вокам акінуць, чарада крумкачоў. Якраз над табарам. Густая, зменлівая чорная сець.

— Чуюць,— сказаў нехта.— Нас чуюць. Кепска.

Яму не хацелася, каб згасла тое, вышэйшае, прыўкрасней за якое не было на зямлі, тое, што ён бачыў у гэтых вачах. Каб згасла ад глупства, ад палёту небывала вялікай чарады вугальна-чорных птушак. Гэта было так падобна на тое, калі б сціснуўся, пачуўшы крумканне, цёмны звер: «Нехта ідзе, крочыць нешта нязнанае, перад чым мы павінны затачыцца ў нетры».

І таму ён узняў гізаўру і загарлаў, сам адчуваючы, як раздзімаецца ад крыку шыя:

— Птушкі! Збірайцеся на вялікую вячэру божую! Каб пажэрці трупы цароў, трупы моцных, трупы тысячаначальнікаў, трупы коней і тых, што сядзяць на іх.

Адказам быў крык. Дрыжэла ў паветры зброя, рухаліся мускулы на голых грудзях, узляталі магеркі з ільняных, чорных, залатых галоў. Узносіліся ў паветра авальныя шчыты.

Пасля ўсё сціхнула. Пачуўся шолах травы пад тысячамі асцярожных ног.

## Раздзел XLI

# «ВОСЬ МОЙ НАРОД, ЯК ІЛЬВІЦА, СТАЕ...»

Уздайце ёй так, як і яна ўздала вам, і ўдвая ўздайце ёй па справах яе... Колькі славілася яна і раскашавала, столькі ўздайце ёй пакут і гарот. Бо яна кажа ў сэрцы сваім: сяджу царыцаю, я не ўдава і не ўбачу гароты... І ўсплачуць, і ўзрыдаюць аб ёй цары зямныя, што распуснічалі і раскашавалі з ёю, калі ўбачаць дым ад пажару яе.

*Апакаліпсіс, гл. 18, ст. 6, 7, 9*

Шырокае, трохі спадзістае поле канчалася лагчынай і пасля зноў трохі ўзвышалася. На гэтым узвышшы цьмяна блішчэлі, чырванелі, залаціліся рознакаляровыя мазкі. Стаялі коні, закутыя ў жалеза, і сядзелі на іх такія самыя, жалезныя, коннікі. Абвісала барва, золата і бель сцягоў. Коннікаў было многа, да жудасці многа. Трохкутныя і авальныя сталёвыя шчыты, султаны, дзіды, залатыя — а болей вараненыя — латы.

Наперадзе ўсіх узвышаўся Карніла, падобны на помнік самому сабе.

Лагчына перад імі была глыбока-зялёная — аж сіняя — пасля нядаўніх дажджоў. Нават босаму хлапчуку было добра вядома, як прыемна спружыніць на такіх месцах пад пяткай зямля. Але гэтыя ніколі не хадзілі босыя. Карніла спадзяваўся, што мужыкі не насмеляцца палезці на конны, жалезны строй: убачаць і адступяць.

Іншая гурма, расцягнутая на мілю, калі не больш, стаяла вышэй, за лагчынай, на полі. Белая палатніна, турынай скуры шчыты, доўбні, бусакі, прашчы. Карніла не ведаў, што яны рыхтуюцца нападаць. А нават каб і ведаў, не паверыў бы.

Ад гэтай гурмы аддзяліліся і пачалі спускацца па схіле Тадэй і Іуда. Крычалі нешта. Панскае войска змоўкнула, і тады Карніла зразумеў: ярыльшчыкі.

— Гэй, касаротыя! — гарлаў Лявей.— Гэй, гародзенцы-гракі! Смала чарнамазая! Азадак шылам! Святога айца на кныра змянялі!

Абразы былі агульнавядомыя і таму страшныя. Ланцуг абаронцаў выбухнуў ярасцю.

— Хамы! — наліўшыся крывёю, крычалі з яго.— Мужыкі! Галовы лубяныя!

— Паны! На саломе спіцё — зубамі ішчацеся!

І тут страшны, нетутэйшы лямант абарваў пералай.

— Басякі! — крычаў Раввуні.— Каб вы, як свінні, толькі мёртвыя на неба глядзелі, каб вы, як свяцільня, кожную раніцу згасалі, каб вы пустыя заўжды былі, як вашыя вацкі, як сабачая міска ў дрэннага гаспадара, у сабакі гэтай, Жыкгімонта!!!

— Іудзей,— сказаў нехта.

— Гэй,— здзекліва кінуў Карніла,— пачым зямля гаршчэчніка?!

— Табе такі гэта трэба ведаць, калі ўжо Хрыста прадаць сабраўся.

Сёй-той у жалезных шэрагах апусціў галаву. І тут Лявей зрабіў тое, што перапоўніла чашу цярпення. Ён працягнуў руку, і на далоні ягонай невядома скуль з'явілася зайчанятка. Ён апусціў яго, і яно лупянула ўздоўж поля — ратавацца.

— Вось! Пазычце ў яго мужнасці!

Карніла зароў і падаў знак. Войска спусцілася ў шырокую лагчыну. Сакавіта зачмякала пад капытамі коней. Перад жалезнымі ляжала вялікае поле, і па ім скакалі да войска два коннікі ў лёгкіх кальчугах з пласцінамі і наплечнікамі: Братчык і Фама.

— Гай! Гай! Давай дваіх на паядынак.

Карніла крэкнуў, зірнуў на сотніка Пархвера: — Га?

Пархвер кіўнуў галавою.

Братчык на белым кані і з лёгкім мячом ды Фама на рыжым круціліся перад імі, дражнілі. Чакаць доўга не давялося. Насустрач ім памчалі Карніла і на грузным біцюгу волат Пархвер. Карнілаў конь быў вараны, Пархвераў — вараны з белымі палосамі, грываю і хвастом.

Пагрозна былі нацэлены дзіды, лямантавала і калацілася пад капытамі зямля. Коннікі імчалі, цяжкія і страшныя, як брантазаўры, на конях, закутых у сталь. Братчык убачыў, што конскія ногі вышэй бабак у панчохах гразі, падміргнуў Тумашу.

— Хай пастаяць астатнія, пакуль мы тут біцца будзем.

Ярыльшчыкі паспешна рэтыраваліся, і ніхто іх за гэта не асуджаў. Яны сваё зрабілі, прыйшла чарга больш сур'ёзнай справе.

Горы жалеза ляцелі на мужыцкіх байцоў, і ў радах абаронцаў горада трыумфальна завылі, загалёкалі. Ясна было — канец. У адным Пархверы сажань і шэсць дзюймаў. І тут здарылася нечаканае. Калі жалезныя былі ўжо зусім блізка, Тумаш і Хрыстос паставілі коней дыбам, павярнулі іх у паветры і шэнкелямі прымусілі зрабіць скачок у бакі. Дзве гары, з разлёту, прамчалі паўз іх. Юрась умудрыўся дагнаць Карнілу і плазам мяча ляснуць яго па жалезным азадку. Загуло. Зарагатала мужычае войска. Узлаваны Карніла паспрабаваў зрабіць тое, што не дазвалялася і што было памылкаю: цераз плячо, як латай, агрэць праціўніка дзідаю. Юрась перахапіў яе і, выдзершы, кінуў на зямлю.

Карніла схапіўся за меч. Цяпер ён не меў перавагі адлегласці і вагі, як тады, калі меў дзіду. Цяпер ён быў у пройгрышным стане: мячы былі аднолькавай даўжыні, а вораг быў больш рухомы. Заставалася спадзявацца на непрабіўны міланскі панцыр.

Дзве пары ваякаў біліся сярод поля, і тысячы вачэй глядзелі на іх.

— Ану, ану,— задорыў Фама.— Дав-вай, сабачая костка. Дзе табе!.. Мы... ад Усяслава.

— Я сам... ад Усяслава,— рохкаў Пархвер.

— Ад шашка ты, а не ад Усяслава. Ад тхара і свінні.

Пархвер сапраўды пацеў. Але Фаме даводзілася цяжэй. Нягледзячы на вялізную сілу і вагу, перад сотнікам ён быў драбнаваты.

— Хам!

— Сам хам!

Ляскалі мячы. Прамені заранкі гулялі па латах. Усё гэта нагадвала вясёлую і жудасную гульню.

— Трым-майся, Хрыстос.

— На табе.

— Гы-ых! — адбіў удар мячом Карніла.

— Добра, што ты стралу выняў,— выскаляў зубы Юрась.— Нязручна было б з ёю... на... кані.

Мячы звінелі ўтрапёна. Карніла шумна выдыхаў і лаяўся.

— Жартуеш груба,— кінуў Хрыстос.— Мазгі ў цябе курыныя.

— Вернаму... мазгі... без патрэбы.

— Дык я іх табе зараз... зусім вышыбу.

Няўлоўным выпадам ён адбіў Карнілаў меч і ашаламіў тысячніка. Той крутануўся і грузна, цяжка ахнуўся аб зямлю. Не мог устаць. Юрась схіліўся, падхапіў з зямлі дзіду і паднёс востры канец да грудзей таго, хто ляжаў. Войскі ахнулі.

— Трымайся,— сказаў Хрыстос.— Уставай.

Карніла ўстаў і крыва пайшоў, сам не ведаючы куды. Жалезныя яшчэ падаліся наперад: вызваляць вóжа, спусціліся амаль усе ў лагчыну. З іхніх радоў паказаліся пашчы канонаў. Іх цягнулі, і колы іхнія па калодку загразлі ў зямлі.

Юрась некалькімі пляскачамі дзідай накіраваў Карнілу ў патрэбны бок і стаў глядзець на Тумаша. Той біўся адчайдушна, але ўдары волата былі страшныя — двухручны Тумашаў меч кожны раз адлятаў за спіну.

Карнілу ўрэшце адцягнулі да сваіх. Ён, апрытомнеўшы, крычаў, загадваў нешта. З ім спрачаліся. І ўсё ж з іхняга боку раптам раўнуў адзін канон: помста рухала тысяцкім.

Над галовамі байцоў праляцела ядро, узарала зямлю перад мужыцкім войскам.

— Гэй,— крычалі адтуль.— Двабой не скончан! Гаршкі кідаць будзем!

Пасля адтуль даляцеў ляск: мужычая катапульта кінула гаршчок з гразёю — на знак папярэджання... Карнілу схапілі за рукі, угаворвалі.

Але вынік усяго гэтага сказаўся адразу ж. Быў ён толькі нечаканы. Гаршчок недалётам — відаць, не адрэгулявалі нацяжку жыл катапульты — упаў проста на галаву Пархверу, і тая засела ў ім.

— Гэй, кум, памагчы, ці што? — спытаў Фама.

Ударыў злёгку па гаршку, раскалоў яго. Па шалому, па твары, па вусах волата плыла вадкая глiністая гразь.

— Умыўся б, ці што.

Вялізныя сінія вочы Пархверавы загарэліся неўтаймаванай ярасцю. Ён узнёс двухручны меч і сляпа апусціў яго. Тумаш ледзь паспеў паставіць свайго лёгкага каня дыбам, і лязо ўторкнулася глыбока ў зямлю. І тады Фама даў ворагу спрытнага выспятка ў адстаўлены азадак. Пархвер вылецеў з сядла. Рогат

пакаціўся над полем. Пераможцы памчалі да сваіх.

Карніла ўзняў руку ў жалезнай пальчатцы і апусціў яе.

— Рушай!

Адбылося лёгкае замяшанне. Чвяканне далятала адусюль.

— Коні загразнулі,— сказаў нехта.— Не паспеем выбрацца і ўзяць рад.

— Чорт! — сказаў Карніла.— Халера! Каноны на лінію!

Пачалі цягнуць каноны. Але натоўп на грывах прыйшоў ужо ў рух, паплыў уніз, як белая лава. Павольна і грозна. Гарматныя майстры спяшаліся, але цяжкія каноны завальваліся, паказвалі хобаты небу.

...І раптам тысячы глотак зацягнулі дзікі і суровы харал.

Пан бог цвярдыня. Цвярдыня мая.
Узняў ён далонь маю.
Як Давід на Галіяфа
Узняў.

Ногі ў поршнях тапталі верас. Раўлі над галовамі дуды, але галасы заглушалі іх. Павольна, вельмі павольна, у лунанні зброі над галавою, плылі мужычыя гурмы, нібы па лінейцы адрэзаныя спераду.

Вось мой народ,
Як ільвіца, ўстае.
Смелы,
Ён не ляжа,
Пакуль не нап'ецца варожай крыві.

Суровыя, як абпаленая гліна, былі твары старых. Суровыя, аліўкавыя ад загару твары маладых. Сурова і страшна і ўсё вышэй лунаў харал:

Як ільвіца, ўстае
І, як леў, уздымаецца.
Пан бог над намі.
З намі ў гневе,
У гневе
Наш народ.

Ускінулася над галовамі белая з золатам і пурпурам харугва-сцяг.

Дзеці Юр'я святога,
Дзеці яго ўдзела,
Біце, забівайце, Не шкадуйце,
Не шкадуйце
Ворага.

І раптам гэты павольны, як лава, паток выбухнуў рыкам, пакаціўся з неймавернай, усяскрышальнай хуткасцю. Лес зброі ўсё вырастаў над ім, усё бліжэй былі звар'яцелыя ад гневу аблічча. Час прыйшоў.

— А-а-а! Юры! Юры! Край! Край!

Раўнулі насустрач ім каноны. Круглыя белыя хлапякі дыму расплыліся ў туман. Але было позна. Гурма бегла і вырастала, бы ў сне. Наляцела. Затапіла. Узнесліся бусакі, пачалі хапаць коннікаў і вырываць іх з сёдлаў на зямлю, з якой яны, цяжкія, амаль не маглі ўзняцца. Паляцелі стрэлы і камяні. Заляскалі доўбні і цапы па жалезных шаломах.

І пайшла малацьба.

Праз нейкія дзве гадзіны на лагчыну спускаліся крумкачы. Бой у тых ачагах, дзе ён яшчэ віраваў, аддаляўся на захад, да муроў Гародні. Але большая частка жалезных адыходзіла з месца сечы, прышпорваючы коней, і гурмы пераможцаў імкнулі за імі.

Варта паспела ўсё ж прапусціць сваіх і зачыніць браму. Але каваль Кірык Вястун загадаў выкаціць на лінію каноны і страляць. Пасля кароткай кананады палавінкі варот разам з вялікім кавалкам даўно не рапараванага муру разбурыліся, рассыпаліся, грукнулі аб зямлю. Хмара пылу ўстала над уломкамі. Варта спрабавала была бараніцца на руінах, і тут на яе, з тылу, напала ўзброеная гурма мяшчан. Наперадзе іх арудавалі Зянон і залатарукі Ціхон Вус. Сціснутыя між молатам і кавадлам, людзі варты ледзь паспелі выбрацца Страменным завулкам, а пасля Старой вуліцай да замка і там далучыцца да войска, кінуўшы на зямлі палову сваіх людзей.

Іліяш пагладзіў белага Братчыкавага каня.

— Шкада, няма ў нас аслоў,— сказаў Тумаш.— Дзеля поўнага, значыцца, падабенства.

— Аслоў больш чым трэба,— крануў каня Юрась.— Ды яны самі вярхом ездзяць.

Хмара пылу радзела. І праз яе мяшчане ўбачылі конніка, што ўступаў у горад. Нізкае яшчэ сонца німбам стаяла за ягонай галавой. Гарлаў, крычаў узброены народ з галінамі ў руках.

— Страшна падумаць,— ціха сказаў Іуда,— што гэта было б, каб ты зараз надумаў мярзотнікам зрабіцца. У-у!

— А яны, мярзотнікі, усе калі-небудзь вось так імі рабіліся,— коса ўсміхнуўся Хрыстос.

Варта і войска між тым біліся перад замкавым мостам. Ім было цяжка. З дахаў кідалі паленні, каманні, здохлых кошак. Свісцелі, галёкалі. Напіраў на іх узброены натоўп.

З-за муроў далятала томныя, анёльскія галасы, і таму ваякі біліся звар'яцела: «Значыцца, нас не кінулі, значыцца, правадыры — там».

...А між тым у замку не было ўжо амаль нікога з вялікіх асоб. Гадзінаю раней, як толькі Хрыстос уступіў у горад, усе духоўныя члены рады, войт і пара магнатаў пад аховай дзесятка ваякаў спусціліся ў падземны ход і, па вадзе, пабрылі па ім да выхаду, што знаходзіўся за гарадской мяжой, можа,у нейкай тысячы сажняў ад замка. Яны кінулі большасць свецкіх багатыроў і нават бурмістра Юстына: не было часу паклапаціцца аб іх.

У горадзе таемна застаўся адзін Фларыян Басяцкі: рыхтаваць гандляроў у горадзе.

Астатнія правіліся ў Ваўкавыск за падмогай.

А сеча ля брамы замка віравала. Віселі на дзідах, білі бярвеннямі ў палавінкі, і муры калаціліся. Падалі камяні на ўзнятыя над галовамі шчыты. Секліся на зубцах, і паперадзе ўсіх трос пузам Тумаш.

Іншыя між тым выбівалі дзверы цэркваў і касцёлаў, ірваліся туды. Скураныя поршні ўдарамі адчынялі алтары, сякеры расколвалі дараносіцы. Гнеў і жаданне знішчаць усё гэта былі вышэй за прагнасць. І таму рукі колеру зямлі з трэскам раздзіралі рызы, рабілі з іх анучы. Не абышлося і без пабояў, якімі адзначылі асабліва ненавісных і прагных расафорнікаў.

Урэшце выбілі браму замка і ўдзерліся ў яго. Беглі пераходамі, секліся, цягнулі з пакояў людзей, апранутых у парчу. Купка людзей падымала з каменных мяхоў вязняў. Падымала, завязаўшы вочы, нібы коней з шахты, каб не аслеплі.

І ўрэшце людскі натоўп уваліўся ў тронны зал. Палалі паходні, і мужыкі спыніліся, ураджаныя. Перад імі, па ўсёй падлозе, былі рассыпаныя адзенні, кубкі, адчыненыя скрыні, неацанімая зброя. А ля вышняга месца стаяў у белай сарочцы і чорнай чузе — падрыхтаваўся — бурмістр Юстын.

— Бярыце,— сказаў ён.— Мёртваму нічога не трэба.

Якраз у гэты момант каваль Кірык Вястун у замкавай капліцы скінуў ударам гізаўры на падлогу разубранага ў золата васковага Хрыста. Той усміхаўся, лежачы на спіне.

— І тады так усміхаўся! Ідзі-дал!

І наступіў поршнем проста на васковы твар, змяў яго.

## Раздзел XLII

# МУЖЫЦКІ ХРЫСТОС

Я з вамі ва ўсе дні да скончэння веку.
*Мацей, гл. 28, ст 20*

Я прыйшоў да тых, чыя ежа — зямля,
Да тых, каго слухаюць толькі быкі,
Да тых, каго кіем б'юць на палях,
Чыё рабства — вякі, чыё царства —
вякі.
*Егіпецкі гімн*

## СЛОВА ДВУХ СВЕДКАЎ

*«І так вось узялі Гародню. Без вялікай крыві, а і хутка. Таму што многія чакалі. Былі, вядома, і такія, што на тварах усмешкі, а ў вачах злосць, але менш было іх.*

*І пачалі разбіраць людзі мяхі са збожжам і на вазкі котчыя класці. А храмы разбілі, не парабаваўшы. А багатых, а нялітасцівых павялі на Нёманаў бераг, дзе заўсёды шыбеніцы стаялі, вешаць каб.*

*Не ведаем мы, адкуль тут Анея ўзялася. Хто кажа: сама з вежы, дзе сядзела, уцякла, па вяроўках, з сенніка зробленых. Хто кажа: адбіў нехта вязніцу ды выпусціў.*

*А і іншы слых быў, нібыта кат з паплечнікамі прыйшоў канчаць з ёю і пра апошняе жаданне спытаў. Ну яна і папрасіла клеткі ёй паказаць ды сказала, што загадзя яго за працу ягоную дзякуе. Той расчуліўся, усё паказаў, а пасля клетку паказаў найлепшую. Сам чалавек зразумее калісь, што так царкве з ім зручней за ўсё. І тады ўсе людзі па добрай волі сваёй увойдуць у такія клеткі хадзячыя, зачыняца ды хадзіць будуць. Знутры колькі хочаш*

*адчыняй, ды толькі верцючы клетачнік на гэта не пойдзе. А знадворку не адчыніш, бо гэта ўжо будзе замах на свабоду волі таго, хто сядзіць. Ён бо свой абавязак разумее і з клеткі не выйдзе. У розум канчаткова ўвайшоў таму што.*

*І нібыта Анея папрасіла ўсіх адвярнуцца, бо маліцца будзе, а сама скочыла ў тую клетку і зачынілася. Тыя просяць, каб выйшла, а тая моліцца здзекліва, язык паказвае ды кажа, што яна якраз і ўвайшла канчаткова ў розум. І тады тыя вымушаны былі кінуць яе ў сутарэнні і ўцякаць, бо ўварваўся ўжо ў замак народ.*

*Не ведаем мы, як і верыць таму. Адно ведаем: на судзілішчы была ўжо яна побач з Хрыстом. Толькі і гаворыць яму: «Ты ішоў?» А ён ёй: «Я ішоў». А яна зноў: «Ты ішоў? Як жа доўга ты ішоў».*

*А мы вакол стаім ды плачам.*

*Ката ж таго схапілі на вуліцы. І крычалі: «Вось ён, клетачнік! Вось, душадзёр!» І як ён ні гарлаў, што «дзякуй сказалі б», што «катаў нельга ў клетку», што «яны ўсім прыдатныя, каты», запхнулі яго ў клетку і пагналі сваёй хадою, як труну паваленую, да Нёмана. Хлапчукі ж беглі за катам і шчыкалі яго за ногі».*

*Хрыбтамі стаялі над Нёманам чорна-шызыя навальнічныя хмары. І па ўсёй дузе берага стаялі незлічоныя глаголі шыбеніц, а трохі адступіўшы ад іх, варушыўся народ. Скакала ў паветры полымя, і адкуль наносіла дымам. Таму нехта, каб не закураў белы Хрыстоў хітон, накінуў яму на плечы нечы чорны з золатам плашч. Братчык стаяў на ўзгорку. Анея сядзела, прыціснуўшыся да ягоных ног, а трохі ніжэй стаялі апосталы.*

*Мяшчане і мужыкі гналі паўз іх скручаных. Твар Братчыкаў пасля апошніх падзей страшэнна змяніўся, стаў сухі, з праваленымі шчокамі. Ашклянелі вялізныя вочы. Ён разумеў, куды ён трапіў, які цяжар рашэнняў ускінуў на свае плечы. Ведаў, што ягоныя вочы, вочы сведкі, могуць убачыць смерць двухногіх, асуджаных ім самім.*

*Ён не хацеў гэтага. Але ён ведаў, што нічога не здолее зрабіць, калі смерці вось гэтых, схопленых,*

*пачне патрабаваць люд. І тады вяртання да чысціні не будзе.*

*Перад ім паставілі бурмістра Юстына. Вочы яго-ныя цяпер не гарэлі вугаллямі з-пад у скобку падстрыжаных валасоў. Яны нібы згаслі, але глядзелі мужна.*

*— Нашто дазволіў папам правіць старой радай і горадам?*

*— Яны прыйшлі з каралеўскім войскам,— цвёрда сказаў Юстын.— І рада здалася. Я не хацеў больш за ўсіх. Але я чалавек. Я слабы.*

*— Брэшаш, пёс,— сказаў Юрась.— Ты вось на гэтых зірні. Вось слабасць чалавечая. Выкінулі вас, як гной са стойла.*

*Суровы, нягледзячы на разбэшчанасць, пасечаны шнарамі і адзначаны ўсімі распустамі Юстынаў твар не ўсміхнуўся.*

*— Яны яшчэ прыйдуць. Хутка,— хутчэй з сумам, чым з пагрозай, сказаў ён.*

*— Я зачыніў усе брамы. Зыня зямля Гародні — зямля справядлівасці.*

*— Ці надоўга?.. Але... мне шкада, што я не здолею паглядзець, як гэта будзе.*

*— Чаму?*

*— Таму што — а раптам чалавек не такая свіння, як я думаў.*

*— Добра,— пасля паўзы сказаў Хрыстос.— Раз вяжыце яго.*

*— Дарэмна ты гэта. Я б забіў. Таму што, калі яны вернуцца, я ж буду такі, як раней.*

*— Ну і шчаслівa. І, потым, я не ты.*

*Бурмістр павесіў галаву.*

*— А гэтых — на шыбеніцы,— злосна сказаў Пятро.*

*Хрыстос глядзеў на людзей і з нейкай палёгкаю бачыў у іхніх вачах збянтэжанасць.*

*— Ну... гэта... чаго вы? — спытаў дурыла Пiлiп.*

*З маўчання пачалі вылузвацца асобныя гукі.*

*— Чорт яго...*

*— Не даводзілася.*

*— Ты сабаку паспрабуй павесь.*

*— Ды няхай бы, хто можа. Вось ты, Янук.*

*— Ідзі ты ведаеш куды... Вось-вось.*

*Братчык пакасіўся ўніз. Чорныя з сінявою вочы*

з пострахам глядзелі то на яго, то на шыбеніцы. Нехта захутаў Анею, разам з лахманамі манашага адзення, у сваю шырокую чугу.

Яна глядзела ўмольна, але Юрась чакаў.

— Разарваць іх! — крыкнуў нехта.— Бог ты мой, ды няўжо чалавека не знойдзецца?!

Але чалавека нешта не знаходзілася. Кожны, хто стаяў тут, сёння рызыкаваў сабою, біўся і забіваў, і, напэўна, забіў, калі ўжо стаяў тут жывы. Але звязаных вешаць не хацелася нікому. І Хрыстос усё з большай цеплынёю аглядаў гэтыя аблічы. Так, ён не памыліўся. На гэтых закураных, пасечаных, зморшчаных галечай тварах былі вочы. І ў гэтых вачах было столькі таго, што нагадвала вочы тых, з ягонага сну. Ён разглядаў гэтыя твары. На хвіліну яму здалося, што мільгануў між іх твар Басяцкага, але ён адразу ж зразумеў, што памыліўся: гэта проста размаўляў з дробным гандляром — мяркуючы па вопратцы — нейкі нямецкі госць.

— Дык унь жа кат! — раптам радасна загарлаў нехта.— Вось няхай ён!

Кат стаяў у сваёй клетцы і паступова зноў набіраўся пыхі:

— А чаго, я магу. Клетку толькі разбіце. Я чаму і кажу, што кату нельга ў клетцы.

— Можаш павесіць іх? — з абрыдлівасцю спытаў Братчык.

— Дык... пане божа. Служба ж такая. Фах.

Братчык бачыў, як дрыжэлі вейкі Анеі.

— Праца, зноў жа,— меланхалічна сказаў кат.— Таму што не можаць етага на нашай зямлі быці, каб не было ў ката шырокага кола знаёмстваў, і высокіх і нізкіх. І, зноў жа, не было такога ўладара, каб абышоўся без ката.

Хрыста перасмыкнула.

— А не было... наколькі я ведаю.

Сціснуліся ў кулакі пальцы. Вялікім намаганнем волі ён стрымаўся, не ўдарыў. Вось і гэты лічыць...

— Не было. Але павінна быць. Будзе. І давайце, людзі, пачнём. Камусьці ж трэба пачаць, га? Падлу гэтую ў спадчыну браць — чаго мы тады вартыя? Дый рукі аб яго пэцкаць — брыдка.

Выскаліўся весела:

*— Ану, кідайце яго з клеткаю ў Нёман. Можа, хаця трохі адмыецца.*

*Дзесяткі рук падхапілі клетку, пацягнулі з адхону, разгайдалі, кінулі. Яна нырнула, а пасля з шумам усплыла ў струменях вады. Кат сядзеў у ёй па грудкі. Клетку закруціла плынню, памчала. Забляяла ёй наўздагон дуда.*

*— Сам пакаштуй! — крычаў Кірык.*

*— Клетка для жаб! — захлынаўся Зянон.*

*— І гэтых у ваду ганіце,— узвысіў голас Хрыстос.— Каб не смярдзела тут.*

*Схопленых пагналі ў ваду, дрэўцамі дзід саштурхнулі з берага. І вось паплыла, паплыла, па-плы-ла ракою чарада разубраных у золата людзей: вартыя жалю, адвіслыя вусы; рукі ў парчы працуюць пасабачаму.*

*— Гусі-гусі...— з берага загарлаў Тумаш.*

*Ад рогату, здаецца, скалыхнуўся бераг. І Хрыстос зразумеў, што гэта, магчыма, самая вялікая з яго перамог. Цяпер можна было казаць усё. Слухаць — будуць. І ён узняў рукі:*

*— Слухайце, хлопцы! Што, так мы і крыўдзіць адзін аднаго давеку будзем? Ці, можа, не? Дык вось што я вам кажу. З дня гэтага Гародня — зямля праўды. Пакрыўджаных не будзе. Усім роўна — і ні ў кога болей. Галодных не будзе. За веру кагосьці забіваць — хай яны лузнуць. Пакаранне адно — выгнаць да тых, да ваўкоў.*

*Ён пашукаў вачыма і выдраў з рук у кагосьці паходню. Паднёс яе да чорнага, прасмоленага глаголя шыбеніцы. Паступова пацягнуліся ўгору, пачалі лізаць смалу языкі полымя.*

*— Чуеце? Шы-бе-ніц больш не бу-дзе!*

*У адзіным імпэце, у пачуцці нейкага дзіўнага ачышчэння людзі кінуліся да мярзотных спаруд. Падносілі паходні, крычалі і плакалі.*

*Сотні глаголяў палалі над вялікай ракой.*

## Раздзел XLIII

# ЗЯМЛЯ СПРАВЯДЛІВАСЦІ

> У другую краіну, у шчаслівы край
> Залаты адчыніўся ўваход.
>
> *Плач Пятра — Аратая*

З тых часоў, калі Пракопі Візантыйскі пісаў аб славянах, што жывуць яны ў народапраўстве і няма ў іх большага, упершыню, магчыма, поўная роўнасць запанавала на беларускай на Гародзенскай зямлі. Мінулі тры бяды: нашэсце, голад і кардынал Лотр. І ўсе ўжо ўспаміналі пра яго ледзь не са смехам. Гвалціў баб — дык кожны робіць тое, што ў ягоных сілах. Заваліў усю краіну дзярмом — дык кожны робіць толькі тое, на што здатны. Чорт ужо з ім! Спаймаем — вылегчаем!

Падзялілі ўсе запасы з царкоўных і магнацкіх свірнаў. Кожны, хто браў горад, атрымаў па дзве тысячы фунтаў збожжа, акрамя іншага. Бедныя мяшчане атрымалі амаль па столькі. У горадзе застаўся яшчэ агульны запас на пяць год.

Падзялілі чароды багатых, лішнюю вопратку і грошы. Кожны чалавек на Гародзеншчыне мог цяпер бязбедна жыць з працы сваёй. Усе ведалі: засеяныя будуць палі, ніхто не будзе прымушаць, няма каго будзе баяцца, бо кожны будзе бараніць бязбеднае сваё жыццё.

Зброю раздалі ўсім, здатным яе насіць. Хрыстос не забываў: за кожным ягоным крокам сочаць і толькі і чакаюць, каб аступіўся. Удзень і ўначы рапаравалі муры, брамы, вежы, валы, усцягвалі на іх каноны. На Мечнай вуліцы збройнікі, пад наглядам Гіава Турая, удзень і ўначы кулі зброю. Ачысцілі студні, назапасілі паліва на ўсю зіму. Вястун і іншыя вучылі людзей бойцы да знясілення. На званіцы Дамініканаў увесь час сядзелі дудары і сачылі за дарогамі. Старым званарам не верылі. Чорт іх ведае, што надумаюць. На ноч брамы зачыняліся і каля іх ставілася падвойная варта.

Усе ведалі — без бойкі не абыдзецца.

І, аднак, за гэтыя лічаныя дні горад аджыў. Паўсюль жарты, смех, простыя смелыя позіркі, шчырыя

размовы. Паглядзелі б на гэта Бекеш або Крыштофіч!.. Але іх не было ў горадзе.

Амаль апусцелі храмы. Не было відаць мёртва п'яных. Патрэбы ў гэтым не было. Вечарамі на плошчах скакалі вакол вогнішча людзі, і песні ляцелі да ясных зор.

Стаяў канец жніўня, і ў гэтым была адна з пагроз. Прышлыя мужыкі снілі і трызнілі аб ворыве і пасеве. Што з таго, што гэтым можна было займацца са жніўня і аж да замаразкаў, абы зерне паспела ўзысці. Што з таго, што, магчыма, і лепей пасеяць пазней, а не раней. У прадчуванні бедаў мужыкі хацелі хутчэй кінуць зерне ў зямлю. Яна цягнула, як любая жонка, як каханая. Рукі снілі яе мяккасць, вочы марылі аб яе льсняным бляску, ноздры прымушаў пашырацца ўяўны, саладкаваты пах руні.

І настаў дзень, калі ўсё гэта выбухнула.

Зноў стаялі гурмы каля Лідскае брамы. Толькі на гэты раз ішлі яны, а заставаўся — ён. І мужык міжволі гуляў ятаганам, зноў насаджаным на дрэўца.

— Харошая сталь?

— У-у. Зірні, каса якая. Трохі выгнуў, падкляпаў.

Людзі стаялі перад ім, і ён нічога не мог сказаць ім. Яны мелі рацыю. Яны клапаціліся аб жыцці.

— Даруй,— сказаў нехта з натоўпу.— Яна чакае.

— Вартуй тут.

— Парадак наводзь.

— Па-божы.

Вельмі непрыгожая жанчына падышла да іх:

— Я ўсё зрабіла дзеля цябе, пане божа. Цяперака адпусці.

— На што спадзяешся? — сумна ўсміхаўся ён.— Вёска ж спалена?

— Няшчасце дапамагло. У нас амаль усіх баб татары спалілі. Малюся і плачу за іх. Не хацела б сабе шчасця цаной такою. Але што зробіш, трэба жыць. Я знайду цяпер сабе мужа. Дзеці ў мяне будуць.

І тут яна заплакала. Ад гора за другіх і ад палёгкі за сябе.

— Ідзі,— сказаў ён.— Бывай шчаслівая.

І яшчэ адзін малады хлапец падышоў:

— І мяне баязлівым лічылі. Бык мяне ганяў. А цяпер я давёў. Бачыш, трох пальцаў няма. Шнар цераз

аблічча. Шчасце ты даў мне. Няхай цяпер якая дзеўка мяне баязліўцам нарачэ.

— Ідзі.

Калека на мыліцах падышоў:

— І я шчаслівы. Праз слёзы, а шчаслівы. Адпусці. Мне ад цябе нічога больш не трэба. У нас цяпер усе, хто не пабіты — калекі. Я не горшы за іншых. Будзе дом, жонка, дзеці. Ёсць збожжа і хлеб.

І іншыя гучалі галасы:

— Конь у мяне. Татарскі. Першы. Рукі да сахі цягнуцца.

— А калі не адпушчу?

— Застануся. Слова даю.

— Ідзі,— змрочна, але цвёрда сказаў Юрась.

Расплываўся натоўп.

— У мяне пана забілі. Цяпер толькі й жыві.

— Хлеб.

— Шчасце, шчасце даў нам.

Урэшце людзі з вазочкамі і косамі расплыліся. Хрыстос стаяў ля брамы адзін, і толькі далёка за ягонай спіною стаяў натоўп мяшчан. Моўчкі. Хрыстос жа стаяў і глядзеў, як людзі кропкамі znікалі ў палях.

Ён любіў іх. Ён не меў права затрымліваць справу жыцця.

...Менавіта таму на муры ўвесь час цягнулі камяні, дровы і смалу.

## Раздзел XLIV

## АПОШНЯЯ ВЯЧЭРА

Яд аспідаў на вуснах іхніх.
*Пасланне Рымлянам, гл. 3, ст. 13*

У той вечар ён ішоў вуліцамі з Анеяй, Раввуні і Тумашам. З ім ішлі яшчэ сівавусы, малады, дудар, Вус, Зянон і Вястун. На хаду ён аддаваў апошнія ў гэты дзень загады. Было яшчэ даволі рана, нават першая зорка не засвяцілася ў вышыні.

— Ты, Кірык, і ты, Зянон, ідзіце зараз на муры. Праверце яшчэ раз усіх.

Каваль зіркнуў ястрабінымі вачыма.

— Добра,— сказаў, адстаючы.

— А ты, Вус, гэтую ноч не паспі. Чарга твая.

Удзень адаспішся. Бяры дудара, «братачку», ды лезь на званіцу Дамініканаў. Сачыце, хлопцы, сурміце, хлопцы, равіце, хлопцы.

Здаравіла Братачка закінуў дуду за плячо:

— Дык, братачка, чаму ж. Ноч яно між тым месячная будзе.

Залатарукі і Дудар звярнулі.

— Турай дзе? — спытаў Хрыстос.

— Стары ў Мечнай. Працуюць. А малады з Кляонікам да дзевак, пэўна, на вячорку пайшлі. Кляоніка Фаўстына чакае, Марку...

— Добра,— засмяяўся Хрыстос.— Ах, як добра, цудоўна як!

— Нічога няма цудоўнага,— уздыхнуў сівавусы.— Разлайдачыліся. Спакой. Нібы і не ваўкі вакол.

Ля перадмостнага пляца людзі вадзілі вакол вогнішча кола. Чуўся смех.

Сядзіць, сядзіць яшчур
У гарэхавым кусце.

Хрыстос засмяяўся:

— Змрочны ты чалавек. Ну што табе ў гэтым? Зірні — унь варта на мурах. Брама ахоўваецца — мыш не праскочыць.

— А я табе кажу — спяць занадта спакойна. Ложкі грэюць.

— Хай спяць да нападу.

— А ты падумай, як нашы папы з аточанага горада ўцяклі?

Юрасёва аблічча выцягнулася. Ён усё не мог звыкнуць да падазронасці.

— Ч-чорт! А можа, яны і не ўцякалі? Трэба заўтра патрэсці і замак і багатыя дамы.

— Трэба, брат. Што і кажу.

Насустрач ішоў з паходняй патруль. Размінуўся з імі ля самага дома, адведзенага Братчыку, невялікай хаткі на рагу Ростані і Малой Скідзельскай.

— А мне чамусьці страшна за цябе,— нечакана сказала Анея.

— Змоўч,— буркнуў Тумаш.

— Вечна гэтых бабскіх глупстваў...— загарачыўся Іуда.— Вось дом. І халодна. Хадзі ты туды. І ў нас ткі справы. І ён прыйдзе.

— Ідзіце, хлопцы. Я вас даганю.

Яны засталіся ўдваіх. Якраз у гэты момант замігцела над горадам першая зорка. То белая, то сіняя, то вясёлкавая.

— Нікуды ад цябе не хачу,— сказаў ён.— І ў рай не хачу. Абы тут. З табою.

— І я...

— А я хто?

— Былы махляр. Найлепшы на свеце махляр. І няхай нават не можаш сказаць ім гэта. Усё адно.

— Позна. Не паверыць. Дый ці не ўсё адно?

— ...З богам было б горш. Божа мой, гэтыя два тыдні! Нібыта ўся я — ты.

— І я. Раней здавалася — мне мала зямлі. Цяпер я свет благаслаўляю, што нічога ў мяне няма, акрамя яе, акрамя цябе.

Ён увесь прынікнуў, прыцісnуўся да яе. І так яны стаялі, няўлоўна пагойдваючыся, пад гэтым небам, што ўсё мацней і мацней расцвітала зорамі.

Ворагі між тым былі не так далёка, як думалі ў вольным горадзе. На жаль, прыказка: «Я пад табою на тры сажні бачу» — заставалася ўсяго толькі прыказкай. Калі б Юрась валодаў такой якасцю і мог прабіць позіркам пласт зямлі і каменнае абліцаванне падземнага хода — ён бы ўбачыў відовішча, якое кінула б яго ў жудасць.

Убачыў бы ён, што ў тым месцы, дзе падземны ход утвараў невялічкую пячору і разыходзіўся на некалькі хадоў — да замка, да ратушы, да драўлянага, з галерэямі, лямуса на Рыбным рынку,— стаіць і чакае маўклівая гурма, збольшага ў латах. Ваўкавыская падмога.

Стаялі Лотр, Балвановіч, грубы Камар, Жаба, Карніла з Пархверам. А за імі, у цьмяным святле некалькіх паходняў мігцела медзь шаломаў і сталь мячоў. Лотр аддаваў апошнія загады:

— Будзеце рэзаць. Без галасу. Хапком.

— Ясна,— сказаў Камар.— Гульня наша не задалася. Дык тут ужо — карты пад стол ды па зэмбах.

— І ты, Карніла, пойдзеш і схопіш яго і прывядзеш у ланцугах.

— Няладна,— змрочна забубніў Карніла.— Ён жа зняў ланцугі з паноў. Нешта не верыцца, каб гэта — злачын...

— Дужа ты разумееш,— сказаў Балвановіч.— Таму і страшны, што зняў.

— Зроду такога не было,— задуменна сказаў Лотр.— Гэта што ж будзе, калі ўсе так рабіць пачнуць?.. І таму пойдзеш. Клятву даваў?

— Даваў,— змрочна сказаў Карніла.— А толькі няладна. То — Хрыстос, то — самі ж — самазванец.

Усмешка Лотрава была страшнаваценькая:

— А гэта заўсёды так. Сёння — князь, заўтра — гразь. Заўзятых, хто памятае, пераб'ём...

— А памяць? — буркнуў Карніла.

— Памяць, калі над ёй сякера, гэта глупства,— падаў голас Пархвер.— Хай памятаюць. А дзеткам іншую памяць прышчэпім: шалбер, злодзей, хаты паліў, краў.

— А татары?

— Усё запісана, як трэба,— усміхнуўся Лотр.— Ну і потым... суд. Таму і забіваць нельга. Раз судзілі, раз асудзілі — значыцца вінаваты, значыцца лжэХрыстос. Каму там прыйдзе ў галаву сумнявацца праз сто год? А гэтых прымусім паверыць. Колькі ў цябе людзей?

— Семсот з нечым. А — непарадак. Столькі дзіваў зрабіў. Ведаюць, што Хрыстос, а мы... А можа, і...

— Дурань. Чым больш ён Хрыстос, тым больш шкодны. І таму — забіваць усіх, хто прызывае імя божае.

...Ворагі былі не толькі пад зямлёй. У цёмным завулку ля Ростані Басяцкі, пераапрануты нямецкім госцем, гаварыў з Хлебнікам і яшчэ некалькімі гандлярамі:

— Зараз пойдзеш да лямуса і ўдарам у пліту папярэдзіш, каб вылазілі і разыходзіліся па месцах. Паходні гатовыя?

— Гатовыя.

— Крыжы на рукавы нашылі?

— Нашылі. Іначай чорт яго разбярэ, хто свой, а хто чужы. Сутычка ж.

— Сігнал — агонь на пераходзе ад дамініканскай званіцы. Па ім ідзіце, біце ўсіх у мечаных дамах. Дзе крыж на браме ці на дзвярах.

— Шасціканечны?

— Буду я паганскую эмблему крэсліць. Наш. Чатыры канцы. І ўлічыце: не выпускаць жывых.

Хлебнік змрочна ўсміхнуўся:

— Гэта мог бы і не папярэджваць, бацька. Нам такі Хрыстос — на якога д'ябла? Усё вымеў. З васковым унь як спакойна было.

— Таксама піці-есці прасіў,— сказаў Рыбнік.— Ну дык гэта не тое. Хаця другім не даваў. Дык мы на яго, як на мядзведзя, адным махам.

— Ойча,— сказаў нехта.— А як на вуліцы чалавека сустрэнеш? Як даведацца, ці ерэтык.

Сябра Лайёлы ўсміхнуўся.

— А на гэта ўжо Арнольд Амальрык адказаў. Калі ў Францыі ерэтыкоў білі.

— Ну?

— «Забівайце, забівайце ўсіх! Бог сваіх пазнае!» Вас колькі?

— Нешта чалавек пяцьсот,— сказаў Хлебнік, гуляючы кордам.— Н-ну д-добра, ойча. Мы гэтай сволачы пакажам рыбы ды хлябы.

— Давайце, сыны мае. Кліч усе ведаюць?

— Вялікдзень,— сказаў нехта з цемры.

...Хрыстос між тым дагнаў сваіх. Усе ўтраіх яны ішлі вуліцамі соннага горада. Ноч выдалася нечакана гарачая, можа,апошняя такая перад прыходам восені. Таму людзі спалі не толькі ў хатах, але і ў садках пад грушамі, і на галерэях, і проста, выцягнуўшы з хаты пасцілку, ля вадамётаў, якія парушалі цішыню няўмоўчным плёскатам вады.

— Яны ўдома? — спытаў Хрыстос.

— Удома,— сказаў Фама.— Піва з гарэлкай жлукцяць. Вячэра.

— У іх, скажу я вам, тая вячэра... яна-ткі з самай раніцы,— сказаў Іуда.

Крокі будзілі цішыню.

— І нешта цяжка мне, хлопцы. Непамысна мне нешта. Не хачу я ісці да іх.

— А трэба,— сказаў Фама.— Па лычах ім нада-ваць трэба. Імя толькі ганьбяць. Пальцам аб палец на ўмацаваннях не стукнулі. Зброяю валодаць не вучацца. Адно п'юць, ды за бабамі... ды кепікі з тых, хто працуе, строяць. Збіць іх на горкі яблык ды сказаць, каб вымяталіся з горада, калі не хочуць.

— Згода,— сказаў Хрыстос.— Так і зробім.

Іуда зарагатаў:

— Слухай, што мне сёння сівавусы сказаў. Я, кажа, стары, ты не зразумееш гэтага так, нібыта я падлашчваюся да Хрыста. Якая ўжо тут ліслівасць, калі ў кожнае імгненне можам на адзін эшафот трапіць. Дык вось, кажа, здаецца мне, што ніякі ён не Хрыстос. І д'ябал з ім, мы яго і так любім. Чаму, пытаю, засумняваўся? Гэ, кажа, ды ён паноў замест каб павесіць — у Нёман загнаў. Не смейся, кажа. У бога гумару няма. Ён чалавек сур'ёзны. Іначай, чым да сотага калена, не помсціць.

Сябры зарагаталі.

...Апосталы размясціліся асобна ад Хрыста з Анеяй, наводшыбе, аж у слабадзе за Каложскай царквою. Так было зручней і з жанчынамі, і з пітвом. Прынамсі, не трэба цягацца праз увесь горад, на вачах у людзей. Яны ўзялі сабе кінуты нейкім багачом уцекачом будынак, драўляны, белены знадворку і знутры, крыты моцным, навек, шчапяным дахам. Было ў ім нешта з дзесятак пакояў, і размясціліся ўсе раскошна.

Урэшце, Тумаш з Іудам рэдка калі і начавалі там, увесь час прападалі на мурах, у складах, на прыстані або на пляцы.

У гэты позні час усе дзесяць чалавек сядзелі ў пакоі з голымі сценамі. Шырокія лавы ля сцен, сталы, якія аж стагналі ад ежы, гарцаў з гарэлкай, бачонка з півам і цяжкіх гліняных куфляў.

Гарэла некалькі свечак. Вокны былі адчынены ў глухі цяністы сад, і адтуль павявала водарам лістоты, спелых антонаў і валовых мордачак, ваўчкамі і прахалоднай расою.

Размова, нягледзячы на вялікую колькасць выпітага, не клеілася.

— А я ўсё ж гляджу — паленым пахне,— баязліва сказаў Андрэй.

— Пабойваешся? — Піліп з неймавернай хуткасцю абгрызаў, абсмоктваў смажаную гусь, аж свіст стаяў.

— Эге ж. Нібыта падбіраецца нехта, ды як дасцьдасць.

— Гэта можна,— сказаў Ян Заведзееў.— Лепей ад пана за нераты ў шыю атрымаць, чым дарэмна прапасці.

— А я ж жыў,— летуценна сказаў Мацей.— Грошы табе, жонка, ежа. Збан дурны, яшчэ некуды шчаміўся, дзіваў хацеў.

Навісла маўчанне.

— Уцячы? — спытаў Баўтрамей.

— Ну і дурань будзеш. Зноў дарогі,— сказаў Пятро.— Ведаю я іх. Ногі збітыя. У роце мох. Азадак павуціннем заткала. Трапілі як сучка ў кола — давайце бегчы.

Усе задумаліся. І раптам Пётр ускінуў галаву. Акрамя яго ніхто не пачуў, як адчыніліся дзверы.

— Ты як тут?

Няўлоўная ўсмешка блукала на вуснах госця. Шэрыя, плоскія, трохі ў зелень, бы ў яшчаркі, вочы аглядалі апосталаў.

— Т-ты? — спытаў Іліяш.— Як прыйшоў?

— Спяць людзі,— сказаў пёс божы.— Розныя людзі. У дамах, у садках. Варта ля брамы спіць. Мужыкі спяць у раднай зале, і зброя ля сценак стаіць. Вартавыя на мурах і вежах не спяць, ды мне гэта...

— Ты?..

— Ну я,— Басяцкі падышоў да стала, сеў, наліў сабе на донца піва, прагна выпіў.— Не чакалі?

— А як варту гукнем? — зарыпеў Баўтрамей.

— Не гукнеце. Тады заўтра не бізуны па вас гуляць будуць, а клешчы.

— Савул ты,— сказаў Якуб Алфееў.

— Ну-ну, вы разумныя людзі.— Езуіт памаўчаў.— Вось што, хлопцы. Мне шкада вас. Выдадзіце мяне — вас на дне марскім знойдуць. Думалі вы пра гэта?

— Н-ну,— падступныя Пятровы вочы бегалі.

— Дык вось,— жорстка сказаў іезуіт.— Кідайце яго. Заўтра ў горадзе горача будзе. Таму ідзіце ўначы. Зараз. Калі дарагая вам шкура.

— Не ўцямлю, чаго гэта ты нам?..— працягваў Пятро.

Мяккі, незвычайна багаты інтанацыямі голас нібы зачароўваў, нібы душу цягнуў з вачэй:

— Што вы? Нам важнейшую рыбу забарболіць трэба, а не вас, махляроў.

— Тады нашто? — спытаў Пятро.

— Праўду? Ну добра. Я ведаю, і вас ужо даняла. І вы, як на старой сасновай шышцы, седзіцё. І самі б

вы яго кінулі. Ды толькі маглі б спазніцца і трапілі б незнарок з ім. І павесілі б вас. А ўсе крычалі б аб вернасці, з якой не кінулі вы настаўніка. А трэба, каб ён, каб усе ведалі: верных няма. Бо не павінен верыць ні сусед суседу, ані бацька сыну.

— Нашто гэта вам? — спытаў Іліяш.

— А без гэтага нічога ў нас не атрымаецца. Вучыць трэба... Нічога, маўляў, страшнага, калі сын жадае смерці бацькавай, поп — смерці біскупавай, таму што мы мацней хочам дабрабыту дзеля сябе, чым зла бліжняму. І таму дзеці павінны даносіць нават на сваіх бацькоў-ерэтыкоў, хаця і ведаюць, што ерась пацягне за сабою пакаранне смерцю... Таму што, калі дазволена мэта, то дазволены і сродкі[1].

— Што ж мы, так проста і на дарогу? — падступна спытаў Баўтрамей.

— Я іх ад смерці, а яны яшчэ і — «грошы». Ну, добра ўжо, дзеля такой вялікай мэты дамо і грошай.

— Колькі? — спытаў Тадэй.

— Не пакрыўдзіцеся. На кожнага па трыццаць.

— Давай,— пасля паўзы сказаў Пятро.

Усе пільна, як сабака на стойцы, глядзелі, як вузкія пальцы езуіта выкладаюць на стол вялікія, з дзіцячую далоньку, срэбныя манеты, як ён лічыць іх, складае слупкамі і падсоўвае да кожнага. Святло ад свечак мігцела на ўсім гэтым, на прыадкрытых пашчах, на руках, на вачах.

Езуіт паказаў на профіль Жыкгімонта на срэбным кружку:

— Дзяржаўна-карысны ўчынак робіце. І вось бачыце, нібыта сам уладар наш кожнага з вас па трыццаць разоў за подзвіг ваш блаславаўляе. А цяпер — ідзіце.

Басяцкі ўстаў.

— Дый вы спяшайцеся.— Ян глядзеў у акно.— Сам ідзе. У канцы завулка.

Мніх-каплан адчыніў дзверы. І раптам падаў свой насмешліва-абыякавы, здзеклівы голас Міхал Іліяш, ён жа Сымон-Кананіт:

---

[1] Зноў промысел божы, прадбачанне і празарэнне. Бузенбаўм, аўтар гэтага афарызма і «Трактата аб маралі» стварыў яго на сто год пазней. Нічога! Хай бы сабе і на дзвесце.

— Басяцкі. А што будзе, калі мы грошай са стала не прыбяром? І той зразумее?

Дамініканец аглядаў яго. Пасля холадна паціснуў плячыма:

— Прэнг.

Дзверы зачыніліся за ім.

Усе як быццам чулі ўсё бліжэй і бліжэй крокі Хрыста, але, магчыма, гэта ўсяго толькі тахкалі іхнія сэрцы. Мацней і мацней. Мацней і мацней. Урэшце здрыганулася рука ў Баўтрамея. Ён не вытрымаў. Не думаючы пра тое, што будзе, калі астатнія не прыбяруць грошай, схапіў манеты, пачаў прагна рассоўваць іх па кішэнях. Працягнулася па грошы другая рука.

Рыпнула фортка. І тут дзевяць рук бліскавічна змялі срэбра са стала ў торабкі. Засталася адна грудка. Перад Іліяшам. Цыганаваты Сымон з трыумфам глядзеў вугальнымі вачыма на збялелыя твары хаўруснікаў. Абводзіў іх вачыма, нібы ацэньваў. Бачыў ва ўсіх вачах жах, сквапнасць, тупую прыціснутасць.

Адчыніліся дзверы. Хрыстос абцёр ногі аб жорны перад парогам і ступіў у пакой.

На стале былі пляшкі, бачонак, місы. Грошай на стале не было.

— Хадзіце гарэлкі дзербаніце, ці што,— сказаў Іліяш-Сымон.

Фама, Іуда і Хрыстос падселі да стала. Пачалі есці. Елі многа і ладна, але без сквапнасці. Вельмі згаладаліся за дзень беганіны.

— А гарэлачкі? — лісліва спытаў Пятро.

Нешта ў тоне ягонага голасу не спадабалася Хрысту. Ён абвёў вачыма апосталаў, але нічога асаблівага не заўважыў. Твары як твары. Медныя, у рэзкіх ценях. І вялікія крывыя цені рухаюцца за імі па сценах, запаўзаюць калматымі — з кацёл — галовамі на столь.

— Н-ну? — спытаў Хрыстос.— Не, Пятро, гарэлку адстаў. Гэтак і горад прап'ём. Піва глыток плескані.

Цень на сцяне піў з вялізнага глінянага куфля.

— Дык што? Седзіцё? Морды мочыце? А рукі ў баі замачыць чырвоным — гэта вам страшна? А ў глей іх запэцкаць на ўмацаваннях — гэта вам гідка і цяжка?

Маўчанне.

— Што рабіць будзем? Морды вам чысціць? За муры выганяць у рукі ворагам?

Твар быў суровы.

— Я разумею, хлопцы,— трохі больш стрымана сказаў Хрыстос.— Вам лезці на ражон да канца не хочацца. Вас, калі схопяць, можа, і пашкадуюць па справах вашых. Скажам, не на палю пасадзяць, а ў каменны мех да скону. Усё ж жыццё. Вы не тое што я. Вас яны не могуць да канца ненавідзець, а мяне ненавідзяць, бо я сведчу аб іх, што справы іхнія злыя. Што ўсе запаветы чалавечыя яны падмянілі адным, дзесятым: «Паважай здраднікаў, і добра табе будзе».

Глядзеў на патупленыя галовы:

— І ўсё ж апошняе маё пытанне. Будзеце вы ваякамі за праўду ці так і пакінуць вас у прапойцах і зладзеях? Будзеце са мной? З імі?

Пятро бегаў вачыма па хаўрусніках. Рашыўся:

— Вядома, з табою.

— Ты не сумнявайся,— падтрымаў яго Баўтрамей.

— Кінь,— загулі галасы.— Чаго ўжо... З пачатку ідзём... Ты на той свет, і мы ўслед.

Братчык абводзіў позіркам твары. Людзі стараліся глядзець яму ў вочы, і кожны іншы, не такі прастадушны, заўважыў бы, што яны с т а р а ю ц ц а. Але гэты не заўважыў, і, акрамя таго, яму хацелася верыць.

— Добра. Збірайцеся. Зараз жа рушыце цягаць камяні на забрала. А ты куды, Тумаш? Нацягаўся, здаецца?

— Я да брамы. Там і пасплю недзе,— і Фама выйшаў з хаты.

Апосталы пачалі збірацца. Толькі Іуда зняў поршні, адсунуў з краёчка стала місы, паклаў на яго сшыак са сваімі запісамі, скінуў плашч і зрабіў з яго на лаве падабенства падушкі. Пазяхнуў:

— А я тут лягу... Прабач... Я паспею...

— Вядома,— сказаў Хрыстос.— Дзве ж ночы не спаў. Прыдрамні. Разбуджу раніцаю.

Іуда, не раздзяваючыся, лёг на лаву. Ледзь толькі галава ягоная апусцілася на скрутак, ён заснуў. Нібы ў цёмны, глыбокі вір апусціўся. Нібы рынуў у бездань.

— Ну дык хадзем,— сказаў Хрыстос.— Працаваць будзеце, як валы. Памятайце, далі слова.

— Вядома,— сказаў Пятро.

І зноў нешта няшчырае патрызнілася Хрысту ў ягоным голасе.

— Глядзіце толькі, каб мне не давялося сказаць: адзін з вас сёння не здрадзіць мне.

Прарэзліва і свежа пачалі крычаць над сонным горадам першыя пеўні. Людзі выйшлі. Іуда спаў каменным сном. І тут зноў адчыніліся дзверы і ў шчыліну асцярожна прасунулася гарбаносае, у сетцы буйных жорсткіх зморшчын, аблічча Мацея.

— Раввуні,— шэптам паклікаў ён. І пасля сказаў галасней: — Раввуні.

У пакоі чуваць было толькі соннае, роўнае дыханне.

І тады Данель падышоў, асцярожна ўзяў са стала рукапіс, выйшаў на дыбачках і зачыніў за сабою дзверы.

Пераклічка пеўняў усё яшчэ трывала. Крычаў адзін. Адказваў яму хрыпатым басам суседні. Яшчэ адзін. Яшчэ. Зусім здалёк танюткай нітачкай голасу азываўся яшчэ нейкі. Кожны чарговы крык выклікаў меладычную лавіну гукаў.

Крычалі першыя пеўні над горадам. Людзі праз сон чулі іх і не ведалі, што другіх пеўняў шмат хто не дачуецца.

## Раздзел XLV

## САД ЛЯ КАЛОЖЫ

Таму што корань усіх зол ёсць срэбралюбства.

*..Цімахвею, гл. 6, ст 10*

Дзесьці мае дзеці ў любові жылі,
Раслі, раслі, пахіліліся,
Цераз цэркву сушчапіліся.

*Беларуская песня*

Над зямлёю панавала месячнае святло. Беленыя сцены дамоў здаваліся пяшчотна-блакітнымі. Густы блакіт панаваў на плыні недалёкага Нёмана. Се-

рабрылася і сінела лістота дрэў. Месяц у вышыні быў светлы, як трон божы, такі светлы, што балюча было глядзець на яго. І толькі рэдкія зоры можна было разгледзець на празрыстай сіні небасхілу.

Яны ішлі каля мура, што абкружаў Каложу. Чорныя цені на блакітным.

— Чаму б табе не ўцячы некуды,— зрабіў апошнюю спробу Сымон-Кананіт.— Уцёк бы некуды, дзе не так страшна. Ёсць жа краіны...

Хрыстос зірнуў на яго. Твар быў блакітны.

— Ёсць. Сапраўды лягчэй. Прынамсі, казаць больш можна. Але ты, Сымоне мой, не разумееш аднаго. Тут, у агульным свінстве, цяжэй... але затое і гонару больш. Што яны ведаюць, тыя смаркулі, аб нашых безданях? Ды яны і тысячнай долі таго нават не зазналі, што мы ў княстве Беларуска-Літоўскім. Раз ужо я з'явіўся на зямлю — я стану тут. Біцца буду не на жыццё, а на смерць. Казаць буду пра тое, што ёсць Чалавек і якое месца яго на Зямлі і ў Сусвеце, дзе пэўна ёсць шчаслівейшыя. Пра Мужнасць, пра Здзек, пра Веды, пра Доблесць казаць буду, а не пра тое, што «Лаура ўпала ў Луару». Ах, жах які! Ах, слёзы! — Твар Хрыстоў зрабіўся злосны.— А святой службы яны не нюхалі? А вогнішчаў? А тысяч замучаных не бачылі? І таксама яшчэ лічаць, што цяжка жывуць. Ну не. Гонар тут, цяжар тут, значыцца, і жыццё тут. Іншага народа дзеля мяне цяпер няма.

— Памрэш,— сказаў Іліяш.

— Там мог бы жыць, балбатаць тое-сёе. Тут — мабыць, памру. Але затое тут мая праўда: бойка з храмоўнікамі, сеча с самім Сатаной.

Іліяш зразумеў, што ўсё дарэмна. Трэба было даваць лататы. З гэтым кашы не зварыш. Бач, твар які.

— Нешта цяжка ў мяне на душы,— сказаў Юрась.— Душа смуткуе, тужыць смяротна. Пасядзіце тут, хлопцы, пачакайце мяне трохі. Я да Нёмана пайду, вырашыць мне нешта трэба, і сам не ведаю што... Толькі — нельга мне без гэтага.

— Чаго ж, пасядзім,— сказаў Пятро.

— Гэна... чаму не.

Яны селі на траву пад мур. Братчык адчыніў фортку і зайшоў у царкоўны сад.

— Вертаград маці царквы нашай,— сказаў Сымон.— Заблукаеш — крыўдуй на сябе.

Калі крокі заглухлі ў нетрах, ён ускочыў і махнуў рукой:

— А зараз — давай. Давай-давай. Каб аж пяткі ў азадак стукалі... Як калі б каня ўкралі.

Яны кінуліся бегчы з усіх ног. Зніклі. Пастаяў у паветры і асеў блакітны ад месяца пыл.

Пераклікаліся пеўні. Хрыстос ішоў між дрэў, адводзячы галіны, і лістота нібы плакала блакітам: падала раса.

Каложа ўстала перад ім у месячным ззянні такая простая, такая дасканалая, што перахапіла дых. Бліскучы купал, срэбна-сінія шкельцы ў вокнах барабана, паласатыя, аквамарын у чэрнь, муры. Усё густое, нават у ценях чорнае ў зелень, як пяро качара. Аранжавым,— кубавым, зеленаватым, вясёлкавым ззяюць на мурах пліты і крыжы з маёлікі.

Большай дасканаласці яму не даводзілася бачыць. Страшна падумаць, што нехта можа ўзняць на яе руку. Стаіць, нібы марскі палац, а над ёю схіляюцца дрэвы, хочуць сашчапіцца над купалам. А вышэй дрэў — неба, сусвет.

Ён мінуў храм і сеў на беразе Нёмана. Месяц, як залатая чаша, ззяў у глыбіні. Уставаў у небе сілуэт Каложы. Злева, далёка-далёка, стаялі на беразе абпаленыя шыбеніцы, а за імі, яшчэ далей, спаў замак. Сціснула сэрца ад любві да гэтай зямлі.

«Што ж я недадумаў? Што пагражае людзям, і гораду, і мне? Першаму абуджэнню чалавека да праўды? Што здрадзіць усяму гэтаму? Што, напэўна, пахавае пад руінамі светлага царства маю любоў?»

Ён глядзеў на сямікаляровую далёкую зорку.

«Правільна, што я не забіваў. Трэба было даць першы прыклад гэтым людзям, якія толькі пачынаюць пакутны, страшны, светлы свой шлях. Што ж, ад г э т а г а падне мая справа? І, можа, я памру, іначай чаму так цяжка?»

Зямля неадольна клікала яго да сябе. Вочы ягоныя сачылі за зоркай, а калені згіналіся, і ўрэшце ён стаў на іх, схіліўся да зямлі.

«Ты прабач,— у думках папрасіў ён.— Ты, неба. Я здрадзіў дзеля гэтага. Я — тутэйшы. Я — беларус. Няма дзеля мяне даражэйшай зямлі, і тут я памру».

Ён прыпаў шчакою да травы.

«Што ж ты? Ну, адкажы мне, зямля мая, край

мой. У чым я памыліўся супраць цябе? Што зрабіў у шкоду, калі не хацеў? Што знішчыць справу маю? Падкажы!»

Плямы святла ляжалі на траве. Прабіліся праз густую лістоту. Круглыя плямы, падобныя на срэбныя манеты. Такія ж манеты дрыжалі і звінелі на вадзе.

«Я зразумеў,— падумаў ён.— Дзякуй. Срэбра. Грошы. Яны загадзяць і сказяць самую светлую думку. Ад іх — подлы гандаль. І няроўнасць. І зайздрасць. І здрада. І загібель. І калі я загіну, то гэта ад іх. Ды яшчэ ад любові да людзей і да цябе, зямля мая. Гэта яны спарадзілі подласць улады. Яны спарадзілі цэрквы. Колькі яшчэ пройдзе часу, пакуль любоўна сплятуцца над мурамі прыгнёту жывыя дрэвы жыцця? Я не дажыву».

Начное неба ззяла ў бяздонным Нёмане.

«Я не хачу гінуць,— папрасіў ён.— Я хачу дажыць. Вазьмі мяне на неба, зорка. Вазьмі, як Ілію. Каб тысячагоддзі праплылі на зямлі і дні — у жыцці маім».

Шалахцела лістота. Мігцела зорка.

«Не. Не хачу. Не хачу, пакуль не зрабіў наканаванага мне. Не хачу ўцякаць ад працы, ад крывавага поту, ад зямной чашы маёй. Гінуць таксама не хачу. У мяне ёсць сябры, і каханне, і народ мой, і сотні іншых народаў, і ты. Хай памінае мяне чаша сія, але, зрэшты, як хочаш. Бо калі ты вызначыш мне загінуць, зямля мая, я не буду наракаць».

Раздзел XLVI

## НОЧ БЕЛЫХ КРЫЖОЎ

> У агні пажару стаяла такая гарачыня, і так прагнулі яны, што падстаўлялі шаломы пад струмені крыві і ў імя пана бога, але як паганец багабрыдкі Гаген, пілі з шаломаў кроў зарэзаных.
>
> *Канонік Торскі*

А горад спаў. Толькі варта маячыла на мурах ды на званіцы балбаталі пра сеё-тое Ціхон Вус з Дударом.

Зянон і Вястун, праходзячы забралам над Лідскай брамай, кожны раз гукалі няголасна:

— Тумаш, спіш?

— Ды не,— сіпата адказваў знізу Фама.— Хай варта пахрапе, я ўжо раніцай.

— А малады?

— Ды побач са мною. Свішча ва ўсе закруткі. Сон бачыць. Нібыта найпершую красуню патаптаў.

— Гы-ы.

І зноў крокі вартавых. Зноў цішыня.

А між тым у цэнтры горада, далёка ад муроў і ад варты, даўно ўжо гучалі іншыя крокі. Ценевымі бакамі вуліц слізгалі, хаваючыся часам у нішы і завулкі, людзі з белымі крыжамі на рукавах. Цягнуліся ланцужкамі ў завулку, займалі іх, станавіліся ля мечаных дамоў, групаваліся ў найбольш небяспечных месцах.

З завулкаў, з патаемных хадоў выпаўзалі яшчэ і яшчэ людзі, аж пакуль не пачало здавацца, што ў цемры шапаціць і разліваецца нялічанае гняздо павукоў-крыжавікоў.

Група Пархвера, выбраўшыся з-пад зямлі, пайшла да лямуса, і там волат, увесь набрыняўшы крывёю, адваліў вялізнае камяніска, вызваліўшы другое жарало, з якога адразу ж паліўся чалавечы мурашнік. Варанёныя латы цьмяна блішчэлі, як хіцін.

І калі рассыпаліся «белыя крыжы» па вуліцах, было іх многа, як мурашак.

Загарэлася сінім святлом акно на адным з гульбішчаў, што вялі ад званіцы Дамініканаў. Тысячы вачэй глядзелі на самотны агонь.

— Пачалі.

Агонь мігцеў. І, падпарадкоўваючыся яму, цені пацягнуліся вуліцамі, пачалі заходзіць у мечаныя дамы. Хто іх меціў і за што — іх не датычылася. Можа, тут жылі сапраўды «вінаватыя», а можа, нехта проста зводзіў рахункі з суседам,— яны не думалі пра гэта. Добра было тое, што дзверы пазначаны крыжам Збавіцеля, а не паганскім, шасціканечным. Добра было помсціць і забіваць. Добра было тое, што вось аднаўляецца сапраўдны парадак.

Заходзілі, цягнулі з ложкаў або канчалі проста так. Часам далятаў з пакояў споўнены пакуты крык,

але часцей адказам на ўдар было маўчанне: работалі чыста.

Лотр стаяў у садку над маладой парай, што спала пад вішняй. Ногі маладых лёгка спляліся, на вуснах былі ўсмешкі. Далёка адкінуты ляжаў корд мужчыны, а рука ягоная ляжала на жаночым плячы.

Кардынал перахрысціўся і два разы апусціў меч.

Хлебнік, праходзячы паўз вадамёт, запнуўся аб спячага. Той ускрыкнуў, але гандляр паспеў утыркнуць меч яму ў горла і адразу прысесці за агарожу басейна, і непадалёку сонны голас спытаў:

— Чаго гэта ён?

— Патрызнілася нешта,— адказаў другі.— Спі.

Хлебнік трохі счакаў і на дыбачках пайшоў на галасы...

...Паўсюль, пакуль яшчэ бязгучна, чынілася справа забойства.

Страшная, нялюдская, кралася над горадам ноч. Аднолькавыя трагедыі адбываліся на Кавальскай, Мечнай, Страменнай, на ўсіх вуліцах, на ўсіх тупіках. Сотні людзей былі па-зверску забіты ў сне імем Збавіцеля.

У адным з дамоў не спала старая. Калі людзі ў латах уварваліся ў дом, яна зразумела ўсё і працягнула да іх рукі:

— Не забівайце нас. У нас няма зброі.

Сын яе, малады хлапец, кінуўся бараніць маці і, мёртвы, упаў на яе труп.

Па ўсім абшары горада халаднакроўна пазбаўлялі жыцця людзей, а між тым кожны з іх хацеў жыць.

Чыім імем? Божым? Якога бога? Свайго. Самага важлівага і вялікага.

Так разважалі ўсе. Мусульмане вы́разалі хрысціян Александрыі, хрысціяне вы́разалі іудаістаў Гранады, іудаісты, падчас апошняга паўстання, здзіралі скуру з язычнікаў Кіпра. І ўсе мелі рацыю, і кожны трымаў манаполію на бога, і лепшых не было сярод іх.

У тую ноч Гародня папоўніла ганебны спіс усіх гэтых сіцылійскіх вячэрняў, тырольскіх ютраняў і начэй на святога Баўтрамея. Папоўніла, але не закрыла. З гонарам запісала ў аналы свае Ноч Белых Крыжоў. Што ж гэта за гісторыя, калі ў ёй няма такіх вось

казусаў, спроб «самаачышчэння народа», прыкладаў «чысткі ад непажаданых»?

...Урэшце, сп'янелыя ад крыві, яны страцілі асцярожнасць, вылезлі на святло. І тут зараўла дуда на званіцы Дамініканаў.

Досыць было таіцца. Ярасны, шалёны лямант паляцеў над горадам. Варта, што не чакала нападу са спіны, страпянулася, але ў яе ляцеў ужо дождж стрэл. Атрад унутранага парадку, што спаў у зале рады, прачнуўся, але белыя крыжы былі ўжо ва ўсіх дзвярах. І кінуліся на бяззбройных, бо зброя іхняя стаяла ля сцен.

Раввуні ўскочыў адным з першых, працягнуў руку да таго месца, дзе ляжаў рукапіс, і... усё зразумеў. На стале ляжаў адзін, выпадкова забыты Мацеем, лісток, на ім былі словы: «Бо маленькія адказваюць за вялікіх, мышы — за каршакоў...» Іосія думаў нядоўга. Нясцерпная трывога за Анею сціснула ягонае сэрца. І ён, нягледзячы на тое, што зусім не мог біцца, кінуўся на вуліцу, у самае пекла.

А над горадам ужо загаварыў набат. Металічна, дзіка, страшна крычалі званы. Абарона людзей, якіх заспелі знянацку, з самага пачатку рассыпалася на сотні асобных ачагоў. І ўсё ж чалавечыя пылінкі збіраліся разам, стваралі з сябе групы, атрады, невялікія гурмы. Ім было за што біцца. Яны ведалі сваё месца, і, калі ім удавалася туды трапіць, яны змагаліся адчайдушна. Па ўсім горадзе нараджаўся і ўставаў, хай сабе і хістаючыся на нагах, а д п о р.

Кацілася вуліцамі лава «крыжоў». Палалі паходні. Сям-там ускідвалася полымя ад падпаленых дамоў і асвятляла месцы сутычак, дзе людзі біліся і гінулі, паасобку або ў гурме. Секліся паўсюль: на плошчах і ў тупіках, на вежах і на галерэях лямусаў. Біліся, ляцелі ўніз, на дзіды; зваліўшыся на зямлю, кусалі ворагаў за ногі. Раўлі званы. І паўсюль ішла праца мячэй. Моташны, немы крык ляцеў вуліцамі.

Ты, наверсе,— як ужо там тваё імя... Дакуль?!

Раздзел XLVII

# АПОСТАЛЫ І ІУДА

...падпаўшы пад пакаранне агнём вечным, пастаўлены ў прыклад. Так дакладна будзе і з гэтымі мрыйнікамі, якія... выракаюцца начальства і зласловяць высокія ўлады.

*Пасланне ап. Іуды, гл. 1, ст. 7, 8*

Усе кінулі мяне. І я выскачыў ад яго з акна, і зламаў нагу і, як мог, пабег вуліцамі, а гэты нахабны цырульнік бег за мною і крычаў: «Я цябе не пакіну».

*Арабская казка*

Апосталы ішлі да брамы самымі цёмнымі завулкамі, сметнікамі і дварамі. Часам пералазілі цераз платы, ныралі ў падваротні, перахоўваліся і ішлі далей. Яны здзіўляліся, што над горадам усе яшчэ раве дуда і крычаць званы, што нехта ўсё яшчэ змагаецца.

— Якога чорта! — бурчэў Мацей.— Хто там яшчэ?

Граў дудар. Здравіла ў світцы, ласкавы да нудоты «братачка» яшчэ ў самым пачатку, толькі заўважыўшы ўнізе россып людзей, якія біліся, стаў суровы, нібы зазірнуў у вочы смяротнай гадзіне:

— Слухай, Вус, пакуль не позна — бяжы. Ратуй ягоную жонку.

— А ты?

Дудар вінавата развёў рукамі:

— Ну што я? Яны ж у бойцы мне мяхі жыва праб'юць, папсуюць дуду. То я, мабыць, тут раўцы буду. Ваяка з мяне — сам ведаеш. Дык няхай той, хто самотна б'ецца, ведае — астатнія трымаюцца. Пакуль дуда раве — яны трымаюцца... Дык, можа б, ты не так пайшоў, братачка? Можа, развітаемся?

Залатыя рукі ляглі яму на плечы. Сябры пацаламаліся. Галава Вусава знікла ў люку. «Братачка» наваліў на люк камень, сеў на яго, раздзьмуў мяхі, узяў муштук у рот і, прыкрыўшы павекамі вочы, зайграў: «Тапчыце зямлю, легіёны божыя».

Ён ведаў, што не выйдзе адсюль, і быў спакойны.

Апосталы былі ўжо амаль ля самай брамы, калі з-за павароткі вывернуліся на іх людзі з паходнямі і белымі крыжамі на рукавах. Адзін схапіў загрудкі Піліпа з Віфсаіды:

— Га-а, здаецца, з тых?

Піліп маўчаў. Перад тварам Пятра вадзілі паходняй, здзекліва разглядалі:

— Гэты.

— Ды не мы ж,— сказаў Пятро.— Дальбог. Мы ад мніха-каплана ідзём. Вось... вось і манета...

Манета знікла ў кулаку начальніка патруля.

— Што нам да таго...— пераконваў Пятро.

— Гэта... не мы.

— Вы, як хочаце іх злапаць, ідзіце на рог Ростані і Малой Скідзельскай,— сказаў Мацей.— Там «жонка» ягоная, там і ўсе.

Галоўны над крыжамі павольна ўсміхнуўся:

— Д-добра, навалач, ідзіце. Ды не ў браму — там бой. Унь фортка.

І яны пабеглі на Ростань. Апосталы яшчэ з хвіліну стаялі моўчкі. Пасля паспешліва патупалі да форткі, пераступаючы цераз напаўголыя трупы.

Закрычалі трэція пеўні.

...У той час як патруль, што перастрэў апосталаў, бег да Ростані, яшчэ два чалавекі імкнуліся туды ж.

Вус, выбраўшыся з касцёла, зразумеў, што вуліцамі яму на Ростань не прабіцца. Таму ён, праклаўшы сабе дарогу праз натоўп ворагаў, ускараскаўся нейкай лесвіцай на дахі і пабег імі. Дахі былі збольшага стромыя, і таму бегчы даводзілася жалабамі, амаль над безданню. Некалькі разоў з-пад ног абрываліся чарапіцы, і Ціхон спознена халадзеў. Пасля ён прызвычаіўся і да гэтага; мала таго, калі бачыў, што ўнізе б'юцца, сам спыняўся на хвіліну, аддзіраў некалькі чарапіц, кідаў на галовы забойцам і радаваўся, калі чарапіца была свінцовая. Найбольш вузкія вуліцы ён пераскакваў і таму дабраўся да Ростані даволі хутка. Спусціўся ўніз і ўбачыў, што дзверы хаты сарваныя з завесаў, слюда вокан падраная, а на парозе ляжыць белая жаночая хустка.

Так ён і стаяў у непаразуменні і адчаі. Такога і ўбачыў яго патруль, якому паказалі дом апосталы. І толькі калі «крыжы» агалілі мячы — залатых спраў майстра апрытомнеў. Цяпер трэба было ратаваць сябе. І ён, перакуліўшы некалькі чалавек, прарваўся праз іхні заслон, згубіўся ў лабірынце завулкаў.

...Другі чалавек бег да дома Анеі аж з Каложскай слабады. Худы, цёмны тварам, чорны да сіні вала-

самі. Ён бег, пераступаючы трупы, абмінаючы параненых, якія стагналі, і ў яго змрочных вачах усё мацней разгараліся жах і непаразуменне.

Вуліцамі валодала разня. Яна панавала над імі ўсеўладна і нястрымна. У зарыве паходняў барвяна мільгалі мячы. Над імі лунаў немы крык, гучалі праклёны, лаянка, бразгат, хрыпатая пераклічка па-беларуску, польску і нямецку (сярод прыведзеных Лотрам было шмат наймітаў, бо ён ведаў: гэтыя не будуць шкадаваць чужых).

Нападаючыя нібы ашалелі. Звар'яваныя вочы былі налітыя крывёй. Цягнулі, рэзалі. Слабы строй мяшчан і рамеснікаў біўся роспачна і таму страшна. На Старым рынку вiравала каша з чалавечых цел, сталі і крыку. На зліцці рынку і Старой вуліцы арудаваў мячом волат Пархвер. Залатыя валасы ў чужой крыві, сінія вочы страшныя. Кроў цякла ў яго з пляча, пена — з вуснаў, але ён не заўважаў гэтага. Ім валодала па́на.

Іуда не ведаў, што Хрыстос у далёкай слабадзе таксама пачуў гукі набата, што зараз ён утрапёна бяжыць садам, ламаючы лаўжы... Ён бачыў толькі, што забіваюць людзей, і адчай, падобны ў чымсьці на самаахвярнае захапленне, запаланіў усю ягоную істоту.

Апошнім штуршком было тое, што ён зірнуў у цясніну Старой вуліцы і ўбачыў, як па ёй ідуць проста на яго, да рынку, да замка, некалькі постацяў: чацвёра латнікаў вялі Анею.

У яго была толькі адна зброя. І ён ужыў яе. Чорным, у свеце паходняў, ценем ён кінуўся ў гурму, проста між шэрагамі, якія змагаліся і забівалі, уздзеў рукі:

— Людзі! Людзі! Стойце! Вы браты! Нашто вы крыўдзіце адзін аднаго?! Не забі! Чуеце?! Не за-бі!

Ландскнехт ударыў кагосьці мячом, і той стаў асядаць па сцены. Кроў біла ў яго з соннай артэрыі. І забойца, як звар'яцелы, падставіў пад струмень далоні, стаў хлябтаць з іх, як з каўша.

— Не за-бі-і!..

Іуду схапілі за рукі.

...У гэты самы момант, далёка за горадам, у сасновым лясочку, апосталы перамотвалі рамяні на поршнях. Быў якраз самы цёмны час перад світаннем,

але нават тут, на ўзлессі, было даволі добра відаць: над Гародняй стаяла вялізнае, мігатлівае зарыва.

Тадэй займаўся тым, што надрэзваў на сабе нажом адзенні.

— Ты... гэна... чаго?

Фокуснік устаў, пакруціўся перад Піліпам, як перад краўцом.

Дзіркі ў вопратцы былі проста артыстычныя. Ніхто ніколі не бачыў такога прыгожага рыззя.

— З імі ды з маім талентам нам цяпер срэбра, а не медзь даваць будуць. Зажывём, Піліпе. Я — фокусы, ты — дошкі на галаве ламаць будзеш...

Рыбакі моўчкі круцілі на запясцях кісцяні. Даўно памірыліся і вырашылі ісці разам. Іліяш маўчаў, пазваньваючы кантарам. Толькі сказаў нечакана:

— А дрэнна, што кінулі.

— Ну і ляжаў бы зараз забіты,— сказаў Пятро.— Не ўжо, трэба аб раскошы забыць. Досыць. Пагулялі, папілі.

— А хрэн з ім,— зарыпеў Баўтрамей.— Скончана роля. Добра, што падрабілі.

— Я мянялай буду,— сказаў Мацей.

І тут усіх здзівіў жанчынападобны Ян. Сказаў Мацею:

— Евангелля палову мне давай.

— Н-нашто?

— Ты сабе нейкага Луку знойдзеш,— аблічча было юродскае.— Я — Марку нейкага. Пойдзем — будзе чатыры евангеллі. Падправім. Што мне вашы мужыцкія заняткі? Я — прарок. Ісціны хачу, благадаці, славы божай.

— А дулю,— сказаў Мацей.

І ўбачыў, што ўвесь хаўрус з кісцянямі, Пятро, Андрэй і Якуб, сталі супраць яго сценкай.

— Н-ну.

— Дык... Ну вось, і пажартаваць нельга,— скваплліва? 

на рухаючы вуснамі, Мацей падзяліў рукапіс Іуды напалам і змахлярыў, падкінуў сабе яшчэ аркушаў дваццаць, раздзёр ніткі.— Бярыце.

— Пайшлі,— сказаў Піліп.— Скора і разыдземся.

Усе рушылі дарогаю прэч ад зарыва. Ішлі моўчкі. Толькі Якуб Алфееў, як заўсёды недарэчы, пачаў спрабаваць голас. Бурсацкая світка біла яго па пятах, асавелыя вочкі глядзелі ў чырвонае, дрыготкае неба.

— М-ма, м-ма-ма, м-мма-ма... кх... кх... Тфу... Гор-ра... Го-о-ра... Гора табе, Серазін... Го-ра... Гора табе, Віфсаіда.

І так яны зніклі за ўзгоркам. Некаторы час яшчэ даносіўся мядзведжы, яловы голас. Пасля засталіся толькі цішыня і зарыва.

## Раздзел XLVIII

# СІВАВУСЫ

Каля мяне кулі, як пчолкі, гулі,
Ля мяне дружочкі, як мост, ляжалі.

*Беларуская песня*

...схапіў святое распяцце і так стукнуў ім па чэрапе святога айца, што той адразу адправіўся ў пекла.

*Сярэдневяковая навела*

Серазіну і Віфсаідзе, гэта значыць Гародні, сапраўды было гора. Забойства і сеча не спыняліся, а, наадварот, нібыта набіраліся сілы і злосці. Забівалі ўсіх, ледзь не да колавай загвздкі. І калі значная частка жанок і дзяцей уратавалася з дамоў, адзначаных крыжамі, у гэтым была вялікая заслуга сівавусага.

Гародзенцы ведалі, куды, у выпадку чаго, уцякаць тым, хто не можа трымаць у руках зброі. Пад горадам лабірынтам цягнуліся старыя, даўно спустошаныя і закінутыя каменяломні. Самы блізкі ўваход у іх быў з вуліцы Стрыхалёў, і менавіта туды кінуўся напаўапрануты, спалоханы натоўп жанчын, старых і дзяцей. Толькі б спусціцца пад зямлю, а там — лаві за хвост вецер, за месяц не знойдзеш.

Лотр, аднак, таксама памятаў аб вуліцы Стрыхалёў і даслаў туды чалавек сорак прыспешнікаў. Безабаронны натоўп сустрэлі мячамі. І, пэўна, бойня не мінула б і слабых, каб не нарваўся выпадкова на брыдоту сівавусы з невялічкім атрадам мяшчан. Яны змялі мечаных, выкінулі іх з вуліцы і сталі заслонам па абодва яе канцы, прапускаючы толькі ўцекачоў. На ўсю даўжыню вуліцы варушыўся, крычаў, плакаў натоўп. Вялікіх сіл каштавала не

дапусціць цісканіны: драўляныя дзверы ў каменяломні вялі не з вуліцы, яны былі ў канцы вузкага — рукі расстаў і загародзіш — і доўгага, сажняў на дваццаць, апендыкса, сціснутага між глухіх муроў. Вельмі павольна ўцягваўся натоўп з вуліцы ў гэты апендыкс. А тыя, каго яны прагналі, прывялі між тым дапамогу, процьму людзей з белымі крыжамі на рукавах. Добра, што вуліца Стрыхалёў была вузкая і «крыжы» не маглі скарыстацца са сваёй перавагі.

На абодвух канцах вуліцы Стрыхалёў віравала сеча. Людзі спінамі прыкрывалі ўцекачоў і павольна, па меры таго як натоўп уцягваўся ў тупік, адступалі. Адступалі і падалі. З таго канца, дзе біўся сівавусы, кіраваў «крыжамі» і сам секся ў першых радах закуты ў сталь Рыгор Гародзенскі, а ў міру Гіляр Балвановіч. Куды падзелася ягоная друзласць. Нездарма яго параўноўвалі з нападаючым кракадзілам: толькі што было бервяно, і вось — страла. Ён арудаваў мячом са спрытам і ўмельствам.

Сівавусы думаў, што ўсе ўжо забітыя, што яны засталіся адны. Ён не схільны быў дарэмна геройстваваць і вырашыў, што і яны адступяць у катакомбы следам за жанчынамі.

І якраз у гэты момант зараўла дуда. Раўла няспынна, трывожна, грозна. Значыцца, людзі былі жывыя.

— Бач,— здзекаваўся Грынь.— У слове ісціны... Са зброяй праўды ў правай і левай руцэ... Карынфянін.

— Хрэн Вельзевулаў,— выплёўваў лаянку сівавусы.

Побач з ім біліся мяшчане — майстры з Разьбярнага Кута, пераважна каталікі. І хаця яны спявалі псалмы іншай веры — сівавусы разумеў іх як братоў:

Не ўбаюся полчышчаў, што абступілі мяне!
Пачуй мя, пане божа, уратуй мя, божа мой!

Былі ў іх беларускія твары. Яны біліся разам з ім і гінулі як належыць. Хай сабе словы псалмаў былі лацінскія.

Узляталі над іхнімі галовамі двухручныя дзюжэзныя мячы, і пяціліся яны не ад недахопу мужнасці, а таму, што было іх мала.

З глыбіні пекла ўзлямантаваў я да цябе,
і голас мой быў пачуты.

— Каталіцкія свінні,— лаяўся Балвановіч.— Дзе вашы... мулы ватыканскіх блудніц?!

— Закрый пашчу, прыблуда,— раўнуў сусед сівавусага.

Яны сышліся каля тупіка. Сышліся ўдвух. Іншыя перасталі быць. І вось так, плячо да пляча, прыкрываючы апошніх уцекачоў, пачалі адступаць, думаючы аб людзях і яшчэ аб дабрадзейнай цемры, куды за імі не пасмеляцца торкнуцца. Па вусах і грудзях сівавусага сплывала кроў, сусед быў не лепшы. На сярэдзіне завулка ён упаў, прыўзняўся на руках і натужна прахрыпеў апошнія словы псалма:

І хвалі абступілі мяне.

Упаў галавою на брук.

Сівавусы ведаў: бегчы нельга, хаця нікога ўжо не было за яго спіною і дзверы зеўралі чорнай пашчай. Добра, што тут можна біцца — многа што адзін супраць дваіх... Вось зараз адступіць, спусціцца спіною да мяжы між святлом і цемрай, і тады кінуцца ў змрок, і тады...

...Нейкі грукат аддаўся за ягонай спіною. З аркі над тупіком упалі краты, якімі ў небяспецы перагароджвалі вуліцы: прабраўшыся па дахах, пастараўся нехта з ворагаў. Сівавусы адчуў спіною іхні холад і зразумеў, што гэта канец.

Балвановіч узнёс меч — сівавусы адбіў яго. Ён не збіраўся танна прадаваць апошнія хвіліны жыцця. І так яны біліся ў звоне і бразгаце, хаця сівавусы слабеў і слабеў.

— Ты памрэш, пёс. Ты здохнеш.

Сівавусы пачынаў хрыпець. Чырвонае марыва стаяла перад вачыма. Ён хацеў нешта сказаць, вылаяцца, але чамусьці ўспомніў напышліва:

— Смелыя не паміраюць.

Балвановіч ударыў яго мячом пад сэрца, адступіў, апусціўшы меч.

— Так. Героі не паміраюць. Іх проста аддаюць забыццю, герояў.

Смех ягоны захлынуўся, таму што сівавусы, сабраўшы апошнія сілы, ударыў яго вастрыём мяча ў глотку, не прыкрытую кальчугай.

— Мы яшчэ даспрачаемся аб гэтым... Там.

Пахістаўся трохі і з маху ўпаў ніцма на слізкую ад крыві зямлю. Усталі перад вачыма палі, разор за нарогам, буслы ў паветры, твар Хрыста, царква ў агні. А пасля ўжо нічога не было.

## Раздзел XLIX

# ФАМА, ЗВАНЫ БЛІЗНЮК

Богам клянуся, модлы сёння непатрэбныя... Хто любіць віно — хай правіцца за мной. Клянуся святым Антоніем, мы не пакаштуем болей вінца, калі не адстаім наш вінаграднік.

*Рабле*

Атрад, які вартаваў Лідскую браму, адрэзалі з самага пачатку, і таму яны толькі чулі роў дуды над горадам, але нічога не ведалі пра астатніх. Фама, што праўда, як толькі пачалася разня, кінуў маладому:

— Бяжы да Хрыста, вядзі сюды. Нас тут болей. Ратуй ты яго.

І малады прабіўся праз строй. Яго схапілі за плашч, але ён, напаўголы, усё ж вырваўся, пабег.

Але пабег ён ужо даўно. Паўтары гадзіны абаронцы брамы не ведалі пра іншых. Не ведалі, што за гэты час схапілі Іуду і Анею, што малады выпадкова сутыкнуўся з Хрыстом і яны збіраюць вакол сябе разрозненыя групкі мяцежнікаў. Не ведалі, што забіты сівавусы, што жанчыны з дзецьмі ўратаваліся ў камяніломнях, што Марка Турай і Кляонік з Фаўстынай, адрэзаныя ад усіх, ледзьве адбіліся і зараз конна ўцякаюць ад пагоні. Не ведалі, што схоплены «крыжамі» стары мечнік Гіаў Турай.

А між тым з пачатку бойні мінула зусім няшмат часу. Ледзь пачало чырванець на ўсходзе, і пажары ў цемры яшчэ асвятлялі ваўсю.

На забрале, па абодва бакі ад круглай вежы — званіцы, цьмяна кішэла гурма: людзі Кірыка Вестуна і Зянона. Яны пускалі стрэлы ў нападаючых і секліся з тымі, што імкнуліся забралам дабрацца да вежы, апусціць брамныя краты і гэтым самым адрэзаць дарогу ўцекачам з горада.

Гэтай дарогі нельга было аддаць. Толькі адсюль яшчэ і маглі выбрацца з пасткі, згубіцца ў палях і пушчах параненыя. Менавіта сюды, па думцы Фамы, павінен быў адвесці баяздатныя рэшткі мяцежнага войска адрэзаны Хрыстос.

Ні Тумаш, ні Вястун не ведалі, што Хрыстос не здолее прабіцца сюды праз магутную сцяну варожых ваякаў, што ў яго мала сілы.

І менавіта таму, што Тумаш з сябрамі не ведалі гэтага, яны секліся ўтрапёна. Унізе, ля ўвахода ў браму.

Фамоў твар яшчэ больш пачырванеў, вочы вырачыліся да таго, што здавалася, вось лопнуць. Вусы луналі, шчокі натужна раздзьмуваліся, цяжка варушыўся, вывяргаючы праклёны, вялікі рот, рот аматара выпіць і задзіры. Ён сек, даваў выспяткі магутнымі ступакамі, падстаўляў ножкі, хакаў, біў з ляза і наводмаш, эфесам. Грозна ўзлятаў у паветра двухручны, у паўтара сажня, меч. Нападаючыя каціліся ад яго гарохам.

— Вялікдзень! Вялікдзень! — ляцела адусюль.

— А я вось вам, трасца вашай бабулі, дам за тыдзень вялікдзень, за дзесяць дзён пэйсах,— успомніўшы пра Іуду, рыкаў Фама.

І даў такога выспятка найміту ў форме польскіх уланскіх войскаў (той нападаў пешы, страціўшы, відаць, каня), што той, падаючы, змёў крыламі яшчэ чалавек дзесяць.

Ён губляў надзею, што Хрыстос прарвецца. Цяпер трэба было толькі як мага долей не даць зачыніць браму. А раптам...

Падалі вакол сябры.

— Адступайце, хлопцы! У поле, зямля ім у глотку!.. Ах, ты так?! Двар-раніна, рымскае тваё адроддзе, смарчок атрутны?! З'еш, каб цябе зямля ела! Атрымай, каб цябе так д'яблы за нешта трымалі! Падавіся, каб табою ў голад так твае дзеці давіліся!

Ён біўся як дэман, але, адрэзаны ад астатніх, вымушаны быў адступаць у дзверы надбрамнай капліцы.

— Сюды, Тумаш, сюды! — лямантавалі яму з муроў Вястун і Зянон.

Яны таксама засталіся амаль адны, але трымаліся яшчэ. Фама, адбіваючыся, адступаў вузкай званічнай

клеткай. Тут было зручна, і, хаця сходы вывяргалі да яго ўсё новых і новых ворагаў, ён паспеў наваліць іх цэлую кучу.

Чалавек вытрымліваў. Не вытрымала жалеза. Фама ўдарыў і здзіўлена падняў на ўзровень вачэй доўгі эфес з уламкам клінка дзюймаў у дзевяць даўжынёю. Якраз даўжыня яго вялізнай далоні.

— Пазычце вашу сківаўцу, аслы,— сказаў ён.

Жарало сходаў, як жарало гразевага вулкана, зноў выціснула, выкінула ў званічную клетку ўзброеных людзей, мечаных знакам крыжа. Яны падступалі. Фама бачыў сярод іх нават манаха-дамініканца з доўгім медным таўкачом.

Агледзеўся ў адчаі, убачыў цьмяны ад яры, бронзавы бок звона з рэльефнымі фігуркамі святых, высока наверсе паваротную балку і вяроўку, што вяла ад яе ўніз, праз падлогу ў ніжні ярус, у памяшканне званароў.

Трэба было ратавацца. Яшчэ не ведаючы, што ён будзе рабіць далей, Фама падскочыў і ўсім цяжарам свайго грузнага цела павіснуў на вяроўцы, палез па ёй угору.

Цяжкая, на многія і многія бэркаўцы, махіна звона варухнулася спадніцай ледзь не над самай падлогай яруса. Ён лез, і яна хісталася трохі мацней. Унізе рагаталі.

— Малпа. Глядзі, малпа. Ану, зрабіце ёй чырвоны азадак.

І тут у Фамы перахапіла дых ад раптоўнай радаснай думкі. Дабраўшыся да балкі, ён падцягнуўся на руках.

— А я вось вам морды чырвоныя зраблю, кныры! — крыкнуў басам.

І, скурчыўшыся між мурам і звонам, са страшэннай напругай выпрастаўся, штурхануў нагамі агромністы звон:

— Вялікая Зафея, памажы!

І без таго разгайданы, звон цяжка і страшна ўздыхнуў. Пагрозны, да раптоўнай глухаты ўдар перапоўніў і прымусіў трэсціся званіцу, паплыў над горадам.

Звон ударыў,— у лямант і храбусценні паваліліся, пасыпаліся сходамі тыя, хто нападаў,— узвіўся дыбарам, паказаўшы гораду бронзавае рыкаючае горла. І яшчэ. І яшчэ.

Цяпер можна было скочыць уніз, зноў падабраць чыюсьці зброю, зноў стаць на старым рубяжы, зноў не даваць хады гэтай свалаце. Тумаш так і зрабіў, паддапіў нечы меч і радасна — унь колькі дабра наварацiла Зафея! — зарагатаў.

У гэтым запале, чымсьці падобным на шчасце, ён забыў пра ўсё, забыў, з якім зверам ён знаходзіцца ў адной клетцы. Адступіў трохі. Звон, на самай крайняй мяжы свайго палёту, закрануў ягоную галаву. Круглую, заўсёды пыхата закінутую галаву ў футравай шапцы.

Фама ўпаў, апошняй іскрай прытомнасці пачуўшы немы крык Вестуна:

— Тумаш! Ту-маш!

Кірык Вястун якраз у гэтую хвіліну застаўся адзін. Зянон спускаў уніз, на аблажнікаў, вялікі камень, і тут страла трапіла яму пад сэрца. Спакойны позірк глыбокіх шэрых вачэй спыніўся на Кірыку, пацьмянеў.

Каваль, адчуваючы, што ён задыхаецца, нібы гэта яму ўдарылі пад дых, узяў з-за пояса ў сябра сякеркукляевец — Зянон так і памёр вольны — і пачаў прабівацца, арудуючы зброяй забітага і ўласным мячом.

Скочыў з мура ў роў, схаваўся на хвіліну пад смярдзючай вадою, вынырнуў ужо наводдаль, выбраўся на сухое, увесь аблеплены зялёнай тванню, пабег, спаймаў за грыву каня, што хадзіў па полі паміж забітымі, ускінуўся на яго і ахлюпкай паскакаў, знік у лесе.

Раздзел L

## «ЗАБІВАЙЦЕ! У ІМЯ БОГА ЗАБІВАЙЦЕ!»

Хай прыйдзе на вас уся кроў праведная, пралітая на зямлі... Се, пакідаецца дом ваш пусты.

*Мацей, гл. 23, ст. 35, 38*

Цяпер бойка ішла, калі не лічыць дробных ачагоў, бадай толькі ў самым цэнтры горада. Хрысту і маладому ўдалося згуртаваць тут вакол сябе сотні тры

з нечым узброеных людзей, і яны ўдарылі ў тыл белым «крыжам», пацяснілі, пагналі іх. Паніка, народжаная іх нечаканым з'яўленнем, была такая страшная, што фанатыкі спачатку давалі сябе знішчыць амаль без супраціўлення. Яны гналі, валілі і забівалі іх беспярашкодна і не шкадуючы, бо добра помнілі ўсё, бо яны на кожным кроку бачылі трупы бязвінна зарэзаных.

Хрыстос меў намер прабіцца да Лідскай брамы, вывесці людзей з горада, ўратаваць іх. І спачатку гэты намер абяцаў увянчацца поспехам. Яны гналі ворага амаль да канца Малой Скідзельскай, але тут дарогу іхнюю загарадзілі новыя сілы: да ворага падышло падмацаванне. Якраз у гэты момант некалькі разоў ударыла Вялікая Зафея, а пасля ў раптоўнай цішыні пачулася ракатанне ланцугоў і бразгат брамы. Прабівацца ў той бок больш не было чаго. Яны былі ў пастцы.

Атрад адступаў. Павольна, але няўхільна. Выхад быў адзін. Нёман. А можа, камусьці і пашанцуе спусціцца з берагавой, амаль адвеснай, стромы і ўратавацца ўплынь.

«Крыжы» цяснілі іх спачатку па Скідзельскай, пасля Ростанню, Старой вуліцай, Старым рынкам. Вёў іх Пархвер, а за спінамі тых, што наступалі, на адваяванай зямлі мортусы дабівалі параненых.

— Забівайце! — ляцеў адтуль голас мніха-каплана, у якім ужо не было нічога чалавечага.— У імя бога забівайце!

— Лотр, навалач! — голы торс маладога быў заліты крывёй.— Басяцкі, навалач! Выходзьце! Мы вам божым судом давядзём, хто слугі пана бога.

І ўсё ж супраціўленне мяцежных людзей было такое страшнае, што «крыжы» знемаглі і няздатныя былі ісці наперад. Людзі Хрыста на некаторы час атрымалі перадышку. Скарыстаўшыся з гэтага, ён адвёў іх да ўрвішча, на захад ад замка, загадаў звязаць плашчы і спускацца са стромы ўніз. Сам ён з маладым узначаліў невялікі, даволі слабы людскі ланцуг, што павінен быў прыкрываць тых, якія спускаліся. Ён ведаў: усе спусціцца не паспеюць.

І сапраўды — хто абрываўся (не трымалі знясіленыя доўгай сечай рукі), хто падаў на кромцы вады без змогі ўстаць, хто тануў у імклівай плыні Нёмана,

закручанай тут сотнямі віроў. А ўсё ж сёй-той ратаваўся, выратоўваўся.

Хрыстос ведаў: Лотр збірае сваіх наймітаў у адзін кулак, каб раздушыць ім апошнія сілы тых, што паўсталі. Сілы. Смешна было нават назваць сіламі тое, што ў яго было. Шырокая барва разлівалася на ўсходзе. Людзі чакалі.

Лотр стаяў у атачэнні сваіх каля ратушы. Усё яшчэ раўла дуда на званіцы, і ёй туравалі адусюль стогны і крыкі: там дабівалі людзей. Паступова сцягваліся да ратушы банды забойцаў, усе нібы сп'янелыя, паплямаваныя сваёй і чужой крывёй.

— Ну дык што? — спытаў Пархвер.— І што рабіць з тымі?

— Зараз пойдзеце,— усмешка Лотрава была, як раней, спакойная і высакародная.— А з тымі? Ну што ж. Я г о абавязкова вазьміце жывога. Іншых — як хочаце.

Да яго падвялі Анею і Раввуні.

— Скажыце яму, каб ён здаваўся,— сказаў Лотр.— Іначай у яго хопіць дурасці разбіць галаву, скокнуўшы з яра.

Анея маўчала. За яе адказаў Іуда:

— А задавіцеся вы! Я быў меднік. Я вывучаў талмуд і таму быў бядняк, бо вывучаў яго не так, як усе. Я нават спрабаваў гандляваць, і гэта былі слёзы, цорэс. Але я не гандляваў людзьмі. І ім — не буду.

— Нічога, мы знойдзем спосаб,— сказаў Лотр.— А іншых забіце, Пархвер. Папа Мікалай Першы пісаў балгарскаму цару Багорысу: «Хай правадыр не збаіцца вяршыць забойствы, калі яны могуць трымаць ягоных падданых у паслушэнстве або падпарадкоўваць іх веры...» Вы нешта сказалі, бурмістр?

— Сказаў,— у Юстына з-пад скобкі валасоў вугаллямі гарэлі вочы.— Я сказаў: пастыр лютага статка, люцейшы яшчэ за пасомых.

— Што ж, неблагая ўхвала,— усміхнуўся кардынал.— Ідзіце, Пархвер. Каплан меў рацыю. «Забівайце. У імя бога забівайце!»

Раздзел LI

## «ВОСЬ АДДАЕЦЦА СЫН ЧАЛАВЕЧЫ...»

Кінуў дзіду сваю нагой і прабіў яму грудзі.

*Сага пра Кухуліна*

І ўсе, гледзячы на яго, бачылі твар ягоны, як твар анёла.

*Дзеянні, гл. 6, ст. 15*

Юрась з апошняю кучкай сваіх людзей стаяў у канцы перадмостнага саду, там, дзе ён падступаў да стромы над Нёманам. Усё мацней палымнеў усход, і кожны не мог не думаць, ці паспее ён яшчэ раз убачыць сонца.

Нешта загарэлася кропкай у тым баку, дзе яно павінна было ўзысці. Але гэта быў агонь паходні. Пасля запалала яшчэ і яшчэ адна, і Хрыстос зразумеў, што перадышцы канец, што ўвогуле ўсяму канец. Зразумелі і тыя, што не паспелі спусціцца. Чалавек сорак падышлі адтуль і сталі з сябрамі, каб не быць расстралянымі ў паветры ці ў спіну падчас уцёкаў, каб памерці з годнасцю.

Ланцуг паходняў паўколам набліжаўся да іх. «Крыжы» не хацелі, каб хаця нейкая дробная рыба прыхавалася і праслізнула праз іхні брэдзень.

— Скончана,— сказаў Юрась.— Нейкі там евангеліст сказаў бы, што вось прыйшоў час, вось аддаецца сын чалавечы ў рукі сволачы. Бывай, брат. Бывайце, браты. Даруйце.

— Ты нам даруй,— адказаў нехта.— Бывай... брат.

Малады пацалаваў Хрыста і раптам адчуў нейкі дзіўны, вільготна-салоны смак на вуснах.

— Ты што?

— Ціха,— адказаў Юрась.— Зрабіць я ані храна не паспеў. Позна. Шкада. Людзей шкада. Зямлі гэтай. Яна цяперака, бедная, усплача.

— Нічога,— сказаў малады.— Нічога.

Паходні былі ўсё бліжэй і бліжэй. Былі ўжо відаць залітыя вадкай барваю морды.

— Ды што казаць? — Братчык узняў меч.— Бі іх, хлопцы, у маю душу.

Кучка асуджаных кінулася на варожы строй. Жорсткая, апошняя завірала сеча... Недзе далёка,

далё-ока ўсё яшчэ лямантавала, лямантавала дуда. І ворагі ўласнымі целамі, усёй сваёй масай адціскалі і адціскалі апошніх паўстанцаў да крутаяра.

Хрыстос адчуваў, што ён як зачараваны. Кідаецца, б'е, сячэ, падаюць вакол сябры (Лотравы людзі пачалі расстрэльваць іх з лукаў), падаюць ворагі, а яму хаця б нехта драпіну нанёс.

І гэта было горш за ўсё. Значыцца, хочуць узяць жыўцом. Глупства! Хто перашкодзіць яму кінуцца з урвішча ўніз галавою?

— Як на разбойніка! — роў ён.— Выйшлі вы з мячамі і каллём... узяць мяне... Дык наце... Наце... Наце...

Ён пачуў уздых і азірнуўся. Малады з непамерным здзіўленнем глядзеў на апераны канец стралы, што тырчэў у яго з грудзей.

...Калі сонца паказала ўсім свой маленькі чырвоны акрайчык, над абрывам стаяў ужо толькі адзін Юрась. Абадраны, чорны ад куродыму, з цяжкімі ад пылу валасамі, запырсканы крывёй, ён круціў над галавою меч, выскаляў зубы і быў такі страшны, што да яго ніхто не рызыкаваў падыходзіць.

— Здавайся! — крыкнуў Басяцкі.— Іначай арканы кідаць будзем.

Хрыстос брыдка вылаяўся.

— А ражна не хочаш, тхор? Тут камяніскі ўнізе. Пакуль далячу да ракі — разарве. Жывым не возьмеце. Не дамся. Я вам не святая Цэцылія, каб мяне бруднымі лапамі лапаць.

— Зірні,— сказаў лыцар Езуса.

Варожы ланцуг расступіўся. Варта трымала за рукі Анею і скручанага Раввуні з заторкнутым ротам. Нахабна ўсміхаючыся, падышоў да жанчыны волат Пархвер, чорны і смярдзючы ад поту, як і ўсе. Весела блішчэў сінімі вачыма. Узяў Анею за валасы: спалохана здрыгануліся веі, закаціліся чорныя ў сінь вочы.

— Зараз я яе... пры табе,— рагатнуў Пархвер.— Братамі будзем.

Пазней ніхто не мог сцяміць, як гэта здарылася, і менш за ўсіх сам Юрась. Вочы нібыта самі заўважылі нажную дзіду побач з трупам паўстанца, цела зрабіла бліскавічны рывок да яе, рука схапіла і накіравала куды трэба.

У наступнае імгненне даўжэзная дзіда, кінутая з

пад'ёму ступака, узвілася ў паветры і ўдарыла...

...За гэтую долю хвіліны Пархвер не паспеў не тое што адступіць, але нават зразумець. Вастрыё вылезла ў яго са спіны. Ён стаяў, нібы абапіраючыся грудзьмі на дрэўца, і яшчэ не разумеў, што забіты. Пасля яго пачало ванітаваць крывёй. Доўга-доўга. А яшчэ трохі пазней істота ў сажань і шэсць дзюймаў росту, непераможны Пархвер, паваліўся на зямлю. Усе стаялі нібы аглушаныя.

Хрыстос падумаў, уздыхнуў і сказаў:

— Добра, Басяцкі, паладзім.

— Не смей! — нема залямантавала жанчына.

Іуда звіваўся ў руках варты, нібы ўюн, але вызваліцца не мог.

— Маўчы, Анея,— голас Юрасёў быў безжыццёвы.— Не пніся, брат Іосія. А то здарыцца з табою нешта — толькі людзей насмяшыш. Ну іх да д'ябла! Нявартыя яны і нашага смуроду.

Глядзеў проста ў вочы псу божаму:

— Маё слова, кот ты мой аксамітны, не тваё слова. Дык вось: ты гэтых дваіх у човен пасадзіш. Цэлы, не дзіравы, як большасць тваіх людзей сёння, пасля бяседы са мною. Вёслы дасі. Самалічна адштурхнеш іх ад берага. І як толькі яны будуць на сярэдзіне ракі — я кіну меч. Іначай...

— Слова? — усміхнуўся мніх.— Я даю слова,— і ён мармытнуў: — juzo[1].

— Слова.

Анея крычала і вырывалася ўвесь час, пакуль яе неслі ў човен. Давялося скруціць ёй рукі і ногі.

— Беражы сябе! — крычаў з урвішча Юрась.— Беражы! Можа, дзіця будзе.

— Не! Не! Не-е-е!

Іуда ішоў за ёю, як забіты. Сеў у човен, бяссіла апусціўшы рукі.

— Раввуні! Раввуні! Калі дасі ёй выскачыць — прадасі мяне! Прадасі!

— Добра! Добра! — душачыся рыданнямі, казаў Раввуні.

Човен адштурхнулі. Шалёная плынь закруціла, панесла яго на сярэдзіну. Юрась бачыў, як адбіваюцца ў Нёмане берагі, і сляпуча белыя аблокі, і шапкі дрэў, шызыя лясы на даляглядзе — уся гэтая зямля,

[1] Клянуся.

па якой столькі хадзілі ягоныя ногі і па якой ім болей не хадзіць.

І тады, каб ужо не шкадаваць болей, ён кінуў меч:

— Ваш час і ўлада цемры.

Яго схапілі.

Раздзел LII

## РАВВУНІ

> І паразіў Філісцімляніна ў лоб, так што камень упіўся ў лоб ягоны.
>
> *Першая кніга Царстваў, гл. 17, ст. 49*

Усё яшчэ раўла і раўла над горадам дуда. Над параненымі, над трупамі, над мортусамі, над марадзёрамі, над усім гэтым крывавым, гнойным сметнікам, у які імем бога ператварылі вялікі і прыгожы беларускі горад, дыямент Нёмана, Гародню.

Гэты гук трывожыў, нагадваў, пагражаў. І тады на вострыя дахі бліжніх дамоў даслалі лучнікаў.

Дудар трубіў, яму больш нічога не заставалася. Трохі нават саладжавы твар «братачкі» цяпер быў нібы з каменя. Крочце, тапчыце зямлю, мёртвыя божыя легіёны. Устаньце, знясслаўленыя, дайце адпор тым, хто наругаўся з вас, адрачыцеся таго, хто вас прадаў.

Рыдала дуда. Лучнік нацягнуў лук. Гучна ляснула па бычынай пальчатцы цеціва. Страла прабіла мяхі і ўпілася дудару ў ямку на мяжы грудзей і шыі, туды, дзе «жыве душа».

...Цішыня лягла над трупамі, і яе пачулі ўсе. Пачулі яе і Раввуні ў чоўне, і Братчык на беразе. Толькі Іуда ўбачыў страшнае раней, таму што да Хрыста якраз падыходзіў Лотр. У руцэ ў пастыра была кошка — сяміхвосты карбач з кручком на кожным канцы.

— Ілжэнастаўнік! Ерэсіярх! — толькі тут ярасць на ягоным твары плесканулася наверх, змываючы апошнія рэшткі самавітасці.— Брудны схізмат!

Увесь збарвавеўшы тварам, ён секанўў кошкаю, здзіраючы ў Братчыка з пляча вопратку і скуру. Замахнуўся другі раз — Басяцкі і Камар схапілі яго за рукі: зразумелі, здзярэ са схопленага скуру без суда.

Братчык плюнуў Лотру пад ногі.

— Бач, спалохаўся як! Ну чаго ты? Шкуру з мяне дзяруць — чаго ж ты гарлаеш! Прызнавайся, нунцый, колькі разоў ад жаху ўграшыўся, пакуль я вас калаціў, як хацеў?

Ён прагнуў, каб яго хутчэй забілі. Тут, на месцы. Ён баяўся катавання. Але ён не ведаў, якое катаванне яны падрыхтавалі яму. Убачыў, што ўсе глядзяць то на яго, то на раку, зірнуў і ўпершыню страціў самавалоданне.

— Дзе ж твой гонар, Лотр?! Дзе ж тваё слова, Басяцкі?! Дзе, вашывыя пастыры?!

Два чаўны адчальвалі ад берага, рыхтуючыся ў пагоню. У кожным было па чатыры ўзброеныя весляры.

— З табою ды гонар? — спытаў Лотр.

— Басяцкі, ты ж сказаў juzo! Дзе тваё сумленне?!

— Ну,— пёс божы ўсміхнуўся амаль прыемнай разумнай усмешкай.— Маё сумленне, вядома, не вынесла б гэтага, але ты не заўважыў, не дачуў — я замест juzo сказаў izo[1]. Ты занадта прастадушны, сын мой. Мужчына можа маўчаць, калі бачыць несправядлівасць, і застацца сумленным. А жанчына — скажам, яна — маўчаць перад гвалтаўнікам, і гэта не зганьбіць яе, і застанецца яна такой самай вернай або непарушнай нават.

Хрыстос паспрабаваў ударыць яго нагою ў пах, але не дастаў. Яго адцягнулі. Нават ён, у сто разоў спрытнейшы за любога з гэтых, поўны ўладар свайго цела да апошняга нерва, нічога не мог зрабіць, калі дзесяць чалавек трымаюць яго.

— Рабі што хочаш,— з рота ў Басяцкага нібы плыў смярдзючы гной, нібы травінка-джала высоўвалася з-пад языка,— толькі ўнутрана ў гэтым не ўдзельнічай, юны мой сябра.

— ...шчанюк,— плюнуў Хрыстос.— Думаеш, за тыя некалькі год ты бачыў, ты думаў больш за мяне? Гнойны робак. Ты сонца не бачыў, вякоў не бачыў, быдла!

— Ды ўвогуле літасці божай не пазбавішся нават, калі дасі прысягу без намеру стрымаць яе. Вось я табе паабяцаў: «Выканаю». А сам сабе дадаў: «Калі мяне

[1] Гару.

да гэтага прымусяць або я сам пераканаюся, што ты не вораг, а карысны для бацькаўшчыны і дзяржавы чалавек».

І тады, разумеючы, што гэта ўсё, што гэтым людзям можна нават пляваць у вочы, ён, сам не разумеючы, на што спадзяецца, у раз'юшанасці крыкнуў:

— Раввуні! Раввуні! Рав-ву-ні-ні!

Пачуўшы гэты крык, Іуда, які даўно ўжо бачыў пагоню, у адчаі замітусіўся па чоўне. Рака імчала, берагі пралятапі хутка, але яшчэ хутчэй, кожны нібы на крылах, набліжаліся, ва ўзмахах вёслаў, чаўны праследавацеляў.

Іуда сеў і пачаў няўмела веславаць. Паставіў човен спачатку бокам, пасля кармой, пасля зноў носам. Вясло зарывалася ў ваду, вынырала адтуль у хмарах пырскаў. Іуда не ўмеў веславаць. Ён, увогуле, мала што ўмеў. Ні веславаць, ні фехтаваць, ні плаваць. Дзе ён мог навучыцца гэтаму?

Тады ён вырашыў маліцца. Вось памоліцца трохі, няхай не па правілах, а потым возьме жанчыну і скокне ў ваду, і, паколькі не ўмее плаваць, а яна звязаная,— яны неадкладна пойдуць на дно. І гэта добра. Пазбыцца пакут і не здрадзіць Братчыку.

Ён засяродзіўся і з жахам успомніў, што не памятае ніводнага слова. Не таму, што забыўся за час вандраванняў, а проста так... Бог пайшоў з душы. У празе адцягнуць час і ўспомніць ён убачыў на дне чоўна забытую мярэжу. Скеміў нешта. Пачаў па-звярынаму дзерці яе кіпцюрамі і зубамі, зрываючы каменныя грузілы. Вызваленую сець кінуў у ваду.

Пакуль пагоня блыталася вёсламі ў кінутым нерасце, Іудаў човен паспеў трохі аддаліцца. Постаці Хрыста і царкоўнікаў на адхоне былі ўжо ледзь не ў чвэрць дзюйма. А Іуда ўсё не мог успомніць ні слова. Замест гэтага лезла ў галаву ненадыходзячае: твар Шамоэла... ён сам падчас бойкі ў варотах Слонімскай сінагогі... ружовае сонца над Шчарай. Полымя свяцільнікаў... Рабскі твар бацькі, калі ён аднойчы гаварыў з гетманам Агінскім.

Іуда закалаціўся ад прыніжанасці і ганебнага бяссілля.

Што ён мог? Хто вучыў яго бараніць жыццё, калі настаўнікі самі не ўмелі рабіць гэтага? Адхвасталі

толькі розгамі. І неаднойчы. Але чамусьці помніцца толькі той выпадак. За што яны тады яго?..

— Раввуні! — даляцеў з далечы голас.

І тут ён успомніў, за што яго лупцавалі ў той раз.

Пагоня была ўжо зусім блізка. І тады Іуда ўстаў.

Павольна зняў з сябе шырокі скураны пояс, абматаў ягоны канец вакол запясця, другі сціснуў у далоні. Узяў каменнае грузіла. І выпрастаўся, круцячы самаробную прашчу.

Камень зафырчэў, вырваўся, трапіў у лоб стырнавому першага чоўна. Модлы падвялі. Забытае, здавалася, мастацтва — не падвяло. Стырнавы выпусціў стырно, юкнуў галавою ў ваду. Ладдзя закруцілася на месцы.

Раввуні зарагатаў. У праследавацеляў была толькі халодная зброя, у іх не было нават лукаў.

Яшчэ ўдар. Яшчэ. Яшчэ.

Ён кідаў і кідаў камені. І з кожным ударам выпростваўся і выпростваўся. Упершыню ў жыцці крычаў нешта ў шалёным захапленні:

— Я не пэцкаў рук... Я не забіваў!.. На табе, халера! На! На!

Адзін з камянёў зламаў вясло на першым чаўне. Камяні ляцелі градам, білі, валілі. Стаяў на карме чалавек, які выпрастаўся. Круціў прашчу.

...Чаўны закруціліся, пасля запаволілі бег, пад градам камянёў паварацілі да берага.

Чалавечак на карме ўсё яшчэ круціў прашчу. Пасля закінуў яе за плячо. Амаль велічны. Амаль як Давід.

...Хрыстос на беразе, убачыўшы ўсё гэта, зарагатаў.

— Ты чаго? — у непаразуменні спытаў Басяцкі.

— Ну, пастыры. Ну, дзякуй за відовішча, а то я быў і нос павесіў; добра, што не адвялі, далі ўбачыць. Ну, прапашчая ваша справа. Ужо калі вы гэтую авечку, якая нікога не пакрыўдзіла, кусацца прымусілі — тады яшчэ не ўсё страчана. Дрэнь ваша справа. Дзярмо. Га-гха-га-га!

Яго павялі ад берага, а ён рагатаў, і смех ягоны быў страшны.

...Човен між тым імчала і імчала вада.

— І хацеў бы я ведаць, як мы цяпер дабяромся да берага,— сказаў Раввуні.

Анея, ужо развязаная Іудзеем, безуважна сядзела на дне чоўна. Праплылі лясістыя горы, кранутыя сям-там першай жаўцізною восені. Выбегла на строму чырвоная, трапяткая асінка. Цікаўна глядзела, а хто гэта плыве ў чаўне. Пясчаная каса далёка ўрэзалася ў цёмна-сінюю ваду, і нехта на касе ўтрапёна махаў рукамі. Іуда прыгледзеўся і з абміраннем сардэчным пазнаў: на касе стаялі Кірык Вястун, разьбяр Кляонік і Марка Гурай.

— Сюды праўся! — крыкнуў каваль.

Раввуні развёў рукамі. Вясло падчас бойкі ўхапіла рака. І тады Марка і Кляонік кінуліся ў ваду, пачалі рэзаць яе плячыма, даплылі, рыўцом паварацілі човен да берага і пацягнулі яго. У пырсках свежай вады на загарэлых плячах, у пене і хропе, як вадзяныя коні, як нябачаныя марскія багі.

Іуда чэрпаў забортную ваду і абмываў твар, каб ніхто не заўважыў, што ён плача.

На беразе яны доўга абдымаліся і ляпалі адзін аднаго па плячах.

— Братка,— захлынаўся Іуда.— Жывы... Братка.

— Жывы,— сказаў каваль.— На злосць некаторым, каб ім на трыбусе поўзаць, а зад цягнуць.

— Фаўстына дзе?

— На хутары,— адказаў Кляонік.— Зараз у нас будзе жыццё такое, што небяспечна...

Марка маўчаў. Іуда ведаў чаму. Гіава Турая схапілі.

— Нічога,— сказаў Раввуні.— Галоўнае — жывыя. Цэлая галава і думаць можа.

— Нашто?..— без слёз спытала Анея.— Нашто ратавалі? Памерці б. Так яно спакойна.

— Нашто? — і Іуда брыдка вылаяўся ў гневе.

Ашаломленая Анея заміргала вачыма. Румянец сораму заліў увесь твар. Але Іуда не зважаў на гэта. Любымі сродкамі ён быў рады страхнуць гэтае бабскае здранцвенне. Нават біў бы.

— А на тое, каб не сядзець з ім. І каб думка-ткі была. І каб уратаваць або паехаць усім разам у мілую кампанію да праайца Аўрама, і абдымацца там з паважнай бабулькай Рахіллю, і да сканчэння дзён есці без выпіўкі аднаго смажанага левіяфана, аж пакуль не пачне нудзіць... Таксама да сканчэння вякоў.

Ён быў зусім іншы, і ўсе астатнія глядзелі на яго здзіўлена.

— Пайшлі... Дарогаю пагаворым.

...Яны ішлі і меркавалі аб тым, што ім рабіць, ужо даволі доўга, калі Іуда заўважыў у мільгаценні лясной лістоты нейкі цень. Чалавек сядзеў спіною да дарогі, і Іудзе здалося, што ён пазнаў яго. Астатнія нічога не заўважылі.

— Ідзіце,— сказаў ён астатнім.— Я даганю.

Пачакаў, пакуль сябры не зніклі за паваротаю, і асцярожна пайшоў да чалавека. Мяккая трава глушыла крокі. Нейкая птушка, назвы якой ён такама пакуль не ведаў, свірысцела ў лістоце. Так яму пашанцавала стаць амаль за спіною таго, хто сядзеў.

Іуда не памыліўся. Уцякач, здрадлівае падла Мацей, сядзеў і пералічваў грошы. І тады Раввуні голасна сказаў:

— У дні цара Саламона быў у Ерусаліме нейкі, хто трахнуў у храме, бо дынарый абяцалі яму.

Пры першых гуках голасу Мацей ускінуўся. Вочы былі белыя ад страху.

— Ты?!

— І з'явіўся да іх, з'явіўся ў Эмаўсе, і многія не верылі, што ён... Н-ну?!!

Мацей супакоіўся. Нахабна ўсыпаў грошы ў вацок і схаваў яго:

— Пашчу закрый... І, ведаеш, валі ты адсюль, агнец. Выбраўся, дык весяліся. А то вось дам, і... Дзіваў не бывае. Галавой наложыш.

Іуда бачыў, што Мацею трохі ніякава. Літаваць яго, аднак, не збіраўся. У агульнай здрадзе была і Мацеева лепта.

Ён рыкнуў так, што Мацей разгубіўся:

— Ты што?.. Ты што?

Белыя, нібы ў сабакі, зубы Іуды амаль драпежна выскаліліся.

— Нехта казаў: Іудзе евангелля не паложана. Нехта ў мяне евангелле спёр і спахабіў.

— І не паложана. Па пісанню.

Іуда насунуўся на яго.

— А па жыццю? Па майму? І па твайму, смярдзючы тхор?

— Пісанне.

Іуда быў па-боску іранічны:

— А трыццаць срэбнікаў? Яны ж, згодна з пісаннем, мне належаць, а не табе.

— Ідзі атрымай. Хто перашкаджае?

— Па пісанню, чуеш? — твар у Іуды быў страшны.— Дав-вай цану здрады!

І ён зрабіў тое, чаго ў звычайным стане не мог бы зрабіць: узяў Мацея загрудкі і ўзняў. Мытар кінуў вацок у мох. Сківаца ягоная калацілася. Іуда з сілаю шпурнуў яго на кучу лаўжоў. Падабраў каліту, паклаў у кішэнь. Выціраючы мохам рукі, сказаў:

— Ну вось, цяпер усё па пісанню. Евангелле ў Мацея, грошы — у Іуды. Уставай, а то я нешта не разумею, дзе ў цябе азадак, а дзе твар. Так, малайчына. Можаш цяпер, прынамсі, казаць, што не дзеля грошай прадаў, а па перакананню... А цяпер — валі. Людзі цябе заб'юць. Шкада — мне няма часу. Дурныя, як дарога, разумнага судзяць.

Іуда даганяў сваіх і бурчаў сам сабе пад нос:

— Вось цяпер я зразумеў, чаму адзін друкар замест «бяссмерця душы» памылкова набраў дый ціснуў у трох тысячах прымернікаў кнігі «бяссмерце дупы». То ён гэткую во неўміручую поскудзь меў на ўвазе.

## Раздзел LIII

## ЗОРКА — ПАЛЫН

> Упала ў крыніцы вод зорка. Імя той зорцы — Палын. І вымерла трэцяя частка ўсіх людзей, бо воды зрабіліся горкія.
>
> *Апакаліпсіс, гл. 8, ст. 11*

> За дабрыню, за спачуванне нам
> Пан бог уздасць вам шчодраю рукой.
> Вось мы вісім бясконцай чарадой.
> Над намі крумкачоў рагоча зграя,
> П'е гной з вачэй. І вы ў наш страшны час
> Не смейцеся над намі, умаляем!
> Маліце ў бога літасці для нас!
>
> *Балада павешаных*

У тую ноч забілі не ўсіх. Усіх схопленых забівалі пасля, паступова, на грунце цвёрдай законнасці, але з належнай няўхільнасцю і жорсткай дабрынёй. Бо лепей адсячы гангрэнозны член, чым дазволіць памерці хвораму.

Удзень і ўначы раўлі ў сутарэннях мяхі і ляскалі

клешчы. Грамадзян, да якіх прыкінуўся антонаў агонь вальналюбства і чыстай веры, пасля допыту вызводзілі і каралі смерцю на Зітхальным арбе, скрыжаваннях вуліц або на Лідскай дарозе. На смерць кожнага акуратна складалася паперка. Акт.

Мяшчане і мужыкі ў катавальнях асуджана маўчалі. Жыццё страціла дзеля іх цану ў самы той момант, калі яны страцілі абшар, да якога звыклі, смалісты водар пушчы і аполле, што залоціцца жытам і ячменем.

Цэлыя дні варта хадзіла па дамах, вышукваючы крамолу, хапала людзей і цягнула ў вялікую судную залу. Катавалі па адным, але прысуды выносілі пачкамі, не дужа разбіраючыся, што там да чаго. Вязні маўчалі, і агавораў не было, затое лютавалі, падаючы хлуслівыя даносы, віжы і сокі. І таму па горадзе каацілася лавіна арыштаў. Забіралі бацькоў у дзяцей і дзяцей у бацькоў, мужа — ад улюбёнай жонкі, хлопца — ад каханай. Уся Гародня не спала па начах. Людзі ляжалі і глядзелі бяссоннымі вачыма ў цемру. Пружына хлуслівага даносу магла ўдарыць кожнага ў кожную хвіліну.

Не спалі і арыштаваныя ў сутарэннях пад усходнім нефам замка. У гэтых усё было пэўнае, і яны маглі б спаць, але над імі ўсю ноч гарлала песні п'яная варта: зрывала на палонных свой нядаўні, смяротны перапуд. Часам яны адчынялі дзверы ў сутарэнні, дзе пасля катаванняў ляжалі, не ў змозе варухнуцца, ломаныя людзі, і рабілі канцэрт дзеля іх, раўлі нешта накшталт «Песні аб хаме»:

Што супраць дзідаў — косы у хама?
Вось вам Эдэм, што хацелі здабыць:
Віселья, як Эдэмская брама.
З радасці ў небе скачыце нагамі.
Мы ўладары яшчэ ад Адама,
Вы — ад Адама яшчэ рабы.

Многія — хто ляжалі далей у цемры — патаемна плакалі. Не таму, што павінны былі памерці, а ад прыніжэння.

І таму ўсе маўчалі, нават паміраючы на дыбе. Такая вялікая была іхняя заядлая мужнасць, што жахаліся нават людзі святой службы.

Басяцкі зразумеў, што галоўнае зараз — дабіцца адрачэння ад Хрыста. Хай пад катаваннем успомніць

аб сапраўднай ісцінная догме, тады астатнія запраста хрумснуць у хрыбце. А гэта азначае — Братчыка трэба катаваць вынаходлівей, страшней і даўжэй за ўсіх.

Доўга спрачаліся, хто павінен судзіць. І вырашылі, што хаця падсудны і міранін, але, паколькі злачынства датычыцца царквы, судзіць будуць старшыні духоўнага суда.

Басяцкі падказаў і тое, як зняць з царквы большую частку яе віны за пакаранне смерцю. У Францыі ў падобных выпадках царква аддае злачынца ў рукі прэво. Братчыка пасля асуджэння таксама трэба было аддаць для выканання прысуду ў рукі гарадской рады, у рукі бурмістра Юстына. Хай пэцкаецца ён.

Калі ён келейна вырашыў гэта пытанне з Лотрам, той аж пашкадаваў, што член ордэна, якому даручана справа веры, з такім лёгкім сэрцам збіраецца кінуць той ордэн. Іранізаваў:

— Ну які ты будзеш лыцар Езуса? Невядома яшчэ які. А тут жа ты на сваім месцы. І не ўзлюбяць жа цябе твае цяперашнія браты. Здраднік, скажуць. Убачыў, што пяршынства цяпер не наша, дый перакінуўся.

— Напляваць. Я жыву дзеля будучыні.— І раптам Лотр убачыў, як пазмрачнелі заўсёды спакойныя і нават зычлівыя вочы Басяцкага: быў у іх цяпер нейкі асуджаны, абыякавы холад, нібы чалавек уваскрэс з магілы.— Жыву... А ўрэшце, ці жыву? Нешта гаворыць мне, што магу памерці. І ці трэба нешта рабіць, калі тут зрабілася такое? Гэты лжэ-Хрыстос — папярэджанне. Не можа быць будучыні, калі па гэтым свеце швэндаецца такая навалач, як Братчык.

— Ну-ну,— не на жарт перапалоханы, сказаў Лотр,— супакойся.

— Я спакойны.

І, аднак, ён не быў спакойны. Нешта здарылася з душамі людзей. Ніколі ён не бачыў такой непахіснай закаранеласці. Мечнік Гіаў Турай, дваццаць гадзін віснучы на прэнгу, безупынна не чытаў, а хутчэй выкрыкваў — ад нясцерпнага болю — спакуслівыя месцы з пісання (дарага дала б святая служба і ўвогуле царква, каб іх там не было), цэлыя кавалкі з пасланняў шчырых айцоў царквы (лепей бы і гэтых пасланняў не было, бо яны выкрывалі расафорных), а такса

ма з ідавочна ерэтычных кніг. Начытаны быў у справах веры ды ерасі.

Варта было заплюшчыць вочы, і вось: сутарэнне, прэнг, на ім вісіць нагі, ненатуральна выцягнуты — наскі ног павернутыя адзін да аднаго,— да сіняга чорны чалавек і ў мільгаценні агню выкрыквае страшнае пасланне кельнскага арцыбіскупа Гацьс да папы Мікалая, лямантар ерасі для многіх людзей — ад Саламанкі і аж да мяжы княства Беларуска-Літоўскага. Ерасі, нягледзячы на тое, што Гацье шчыра і дагматычна верыў.

...Агонь. Чалавек, які вісіць дзесяць гадзін. Крык.

— Судзіш? Якім правам?! Правам большасці, правам рады?! Рада твая складаецца з гэткіх самых прадажных, разбэшчаных людзей, як і ты сам... Тыран баязлівы, носіш імя раба рабоў і ўжываеш здраду, даносы, скарыстоўваеш золата і сталь, каб быць панам паноў... Як ты назавеш клір, які курыць фіміям тваёй магутнасці, апявае тваю ўладу? Як ты назавеш гэтых меднагаловых... гэтых адроддзяў пекла, у якіх сэрцы з металу, а чрэслы з гразі Садома і Гаморы? Гэтыя служкі створаны, каб поўзаць перад табою. Імя табе — Сатана.

Выкрыкваў... Выкрыкваў... Крыкі гэтыя ўначы стаялі ў вушах.

...Перад тым як караць смерцю людзей — каралі званы. Замянілі іншым звон на дамініканскай званіцы, прыцягнулі яго на Стары рынак, дзе ляжаў ужо зрынуты гарадскі звон, і распаленымі шчыпцамі вырвалі абодвум языкі, каб не крычалі аб трывозе. Не набат трэба біць, калі ў горад, хай сабе і пад покрывам цемры, уваходзіць законны гаспадар, святая вера.

Вялікую Зафею языка не пазбавілі, але хвасталі запэцканымі ў гноі бізунамі. Людзі, гледзячы на гэта, сціскалі кулакі ад прыніжэння.

Маўчалі званы. Да словаў Рабле «горад без званоў... карова без балабона» варта было б дадаць: «Ваўкі вакол, і не прыйдзе гаспадар».

Людзі штохвілінна чакалі арышту. Насельніцтва горада паменшала напалову. Хто быў забіты, хто чакаў смерці ў сутарэннях, хто сядзеў у каменяломнях або ўцёк. Некаторыя шукалі права прытулку ў храмах. І тыя, што скочылі ў касцёлы, атрымалі яго,

права паміраць з голаду і смагі. А тых, што схаваліся ў праваслаўных цэрквах, выдалі, і ўсіх чыста, разам з тымі, якія сядзелі ў сутарэннях, распялі паўздоўж дарог і павесілі за рэбры. Ад аднаго распяцця да другога. Драўляных блыталі з жывымі.

Гіаў Турай, калісьці амаль фанатык, вісеў павешаны за рабрыну, пляваў на імя бога і, б'ючыся ў перадсмяротных пакутах, крычаў:

— Зямля мая! Няшчасная! Колькі вякоў! Колькі вякоў табе цярпець! Колькі вякоў можна цярпець!

Так ён крычаў, пакуль не памёр. Усе памерлі.

І здарылася так, як калісьці ў Рыме, у пантыфікат Бенядзікта восьмага. Некалькі дзён землятрус калаціў Рым, і тады вырашылі, што ў гэтым вінаватыя рымскія яўрэі і нешматлікія мусульмане з праваслаўнымі. Іх усіх знішчылі, і летапісец запісаў:

«Пасля пакарання іх смерцю вецер сціхнуў і зямля не зазнавала больш жахлівых хістанняў, якія раней трэслі Святы горад».

Можа, і так. Гісторыкі не памыляюцца. А можа, зямля проста стамілася калаціцца. Нельга ўвесь час калаціцца. Колькі можна!

Ва ўсякім разе, пасля ўсяго, што адбылося, зямля Гародні таксама перастала дрыжэць і выдаваць падземныя штуршкі. Эшафоты дапамагалі і ў адным і ў другім выпадках. Горад быў уціхамірany. Горад маўчаў. Прыйшла чарга Хрыста.

## Раздзел LIV

## СІНЕДРЫЁН

> Я малю аб адным: малю цела сваё, якое знаходзіцца ва ўладзе катаў, зберагчы сілы і вытрымаць пакуты, прызначаныя яму, каб я быў у змозе крыкнуць на эшафоце: «Смерць уладарам! Смерць падманшчыкам! Смерць гандлярам верай! Хай жыве свабода!»
>
> *Адказ Альгіяці[1] суду*

І зноў ён стаяў у той самай вялікай суднай зале, дзе калісьці яго прымушалі быць Хрыстом. Тыя са-

[1] Альгіяці — забойца міланскага тырана Сфорца (1478 г.).

мыя былі гатычныя скляпенні з пукатымі рэбрамі нярвюраў. Тыя самыя папярочна-смугастыя, белыя з чырвоным, сцены. Тыя ж вокны ля падлогі, і святло знізу, і пагрозлівыя цені на тварах тых самых суддзяў. І тая ж катоўня, і той самы кат на парозе. Толькі цяпер Хрыстос быў зусім адзін і ведаў, што выхаду на гэты раз не будзе.

Біскуп Камар чытаў абвінавачванне:

— «...імя госпада нашого собе прыпісаў і прыўлашчыў, і святую царкву ў зман увёў. І таму сей як бы Хрыстос як ложны прарок і спакушнік аддаецца суду царквы, імя якой, як Хрыстос, спаганіць хацеў».

— Прыпішы: «У еллінскае рассеянне хацеў ісці»,— сказаў Лотр.— Народ гэта любіць, незразумелае.

«Ану іх да д'ябла. Не варта і слухаць. Адны морды вакол... Цікава, дзе зараз Анея, хто ўратаваўся? Толькі не думаць, што пасля суда зноў катаванні, яшчэ страшнейшыя, апошнія, што будуць вырываць агнём імёны ўсіх, каго ведаў у жыцці і каго тым самым мог «заразіць скажонымі, няправільнымі, памылковымі думкамі, якія — ад д'ябла». Ну не. Ужо гэтага задавальнення ён пастараецца ім не даць. Смяяцца трэба, здзекавацца, каб аж заходзіліся са злосці, каб год на дзесяць наблізіць кожнаму канец».

— Што скажаш, ілжэ-Хрыстос? — даляцеў да яго Лотраў голас.

Ён сказаў без усякага пафасу:

— А чаго казаць? Мог бы напомніць, як вы мяне ім зрабілі. Але глухі той, хто не хоча чуць. Бяспамятны той, хто хоча засудзіць. А вы ніколі нічога іншага і не хацелі. Абы давесці, насуперак праўдзе, што заўсёды маеце рацыю. І не за самазванства вы мяне судзіце, а за тое, што я, махляр, валацуга, шалбер, перастаў быць махляром, стаў тым, кім вы мяне зрабілі, кім баяліся мяне бачыць. Уваскрэсні зараз бог, уваскрэсні той, з каго пачалася ваша справа, вы і з ім зрабілі б тое, што са мной. Нашто ўпраўцелям і халуям, каб гаспадар вярнуўся ў дом? Яны ж рабуюць.

— Блюзнерыць! — залямантаваў раптам Жаба.— Чуеце! Ён зневажае бога!

Магнат, завёўшы вочы, ірваў на сабе чугу. Камар таропка рыпеў пяром.

Папрасілі сведак. Першай увайшла жанчына пад чорным плашчом з капюшонам. Сэрца Братчыкава апусцілася. Ён пазнаў.

— Марына Крывіц,— сказаў Лотр,— адказвай, ці чула, як пахваляўся незвычайнасцю нараджэння?

Магдаліна маўчала. Братчык бачыў толькі вочы, якія глядзелі на яго праз шчыліну ў капюшоне з умольнасцю і тугой. Маўчала. І з кожным імгненнем усім членам найпадлейшага сінедрыёна рабілася непамысней і непамысней.

— Цікава, чаму гэта вы ўзялі яе сведкай і, усупераk свайму звычаю, не прыцягнулі да справы? — шэптам спытаў у Басяцкага Юстын.

— А вы што, хацелі б мець такога моцнага ворага, як Навагрудскі ваявода? Дык вось, яна без некалькіх дзён ягоная жонка.

— Мартэла Хрыбтовіча? Ён што, аўдавеў?

— Чаму Мартэла? Радшы.

— А Мартэл?

— Выправіўся да продкаў.

— Як гэта так?

— А так,— усміхнуўся Басяцкі.— Паехаў піць да ворага «кубак прымірэння», а яму там і праламалі чэрап.

— Чым?

— Ды «кубкам прымірэння» і праламалі.

— Славянская дыпламатыя,— сказаў Юстын.

Братчык бачыў вочы і разумеў, што яна і прыйсці сюды згадзілася, толькі каб паглядзець на яго. Сэрца ягонае шчымела. Шмат бы ён аддаў, каб яна не пакутавала па ім.

Маўчанне трывала. Лотр паўтарыў пытанне.

— Не,— рэзка сказала яна. Адвязалася, каб на яго глядзець.

— Ці крэсліў знакі і пентаграмы, што адпалохваюць д'ябла, на дзвярах тых месцаў, што з'яўляюцца ўлюбёным яго прытулкам, як: дамы тых, хто мудрагеліць, дамы паэтаў, што не пішуць псалмаў і од, могілкі самагубцаў, мячэці, сінагогі, разбойнічыя прытоны, хаты анатамаў і філосафаў...

— Цэрквы і касцёлы,— уставіў Хрыстос.

Ён хацеў даць зразумець Магдаліне, што ён ведае, які лёс яго чакае, мужна глядзіць яму ў вочы і не шкадуе ні аб чым.

— Зневажае бога! — загарлаў Жаба.
— Ведаю адно,— сказала яна.— Змучылі вы цела маё і душу. Сілком штурхнулі да яго. А я менш за ўсё хацела б шкодзіць яму. А за мінулае прашу ў яго даравання.
«Божа, яна яшчэ хоча ўмацаваць маю мужнасць! Дарагая мая! Добрая! Бедная!»
— Крэсліў ці не?
— Не.
— Зразумела,— сказаў езуіт.— Ён сам сказаў: «Цэрквы». Ён, значыцца, не крэсліў на іхніх дзвярах знакаў, што адводзяць сатану. Пішы: «Царквы божай ад сатаны не бараніў, пранікненню сатаны ў яе не перашкаджаў».
— А нашто? — спытаў Хрыстос.— Ён, сатана, даўно ўжо там. І калі ўжо ставіць знакі на царкоўных дзвярах, дык ставіць іх знутры. Каб не вырваўся сатана вонкі.
— Адказвай, жанчына, што ведаеш яшчэ? — спытаў Лотр.— Ці не бачыла на плячы гэтага сатанінскага адроддзя след кіпця, а на лапатцы — следу ад агнявой дзіды, якой скідвала яго ў пекла нябесная воінства?
— Не.
— Што можаш сказаць пра яго?
Жанчына выпрасталася і ўздыхнула:
— Што? Хацелі слухаць? Дык слухайце.
Яна глядзела на яго:
— Ніколі, ніколі ў жыцці я не бачыла лепшага чалавека. Таму вы і судзіце яго. А на ягоным месцы стаяць бы вам. Усім вам... Братчык, слухай мяне і даруй. Я выходжу замуж. За гэтую тваю сілу на паскудным гэтым судзе я яшчэ больш кахаю і люблю цябе. Але я выходжу замуж. За моцнага чалавека. За таго, які дазволіць мне рабіць усё. Таму і выходжу. Я не магу вызваліць цябе ад пакуты і смерці, не магу даць сваёй цеплыні, ды яна і непатрэбная табе. Даруй. Але затое я магу даць тваёй душы на небе асалоду спраядлівасці помсты. Яны яшчэ не ведаюць, якога яны ворага прыдбалі сабе. Апошняга. Запеклага. Таго, які ні на хвіліну, нават у сне, не забывае пра помсту.
Маўчанне.
— Памры спакойна, сэрца маё, святло душы маёй,

лепшы на зямлі чалавек. Не жыць табе ў гэтым паршывым свеце. Добрым — не жыць.

— Гэта не вечна.— Даўкі яблык стаяў у Хрыстовым горле.— Дзякуй табе. Я люблю цябе.

І тут жанчына раптам упала. Нешта як падсекла ёй ногі.

— Даруй. Даруй. Даруй.

Яна папаўзла была на каленях. Два вартавыя падхапілі яе пад рукі, узнялі, павялі да дзвярэй. На парозе яна змаглася, выпрасталася:

— За гэтую хвіліну маёй слабасці яны заплацяць стакрот. Яны памруць, Братчык. Клянуся табе, Юрась. Памры спакойна.

Ён не хацеў слухаць далей і не слухаў. Усё астатняе было няважна. Дапытвалі багатых гандляроў і магнатаў, дапытвалі рыбніка з хлебнікам. І ён чуў і не чуў, як яны трындзелі, што ён хацеў разбурыць храм божы, што падрываў гандаль, што замахнуўся на шляхту, магнацтва, царкву і парадак. І што не цаніў пот працоўных, раздаючы ўсім пароўну хлеб, а тады хто ж захоча працаваць, каб мець болей.

І рыбнік казаў, што ён падрываў дзяржаву. А хлебнік казаў, што ён вучыў супраць народа і закона. І што закон — гэта вось вы, слаўныя мужы, але народ — гэта мы. І пытаў, на што можа спадзявацца гэты «Хрыстос», апаганіўшы народ і ўчыніўшы яму шкоду. І казаў, што народ патрабуе смерці.

Ён амаль не чуў гэтага. Аблічча Магдаліны плыло перад яго вачыма. Словы яе гучалі ў яго вушах. І ён упершыню падумаў, што каб не яго каханне, то трэба было б прызнаць, што яна, прынамсі, не горшая за Анею.

Але позна было.

— Паколькі саўдзельнікаў на папярэднім катаванні выдаць адмовіўся — смерці павінен,— сказаў Камар.

— Па-блюзнерску сцвярджаў, што ён Хрыстос,— сказаў Басяцкі.— До і гэтага.

— Цяжкавата мне вырашыць гэтае пытанне,— сказаў Жаба.— Памёр Хрыстос, а кажуць, што жывы. Нейкі Хрыстос памерлы, аб якім кажуць, што ён жывы.

— А ты не пніся,— сказаў Хрыстос.— Я тут — збоку. Вы падумайце, ці ўдасца вам усім вашымі

смярдзючымі рукамі, усёй вашай дурной сілай забіць праўду? Бясслаўныя, ці здолееце вы зрынуць славу тых, хто гінуў і гіне за людзей, за народ? Нехта за іх крывёю кашляе — ён мацнейшы за вас са свіным вашым тлупчам. Некага вешаюць — яму даўжэйшае жыццё суджана, чым вам. Нічога з іхніх спраў не знікае. Гэта вы знікаеце. А яны — не. Бо яны за народ. За ўсе народы чыста, колькі іх ёсць. За ўсе, якіх вы сварыце, нацкоўваеце, прымушаеце біцца, каб абадраць порткі і з д'ябла і з бога ды спакойна сядзець на нарадах сваёй с...— галавы ж у вас няма,— якая не менш чым у дванаццаць кулакоў.

Толькі адзін Юстын стаў мераць на краі стала — а колькі гэта будзе, зад у дванаццаць кулакоў? Астатнія страцілі раўнавагу.

Нібы навальніца ўзняла на ногі суд. Ірваліся да Братчыка, білі, мільгалі кіі. Ён глядзеў на іх не міргаючы. І гэта быў такі пякучы позірк, што кіі апусціліся. Суддзі крычалі, і ў гарачцы іхнія бязладныя словы нельга было зразумець. З глотак нібыта рваўся сабачы брэх.

— Што ж вы, людзі? — сказаў ён.— Асліха Валаамава і тая чалавечым голасам гаварыла.

Не памятаючы сябе ад шаленства, Камар кінуўся да Хрыста, схапіў загрудкі:

— Катаваць будзем! Хутчэй! Пакуль не позна! Таемныя думкі! Таемныя думкі твае!

Братчык адвёў яго рухам рукі:

— Ну чаго ты ротам гадзіш? Падумаеш, таемныя думкі. Ты ўлічы, дурню, няма ў свеце чалавека, які гэтых маіх думак не ведаў бы і не падзяляў. Бо гэта агульныя думкі. І на свет, і на ўсё гэта ваша кодла. Толькі што ніхто іх не выказвае. Я-то іх выказаў. Зброяй. А паўтараць іх тут — бісер перад свіннямі...

Разумеючы, што суд чым далей, тым болей ператвараецца ў ганьбаванне саміх суддзяў, Басяцкі ўстаў:

— Досыць. Гэта рачоны Хрыстос у імя люду, дзяржавы і царквы павінен смерці. І перадаем яго ў рукі свецкай уладзе, радзе славутага горада, каб, па магчымасці і калі мера зла ім не перавышана, абышлася яна з ім цяжка і не пралівала крыві.

Юстын, які ўвесь час сядзеў, апусціўшы вочы,

узняў іх. У вачах быў жах. Увесь збялеўшы, нібы палатніна, бурмістр спытаў:

— Вы што ж, на нас хочаце навесці кроў гэтага чалавека?

— Чаму? — спытаў Басяцкі.— Сказана ж, «без праліцця крыві».

Хрыстос зрабіў крок наперад:

— Ганьбую судзілішча ваша давеку. Быці дому вашаму пусту.

І ён плюнуў на сярэдзіну судовай залы.

Раздзел LV

## ІСЦІНА БУРМІСТРА ЮСТЫНА, АБО HOMO HOMINI MONSTRUM[1]

...а яны не такія, а — зборышча сатанінскае.

*Апакаліпсіс, гл. 2, ст. 9*

Вуліцы былі яшчэ не зусім прыбраныя, бо забітых некаторы час не дазвалялі хаваць — у пострах іншым. Злосць была такая, што, здавалася, не хавалі б і зусім, але дні стаялі яшчэ даволі цёплыя, нават часам гарачыя, і ўлады збаяліся міязмаў, якія, як вядома, нараджаюць праказу, воспу і паморкавую пошасць, чуму, не кажучы ўжо аб іншых акрасах жыцця.

Варта вяла яго па вуліцах, пракладаючы дарогу праз натоўп багатых мяшчан, гандляроў і разявак. Ён не глядзеў на іх. Ён глядзеў, як навалам кідаюць у фурманкі трупы, як іх вязуць, як змываюць з бруку засохлую кроў цэлымі балеямі вады. Ён ведаў, сёння ўначы яго зноў возьмуць у замак (беззаконнае катаванне пасля суда трэба было хаваць: усе ведалі аб ім і ўсе рабілі выгляд, што яго няма), а пасля праз гадзіну — дзень — тры — тыдзень (наколькі яго хопіць і наколькі хутка зняверацца ў поспеху кат і суддзі) адвядуць назад у цямніцу пры радавым судзе, каб трохі ачуняў, каб зацягнуліся перад каразнам раны. Але яму ўсё гэта было амаль усё роўна пасля таго, як Магдаліна дала новы гарт ягонаму сэрцу і

[1] Чалавек чалавеку звер.

паказала яшчэ раз, што за гэтую цвердзь варта гінуць. Што варта гінуць за ледзь прыкметную плесню на ёй, за людзей. Нічога, што яны пакуль напалову драпежнікі, напалову ахвяры, што жывуць сярод іх трусікі, тыгры і тхары. Што зробіш? Яны зараз толькі карані, што свідруюць зямлю і гной, яны доўга, вельмі доўга будуць свідраваць гной, пакуль не выганяць з сябе сцябліну, пакуль не разгарыцца на ёй прыўкрасная квяціна Дасканаласці. Ён прадбачыў, якая яна будзе, і за яе здатны быў загінуць.

Гэта было ўсё роўна. Неаднолькава было другое, тое, што вуліцамі везлі прах, у які ператварыліся найлепшыя з гэтых карэнняў, найбольш чыстыя і жыццяздатныя: сябры, браты, таварышы.

А вакол віраваў натоўп, якога ён не заўважаў. Яго не было, калі будавалі царства справядлівасці, яго не існавала і зараз. Прынамсі, дзеля яго.

— Гандаль падрываў! — гарлалі слінявыя пашчы.

— Ілжэнастаўнік!

— Вервіем гнаў нас з храма!

Прыблізна пасярэдзіне Старога рынку гарэла невялікае вогнішча: нейкі забаўнік загадзя рыхтаваў галоўную частку спектакля. Братчык набліжаўся да гэтага вогнішча і ўсміхаўся сваім думкам. Ён бачыў далей за іх. У глыбіні часоў бачыў за гэтымі звярынымі пашчамі горды і справядлівы чалавечы рот. І ён усміхаўся.

— Смяешся? Можа, карону хочаш?

Прыгажун боўдзіла з каламутнымі ад магчымасці пакуражыцца вачыма дзерся праз варту, якая не дужа і трымала яго. На ўзнесеных у паветра кляшчах свяцілася вішнёвым колерам жалезная карона.

— Н-не трымайце м-мяне! — пена валіла з вуснаў прыгажуна.

Ён узняў клешчы, ён яшчэ не апусціў іх, а валасы на галаве ў Юрася затрашчалі... Бурмістр Юстын ударыў боўдзілу нагою ў пах, і той склаўся напалам. Карона пакацілася пад ногі гурме, раздаўся лямант абпечаных. Варта бягом цягнула Юрася да гульбішча ратушы. Юстын пяціўся за імі з кордам у руцэ:

— Людзі! Вы мне верылі! Шмат год правіў я вамі папраўдзе... дзе мог. Вінюся, бяда мая ў гэтым. Але я стараўся ўратаваць кожнага з вас, свінні вы паршы-

выя, хаця і не заўсёды гэта ўдавалася. Ну што вам у гэтым чалавеку?!

Гурма раўла і рыкала. Кучцы людзей ледзь удалося праравацца праз яе на гульбішча ратушы. Юстын не ведаў, што ўсё гэта бачаць з замкавага акна Басяцкі і Лотр.

— Глас народа — глас бога,— сказаў Лотр.

Езуіт усміхнуўся і паправіў яго:

— Глас народа — глас бога з машыны.

Бурмістр ведаў, што ярасць, няхай і жывёльную, трэба сарваць. Зрабіў непрыкметны жэст начальніку варты. Праз некалькі хвілін два латнікі вывалаклі на гульбішча скутага расстрыгу, прарока Іллюка.

— Вазьміце пакуль гэтага! — крыкнуў бурмістр.— Гэты прапаведваў хлусліва і навушнічаў.

— Ты нам печкура за сама не падсоўвай! — лез па сходах на гульбішча, грудзьмі проста на вастрыі дзід, хлебнік.

Юстын схіліўся да яго:

— Даносіў! Яго стараннем шмат каго забілі... Твайго, хлебнік, брата, Агея...

— Іллюк хлебам за мой кошт нікога не карміў,— звар'яцела крычаў хлебнік. Пляваў я на ягоную віну! Навушнічаў?! А хто не навушнічаў! Агею ж так і трэба! У веры хістаўся! У ерась жыдоўствуючых кінуцца хацеў! Маёнткі, майно царкоўнае асуджаў, дзяліць хацеў! Часоў апостальскіх ім узжадалася!

Бурмістр імкнуўся перакрычаць народ. Пасечаны шнарамі, адзначаны ценем усіх распустаў, суровы і страшны твар наліўся крывёй.

— Ды вы ведаеце, за што яго ўзялі, свінтухайлы вы?! Ён, Іллюк, падчас «ночы крыжоў» параненых дабіваў. Раздзяваў іх, рабаваў, марадзёрстваваў!

Яго не слухалі! Гурма лезла па сходах.

— Так ім і трэба! Царства божага на зямлі хацелі! На майно лепшых руку ўзнялі! Адпускай Іллюка!!!

Выхапілі расстрыгу з рук варты, сцягнулі з гульбішча. Нейкі цёмны чалавечак паваражыў з адмычкай каля ягоных запясцяў, і ланцугі срэбнай змяёю ўпалі на зямлю. Іллюк паматляў кісцямі рук у паветры і раптам шалёна, радасна залямантаваў:

— Распні яго!

Натоўп падхапіў:

— Забі яго! Забі! Заўтра ж! За-бі я-го!!! З мёртвых ніхто не ўваскрасаў!

Юстын загадаў пакінуць гульбішча.

...Наступныя два дні прайшлі ў дзікім рову горна, натужлівым рыпенні прэнга, ляску метала, які прымушае да болю сціскаць зубы, у скоках цемры і полымя і ва ўсім такім іншым, аб чым не дазваляе пісаць душа і на апісанне чаго не падымаецца рука.

На трэці дзень пасля заключнага катавання «жарабяткам» (новы, неапалітанскі спосаб) Братчыку ўправілі рукі, змазалі ўсё цела алеем і на насілках аднеслі ў радскую цямніцу, бо ісці сам ён не мог.

Усе гэтыя дні і наступныя, калі ён ачуньваў, Юстын, аб'явіўшы сябе хворым, сядзеў дома.

Шматдзённае страшнае катаванне скончылася нічым. Мужыцкі Хрыстос не падарыў ім аніводнага слова, аніводнага праклёну, аніводнага крыку або стогну. Гаварыць можна было на судзе. Тут трэба было маўчаць і даводзіць маўчаннем. І ён даводзіў. Аддаўшы ў іхнія рукі сваё зламанае, выкручанае цела, на якім яны выпрабоўвалі ўсю вытанчанасць свайго рымскага мастацтва, ён не аддаў ім ані грана сваёй душы і толькі, калі рабілася ўжо зусім нясцерпна, каратка смяяўся, гледзячы ім у вочы. Смех быў падобны да клекатання. І яны зразумелі, што нават «велляй» не даб'юцца ад яго нічога іншага.

Напярэдадні дня страты ў цэлю да яго прыйшлі Лотр, войт Цыкмун Жаба і — упершыню за ўвесь час — бурмістр Юстын. Першы, каб прапанаваць спавядзь і прычасціць, другі, каб прысутнічаць пры гэтым і пасля змацаваць сваім подпісам канфірмацыю на смерць. Трэці, каб спытаць аб апошніх жаданнях асуджанага, атрымаць прыватныя даручэнні (накшталт: «Хустку перадайце такой і такой на вуліцу Грунтвагі; пацалунак мой, бо я любіў яго, такому і такому; частку грошай — на штогадовую імшу па душы маёй, рэшту — жабракам, а вопратку маю кату не аддаваць, як то звычай кажа, а спаліць, а кату заплаціць за яе во гэтымі грашыма, на якія я зараз плюнуў») і прабавіць з вязнем апошні вечар, перад тым як адыдзе ён да сну або думак.

...Хрыстос сядзеў на ложку голы да пояса, накінуўшы толькі сабе на плечы плашч. Ён зарос, шчокі праваліліся, на грудзях былі чырвоныя плямы. Гля-

дзеў іранічна на Лотра, які добрую гадзіну кленчыў ля яго і вось цяпер апошні раз талдычыў сваю прапанову:

— І яшчэ раз кажу, што літасці маці-царквы няма мяжы, што і табе яна не хоча адмовіць у суцяшэнні. Табе, ілжэ-Хрысту.

— А я шкадую аб тым, што звалілася на мяне гэтая імя, можа, больш за вас.

— Гэта чаму? — узрадаваўся Лотр.

— А так. Якія б мае намеры ні былі — я імем сваім шкоду прынёс. Марную надзею ў сэрцах пасяліў. Маўляў, не толькі ў душах, маўляў, і на небе можа быці дабрыня.

— Вось бачыш, мы яе табе і нясём.

— Кінь. Сам жа ты ў гэта ані храна не верыш. Іначай, не было б такім паскудствам жыццё тваё... Ну перад кім я спавядацца буду? Чаго, з чыіх рук прычашчуся? Што, мала было людзей, якім вы ў аблатцы яд падавалі? Чаго ж бог глядзеў? Зрабіў бы, каб у гэтым пачастунку яд знік. Га?

— Развязаў язык,— сказаў Жаба.— На прэнгу дык маўчаў.

— А мы з табой розныя людзі. Ты, для прыкладу, на прэнгу такія б прамовы ды крыкі закатваў, што д'яблаў бы ў пекле вараціла, а тут бы маўчаў, як ёлуп, бо ты ў разумнай бяседзе і двух словаў не звяжаш, асляк.

— Братчык...— Лотр відавочна чакаў адказу.

— Не марнуй ты, куме, каштоўных сілаў,— сказаў Хрыстос.— Прыдадуцца ў доме распусты. Ну ты ж ведаеш мае думкі. І на цямніцах вашых пячаць сатаны, і прычасць ваша — прычасць сатаны, і дабрыня — дабрыня сатаны. І ўвогуле, чаго ж гэта бог, калі ён ужо такі боскі, цямніцы дзеля добрых церпіць? А калі ён злы, то нашто ён?

Лотр развёў рукамі. Пасля ён і Жаба выйшлі, пакінуўшы Юстына ў цэлі.

— Непатрэбна мне суцяшэнне,— ужо іншым тонам сказаў Хрыстос.— І прычасць з брудных рук. Голы чалавек на зямлі без чалавека. І нашто яму багі?

Святцільнік кідаў чырвонае святло на выснажаны твар Хрыста і шырокае, пасечанае шнарамі, Юстынава аблічча. Стаяў пачатак месяца верасоў, і праз краты павявала аднекуль з-за замка, з-за Нёмана, цеплынёй і мёдам.

— Ты ведаеш, што цябе спаляць? — глуха спытаў Юстын.

— Н-не,— голас на імгненне асекся.— Думаў, шыбеніца.

— Спаляць. Калі войт паўторыць на эшафоце словы аб вогнішчы. Калі нешта яму перашкодзіць — знойдуць іншы сродак.

— Няхай,— сказаў Хрыстос.

— Баішся? — дапытліва сказаў бурмістр.

— Ясна — баюся. Але ж хаця б я парадзіхаю галасіў — нічога не зменіцца.

— Я загадаю класці сырыя дровы. Каб страціў прытомнасць да агню,— буркнуў Юстын.

— Дзякуй.

Панавала няёмкае маўчанне. І раптам Юстын са скрухаю крэкнуў:

— Казаў жа я табе, нядоўга гэта будзе. Чаго ты мяне жывога пакінуў? Каб сумленне балела? Раней-шы я, ранейшы... Нічога ні ты і ніхто іншы не зробяць з людзей.

— А ты не ранейшы.

— Няхай так. Мне ад гэтага не лягчэй, калі чалавек менавіта такая свіння, як я і думаў.

Хрыстос глядзеў і глядзеў Юстыну ў вочы. Жудасныя гэта былі вочы. Усё яны бачылі: вайну, інтрыгі, сутычкі, распусту, яд і вераломства. Усяму на свеце яны ведалі цану. Але, відаць, не ўсяму, таму што бурмістр не вытрымаў і апусціў галаву.

— Разумееш, Юстын,— сказаў Братчык,— быў і я накшталт бязгрэшнага анёла. Глядзеў на ўсё цялячымі вачыма і ўсміхаўся ўсяму. Не разумеў. Пасля махляром быў. Такой свінnёй мяне зрабілі,— ды не, і сам сябе зрабіў! — успомніць страшна. Бог ты мой, якія бязодні, якое пекла я прайшоў! Але цяпер я в е д а ю. Гляджу на неба, на зоры, так, як і раней глядзеў, але толькі ўсё памятаю, усё ведаю. І в е д а н н я свайго ніколі не аддам.

Памаўчаў.

— Думаеш, я адзін так?

— Не, не думаю,— з цяжкасцю выціснўў бурмістр.

— Бачыш? Нараджаецца на гэтай цвердзі новая парода людзей. З веданнем і чысцінёй думак. Што ты з імі зробіш? Знішчыш хіба? І тое не дапаможа.

Памяць... памяць аб іх куды дзенеш? Вось Іуда. Тумаш, Кляонік, сотні іншых... Дый ты робіш першы крок.

— Позна. Стары я. Віны зашмат на мне.

— Не ва ўсім вы вінаватыя. Іншага не бачылі. Часіны быдла. Саборы, як дыямент, халупы, як гной. Ды толькі ў гэтым гноі нараджаецца золата душ. А ў алмазных саборах — дзярмо. На тым стаім. Ды толькі ўбачаць людзі. Заззяе святло ісціны.

Бурмістр хрыпата, бязгучна засмяяўся. Падстрыжаны пад гаршчок цень калаціўся за ім. Ды толькі смех не быў падобны на смех:

— Гэх, браце, што ёсць ісціна? Бачыш, Пілата паўтараю. Толькі сучаснага Пілата, які памудрэў трохі. Няма такой ісціны, якой нельга не загадзіць, запаскудзіць. І яны загадзілі іх. Усе да адной.

— Хіба ісціна з гэтай прычыны перастала быць ісцінай?.. Не забі.

— А калі за веру, за бацькаўшчыну, за ўладара?.. А ноч «крыжоў»? А распяцці на лідскай дарозе? — Твар у бурмістра быў страшны.

— Не любадзейнічай.

— Эг-ге. Не паграшыш — не пакаешся... У ложкі іхнія зірні... Толькі кажуць аб чысціні нораваў, аб маралі, а... Тфу!.. Ды яшчэ каб па згодзе — палова бяды. А то гвалтуюць, залежнасць скарыстоўваюць, грошы.

— Не ўкрадзі.

— А дзесяціна? А дань? А падаткі?

— Не сведчы лжыва.— Хрыстос гаварыў спакойна, нібы мацаючы душу субяседніка.

— А цябе як абвяшчалі?! А судзілі як?! А ўсе суды?!

— Любі бліжняга свайго,— сурова сказаў Юрась.

Юстын скочыў з месца:

— Любі?! — Вочы ягоныя вуголлямі гарэлі з-пад валасоў.— А гэта? — рука торкнула ў апёкі на Юрасёвых грудзях.— А тое?! — За акном, на абвугленых шыбеніцах віселі, пагойдваліся трупы.— Ты іх спаліць хацеў, а яны... А допыты? А эшафоты? Кожны дзень мы гэтую любоў ад начальных людзей княства бачым!

— А Чалавек? — ціха спытаў Юрась.

Запанавала маўчанне. Потым Юстын ціха сказаў:

— Божа мой, што ты юродзівы такі? Чалавек. Хто Чалавек? Хлебнік? Іллюк? Сляпыя гэтыя? Басяцкі?

— Не пра іх кажу. Пра цябе.

— Як пра мяне?

— Калі ты хлусню ў кожным запавеце бачыш — хто ж ты, як не чалавек? Калі разгледзеў за высокімі словамі бессаромную брахню — значыцца, чалавек. Калі прагнеш іншага і святога, хай сабе не ведаючы, дзе яно,— значыцца, ёсць жа Чалавек на Зямлі? Не толькі ваўкі. Не толькі звяры, паскуды і хлусы.

Юстын маўчаў.

— А пра тых — што сказаць. Вось таму, што яны штогадзінна забіваюць гэтую прагу іншага, прагу святога — адбярэцца ў іх праўда і дадзена будзе Чалавеку. Мабыць, няскора! Але ж адкуль ён народзіцца, Чалавек, калі ўсе мы зараз будзем таптаць у сабе ягоныя іскры?

— Значыцца...

— Значыцца, умацуйся ў мужнасці сваёй, сурова сей пасеў свой, не давай яго затаптаць, не спадзявайся, што лёгка аддадуць праўду. Чакай кожную хвіліну бойкі і плахі. Вось — вера. А іншай няма. Іншая вера — ад нячыстага, ад сатаны.

Стала так ціха, што чуць было, як звонка плёскае ў місу вада з рукамыйніка.

— Слухай,— Юстын раптам спаймаў Хрыстову руку.— Яшчэ перад судом гэтая... Магдаліна... угаворвала мяне, каб я... Я вагаўся. Што змянілася б ва ўсім гэтым свінстве? Але цяпер бачу: з самага пачатку не рабілі ў Гародні больш чорнай справы.— Ён заглядаў Юрасю ў вочы амаль умольна.— Слухай, уцякай. Слухай, я падрыхтую вазок. Выпушчу цябе. Скажу — узнёсся. Няхай чысты будзе канец маіх дзён.

Хрыстос жартам барнуў яго галавою:

— Гэх, Юсціне. І так ён у цябе будзе спакойны і чысты. Прапанаваў такое — лічы, што зрабіў. Толькі... не пайду я, не трэба мяне ратаваць. Дзякуй, Юстын.

— Але чаму, чаму?

— А таму,— пасур'ёзнеў вязень.— Часам мне здаецца — сатана не з неба зваліўся. Ён з зямлі прыйшоў. Яго цэрквы спарадзілі. Яго цары спарадзілі.

Ваяводы. Тысячаначальнікі. Нельга, каб сярод людзей жылі, чынілі сваю волю такія. Чым хутчэй яны знікнуць — тым лепей. Можа, мая смерць хаця на таўшчыню воласа наблізіць гэта.

Паклаў руку Юстыну на плячо:

— Ты не думай, я хараша памру. Кажуць, у такіх выпадках падыходзяць у шкарпэтках, адчыняюць нечакана дзверы і хапаюць у сне, каб не роў, не адбіваўся?

— Быв-ваюць і такія... Заг-гад.

— Загад для большага прыніжэння. Адзінае маё жаданне: гэтага не трэба. Ува ўсёй гэтай навалачы ногі будуць калаціцца больш, чым у мяне... Вось і ўсё... А заўтра ўсе яны запаляць мой агонь, якога ім не згасіць.

Ён убачыў, што ў Юстына між пальцаў рук, прыціснутых да аблічча, сплываюць, точацца слёзы.

— Кінь. Ты хацеў і мог памагчы. Ты не вінен ні ў чым. Ты не вінаваты, што я адмовіўся.

Юстын устаў. Занадта паспешліва. Пакрочыў да дзвярэй.

— Бывай,— ён кінуў гэта, нібы выплюнуў.— Прабач.

— Няма за што. Бывай. Дзякуй, Юстын.

Дзверы грукнулі, нібы іх зачыніў глухі ад нараджэння. Рэха загудзела пад скляпеннем цэлі. Змоўкнула.

## Раздзел LVI

## «ДА ЖЫВЁЛАЎ І ГАДАЎ...»

> Не капай другому ямы — сам увалішся ў ню.
>
> *Скарына*

> Мы пацалуем папу ў зад, таму што зад у папы, вядома, ёсць. Пра гэта сказана ў нашых дэкрэталіях. Калі ж ёсць папа — значыцца, у яго ёсць і зад. Калі б у свеце перасталі існаваць зады, значыць, не стала б і папы.
>
> *Рабле*

Ужо некалькі дзён хадзіў па вуліцах Гародні дзіўны чалавек. Галава і амаль усё аблічча абматаныя

суровай палатнінай. З-пад яе выглядаюць вока і адзін вус, тупы і кароткі. На плечы накінуты цёмны, грубага сукна плашч. Прыпол плашча ззаду ўзняты, відавочна, канцом мяча, што вісіць пад гэтым плашчом пры боку. Суконны сіні кітлік цеснаваты, як толькі не лузне на грудзях і плячах. На рукаве кітліка нашыты белы крыж.

Людзі адхіналіся ад яго на вуліцах, адступалі ўбок. Пайшла пасля «ночы крыжоў» і трымалася яшчэ некаторы час гэткая паршывая мода: не адпорваць знака крыжа і не здымаць павязак, як быццам невядома якое геройства рэзаць сонных і сячыся з заспетымі неспадзеўкі. Усе гнілыя фацэты фарсілі так.

Вось і гэты — па ўсім відаць — хвалько і забіяка, адарвірог. Рукі ледзь ад крыві адмыў, а ўжо вокам свідруе. Вусы абцяў (падсмаленыя, відаць, былі), варушыць імі. Меч пры боку, а сумлення ў душы чорт ма.

Каб гэтыя самыя людзі мелі магчымасць сачыць за дзіўным чалавекам на працягу цэлага дня, яны б здзівіліся яшчэ больш. Чалавек снедаў у якой-небудзь кепскай карчомцы, а пасля ішоў у нейкі касцёл (цэркваў пазбягаў), хрысціўся пад плашчом (справа налева), а пасля клаўся на падлозе крыжам і ляжаў так гадзінамі. Вочы ягоныя былі заплюшчаны, дыханне глыбокае. Страшэнна, відаць, перажываў чалавек нейкія свае грахі. І падумаць толькі, што нечы забойца, а такі набожны!

Дзе ён начаваў, ніхто не ведаў і не бачыў. Цалкам магчыма, што нідзе, бо ўначы рэдкія прахожыя часам таксама бачылі яго на вуліцах.

Людзі здзівіліся б яшчэ больш, каб даведаліся, што гэтага чалавека ўжо колькі дзён беспаспяхова шукаюць па ўсім наваколлі сокі і служкі доказнай інквізіцыі. Шукаюць, але не могуць нават падумаць, што ён тут, побач, у самым логаве. У чалавека не было страхі над галавою, і таму начамі ён хадзіў, і таму, будучы праваслаўным, хадзіў у касцёлы. У царкве, стоячы на нагах, не дужа разаспішся, а тут лёг крыжам і... Страшэнна зручная вера каталіцызм!

Чалавека звалі Багдан Роскаш, а падчас Хрыстовай эпапеі — Тумаш Няверны, званы Блізнюк.

Ён кружляў па горадзе, сам не ведаючы чаго.

Проста тут сядзеў Хрыстос, а Фама быў не з тых людзей, што кідаюць друга ў бядзе.

Тады, аглушаны ўдарам звона, ён амаль суткі праляжаў непрытомны пад кучай забітых латнікаў. Пасля неяк ачомаўся. На галаве ў яго была страшэнная, небывалай велічыні і афарбоўкі гуля, а чэрап гудзеў так, нібы ў ім святочна званілі тры Вялікія Зафеі. Ён убачыў заваленую целамі вуліцу, цвёрда сціснуў тоўстыя вусны. Зняў з забітага кітлік з белым крыжам, цеснаваты, узяў у манаха медны таўкач і засунуў яго за пояс. Падабраў меч і нечы кісцень.

Пасля здагадаўся, што пазнаць яго — дурная, нехітрая справа. Адпілаваў нажом канцы сваіх вусоў, гонару свайго, і спрэс забінтаваў галаву, пакінуўшы глядзець на свет толькі адно вока. Асцярожна абмінуў звон, спусціўся на вуліцу.

І вось некалькі дзён дарэмнага гойсання вакол замка, ратушы і зноў вакол замка. Фама ўтрапёна шукаў хоць маленькай магчымасці ўбачыць, прабрацца, памагчы. Ніводнай шчылінкі, ніводнага выпадку, ніводнай нагоды. Удзень і ўначы, удзень і ўначы. Так ходзіць ваўчыха вакол лесніčоўкі, у якой звязаныя ляжаць яе ваўчаняты. Ходзіць, пакуль не наторкнецца на стралу.

Шукаў ён і сяброў, з якімі можна было напасці на замак ці ратушу і, у горшым выпадку, загінуць. Шукаў, не думаючы аб тым, што і сябры не дурні, каб з'яўляцца ў горадзе з адкрытымі тварамі, а значыцца, ён не пазнае іх, як і сябры не пазнаюць яго. Часам ён упадаў у роспач, але ўсё адно хадзіў і шукаў. Хаця б маленькую зачэпку! Шчылінку!.. Бяссілле прыгнятала яго.

...Напярэдадні пакарання смерцю, за некалькі гадзін да размовы Юстына і Хрыста, яму пашанцавала, хаця і не так, як ён хацеў. Знясілены, зайшоў ён да карчмы і ўбачыў манаха-дамініканца. Той сядзеў і выпіваў, а каля ягонага локця ляжаў цыліндрычны скураны каўчэг-пенал, у якім носяць пергаментныя і папяровыя скруткі. Круглы твар манаха льсніўся, вочы былі масленыя. Ужо ўзяў.

Сам не ведаючы чаму, хутчэй за ўсё дзеля пенала (апошнія дні ўсё справаводства Гародні працавала на працэс аб паўстанні мужыцкага Хрыста, і ў пенале магло быць сёе-тое цікавае аб кімсьці з

паплечнікаў), Фама сеў непадалёку ад манаха.

— Сябра,— сказаў той,— ну і ўпрыгожылі ж яны цябе, гадаўцы.

— Не кажы. Як далі па галаве — аж я ўсіх пап, пачынаючы ад святога Дамаса і да нашага, да Льва, адначасова ўбачыў.

— Нічога,— суцешыў манах,— за ўсё ім рыгнецца. Убачаць заўтра, як гэтага іхняга антыхрыста, зрэбнага апостала, шарачковага папу прыпякуць.

І ён паляпаў далонню па пенале. Машынальна. Фама заказаў вялікі гляк гарэлкі і закуску. Пасунуўся бліжэй да дамініканца.

— За папу,— наліў яму Фама.

Выпілі. Закусілі свежага пасолу рыжычкамі.

— Папа наш — ого! — сказаў манах.— Я зрэў папу. Я цалаваў пантофлю папы.

— За пантофлю папы.

Выпілі. Закусілі вэнджанай гусяцінкай.

— Кажу табе — пантофлю я ў яго цалаваў. А і ручкі-ножкі расцалаваў бы. Таму што — леў.

— За ручкі, за ножкі, за тое, што леў.

Закусілі гарачым — румянымі калдунамі.

— Папа ўсё можа,— сказаў Тумаш.— Давай за тое, што папа ёсць, што ён усё можа.

— Не буду я піць за папу. Не магу.

Фама пахаладзеў. Размова пачынала смярдзець ерассю, а — праз яе — вогнішчам. Сярод гуляк маглі быць віжы. Ён жыва ўявіў, як пад'язджае пад дзверы карчмы «кошык для спаржы» і як яго валакуць туды, узяўшы пад белыя рукі, два здаравені ў аднолькавых плашчах.

— Г-гэта чаму?

— А ты мне наліць забыўся. Г-гы! Што, добра я пажартаваў?

— Тфу! Каб з табою павек так жартавалі... Ну дык за тое, што папа ўсё можа.— Лёгкі туманец хмелю ад гэтага жарту выветрыўся з Фамовай галавы.

— А і папа не ўсё можа,— занатурыўся манах.

— Як гэта не ўсё?

— А так. Папа, як і царква, літасцівы павінен быць. Асудзіць ён можа. А выканаць прысуд — дудкі. І кардынал так. Для выканання прысуду міранам справу перадаюць.

— Брэшаш!

— Я табе брахну. Вось тут,— манах паляпаў па пенале,— справа антыхрыста. Нясу, каб вот подпіс паставіў. Вогнішча. «Без праліцця».

— А як не паставіць?

— Чаго ж гэта ён не паставіць? Памрэ хіба або з'едзе.

— Г-га. Растлумачыў ты мне. Добра. Дык давай за літасць папы, за тое, што і ён не можа.

Выпілі. Падкусілі падсоленымі ядрамі арэхаў. Манах пачаў нешта расказваць. Гэта было цікавае, змястоўнае, доўгае апавяданне. Шкада толькі, што Фама амаль нічога ў ім не зразумеў.

— Ідувойта справе... Колькожна сядзець?.. Важліправа... Справеры... Антыхрыста — судзіць!.. Безпралікрві... Пекла... Галакрык! Д'ячэрці! Чэр'явалы!.. Сядзець — ані, спяшаюся. Павінныць паслухаднымі, вось, бо мы манахі. М-мы, братка!.. Дзяцалую. Пайду.

Ён устаў і, хістаючыся, пайшоў да дзвярэй. Фама разлічыўся і, стоячы ў дзвярах, глядзеў, як ідзе манах... Так Роскаш даведаўся, які лёс чакае Хрыста.

...Дамініканец прыйшоў да дома Жабы толькі гадзіны праз паўтары, трохі, відаць, працверазіўшыся дарогай, таму што падышоў да брамніка даволі прама і, працягваючы каўчэг-пенал, уладна кінуў з-пад капюшона:

— Ад святой службы да войта. Прыкласці руку.

Яго прапусцілі. Жаба сядзеў ля нязменных начовак, і фігуркі ўжо былі расстаўлены на дне. Пачцівы дзеяч займаўся сваёй улюбёнай гульнёй.

— Што перадае святая служба?

— Зрабіце ласку прыкласці руку.

— Пасля. Пасля,— сказаў Жаба.— Пазней падпішу. На Замкавую плошчу прывязу.

— Павешанне?

— Што вы, ойча. Ды тут і вогнішча мала.

Жаба пусціў ваду, і яна пачала заліваць — каторы ўжо раз — шчаслівую даліну. Манах з цікавасцю глядзеў на гэта.

— Да жывёлаў і гадаў,— сказаў Жаба.

— Гэта што такое? — спытаў манах.

— Спроба.— Войт глядзеў, як фігуркі варушаць рукамі над галавой.— Заўтра трэба хутчэй з гэтай лухтою, з гэтым вылюдкам роду чалавечага скон-

чыць. У мяне ўжо і людзі падрыхтаваныя. Пайду, адразу як дагарыць, па ваяводству з войскам. Чысціць трэба. Чысціць. Распусціліся. Брыду ў дзяржаве развялі. Вальнадумства. Здраднікі.

Узяў фігурку, паставіў на край начовак.

— Усё магу. Слухайся — уратуешся. Трымці — жыць будзеш. Непакорлівых бог ненавідзіць, я ненавіджу. Думаць — ані.

Твар ягоны скамянеў ад утрапёнай велічы.

— А людзей не шкада?

— Ты сказаў? — звярнуўся войт да фігуркі.— Мудрагеліш? Ад ілжэфілосафаў набраўся? Я пагублю цябе, чарвяк, разам з думкамі. На!

Кінуў фігурку ў ваду. Тая пускала бурбалкі.

— Не, не яна, гэта я,— сказаў манах.

— Ай-а, ойча. Так-са-ма па-даз-рона... Ды не, чаго шкадаваць. Калі з кожнай сотні гэтых людцаў дзесятак павесіць — астатнія цішэй будуць.

— Рацыя,— сказаў дамініканец.

— Дык благаславі ж на ачышчэнне зямлі ад брыдоты.

Манах адкінуў капюшон. Жаба ўзняў вочы і аслупянеў, убачыўшы твар Фамы.

— Ну вось,— сказаў шляхціц.— Бяры пяро.

— Я табе...

— Слухай, войт, я табе не лялька, я табе не глiняшка. Роскашы жартаваць не любяць, і ты мне не Піліп Македонскі, выскачка ты, свінапас, халуй кепскага роду, тхароў тата...

— Як смееш?

— Ты, мабыць, спадзяешся да Цэзара дарасці. Дык не дарасцеш. Па-першае, таму, што ты — сала дурное, а па-другое, таму, што, калі ты зараз не падпішаш, я табе, гэткаму Карле Вялікаму, заганю ногі менавіта ў тое месца, якім ты думаеш...

Войт узяў пяро.

— Пішы: «Уладаю войта забараняю страту агнём. Апошняе маё слова».

Жаба напісаў, усміхнуўся:

— Дурань ты, Фама, хто ж мне перашкодзіць пасля перапісаць?

— Я,— сказаў Роскаш.— Я перашкоджу. Я благаслаўляю цябе на ўсю астачу твайго жыцця.

Войт Цыкмун Жаба не паспеў крыкнуць. Фама

з маху ўдарыў яго медным таўкачом па галаве:
— Бласлаўляецца раб божы.

Справай хвіліны было б пайсці. Але Роскаша нешта мучыла, нечага было шкада. Раптам ён зразумеў, чаго шкада. Выграб з вады домікі, фігуркі, палацы — усё, што стаяла на дне вялізных начовак. Пасля кінуў туды цела войта і мацней пусціў ваду:
— Да жывёлаў і гадаў.

Праз некаторы час ён адшукаў на задворках, у гусцейшых лопухах, лебядзе і дудках, мёртвап'янае цела дамініканца. Скінуў з сябе расу і паклаў яму пад галаву. Пасля пабудзіў, моцна расціраючы п'янаму вушы.

— Дапіўся,— з дакорам сказаў Фама, калі дамініканец спуджана ўскінуўся.

— Бацюхны,— жахнуўся той.— Сонца ж высока! Калі ж да войта?

— Я і кажу, што дапіўся. Ты што, забыў? Былі ж мы ў войта. Добра, што я цябе не кінуў, што сувой нёс. Згубіў бы недзе.

— Не можа быць.

— Глядзі, подпіс.

— Дзіўна,— сказаў манах.— Не згадзіўся на вогнішча... Ніч-чога не помню.

— Дзіва што. Ты хаця памятаеш, што ты рабіў?

— Н-не.

— Біцца лез. Цалаваў. Хапаў.

— Каго?

— Ды ўжо ж не войта.

— Няўжо дачку ягоную?

— Што ты, ты ж маленькіх шкадуеш.

— Ж-жонку,— абмякнуў дамініканец.— Што ж будзе?

— Нічога не будзе. Угаварыў я войта. Дый напалохаў трохі. Сказаў, што ты ў святой службе нават за Басяцкім сочыш. Цяпер табе толькі маўчаць трэба.

— Братка... Ты маўчы... Калі ласка!

— Я — магіла... А пасля яшчэ мадней было. Хацеў ты сесці проста пад распяццем на Ростані. Ледзь завалок цябе сюды. А ты — распранацца. «Марыля,— кажаш,— хадзі пад бок».

Дамінікавец замыкаў, трымаючыся за галаву і хістаючыся.

— Ну, я і падумаў, што лепей, калі ты трохі паспіш. Выседзеў над табою, прасачыў, каб не абакралі.

— Братка, век бога маліць... Гэта ж падумаць, сувой бы згубіў!

— Нічога,— сказаў Фама.— З кім не бывае. У мяне дык аднойчы горш было.

— Сябра, маўчы... Я гэтай га́ры цяпер...

— Дарэмна,— сказаў Фама.— Гэта толькі ўцягвацца не трэба, а ўжо як уцягнуўся — нішто. Хадзем, паправім галаву дый разыдземся. Спяшайся, брацe.

Яны выпілі яшчэ па чарцы і разышліся, задаволеныя адзін адным. Манах панёс пенал з паперай, Фама пайшоў блукаць вакол замка. Сэрца ягонае плакала. Памілаванню, падпісанаму войтам, не паверыў бы ніхто. І адзінае, чаго ён, Фама, дамогся, што ён здолеў зрабіць, было збаўленне сябра ад залішніх пакут. Збаўленне ад самага пакутлівага пакарання. Пакарання агнём.

## Раздзел LVII

## «І ЎБАЧЫЎ Я НОВАЕ НЕБА І НОВУЮ ЗЯМЛЮ»

І ўбачыў я новае неба і новую зямлю; бо ранейшае неба і ранейшая зямля зніклі.

*Апакаліпсіс, гл. 21, ст. 1*

У цемры прабівалася праз краты дымнае святло месяца. І ён спаў, і клубіўся дым заўтрашняга — не, сённяшняга ўжо — вогнішча ў конусе святла. І за ім прыйшлі і адвялі яго на касцёр бярвенняў. Прывязалі шэсць разоў, як то належыць, перахапілі за шыю ланцугом, і шуганула ў неба чырвонае полымя. Да зоркі, што мігцела сямю колерамі, да груганоў, што крычалі над шпілямі.

Яно лізала ногі і дабіралася да шырокіх светлых вачэй.

І ён сканаў.

І вось у дыме ці то вогнішча, ці то месяца зляцелі

ўніз, да яго, анёлкі з калчанамі. Падхапілі Хрыста пад рукі і ўзвіліся ўгору. Ён імчаў і здзіўляўся толькі, як гэткія дзіцячыя, тоўстыя, як ніткамі перацягнутыя, ручкі могуць несці і не выпусціць яго.

Аблокі, аблокі ляцелі насустрач ім, наўскос і ўніз. Анёлкі, бліскаючы голымі задкамі, неслі Братчыка пад рукі, і знікла далёка пад імі зямля.

І ўстала наперадзе трайная вясёлка, на якой зіхацелі літары:

«НЯБЕСНЫ ЕРУСАЛІМ»

Клубіліся белыя, як снегавыя горы, але цёплыя, валакністыя аблокі. За весніцамі Нябеснага Ерусаліма, на воблачным паплаўцы — праз аблокі прараслі кветачкі, рамонкі і васількі — весяліўся хор анёлаў. Вадзілі карагод і гралі на цымбалах і скрыпках. Усе анёлы былі з крыламі, у чапурных і шыкоўных чугах і світках, нагавіцах добрага шарачку, моцных поршнях. Паміж імі было шмат гожых жанчын у аксамітных і ядвабных кабатах, з караблікамі на галовах. Крылы іхнія былі багата вышываныя. Яны скакалі, памахваючы пальмавымі галінамі, як хустачкамі.

— Гэй, каго гэта вы валачэце? — меладычна крычалі яны.

— Хрыста.

— Памагай бог!

— Казаў бог, каб ты дапамог! — смяяліся тыя, што неслі.

Усё хутчэй і хутчэй узносіўся Хрыстос. І ўсё мацней гучаў насустрач яму ў лікаванні і ўрачыстасці харал. Чамусьці «Алілуя» Джонсана[1].

Яны праляцелі праз вясёлку. Стаялі на аблоках чыстыя раскошныя хаты з буслянкамі на стрэхах. Буслы стаялі ў іх на адной назе і ляскалі дзюбамі ў такт хaskaralу. Адрыны, хлявы, павеці і вазоўні — усё было ў парадку, усё дагледжанае і ладнае, на вякі.

На аблочных дварах, зарослых душыстымі рамон-

---

[1] Урэшце, як гэта «чамусьці»? Вось я прапаную ў якасці цудоўнай новай тэмы для багасловаў сваю геніяльную здагадку: уся зямная музыка, нават канкрэтная, да свайго стварэння на зямлі існавала на нябёсах і, па выбару, укладалася ў чалавека, як праграма ў біялагічнага робата. Учора Бах, сёння Эльвін Прыслі.

камі, вясёлыя дзеці гулялі ў «піва». Каціліся па аблоках, як па ваце, з клуба на клуб. Басаногі пастушок гнаў па хмарах сытых кароў з прыўкраснымі вачыма.

На самай высокай, сляпуча белай хмары стаяла хата з дзвюх састаўленых пяцісценак. І пры ёй таксама было ўсё, чаму трэба быць пры гаспадарлівай беларускай хаце: і хлявы, і адрына, і лазня.

На парозе хаты, падклаўшы рукі пад азадак, сядзеў і адпачываў пасля працоўнага дня самавіты бог Саваоф, трохі падобны да сівавусага. Анёлкі апусцілі Хрыста перад ім.

— Вось, бацька, прынеслі.

— Добра, хлопцы... Заўтра трохі раней пабуджу. У Заэдэм'і скарадзіць трэба, пырнік з аблокаў так і лезе. Скажы ты, халера, ладу з ім ніяк не давядзеш, як з зямлі завезлі з гноем. Скарадзіць, хлопцы! Зноў жа, нектар з амбразіяй несабраныя. Ну, ідзіце, пакуль тое, выпіце там.

— Дзень добры,— сказаў Хрыстос.

— Здароў,— сказаў бог.— Заходзь у хату.

— А я ў цябе не верыў, ойча.

— І правільна рабіў. Гэта ж як сон. Сон тых, хто пакутуе. Хто гіне, як ты.

Зайшлі ў хату, выцершы ад аблок ногі на смугчастым хадніку. Памылі рукі пад гліняным рукамыйнікам. Марыя, вельмі падобная на Анею і Магдаліну, разам узятых, кланялася нізка:

— Заходзь, госцейка, заходзь, родненькі. А вось жа і думала, што добры чалавек зойдзе. Мыйся, частаваць зараз буду, хуценька. А што гэта за госцейка такі даражэнькі?

У хаце ўсё было багата. Вышываныя ручнікі, габляваная падлога. На паліцах — паліваныя місы, цэлых дваццаць штук. Белая печка з дзесяткамі выступаў і ніш, размаляваная кветкамі і грывастымі конямі. На дубовым стале, на суровым ільняным абрусе — «удовы» ў выглядзе абаранкаў з траўнічкамі, ягаднымі водамі і, мяркуючы па водары, з кмяноўкай, высыпаная вяленая рыба, вогнедышныя ракі, пасыпаныя зялёным кропам, чорны хлеб, печаны на кляновых лісцях, каўбаса, выкалупаная са збана, дзе ляжала яна і зберагалася ў топленым халодным сале. Тут жа гуркі салоныя і гуркі свежыя, а пры іх мёд, рэдзька ў смятане, белы сыр, клятчасты ад

радзіны, у якую быў загорнуты, мочаныя яблыкі і шмат-шмат чаго яшчэ. Саваоф разбіраў нажом бліскуча-карычневую тушку вэнджанай гусі. Хрыстос сядзеў на покуці і глядзеў на ўсё гэтае багацце.

— Гэта вы ўсе так ясцё?

— Эге ж.

— Па святах?

— Чаму? Кожны дзень. Дый ты ж хацеў гэтага для людзей.

— Хацеў. Не верыў, што будзе скора.

— Бу-удзе.

Саваоф дастаў з-пад лавы «бусла». Усміхнуўся:

— Бач, зноў адліла трохі ў белае цеста. Гэта ж гэткі прадукт зглуміць!

— А хопіць вам заліць вочы,— удавана злуючыся, сказала Марыя.— Гэта ж, бач, хаваюцца за бутэлькай гэтай, як зайцы за пнём, дык яшчэ мала гэтага ім. До! Траўнічкам дап'еце. Частуйся, госцейка. Каб ужо і сыты і п'яны. Усяго хопіць. Усё ў нас ёсць. Унь як Мікола святы прыходзіць з жонкаю, дык жонка ідзе і саначкі за сабою ў госці цягне. Загадзя. Каб, значыцца, дадому пасля адвезці... А цябе і напоім, і пакладзём, і, як па звычаю беларускаму належыць, у ложак яшчэ чарку табе прынясу.

— Во, забалаболіла,— з любоўю сказаў Саваоф.— Чуеш, кум? Ды ты не таранці, Марыля. Ты капусту падавай... Ну, з прыбыццём, сынок.

Выпілі. Перахапіла дых. Сталі закусваць. Марыля прынесла гарачы гаршчок.

— Пад'еш, бацюхна, удосталь.

— Ану, пад капусту.

Яны елі. Марыля падлівала, падкладвала, рассцілала на Юрасевых каленях ручнік, глядзела на яго гаротна, падшыбіўшыся рукою.

— Расказвай,— сказаў трохі пасля Саваоф.— Як там на маёй зямлі беларускай? Сам ведаю, паскудна так, што горай быць не можа, дзякуючы лютым пастырам гэтым, але ты расказвай, кажы.

І Хрыстос расказаў. Пра ўсё. Пра голад і кругельствы, пра ашуканства, прыгнёт, подласць, ханжаства і забойствы сумленных. Пра справу веры і святую службу, пра дзікае прыніжэнне годных і заціскание рота, пра бессаромную ліслівасць і высокую мужнасць, пра ярасць і мяцеж, пра дзікі боль і вы-

сокую журбу, пра ўсё, аб чым мы ўжо ведаем.

...Плакала Марыля, калі ён скончыў, а сам ён сядзеў, закрыўшы далонямі твар.

Саваоф высмаркаўся ў белую анучку, паківаў галавою, наліў Хрысту гарэлку замест чаркі ў здаравенны кубак і сказаў глуха:

— Выпі. Табе цяпер во гэтак і трэба лупянуць. Зап'еш тут ад такога жыцця. Выпі. Плюнь, сынок. Ну што ты з імі зробіш, калі яны там на зямлі дурні, чакушы ашалелыя. Маладыя яны яшчэ, людзі. Дурныя, пакуль тое.

— Дык што ж, і за такіх гінуць?

— Выпі... Выпіў?.. І за такіх, сынок... І за такіх, якія яны будуць.

— Якія?

— Глядзі.

І Саваоф шырока расчыніў акно.

У разрывах аблокаў усё часцей і часцей відаць было зямлю. І вось уся яна адкрылася вачам. У аквамарыне акіянаў, дзе плавалі добрыя рыбы, у зелені пушч, дзе, нечапаныя, непалоханыя, хадзілі алені і мірныя зубры.

У золаце ніў і плаціне паўночных рэк, у срэбнай белі бясконцых садоў.

Буслы лунаі над багатымі вёскамі, і кожная вёска была, як пахучы букет. Зямля, уся прыбраная, чыстая да таго, што на ёй немагчыма было знайсці аніводнай сувалакі пырніку, дагледжаная да таго, што яе можна было абысці босаму, нідзе не парэзаўшы ног, гэтая зямля дымела ад сытасці і задаволення, на вачах гонячы ўгору злакі і дрэвы. Залатыя пчолы жундзелі ў шатах ліп. Паўсюль былі дастатак і заможнасць, паўсюль — сляды бясконца прыкладзеных да справы чалавечых рук.

І вось з'явілася перад вачыма Братчыка тая зямля, па якой ён хадзіў і з якой прыйшоў. Ён пазнаў некаторыя старыя будынкі, старанна дагледжаныя, непарушна захаваныя людзьмі. І зямля гэтая была прыўкрасная, як і тады, але замест хат, падобных на хлявы, узніклі будыніны са смалістай сасны і каменя, і новае паўсюль віравала жыццё. Яна была прыгажэй за ўсё, што ён бачыў праз аблокі. Вялізныя каровы, якіх ніхто не забіваў, мірна жавалі жвачку і пахнулі малаком. Коні, якіх ніхто не біў, хадзілі па

густа-зялёных паплавах і глядзелі на свет чалавечымі вачыма, людзі, якіх ніхто не падманваў, не рабаваў і не крыўдзіў, працавалі на палях і спявалі.

Гарады былі — дзіва дасканаласці, і нават сярод палёў сям-там стаялі блакітныя, дзіўнай прыгажосці палацы і вежы.

Абдзёртая і няшчасная пры ім, абрабаваная ваяводамі і войтамі і драпежнымі набегамі чужынцаў, яна зараз распасціралася перад ім у нятленным ззянні вечнай красы. Мудрая, працавітая, багатая, улюбёная. Радзіма!

І гучалі на ёй песні, і далятаі з яе галасы. Гучала, як музыка, пяшчотная і цвёрдая, прыўкрасная, вечная, неўміручая беларуская мова.

І мужыцкі Хрыстос заплакаў. І слёзы пакаціліся па ягоных шчаках. А над ім легкаважна, з разлёту круцячыся цераз галаву, званілі, меладычна смяяліся, лікавалі званы.

Проста над галавою чалавека, які спаў і плакаў у сне, прагучаў дзікі ўдар у бок лянівага і непарушнага замкавага звона. Звярыны рык, роў дэмана, якога катуюць. Здрыганулася зямля.

Яшчэ ўдар... Яшчэ... Яшчэ...

## Раздзел LVIII

## «РАСПНІ ЯГО!»

Слухаючы гэта, яны рваліся сэрцамі сваімі і скрыгаталі на яго зубамі.

*Дзеянні, гл. 7, ст. 54*

Забіты ляжыць сярод поля
Правадыр гэтай раці — Хрыстос.

*Генры Лангфэла*

Раўлі званы. На вуліцах густа варушыўся народ. Неба было сіняе і надзвычай спякотнае для верасня, з навальнічнымі хмарамі на даляглядзе. Здавалася, што на кароткі час вярнуўся ліпень. Над Нёманам, над Замкавай гарой, над Зітхальным гарбом, над усёй Гародняй плылі і плылі срэбныя павуціны.

Камедыю добра арганізавалі і толькі што не адрэпеціравалі. Кашпар Бекеш, які толькі два дні як

прыехаў з вёскі і не бачыў усяго, што адбывалася ў Гародні, распытаўшы аб падзеях і паназіраўшы за падрыхтоўкаю, толькі і сказаў:

— Стараюцца. Са скуры вон лезуць. Гэта ж ганьба, калі атрымаецца горш, чым у Ерусаліме калісьці. Дык там дзікуны былі, а тут... проста мярзотнікі.

Святая служба сапраўды лезла са скуры. Яшчэ раніцай Юрася прывезлі з радавай турмы на Падол, на бераг Нёмана. Менавіта адсюль ён павінен быў падымацца Узвозам да замка, на Уздыхальню. Па ўсёй гэтай дарозе двума ланцугамі стаяла закутая ў сталь варта. Людзей у лахманах паўсюль адцяснілі далей, да сцен дамоў, у двары і нішы. За спінамі латнікаў стаялі людзі, апранутыя ў аксаміт і дарагі фалендыш, буркацель і парчу. Зіхацела багатая зброя, вясёлкавыя паясы, пальчаткі тонкай скуры, саф'ян абутку.

І гэта было добра. Трэба было паказаць усім такі выбух народнага гневу, каб зрабілася ясна: паўтарэння Хрыстовай гісторыі ў Гародні не будзе.

Дзеля Хрыста збілі вялізны сасновы крыж, які ён меўся зацягнуць на Зітхальню. Ён павінен быў ісці першым, і з ім толькі два вартаўнікі з кордамі пры боку, з бізунамі ў руках. Астатнія ўдзельнікі працэсіі павінны былі ісці сажнях у пяцідзесяці за імі, нібы даючы зразумець, што на больш блізкай адлегласці нават дыханне асуджанага можа апаганіць.

Першымі ў гэтай працэсіі ішлі дзеці нявіннага ўзросту, апранутыя анёламі; белыя, напаўпразрыстыя адзенні, наплоеныя валасы, крылы з вясёлкавай матэрыі і васковыя свечкі ў руках. За імі — пяцьдзесят дзяўчат з багатых сем'яў, таксама ў белым і таксама са свечкамі. Яны павінны былі ўсю дарогу спяваць адпраўныя малітвы. За дзяўчатамі ішлі манахі, апранутыя ў чорныя і белыя саваны з дзіркамі, прарэзанымі на месцы вачэй, а за імі крочылі латнікі.

Вышэйшае духавенства павінна было выйсці працэсіяй насустрач ужо каля самой Уздыхальні.

Крануліся з месца гадзін у дзевяць раніцы, але было ўжо нясцерпна горача. Увесь папярэдні дзень і ўсю ноч выспявала, відаць, ды так і не выспела навальніца. Пыл курэў пад нагамі, нябачныя былі ў святле сонца агеньчыкі над воскам свечак, блішчэла

сталь і медзь, калыхаліся крыжы ў руках манахаў, анёльскімі галасамі спявалі адпраўныя малітвы цнатліўкі.

Прачыталі ад імя суда прысуд, у якім гаварылася пра здзек з царквы і замах рачонага Хрыста на сапраўдную веру, пра тое, што рачонага Хрыста магістрат, якому царква таго Хрыста аддала, прысудзіў (пры адным праціўніку, бурмістру Юстыну) пакараць, з хлуслівым сваім крыжам, літасціва і без праліцця крыві.

Латнік шліхтануў Юрася бізуном, каб лепей запомніў.

— Ясна,— сказаў той, ускідваючы на плячо цяжкі крыж.— Чаго б яны яшчэ пралілі? Кроў яны выпілі даўно, і з мяне, і з людзей.

І пайшоў па Узвозе ўгору. Вельмі-вельмі павольна. Цяжка было, дый спяшацца не было прычыны.

Лотр яшчэ гадзіну таму даслаў да Жабы ганца. Ля Уздыхальні ўжо два дні назад быў падрыхтаваны касцёр дроў і слуп, і паводзіны войта, які адмовіўся змацаваць скарыстанне вогнішча сваім подпісам, выглядалі, па меншай меры, дзіўна. Трэба было даведацца, што гэта азначае, і, калі войт падпісваў канфірмацыю п'яны, дабіцца, каб закрэсліў свой подпіс і вярнуўся да старой сваёй прапановы, да кары агнём.

Кардынал стаяў на замкавым гульбішчы разам з Басяцкім, Камаром і свецкімі ўладамі, чакаў, слухаў, як далятаюць ад Нёмана анёльскія спевы, і глядзеў, як паўсюль — на вежах, на дахах, на мурах, на шпілях, у вокнах і на брамных кратах — стаіць, вісіць, туліцца, гамоніць, варушыцца народ.

А па Узвозе паўзла і паўзла ўгору стракатая і пыльная ўжо змяя працэсіі. Братчыку было пакутна цяжка ісці. Сонца паліла, ногі вязнулі ў пыле і пяску, якія былі за лета стакрот перамяшаныя нагамі, коламі грузавых павозак, капытамі коней. Увесь гандаль Гародні праплываў ад караблёў да складаў і ад складаў да караблёў гэтай дарогай. На ўвесь гэты гандаль ён, Юрась, і замахнуўся, ім быў прададзены.

Цяжка ісці. Пот лье з ілба. Каб уторкнулі ў рот заткала, як прапаноўвалі, не ўзышоў бы. Гэта і прымусіла іх адмовіцца. Гэта і яшчэ тое, што добра арга-

нізаваны «справядлівы гнеў народны» заглушыць любыя ягоныя словы, каб нават і ўздумаў кідаць іх людзям. Цяжка! Вялізны крыж гне амаль напалам. Вось і канец камедыі, на ўдзел у якой яго сілком штурхнулі некалькі месяцаў назад.

Якраз у гэты час да гульбішча падляцеў ганец, скочыў з каня, узбег па сходах, пачаў шаптаць нешта на вуха Лотру.

— Хто? — пабарвавеў той.

— Невядома. Раніцай толькі і знайшлі. Не любіў ён, калі яго ад таго занятку адрывалі. Кажуць, манах нейкі заходзіў.

Лотр і Басяцкі глядзелі на натоўп. Манахаў пад капюшонамі там было сапраўды безліч і страшэнная сіла.

— Мо агледзець усіх? — ціха спытаў дамініканец.

— Ад вас, казалі, манах,— яшчэ цішэй сказаў ганец.

Пёс божы збялеў:

— Не-не... Не будзем... Гэтага яшчэ не хапала, каб думалі, што гэта я руку прыклаў. А мне нашто? Мне з ім зручна было. Болей ужо мы такога дурнога войта не знойдзем, не тым хай будзе памянуты нябожчык... Добра, ідзі.

Яны глядзелі б на натоўп яшчэ з большым страхам, каб ведалі, колькі сярод людзей у расах ілжэманахаў, якія не разумелі па-латыні і слова, ніколі не жылі ў келлях і не праходзілі пострыгу.

— Дык што ж,— сказаў Лотр.— Подпіс зменены не будзе. Вогнішча?

— Вогнішча нябожчык не ўхваліў. Шыбеніца.

Басяцкі ўсміхнуўся:

— Залёгка думаеце яго жыцця пазбавіць.

— Не ведаю іншых спосабаў, каб без праліцця крыві.

Мніх-каплан зашаптаў нешта яму на вуха. Лотр падціснуў вусны:

— Ці не будзе занадта падобна да таго? Небяспечнае падабенства. Прымхлівасць чалавечая толькі таго і чакае. Такія чуткі ды легенды пойдуць.

— Лухта. Затое застрашліва. І ці не горш за вогнішча. Тое што, найбольш гадзіна. А тут найменш суткі.

Кардынал маўчаў. І ўрэшце кіўнуў галавою. Адважыўся.

— Мяшчане славутага месца! Войт наш хуткім чынам памрэ. Але якая б вялікая ні была наша журба — упадаць у роспач мы не павінны. Нам належыць перамагчы свае сэрца і, спадзеючыся на волю божую, тварыць далей справу ягоную. Царква не лье крыві. Войт не згадзіўся на вогнішча, і мы павінны паважаць яго апошнюю волю. Але, калі не змацаваны пячаткаю ўлады агонь...

Над натоўпам вісела мёртвае маўчанне.

— ...хай вісіць гэта адроддзе пекла на хлуслівым сваім крыжы. Не прыбіты, як Збаўца наш, які выкупіў першародны грэх чалавечы (не, мы не будзем ганьбіць падабенствам смерці гэтага махляра вялікую смерць Езуса), а прывязаны, чым падоўжацца пакуты ягоныя ў выкупленне грахоў сваіх.

Ціхі плач узнік сярод лахманоў. Але роў захаплення заглушыў яго, і ніхто не пачуў, як ахнуў, пачуўшы гэта, адзін чалавек.

Чалавек гэты стаяў на кутняй вежы, што навісла над Нёманам. Проста пад ім, пад мурам і стромай, ішоў па Узвозе чалавек з крыжам на плячы.

— Дапамог.

На вежы акрамя чалавека стаялі яшчэ двое, якія таксама, відаць, здолелі сунуць у лапу кустоду вежы. Трохі наводдаль стаяў маўклівы, як статуя, манах у плашчы з капюшонам. А бліжэй шалеў ад захаплення, галасіў і ляпаў па плячах то чалавека, то манаха, нібы збіты са сваіх хлябоў, хлебнік.

— Распні яго! Распні! — Ён пляваў уніз.— Тфу на цябе! Тфу! Сабака! Ерэсіярх! У пекла пойдзеш, а я да пана бога. Тфу! Распні! Распні!

Чалавек крэкнуў, нагнуўся, нібыта каб паправіць рэмень поршня. І раптам жалезнай хваткай схапіў хлебніка за ногі, ірвануў і перакуліў цераз парапет. Хлебнік з крыкам паляцеў уніз.

— Бач ты, як ён да бога спяшаецца,— сказаў чалавек, з пагрозай гледзячы на манаха.

Але манах глядзеў не на яго, а на тое, як хлебнік грукнуўся аб зямлю, як падскочыла і пакацілася ўніз па схіле, стукаючыся аб камяні, ягонае цела, як яно нерухома ўпала на дарогу амаль ля Хрыстовых ног.

Хрыстос пераступіў цераз труп.

І тады манах высунуў з-пад плашча кісці рук. Рукі былі залатыя.

— Фама,— сказаў ён чалавеку з завязанай галавою.— Брат. Ты жывы?

— Вус,— голас Фамоў сарваўся.— І ты жывы? Гора якое. Ты нашто тут?

— Ды вось... можа, хаця цела ад ганьбавання ўратую.

Фама абняў яго. Рукі ягоныя калаціліся.

— Браце... Мілы... Пачакай... Мы двох... У мяне сілы ў сто разоў прыбыло. Мы яшчэ ім справім нештачка.

У натоўпе між тым нехта спытаў:

— Чаго гэта там крык?

— Ды вось, з вежы нехта зваліўся. Цікаўнасць усё.

— А-а.

Братчык стаў. Яго паспрабавалі былі падганяць бізунамі, але ён не рухаўся, глядзеў назад, на працэсію, якая цяпер была ўся як на далоні.

— Ты што? — вызверыўся вартавы.

— Змоўч, нікчэмнасць. Бач, які ў мяне эскорт ганаровы.— Ён цяжка дыхаў, але гаварыў з'едліва.— Табе такога за ўсё жыццё не заслужыць, як ні пніся. Манахі... У саванах... Кожны, як Лазар, калі ён, тры дні ў магіле пралежаўшы, прагуляцца выйшаў. І смярдзіць, як той Лазар. Мёртвыя. А можа, таму, што ўсё жыццё не мыюцца.

Пайшоў далей. Твар ягоны быў амаль ля зямлі, і кроў з рассечанай галавы падала ў пыл.

Перад самым пад'ёмам ён зноў спыніўся. Яму прыйшло ў галаву, што будзе і непрыгожа і ганебна, калі ён вось так, ніца схілены, амаль паўзучы, будзе ісці праз гэты разубраны, нахабна-сыты, варожы натоўп.

Хрыстос умацаваў ногі, напружыўся і ўскінуў крыж сабе на карак. Прытрымаў яго раскінутымі рукамі. Так насілі гакаўніцы разбойнікі і пастухі.

Выпрастаўся.

Пайшоў, вязнучы ў пяску.

Фама і Вус з жахам і шкадобай глядзелі на гэта. Пасля не стала сілы глядзець. Яны спусціліся з вежы і пачалі штурхацца праз натоўп.

— Бачыш, што ў мяне? — Фама паказаў Вусу схаваны пад плашчом лук.
— Эх, браце, нічога ты ім не зробіш, – уздыхнуў Ціхон.— Два нас. Толькі два.
Каб яны ведалі, колькі ў натоўпе замаскіраваных сяброў, іхні адчай саступіў бы месца цвёрдасці. Але яны да самага канца так і не даведаліся пра гэта.
Ішоў праз натоўп чалавек, на якім манашы плашч падазрона тапырыўся. І ў спіну гэтаму чалавеку буркнуў нейкі рамеснік:
— Манахаў яшчэ нанесла. Навалач. Навухаданосары.
І тады манах вярнуўся, узяў чалавека за руку і прыўзняў капюшон.
— Кірык! — ціха ахнуў рамеснік.— Жывы?
— Ціха, браце! Зброю маеш?
— Клявец пад плашчом.
— Старайся праціскацца да эшафота. Дзе больш за ўсё рас.
— Любыя, мілыя, няўжо нашы? Не кінеце?
Кірык Вястун, Марка Турай і Кляонік сапраўды не збіраліся кідаць на эшафоце свайго верхавода. Мала было надзеі адбіць яго. Ніхто не хацеў загадзя каркаць, але больш за ўсё было шансаў самім застацца на замкавым двары, палегчы пад мячамі варты.
Адзіны шанс давала нечаканасць нападу. Каваль за гэтыя дні здолеў сабраць сотні дзве ўзброеных людзей з «недабітых». Частка іх моцным кулаком стаяла паблізу Уздыхальні. Яны павінны былі ў належны момант напасці на варту каля эшафота, перабіць яе і, схапіўшы асуджанага, цягнуць яго да мура, які выходзіў на Нёман. На гэтым шляху, да самых муроў, стаялі два рады сваіх людзей. Калі справа пачнецца, яны напруць на натоўп і ачысцяць для ўцекачоў праход, каб ніхто не перашкаджаў, не блытаўся пад нагамі. За мурам, пад адхонам, чакаюць коні.
Застаецца, што праўда, яшчэ і мур. І вось тут, калі не спраўдзіцца разлік, усё будзе скончана. Тады толькі і застанецца, што ўчыніць сечу і загінуць.
Калі ж выпадзе адзінае з сотні ачко ўдачы — тады тыя, што стаяць зараз у расах, будуць гарлаць, біцца, усімі сродкамі арганізоўваць замяшанне, збян-

тэжанасць, паніку. Застрануць у браме, будуць замінаць варце, як мага адцягнуць момант пагоні, а пасля будуць рассейвацца па адным.

Здаецца, усё было падрыхтавана. Каваль прыжмуранымі вачыма агледзеў усё поле дзеяння і сваіх людзей на ім, уздыхнуў і пайшоў да эшафота. Праціснуўся да дваіх францысканцаў (гэта былі Марка і Кляонік), пацiснуў ім локці.

— Гатова. Будзем чакаць. Іуда з Анеяй дзе?

— Унь,— сказаў Марка.

— Ведаюць месца, дзе сыдземся?

— Ведаюць,— сказаў Кляонік.— Хутар Фаўстыны.

— Добра. Трымайцеся цвёрда, сябры.

...Чалавек з крыжам з'явіўся ў замкавай браме. І тут ужо не крык, а нясцерпны галас скалануў паветра. У замкавым двары, дзе можна будзе ўбачыць увесь каразн, з пачатку да канца, сабраліся найбольш знакамітыя, паважныя і багатыя.

— Распні яго! Распні!

Варта ледзь стрымлівала дрэўцамі гізаўраў натоўп, які лез, дзёрся, пляваў, віснуў, імкнучыся дацягнуцца і ўдарыць. І ў гэтым рыку зусім не чуваць было, як ціха плакалі людзі каля муроў.

Чулі гэта нямногія. У прыватнасці Кашпар Бекеш і Альбін-Рагвал-Алёйза Крыштофіч, якія стаялі на выступе кантрфорса, каля замкавага палаца. Бекеш нібы трохі пасталеў. Усё той самы меч у залатых піхвах, тая самая вытанчаная прыгажосць вопраткі, тая ж усмешка. Тыя самыя сонечна-залатыя валасы падаюць з-пад берэта. Але ў вялізных вачах, побач з трохі пагардлівай памяркоўнасцю — сталае, цяжкае разуменне.

— Разгул цёмных страсцей,— сказаў Крыштофіч.

— Усё трэба бачыць на свае вочы. Нават самазванцаў.

— Сядзеў бы лепей дома, канчаў свае «Развважанні аб розуме». Цудоўная можа быць кніга.

— Хачу бачыць. Нават пекла хацеў бы бачыць. Што з табой, брат Альбін?

— Я думаю, што мне давядзецца кінуць цябе, сынок. Не пазней чым заўтра я ўцякаю з горада. У Вільню.

— Чаму гэта?

— Глядзі,— Крыштофіч працягнуў руку.
Да чалавека з крыжам адусюль цягнуліся кулакі.
— Смерць! Смерць яму!
— Варта! Малайцы нашы! Сла-ава! З гэтымі не пабрыкаешся! Дудкі!
— Хай памрэ!
— Хай! Хай!
— Збавіцель! Выратавальнік! Выратуй самога сябе!
Бекеш перасмыкнуўся:
— Страшна.
— Таму мне і трэба ўцякаць. Бачыш, яны даспелі. Не сёння, дык заўтра возьмуцца і за нас. І гэтыя будуць памагаць і ўхваляць. Кажу табе, яны даспелі. Табе яшчэ можна некаторы час заставацца тут. А я абразіў Лотра. Гэты не забудзе, успомніць.
— Страшна,— сказаў Бекеш.— Я разумею цябе. Як бы і мне не давялося ўцякаць адсюль следам за табою.
— Чуеш? — спытаў Крыштофіч.
Нехта непадалёку ад іх філасофстваваў, б'ючы сябе кулакамі ў грудзі:
— Вось я веру. Яісцінна, глыбока веруючы. Але ж верхнія людзі, начальнікі, павінны пайсці мне насустрач, памагчы, раз і назаўсёды распарадзіцца, у што мне верыць.
— То ж бо,— сказаў Кашпару брат Альбін.— У Гародні нам больш няма дарогі, няма жыцця.
...У гэты момант камень ударыў Хрыста па галаве. Адразу за гэтым малады купчык падскочыў, кінуў прыгаршчу гразі. Братчык ірвануўся да яго, такі страшны, што купчык заверашчаў, кінуўся ад яго, упаў пад ногі натоўпу.
— То ж бо. Над пешым арлом і варона з калом.
Крычаў, наддзіраючыся, так, што глотка раздзімалася ад крыку, звераваты Іллюк:
— Распні!
Крычаў і не бачыў, што зусім побач з ім — непрыкметны шэры чалавек у світцы з доўгімі рукавамі. Глядзіць цьмянымі, нібыта невідушчымі, вачыма то на расстрыгу, то на Хрыста.
Шэры толькі што прыйшоў у Гародню. Хаваўся ад гневу Іллюка і святой службы, бо не выканаў даручэння. Але, дачуўшыся аб пакаранні смерцю, не

вытрымаў, прыйшоў. Цяпер яму было невымоўна брыдка. Ажывалі ў яго фанатычнай цёмнай душы нейкія вобразы, успаміны, параўнанні. Вось крычыць той, хто калісьці абыякава паслаў яго на смерць, і вось вядуць чалавека, якога не ўзяў ікол і які дараваў яму замах на сваё жыццё. Брыда гэта ўсё.

Шэры слухаў. Непадалёку ад яго ціха гаварылі мужчына — відаць па ўсім, іудзей — і жанчына. Пераапранутыя, але ён пазнаў іх. Яны тады былі з гэтым. Яму зусім не хацелася іх выдаваць.

— А я думаў — самы вялікі шум, гэта калі ў Слоніме размяркоўваюць даход кагала.— Вочы ў Раввуні падазрона блішчэлі.

— Маўчы, мілы.

— Я-та маўчу. Я крычу тым, што маўчу.

Голас быў такі, што шэры зморшчыўся. Паглядзеў на іх, на чалавека з крыжам, на Іллюка, які крычаў. І раптам усміхнуўся. Так, як тады, каля царквы, зайшоў бокам і на хвіліну прыліпнуў да расстрыгі. Рука непрыкметна слізганула ўгору.

І тут жа шэры пайшоў далей.

Яшчэ некалькі хвілін ніхто нічога не заўважаў. І толькі потым убачылі суседзі закінутую галаву і ашклянелыя вочы прарока.

Пасля ён упаў на спіну.

Шэры наводдаль задаволена хмыкнуў.

«Пад лапатку. Дзіваў не бывае. Бачыш, чалавек з крыжам, я не развучыўся. І цяпер лепей за ўсіх валодаю нажом. Як жа гэта я так схібіў з табою? Добра, што я схібіў з табою. Ледзь не забіў добрага чалавека. Вось бачыш, я трохі аддзячыў табе, добры чалавек».

Прыблізна той самай справай, што і шэры, займаліся Фама і Вус. Шукалі рыбніка. Таксама сведчыў на судзе. Ужо калі аднаго забілі, то і за другога той самы адказ. Урэшце Вус заўважыў яго наводдаль ад Уздыхальні, бліжэй да калідора, якім вялі Хрыста.

— Распні! Распні!..

Сябры пачалі ціснуцца да яго.

...Ад гульбішча плыло да Зітхальнага гарба шэсце. Вышняе духавенства. Раўлі глоткі, шыза плыў у сонечным святле дымок ладану, зіхацела парча. І над усім гэтым, вышэй за ўсё, плыла платформа з васковым, разубраным у золата Хрыстом.

Жывы ўзняў галаву:

— Гэй, братка! Гэй, васковы! Закінь там за жывога слоўца на басяцкім небе!

Крык быў страшны. У цішыні, што ўпала за ім, загагатаў нейкі багата апрануты юнак. Сівы сусед павучальна сказаў яму:

— Пачуўшы жарт — ніколі не рагачы першы. Невядома яшчэ, што за той жарт будзе.

Але рагаталі ўжо ўсе. Чырванелі твары, слёзы пырскалі з вачэй, успухалі жылы на лбах.

— Го-го-го, га-га-га, гы-гык!

— Інры, га! Вось дык інры!

— Забаўнік, га!

Хрыстос у гэты момант набліжаўся да Бекеша. Той трохі грэбліва, але памяркоўна глядзеў на абадранага, закіданага гразёй чалавека, які цягнуў крыж. У гэты момант Хрыстос узняў галаву, і вочы іхнія сустрэліся.

Плыло, плыло насустрач Каспару загаджанае, спаскуджанае, усё ў рагах крыві і гразі аблічча. І на гэтым аблічччы, што было падобнае на страшную, пачварную маску, ззялі светлыя, вялізныя, нібы ўвесь боль, усю зямлю і ўсё неба ўвабралі...

...Бекеш скалануўся.

Вочы.

Што было ў гэтых вачах, Бекеш не ведаў, не разумеў, не мог спасцігнуць. Слабы цень чагосьці такога жыў толькі ў вачах ягоных сяброў і — ён ведаў гэта — у яго самога. Але толькі слабы цень. Але толькі ў падобных ім, а больш ні ў каго на зямлі.

Што гэта было? Магчыма, Разуменне. Разуменне ўсіх і ўсяго. Тое, чым не валодае ніхто. А можа, і нешта другое. Бекеш не ведаў. Але, уражаны, ён увесь, да дна, здрыгануўся, нібыта зразумеўшы сябе, нібыта зразумеўшы многае, а на адно імгненне — усё.

Вочы!

Братчык глядзеў на прыўкраснага юнака ў берэце і разумеў, што з ім. Неперайма́льная, непараўнаная грымаса-ўсмешка перакрывіла ягоны твар.

Бекеш, амаль непрытомны, учапіўся пальцамі ў мур.

Вочы...

Шэсце мінула.

— Што з табой, Кашпар, сынок? — трывожна спытаў брат Альбін.

— Ты бачыў? Я ўпершыню ўбачыў яго так блізка. Альбін, мы памыляліся. Альбін, гэты чалавек не ашуканец, не махляр. Альбін, ён нават не самазванец. Ён мае права, чуеш? Гэта чалавек, Альбін. Такі, якім павінен быць чалавек. І вось гэтага чалавека забіваюць. Дзе праўда, Альбін? Дзе бог?

Ён нібы захлынаўся:

— Гэтыя вочы... Ты бачыў? І рагоча гэтае быдла. Рагоча... рагоча... ра-го-ча.— Ён ударыў сябе кулаком па галаве.— Як жа мы прамінулі яго? Як не падышлі? А ён пытаў пра вялікага маэстра? Закаранелі ў сабе. Чалавека не ўбачылі. Здрадзілі... Рагочуць. Нашто ж Дантэ жыў, Бацічэлі, Катул?! Нашто, калі дарэмныя ўсе мукі?!. Вочы... Гэта ж усё адно як... усяго Ча-ла-века тысячы год распінаюць! Святасць ягоную!.. А ён усю веліч і нізасць свету бачыць. А яго... Пане божа, гэта ж багахульства!!!

## Раздзел LIX

## ГАЛГОФА ЗАМКАВАЙ ГАРЫ

Ой, за ярам гара, за другім — гара,
А тая гара ды апошняя...
Каня вядуць. Конь спатыкаецца.
Маё сэрцайка ды разрываецца.

*Песня*

Братчыка падвялі да падножжа Уздыхальні і знялі з яго крыж.

Падаўшыся наперад, чакалі людзі Вестуна. Суровыя былі іхнія твары, змрочныя і рашучыя — іхнія вочы, але ніхто не бачыў гэтага за капюшонамі.

Крыж пацягнулі на вяршыню ўзгорка, дзе падручныя ката ўжо капалі яму. Ляцела адтуль і рассыпалася па схілах жоўтая зямля. Хрыстос стаяў і цяжка дыхаў. Вочы былі заплюшчаныя. Натоўп маўчаў. Калі смерць зусім блізка — нават у ворагаў з'яўляецца нейкае падабенства павагі.

Людзі стаялі так цесна, што каб нехта самлеў — ён так бы і астаўся стаяць на нагах. Суседзі не далі б упасці.

Рыбнік стаяў у гэтым натоўпе і рабіў дзіўную справу: трымаў у роце вялізнага вэнджанага ляшча. Вырачаныя вочы безуважна глядзелі некуды. Свідравалі натоўп, аддаляючыся ад гэтага месца, Ціхон Вус і Фама. Ухмыляліся злосна.

— Ты вось што...— сказаў Тумаш.— Як станем на зручнае месца, як падам знак — прыкрый мяне плашчом. Буду страляць...

— Фама,— сказаў Вус,— мучыцца як ён будзе, ты разумееш? Ты ўяві...

— Не,— кінуў Фама, здагадаўшыся, пра што кажа друг.— Не здолею. Не падымецца рука. На яго не падымецца рука... Але ўжо іншым...

— Ведаю. І ў мяне не паднялася б.

Нейкі стары, з цікаўных, тым часам усё заглядаў і заглядаў у твар рыбніку. Дужа здзіўляўся. І ўрэшце наважыўся, звярнуўся да дзіўнага суседа:

— Закусваеш, мілы? І смачна, пэўна?

Рыбнік маўчаў.

— Бачыце? — звярнуўся дзядуля да суседзяў.— Маўчыць, дзівак. Чаго маўчыш?

— Ды ён, мабыць, скана-аў! — здагадалася нейкая цётка.

Народ шарахнуўся, расціснуўшы кола. І тады рыбнік упаў. З маху. Усім целам.

— Папрацавалі,— буркнуў Фама.— І яшчэ папрацуем. Я б вось так цэлы дзень хадзіў і цюкаў. Вылюдак разумнее — мёртвы.

Яны прыткнуліся за адным з кантрфорсаў. Фама стаў за спіною Вуса. Проста перад імі была Уздыхальня, а трохі далей — гульбішча.

...Дыханне хрыпата вырывалася з горла ў асуджанага. Кроў і гразь капалі на адзенне, падсыхалі коркай на твары. Запалёныя вочы прыжмурваліся ад пякучага, нясцерпнага сонечнага святла. Нешта нібы молатам валіла ў вушы і чэрап. Плылі перад вачыма сляпуча-зялёныя і барвяныя колы. Бронзавазялёныя, вялізныя мухі круціліся над аблічам, над рассечанай галавой, каля парэпаных вуснаў.

Басяцкі на гульбішчы ўсміхнуўся. Ён быў вопытны. Ён бачыў, што Хрыстос, што вораг вось-вось упадзе.

— Гэй, ілжэ-Хрыстос! — крыкнуў ён.— Папі!

І кінуў з гульбішча біклагу. Вартавы спрытна

спаймаў яе ў паветры. Убачыў вочы Басяцкага і, з разуменнем справы, апусціў павекі.

— На,— працягнуў, не выпускаючы з рукі.

Юрась аблізнуў вусны. І тады вартавы хвастануў з біклагі яму ў твар. Братчык заплюшчыў вочы. З валасоў, з аблічча плыло, мяшаючыся з граззю і крывёю, чырвонае віно. Вусны Хрыстовы затрэсліся.

Бекеш глядзеў на гэта і сціскаў кулакі.

— Паршывыя свінні,— шаптаў ён.— Аксамітныя каты́. Кажаны. Якая брыда!

А вакол нарастаў і нарастаў рогат. Жарт спадабаўся лепшым людзям. Натоўп рагатаў. І толькі дзіця на руках у нейкай жанчыны надрывалася ў нячутным сярод рогату плачы.

Карніла глядзеў на дзіця. Нягледзячы ні на што, ён любіў дзяцей, бо яны былі зусім слабыя, і не мог выносіць, калі яны плачуць. Акрамя таго, ён шмат перажыў за апошні час. І вось ён стаяў і глядзеў, і нават староннямy воку было відаць, як нешта варочаецца за гэтым нізкім лобам.

Ён не сказаў ніводнага слова. Ён проста ўзяў вартавога сваёй страшнай ручышчай за шыю, трохі сціснуў і, без усякага выразу на абліччы, стукнуў лобам аб касцёр бярвенняў. Гэтага выявілася досыць: вартавы ляжаў нерухома. Карніла махнуў рукой і пайшоў да гульбішча.

Дзіўна, гэтая крыўда і гэты рогат нібы вярнулі Хрысту сілы. Хвіліна слабасці трывала нядоўга. Калі перасталі дрыжэць вусны, ён расплюшчыў вочы.

— Басяцкі! Лотр! Камар! — Голас гучаў хрыпата і шорхла і раптам нібы прарэзаўся, затрубіў, загрымеў: — Вы — антыхрысты! Вы — гніль! Я памру! Я выклікаю вас на суд божы. Месяца не пройдзе, як мы сустрэнемся. Месяца! Месяца! І тады будзеце піць сваю чашу вы!

Пагроза была жахлівая. Рогат нібы адсекла. І ў цішыні, што ўпала раптам, пачуўся меладычны кароткі гук, нібы нехта крануў струну.

— Пі,— шапнуў Фама.— Пі першы. Да гэтага жарту я хацеў — не цябе...

Гульбішча было зроблена па тым жа прынцыпе, што і канстанцінопальская кафізма; падлога ад глухой балюстрады паніжалася: адступіш крок і знік.

І таму ніхто не заўважыў, як і калі знік, як адступіў, як упаў на спіну мніх — каплан касцёла Дамініканаў, сябра Лайёлы і яго аднадумец Фларыян Басяцкі.

Езуіт па сутнасці і думках, ён так і не дажыў да таго дня, калі папа прызнае пачварнае старэнне яго сябры, не стаў членам ордэна, не ўбачыў яго магутнасці.

Страла тырчала ў яго ў горле.

І ён ляжаў і паводзіў нагамі і ўсё глытаў, і глытаў, і глытаў нешта. Піў. Потым шэрыя, плоскія, трохі ў зелень, вочы ягоныя спыніліся на нечым адным. На чым — не ведаў ніхто.

І ніхто не кінуўся яму на дапамогу. Лотр і Камар толькі спехам нацягнулі з-пад мантый на шыю каўняры кальчуг, далі знак несці забітага.

— Канчайце,— хрыпата сказаў Лотр.— Хутчэй.

Хрыста павялі на вяршыню Уздыхальні, дзе пад натужлівыя крыкі ўжо ўздымаўся — яго штурхалі латамі,— рос у небе вялізны сасновы крыж. Пахістаўся і стаў. Ліхаманкава замільгалі рыдлёўкі. Падышоў млявы і нібыта спешчаны, шырокі ў плячах, руках і клубах кат.

Карніла стаяў за спінамі ў Лотра і Камара, упарта глядзеў на іхнія патыліцы і нязвыкла, туга — аж рыпелі мазгі — думаў:

«Бач, як глядзіць... Крыж... Страшна гэта, дужа... А ён глядзіць, нібы гэта другога... Няpraведна... І Паўла, відаць, не таму святы, што ўсё жыццё сыноў веры ў турмы валок... Мабыць, кінуў пасля... Вось божы суд аднаго і ўзяў... А гэтых... гэтых я заўтра заб'ю... Або паслязаўтра... Або праз чатыры дні. Але не пазней, чым праз месяц... Божы дык божы, суд дык суд... Там разбяруцца».

Кірык Вястун вярнуўся да сваіх, хаваючы ў кішэнь крэсіва і сушаную губу. Людзі ягоныя стаялі і лічылі ўдары ўласных сэрцаў.

Хто раней падасць знак — Каваль ці Лотр? Паспеюць ці не? Знак падаў кардынал. Але адказам на гэты знак была нейкая дзіўная збянтэжанасць сярод падручных ката. Нейкае замяшанне адбывалася сярод людзей на вяршыні ўзгорка.

— Што там? — спытаў Камар.

— Ды што...— незадаволеным ясным голасам сказаў кат.— Прывязаць яго трэба? Трэба. Чым прывя-

заць? Прывязаць вяроўкай. Вось! А вяроўку нехта сцягнуў. На продаж, трэба думаць. Каб жа, калі гэтага злодзея павесяць, вяроўку ягоную па кавалках ахвочым прадавалі. На шчасце. Выгадней было б.

— Што ж, іншай няма? — спытаў Лотр.

— Дык няма,— у вачах у ката была дзіўная меланхолія.— Збяднелі. А як яго прывяжаш без вяроўкі?

— Знайсці,— сказаў Лотр.— Служкі, бяжыце хаця па ўсім горадзе. Знайсці! Знайсці!

— Пагаспадарылі, называецца,— бурчаў кат.— Вяроўкі нельга знайсці, каб чалавека павесіць. Працуй вось, гары на працы — хаця б хто дзякуй сказаў.

Людзі чакалі. Стаяў і чакаў ля крыжа Хрыстос. Глядзеў на натоўп. І пад ягоным позіркам змаўкалі разубраныя і пашыраліся вочы апранутых у рыззё.

— Што з табой, Кашпар, куды глядзіш?

— Гэта я запомню. Гэта я ім запомню.

Вецер варушыў валасы Хрыста. Ён глядзеў, ён бачыў аблічча. Тысячы абліччаў. Бачыў жывых і забітых. І гэта было тое, неўміручае, імя чаму — Народ.

## Раздзел LX

## ВЕРА ФАМЫ

І як моцна захочаш, то збудзецца ўсё.
Бунт, каханне, царства, жыццё.

*Балада*

Фама бачыў усё, што бачыў Хрыстос, хаця вочы ягоныя былі залітыя слязамі. Ён бачыў усё, таму што ўсё разумеў. І ён не мог больш. Ён маліўся, пакутліва напружваючы ўсю сваю веру, якой у яго было вельмі мала, і ўсё жаданне сваё, якому не было мяжы.

— Цуда! Цуда! Не толькі я — у с е... У с е хочуць цу-да! Хай знікне з ганебнага гэтага эшафота! Хай знікне! Хай знікне!

Ён да болю зажмурыў вочы, да знямення сціснуў валасатыя задзірыстыя, грэшныя свае кулакі.

— Малю. Малю. Усе моляць. Хай знікне. Хай будзе ў палях. Сярод добрых, сярод сваіх... Хай знікне з гэтага Садома! Хай знікне!

І тады ўдарыў пярун.

Ён ударыў так моцна і страшна, што ўсіх хістанула паветрам.

Фама расплюшчыў вочы. Над мурам, над тым, што калісьці было мурам, стаяла страшная, чорная з крывавым хмара, і адтуль падалі камяні і цягнуўся на натоўп, хаваў яго, задушлівы дым.

Але Фама глядзеў не на хмару. Ён глядзеў на эшафот са зламаным крыжам. Каля эшафота ляжалі кат і падручныя. Ляжалі ніцма і тыя, багата разубраныя. А на эшафоце нікога не было.

## Раздзел LXI

## БЕКЕШ

> Нас лічаць памерлымі, але вось мы жывыя, нас караюць, але мы не паміраем.
>
> *2-е Карынфянам, гл. 6, ст. 9*

Бекеш са свайго кантрфорса бачыў усё. Бачыў, як выбух парахавых бочак ушчэнт разнёс мур і абурыў яго вонкі, на схіл, што вёў да Нёмана. Бачыў, як грукат і камяні прымусілі ўсіх, хто не чакаў — варту, знакамітых і царкоўнікаў на гульбішчы,— кінуцца ніцма і як, карыстаючыся гэтым, нейкія людзі рыўцом сцягнулі Хрыста з эшафота і памчалі праз натоўп вузкім праходам, які адразу зацягваўся за імі, як зацягваецца раскай акно ад кінутага ў стаў каменя.

Пасля ён убачыў, як група людзей пералілася цераз брылы камянёў у праломе, пачуў праз некаторы час шалёны пошчак конскіх капытоў і зразумеў, што людзі гэтыя зрабілі немагчымае.

Цягнуўся над зрынутымі дым і рассейваўся і чырванеў ад зыркага агню (запалала стайня і драўляныя рыштаванні каля муроў), але варта ўжо ачомалася і кінулася да пралому.

Бекеш бачыў, як нейкія людзі, нібыта незнарок, блыталіся ў іх пад нагамі, трапляліся якраз на іхняй дарозе, падалі, як быццам ад штуршкоў, проста пад ногі тым, хто выводзіў са стайні коней.

Коні гігаталі і не хацелі ісці на людзей. І тыя,

што перашкаджалі, па адным рассмоктваліся, губляліся ў натоўпе, які крычаў і рваўся да брамы.

А ў праломе ўсё яшчэ бразгалі, звінелі мячы. Маленькі строй сталлю стрымліваў тых коннікаў, якія маглі ўжо кінуцца ў пагоню.

Бекеш адчуваў небывалае захапленне, сам не ведаючы чаму. Не ведаючы. Бо гэта было якраз тое, чаго не хапала людзям ягонага кола.

І яшчэ ён бачыў, як жанчына, прыгожая высокай, вытанчанай прыгажосцю, ішла ад эшафота. Яна ўсміхалася, але з вачэй у яе ліліся слёзы.

— Далей нічога,— пачуў ён яе ціхія словы.

Яна ішла да апусцелай ужо брамы, але здавалася, што ідзе яна ў нікуды. А за ёю, на некаторай адлегласці, ехаў на кані малады чалавек з гожым і разумным аблічам, якое спагадала, любіла, усё разумела і даравала ўсё.

І Кашпар на хвіліну пашкадаваў да болю гэтую кабету, прыгажосць якой была некалі такой смертаноснай, а цяпер такой прыступнай для бедаў, гора і памяці аб няшчасным каханні. А пасля зноў пачаў глядзець на агонь і слухаць музыку мячоў, якая сціхала (ён не ведаў, што заслон адступаў да чаўноў, каб правіцца за Нёман). Водсвет агню скакаў па яго аблічы, адбіваўся ў цёмна-сініх, вялізных вачах.

— Алёйза... Альбін-Рагвал,— раптам ціха, але цвёрда сказаў юнак.— Не палохайся толькі, добра?

— Чаго?

— Я скажу табе зараз страшнае. Тое, чаго дагэтуль я ніколі не чуў. А можа, і ты не чуў.

— Ну.

Францысканец сапраўды спалохаўся. Тон словаў маладога чалавека быў той, якім гавораць, адсякаючы ўсё сваё папярэдняе жыццё, а можа,і ўвогуле абрываючы ніць гэтага жыцця. А ён любіў гэтага юнака больш, чым любіў бы сына.

— Бога няма, брат Альбін.

Упершыню за ўвесь час на румяных вуснах Бекеша не было і ценю ўсмешкі. Раней ён заўсёды, хаця ямкаю ў куточку рота, усміхаўся жыццю. Цяпер гэта быў суровы і справядлівы рот мужчыны.

— Каб не тыя людзі, гэтага чалавека распялі б. І бог дазволіў бы апаганіць бязвіннай смерцю сімвал сваіх пакут.

Ён гаварыў, нібы прыслухоўваючыся да таго, як звінелі мячы.

— Гэты крыж сёння забіў ува мне веру. Я цяпер ведаю: толькі вайна з імі, а міру з імі не можа быць. І няхай заб'юць. Няхай адмовяць у адпяванні. Калі я, Кашпар Бекеш, памру, я і тады загадаю выбіць на сваім надмагільным камені: «Не хачу прызнаваць бога, пекла не баюся... не непакоюся аб целе і не болей аб душы, яна памерла разам са мной».

Крыштофіч страшэнна баяўся яго і ўсё ж любаваўся ім. Рэзкае ў выліцах, цудоўнае чалавечае аблічча. Хлопчык нарадзіў сваю думку. Хлопчык не спалохаўся паўстаць,— сорам яму, Крыштофічу, кінуць яго на новым шляху. Што яму да бога, калі побач ёсць вось гэты, самы дарагі яму чалавек? І ўсё ж Альбін сказаў:

— Кінь аб смерці. Ты будзеш жыць доўга. Будзеш вялікі вучоны. Будзеш слава Гародні, слава Беларусі, слава Літвы.

— «Не ведаю, які я вучоны быў,— так загадаю я запісаць на камені.— Але я быў багаборац. Бо цела не будзе і душы не будзе, але дабрыня, але справы, але сэрцы людзей не прэстануць быці. Адзін чалавек навучыў мяне гэтаму. Не быў ён богам, але не было сярод усіх хлуслівых багоў падобнага яму».

Голас ягоны зрываўся ад хвалявання.

— «І я ўсім жыццём... Усёй смерцю сваёй... І не баючыся яе... перадаваў вам яго нянавісць і любоў, беларускія і ўсе іншыя людзі. Смерці не баючыся, перадаваў вам... дабро».

Агонь скакаў па твары Бекеша. А наводдаль заціхаў, заміраў бразгат мячоў.

## Раздзел LXII і апошні

## ПАСЕЎ

> Людская жорсткасць, злосныя жаданні
> Не здолеюць нападам безупынным
> Мне вочы чорнай засланіць завесай,
> Схаваўшы сонца залатое ззянне.
>
> *Дж. Бруна*

Ужо некалькі дзён усе яны жылі на хутары Фаўстыны. Жылі і радаваліся сонцу, бязмежным нівам,

перасечаным сям-там грыўкамі лясоў, цяністаму саду і старому цёпламу дому пад шматгадовай тоўстай страхой.

Цягнулася па дне лагчыны малая рачулка, звінела ўначы. Над рачулкай, на ўзгорку былі старыя, амаль закінутыя, вясковыя могілкі і напаўразбураная капліца ў зарасцях шыпшыны.

На трэці дзень прыйшлі на хутар Фама і Ціхон Вус. Ніхто не казаў ім, дзе шукаць Хрыста, проста Вус успомніў, хто з «братоў у Хрысце» застаўся жывы пасля разні, у каго ёсць на вёсцы сваякі; урэшце скеміў, што да крэўных сваякоў яны наўрад ці пойдуць, і амаль з поўнай упэўненасцю павёў Фаму на хутар Кляонікавай нявесты.

Усе думалі, што іх даўно няма ў жывых. Вястун сам бачыў Фамову «смерць» пад звонам, і таму радасці не было канца, тым больш што пры нападзе на эшафот загінула вельмі мала людзей, а астатнія рассеяліся і былі ў бяспецы.

Фама і Вус прынеслі дзіўную вестку.

...Наступнага дня пасля няўдалай галгофы тысячнік Карніла запрасіў Лотра і Камара да сябе «на пачостку». Атрымаў згоду. Калі ж тыя ўвайшлі ў трапезную дома Карнілы, то ўбачылі там Ратму і зразумелі, што гэта ўсё. Людзі Ратмы між тым абяззброілі ў двары варту пастыраў і сталі ў дзвярах трапезнай.

На пытанне, што гэта ўсё азначае, Карніла адказаў, што ўсё жыццё ён верыў і выконваў загады і нават лічыў за святую праўду, што вось Паўла знішчаў хрысціян, і менавіта таму яго ўзвялі ў апосталы і святыя. Цяпер жа ён вырашыў, што астачу жыцця трэба, хай сабе і кепска, а думаць. І першае, што ён надумаў, гэта паглядзець, якое права мелі яны аддаваць яму загады, ці іншая, ці лепшая ў іх кроў.

Прапанаваў вырашыць справу божым судом: адзін супраць дваіх. Прычым, тыя будуць біцца за сябе, а ён бярэ на сябе абарону Братчыкавай праўды. Пакляўся і прымусіў пакласціся Ратму, што калі ён загіне — пастыры выйдуць з двара цэлымі і вольна вернуцца дамоў:

— Пакольки... гэта... толькі Ян Непамук мог гуляць з уласнай галавою пад пахай.

Пастыры біліся не горш за кожнага ваяку. Амаль

гадзіну стаяў у трапезнай бразгат мячоў, луналі выгукі, чулася дыханне трох глотак, падаў посуд, ламаліся лавы і сталы.

...А яшчэ праз гадзіну Ратма са сваімі людзьмі вырушыў з Гродні ў Наваградак. На насілках неслі зраненага Карнілу, які перайшоў на службу новаму магутнаму ўладару разам з найбольш адданымі са сваіх людзей, а адзін з воінаў вёз у туга завязанай скуранай торбе дзве адсечаныя галавы. Галовы не былі запэцканыя ў кроў, бо іх адсеклі ўжо ў мёртвых.

Ваявода спяшаўся. Ён спадзяваўся яшчэ ў дарозе нагнаць сяго-таго і аддаць яму доказ, што клятва выканана, што чалавек той можа быць спакойны.

Хрыстос, дачуўшыся аб нечаканым абаронцы ягонай праўды і выканаўцы божага суда, бязмерна здзівіўся, але і задумаўся. Дзіўныя рабіліся справы. Ён, такі спачатку бездапаможны і слабы, застаўся жыць, а з тых, магутных, што калісьці навязалі яму страшную тую гульню, не засталося ніводнага.

Трэба было, аднак, кідаць хутар і падавацца далей. Хрыбтовічу ніхто нічога не здолее зрабіць. Ён магутны магнат, і, пры ягонай дабрыні, не толькі войска, але і простыя людзі не кінуць яго. А моц караля моцна падсечаная.

Але сюды, на гэтую зямлю, могуць нагнаць, пасля ўсіх падзей, войска, узмацніць пільны нагляд за ўсім. Трэба было ісці.

...Магчыма, калі-небудзь я раскажу вам, што было запісана двума сведкамі, Фамом і Іудам, у іхняе «евангелле», калі былі яны на схіле дзён. Раскажу, як жыў мужыцкі Хрыстос далей, якія рабіў справы, як знайшоў з Анеяй свой шлях і сваю зорку, як прыдбаў сабе і сябрам разуменне, вечную славу і вечную маладосць, але цяпер досыць аб гэтым. Я канчаю пісаць, і рука стамілася трымаць пяро.

Скажу толькі, што Фаўстына з Кляонікам, вядома, засталіся на хутары, і з імі застаўся Марка Турай, а астатнія, на чале з Хрыстом, выправілі ісці на Поўдзень, у нечапаныя пушчы на мяжы Палесся і Белавежы, у месца, якое ведаў Хрыстос. Ісці, карча-

ваць і паліць там ляды, будавацца, жыць вольным жыццём і чакаць, чакаць святла.

Вырашылі перад адыходам застацца яшчэ на некалькі дзён, каб памагчы маладым і іхняму сябру прывесці да ладу зямлю. Ужо і так зрабілі нямала: хату перасыпалі і занава пакрылі, дабудавалі да яе два асобныя трысцены, дзеля Маркі (ажэніцца ж, пэўна, калісьці), узвялі новую пуню, дагледзелі сад.

Трэба было цяпер памагчы ім араць, патрэсці іхнія нівы жытам і пшаніцай-зімкай. Хай маладыя хаця першыя месяцы свайго жыцця больш будуць адно з адным, не аддаюць усёй сілы зямлі. Мацнейшае будзе каханне.

Фама падстрэліў дзеля іх два дзікі, а Вус саліў мяса і вэндзіў шынкі сваімі залатымі рукамі. Хрыстос з кавалём пусцілі дзесяткі два адборных ліп, завезлі іх да хутара і вольным кастром, каб сонца не даставала, а вецер прадзімаў, склалі іх пад паветкай. Гады праз два будзе ў разьбяра запас вытрыманага, сухога, непатрэсканага дрэва на ўсё жыццё. А Іуда пайшоў некуды, пагаварыў з кімсьці і прывёз два вазы ўжо гатовага, даспелага дрэва, той жа ліпы і грушы. Працуй узімку, колькі рукі вытрымаюць.

Пачынала трохі асянець. Маладыя і Марка малілі або заставацца да вясны, або ісці зараз, бо не ў мярле ж з мядзведзямі жыць, трэба ж мець страху над галавой, запас мяса, і ўсё такое.

Хрыстос, аднак, толькі адмахваўся. Па-першае, ёсць трайная доля грошай, закапаная імі асобна ад іншых (нібы ведалі). Тых грошай, што здабылі, абдзёршы скарбонкі ў Наваградку (усё адно, не аддаваць жа расафорным!). Па-другое, ён абяцае ўсім хату. Вялізную прасторную хату ў пушчы, у тым месцы, дзе яны будуць жыць і чакаць. Абяцае хату і ўсё, што патрэбна дзеля жыцця, пакуль не прыйдзе першае жніво на новых лядах. Усе ведалі: ён не лжэ.

...У той дзень, падрыхтаваўшы ўсё да пасеву, сядзелі яны ўсе разам каля могілак. Дах капліцы трохі прасеў, пахілены драўляны купалок нібы кланяўся рачулцы пад гарой, спакойным безыменным магілам, празрыстаму асенняму паветру і далёкім дрэвам, што палалі на ўзгорках.

Гэта было добрае, сапраўднае жыццё! І таму, што хутка яны павінны былі пакінуць тут трох людзей

і, магчыма, ніколі больш не ўбачыць іх, у сэрцах гарэла сумная любоў да іх, да ўсіх сяброў, што сядзелі тут, да ўсіх на свеце добрых людзей.

Хрыстос цiскаў у далоні камяк зямлі:

— Яны праўдзіва рабілі, калі адыходзілі. Сеяць сапраўды даўно трэба.

Кучаравілася вакол капліцы сонечная шыпшына, расшытая лакіраванымі аранжавымі і чырвонымі ягадамі. Сонца прайшло зеніт і пачынала добра хіліцца да захаду.

— Гэх,— уздыхнуў Фама,— вось папрацуем добра, сядзем уначы вячэраць. Пад яблынькай, пад зорамі... Тут бы самы смак выпіць... І карчма недалёка... Выпіць ды яблычкам, проста з галіны, закусіць.

— Бач, ласунчык,— сказаў Хрыстос.— Бач, малімончык. Цукар губа чуе. А вось я вас спытаю, пакуль грошы не выкапаем, на якія такія даходы вы, высакародны лыцар, выпіваць будзеце? Як адзін сябар казаў: «У гарэлку ўткнуўшы лыч, задрамаў Фама-шляхціч».

— Сам ведаю,— сумна сказаў Фама.— А добра было б — задрамаць не задрамаць, а хаця б лыч уткнуць.

— Ну,— сказаў Іуда,— то ў чым, я пытаюся, цяжкасць?

— Грошы,— сказаў Хрыстос.— Не разумееш?

— Вуй, дурныя галовы,— сказаў Іуда.— І не ведаюць нічога! А трыццаць срэбнікаў, што я ў Мацея адабраў?

— Няўжо адабраў? — ахнуў Вястун.

— А нягож,— сказаў Іуда.— Тады, як вы мяне з чаўна вынімалі. Памятаеце, адстаў я?

Вус і Кляонік з Маркам зарагаталі ўтрапёна. Смяяліся, стоячы ўбаку і абняўшыся, Фаўстына з Анеяй.

— І, па-мойму, няма чаго нам думаць. І, па-мойму, Хрыстос, нам з табою зараз самая справа іх разам прапіць.

— А я? — спытаў Фама.

— Ну і табе трохі дамо,— сказаў Іуда.— Усім трохі дамо. Хіба я кажу, што мы не дамо?

Хрыстос, рагочучы, узяў дзве амаль паўвядзёрныя біклагі і аплеценую лазой суляю. Падаў іх Іуду:

— Тады лупі.— Ён зірнуў на сонца.— Яшчэ паспееш. Гэта сапраўды самы нечаканы канец гісторыі: прапіць разам трыццаць срэбнікаў.

Падхапіўшы біклагі і бутлю, цыбаты Іуда, як жораў, лупянуў па ворыву.

...Вус надзеў на шыю Юрасю сявеньку.

— Ідзі першы,— сказаў ён.

Хрыстос, смеючыся, праводзіў Іуду вачыма. Пасля пераступіў цераз паваленае страхлелае распяцце і стаў на мяжы ворыва.

Прыладзіўся, пайшоў, працуючы адной рукой. Раўнамерна, са свістам, у такт крокам правай нагі, разляталася насенне. І Вус падумаў, што на тым месцы, дзе так працуюць, абавязкова ўзыдзе раўнюткая, сіне-зялёная, а з самага пачатку чырванаватая, рунь.

Хрыстос азірнуўся. За ім ішлі, паловай жураўлінага ключа, астатнія. Фама сеяў дзвюма рукамі і высалапіў Хрысту язык: «Ведай шляхту!»

І тады Хрыстос прымерыўся і таксама пачаў працаваць дзвюма. Шырока, роўна клалася ў раллю зерне.

Іуда ўжо знік. Неапалімыя купіны дрэў стаялі на ўзгорках. Сумавала вакол капліцы шыпшына. А сейбіты падымаліся на вяршыню круглага пагорка, як на вяршыню зямнога шара. І першым ішоў насустрач нізкаму сонцу Хрыстос, мерна размахваючы рукамі. І, гатовае да новага жыцця, падала зерне ў цёплую, мяккую зямлю.

Выйшаў сейбіт сеяць на нівы свая.

*7 красавіка 1965 г.— 29 красавіка 1966 г.*
*Чалябінск (Шагол) — Рагачоў*

# КАМЕНТАРЫ

Раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» ўпершыню выйшаў на беларускай мове ў 1972 годзе (Мн.: Маст. літ.). Склаў змест другога тома «Выбраных твораў» Уладзіміра Караткевіча (Мн.: Маст. літ., 1980).

Рукапіс не вядомы. Машынапісы рамана захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР, Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 41—47, з пералікам у пачатку твора герояў і іх характарыстыкай, што адсутнічае ў кніжных выданнях рамана, а таксама паметай у канцы: 7 красавіка 1965 г.— 29 красавіка 1966 г. Чалябінск (Шагол) — Рагачоў. Там жа, адз. зах. 48, захоўваюцца накіды да рамана, дзе пададзены нумарацыя і назвы раздзелаў, названы героі і дадзена ім характарыстыка, прыводзяцца эпіграфы да раздзелаў, намаляваны план старажытнай Гародні. Знешні воблік Юрася Братчыка, напрыклад, апісваецца так: «Залаціст.[ыя] валасы, твар нейкі смешны, густ.[ыя] бровы, вочы ненатуральна вялікія і празрыстыя, аблічча мятае. З вачэй нешта нібыта льецца, падпарадк.[...], робячы чал.[авека] дабрэйшым». У машынапісе, адз. зах. 41, галоўны герой характарызуецца наступным чынам: «Юрась Братчык з П'янага Двара, ён жа Хрыстос. Шкаляр-недавучка, за дабрыню і сумненні ў веры выгнаны з Мірскага калегіюма».

Друкуецца паводле асобнага кніжнага выдання 1972 года.

Выходзіў у аўтарызаваным перакладзе Навума Кісліка на рускай мове («Неман», 1966, № 11—12). Выдадзены ў перакладзе Вацлава Жыдліцкага на чэшскай мове (Прага, 1979).

На кінастудыі «Беларусьфільм» створаны ў 1967 годзе паводле рамана аднайменны фільм.

Раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» прысвечаны падзеям беларускай гісторыі XVI стагоддзя. Яму папярэднічаў кінасцэнарый «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», які быў закончаны 31 сакавіка 1965 года. Сам пісьменнік у аўтабіяграфіі «Дарога, якую прайшоў», напісанай у снежні 1964 года і змешчанай у кнізе аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў «Пра час і пра сябе» (Мн.: Беларусь, 1966), пісаў пра гэты сцэнарый: «Гэта гісторыя бадзягі, які воляй лёсу быў названы Хрыстом, вымушаны быў рабіць «цуды» і, урэшце, узначаліў паўстанне супраць царквы і караля. Такі сапраўдны факт адзначаны ў старажытных беларускіх хроніках.

Гэта будзе не камедыя і не трагедыя, а трагікамедыя, смех праз слёзы, народная драма, калі хочаце. Героі яе перажываюць самыя незвычайныя прыгоды, сутыкненні, сустракаюцца з жорсткасцю і дабрынёй, подласцю і сапраўднай высакароднасцю і пастулова з махляроў, круцялёў, бадзяг ператвараюцца ў сапраўдных людзей».

Штуршком да напісання рамана паслужыў запіс з «Хронікі...» Мацея Стрыйкоўскага. Аднак запіс толькі ўзбудзіў думку пісьменніка для стварэння гісторыі прыгод і вандраванняў Юрася Братчыка, названага Хрыстом, для паказу падзей беларускага сярэднявечча.

Выкарыстоўваючы матэрыялы хронікаў і летапісаў, біблейскія тэксты, вытрымкі з мастацкіх твораў і народныя выслоўі, звяртаючыся да алегорыі, умоўнай вобразнасці, іроніі, сатыры і гумару, пісьменнік арыгінальна глянуў на падзеі гістарычнай даўнасці, напоўніў прыгодніцкі сюжэт сацыяльна-філасофскім і псіхалагічным зместам.

«Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — своеасаблівая мастацкая энцыклапедыя народнага жыцця Беларусі XVI стагоддзя. Гэта трагічная і адначасова надзіва жыццесцвярджальная кніга.

Юрась Братчык увасабляе вобраз сярэдневяковага чалавека, актыўнага, неспакойнага, вясёлага, гарэзлівага і свабодалюбівага, які вызваляўся з путаў царкоўных догмаў і засвойваў лепшыя ідэйна-эстэтычныя і духоўныя набыткі, што неслі з сабой новыя часы. Галоўны герой з махляра і валацугі паступова ператвараецца ў мысліцеля, пакутніка, праўдашукальніка, змагара і народнага абаронцу.

Уладзіміра Караткевіча прывабіла рэнесансная паўната жыцця. Нягледзячы на ўсе нягоды, Юрась Братчык

застаецца аптымістам. Ён здзекуецца з усяго коснага і аджываючага, жыве, як і яго народ, багатым і паўнакроўным жыццём.

Раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» займае адметнае месца ў беларускай літаратуры. Калі ж знаходзіць яму аналогіі ў сусветнай літаратуры, то па ідэйна мастацкіх асаблівасцях яго можна суаднесці з «Гаргантюа і Пантагруэлем» Ф. Рабле, «Легендай пра Уленшпігеля» Ш. дэ Кастэра, «Кала Бруньёнам» Р. Ралана, «Майстрам і Маргарытай» М. Булгакава. Уладзімір Караткевіч пераканаўча паказаў, што і на беларускай нацыянальнай глебе ёсць постаць тыпу Ціля Уленшпігеля. Юрась Братчык з'яўляецца яго духоўным братам, ён увасабляе дух Беларусі, нязломны і непераможны народны характар.

*А. Л. Верабей*

# ЗМЕСТ

**Караткевіч У.**

К 21 Збор твораў: У 8 т. Т. 6. Хрыстос прызямліўся ў Гародні: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 494 с., [4] л. іл.

ISBN 5-340-00299-3.

Коротксвич В. С. Собрание сочинений. Т. 6.

Гэта твор пра сярэдневякоўе, пра тыя змрочныя часы, калі наш народ знаходзіўся пад прыгнётам царквы і феадалаў.

**ББК 84Бел7**

**К $\frac{4702120200-057}{М 302(03)-90}$ 100—90**



КОРОТКЕВИЧ
Владимир Семенович
*Собрание сочинений*
*в восьми томах*
ТОМ 6
ХРИСТОС ПРИЗЕМЛИЛСЯ
В ГОРОДНЕ
*(Евангелие от Иуды)*
Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар С. Р. Прыгодзіч*
*Мастак М. Р. Казлоў*
*Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктары Л. М. Маслоўская, Л. Т. Калюжная*

ІБ № 3131

Здадзена ў набор 27.02.89. Падп. да друку 03.01.90. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 2. Гарнітура кудрашоўская. Высокі друк с ФПФ. Ум. друк. арк. 26,04 + 0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 27,20. Ул.-выд. арк. 26,19. Тыраж 60 000 экз. Зак. 2280. Цана 1р. 90 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.